*Тры – сьмяротнай зямлі несьмяротным князям,*
*Сем – царам-каралям на падгорным троне,*
*Дзевяць – чалавечага племені каралям,*
*Адзін – Уладару Цемры ў чорнай кароне,*
*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*
*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*
*Адзін – зывабіць і ў цемры скаваць іх*
*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

J. R. R. Tolkien

# THE LORD OF THE RINGS

## *The Two Towers*



HarperCollins Publishers Ltd. 1992

Дж. Р. Р. Толкін

# УЛАДАР ПЯРСЬЦЁНКАЎ

## *Дзьве вежы*

ПЕРАКЛАД З АНГЕЛЬСКАЕ



Менск
2008

**Толкін Дж. Р. Р.**

Уладар Пярсьцёнкаў: Дзьве вежы, 2008

Пераклад з ангельскае мовы
Дзьмітрыя Магілеўцава й Крысьціны Курчанковай

*Выхаду гэтай кнігі шмат у чым*
*паспрыяў Ігар Хазанаў*


1
2
3
4
ЭРЭД МІФРЫН
ЖАЛЕЗНЫЯ
ГОРЫ
Эрэбар
ФОРНАСТ
ПРЫГОР'Е
Заліў Люн
ЭРЫЯДАР
Шыр
Долы Яр
Грымля
Тучнаводдзе
Шэраводдзе
Бранявін
Морыя
ЛОРЫЙН
АНДУІН
ЛІХАЛЕСЬСЕ
Струмяніца
Мора
Рун
РУН
ХІФА
ФАНГАРН
Ізенградак
Ізен
РОХАН
БУРЫЯ
ЗЕМЛІ
ЭМІН МЮЙЛ
ДАГОРЛАД
ЭДОРАС
ЭРЭД ЛІТУІ
Барад-дур
МОРДАР
ГОНДАР
Нурынен
ХАНД
Лаўднёвы
Гондар
БЛІЗКІ ХАРАД
ЗАХАД
МІЖЗЕМ'Я

## *1. Сыход Бараміра*

Арагорн хутка лез на схіл. Раз-пораз нахіляўся да глебы. Хобіты крочаць лёгка, і нават сьледапыту няпроста чытаць іхнія сьляды, але непадалёк ад вяршыні сьцежку перасякала крынічка, і на мокрай глебе Арагорн знайшоў тое, што шукаў.

– Сьляды я прачытаў слушна, – сказаў сам сабе. – Фрода пабег да вяршыні. Цікава, што ён там пабачыў? Бо вярнуўся тым самым шляхам, зноў спусьціўся па сьцежцы.

Арагорн вагаўся. Бо сам хацеў дабрацца да верху, пабачыць нешта, што пазбавіць сумневаў. Ці мо трэба сьпяшацца? Раптам вырашыў: скочыў наперад, дабег да вяршыні праз пляцоўку, забрукаваную вялікімі камянямі, падняўся па лесьвіцы. Сеў на сталец і зірнуў вакол. Але сонца, падавалася, пазмрачнела, і сусьвет рысаваўся няясна й аддалена. Арагон агледзеўся – ад поўначы зноў да поўначы – і не пабачыў анічога, апрача няблізкіх гор, і толькі далёка-далёка ў нябёсах заўважыў вялізарную птушку накшталт арла, якая шырокімі коламі павольна спускалася.

І тут да ягоных чуйных вушэй даляцелі трывожныя гукі зь лесу ўнізе па схілах, на гэтым баку ракі. Арагорн замер. Так, тое былі выкрыкі, і ён з жахам пазнаў грубыя галасы оркаў. Зьнянацку пакаціўся магутны роў вялікага рога. Раскаты ягоныя хваляю захлынулі пагоркі, адбіліся ў лагчынах, паўсталі сьцяною, заглушыўшы роў вадаспаду.

– Рог Бараміра! – закрычаў сьледапыт. – Яму трэба дапамога!

Зьбег па сходах і кінуўся ўніз па сьцежцы.

– Што за чорны дзень! Усё, што раблю, абарочваецца ліхам! Дзе ж Сэм?

Оркаў лямант гучнеў, а рог слабеў і гуў усё адчайней. Оркі завылі, завішчэлі – і роў рога змоўк. Арагорн бег па схіле, але яшчэ не сягнуў узножжа, як гукі сталі аддаляцца, заціхаць. Ён павярнуў налева, за імі, а яны ўсё меншалі, пакуль цалкам не расталі. Выхапіўшы зіхоткі меч, выкрыкваючы "Элендыль! Элендыль!" ён кінуўся празь лес напралом.

Дзесьці за вярсту* ад Парт Галену на невялічкай палянцы ля азёрнага берагу ён знайшоў Бараміра. Той сядзеў, прыхіліўшыся сьпінаю да тоўстага дрэва, нібы адпачываў. Але Арагорн заўважыў, што ваяр працяты мноствам чарнапёрых стрэлаў. І яшчэ трымаў у руцэ меч, зламаны ля цаўя; расьсечаны надвая рог ляжаў побач. Мноства забітых оркаў валяліся навокал, грувасьціліся кучаю ля ягоных ног.

Арагорн стаў на калені побач з воем. Барамір расплюшчыў вочы, напружыўся, намагаючыся загаварыць. Нарэшце павольна вымавіў:

– Я спрабаваў забраць пярсьцёнак у Фрода. Прабач. Я заплаціў за тое.

Ён зірнуў на пабітых ворагаў – болей за два дзясяткі.

– Яны зьніклі... паўросьлікі. Оркі забралі іх. Думаю, яны жывыя. Оркі зьвязалі іх, – ён прыпыніўся, стомлена заплюшчыўшы вочы.

Праз момант загаварыў зноў:

– Бывай, Арагорне! Ідзі ў Мінас Тырыт, выратуй мой народ. Мяне перамаглі.

---

* У беларускім перакладзе скарыстаныя старажытныя беларускія адзінкі вымярэньня (паводле Статуту ВКЛ): цаля – 2,5 см; стапа – 12 цаляў, 33 см; локаць – 65 см; сажань – 3 локці, 195 см; гоня – 80 – 100 м; вярста – 1559,7 м; міля – 7,8 км; валока – 21,36 га.

– Не! – запярэчыў Арагорн, беручы ягоную руку й цалуючы яго ў лоб. – Ты перамог! Няшмат каму ўдавалася гэткая перамога. Спачывай у міры! Мінас Тырыт не загіне!

Барамір усьміхнуўся.

– Куды яны накіраваліся? Ці быў зь імі Фрода? – спытаў Арагорн.

Але Барамір ужо не адказаў.

– Шкада! – выгукнуў Арагорн. – Гэтак сышоў ад нас спадчыньнік Дэнэтара, уладара вежы Варты! Што за чорны лёс абрынуўся на нас! Цяпер наш Зьвяз усьцяж зруйнаваны. Тое мая віна, цалкам мая. Дарэмна Гэндальф давяраў мне. Што ж цяпер рабіць? Барамір запавядаў ісьці ў Мінас Тырыт, і гэтага прагне маё сэрца, але ж дзе пярсьцёнак і ягоны Ахоўнік? Як мне знайсьці іх і выратаваць нашую задуму ад паразы?

Колькі часу прастаяў, плачучы, сьціскаючы Бараміраву далонь. Такім і ўбачылі яго Гімлі зь Ляголасам. Яны зьявіліся ад заходніх схілаў, крадучыся між дрэваў, нібы палюючы. Гімлі трымаў сякеру, Ляголас – доўгі нож. Усе стрэлы ён страціў. Выйшаўшы на паляну, спыніліся ў зьдзіўленьні й сумна нахілілі галовы: ім падалося, што жорсткі лёс напаткаў і Бараміра, і Арагорна.

– Мы ўпалявалі й забілі мноства оркаў у лесе, – падышоў Ляголас, – аднак тут ад нас было б болей карысьці. Мы прыйшлі сюды, пачуўшы рог, – і, як бачу, спазьніліся. Ці цяжка ты паранены?

– Барамір загінуў, – патлумачыў Арагорн, – а я непаранены, бо мяне зь ім не было. Ён абараняў хобітаў, пакуль я быў на гары, далёка адсюль.

– Хобітаў! – выгукнуў Гімлі. – Дзе яны? Дзе Фрода?

– Я ня ведаю, – адказаў Арагорн стомлена. – Перад сьмерцю Барамір распавёў мне, што оркі зьвязалі іх. Ён лічыў, яны жывыя. Я паслаў яго абараняць Мэры зь Піпінам і цяпер не пасьпеў дазнацца, ці былі зь імі Сэм і Фрода. Усё, што я раблю сёньня, выходзіць ня так. Што рабіцьме?

– Перш за ўсё паклапоцімся пра загінулага, – прапанаваў Ляголас. – Мы ня можам пакінуць яго, нібы падаль, сярод брудных оркаў.

– Трэба сьпяшацца, – запярэчыў Гімлі, – Барамір сам не хацеў бы, каб мы затрымліваліся. Пакуль яшчэ ёсьць надзея, што хтосьці з нашых жывы ў лапах оркаў, мусім гнацца за імі.

– Мы ня ведаем, зь імі Ахоўнік Пярсьцёнка ці не, – адказаў Арагорн, – ці ж мы пакінем яго? Мо лепей сьпярша адшукаць Ахоўніка? Ліхі выбар перад намі!

– Дык зробім, што мусім, – вырашыў Ляголас. – У нас ані часу, ані прыладаў, каб пабудаваць скляпеньне, годнае нашага сябра, ці насыпаць над ім курган. Хоць мы маглі б скласьці надмагільле з камянёў.

– Такая праца цяжкая й доўгая, – задумаўся Гімлі, – побач няма прыдатных валуноў. Іх давядзецца цягнуць ад берагу.

– Тады пакладзем яго ў човен разам зь ягонай зброяй і зброяй пераможаных ворагаў, – прапанаваў Арагорн. – Скіруйма човен да вадаспадаў Рэрасу, аддамо Бараміра Андуйну. Рака Гондару паклапоціцца пра тое, каб аніякая ліхая пачвара не зьняважыла ягонага цела.

Хутка абшукалі забітых оркаў, сабралі іхнія мечы ды пасечаныя шаломы з тарчамі ў кучу.

– Зірніце! – выгукнуў Арагорн. – Вось азнакі для нас!

Ён выцягнуў з кучы шэра-чорнага жалезьзя два корды зь лёзамі-лісточкамі, аздобленыя золатам і чырваньню. Пашукаўшы яшчэ крыху, дастаў і похвы – чорныя, абсаджаныя маленькімі чырвонымі каменьчыкамі.

– Не, гэта зусім ня орцкі рыштунак! – вымавіў, разглядаючы. – Іх насілі нашыя хобіты. Безумоўна, оркі абшукалі й абрабавалі іх, але корды прысабечыць пабаяліся, бо пазналі працу майстроў Захаду – з чароўнымі рунамі на пагібель Мордару. Ну, цяпер, калі нашыя сябры й жывыя, то бяззбройныя. Я вазьму гэтыя корды. Можа, супраць усялякай надзеі, здолею вярнуць іх.

– А я, – дадаў Лёголас, – зьбяру ўсе стрэлы, якія знойдуцца, бо мой сагайдак пусты.

Пашукаў у кучы й навокал і знайшоў даволі шмат цэлых стрэлаў – значна даўжэйшых за тыя, якімі звычайна карыстаюцца оркі. Зірнуў на іх уважліва. А Арагорн тым часам аглядаў забітых.

– Тут шмат хто ня з Мордару, – вымавіў нарэшце. – Калі я нешта разумею ў орках, дык некаторыя – з поўначы, з Туманных гор. А гэтыя ўвогуле незнаёмыя. І зброя іхняя зусім ня орцкая!

Сярод забітых ляжалі чатыры оркі, нашмат буйнейшыя за астатніх: смуглявыя, касавокія, таўстаногія й дужарукія. Узброеныя кароткімі шыракалёзымі мечамі, а не звычайнымі крывымі шаблямі, а таксама цісавымі лукамі, падобнымі да людзкіх даўжынёю й выгінам. На іхніх тарчах быў дзіўны знак, маленькая белая рука пасярод чорнага поля, а на перадках жалезных шаломаў – выбітая руна "С", вырабленая зь нейкага белага мэталу.

– Ня бачыў я раней гэткіх пазнакаў, – падзівіўся Арагорн. – Што ж яны гавораць?

– "С" – Саўрон, – сказаў Гімлі. – Здагадацца ня цяжка.

– Не, – запярэчыў Лёголас, – Саўрон эльфскімі рунамі звычайна не карыстаецца.

– Як і сапраўдным імем, – дадаў Арагорн, – і не дазваляе яго ані пісаць, ані вымаўляць. І белая фарба – не ягоная. Оркі Барад-дуру носяць Чырвонае Вока.

Арагорн змоўк на хвіліну, раздумваючы.

– Падаецца мне, "С" – гэта "Саруман", – вымавіў нарэшце. – Ліха вырасла ў Ізенградку, і Захад у вялікай небясьпецы. Як і баяўся Гэндальф, здраднік Саруман неяк вызнаў пра нашую вандроўку. Хутчэй за ўсё, выведаў ён і пра Гэндальфаў лёс. Оркі з Морыі маглі прасачыцца за лорыйнскія дазоры ці ўвогуле абысьці гэтую краіну й сягнуць Ізенградку іншымі шляхамі. Оркі вандруюць хутка. А Саруман мае й іншыя крыніцы навінаў. Памятаеце птушак?

– Ну, цяпер няма часу ламаць галаву над загадкамі, – буркнуў Гімлі. – Трэба несьці Бараміра прэч адсюль!

– Але потым усё адно давядзецца разгадваць загадкі, калі мы жадаем правільна абраць наш шлях.

– Мо правільна абраць і немагчыма? – адказаў Гімлі.

Гном сякераю сьсек некалькі сукоў. Іх зьвязалі лучнымі струнамі й пасьцялілі на каркас плашчоў. На гэтых грубых насілках прынесьлі цела паплечніка да берагу, разам з тымі трафеямі ягонай бойкі, якія абралі для апошняга плаваньня разам зь ім. Бераг ляжаў недалёка, але несьці было нялёгка – Барамір быў высокі й надта крэпкі.

Арагорн трымаў варту ля нябожчыка, пакуль Лёголас з Гімлі сьпяшаліся да Парт Галену пехатою. Датуль было зь вярсту ці крыху болей, прайшло колькі часу, пакуль яны вярнуліся, выграбаючы ўздоўж берагу.

– Дзівосныя рэчы, – распавёў Ляголас. – На беразе толькі два чоўны. І аніякіх прыкметаў трэцяга.

– Оркі? – перапытаў Арагорн.

– Не, ані сьледу іх, – адказаў Гімлі. – Ды яны забралі б чоўны ці панішчылі б, дый пакладу таксама.

– Трэба будзе праверыць глебу там, калі вернемся, – вырашыў Арагорн.

Бараміра апусьцілі на дно чоўна, прызначанага для ягонага апошняга падарожжа. Шэры эльфскі плашч скаталі й падклалі ваяру пад галаву. Прычасалі доўгія цёмныя валасы й расправілі па плячох. Паправілі залаты лорыйнскі пас, паклалі побач зь нябожчыкам шалом, а на калені – расьсечаны надвая рог ды кавалкі паламанага меча. У нагах склалі мечы пабітых ворагаў. Пасьля прывязалі нос чоўна да кармы другога й сьпіхнулі ў ваду. Выграблі ўздоўж берагу за зялёную прастору Парт Галену. На стромых берагах Тол Брандыру зьзяла сонца, бо дзень хіліўся да надвячорку. А далей на поўдзень смуга Рэрасу ўздымалася й зьзяла зіхоткім золатам. Роў і грукат вадаспадаў трос паветра.

Сумна й тужліва адчапілі вандроўнікі пахавальны човен. Барамір ляжаў спакойны й нерухомы, родная яму рака хутка мкнула міма. І вось плынь падхапіла яго й панесла прэч, пакуль жывыя сябры падграбалі, каб прыпыніць свой човен. Барамір мінуў іх, і неўзабаве пахавальны човен аддаліўся, зрабіўся цёмнаю кропкаю ў залатым зьзяньні. І зьнянацку зьнік. А Рэрас роў па-ранейшаму, быццам анічога не адбылося. Рака забрала Бараміра, сына Дэнэтара, і аніколі болей ня ўбачылі яго ў Мінас Тырыце, не прыкмецілі ягонай постаці наверсе Белай вежы, як звычайна раніцою. Хоць шмат гадоў пасьля распавядалі, што эльфскі човен мінуў вадаспады й пенныя віры за імі й пранёс Бараміра да Азгіліяту, а за ім – праз адну з шматлікіх сутокаў Андуйну вынес у Вялікае мора, у спрадвечную пад зорамі ноч.

Пэўны час тры паплечнікі маўчалі, праводзячы Бараміра позіркамі.

– Яго будуць выглядаць зь Белай вежы, – вымавіў нарэшце Арагорн, – але ён ня вернецца ані з гор, ані ад мора.

І засьпяваў павольна:

*Над роханскім стэпам вольным, дзе шапочуць доўгія травы,*
*Імкнецца вецер заходні, павольны, лагодны, жвавы.*
*"Гэй, вецер вандроўны! Якія нясеш ты весткі з сабою?*
*Ці ж Барамір Высокі крочыў тваёй зямлёю?"*
*І вецер сказаў: "Ён крочыў. За сямю ён цяпер струмянямі,*
*За шэрай пустой зямлёю, за водамі, за гарамі,*
*У цень паўночны сышоў, паглынула яго чужына.*
*Спытайце паўночны вецер: ці бачыў Дэнэтара сына?"*
*О, Барамір! З муроў высокіх я б пабачыў цябе здалёку,*
*Але ты да мяне не вярнуўся з пустога заходняга змроку.*

Тады засьпяваў Ляголас:

*З сутваў паўднёвы прыходзіць вецер, зь дзюнаў і камянёў,*
*Мэваў жалобны прыносіць лямант, стогне між сьцен і дамоў.*
*"Якія ж ад мора весткі нясеш ты, вецер-пяюн, з сабою?*
*Дзе ж Барамір Сьветлы? Сэрца мне плача тугою".*
*"Не пытай у мяне, – кажа вецер. – Бо між маімі пяскамі*

*Толькі мёртвыя косткі я бачыў ля водаў і за берагамі.*
*Колькі ж прынёс іх Андуйн да хваляў спрадвечнага мора!*
*Спытайце вецер паўночны, бо я нясу толькі гора".*
*О, Барамір! За брамай маёю дарога да мора мкнецца сівога.*
*Але ж ты да мяне не вярнуўся ад берагу штармавога.*

І Арагорн засьпяваў зноў:

*Ад Каралеўскай брамы паўночны вецер над плынямі мкне,*
*Зьлівай ільдзянай над Белаю вежай песьню сваю ліе.*
*"Якія з поўначы весткі, вецер магутны, ты прынясеш з сабою?*
*Дзе ж Барамір Дзёрзкі? Ці сьпяшаецца стрэцца з мною?" –*
*"За Аман Эн чуў я воя голас, у бітве сьмяротнай ля роднай зямлі,*
*Яго паламаны меч і пасечаны шчыт па Вялікай рацэ паплылі.*
*Шляхам апошнім яго гонар і моц човен імклівы панёс, бы страла.*
*І Рэрасу залатая купель у бурлівае ўлоньне яго прыняла". –*
*"О, Барамір! Зь Белай вежы Вартоўнай, дзе калісьці ты варту нёс,*
*Заўжды пазіраць я буду на Рэрас, дзе спасьціг цябе лёс".*

Так яны скончылі сьпяваць. І павярнулі човен, і пагрэблі што моцы супраць плыні назад, да Парт Галену.

– Усходні вецер вы пакінулі мне, – вымавіў Гімлі, – але я пра яго не скажу анічога.

– Хай так і будзе, – пагадзіўся Арагорн, – бо Мінас Тырыт закрывае сабою шлях гэтаму ветру й пра навіны ў яго не пытаецца. Барамір абраў сваю сьцягу – цяпер трэба абраць і нам.

Хутка, але ўважліва агледзеў зялёны лужок, часта нахіляючыся да зямлі.

– Не, оркі тут ня крочылі, – сказаў упэўнена, – а акрамя таго, амаль нічога не разабраць. Усё перакрытае нашымі сьлядамі. Цяжка казаць, ці вяртаўся сюды які з хобітаў пасьля таго, як кінуліся шукаць Фрода.

Вярнуўся да берагу, падышоў да крынічкі, зь якой тоненькі струменьчык сачыўся ў раку.

– А тут колькі выразных сьлядоў. Хобіт зайшоў у ваду, потым выйшаў. Аднак цяжка вызначыць, калі.

– І як ты разгадаеш гэтую загадку? – пацікавіўся Гімлі.

Замест адказу Арагорн вярнуўся да месца начлегу праверыць пакладу.

– Так, не хапае двух заплечнікаў, і адзін зь іх, безумоўна, Сэмаў, бо быў вялікі й цяжкі. Вось і разгадка: Фрода паплыў на чоўне, і ягоны слуга разам зь ім. Фрода, напэўна, вярнуўся, пакуль мы адсутнічалі. Сэма я сустрэў на гары й сказаў яму рушыць за мною. Відавочна, ён не паслухаў, здагадаўшыся, што плянуе гаспадар, і пасьпеў прыбегчы да таго, як Фрода адплыў. Ня змог ён пакінуць свайго Сэма!

– А чаму пакінуў нас, не сказаўшы ані слоўка? – спытаў Гімлі. – Што за дзіўны ўчынак!

– Мужны ўчынак, – сказаў Арагорн. – Мяркую, Сэм меў рацыю. Фрода не хацеў весьці аніводнага зь сяброў разам з сабою на сьмерць у Мордар. Але ведаў, што сам мусіць ісьці. Калі ён пайшоў паразважаць на самоце, адбылося нешта, з-за чаго ён пераадолеў страх і сумневы.

– Магчыма, напаткаў оркаў і ўцёк? – выказаў здагадку Ляголас.

– Ён уцёк, так, але ж, мяркую, не ад оркаў, – пра сапраўдную прычыну раптоўнай Фродавай рашучасьці й уцёку Арагорн не сказаў. Апошнія словы Бараміра ён доўга трымаў у таямніцы.

– Ну, адно зараз насамрэч ясна, – падсумаваў Ляголас, – Фрода ўжо па другі бок ракі. Бо толькі ён мог узяць човен. І Сэм зь ім, бо толькі ён мог узяць свой пляцак.

– Наш выбар, – дадаў Гімлі, – альбо на апошнім чоўне рушыць за Фрода, альбо пехатою – за оркамі. І так, і гэтак надзеі няшмат. Мы ўжо страцілі шмат часу.

– Дайце-тка мне падумаць крыху! – папрасіў Арагорн. – Мо мне нарэшце пашанцуе, і я зраблю слушны выбар упершыню за гэты дзень!

Памаўчаў крыху, тады вымавіў:

– Трэба йсьці за оркамі. Я правёў бы Фрода да Мордару, дайшоў бы зь ім да канца. Але ж калі я цяпер выпраўлюся шукаць яго па застароньні, я пакіну вязьняў на лютае катаваньне й сьмерць. Нарэшце маё сэрца падказвае мне ясна й без сумневу: за лёс Ахоўніка я болей не адказны. Зьвяз Пярсьцёнка сваю ролю згуляў. Мы, рэшткі яго, цяпер ратавацьмем нашых паплечнікаў, пакуль у нас яшчэ засталіся сілы. Хадзем! Пакіньма ўвесь цяжар! З сабою браць толькі неабходнае! Мы рушым і дзень, і ноч!

Выцягнулі апошні човен і прынесьлі да дрэваў. Склалі пад ім рэчы, непатрэбныя ці надта цяжкія. І пакінулі Парт Гален. Сутонела, калі вярнуліся да месца гібелі Бараміра. Там знайшлі оркаў сьлед. Тое сталася няцяжкім.

– Аніякае іншае племя гэтак ня топча, – абурыўся Ляголас, – ім у радасьць папаламаць, папасекчы ўсё жывое, што толькі трапляецца, хоць бы й не на самім шляху, а побач.

– Але пры тым яны рушаць зь вялікай хуткасьцю, – заўважыў Арагорн, – і не стамляюцца. Пазьней, калі патрапім на камяністае ўзгор'е, шукаць шлях будзе цяжэй.

– Ну, дык за імі! – выгукнуў Гімлі. – Гномы таксама здольныя рушыць хутка й не стамляцца, лепш за оркаў. Але пагоня будзе доўгая – оркі далёка наперадзе.

– Так, – пагадзіўся Арагорн, – усім нам спатрэбіцца цягавітасьць гномаў. У пагоню! З надзеяю ці безь яе мусім гнацца за ворагамі! І гора ім, калі дагонім! Тады пра нашую пагоню складуць паданьні. Тры вольныя народы: эльфы, гномы й людзі! Наперад, тры паляўнічыя!

Ён ускочыў, нібы алень, пабег між дрэваў. Упэўнена рушыў, нястомны й спрытны, бо цяпер ён вырашыўся й сумневы засталіся за сьпінай. Неўзабаве застаўся за сьпінай і прыазёрны лес. Хутка пагоня рушыла па доўгіх схілах, цёмных, акрэсьленых барвовым вогнішчам захаду. Спусьцілася цемра. Перасьледнікі беглі праз яе шэрымі ценямі сярод камянёў.

## *2. Вершнікі Рохану*

Пашчыльнеў змрок. Паміж дрэваў папоўз туман, завіўся над бледнымі ўскрайнамі Андуйну, але нябёсы заставаліся чыстымі. Высыпалі зоры. Васковы месяц узьняўся на захадзе, і ад камянёў пацягнуліся чорныя цені. Падарожнікі сягнулі ўзножжа грады камяністых пагоркаў, і хада іхняя запаволілася, бо цяжэй стала адшукваць сьлед. Тут пагор'е Эмін Мюйлу цягнулася з поўначы на поўдзень двума доўгімі няроўнымі грабянямі. Заходні бок кожнага быў стромы й недаступны, усходні – болей спадзісты, расколаты мноствам вузкіх лагчынаў і цясьнінаў. Усю ноч тры перасьледнікі караскаліся па скалах і схілах, забіраючыся на першы, найвышэйшы, хрыбет ды спускаючыся ў доўгую, зьвілістую, глыбокую й цьмяную даліну, якая аддзяляла яго ад другога хрыбта.

Там у прахалодны сьвітальны час крыху адпачылі. Маладзік схаваўся за горамі, але зоры блішчэлі над галавою, бо першыя сонечныя промні яшчэ не адолелі цьмянага хрыбта. Пакуль што й Арагорн ня мог адшукаць орцкага сьледу: той спускаўся ў даліну й губляўся там.

– Куды ж яны павярнулі? – спытаў Ляголас. – На поўнач – просты шлях да Ізенградку ці Фангарну. Мяркуеш, тое была іхняя мэта? Ці яны рушылі на поўдзень, каб сягнуць Энтуі?

– Куды б яны ні кіраваліся, да ракі ім ходу няма, – адказаў Арагорн. – І калі ня ўсё яшчэ зруйнавалася ў Рохане й моц Сарумана не нашмат большая, чым я мяркую, оркі пабягуць праз роханскі стэп найкарацейшай дарогаю, якую толькі знойдуць. Пашукайма на поўначы!

Даліна цягнулася, быццам каменная канава паміж вызубранымі хрыбтамі, а на дне яе, між валуноў, высочваўся кволы струменьчык. Праваруч навісала скала, а леваруч уздымаліся схілы, цьмяныя й аднолькава шэрыя ў начным змроку. Па даліне прайшлі вярсту ці дзьве на поўнач. Арагорн, нахіліўшыся да зямлі, вышукваў сьляды па лагчынах і цясьнінах заходніх схілаў. Ляголас рушыў наперадзе. Зьнянацку ён зьдзіўлена выгукнуў, і сябры кінуліся да яго.

– Каго-нікаго з тых, за кім гналіся, мы ўжо напаткалі, – сказаў эльф. – Зірніце!

Паказаў рукой, і астатнія раптам зразумелі, што цёмныя кучы пад схілам, якія спачатку падарожнікі прынялі за валуны, – гэта целы: пяць оркаў, пасечаных мноствам жорсткіх удараў, два – абезгалоўленыя. Зямля навокал намокла ад іхняй чорнай крыві.

– Вось і яшчэ загадка! – заўважыў Гімлі. – А каб адказаць, патрэбнае дзённае сьвятло, ды якраз яго мы чакаць ня можам.

– Якую адгадку тут ні прыдумаеш, усё нам на карысьць, – прамовіў Ляголас. – Ворагі оркаў – напэўна ж, нашыя сябры. Ці жывуць якія людзі на гэтым пагор'і?

– Не, – адказаў Арагорн. – Рахірымы зрэдку заяжджаюць сюды, а Мінас Тырыт надта далёка. Можа быць, нейкая суполка людзей палявала тут зь невядомай нагоды. Але ж, найхутчэй, гэта не паляўнічыя.

– А хто? – пацікавіўся Гімлі.

– Оркі. Яны самі сабе ворагі, – патлумачыў Арагорн. – Забітыя – толькі оркі з поўначы, сярод іх аніводнага вялікага орка зь дзіўнымі пазнакамі. Напэўна, пасварыліся й пабіліся – звычайная рэч сярод гэтага нячыстага племені. Мо паспрачаліся, які шлях абраць.

– Або што рабіць з палоннымі, – дадаў Гімлі. – Будзем спадзявацца, што яны перажылі гэтую свару.

Арагорн абшукаў мясцовасьць навокал, але аніякіх іншых прыкметаў бойкі не знайшоў. Тады крочылі далей. Ужо нябёсы на ўсходзе пабляклі й паціху разьлівалася шэрае сьвятло. Крыху далей на поўнач напаткалі расколіну, па якой маленечкая крынічка, саскокваючы з камянёў і віючыся, прабіла шлях па каменістым дне. Ля яе там-сям рос вербалоз ды купінкі травы на схілах.

– Нарэшце! – уздыхнуў з палёгкай Арагорн. – Вось і сьляды, якія мы шукалі. Уверх, уздоўж крыніцы – туды оркі рушылі пасьля спрэчкі.

Спрытна пагоня скіравалася па сьлядох. Нібы пасьля добрага начнога адпачынку, жвава скакалі сябры з каменя на камень. Сягнулі вяршыні, самага краю шэрага хрыбта, і нечаканы вецер узварушыў валасы, зашкуматаў плашчы – халодны подых раніцы.

Азірнуўшыся, пабачылі, як асьвятліліся пад першымі промнямі пагоркі за ракою – сьвятло новага дня скочыла ў нябёсы. Чырвоны край сонца ўзьняўся над каржакаватымі косткамі цьмянай зямлі. Наперадзе, на захадзе, сьвет ляжаў яшчэ ў начным спакоі, бясформавы, шэры. Але проста на вачох начны цень плавіўся, разыходзіўся, і ўваскрасалі фарбы жывой зямлі – зеляня разьлівалася па шырокіх лугах Рохану, белыя туманы блішчэлі ў рачных далінах – і далёка леваруч, васямнаццаць з паловай міляў ці нават болей, блакітна-барвяным мурам высіліся Белыя горы, падпіраючы нябёсы чорнымі пікамі, каранаванымі зіхоткім сьнегам, пунсаватым ад промняў раніцы.

– Гондар, Гондар! – выклікнуў Арагорн. – Калі б толькі я пабачыў цябе ў шчасьлівейшы дзень! Яшчэ не надышла часіна рушыць мне на поўдзень, да зыркіх тваіх струмянёў!

*О Гондар! Магутны Гондар! Між морам тваім і гарамі*
*Сьпеўны захаду вецер імчаў над срэбнымі галінамі.*
*Зьзяла Белае Дрэва над стальцом каралёў мінулых,*
*Зьзяла золатам сонца на каронах кірлевакрылых.*
*О Гондар! Калі ж ізноў Дрэва Срэбнага галінамі*
*Зайграе вецер заходні між морам тваім і гарамі?*

– Хадзем! – вымавіў тады, адарваўшы позірк ад поўдня й вяртаючы яго на поўнач і захад, куды трэба было рушыць.

Хрыбет, на якім стаялі вандроўнікі, проста перад імі строма абрываўся. За тузін сажняў унізе ішла шырокая шчарбатая паліца, а за ёю – скальны адхон, Усходняя сьцяна Рохану. Ёю заканчваўся Эмін Мюйл, а тады зялёная роўнядзь краіны рахірымаў слалася да самага далягляду.

– Зірніце! – Ляголас паказаўу бясколерныя нябёсы над галовамі. – Ізноў арол! Надта высока, зараз, здаецца, ляціць прэч адсюль на поўнач, і вельмі хутка. Зірніце!

– Не, нават мае вочы ня здольныя яго пабачыць, шаноўны Ляголасе, – зазначыў Арагорн. – Ён ляціць сапраўды высока. Цікава, ці гэта той самы арол, якога я ўжо бачыў. Які вецер прынёс яго сюды? Але ж гляньце на роўнядзь, бліжэй да нас і нашае мэты: там нешта рухаецца!

– Шмат чаго рухаецца, – пацьвердзіў Ляголас. – Вялікі ваярскі шыхт пехатою. Аднак не магу скеміць, што за народ. Далёка: сем міляў. Мо й болей – на гладкай роўнядзі цяжка ацэньваць адлегласьць.

– А мо нам ужо й ня варта шукаць сьлед? – прабурчэў Гімлі. – І так відаць, куды кіравацца. Трэба знайсьці спуск як мага хутчэй.

– Наўрад ці ты знойдзеш сьцежку да оркаў, карацейшую ад оркавай, – сказаў на тое Арагорн.

Цяпер перасьледавалі ворагаў пры ясным дзённым сьвятле. Відавочна, тыя імчалі з усіх ног. Там і тут трапляліся рэчы, якія оркі згубілі на бягу ці выкінулі: мяхі для прыпасаў, недагрызкі й скарынкі збуцьвелага шэрага хлеба, падраны чорны плашч, цяжкі, з жалезнымі цьвікамі бот, разьбіты на камянёх. Сьлед доўга вёў па хрыбце на поўнач і нарэшце вывеў да глыбокай расколіны, вычасанай бурлівым, шумным струменем, які зьбягаў па ёй долу. Грубая сьцежка скакала ўздоўж яго, нібы лесьвіца.

Унізе неяк раптоўна й нечакана для сябе вандроўнікі крочылі з камянёў адразу на пышную траву Рохану. Яна зялёным морам уздымалася ад самага ўзножжа Эмін Мюйлу. Струмень зьнікаў у густых высокіх зарасьцях крэс-салаты ды ўсялякіх водных расьлінаў, ягонае цьвірчэньне чулася зь зялёнага тунэлю, які віўся па доўгіх спадзістых схілах да панізьзяў далёкай Энтуі. Падавалася, зіма захрасла сярод пагоркаў, так і не спусьціўшыся сюды. Тут і паветра было цяплейшым ды мякчэйшым, і зьлёгку патыхала жывою травою, нібы вясна ўжо заварушылася тут, зноў пагнала сок па травінах і лістах. Ляголас удыхнуў глыбока – рыхтык глынуў найсмачнейшай акавіты пасьля нудотнай смагі, народжанай пустэчаю.

– Ах! Які водар! – выдыхнуў ён. – Сьвяжэй пачуваесься, чым паспаўшы. Бегма!

– Так, лёгкія ногі тут пабягуць хутка, – пагадзіўся Арагорн. – Хутчэй, напэўна, чым падкаваныя жалезам оркі. Маем добры шанец скараціць адрыў.

Беглі адзін за адным, бы ганчакі за падранкам, і вочы зьзялі запалам паляваньня. Оркі пратапталі шырокі й брудны сьлед, проста на захад, зьмяўшы ды панішчыўшы сакавітую роханскую траву. Зьнянацку Арагон гукнуў ды скочыў убок.

– Стойце! – папярэдзіў. – Ня йдзіце за мною пакуль што!

Адбег направа, прэч ад галоўнага сьледу, бо заўважыў адбіткі маленькіх ног. Яны, аднак, цягнуліся недалёка. Неўзабаве іх перасеклі орцкія сьляды, што набліжаліся ззаду й сьпераду ды збоку, прама ад галоўнага гуфу, і тады маленькія сьляды губляліся, затаптаныя. Дзе яны далей за ўсё адыходзілі ад орцкага шляху, Арагорн, нахіліўшыся, нешта падняў з травы, тады засьпяшаўся назад.

– Так, без сумневаў – хобіцкія сьляды, – сказаў ён, – і, напэўна, Піпінавы – ён ніжэйшы. І зірніце-тка на гэта!

Падняў на далоні нешта бліскучае, што выглядала, як малады бярозавы лісток, прыгожы й дзівосны ў бязьлесавым стэпе.

Фібула з эльфскага плашча! – выклікнулі адначасова Ляголасз Гімлі.

– Лісты Лорыйну ня падаюць дарма, – радаваўся Арагорн. – І гэты не выпадкова згублены, а пакінуты знакам для мажлівых перасьледнікаў. Мяркую, Піпін і адбег убок дзеля таго.

– Ну, тады ён, сама менш, жывы, – заўважыў Гімлі. – І кеміць нядрэнна, і ногі ў яго рухаюцца. Тое ўзбадзёрвае. Ня марная пагоня.

– Будзем спадзявацца, што ён ня надта цяжка сплаціў за сваю дзёрзкасьць, – уздыхнуў Ляголас. – Бегма! Ад аднае думкі пра тое, што нашых юных вясёлых хлапчукоў гоняць, як быдла, маё сэрца палае.

Сонца ўскараскалася да прытню й зноў пакацілася долу. Лёгкія хмаркі прыплылі ад мора, з далёкага поўдня, дый сышлі прэч, зьнесеныя ветрам. Нарэшце й сонца зайшло. За сьпінамі ўзьняліся цені, працягнулі доўгія рукі з усходу. А пагоня ўсё не спынялася. Поўны дзень прамінуў ад гібелі Бараміра, а оркі яшчэ беглі далёка наперадзе. І на пляскатай роўнядзі іх было не відаць.

Калі спусьцілася ноч, Арагорн спыніўся. Толькі двойчы за ўвесь дзень адпачывалі кароткі час, і цяпер сем міляў ляжала між імі й усходняй сьцяной Рохану, дзе яны сустрэлі сьвітанак.

– Нарэшце перад намі цяжкі выбар, – сказаў ён, – ці трэба нам адпачыць уночы, ці будзем бегчы, пакуль хопіць волі й моцы?

– Адпачываючы, болей адстанем ад оркаў, – засмуціўся Ляголас. – Хіба яны таксама спыняцца.

– Пэўна ж, і оркам трэба спаць? – спытаў Гімлі.

– Оркі надта рэдка вандруюць па адкрытай мясцовасьці ўдзень, – прамовіў Ляголас, – а гэтыя ж бягуць сабе. Відавочна, і на ноч прыпыняцца не зьбіраюцца.

– Але ж уночы мы ня знойдзем іхняга сьледу, – заўважыў Гімлі.

– Сьлед прамы й ня збочвае анікуды да самага далягляду, – адказаў Ляголас.

– Магчыма, я й здолею весьці нават у цемры па прамой лініі, – задумаўся Арагорн, – аднак калі сьлед раптоўна зьверне, тады мы страцім шмат сьветлага часу на тое, каб яго зноў адшукаць.

– І яшчэ, – дадаў Гімлі, – толькі ўдзень мы пабачым, ці адыходзяць якія сьляды прэч. Калі які вязень уцячэ ці калі каго зь іх панясуць куды адрозна, напрыклад на ўсход, да Вялікай ракі, да Мордару, мы прабяжым міма ды ані прыкметы аніякай не заўважым.

– Гэта так, – пагадзіўся Арагорн. – Усё ж, калі я зразумеў усё дакладна, перамаглі оркі Белай Рукі, і ўся кампанія цяпер няспынна рушыць да Ізенградку. Так што ў напрамку я не сумняюся.

– Ці не легкадумна давяраць оркавай згодзе? – спытаў Гімлі. – І як наконт уцёкаў? У цемры мы прайшлі б міма пазнакаў, якія прывялі цябе да хобіцкай фібулкі.

– Цяпер оркі падвояць варту, і вязьні цяжка стомленыя, – запярэчыў Ляголас. – Наўрад ці каму зь іх зноў пашчасьціць зьбегчы, хіба толькі мы ім дапаможам. Як тое зьдзейсьніць – пытаньне, але спачатку трэба дагнаць.

– Нават я, гном, які зьведаў не адну вандроўку й ня самы зломак з майго народу, ня здолею дабегчы да Ізенградку без адпачынку, – сказаў Гімлі. – Сэрца маё таксама палае, і я рушыў бы на золку, але зараз мушу адпачыць хоць бы крыху, каб бегчы хутчэй. А калі ўжо нам адпачываць, дык чарнюткая ноч – найлепшы для таго час.

– Як я й казаў, выбар цяжкі, – заўважыў Арагорн. – І як мы скончым нашую спрэчку?

– Ты – правадыр, табе вырашаць, – падсумаваў Гімлі. – Ты майстра перасьледу. Абірай сам.

– Маё сэрца заклікае мяне рушыць, – вымавіў Ляголас. – Усё ж мы мусім трымацца разам. Я зраблю тое, што ты скажаш.

– Дрэннаму дарадцу вы даверыліся, – пахітаў галавою Арагорн. – З таго часу, як мы мінулі Арганатаў, кожны мой выбар абярнуўся ліхам.

Замаўчаў, доўга ўзіраючыся на поўнач і на захад, у загусьцелую цемру ночы.

– Не, скрозь цемру мы не пабяжым, – вырашыў нарэшце. – Небясьпека згубіць сьлед ці якія істотныя адзнакі падаецца мне надта вялікай. Калі б месяц сьвяціў зырчэй, мы скарысталіся б ягоным сьвятлом, але ж ён заходзіць рана й цяпер зусім маладзенькі, зусім слабы й бледны.

– А сёньня яго й засьціць да ўсяго, – прабурчэў Гімлі. – Вось каб панна й нам дала такое сьвятло, як Фрода!

– Яно болей патрэбнае таму, каму дадзена, – запярэчыў Арагорн. – Ён – той, хто йдзе да сапраўднай мэты нашай выправы. А нашыя справы – драбяза сярод вялікіх

зьдзяйсьненьняў цяпершчыны. Магчыма, гэтая пагоня марная ад пачатку да заканчэньня, і аніякі мой выбар ужо ані на што не паўплывае. Аднак я абраў. Ну дык скарыстаймася часам адпачынку найлепей!

З тым лёг на зямлю й адразу заснуў, бо ня спаў ажно з ночы, калі сягнулі ценю Тол Брандыру. Прачнуўся й падняўся на дасьвецьці. Гімлі яшчэ неабудна спаў, а задуменны й маўклівы, нібы маладое дрэўца бязьветранай ноччу, Ляголас стаяў, узіраючыся на поўнач, у змрок.

– Яны цяпер далёка, надта далёка, – вымавіў сумна, павярнуўшыся да Арагорна. – Наўрад ці варта было спыняцца на ноч. Толькі арол здольны нагнаць іх цяпер.

– Пагонімся ўсё адно. Што здолеем, тое здолеем, – сьцьвердзіў Арагорн.

Нахіліўшыся, крануў гнома.

– Уставай, Гімлі! Мусім бегчы! Сьлед астывае!

– Яшчэ ж цёмна! – буркнуў гном. – Нават Ляголас з пагорку іх не разгледзіць, пакуль сонца ня выйдзе.

– Баюся, нават мне іх цяпер ня ўгледзець ні з роўнядзі, ні з пагорку, пад месяцам ці сонцам, – адказаў Ляголас.

– Дзе зрок ня здатны, дапаможа зямля, – зазначыў Арагорн. – Яна стогне пад іхнімі клятымі нагамі.

Лёг, прыціснуў вуха да дзёрну. Ляжаў гэтак доўга, што Гімлі зьдзівіўся: мо самлеў ці заснуў зноўку? Сьвітанак павольна разьліў навокал шэрае сьвятло. Нарэшце Арагорн узьняўся, і сябры пабачылі ягоны твар, зьбялелы, стомлены й занепакоены.

– Зямныя чуткі цьмяныя й заблытаныя, – распавёў ён. – На шмат вёрстаў навокал нас анікога пешага няма. Варожыя крокі чуваць слаба й надта далёка. Гучна й адметна чуваць пошчак капытоў. Цяпер узгадваю: ён трывожыў мяне нават у сьне: коні скачуць, скачуць з захаду. Але цяпер яны аддаляюцца, кіруюцца на поўнач. Цікава, што ж адбываецца там?

– Рушма! – выгукнуў Ляголас.

Гэтак пачаўся трэці дзень пагоні. Доўгімі гадзінамі пад сонцам і аблокамі сябры мкнулі амаль не спыняючыся, то хуткім крокам, то бегма, бо аніякая стома не магла сьцішыць полымя, якое палала ў іх. Амаль не размаўлялі. Сярод пустой прасторы рушылі яны, і іхнія эльфскія плашчы зьліваліся зь цёмна-зялёнай травою. Нават і ў паўдзённым сьвятле толькі эльфавы вочы прыкмецілі б іх здалёк. Часьцяком у думках дзякавалі яны паньне Лорыйну за лембасы, бо сілкаваліся імі на бягу, і сілы адразу аднаўляліся.

Увесь дзень варожы сьлед праставаў на паўночны захад, ня збочваў і не затрымліваўся. У сутоньні перасьледнікі зноў сягнулі схілаў – доўгіх, бязьлесых, што вялі да шэрагу нізкіх гарбатых пагоркаў наперадзе. Орцкі сьлед паслабеў, зварочваючы на поўнач, бо зямля стала цьвярдзейшая, а трава карацейшая. Далёка леваруч вілася Энтуя, срэбная нітка на зялёным полі. Анічога ня рухалася ў навакольлі. Часьцяком Арагорн зьдзіўляўся, чаму не траплялiся ані людзі, ані якія зьвяры. Жытлы рахірымаў былі пераважна за шмат міляў на поўдзень, блізу лясістых узножжаў Белых гор, цяпер прыхаваных туманом ды аблокамі. Аднак раней уладары коней трымалі шмат табуноў і статкаў у Прыўсходзьдзі. Тут вандравала шмат пастухоў, трываючы ў намётах нават узімку. А цяпер зямля спусьцела, і цішыня навокал зусім не падавалася прыкметаю спакою.

Зь цемраю спыніліся зноў. Ужо каля пятнаццаці міляў аддзяляла іх ад сьценаў Эмін Мюйлу, якія ўжо й схаваліся ў ценях на ўсходзе. Маладзік пабліскваў у туманных нябёсах, але амаль не даваў сьвятла, і зоры засмужыла.

– Цяпер я рашуча супраць адпачынку ці нават прыпынку! – абвесьціў Ляголас. Трэба гнацца! Оркі нясуцца, нібы сам Саўрон джгае іх пугаю. Баюся, яны ўжо сягнулі лесу й змрочных пагоркаў ды бягуць па ўзьлеску.

– Тое горкі канец нашым надзеям і намаганьням! – Гімлі скрыгатнуў зубамі.

– Надзеі – мажліва, але ж не намаганьням, – запярэчыў Арагорн. – Мы ня зьвернем і не адступімся. Аднак я насамрэч стаміўся.

Азірнуўся на адолены шлях, на ноч, што гусьцела на ўсходзе.

– Дзіўнае нешта робіцца тут. Не давяраю я гэтай цішыні. Не давяраю нават бляднаму месяцу. Зоры незвычайна цьмяныя, і я стаміўся так, як рэдка ў жыцьці. Не па-сьледапыцку: я аніколі так не стамляўся, ідучы па адметным сьледзе. Нейкая варожая воля дадае імпэту оркам, а перад намі – быццам нябачны мур, і стома ад таго болей ня ў целе, а ў душы.

– Так і ёсьць! – пагадзіўся Ляголас. – Я адчуў гэта адразу, калі мы спусьціліся з Эмін Мюйлу. Варожая воля не за нашымі сьпінамі, а наперадзе.

Ён паказаў на цёмны захад пад сярпком маладзіка, за роханскай зямлёю.

– Саруман! – прамармытаў Арагорн. – Але ён ня здолее павярнуць нас! Усё ж трэба зноў прыпыніцца. Гляньце: нават месяц сеў у хмары. На поўнач, паміж доламі й горамі пойдзе наш шлях на золку!

Як і раней, Ляголас першы быў на нагах, калі ўвогуле клаўся спаць.

– Абудзіцеся! Хутчэй! – выклікнуў ён. – Занялася барвовая раніца! Дзіўныя рэчы чакаюць нас на ўзьлеску. Добрыя ці ліхія – не вядома, але ж дарога кліча! Паўстаньце!

Астатнія паўскоквалі й адразу пусьціліся бегчы. Павольна набліжаліся пагоркі. Сябры сягнулі іх за гадзіну да полудня. Іхнія доўгія зялёныя схілы ішлі да голых каменных грабянёў, якія роўным шэрагам цягнуліся на поўнач. Зямля пад нагамі была сухая, з кароткай травою, але наперадзе ляжала шырокая, вёрстаў зь дзясятак, паласа панізьзяў ля ракі, якая блукала там, схаваўшыся за густымі зарасьцямі чаратоў ды трысьнягу. На захад ад паўднёвага схілу заўважылі вялікае кольца вытаптанай ды пашкоджанай травы ды глебы, разьбітай мноствам цяжка абутых ног. Адсюль оркаў сьлед павярнуў на поўнач, уздоўж ссохлых узножжаў пагор'я. Арагорн прыпыніўся, углядаючыся ў сьляды.

– Тут яны адпачывалі, – адзначыў ён, – але сьлед ужо схаладнеў. Баюся, праўдзіва казаў ты, Ляголас: тройчы па тузіне гадзінаў мінула з таго часу, як на гэтым месцы стаялі оркі. Калі яны рушылі з ранейшаю хуткасьцю, то яшчэ ўчора да цемры сягнулі ўзьлескаў Фангарну.

– На поўначы ці на захадзе я ня бачу нічога, акром травы ды туману над ёю, – заўважыў Гімлі. – Ці пабачым мы лес, ускараскаўшыся на пагоркі?

– Да яго шчэ далёка, – патлумачыў Арагорн. – Калі памяць не падводзіць, гэтае узгор'е цягнецца міляў на пяць амаль проста на поўнач, тады паварочвае да паўночнага захаду, да вытокаў Энтуі, – яшчэ міляў дзевяць, сама менш.

– Ну, дык наперад, – буркнуў Гімлі, – і няхай мае ногі забудуцца пра гэтыя шалёныя вёрсты. Яны забыліся б лягчэй, каб на сэрцы не было такога цяжару.

Сонца ўжо сядала, калі нарэшце дабраліся да канца пагор'я. Надта доўга рушылі зусім без спачыну. Цягнуліся ўжо павольна, і Гімлі ледзь перасоўваў ногі, згорбіўшыся. Гномы трываюць цяжкую працу ці падарожжа, бы каменныя, але

бясконцая пагоня замардавала яго, пазбавіўшы ўсялякай надзеі. Арагорн шыбаваў сьледам, маўклівы й пахмуры, нахіляючыся часьцяком, каб уважлівей разгледзець які адбітак ці пазнаку на зямлі. Толькі Ляголас яшчэ ішоў як і раней, амаль не кранаючы нагамі травы й не пакідаючы сьлядоў. Эльфскі хлеб сілкаваў яго, даючы ўсё неабходнае, і спаць ён мог – калі чалавечае слова "спаць" можна да таго прыкласьці – упрост на нагах, пазіраючы расплюшчанымі вачыма на навакольле й адначасова сьвядомасьцю застаючыся ў дзівосных, неспасьцігальных сьмяротным эльфавых марах.

– Забярэмся на той вунь зялёны пагорачак! – абвесьціў ён.

Астатнія стомлена пайшлі за ім па доўгім схіле да самага верху. Пагорак быў круглы, гладкі й голы, стаяў асобна ад астатніх – апошні, паўночны ў шэрагу пагор'я. Сонца села, і цені сутоньня леглі, як заслона. Вандроўнікі засталіся адны ў шэрым безаблічным сусьвеце, і воку не было на чым затрымацца ў ім. Толькі далёка на паўночным захадзе чарнейшая цемра ўздымалася супраць сканалага сьвятла: Туманныя горы й лес ля іх узножжаў.

– Аніякай прыкметы, аніякага сьледу, – вымавіў Гімлі. – Зноў мусім чакаць да сьвятла, трываць ноч. Як жа сьцюдзёна робіцца!

– Вецер паўночны, ад гораў і сьнегу, – заўважыў Арагорн.

– А ранкам задзьме з усходу, – прадказаў Ляголас. – Адпачывайце, калі вам трэба. Але ж ня трацьце надзеі. Што прынясе раніца – не вядома. Часьцяком з новым днём прыходзяць і новыя весткі, і надзея зь імі.

– Тройчы ўжо нараджаўся новы дзень нашай пагоні, – сказаў Гімлі змрочна, – і ані вестак, ані надзеі.

Уночы яшчэ пахаладнела. Арагорн з Гімлі спалі неспакойна. Калі прачыналіся, бачылі Ляголаса, які стаяў побач ці хадзіў туды й сюды, ціхенька напяваючы сабе пад нос па-эльфску, і пад ягоны сьпеў на чорным небасхіле загараліся зоркі. Так мінула ноч. Раніцу сустрэлі ўжо на нагах. Сьвятло павольна заліло нябёсы, бясхмарныя, адкрытыя, і ўзышло сонца, бляклае й чыстае. Вецер падзьмуў з усходу, разьвеяўшы ўсе туманы. Навакол шырока раскінуліся негасьцінныя й бясколерныя ў халодным сьвятле землі.

Наперадзе й на ўсходзе ляжала прадзьмутае вятрамі Роханскае Пустагор'е, якое заўважылі шмат дзён таму, спускаючыся па Вялікай рацэ. На паўночным захадзе падымаўся змрочны лес Фангарн – яшчэ шэсьць міляў было да цяністых узьлескаў, а дальні край зьнікаў у блакітнай смузе. У далечы праблісквала, плыла ў шэрай хмары белая галава высокага Мэтэдрасу, апошняга піку Туманных гор. Насустрач вандроўнікам зь лесу выцякала Энтуя, хуткаплынная, вузкая, з стромымі высокімі берагамі. Оркаў сьлед паварочваў ад пагор'я да яе.

Прасачыўшы пільнымі вачыма сьлед да ракі й уверх па ёй да лесу, Арагорн заўважыў цень на далёкай зялені, цёмную плямку, што хутка рухалася. Лёг на зямлю, праслухоўваючыся. А Ляголас побач прыкрыў свае вострыя эльфскія вочы доўгай тонкай далоньню й разгледзеў ня плямку й не размыты цень, а малюсенькія постаці мноства вершнікаў. Ранішняе сонца блішчэла на канчарах дзідаў, быццам міргаsucceedньне далёкіх зораў, недаступных сьмяротнаму зроку. А за вершнікамі тонкімі пакручанымі пялёсткамі падымаўся ў паветра чорны дым.

Цішыня вісела над пустымі палямі, і Гімлі чуў толькі шорхат ветру ў траве.

– Вершнікі! – выгукнуў Арагорн, ускокваючы. – Мноства вершнікаў на спрытных конях рушаць да нас!

– Так, – пацьвердзіў Ляголас. – Сотня й пяць. Саламяныя валасы, зіхоткія дзіды. Іхні ачольца надта высокі.

– Вострыя ж вочы ў эльфаў, – усьміхнуўся Арагорн.

– Да іх менш за тры мілі.

– Тры ці адна, – зазначыў Гімлі, – схавацца ці ўцячы нам няма куды. Ці дачакаемся іх, ці пабяжым сваім шляхам?

– Пачакаем, – сказаў Арагорн. – Я стаміўся, нашая пагоня сталася марнай. Ці, дакладней, іншыя пасьпелі раней, бо ж гэтыя вершнікі вяртаюцца па орцкім сьледзе. Магчыма, атрымаем ад іх якія навіны.

– Або дзіды, – дадаў Гімлі.

– Я бачу пустыя сёдлы, але ня хобітаў, – заўважыў Ляголас.

– Я ж не сказаў, што навіны будуць добрыя, – вымавіў Арагорн, – але добрыя ці благія – прычакайма іх тут.

Тры сябры пакінулі вяршыню пагорку, дзе надта вылучаліся на фоне сьветлых нябёсаў, спусьціліся павольна па паўночным схіле. Крыху не дайшоўшы ўзножжа, паселі побач адзін з адным на ссохлую траву, загарнуўшыся ў плашчы. Час цягнуўся нудотна й марудна. Халодны вецер забраўся пад апратку, нібы абшукваючы. Гімлі было ніякавата.

– Што ты ведаеш пра гэтых коньнікаў, Арагорн? – спытаў ён. – Ці ня хуткай сьмерці чакаем мы тут, пасеўшы?

– Я жыў сярод іх, – адказаў Арагорн. – Яны свавольныя, але ж і верныя, шчодрыя на словы й на справы! Дзёрзкія, але ня жорсткія, мудрыя, хоць і невукі, непісьменныя, але песьняры й знаўцы паданьняў – як калісьці ўсе нашчадкі людзей да Чорных гадоў. Ня ведаю, што адбылося зь імі апошнім часам і як ім цяпер, паміж здраднікам Саруманам і пагрозаю Саўрона. Доўга яны былі вернымі сябрамі Гондару, хоць і ня родныя ягонаму народу. У пракаветную даўніну Эёрл Малады прывёў іх з поўначы. Яны, напэўна, радзіна Бардынгам з Долу ды Беарнінгам зь Ліхалесься, сярод якіх шмат трапляецца высакарослых і сьветлавалосых, як і рахірымы. Так ці гэтак, оркаў яны ня любяць.

– Гэндальф казаў: паводле чутак, яны сплочваюць даніну Мордару, – узгадаў Гімлі.

– Я таму веру ня болей за Бараміра, – адказаў Арагорн.

– Неўзабаве спраўдзім, – абвесьціў Ляголас. – Вершнікі набліжаюцца.

Нарэшце й Гімлі пачуў далёкі часты пошчак капытоў. Вершнікі, кіруючы па сьледзе, павярнулі ад ракі й набліжаліся да пагор'я. Імчаліся яны як вецер.

Гукі моцных чыстых галасоў зазьвінелі над палямі. Зьнянацку абрынуўся тупат – грымотамі зь нябёсаў. Папярэдні вершнік хіснуўся ў сядле, паварочваючы ля ўзножжа пагорку на поўдзень, каб рушыць уздоўж заходніх схілаў. За ім сьледам павярнулі й астатнія – доўгі шэраг людзей у бліскучых кальчугах, людзей спрытных, прыгожых і пагрозьлівых з аблічча.

Ехалі яны на магутных конях з ганарлівымі высокімі шыямі, конях вялікіх, дагледжаных, з прычасанымі грывамі, з доўгімі хвастамі, што шоўкам плынелі па ветры. Людзі пасавалі да коней: высокія, даўгарукія й даўганогія. Ільняныя валасы выбіваліся з-пад лёгкіх шаломаў, струменілі пасмамі на ветры. Твары былі суворыя й ясныя. У руках вої трымалі доўгія дзіды зь ясеню, маляваныя тарчы віселі за сьпінамі, доўгія мечы – за пасамі, бліскучыя броні сягалі каленаў.

Скакалі парамі. Хоць раз-пораз хто-кольвек прыўставаў на страмёнах ды аглядаў навакольле, аніхто не прыкмеціў падарожнікаў, што сядзелі й ціха назіралі за імі. Харугва ўжо амаль мінула, калі Арагорн узьняўся й выклікнуў:

– Якія весткі з поўначы, вершнікі Рохану?

Зь неверагоднай хуткасьцю й спрытам коньнікі прыпыніліся, разьвярнуліся ды абкружылі сяброў. У імгненьне вока тыя апынуліся ў коле ваяроў, і кола імкліва звужалася. Арагорн стаяў моўчкі, і астатнія сядзелі нерухома, мяркуючы, як павернуцца справы.

Нечакана, бяз клічу альбо загаду, вершнікі прыпыніліся. Лес дзідаў апусьціўся, накіраваны на незнаёмцаў, а некаторыя ваяры трымалі ў руках лукі й ужо паклалі стрэлы на струны. Адзін выехаў наперад – вышэйшы за ўсіх, на версе ягонага ша лома гайдаўся сымбаль – белы конскі хвост. Наблізіўся, пакуль вастрыё ягонай дзіды не спынілася за сталу ад Арагорнавых грудзей. Той не варухнуўся.

– Хто вы такія й што робіце на гэтай зямлі? – спытаў вершнік на Агульнай мове, вымаўляючы словы на гондарскі манер, падобна як Барамір.

– Мяне клічуць Швэндалам, – адказаў Арагорн. – Я прыйшоў з поўначы. Я палюю на оркаў.

Вершнік саскочыў з каня. Аддаў дзіду другому, што пад'ехаў разам і саскочыў з каня побач, выцягнуў меч з похваў ды стаў насупраць Арагорна, аглядаючы яго ўважліва й не безь зьдзіўленьня. Агледзеўшы, загаварыў зноў.

– Спачатку я палічыў вас оркамі, але цяпер бачу, што гэта ня так. Насамрэч, мала ж вы ведаеце пра оркаў, калі гэтак на іх палюеце. Оркаў было шмат, добра ўзброеных ды хутканогіх. Калі б вы нагналі іх, самі сталі б з паляўнічых здабычаю. Аднак жа нешта дзіўнае ёсьць у табе, Швэндал, – ён зноў зірнуў на Арагорна ўважліва пранізьлівымі вачыма. – Нягодна гэтак звацца чалавеку. І вопратка твая дзівосная. Ці ты выскачыў наўпрост з травы? Як гэта мы не заўважылі вас? Ці вы – эльфскага племені?

– Не, – адказаў Арагорн, – толькі адзін з нас насамрэч эльф, Лянголас зь Лясного каралеўства ў далёкім Ліхалесьсі. Шлях наш прайшоў праз Латлорыйн, і ягоная панна надарыла й добраславіла нас.

Правадыр рахірымаў зірнуў на яго ў большым подзіве, але вочы ягоныя пазмрачнелі.

– А, дык панна шчэ жыве ў Залатым лесе, як кажуць старыя паданьні! Няшмат хто пазьбягае яе чараў. Але ж калі яна вас добраславіла, напэўна, вы – таксама чараплёты й ведзьмакі, – вымавіўшы гэта, ён халодна зірнуў на Ляголаса з Гімлі. – А вы чаго голасу не падаяце, маўчуны?

Гімлі ўзьняўся, расставіўшы ногі, каб умацавацца на зямлі, схапіўся за трымальна сякеры, гномавы цёмныя вочы пагрозьліва блiснулі.

– Назаві мне сваё мяно, гаспадар коней, а тады я скажу табе сваё ды шчэ штосьці! – запатрабаваў ён.

– Паводле нашага звычаю, чужынец на нашай зямлі кажа ймя першым, – нахмурыўся правадыр, – але ж я назаву сябе. Я – Эямэр, сын Эямунда, і называюся трэцім маршалкам Рытармаркі.

– Тады дазволь Эямэр, сын Эямунда, трэці маршалак Рытармаркі, мне, гному Гімлі, Глойнаву сыну, засьцерагчы цябе ад неразумных прамоваў. Ты кажаш благое пра тое, што далёка па-за тваім разуменьнем, і толькі недахоп розуму выбачае цябе.

Эямэравы вочы ўспыхнулі, а рахірымы за ягонай сьпінай загаманілі напаўголасу злосна дый прысунуліся, вытыркнуўшы дзіды.

– Я адным махам зьнёс бы тваю галаву з барадою дый розумам, спадару гноме, каб яна была крыху вышэй ад зямлі, – вымавіў Эямэр.

– Не забудзься на мяне, – папярэдзіў Ляголас, націнаючы лук ды кладучы стралу на струну ў імгненьне вока, – бо ты памрэш раней, чым апусьціцца твой меч.

Эямэр узьняў меч, і ўсё магло б павярнуцца дрэнна, калі б Арагорн ня скочыў паміж імі, засьцерагальна падняўшы руку.

– Прабач нам, Эямэр! – выгукнуў ён. – Калі ты даведаесься болей, ты зразумееш, чаму раззлаваліся мае паплечнікі. Мы не жадаем зла ані Рохану, ані яго жыхарам, людзям альбо коням. Ці выслухаеш ты нас перад тым, як сячы?

– Выслухаю, – адказаў Эямэр, апускаючы меч. – Але ж вандроўнікам у Рытармарцы ў нашыя трывожныя дні варта мець меней пыхі. Па-першае, назаві сваё сапраўднае імя.

– Дзеля таго скажы мне спачатку, каму ты служыш, – папрасіў Арагорн. – Сябра ты альбо вораг Саўрону, чорнаму ўладару Мордару?

– Служу я толькі ўладару Маркі, Тэядэну, сыну Тэнгела, – адказаў Эямэр. – Мы ня слугі далёкай уладзе Чорнай зямлі, але ж мы й не ў адкрытай вайне зь ёю. Калі вы ўцякаеце ад яе, дык лепей пакіньце нашую зямлю. На ўсіх нашых памежжах цяпер бяда, нам пагражаюць, і становішча нашае небясьпечнае. Мы жадаем толькі жыць вольна, як жылі заўжды, самі па сабе, ня ў служках аніякай замежнай улады – ані добрай, ані благой. У лепшыя часы мы – добрагасьцінны народ, але цяпер для няпрошаных чужынцаў гасьціннасьць нашая хуткая й вострая. Дык хто ж вы, адкажыце! Каму вы служыце? Па чыім загадзе палююце оркаў на нашай зямлі?

– Я не служу анікому, – адказаў Арагорн, – а прыслужнікаў Саўрона перасьледую ў любой зямлі, у якую толькі патраплю. Няшмат хто зь сьмяротных людзей ведае пра оркаў болей, чым я, і гэтак я палюю іх не з уласнай блазноты. Оркі, якіх мы перасьледуем, захапілі двох маіх сяброў. У гэткай патрэбе бясконны рушыць пехатою й не пытаецца дазволу перасякаць межы, ідучы па сьледзе. І галоваў варожых не падлічвае – хіба толькі мечам. А меч у мяне ёсьць – я прыйшоў сюды не бяззбройны!

Арагорн адкінуў плашч. Эльфскія похвы бліснулі пад ягонай рукою, і зыркае лязо Андарыля зазіхацела раптоўным полымем, калі ён выхапіў меч.

– Элендыль! – выклікнуў ён. – Я – Арагорн, сын Араторна, і называюся Элесар, Эльфскі Смарагд, Дунадан, нашчадак

Ісільдара, сына Элендыля, караля Гондару! Вось меч, што быў калісьці зламаны, а цяпер адкаваны наноў! Дапамога ты мне ці перашкода?! Выбірай хутчэй!

Гімлі й Ляголас глядзелі на свайгр сябра ў зьдзіўленьні, бо аніколі раней ня бачылі яго такім. Ён нібы вырас, а Эямэр у параўнаньні паменшыўся, і ў жывым твары сьледапыта ім падалася на момант уладная моц каменных каралёў, вартавых Андуйну. А Ляголасавым вачом пабачылася на імгненьне белае полымя, што ўскінулася над чалом Арагорна зіхоткім вянцом.

Эямэр адступіў, на ягоным твары адбіўся выраз глыбокай пашаны й нават боязі. Ён апусьціў долу ганарлівыя вочы.

– Насамрэч, дзівосныя дні, – прамармытаў ён. – Мары й паданьні ўздымаюцца проста перад табою з жухлай травы. Скажы мне, спадар, што прывяло вашаць сюды? І які сэнс таго прароцтва пра зламаны й адкаваны меч? Даўно сышоў Барамір, Дэнэтараў сын, у пошуках разгадкі, і конь, якога мы далі яму, вярнуўся назад бязь вершніка. Які кон прынёс вашаць да нас з поўначы?

– Кон выбару, – адказаў Арагорн. – Вось што можаш ты сказаць Тэядэну, сыну Тэнгела: перад ім толькі вайна – за Саўрона ці супраць яго. Аніхто цяпер ня жыцьме, як раней, і няшмат хто застанецца сам па сабе. Але ж пра гэтыя рэчы лепей нам размаўляць пазьней. Калі толькі лёс дазволіць мне, я сам прыйду да караля. А зараз мне надта патрэбная дапамога, і я прашу яе... ці хоць бы навінаў. Ты ўжо чуў, што мы перасьледуем оркаў, бо яны захапілі нашых сяброў. Якія ж зьвесткі вы дасьцё нам?

– Тыя, што перасьледаваць оркаў няма патрэбы, – адказаў Эямэр. – Оркі вынішчаныя.

– А нашыя сябры?

– Мы знайшлі толькі оркаў.

– Гэта насамрэч дзіўна. Ці аглядалі вы забітых? Там былі толькі целы оркаў? Бо нашыя сябры маленькага росту, вам падаліся б хлапчукамі, босыя, апранутыя ў шэрае?

– Там не было ані гномаў, ані дзяцей, – адказаў Эямэр. – Мы пералічылі забітых ды пазьдзіралі зь іх броні, а целы, паводле нашага звычаю, звалілі ў кучу ды спалілі. Прысак яшчэ дыміцца.

– Мы не пра гномаў кажам ці дзяцей, – дадаў Гімлі, – нашыя сябры хобіты.

– Хобіты? – перапытаў Эямэр. – Што гэта такое? Што за дзівоснае найменьне?

– Дзівоснае найменьне для дзівоснага народцу, – сказаў Гімлі. – Гэтыя два надта дарагія для нас. Падаецца, што вы тут, у Рохане, чулі словы прароцтва, якое ўстурбавала Мінас Тырыт. Прароцтва казала пра паўросьлікаў. Дык вось хобіты й ёсьць тыя паўросьлікі.

– Паўросьлікі! – засьмяяўся ваяр, які стаяў побач з Эямэрам. – Дык гэта ж папросту маленькія чалавечкі з старых песьняў ды дзіцячых казак поўначы. Ці мы самі забрылі ў паданьне, ці ходзім па звычайнай зямлі сярод белага дня?

– Магчыма крочыць і там, і тут адначасова, – адказаў Арагорн. – Бо ня мы самі, а тыя, што прыйдуць пасьля нас, складуць паданьні пра наш час. Звычайная зямля, кажаш? Ці ж сама яна – не найстарэйшае паданьне, хоць ты й крочыш па ёй сярод белага дня?

– Нам бракуе часу, – вымавіў ваяр, ня слухаючы Арагорна. – Трэба сьпяшацца на поўнач, пане маршалку. Няхай гэтыя дзікуны далей брыдуць у сваіх мроях. Ці зьвяжам іх ды прывязем каралю.

– Спакайней, Эятан! – сказаў Эямэр на роднай мове. – Не турбуй мяне пакуль што. Кажы эярэду, каб шыхтаваліся, – неўзабаве рушым да Энтваду.

Мармычучы пад нос, Эятан адышоў ды загаманіў з астатнімі ваярамі. У хуткім часе тыя ад'ехалі, пакінуўшы Эямэра сам-насам з трыма вандроўнікамі.

– Дзівосныя рэчы кажа вашаць, Арагорне, – падзівіўся той. – Але ж кажа праўду, мне тое бясспрэчна. Людзі нашай Украйны аніколі ня хлусяць, і таму нас няпроста падмануць. Але спадар не сказаў усяго. Ці не распавядзеш цяпер болей пра мэты свайго падарожжа, каб я мог вырашыць, што мне зрабіць?

– Мы выйшлі зь Імладрысу, які таксама згадваецца ў вядомым табе прароцтве, шмат тыдняў таму, – адказаў Арагорн. – З намі пайшоў і Барамір зь Мінас Тырыту. Маёй мэтай было прыйсьці ў гэты горад разам з сынам Дэнэтара, каб дапамагчы ягонаму народу ў вайне супраць Саўрона. Але ж астатнія мае спадарожнікі мелі й іншую мэту. Пра яе я не магу распавядаць зараз. Гэндальф Сівы быў нашым правадыром.

– Гэндальф! – выгукнуў Эямэр. – Гэндальфа Сівуна добра ведаюць ва Ўкрайне! Аднак мушу папярэдзіць: ягонае імя на вашых вуснах наўрад ці ўзрадуе караля. На нашай памяці мноства разоў ён наведваў краіну. Ці раз на некалькі месяцаў, ці зьнікаў на гады, а потым зьяўляўся зноў. І шторазу прыносіў весткі пра дзіўныя, а часьцяком і благія падзеі. Некаторыя цяпер кажуць, што тое благое ён сам і нёс. І насамрэч, пасьля ягонага леташняга наведваньня ўсё пайшло наўскасяк. Якраз тады пачаліся клопаты з Саруманам. Да таго мы лічылі Сарумана нашым сябрам, а Гэндальф папярэдзіў нас, што ў Ізенградку рыхтуюцца да нечаканага нападу. Распавёў, што сам быў вязьнем Ізенградку й ледзь здолеў уцячы, і прасіў дапамогі. А Тэядэн не пажадаў слухаць яго, і Гэндальф зьехаў прэч. Увогуле, лепей ня згадваць Гэндальфа перад каралём! Кароль злуецца на яго. Бо Гэндальф абраў сабе каня зь імем Цяняр, найкаштоўнейшага сярод каралеўскіх коней, важака табуну мэярас, на якіх толькі сам гаспадар Украйны можа езьдзіць верхам – бо продкам гэтых коней быў вялікі конь Эёрла, конь, які разумеў чалавечыя словы. Сем начэй таму Цяняр вярнуўся, але каралеўскі настрой не палепшаў, бо конь зьдзічэў і анікога да сябе не дапускае.

– Значыць, Цяняр сам адшукаў шлях дахаты з далёкай Поўначы, – зазначыў Арагорн, – бо там Гэндальф адпусьціў яго. Аднак гора нам – Гэндальф болей ня сядзе на яго верхам. Гэндальф згінуў у змроку Морыі й ня вернецца адтуль.

– Дрэнныя тое весткі, для мяне й шмат для каго яшчэ. Але не для ўсіх, як вашаць хутка вынайдзе, стаўшы перад каралём.

– Гэтыя зьвесткі нашмат горшыя за ўсё, што толькі можа ўявіць сабе хто-кольвек у гэтай краіне, хоць многіх гэта балюча кране яшчэ да скону гэтага году, – давёў Арагорн. – Калі вялікія гінуць, правадырыць застаецца малым. Мне давялося ачольваць маіх паплечнікаў ад самай Морыі. Мы прайшлі праз Лорыйн, пра які табе лепей даведацца праўду перад тым, як зноў яго згадваць, а тады спусьціліся доўгімі мілямі па Вялікай рацэ да вадаспадаў Рэрасу. Там Бараміра забілі тыя самыя оркі, якіх вы panішчылі.

– Горкія твае навіны! – выгукнуў Эямэр у адчаі. – Ягоная сьмерць – вялікая шкода Мінас Тырыту, шкода ўсім нам. Найгоднейшы быў чалавек! Усе шанавалі яго. Зрэдку ён наведваў Украйну, бо амаль увесь час ваярыў на ўсходняй мяжы Гондару, але я бачыў яго. Болей падобным на жвавых сыноў Эёрла, чым да суворых гондарцаў падаваўся ён мне. Напэўна, ён зрабіўся б вялікім правадыром гондарскага народу, калі б прыйшоў ягоны час. Але пра гэтае гора зьвестак з Гондару мы не атрымлівалі. Калі ён загінуў?

– Чацьвёрты дзень, – адказаў Арагорн. – На сутоньні таго дня мы пакінулі цень Тол Брандыру.

– Пехатою?

– Гэтак, як ты й бачыш нас, – пешшу.

– Ну, тады Швэндал – анікуды ня вартая мянушка сына Араторна, – вымавіў Эямэр, надзвычай уражаны, – Летуном я назваў бы вашаць. Шмат у якой высокай залі трэба сьпяваць пра гэткае зьдзяйсьненьне. Дваццаць міляў і яшчэ восем адмералі вы за тры з паловаю дня! Дужыя ногі ў нашчадкаў Элендыля! Але ж цяпер падкажы, спадару, што я рабіцьму? Бо я мушу хутка вярнуцца да Тэядэна, і ў словах маіх і ўчынках перад маімі людзьмі я ня вольны. Насамрэч, мы яшчэ не ваюем адкрыта з Чорнаю зямлёю, а ў самой каралеўскай залі ёсьць тыя, хто нашэптвае каралю здраднае. Усё ж я ведаю: вайна не за гарамі. Мы не забудземся на старое сяброўства з Гондарам і ў іхняй бітве дапаможам ім – гэтак кажу я й тыя, хто поруч з мною. Я ёсьць трэці маршалак Рохану й таму адказны за Ўсходнюю Ўкрайну. Я загадаў

адагнаць усе статкі, зьвесьці ўвесь наод за Энтую, пакінуўшы толькі ахоўнікаў ды найспрытнейшых выведнікаў.

– Тады, напэўна, вы ня сплочваеце аніякай даніны Саўрону? – спытаў Гімлі.

– Ня сплочваем і аніколі ня сплочвалі, – блiснуў вачыма Эямэр, – хоць да майго слыху даходзіла гэтая хлусьня. Колькі гадоў таму Чорны Ўладар жадаў набыць у нас коней, прапаноўваў вялікія грошы, але мы адмовілі, бо не на добрую справу яму тыя коні. Тады ён даслаў оркаў-рабаўнікоў, і тыя сагналі колькі здолелі, абіраючы заўжды чорных. Цяпер такіх коней засталося няшмат. І таму на оркаў мы моцна крыўдуем. Аднак апошнім часам галоўны наш клопат – Саруман. Ён абвесьціў свае права на ўсю нашую зямлю, і ўжо шмат месяцаў мы ваюем зь ім. Яму слугуюць і оркі, і ваўкі зь верхаўцамі, і ліхія людзі. Ён трымае Браму Рохану, зачыніўшы яе для нас, так што мы, хутчэй за ўсё, апынемся паміж двух агнёў – з захаду й з усходу. Цяжкая справа – біцца з чараўнікам, хітрым ды майстравітым у падманным вядзьмарстве. Зьяўляецца ён, як кажуць, у аблiччы старога ў плашчы з каптуром, надта падобны да Гэндальфа, як шмат хто цяпер згадвае. Ягоныя выведнікі прасьлізнуць празь любую сетку, і птушкі ягоныя, вестуны блізкага гора, заўжды над галавою. Ня ведаю, як гэта ўсё скончыцца, і сэрца мае прадчувае нядобрае – падаецца, ня толькі ў Ізенградку жывуць Саруманавы сябры. Калі вашаць патрапіць у каралеўскі палац, пабачыць сам. Ці патрапіш? Ці ж я спадзяюся дарэмна, што вашаць зьявіўся, каб дапамагчы мне ў час сумневу й адчаю?

– Я прыйду, калі здолею, – адказаў Арагорн.

– Хадзем зараз! – запрасіў Эямэр. – Нашчадак Элендыля дапаможа сынам Эёрла падчас ліхой навалы! Нават цяпер у Прызахадзьдзі – бітва. Баюся, для нас яна абарочваецца дрэнна. Я рушыў на поўнач без каралеўскага дазволу, і безь мяне палац застаўся амаль без аховы. Выведнікі папярэдзілі мяне пра банду оркаў, якія спусьціліся з Усходняй сьцяны тры ночы таму, сярод тых оркаў прыкмецілі пачвараў зь белымі Саруманавымі знакамі. Таму я, западозрыўшы найгоршае, тое, чаго болей за ўсё баюся, – саюз паміж Ортанкам ды Цёмнай вежай, – я выехаў з эярэдам, харугвай майго роду, і мы перахапілі оркаў на сутоньні ля самых узьлескаў Энтавага лесу. Там мы іх абкружылі й раніцою напалі на іх. На жаль, я страціў пятнаццаць вершнікаў і тузін коней. Оркаў сталася болей, чым мы разьлічвалі. Бо да іх далучылася яшчэ банда з усходу, з-за Вялікай ракі. Іхні сьлед добра відаць крыху на поўнач адсюль. І зь лесу прывалачыліся яшчэ – вялізныя оркі пад Белаю Рукою Ізенградку, пачвары мацнейшыя ды зласьнейшыя за звычайную орцкую пароду. Так ці йнакш, мы пакончылі з усімі. Затрымаліся, аднак, зашмат. Нам трэба сьпяшацца на паўднёвы захад. Ці ж вашаць ня рушыць з намі? Коні ёсьць. І для скаванага меча знойдзецца праца. І не застануцца без патрэбы й сякера Гімлі, і лук Ляголаса, калі толькі спадары выбачаць мне пасьпешлівыя словы пра панну Залатога лесу. На жаль, я ведаю пра яе толькі тое, што й кожны чалавек маёй краіны, – і з задавальненьнем выслухаў бы болей.

– Дзякуй за ветлыя словы, трэці маршалак Рохану, – вымавіў Арагорн, – сэрца маё імкнецца з табою, але я не магу кінуць маіх сяброў, пакуль хоць бы якая надзея засталася.

– Надзеі няма. Вашаць ня стрэне сяброў на паўночных межах.

– Аднак яны там. Мы знайшлі непадалёк ад Усходняй сьцяны ясную пазнаку таго, што хоць бы адзін зь іх жывы. А паміж сьцяною й пагор'ем не было аніякага іншага іхняга сьледу, аніякі сьлед ня збочваў – вядома, калі маё мастэрства сьледапыта ня здрадзіла мне цалкам.

– Тады як спадар мяркуе, што адбылося зь імі?

– Ня ведаю. Магчыма, яны забітыя й спаленыя разам з оркамі. Але ты кажаш, што таго быць ня можа, і таму я не баюся. Застаецца адзінае: іх зьнесьлі ў лес яшчэ да пачатку бітвы. Мо да таго, як вы абкружылі оркаў. Ці магло быць такое, што нехта прасьлізнуў па-за вашыя заслоны?

– Я гатовы паклясьціся, што аніводны орк ня ўцёк ад нас пасьля таго, як мы заўважылі іх. Мы сягнулі ўзьлеску раней за іх. І калі хоць адзіная істота прасьлізнула скрозь нашае кола, дык гэта дакладна ня орк, а, напэўна, нехта з пэўнымі эльфскімі чарамі.

– Нашыя сябры апранутыя, як і мы, – тлумачыў Арагорн, – а вы ж мінулі нас, не заўважыўшы, сярод белага дня.

– Я й забыўся, – сказаў Эямэр. – Так цяжка быць пэўным хоць у чым-небудзь побач з столькімі цудамі. За нашым часам сусьвет зьмяняецца насамрэч дзівосна. Эльф з гномам поруч сярод белага дня крочаць па нашых палёх; нехта йдзе й размаўляе з паннай Залатога лесу – і вяртаецца жывы. Вяртаецца да бітвы меч, зламаны ў пракаветныя часы, задоўга да таго, як нашыя прабацькі сягнулі Ўкрайны й засталіся жыць тут. Як можа чалавек вырашыць, што рабіць яму, у гэткі неверагодны, непрадказальны час?

– Як і заўжды, – адказаў Арагорн. – Ані дабро, ані ліха яшчэ не памяняліся месцамі, і для эльфаў з гномамі, і для людзей яны тыя самыя. І абавязак кожнага: самому разьбірацца, дзе што, хоць бы ва ўласнай хаце, хоць бы ў Залатым лесе.

– Тое цалкам слушна, – пагадзіўся Эямэр. – У мяне няма сумневу ані ў вашаці, ані ў тым, што падказвае мне сэрца. Ад нак я ня вольны рабіць як пажадаю. Супраць нашага закону – дазваляць чужынцам бадзяжыць свавольна па нашай зямлі, калі сам кароль ня дасьць на тое дазволу, а ў цяперашнія неспакойныя часы закон трымаецца яшчэ стражэй. Я запрасіў спадара ехаць з намі вольна – вашаць ня згодны. Я не ахвочы соценнаю харугваю біцца з трыма.

– Мне падаецца, не для гэткіх выпадкаў быў створаны закон, – запярэчыў Арагорн. – І я не чужынец у гэтым краі. Я быў тут раней, і ня раз, выяжджаў разам з войскам рахірымаў, хоць і пад іншым імем, і ў іншым абліччы. Цябе я раней ня бачыў, бо ты малады, але гутарыў з тваім бацькам, Эямундам, і з Тэядэнам, сынам Тэнгела. Аніколі раней уладары гэтай зямлі не прымусілі б ваяра адмовіцца ад мэты, падобнай да маёй. Мой абавязак ясны – рушыць наперад. Дык вырашы, урэшце, сын Эямунда: дапамажы нам ці хоць бы дазволь рушыць вольна. Або шукай, як выканаць закон. Калі так – меней вершнікаў вернецца да вайны з сапраўдным ворагам і да свайго караля.

Эямэр памаўчаў, тады прамовіў:

– І табе, і мне трэба сьпяшацца. Мая харугва рвецца дахаты, і кожная гадзіна затрымкі памяншае тваю надзею. Дык пачуй маё вырашэньне: вы вольныя йсьці. Болей за тое, я пазычу вам коней. Толькі аднога прашу: калі вашаць сягне сваёй мэты ці ўпэўніцца ў яе недасягальнасьці, вярніся разам з коньмі за Энтваду, да Мэдусэльду, каралеўскага палацу, дзе цяпер Тэядэнаў сталец. Гэтак вашаць пакажа яму, што я не памыліўся з прысудам. Цяпер я – магчыма, самім сваім жыцьцём – залежу ад добрай волі спадара. Не падмані ж мяне.

– Не падману, – сьцьвердзіў Арагорн.

Сярод ваяроў харугвы многія надзвычай зьдзівіліся, што Эямэр загадаў пазычыць коней незнаёмцам, і пазіралі змрочна й з сумневам. Аднак толькі Эятан адважыўся пярэчыць адкрыта.

– Магчыма, роханскага каня годна даваць гондарскаму шляхцічу, якім ён сябе абвяшчае, але ж хто й калі чуў пра тое, каб роханскага каня давалі гному?

– Аніхто ня чуў, – адказаў Гімлі, – і не пачуе аніколі. Я хутчэй выпраўлюся пехатою, чым залезу на гэткую вялізазную жывёліну з уласнай волі ці з прымусу.

– Ты мусіш ехаць альбо надзвычай затрымаеш нас, – папярэдзіў Арагорн.

– Сядай з мною, сябра мой Гімлі, – запрасіў Ляголас, – тады ўсё будзе добра, і табе не спатрэбіцца ані пазычаць каня, ані турбавацца праз яго.

Вялізнага цёмна-шэрага каня прывялі Арагорну, і дунадан сеў на яго верхам.

– Хазуфэл ягонае імя, – давёў Эямэр. – Няхай ён добра нясе цябе, і да лепшага лёсу, чым свайго былога гаспадара, Гарульфа!

Меншага коніка, лягчэйшага, але неспакойнага й гарачага, прывялі Ляголасу. Клікалі каня Арад. Ляголас папрасіў зьняць зь яго сядло й вузду. Сказаў: "Мне яны не патрэбныя", лёгка скочыў у сядло – і, на агульнае зьдзіўленьне, Арад паслухмяна й пакорліва пайшоў пад ім, рухаючыся туды й сюды на слова. Гэткім чынам слухаюцца эльфаў усе добрыя жывёлы. Гімлі падсадзілі, і гном усьсеўся, учапіўшыся за сьпіну сябра, але пачуваўся пры тым ня лепш за Сэма Гэйхада ў чоўне.

– Добрага шляху! – выгукнуў Эямэр. – Няхай вам пашанцуе знайсьці тое, чаго шукаеце! Вяртайцеся хутчэй, і хай тады нашыя мечы зазьзяюць разам!

– Я вярнуся! – вымавіў Арагорн.

– І я таксама, – дадаў Гімлі, – словы пра панну Галадрыель яшчэ паміж намі. Магчыма, мне давядзецца навучыць вашаць ветлівасьці.

– Ну, пабачым, – сказаў Эямэр. – Столькі дзівоснага адбылося, што й навука шанаваньня прыгожай панны пад добразычлівымі ўдарамі гномскай сякеры ўжо не падаецца незвычайнай. Да сустрэчы!

Так і разьвіталіся. Хутка беглі роханскія коні, і калі праз хвіліну ці дзьве Гімлі азірнуўся, Эямэрава харугва ўжо падавалася жменькаю далёкіх маленькіх постацяў. Арагорн не паварочваўся, бо, нізка нахіліўшыся над шыяю Хазуфэла, сачыў за сьлядамі. Неўзабаве сягнулі берагу Энтуі й там напаткалі другі сьлед, пра які распавёў Эямэр і які вёў з усходу, ад панізьзяў ракі.

Арагорн саскочыў з каня, каб пабачыць сьляды на зямлі, тады зноў сеў верхам і асьцярожна праехаў колькі на ўсход побач зь сьледам, каб не папсаваць яго. Зноў саскочыў ды ўгледзеўся ў пазнакі, ходзячы туды й сюды.

– Няшмат засталося, – вярнуўся да сяброў, – галоўны сьлед увесь папсавалі вершнікі, калі вярталіся. Калі ехалі туды, трымаліся, напэўна, бліжэй да ракі. Але ўсходні сьлед адметны й выразны. І аніякай прыкметы адваротнага руху, назад, да Андуйну. Цяпер мы мусім ехаць павольней, каб пераканацца, што аніякія сьляды не адгаліноўваюцца ні ў адзін бок, ні ў другі. Тут оркі павінны былі зразумець, што іх перасьледуюць. І маглі зрабіць што-небудзь зь вязьнямі – адаслаць іх, пакуль роханцы не нагналі асноўны натоўп.

Дзень паступова змрачнеў. Нізкія аблокі прыпаўзьлі з-за панізьзяў Энтуі. Сонца зацягнула смуга. Зарослыя лесам схілы, краі Фангарну, набліжаліся, павольна цямнеючы, калі сонца рушыла на захад. Ад галоўнага сьледу анічога не адгаліноўвалася, але там і тут пагоня мінала мёртвых оркаў, што ляжалі ўздоўж сьледу з шэрапёрымі стрэламі ў сьпінах альбо глотках.

Сутоньне рабілася ўзьвячоркам, калі вандроўнікі сягнулі ўзьлеску й на шырокім лузе непадалёк ад першых дрэваў знайшлі рэшткі вялікага вогнішча. Прысак яшчэ дыміўся. Побач ляжала вялізная куча шаломаў ды броняў, пасечаных тарчаў, паламаных мечаў, лукаў, дзідаў ды іншай ваярскай зброі. Пасярод на кол была ўзьдзетая вялізная гоблінская галава. На расьсечаным шаломе вылучалася пазнака – белая рука. На адлегласьці, бліжэй да берагу ракі, там, дзе яна выцякала зь лесу, высіўся курганок. Сьвежы: насып з сырой зямлі быў абкладзены нарэзаным дзёрнам, а над ім тырчэла пятнаццаць дзідаў.

Арагорн зь сябрамі абшукаў усё месца бітвы, але дзённае сьвятло цьмела й вечаровы змрок, вогкі й туманны, засьціў вочы. Да цемры так і не знайшлі аніякіх сьлядоў Піпіна з Мэры.

– Болей мы анічога ня зробім, – затужыў Гімлі. – Мноства загадак паўстала перад намі з таго часу, як мы сягнулі Тол Брандыру, але гэтую цяжэй за ўсё адгадаць. Баюся, спаленыя косткі нашых сяброў перамешаныя цяпер з оркавымі. Цяжкая будзе гэтая вестка для Фрода, калі ён толькі дажыве да таго, каб пачуць яе. Дый для старога хобіта, што чакае ў Долым Яры, таксама. Эльранд быў супраць таго, каб маладыя хобіты выпраўляліся з намі.

– Але ж Гэндальф быў за, – запярэчыў яму Ляголас.

– Гэндальф абраў сябе самога, каб рушыць з намі, і загінуў першы, – азваўся на тое Гімлі. – Ягонае прадбачаньне падвяло яго.

– Гэндальфавы ўчынкі й парады былі ня дзеля найвялікшай бясьпекі ані для яго самога, ані для астатніх, – давёў Арагорн. – Пэўныя справы лепей пачаць у любым выпадку, чым адмовіцца ад іх, нават калі яны могуць прывесьці да змрочнага зыходу. Я не пакіну гэтага месца. Так ці йнакш, мы дачакаемся тут сьвітанку.

Крыху адышлі ад месца бойкі дый уладкаваліся на ноч пад купчастым дрэвам. Выглядала яно, нібыта каштан, але на галінах яшчэ вісела мноства леташніх лістоў, шырокіх, бурых, – як сухія далоні з доўгімі растапыранымі пальцамі. Лісты паныла шамацелі пад начным ветрыкам.

Гімлі перасмыкнуў плячыма. Коўдраў захапілі ўсяго па адной на чалавека. Прапанаваў:

– Мо распалім вогнішча? Трасца зь імі, оркамі. Няхай сабе зьлятаюцца на полымя летнімі матылямі!

– А калі нашыя няшчасныя хобіты блукаюць па лесе, дык мы прывабім іх агнём, – памеркаваў Ляголас.

– Штосьці іншае, і ня хобіт, і ня орк, таксама можа прывабіцца да вогнішча, – вымавіў Арагорн. – Мы цяпер непадалёк ад горнага краю здрадніка Сарумана. А яшчэ мы на краі Фангарну, а дрэвы гэтага лесу, як кажуць, чапаць надта небясьпечна.

– Аднак рахірымы не пабаяліся распаліць вялікае вогнішча ўчора, – запярэчыў Гімлі, – і валілі яны, як бачна, суцэльныя дрэвы. А тады й ноч тут правялі бясклопатна, скончыўшы працу.

– Іх было шмат, – тлумачыў Арагорн, – і да гневу Фангарну ім клопату няма, бо наяжджаюць яны сюды зрэдку й у лес не заходзяць. А наш шлях, падаецца мне, павядзе ў самую глыбіню лесу. Таму асьцярожней! Не сячы жывых дрэваў!

– У тым і патрэбы няма. Рахірымы пакінулі шмат шчэпак ды галінаў, і сушняку вакол досыць.

І Гімлі выправіўся зьбіраць дровы й раскладваць вогнішча. Арагорн жа сядзеў маўкліва, абапершыся сьпінаю аб старое дрэва, задумаўшыся. Адзін Ляголас стаяў на

паляне, узіраючыся ў цямрыстую глыбіню лесу, нахіліўшыся наперад, нібы ўслухоўваючыся ў галасы, якія даносіліся здалёк.

Калі гном управіўся зь невялікім, але зыркім і гульлівым вогнішчам, тры вандроўнікі паселі вакол, прысунуліся й нахіліліся да агню. Ляголас зірнуў на галіны дрэва над галавой.

– Пабачце – дрэва ўзрадавалася цеплыні! – выгукнуў ён.

Можа, гэта скаклівыя цені падманвалі вочы, але кожнаму з

падарожнікаў падалося: галіны выгінаюцца, каб наблізіцца да полымя, а верхнія – хіляцца долу, і бурыя лісты ўстапырваюцца й труцца адзін аб аднога, бы мноства старых зморшчаных далоняў разьмінаюцца над доўгачаканым цяплом.

Сябры замаўчалі, бо зьнянацку цёмны, нязнаны лес, да якога падабраліся гэтак блізка, адчуўся як прысутнасьць вялізарнай невядомай істоты, што тоіць пагрозьлівыя намеры. Праз доўгі час Ляголас вымавіў зноў:

– Келебарн казаў не паглыбляцца ў Фангарн. Ці ведаеш чаму, Арагорн? Якія паданьні чуў пра яго Барамір?

– Я чуў мноства паданьняў і ў Гондары, і ў іншых месцах, – адказаў Арагорн. – Аднак калі б ня словы Келебарна, я палічыў бы іх толькі казкамі, прыдуманымі людзьмі, калі згасьлі сапраўдныя веды. Я хацеў спытаць у цябе пра іх праўдзівасьць. Калі ўжо лясны эльф ня ведае, што можа ведаць чалавек?

– Ты вандраваў нашмат болей за мяне, – запярэчыў Ляголас. – У маёй краіне я амаль нічога ня чуў пра тое, хіба толькі песьні пра анадрымаў, якія жылі тут у пракаветную даўніну. Анадрымамі людзі клічуць энтаў. А Фангарн – надзвычай стары. Стары нават з эльфскіх разьлікаў.

– Так, стары, – пацьвердзіў Арагорн. – Такі паводле ўзросту, як і пушча ля Лысагор'я, толькі нашмат большы. Эльранд казаў, што тыя два лясы – радзіна, апошнія кавалкі неабсяжных лясоў Даўніх дзён, па якіх вандравалі першанароджаныя, калі яшчэ не прачнуліся людзі. А Фангарн мае й уласныя таямніцы. Якія – я ня ведаю.

– А я й не жадаю ведаць, – прабурчэў Гімлі. – Няхай анічога, што жыве ў гэтым лесе, пра мяне не турбуецца!

Кінулі жэрабя, і першым вартаваць выпала Гімлі. Астатнія леглі й амаль адразу пазасыналі.

– Гімлі! Не забывайся: небясьпечна сьсекчы нават малую галінку з жывога дрэва! – папярэдзіў Арагорн сонна. – І не адыходзь далёка ў пошуках паліва, хай лепей агонь згасьне! Калі што – абудзі мяне.

З тым і заснуў. А Ляголас ужо ляжаў нерухома, склаўшы прыгожыя рукі на грудзёх, пазіраючы расплюшчанымі вачыма ўгару – злучаючы, паводле эльфскага звычаю, глыбокі сон з насьцярожанай назіральнасьцю. Гімлі сядзеў, скурчыўшыся, ля вогнішча, водзячы задумліва пальцам уздоўж ляза сякеры. Шамацела лісьце. Аніякіх іншых гукаў ня чулася.

Раптам гном падняў галаву й убачыў: якраз на ўскрайку асьветленай прасторы стаіць, абапершыся на кій, згорблены стары – загарнуўся ў доўгі плашч, капялюш з шырокім крысом насунуў на самыя вочы. Гімлі ўскочыў, надта зьдзіўлены, каб выгукнуць, але адразу прамільгнула думка: усё, патрапілі Саруману. Арагорн зь Ляголасам, абуджаныя раптоўным рухам, селі. Стары ня рухаўся й не казаў анічога.

– Дабранач, бацьку! – павітаў Арагорн, ускокваючы на ногі. – Ці можам мы дапамагчы табе? Падыходзь, абагрэйся, калі зьмерз!

Крочыў наперад, але стары зьнік. Паблізу аніякіх сьлядоў ад яго не знайшлі, а далёка ад вогнішча адыходзіць не адважыліся. Месяц ужо зайшоў, і зрабілася надзвычай цёмна.

Зьнянацку Ляголас выгукнуў:

– Коні! Нашыя коні!

Коні насамрэч зьніклі. Выцягнулі калкі, да якіх былі прывязаныя, дый уцяклі. Пэўны час вандроўнікі стаялі нерухома й моўчкі, узрушаныя гэтым новым паваротам ліхога лёсу. Ад ускрайкаў Фангарну да жытла людзей Рохану, адзіных сяброў у гэтых дзікіх і небясьпечных землях, ляжалі доўгія мілі. Стоячы, пачулі, як з далёкай далечыні даляцела конскае ржаньне й іргатаньне. Тады зноў усё сьцішылася, толькі вецер па-ранейшаму халодна шапацеў у лісьці.

– Што ж, іх ня вернеш, – сказаў Арагорн нарэшце. – Мы ня здолеем ані знайсьці іх, ані злавіць. Калі яны ня вернуцца з уласнай волі, давядзецца рушыць бязь іх. Пачалі мы гэтую вандроўку на нагах, дык скарыстаймася імі.

– На нагах! – чмыхнуў Гімлі. – Ісьці на іх можна, але ж іх не зьясі.

Шпурнуў дровы ў вогнішча й плюхнуўся побач, скурчыўшыся.

– Некалькі гадзінаў таму цябе ледзь зацягнулі на роханскага каня, – засьмяяўся Ляголас. – А цяпер ты сам прагнеш зрабіцца вершнікам!

– Падаецца, на тое ў мяне болей шанцу няма, – уздыхнуў Гімлі, памаўчаў крыху й дадаў: – Калі ўжо хочаце ведаць, дык асабіста я мяркую: тое быў Саруман. Хто ж яшчэ? Узгадайце словы Эямэра: "*Зьяўляецца ён, як кажуць, у абліччы старога ў плашчы з каптуром*". Менавіта так. Ён зьвёў ці напалохаў нашых коней. А гэта яшчэ кветачкі, сунічкі на падыходзе, вы ўжо запомніце мае словы!

– Я запомніў, – адказаў Арагорн. – А таксама запомніў, што гэты стары быў у капелюшы, не ў каптуры. І ўсё адно я не сумняюся, што ты маеш рацыю й нам тут пагражае небясьпека, удзень ці ўначы. Але ж пакуль што мы анічога ня здольныя зрабіць – толькі адпачываць. Я павартую. Паразважаць мне трэба нашмат болей, чым паспаць.

Ноч цягнулася марудна. Арагорна зьмяніў Ляголас, а таго – Гімлі. Анічога не здаралася. Стары не зьявіўся зноў, і коні не вярнуліся.

*3. Урук-хаі*

Піпін бачыў цьмяны, вусьцішны сон: там ягоны слабенькі голас рэхам адбіваўся па чорных тунэлях: "Фрода! Фрода!", але замест Фрода сотні брыдкіх оркавых пысаў вырачыліся на яго зь ценяў, ашчэрыліся, сотні жудасных рук сталі хапаць яго з усіх бакоў. Дзе ж Мэры?

Абудзіўся. Халодны вецер дзьмуў у твар. Піпін ляжаў на сьпіне. Вечарэла, і нябёсы змрачнелі. Ён павярнуўся – і зразумеў, што ява ня лепшая за сон. Ягоныя ногі, рукі й глізны зьвязаныя. А побач – Мэры, белы з твару, лоб перавязаны бруднай анучай. Паўсюль вакол сядзіць ці стаіць мноства оркаў.

Павольна ў хворай Піпінавай галаве абрыўкі ўспамінаў зьнітаваліся ў цэлае ды аддзяліліся ад начнога трызьненьня. Безумоўна, ён і Мэры кінуліся ў лес. Што такое найшло на іх? Чаму пабеглі так, не зьвяртаючы ўвагі на старыну Швэндала? І доўга ж беглі, галосячы, – нават і не ўзгадаеш, як доўга, – і зьнянацку папросту ўламіліся ў оркаў. Тыя стаялі, прыслухоўваючыся, і заўважылі Піпіна з Мэры толькі тады, калі тыя апынуліся амаль пасярод іх. Тады загалёкалі, і яшчэ тузін за тузінам оркаў павыскоквалі з гушчару. Мэры й Піпін павыцягвалі корды, але оркі схацелі ня біцца, толькі схапіць іх – нават пасьля таго, як Мэры адсек некалькі рук. Малайчына Мэры!

Тады прымчаў зь лесу Барамір. Вось зь ім оркам давялося біцца. Ён пазабіваў процьму, астатнія кінуліся наўцёкі. Але хобіты далёка не адбеглі, бо наваліла зноў з сотню пачвараў, некаторыя надта вялізазныя. Сярод іх шмат лучнікаў, стралялі яны толькі ў Барамірa. Той задзьмуў у рог – ажно лес зазьвінеў рэхам, – і оркі спачатку адсунуліся, пераляканыя, але на рог ніхто не адгукнуўся, і оркі напалі яшчэ люцей, чым раней. Амаль нічога больш Піпін ня памятаў. Толькі тое, як Барамір сядзеў, прываліўшыся сьпінаю да дрэва, ды выцягваў з грудзей стралу, а тады раптоўна абрынулася цемра.

"Падаецца, мяне стукнулі чымсьці па галаве, – сказаў сам сабе. – Цікава, як там Мэры, не зьнявечылі яго? А дзе Барамір? Чаму оркі нас не забілі? Дзе мы й куды кіруемся?"

Адказу не было. Хобіт пачуваўся хворым і надта зьмерз. Падумаў: "Чаму толькі Гэндальф пераканаў Эльранда! Вось бы

нам не дазволілі йсьці! Якая зь мяне карысьць? Адна перашкода: пасажыр, кавалак паклады. А цяпер мяне скралі, і я – кавалак паклады для оркаў. Хоць бы Швэндал ці хто зьявіўся ды вярнуў нас! Але чаму б на тое спадзявацца? Ці ж гэта ня ўпоперак усім плянам? Як жа мне вызваліцца, га?"

Паварушыўся крыху, патузаў вяроўкі – усё дарма. Орк, які сядзеў побач, зарагатаў і сказаў нешта паплечніку на агіднай орцкай гаворцы.

– Адпачывай, пакуль адпачываецца, ты, дурылка! – гыркнуў тады Піпіну на Агульнай мове, якая ў ягоных вуснах гучала ці не агідней за орцкую. – Адпачні! Неўзабаве будзе тваім ножачкам працы. Шчэ ня раз пашкадуеш, што ня вылежаўся, пакуль мы патрапім дахаты.

– Мая б воля, ты ўжо цяпер пашкадаваў бы, што ўвогуле жывы, – прыстрашыў другі. – Ты ў мяне павішчэў бы, пацучаня недамернае!

Ён нахіліўся над Піпінам, прысунуўшы жоўтыя іклы да самага Піпінавага твару. У руцэ орк трымаў чорны нож з доўгім вызубраным лязом. Прашыпеў:

– Ляжы ціхенька, а тое я паказычу цябе крышачку гэтай цацачкаю. Ціхенька, бы мярцьвяк, а тое я й на загад магу забыцца. Трасца на тых ізенградцаў! *Углуку багронк*

*ша пушдуг Саруман-глоб бубхаш шкай!* – і замармытаў доўга на ўласнай мове, а потым шэптам яшчэ кляў ды бурчэў.

Зьляканы Піпін ляжаў нерухома, хоць боль у сьціснутых лытках ды пясьцях мацнела й камяні ўпрост праціналі сьпіну. Каб забыцца, прыслухоўваўся да ўсяго, што робіцца навокал. Чулася шмат галасоў, і хоць оркава гаворка заўсёды падаецца поўнай нянавісьці й злосьці, відочна, цяпер пачалося нешта падобнае да сваркі, дый хутка ператварылася ў сапраўдную свару.

На Піпінава зьдзіўленьне, ён разумеў большасьць прамоўцаў – шмат хто з оркаў карыстаўся Агульнай мовай. Відавочна, тут зьмяшаліся оркі двух ці болей плямёнаў, якія не разумелі гаворак адзін аднаго. Спрачаліся цяпер, што рабіць: куды рушыць далей ды што ўчыніць з палоннымі.

– І часу ж няма пазабіваць іх адпаведна, – казаў адзін. – І пагуляцца зь імі часу няма.

– А што ж зробіш? – спытаў другі. – Такая дрэнь. А вось чаму ж папросту ня кончыць іх, хоць бы зараз жа, ну? Цягнуць іх – халера дурная, а трэба ж сьпяшацца. Во й сутонее ўжо, і пабяжым неўзабаве.

– А загад? – прагырчэў трэці голас, глыбокі й нізкі. – Забіць усіх, АКРАМЯ паўросьлікаў, а тых прынесьці ЖЫЎЦОМ як мага хутчэй! Вось мой загад!

– А навошта жыўцом? – спыталі адразу некалькі галасоў. – Навошта яны патрэбныя? Зь імі што, можна выдатна пагуляцца?

– Не! Я чуў, у аднаго зь іх нейкая драбяза, нейкая рэч, істотная для вайны. Эльфскія нейкія хітрыкі ці што. Так ці інакш, абодвух трэба грунтоўна дапытаць.

– Няшмат ты чуў. А чаму самім не абшукаць ды ня высьветліць: мо й для сябе нешта карыснае прыдбаем?

– Цікавая думка, цікавая, – абвесьціў новы голас, не такі грубы, але больш злосны й пагрозьлівы за астатнія, – мо данесьці пра яе каму трэба, га? Палонных НЕЛЬГА абшукваць, і тым больш рабаваць. Такі мой загад.

– Мой таксама, – пацьвердзіў басісты голас, – жыўцом і менавіта ў тым стане, у якім захапілі. Не рабаваць.

– Гэта вашыя загады, ня нашыя! – завыў адзін з ранейшых галасоў. – Мы ўвесь шлях ад гор беглі, каб забіць, каб адпомсьціць за нашых. Дык заб'ем – і назад, на поўнач.

– Хацець ня шкодна! – гыркнуў басісты. – Я – Углук! Я тут бацька. І мы пакрочым да Ізенградку найкарацейшым шляхам!

– Ці ўжо Саруман гаспадар Вялікаму Воку? – вымавіў злосны голас. – Адразу ж вяртаемся ў Лугбург!

– А, каб мы празь Вялікую раку перабраліся! – віснуў ранейшы голас. – Дык нас надта мала, каб прабіцца да мостаў!

– Я ж перабраўся, – вымавіў злосны. – Крылаты назгул чакае нас на поўначы на ўсходнім беразе.

– Можа й чакае, так! Цябе чакае, каб ты ляцеў разам з палоннымі ды каб у Лугбургу ўсе ўзнагароды й пашаны былі твае, а нас пакінеш дабірацца пешма праз гэныя конскія закрайны. Не, разам трэба. Тут краі недарэчныя, бандытаў ды бунтаўнікоў процьма.

– Так, разам трэба, – прагырчэў Углук. – Таму што вам аніякага даверу няма, сьвінюкі недарослыя. Як павыбіраецеся зь бярлогаў, дык і сэрца ўжо ў пятках. Калі б ня мы, вы ўсе паўцякалі б. Мы – урук-хаі, мы – ваяўнічая кроў! Мы забілі вялікага ваяра! Мы ўзялі палон! Мы – дружына Сарумана Мудрага, Белай Рукі: Рукі, якая

корміць нас чалавечынаю. Мы прыйшлі зь Ізенградку, і туды вас павядзем тым шляхам, які абярэм самі. Я – Углук, бацька над вамі. Я вам сказаў.

– Ці не зашмат Углук гаворыць, га? – пакпіў зласьлівы голас. – Цікава, ці даспадобы прыйдзецца гэткае ў Лугбургу? А мо там палічаць, што галава Ўглукава ўжо надта цяжкая для ягоных плячэй? Дый папытаюць, адкуль прыйшлі такія думкі, што ягоны нос гэтак задраўся? Мо ад Сарумана? І кім жа ён сябе ўяўляе, га, каб маляваць сабе ўсялякія паскудныя пазнакі? А адказы яны пачуюць, дый паверацць ім, ад Грышнаха, даверанага, іхняга выведніка й пасланца, а Грышнах скажа: дурань Саруман, здрадлівы дурань. Але ж Вялікае Вока ўжо над ім!

– Сьвінюкі, так? Хлопцы, як вам падабаецца мянушка "сьвінюкі" ад сьмецяроў здурнелага ведзьмачука? Хлопцы, ці ж ня оркава мяса яны жаруць?

Шмат выгукаў па-орцку пачулася ў адказ, забразгаталі лёзы, вылятаючы з похваў. Піпін асьцярожна перакуліўся на бруха, спадзеючыся пабачыць, што ж адбудзецца. Вартаўнікі пакінулі яго, далучыўшыся да сваркі. У паўзмроку паўстаў вялізны чорны орк, напэўна Углук, насупраць Грышнаха, невысокай крываногай істоты, шырачэзнай у плячох ды з рукамі такой даўжыні, што яны амаль кранал зямлю. Вакол тоўпілася мноства меншых гоблінаў. Піпін падумаў, што яны, верагодна, і ёсьць паўночнікі. Яны павыцягвалі нажы ды мечы, але на Ўглука напасьці, відавочна, не адважваліся.

Той гыркнуў, і падбегла яшчэ колькі оркаў памерам амаль зь яго. Тады зьнянацку, без аніякага папярэджаньня, Углук скочыў наперад і двума імгненнымі ўдарамі зьнёс галовы двум супраціўнікам. Грышнах адсунуўся прэч ды зьнік недзе ў цені. Астатнія парасступіліся, адзін спатыкнуўся аб Мэры й паваліўся, лаючыся. Хоць тое, верагодна, выратавала яму жыцьцё, бо Ўглукавы паплечнікі пераскочылі яго й пасеклі іншага шыракалёзымі мечамі. Той іншы быў жаўтаіклы ахоўнік. Ягонае цела бразнулася ўпрост на Піпіна, і ў руцэ мерцьвяка ўсё яшчэ быў заціснуты доўгі вызубраны нож.

– Зброю ў похвы! – выгукнуў Углук. – Досыць глупства! Адсюль бегма прама на захад, а тады ўніз. Пасьля да панізьзяў і ўздоўж ракі да лесу. Бегма ўдзень і ўночы. Усё ясна?

"Ага, – падумаў Піпін, – калі толькі гэтаму прыгажуну спатрэбіцца яшчэ час, каб навесьці парадкі, дык у мяне файны шанец".

Было з чаго ўзрадавацца – лязо нажа сьлізнула па руцэ ды спынілася ля пясьця. Па руцэ сачылася кроў, і хобіт адчуваў, як лязо кранае скуру. Оркі рыхтаваліся да выправы, але некаторыя з паўночнікаў падпарадкоўвацца не жадалі. Ізенградцам давялося забіць яшчэ двох, пакуль астатнія не супакоіліся, запалоханыя. Але праклёнаў ды суцэльнай блытаніны было досыць, і на пэўны час Піпіна пакінулі без дагляду. Ногі ягоныя зьвязалі шчыльна й надзейна, а рукі – толькі ў пясьцях ды наперадзе. Хоць вяроўкі ўпіваліся ў скуру, абедзьве рукі адначасова ўсё ж рухаліся. Піпін крыху адпіхнуў мёртвага орка ўбок, а тады, ледзь дыхаючы ад жуды, засоўгаў вузлом пясьцевых путаў па лязе. Тое было вострае, рука мерцьвяка сьціскала нож моцна. І хутка вяроўка перарэзалася! У момант Піпін падхапіў яе, зьвязаў зноўку дзьвюма свабоднымі петлямі, дый насунуў на пясьці. А тады лёг і сьцішыўся.

– Узяць палонных! – гыркнуў Углук. – І ніякіх гульняў зь імі! Калі данясем нежывымі, то хтосьці іншы таксама зьмярцьвее.

Орк падхапіў Піпіна, нібы мех, прасунуў галаву паміж зьвязанымі рукамі хобіта, узяўся за іх і кінуўся бегчы. Другі гэтаксама падхапіў Мэры. Оркавы пальцы,

падобныя да кіпцюроў, учапіліся ў Піпінавы рукі, нібы жалезныя, пазногці ўпіліся ў скуру. Піпін заплюшчыў вочы ды сасьлізнуў зноў у вусьцішны сон.

Раптоўна яго зноў скінулі на каменьне. Была раньняя ноч, тонкі месячык хіліўся да захаду. Затрымаліся на краі скалы, якая ўзвышалася выспаю над морам бляднага туману. Недзе непадалёк цурчэла вада.

– Ну, і што выведалі? – прабурчэў Углук.

– Адзіны вершнік, і той уцёк на захад. Цяпер усё чыста.

– А, цяпер. Вядома. І на колькі часу чыста? Ідыёты! Трэ было падстрэліць яго! Ён падыме трывогу. Клятыя каняводы шчэ да раніцы вызнаюць пра нас. Цяпер давядзецца кульгаць удвая хутчэй.

Цень нахіліўся над Піпінам.

– Падымайся, – загадаў хобіту Ўглук. – Мае хлопцы стапталіся, цягнучы цябе на карку. Нам трэба спускацца. Давядзецца паварушыць уласнымі лапкамі. Давай працуй. Ня енчы, не спрабуй уцячы, зразумеў? За хітрыкі мы маем чым сплаціць. Скурку тваю для нашага гаспадара не пашкодзім, але ж табе мала ня будзе.

З гэтым пасек путы вакол ног ды пад каленкамі, ухапіў за валасы й рыўком паставіў Піпіна на ногі. Той паваліўся, а Ўглук зноў за валасы паставіў яго. Колькі оркаў зарагатала. Углук сунуў пляшку паміж Піпінавых зубоў дый уліў яму ў глотку нейкую палымяную вадкасьць. Хобіт адчуў, як буйная сьпякота цячэ па целе. Боль у нагах зьнік. Хобіт здолеў стаяць.

– А цяпер другому! – загадаў Углук.

Піпін убачыў: ён падышоў да Мэры, які ляжаў непадалёк, ды пхнуў нагою. Мэры застагнаў. Ухапіўшы Мэры, быццам анучу, Углук пасадзіў яго ды зьдзёр павязку зь ягонай галавы. Тады змазаў рану нечым цёмным з маленькай драўлянай скрынкі. Мэры застагнаў, замахаў рукамі, адбіваючыся.

Оркі запляскалі ў далоні, загікалі.

– Ну, дурань, лекаў ня хоча! Ня ведае, што яму на карысьць! Гэ, ну, пазабаўкаемся зь імі файна!

Але Ўглуку пакуль было не да забавак. Яму патрэбная была хуткасьць ды пільнасьць да неахвочых спадарожнікаў. Таму ён папросту вылекаваў Мэры на оркавы манер, і вылекаваў хутка. Калі гвалтам уліў хобіту ў глотку вадкасьці з пляшкі, перасек путы на нагах ды паставіў, Мэры здолеў трымацца на нагах, выглядаў бледным, але суворым і дзёрзкім, ды яшчэ даволі жывым і жвавым. Драпіна на лобе болей не балела, аднак руды шнар на тым месцы застаўся ў хобіта да скону.

– Дабранач, Піпіне! – павітаў ён. – Дык ты таксама вырашыў крыху пашпацыраваць? А калі нам зладзяць ложкі й вячэру?

– Цішэй! – гыркнуў Углук. – Чаго захацелі, га! Затыкніце пысы, адному з адным размаўляць забаронена! Калі ўчыніце турботы, пра ўсё давядзем, а гаспадар ведае, чым сплаціць за клопат. Там вам выдадуць вячэру. Шчэ й папросіце, каб меней было.

Оркава банда пачала спускацца па вузкай цясьніне, што вяла да туманнай роўнядзі ўнізе. Мэры й Піпін упарта караскаліся ўлучна з тузінам оркаў, а ўнізе раптам ступілі на траву, і настрой іх узьняўся.

– Цяпер прама! – гыркнуў Углук. – На захад і крыху на поўнач! Усьлед за Лугдушам!

– А калі засьвітае, што рабіць? – спытаў адзін з паўночнікаў.

– Бегчы, як і раней, – адказаў Углук. – А ты што думаў? Сесьці на траўку й пачакаць, пакуль бляднаскурыя зьявяцца на бяседу?

– Але мы ня можам бегчы пад сонцам!

– Куды ж падзенецеся – з мною за вашымі сьпінамі? – пакпіў Углук. – Шчэ як пабежыце! Давай хутчэй, а тое аніколі болей ня ўбачыш улюбёнай нары! Клянуся Белай Рукою – якая карысьць слаць на такую справу гэтых горных сьлімакоў, у іх на двох няма аднога глузду! Бяжы, халера! Бяжы, пакуль ноч яшчэ трывае!

І ўвесь гуф пабег няўклюдай, але ж размашыстай орцкай пабежкаю. Строю не трымалі, сутыкаліся, спатыкаліся, пхаліся й лаяліся, аднак беглі надзвычай хутка. Кожнага хобіта вартавалі трое. Піпін быў ля самага канца калёны. Бег, разважаючы, ці нашмат яго хопіць, бо не сілкаваўся з самай раніцы. Адзін з вартаўнікоў меў пугу. Хоць пакуль што оркаў напой саграваў Піпінава цела. І думкі таксама не спатыкаліся.

Раз-пораз уяўляўся яму ўважлівы твар Швэндала, чалавек нахіляўся над змрочным сьледам – і няспынна сьпяшаў уздагон. Аднак што сьледапыт пабачыць тут, апрача блытаніны адбіткаў орцкіх ботаў? Хобіцкія маленькія сьляды зьнішчаліся падкаванымі жалезам падэшвамі.

Аддаліліся ад скальнай сьцяны на вярсту ці каля таго, і наперадзе адкрылася шырокая лагчавіна зь вільготнай ды мяккай зямлёй. Туман ляжаў на ёй, паблісквакочы ў апошніх промнях маладзічка. Цьмяныя постаці оркаў наперадзе зацемрыліся, тады зьніклі ў тумане.

– Гэй! – загукаў Углук ззаду калёны. – Не разбрыдацца!

Раптоўная думка скокнула ў Піпінаву галаву, і ён адразу яе ажыцьцявіў. Кінуўся направа, паднырнуў пад хаплівыя рукі вартаўніка, галавою ў туман, пляснуўся на траву.

– Стаяць! – зароў Углук.

На момант усчаўся гармідар і валтузьня. Піпін ускочыў і кінуўся ўцякаць. Але оркі ўжо беглі да яго, і нехта сьцяною ўжо паўстаў наперадзе.

"Аніякай надзеі, – мільгнула ў Піпінавай галаве, – а можа, усё-ткі здолеў пакінуць ясныя адбіткі на мяккай глебе, якія оркі не папсуюць".

Схапіўся абедзьвюма зьвязанымі рукамі за каўнер, адчапіў фібулку. Выпусьціў яе, якраз калі доўгія кіпцюрастыя рукі ўхапілі яго. Падумаў: "Тут і ляжаць ёй да скону сьвету. Навошта гэта было рабіць? Калі астатнія выратаваліся, дык напэўна ж пайшлі разам з Фрода".

Пуга абвілася вакол ягоных ног, і ён ледзь утрымаўся, каб ня ўзвыць.

– Досыць! – загадаў Углук, падбегшы. – Яму яшчэ доўга бегчы. Няхай бягуць! Пугаю толькі нагадвай раз-пораз пра абавязак.

– Гэта ня ўсё, ня бойся, – дадаў, зьвярнуўшыся да Піпіна. – Я не забудуся, ня думай. Потым сплачу шматкроць. Пайшоў, ногі ў рукі!

Ані Піпін, ані Мэры не запомнілі амаль нічога пра далейшую вандроўку. Вусьцішныя сны й жудасная ява зьмяшаліся ў доўгі змрок пакутаў, і надзея гасла ў іх. Беглі й беглі, намагаючыся трымаць ровень з оркамі, трываючы раз-пораз удары пугаю, жорсткія й умелыя. Калі хобіты спатыкаліся ці прыпыняліся, іх падхоплівалі й пэўны час несьлі.

Цеплыня орцкага напою сышла. Піпін зноў пачуваўся хворым і зьмерзлым. Зьнянацку паваліўся тварам у траву. Цьвёрдыя рукі з вострымі кіпцюрамі падхапілі яго, закінулі на карак. Зноў панесьлі, бы мех, і змрок агарнуў яго: ці цемра яшчэ адной начы, ці смуга перад вачыма – ён ужо не адрозьніваў.

Праз туман у галаве данесьліся галасы, гукі сваркі. Падавалася, шмат оркаў патрабавалі прыпыніцца. Углук рыкаў на іх. Піпін адчуў, як яго груба шпурнулі на

зямлю. Там ён і заснуў, упрост як упаў, і чорныя сны авалодалі ім. Але боль неўзабаве вярнуўся: бязьлітасныя кіпцюры зноў падхапілі яго. Пэўны час трасло й шкуматала, тады цемра павольна расступілася. Піпін вярнуўся да жывога сусьвету й пабачыў, што ўжо раніца. Прагучалі загады, яго зноў кінулі на траву.

Там і ляжаў колькі часу, змагаючыся з адчаем. Галаву муціла, але зь цеплыні, якая расьцякалася па целе, зразумеў: яшчэ раз давалі напой. Над Піпінам нахіліўся орк ды шпурнуў кавалак хлеба й абрэзак сырога падвяленага мяса. Чэрствы шэры хлеб хобіт згрыз прагна, мяса ж не крануў. Згаладнеў, але ж не ў такой ступені, каб есьці мяса, дадзенае оркамі, – і ўявіць страшна, якой істоце яно належала.

Сеў, азірнуўся. І ўбачыў непадалёк Мэры. Оркі прыпыніліся на беразе хуткай вузкай ракі. Наперадзе ўздымаліся горы. На высокім піку адбіваліся ўжо першыя промні сонца. Ля падэшваў гор цьмянаю плямаю ляжаў лес.

Сярод оркаў зноў распалілася злосная спрэчка, і, падавалася, зноў высьпявае бойка паміж паўночнікамі й ізенградцамі. Некаторыя паказвалі на поўдзень, некаторыя – на ўсход.

– Файна! – прамовіў нарэшце Ўглук. – Тады пакіньце справу мне! Аніякага забойства, я вам ужо казаў. А калі жадаеце кінуць усё тое, дзеля чаго столькі беглі й змагаліся, – кідайце! Я дагледжу, будзьце пэўныя. Урук-хаі – ваяры, урук-хаі зробяць справу. Няўперш. Калі баіцеся бляднаскурых – уцякайце! Вунь лес! – ён паказаў наперад. – Туды ўцякайце. Там ваш ратунак. Давай, ногі ў рукі! І хутчэй, пакуль я ня зьнёс яшчэ колькі галоваў, каб у астатніх глуздоў дадалося!

Пачулася лаянка, мітусьня, а тады большасьць паўночнікаў, мо з сотню, кінуліся наперад, не чакаючы астатніх. Пабеглі з усіх ног уздоўж ракі да лесу. Хобіты засталіся зь ізенградцамі, суворай змрочнай бандаю высакарослых, смуглявых, касавокіх оркаў зь вялізнымі лукамі й кароткімі шыракалёзымі мечамі. Тузіны чатыры было іх, сама менш. Некалькі паўночнікаў, большыя памерам ды дзёрзкасьцю, таксама засталіся тут зь імі.

– А цяпер разьбярэмся з Грышнахам, – абвесьціў Углук, але нават некаторыя зь ягоных уласных паплечнікаў баязьліва пазіралі на поўдзень.

– Я ведаю, – гыркнуў Углук. – Клятыя конюхі нас вынюхалі. Твая віна, Снага! Табе ды іншым выведнікам вушы паабсякаць. Але ж мы – ваяры! Мы яшчэ пакаштуем каніны, а мо й чаго саладзейшага.

У гэты момант Піпін заўважыў, чаму некаторыя з ваяроў паказваюць на ўсход. Адтуль пачуліся хрыпатыя выгукі й неўзабаве – га! – зноў зьявіўся Грышнах, а зь ім пара тузінаў такіх самых, як ён: даўгарукіх крываногіх пачвараў. На іх тарчах чырванела Вока. Углук крочыў насустрач.

– Што вярнуўся? – спытаў ён. – Вырашыў шукаць шчасьця з Углукам, га?

– Вярнуўся, каб прасачыць за выкананьнем загадаў ды каб вязьні ацалелі, – адказаў Грышнах.

– Насамрэч, трэба ж, га, – пакпіў Углук. – Дарма толькі ногі зьбівалі. Я сам прасачу, каб мае загады выконваліся. А мо шчэ чаго прыцягнуўся? Гэтак пасьпешліва змыўся – напэўна, на нешта забыўся.

– Забыўся на аднаго дурня, – прабурчэў Грышнах. – Але ж тут зь ім добрыя хлопцы. Шкада, калі дарма згінуць, калі дурань завядзе ў бяду. Трэ ім дапамагчы.

– Цудоўна! – зарагатаў Углук. – Ну, напэўна ж наш памагаты мае смак да бойкі, га? Напэўна, таму й вярнуўся з шляху на Лугбург. Бляднаскурыя ўжо непадалёк. І дзе твой каштоўны назгул? Пад ім падстрэлілі шчэ аднаго каня? Каб вы яго з сабою прыцягнулі, тое было б сапраўды няблага – калі праўда ўсё, што пра іх баяць.

– Назгул! – выдыхнуў Грышнах, уздрыгваючы ды аблізваючы вусны, нібы самое гэтае слова мела агідны смак, аддавалася болем, але ж і дзіўнай асалодай. – Пра тое брэшаш, што й не ўяўлялася тваім дрымучым мазгам у самых вусьцішных марах. Гэй, Углуча, каб табе самому давялося паспытаць, якая праўда ў расповедах пра іх! Надыдзе дзень, калі ты сплоціш за кожнае сваё слова тут! Дурны бугай!! – узьвіснуў Грышнах шалёна. – Ведаць трэба, што назгулы – зрэнкі Вялікага Вока! Аднак крылатаму назгулу шчэ не надышоў час лётаць сюды. Не, *ён* яшчэ не дазваляе ім паказвацца за Вялікай ракою, яшчэ надта рана. Яны – дзеля вайны й яшчэ дзеля адмысловага.

– Падаецца, ты зашмат ведаеш, – гыркнуў Углук. – Мо болей, чым трымае твая галава на плячох. Мабыць, і ў Лугбургу пацікавяцца, чаму ды адкуль. А да таго ўрук-хаі Ізенградку будуць разграбаць за вас бруд, як і заўжды. Ня стой тут, пускаючы сьліну. Зьбірай сваю набрыдзь! Астатняе сьвінства ўжо кульгае да лесу. Ты з сваімі лепей бяжы туды сама, а то Вялікай ракі вам болей ня бачыць! Ну, хадзем. Зараз жа! Мы ўвасьлед за вамі.

Ізенградцы падхапілі Мэры зь Піпінам на каркі й пабеглі. Беглі гадзіну за гадзінаю, прыпыняючыся толькі дзеля таго, каб перакінуць хобітаў з карка на карак. Ці з-за таго, што бегуны яны былі спрытнейшыя й сталейшыя, ці з-за якой Грышнахавай задумкі, але ізенградцы паступова перагналі мордарскіх оркаў, і тыя тупацелі ўжо за сьпінамі. Неўзабаве й паўночнікаў амаль нагналі, і лес наблізіўся.

Піпіна пабіла й падрапала на оркавых карках, параненую галаву абдзёрла аб брудную шчаку й валасатае вуха орка, які нёс яго. Наперадзе відаць былі адны пахіленыя сьпіны, і тоўстыя моцныя ногі бясконца рухаліся: уверх-уніз, уверх-уніз – няспынна, быццам выраблёныя з дроту й рогу, адбіваючы хвілю за хвіляю вусьцішнай вечнасьці.

Яшчэ да сутоньня Ўглукава банда абагнала паўночнікаў. Тых бязьлітасна палілі промні сонца, што не па-зімоваму пранізьліва зьзяла з бляклых халодных нябёсаў. Горныя оркі беглі апусьціўшы галовы, высалапіўшы языкі.

– Сьлімакі! – рагаталі ізенградцы. – Падсмажыла вас, га? Рыхтуйцеся на сьняданак бляднаскурым! Яны ўжо даганяюць!

Лямант Грышнахавай банды паказаў, што гэта не пустая кпіна. Ужо заўважылі імклівых вершнікаў. Яшчэ далёкія, яны набліжаліся надзвычай хутка, накатваліся, нібы прыліў на небаракаў, якія захрасьлі на глейкім беражку.

Ізенградцы, на Піпінава зьдзіўленьне, раптам пабеглі з падвойнай хуткасьцю, жудасным рыўком напрыканцы гонкі. Тады хобіт пабачыў: сонца ўжо садзілася, хавалася за Туманныя горы. Цені пацягнуліся па зямлі. Жаўнеры Мордару паднялі галовы й таксама паскорылі крок. Блізкі лес наперадзе стаяў змрочным мурам. Ужо й колькі асобных дрэваў мінулі. Оркі беглі ўгару па схіле, які ўсё страмеў, але ж не спыняліся. І Ўглук, і Грышнах галасілі, падганяючы сваіх на апошні рашучы высілак.

"Яшчэ пасьпеюць. Яшчэ дабягуць", – думаў Піпін. Тады выкруціў шыю, налаўчыўся адным вокам зірнуць назад, за плячо. І ўбачыў, што вершнікі з усходу ўжо параўняліся з апошнімі бегунамі, шалёна нясуцца па роўнядзі. Захад залаціў іхнія дзіды й шаломы, апошнія промні блішчэлі на доўгіх сьветлых валасах, што віліся па ветры. Вершнікі заганялі оркаў, нібы статак быдла, каб не паразьбегліся, дый накіроўвалі ўздоўж ракі.

Цікава стала: што ж гэта за народ? Хоць бы парупіўся болей даведацца, пакуль адпачывалі ў Долым Яры, часьцей пазіраў на мапы. Але ў тыя дні ўсе пляны, падавалася, зьберагаліся ў надзейных руках. Як можна было ўявіць сабе, што застанесься бяз Гэндальфа, бяз Швэндала ці нават бяз Фрода. Усё, што мог узгадаць пра Рохан, – Гэндальфаў конь, Цяняр, адтуль. Хоць і няшмат, але абнадзейвае.

"Як жа яны адрозьняць нас ад оркаў? – падумаў хобіт. – Наўрад ці яны тут чулі пра хобітаў. Напэўна, трэба радавацца, што гэтых мярзотных оркаў папанішчаць, Толькі ж лепш самому, жыўцом, адчуць тую радасьць, ўратаваўшыся".

А найверагодней, што роханцы й яго, і Мэры заб'юць разам зь іхнімі ворагамі, нават і не заўважыўшы, каго забіваюць.

Сярод вершнікаў былі й стральцы, майстры ўлучыць на скаку. Пад'яжджалі на стрэл і цэлілі ў адсталых оркаў. У некаторых патрапілі. Спусьціўшы стралу, імгненна адсоўваліся, каб да іх не далятаді варожыя стрэлы. А оркі стралялі на бягу абы-куды, не адважваючыся прыпыніцца. Наяжджалі лучнікі шматкроць, і аднойчы дастрэлілі ажно да ізенградцаў. Адзін зь іх, якраз перад Піпінам, спатыкнуўся й больш не падняўся.

Надышла ноч, а вершнікі ў бойку ня ўвязваліся, не набліжаліся. Мноства оркаў ужо загінула, але яшчэ заставалася дзьве сотні з гакам. У сутоньні оркі сягнулі невысокага пагорку. Узьлесак быў надта блізка, ня болей за паўтузіна гоняў, аднак далей ходу не было. Вершнікі абкружылі пагорак. Кучка нязгодных не паслухалася Ўглука й кінулася да лесу. Вярнуліся толькі тры.

– Ну й патрапілі, – пакпіў Грышнах. – Так вось пад магутным правадыром Углукам! Ну, спадзяюся, вялікі ваяр Углук выведзе нас зноў!

– Паўросьлікаў – долу! – загадаў Углук, не зьвяртаючы на Грышнаха ўвагі. – Ты, Лугдуш, бяры яшчэ двох і трымай над імі варту. І не забіваць, пакуль бляднаскурыя не прарваліся. Зразумелі? Покі я сам жывы, мне яны патрэбныя. Але каб ляжалі моўчкі, і сачыце, каб іх не адбілі! Зьвяжыце ім ногі!

Апошні загад выканалі бязьлітасна. А Піпін вынайшаў, што ён упершыню апынуўся побач з Мэры. Оркі вакол гаманілі, лямантавалі й бразгалі зброяй, і хобіты здолелі колькі часу пашаптацца бесьперашкодна.

– Думаю, мяне ўжо амаль дакаталі, – прызнаўся Мэры. – Здаецца, і адпаўзьці далёка ня здолею, нават разьвязаны.

– Лембасы! – прашаптаў Піпін. – У мяне ж яны засталіся. А ў цябе? Оркі анічога не забралі, акрамя кордаў.

– Так, у мяне ёсьць колькі ў кішэні, хоць яны, напэўна, параскрышыліся, – адказаў Мэры. – Але ж ротам у кішэню не залезеш!

– Навошта ротам? У мяне... – пачаў быў Піпін, але жорсткі штурхель нагою перарваў яго, паказаўшы, што гоман сьцішыўся й вартавыя зноў пільнуюць вязьняў уважліва.

Ноч выдалася халодная й спакойная. Паўсюль вакол пагорку з оркамі загарэліся маленькія вартавыя вогнішчы, золата-барвяныя ў цемры, – суцэльнае абложнае кола. Паўспыхвалі на адлегласьці добрага стрэлу, але самі вершнікі побач з вогнішчамі не зьяўляліся, і оркі змарнавалі мноства стрэлаў, цэлячы па агнёх, пакуль Углук не спыніў іх. Вершнікі не выдавалі сябе ані гукам. Крыху пазьней, калі маладзік выплыў з-за тумаю, раз-пораз праблісквалі ў прывідным сьвятле іх постаці-цені, рухаючыся ў бяссоннай варце.

– Сонца чакаюць, трасца на іх! – прабурчэў адзін з хобіцкіх ахоўнікаў. – Чаму ж не сабрацца й ня рушыць усім разам? Што старына Ўглук думае, уявіць сабе не магу, калі ён увогуле думае.

– Мы зараз пабачым, хто тут думае, а хто – не, – гыркнуў Углук, падышоўшы ззаду. – Мяркуеце, у мяне ўвогуле галавы няма на плячох? Ну, дык вы ня лепшыя за астатнюю набрыдзь: сьлімакоў з-пад гор ды малпаў з Лугбургу. Якая карысьць прабівацца зь імі разам? Яны завішчаць ды адразу наўцёкі, а тут досыць гэтых паскудных канялюбаў, каб нас параструшчыць пасярод роўнядзі. Зь сьлімакоў адна карысьць: у іх каціныя вочы, бачаць у цемры. Але ж, як я чуў, у гэтых бляднаскурых начны зрок лепшы за звычайны людзкі, а шчэ й на коней не забывайцеся! Тыя здольныя бачыць начны ветрык, як гаворыцца. Аднак адной прыемнай рэчы яны ня ведаюць: Маўхур з хлопцамі сьпяшаецца па лесе й абвесьціцца з хвіліны на хвіліну.

Відавочна, Углукавы словы супакоілі ізенградцаў, хоць і не астатніх оркаў. Тыя непакоіліся, гаманілі й слухацца не жадалі. Выставілі вакол пагорку варту. Ды большасьць зь яе легла на зямлю, адпачываючы ў прыемным змроку. Неўзабаве насамрэч зрабілася надта цёмна, бо маладзік схаваўся на захадзе ў тоўстую шчыльную хмару, і Піпін нават за некалькі ступнёў ня бачыў анічога. Вершнікі ж тым часам не пажадалі ўпрост чакаць сьвітанку, дазваляючы ворагам адпачыць. Раптоўны выгук з усходняга боку пагорку адзначыў: адбылося нешта благое. Напэўна, некалькі людзей пад'ехалі бліжэй, зьлезьлі з коней, падабраліся да краю лягеру дый прыкончылі колькі оркаў, а тады бязгучна зьніклі. Углук адразу кінуўся сьцішваць паніку.

Піпін з Мэры паселі, азіраючыся. Іхнія вартаўнікі, ізенградцы, зьніклі разам з Углукам. Праўда, думкі пра ўцёкі вельмі хутка пакінулі хобітаў. Доўгія патлатыя рукі схапілі кожнага за шыю й прыцягнулі адзін да аднога. Жудасная вялізарная пыса Грышнаха ўціснулася паміж імі, патыхнула мярзотным подыхам. Орк пачаў мацаць іх, абшукваючы. Піпін уздрыгнуў, калі цьвёрдыя халодныя пальцы зашнарылі ўздоўж ягонай сьпіны.

– Файна, файна, маленькія мае, – прашаптаў Грыхнах ціхенька й лагодна. – Забаўляецеся адпачыначкам, так? Ці, можа, не? Вух, якое месца ўтульненькае для адпачынку: мечы з пугамі з аднога боку, востранькія дзіды з другога! Ня сьлед маленькім блытацца ў справы завялікія для іх, ня сьлед!

А пальцы ягоныя ўсё шнарылі. І вочы палалі бляднымі сьпякотным полымем прагі.

І раптам Піпіна праняла думка, нібы выхапленая прамютка з галавы ворага: "Ды ён жа ведае пра пярсьцёнак! Яго шукае, пакуль Углук заняты, хоча забраць сабе!" Халоднай жудою скавала Піпінава сэрца, але ў тое самае імгненьне ён скеміў, як выкарыстаць Грышнахаву хцівасьць.

– Ня думаю, што ты гэтак яго адшукаеш, – прашаптаў Піпін. – Тое няпроста.

– Адшукаю што? – выдыхнуў Грышнах, а ягоныя пальцы раптам спынілі шнараньне й кіпцюрамі ўпіліся ў хобітава плячо. – Што адшукаю, малеча? Пра што ты кажаш?

Піпін памаўчаў крыху. Тады зьнянацку нібы глынуў нешта: "Гл-лыкс, гл-лыкс". І дадаў:

– Ані пра шшто, мая кашштоўнась-сь-сьць.

Хобіты адчулі, як здрыгануліся Грышнахавы пальцы.

– Вохxx, – прашыпеў гоблін. – Дык вось што, га, сапраўды? Х-хоо. Надта, надта небясьпечна, маленечкія мае.

– Магчыма, – буркнуў Мэры, здагадаўшыся ўмомант пра Піпінавы думкі. – Магчыма, і ня толькі для нас. Ты сваю справу ведаеш, ці ня так? Ты жадаеш яго? І што дасі замест?

– Я жадаю? Жадаю? – перапытаў Грышнах, быццам зьдзіўлены, але ягоныя рукі дрыжэлі. – Што дам за яго? Што гэта значыць?

– Значыць, – вымавіў Піпін асьцярожна, падбіраючы словы, – няма толку шнарыць у цемры. Мы можам захаваць табе высілкі й час. Толькі разьвяжы спачатку нам ногі, а тое мы анічога ня скажам і ня зробім.

– Даражэнькія мае, маленькія дураняты, – прашыпеў Грышнах. – Ды вы ўсё, што толькі маеце, пра што толькі ведаеце, у свой час выкладзеце за так. Усё! Дый пашкадуеце, што ня ведаеце болей, каб распавесьці й тое ды задаволіць Допытніка. Вуй, і хуценька той час надыдзе, хуценька. А мне навошта сьпяшацца? Не, ня трэба! Чаму ж, як вы мяркуеце, дурняткі мае, вас жывымі пакінулі? Не з дабрыні, мае маленькія, вы ўжо мне паверце. Дабрыня нават у ёлупню Ўглуку аніколі не назіралася.

– Вось у гэтае мне паверыць няцяжка, – сказаў Мэры. – Але ж ты сваю здабычу дахаты шчэ не прыцягнуў. І не прыцягнеш, як бы там ні павярнулася. У Ізенградку пашана надасца не вялікаму Грышнаху – Саруман забярэ ўсё, што знойдзе. Калі жадаеш тое-сёе прыдбаць сабе, дык цяпер сама час. Дамовімся?

Грышнах траціў цярплівасьць. Асабліва, падавалася, разьюшыла яго імя Сарумана. Час праходзіў, і гармідар цішэў. Напэўна, Углук, усталяваўшы парадак, ці ізенградцы вернуцца з хвіліны на хвіліну.

– Ці ёсьць ён у каго з вас?! – рыкнуў Грышнах.

– Гллыкс, гллыкс! – адгукнуўся Піпін.

– Ногі разьвяжы, – нагадаў Мэры.

Адчулі, як моцна задрыжэлі рукі орка.

– Трасца на вас, пацукі недамерныя! – прашыпеў ён. – Ногі вам разьвязаць? Ды я кожную жылачку вашую папаразьвязваю. Да самых костак абшукаю! Вы што, думаеце, я не пасяку вас на апошнія дрыготкія кавалачкі, га? Ды мне вашыя ногі ня трэба, каб змыцца адсюль з вамі, – вось тады мы перамовім сам-насам!

Зьнянацку орк падхапіў іх. Моц ягоных доўгіх рук і плячэй была неверагодная. Сунуў пад пахі, па адным з кожнага боку, прыцiснуў дый здаравеннымі далоньмі закрыў раты. І кінуўся наперад, нізка нахіліўшыся. Бег спрытна й бязгучна, пакуль не сягнуў краю пагорку. Тады, абраўшы прамежак між вартавымі вогнішчамі, кінуўся ліхім ценем праз ноч уніз па схіле, на захад, да ракі, якая выцякала зь лесу. У гэтым напрамку на шырокай роўнядзі між ім і лесам бачылася ўсяго адзінае вогнішча.

Прайшоўшы з паўтузіна сажняў, прыпыніўся, углядаючыся й прыслухоўваючыся. Анічога не было відаць і чуваць. Паціху крочыў наперад, перагнуўшыся амаль удвая. Тады выпрастаўся, нібы адважыўшыся нарэшце на імклівы кідок. І ў гэты момант перад ім узьнік вялізны цень ваяра на кані. Конь чмыхнуў, узьняўся на дыбкі. Ваяр загукаў.

Грышнах пляснуўся ніцма на зямлю, прыціснушы хобітаў сабою. Ды выцягнуў меч з похваў. Без сумневу, ён хацеў забіць палонных, каб не ўцяклі ці не патрапілі ў варожыя рукі, але тое яго й загубіла. Меч бразнуў ды бліснуў, адлюстраваўшы полымя вогнішча зьлева. І адразу зь цемры сьвіснула страла. Ці коньнікі трапна пацэлілі, ці так накіраваў лёс – яна праціяла Грышнахаву правую руку. Ён выпусьціў меч і завішчэў. Пачуўся часты пошчак капытоў. Як толькі Грышнах ускочыў і пабег,

вершнік апынуўся побач і праткнуў яго дзідай наскрозь. Орк вусьцішна залямантаваў, у дрыготцы бразнуўся долу й застаўся нерухомым.

Хобіты ж ляжалі, прыціскаючыся да зямлі, як і пакінуў іх Грышнах. Яшчэ адзін вершнік прымчаў на дапамогу. Ці праз асаблівую вастрыню зроку, ці празь нейкае іншае адчуваньне, але конь пераскочыў праз хобітаў, а вершнік так іх і не заўважыў – загорнутыя ў эльфскія плашчы, стомленыя ды зьнясіленыя, хобіты не адважваліся й дыхаць.

Нарэшце Мэры паварушыўся й прашаптаў ціхенька:

– Пакуль усё добра. А вось як жа самім уцячы, каб не нанізалі на дзіду?

Адказ прыйшоў амаль адразу ж. Грышнахаў лямант устрывожыў оркаў. Зь ляманту й віскату, які даляцеў з пагорку, хобіты зрабілі высновы: Углук убачыў, што яны зьніклі, і цяпер заняты сечкай галоваў. Зьнянацку оркавы галасы загукалі ў адказ з-за кольца вартавых вогнішчаў, зь лесу. Відавочна, зьявіўся чаканы Маўхур ды напаў на абложнікаў. Пачуўся часты пошчак мноства капытоў. Вершнікі шчыльней абкружылі пагорак, наблізіліся, каб прадухіліць вылазку, пакуль асобны шыхт ад'ехаў разабрацца з Маўхурам. Мэры зь Піпінам усьвядомілі, што й ня рухаючыся патрапілі ўжо за кольца аблогі й анічога не ляжыць паміж імі й іхнім ратункам.

– Каб толькі цяпер былі вольныя ногі-рукі, маглі б і ўцячы. Але ж да вузлоў не дацягнуцца, і не пракусіш іх, – роспачна паскардзіўся Мэры.

– І намагацца ня трэба, – папярэдзіў Піпін. – Я якраз зьбіраўся табе распавесьці: я ўжо вызваліў рукі. І петлі начапіў толькі для віду. Ты лепей спачатку крыху лембасу пажуй, падсілкуйся.

І скінуў вяроўку зь пясьцяў ды выцягнуў з кішэні пакунак. Печыва пакрышылася, але не папсавалася й заставалася ў абгортцы зь лісьця. Кожны з хобітаў зьеў па два-тры кавалкі. Смак нагадаў сьветлыя, добрыя твары, сьмех, файную ежу цёплымі лагоднымі днямі – такімі далёкімі! Пэўны час хобіты сілкаваліся задумліва й засяроджана, не зьвяртаючы ўвагі на выгукі й гвалт бойкі непадалёк. Піпін першы вярнуўся да рэчаіснасьці.

– Бегчы трэба! – прашаптаў ён. – Пачакай хвілінку!

Грышнахаў меч ляжаў побач, але быў надта цяжкі й нязручны. Таму Піпін прапоўз наперад да цела гобліна, дый выцягнуў з похваў на ягоным пасе доўгі востры нож. Хутка перарэзаў путы.

– А цяпер – ходу! – вымавіў нарэшце. – Калі разагрэемся крыху, можа, здолеем стаяць і йсьці. А пакуль лепей паўзком.

І папаўзьлі. Па мяккім глыбокім дзёрне паўзьці было няцяжка. Ды ўсё адно марудна. Вартавое вогнішча абпаўзьлі далёка, і, выгінаючыся, нібы чарвякі, цаля за цаляю дабраліся да ручаіны, што цурчэла ў чорным цені пад глыбокім берагам. Там азірнуліся.

Усё сьціхла. Відавочна, Маўхура зь ягонымі "хлопцамі" альбо забілі, альбо прагналі ў лес. Вершнікі вярнуліся да сваёй маўклівай злавеснай варты. Ужо няшмат ім засталося пільнаваць. Ноч сканчалася. На ўсходзе, дзе нябёсы заставаліся бяз хмараў, распальваўся сьвітанак.

– Трэба шукаць сховішча, – прапанаваў Піпін, – а тое нас убачаць. Малое суцяшэньне, калі, знайшоўшы нас сярод трупаў, вершнікі зразумеюць, што мы ня оркі.

Падняўся й тупнуў нагою.

– Гэтыя вяроўкі, як дрот, у мяне ўпіліся, але ногі паціху ажываюць. Ужо магу кульгаць. А ты, Мэры?

– Так, – устаў Мэры. – І я спраўлюся. Лембасы грэюць сэрца, дый ногі таксама! І пачуцьцё ад таго здаравейшае, цалкам ня тое, што ад орцкай міктуры. Цікава, з чаго яе вырабляюць? Не, напэўна лепей ня ведаць. Давай глынем вады, каб змыць нават успаміны!

– Ня тут, – запярэчыў Піпін. – Тут берагі надта стромыя. Рушым пакуль наперад.

Хобіты павярнулі й павольна крочылі поплеч уздоўж ракі. За іхнімі сьпінамі распальвалася на ўсходзе раніца. Ідучы, абменьваліся меркаваньнямі, па-хобіцку легкадумна, узгадвалі, што адбылося за час палону. Аніякі слухач цяпер не западозрыў бы, што ім давялося цяжка пакутаваць, рушыць без надзеі на ратунак зь небясьпекі ў небясьпеку, на катаваньне і сьмерць. Нават цяпер, як абодва добра ведалі, невялікі быў шанец адшукаць сяброў ці сягнуць якога сховішча.

– Файна справіўся, спадару Хваце, – адзначыў Мэры. – Табе аднаму цэлую частачку ў Більбавай кнізе трэба аддаць, калі толькі здолею да яго дабрацца й распавесьці. Добрая праца, а асабліва калі разгадаў хітрыкі таго валасатага паскудніка ды згуляў зь ім. Цікава, аднак, ці знойдзе хто твой сьлед ды ці падбярэ фібулку? Мне сваю дужа страціць не хацелася б. А ты, падаецца, згубіў яе назаўсёды задарма. А мне трэба яшчэ патупацець, каб цябе дагнаць. Насамрэч, сваяку Бронь-Бычу цяпер час рушыць наперад, бо ён жа сьвядомы хобіт. Ты, падаецца, ня шмат ведаеш пра тое, дзе мы. А я свой час у Долым Яры правёў лепей. Мы кіруемся на захад уздоўж Энтуі. Апошні хвост Туманных гор перад намі й лес Фангарн.

Пакуль прамаўляў, цьмяная сьцяна лесу ўзьнялася наперадзе. Ноч яшчэ чаплялася за камлі вялізманых дрэваў, павольна адпаўзаючы прэч, ратуючыся ад сьвітанку.

– Вось дык правадыр, сваяк Бронь-Быч! – абвесьціў Піпін. – Уперад, а мо й назад. Бо нас жа папярэджвалі наконт Фангарну. Такі дасьведчаны спадар хобіт, напэўна, на гэткае не забыўся.

– Не, – пацьвердзіў Мэры, – але ж нават у такі лес патрапіць – лепей, чым павярнуць назад ды апынуцца пасярод бойкі.

І рушыў першы пад вялізарныя галіны, якія падаваліся неверагодна старымі. Даўжэзныя чэпкія бароды моху зьвісалі зь іх, калыхаліся й варушыліся на ветры. Схаваўшыся ў цені, хобіты азірнуліся – маленечкія зьляканыя істоткі ў паўзмроку, рыхтык маляты-эльфы з пракаветных глыбіняў часу, што ў зьдзіўленьні вітаюць зь Дзікага Лесу першае Раньне.

Далёка за Вялікай ракой, за Бурымі пустэчамі, за бясконцым шэрагам бляклых міляў распаліўся золак, пунсовы, бы полымя. Гучна зараўлі паляўнічыя рогі, вітаючы яго. Вершнікі Рохану рушылі наперад, і зноў перагукнуліся рогі.

Мэры й Піпін пачулі ў ясным халодным паветры ржаньне ваярскіх коней, мноства чалавечых галасоў узьнялося ў песьні. Край сонца паўстаў вогненнай аркаю над межамі сьвету. Тады з аглушальным ровам вершнікі рушылі з усходу, і барвовае сьвятло зазьзяла на бронях і дзідах. Оркі загаласілі, выпусьцілі апошнія стрэлы насустрач ім. Колькі вершнікаў бразнулася долу, але шыхт не парушыўся. Пракаціўся па пагорку й праз яго, разьвярнуўся й атакаваў зноў. Тады ўжо большасьць ацалелых оркаў кінулася ўцякаць уроссып у розныя бакі. За імі гналіся й аднаго за адным бралі на дзіды. Але ж засталіся тыя, што, згуртаваўшыся ў шчыльны чорны клін, упарта прабіваліся да лесу. Кінуліся ўніз па схіле на вартавых. І няшмат заставалася ім да

лесу, падавалася – абавязкова дабяруцца. Пасеклі ўжо трох вершнікаў, якія спрабавалі паўстаць на іх шляху.

– Мы надта загледзеліся, – заўважыў Мэры. – Гэта Ўглук! Нешта мне не карціць зноў зь ім павітацца.

Хобіты павярнуліся й пабеглі ў глыбіні лесу, Таму й ня ўбачылі апошнія хвіліны Ўглука, калі ягоную банду перахапілі ля самага ўзьлеску. Там самога Ўглука забіў Эямэр, трэці маршалак Маркі, які сьпешыўся й секся зь ім на мечах. І паўсюль па шырокім стэпе вастравокія вершнікі палявалі на тых нешматлікіх оркаў, якія ўцякалі й у якіх яшчэ заставаліся сілы, каб бегчы далей.

Калі ўпалявалі ўсіх, вершнікі пахавалі загінулых таварышаў у кургане дый песьнямі ўхвалілі іх мужнасьць і моц. А тады расклалі вялізнае вогнішча, спалілі ворагаў ды раскідалі попел. Так скончыўся орцкі набег, і аніякія навіны пра яго не сягнулі ані Мордару, ані Ізенградку. Аднак дым таго вогнішча ўзьняўся высока, і шмат чые пільныя вочы заўважылі яго.


Лонд Даэр
Шлях з поўначы на поўдзень
Ізенградак
Фангарн
Сьвет
РОХАН
Броды Ізену
Брама Рохану
Заходняя Ўкрайна
Прызахадзьдзе
Анґрэн (Ізен)
Адарн
Хельмаў Яр
Анўдаа (Энтуя)
Прыўсходзьдзе
Сарн Гебір
Сьнежкародная
Эдорас
Усходняя Ўкрайна
Друвайт Ло
Эрэд Німрайс
Мортанд
Эрэх
Ламэдан
ГОНДАР
Лефнуі
Пінат Гэлін
Кірыль
Рынгло
Анфалас (Узмор'е)
Эдэлёнд
Андраст
Дол Амрат
Дор-эн-Эрніл
Гілраїн
Сэрні
Бэльфалас
Талфолас
Этыр Андуїн
Пн
Вёрсты
50 100 150 200
3

*4. Дрэвабарод*

А тым часам хобіты з усёй магчымай у цёмным і густым лесе хуткасьцю беглі ўздоўж ракі – на захад і ўгару па схіле, усё глыбей у нетры Фангарну. Паціху забыліся на оркаў і запаволілі хаду. І адчулі, быццам нешта адбірае паветра з самай глоткі, прыдушвае, не дае аддыхацца.

Нарэшце Мэры прыпыніўся.

– Не, далей так немагчыма, – запыхкаў. – Дыхаць няма чым.

– Калі так, дык хоць пап'ем, – прапанаваў Піпін. – У мяне ўсё ссохлася.

Ускараскаўся па доўгім корані, які завісаў над плыньню, і, нахіліўшыся, зачэрпнуў рукою вады, чыстай і халоднай. Піў доўга, з асалодай. Таксама й Мэры. Вада асьвяжыла й узрадавала, і пэўны час хобіты ўпрост сядзелі на беражку, мятляючы ў вадзе зьбітымі нагамі, ды ўзіраліся ў бясконцыя шэрагі дрэваў навокал, якія блізка зьнікалі ў шэрым змроку.

– Ну як ты, яшчэ не пасьпеў згубіць нас у лесе? – спытаў Піпін, прыхіляючыся да таўшчэзнага ствала. – Заўжды можна рушыць уздоўж ракі, Энтуі ці як там яе, і выбрацца тым шляхам, якім прыйшлі.

– Магчыма, калі нас ногі панясуць ды калі дыхаць будзе чым,

– адказаў Мэры.

– Так, цемнавата тут і душнавата, – пагадзіўся Піпін. – Нешта яно нагадвае мне стары пакой Вялікай сядзібы Хватаў у нашых сьміялах у Хватавай Гародні. Вялізарная заля, дзе мэблю ані мянялі, ані нават перасоўвалі цягам пакаленьняў. Казалі: Стары Хват гадамі жыў у тым пакоі, і пакой старэў і трупехнуў разам зь ім. А як памёр, болей за стагодзьдзе таму, дык і не мянялі там анічога. А стары Геронціюс быў мой прапрапрабацька, во колькі мінула. Але гэтая пракаветчына – толькі ўчора ў параўнаньні з гэтым лесам. Глянь: якія цягучыя, даўжэзныя бароды моху! А большасьць дрэваў амаль на палову ў старым спарахнелым лісьці, якое, напэўна, і не зьмянялася аніколі. Неахайна тут. І ўявіць сабе не магу, як тут вясною ўсё выглядае, – калі вясна ўвогуле зазірае сюды. Чаго ёй сюды лезьці, у гэтакі бруд.

– Але ж сонца мусіць зазіраць сюды хоць калі, – запярэчыў Мэры. – І выгляд тут, і адчуваньні не такія, як, зь Більбавых расповедаў, у Ліхалесьсі. Там усё змрочнае й чорнае, там жытлуюць страхотлівыя пачвары. А тут усяго толькі сутоніста ды шчэ моцна дрэвіста. Немагчыма ўявіць, каб тут жылі якія зьвяры ці хоць бы заставаліся на доўгі час.

– І хобіты таксама, – дадаў Піпін. – Не падабаецца мне ідэя рушыць праз гэты лес. На сотню вёрстаў анічога прыдатнага для ежы ня знойдзем. А колькі ў нас там засталося?

– Няшмат, – уздыхнуў Мэры. – Пабеглі мы толькі з парай пакункаў лембасаў у кішэнях. Астатняе ўсё пакінулі.

Агледзелі рэшткі эльфскага печыва: невялічкія кавалачкі, дзён на пяць, і паўгалодных дзён да таго ж.

– І ані коўдры якой, ані посьцілкі, – уздыхнуў Мэры. – Зьмерзьнем уначы, куды ні рушылі б.

– А куды рушыць, трэба зараз жа вырашыць, бо раніца ўжо засьвятлела.

Насамрэч, жоўтае сьвятло разьлілося крыху далей па лесе: падавалася, промні раптоўна працялі лясны дах.

– Добрай раніцы! – узрадаваўся Мэры. – Напэўна, сонца хавалася за хмарай, пакуль мы беглі, а цяпер выйшла ці ўскараскалася высока й сьвятло ўжо трапляе на нейкую паляну. Тут недалёка – хадзем глянем!

Апынулася далей, чым падавалася. Схіл уздымаўся ўсё страмей ды рабіўся ўсё больш камяністым. Паступова сьвятлела, і нарэшце хобіты ўбачылі перад сабою скальную сьцяну – ці бок пагорку, ці канец надта доўгага адгор'я. Ані дрэўца не расло на ім, і сонца зьзяла проста ў каменны адхон. Сукі й карані цягнуліся да яго, нібы жадаючы ўхапіць болей цеплыні. Тое, што колькі часу таму выглядала струпехлым ды шэрым, цяпер заблішчэла глыбокімі, насычанымі фарбамі – бурае, рудое, цёмна-жоўтае, і гладкая кара адблісквала чорна-рудым, як апрацаваная скура. Ствалы дрэваў сьвяціліся мяккай зелянёю, нібы маладая трава. Насамрэч, раньняя вясна, ці мімалётны прывід яе, панавала навокал.

У каменнай сьцяне напаткалі нешта накшталт лесьвіцы – прыроднай напэўна, калі вада й вецер цягам часу крышылі й ламалі пакрысе каменьне, бо прыступкі былі надта крывыя й няроўныя. Вяла яна да шырокай паліцы пад адхонам. Там анічога не расло, толькі рэдкая трава, дый тырчэў абцінак старога дрэва, вялізны пень, на якім засталіся толькі два пахіленыя сукі, надта падобны да закарэлага старога лесавіка, які стаяў агаломшаны раптоўным сьвятлом.

– Ну-тка, узьберамося! – выгукнуў Мэры радасна. – Глынем паветра ды зірнем навокал.

Палезьлі на скале. Калі тое была насамрэч лесьвіца, то для ног, значна даўжэйшых за хобіцкія. Сьпяшаліся далезьці, і таму не зьвярнулі ўвагі й не заўважылі, як зь дзівоснай хуткасьцю ацаліліся драпіны й балячкі, атрыманыя падчас палону, як вярнуліся сілы. Хобіты сягнулі нарэшце краю паліцы амаль пад самым старым абцінкам. Ускараскаліся, павярнуліся сьпінамі да скалы, пазіраючы на ўсход і глыбока дыхаючы. Пабачылі, што паглыбіліся ў лес усяго вярсты на тры ці чатыры. Вершаліны дрэваў пад імі хвалямі спускаліся да роўнядзі. Там, побач з ускрайкам лесу, узьнімаліся вялікія слупы чорнага курчастага дыму, калыхаючыся, плынелі над лесам.

– Вецер мяняецца, – заўважыў Мэры. – Зноў з усходу. Прахалодна тут.

– Так, – пагадзіўся Піпін. – Баюся, вясна сюды зазірнула на адно імгненьне, і ўсё зноўку пашарэе. Як шкада! Гэты трухлявы стары лес зусім інакш выглядае пад сонцам! Мне ён нават на якую хвіліну й спадабаўся.

– Нават на якую хвіліну й спадабаўся! Якая пашана! Якая незвычайная ласка! – вымавіў нечы дзівосны голас. – Павярніцеся-тка, каб я зірнуў на вашыя твары. А мне вы на якую хвіліну й не спадабаліся, але ж ня трэба сьпяшацца. Павярніцеся!

Вялікія далоні, магутныя вузлаватыя пальцы леглі на плечы хобітам ды асьцярожна павярнулі іх, а тады дзьве вялізныя рукі ўзьнялі іх угору.

І хобіты зазірнулі ў найнезвычайнейшы твар найдзіўнейшага стварэньня – вышэйшага за любога чалавека, мо з троля памерам, ступнёў чатырнаццаць вышынёю сама менш, надзвычай каржакаватага, з доўгаю галавою й амаль бяз шыі. Ці вопратка ягоная была падобная да зялёна-шэрай кары, ці тое сапраўды была гэта кара-скура – сказаць цяжка. Так ці інакш, а рукі на пэўнай адлегласьці ад цела былі не маршчыністыя, а з гладкаю бураю скураю. На доўгіх ступаках варушылася па сем пальцаў. Ніз даўжэзнага твару хавала шырокая сівая барада, густая, падобная ля падбародзьдзя да пераплеценага гальля, а на канцы станчэлая, імшыстая. Аднак пэўны час хобіты не заўважалі анічога, акрамя вачэй. Тыя глыбокія вочы глядзелі павольна й сур'ёзна, але ж надзвычай пранізьліва – бурыя, зь зялёнымі яскраўкамі.

Потым Піпін часьцяком намагаўся апісаць сваё першае ўражаньне ад іх: "Падавалася, нібы за імі нейкі бяздонны калодзеж, паўнюткі тысячагадовай памяцьцю й доўгай, павольнай, уцятай развагай, а на паверхні ён яскравіцца сягачаснасьцю, бы сонца гуляе на вонкавым лісьці здаравеннага дрэва ці вецер моршчыць паверхню найглыбейшага возера. Ня ведаю, як гэта, але быццам перада мною нешта расьліннае, дрымотнае – якое толькі сябе й адчувала ад каранёў да кончыкаў кожнага лісточка паміж глыбокай зямлёю й нябёсамі – зьнянацку абудзілася й пачало мяне разглядаць з гэткай самай павольнай, усёахопнай увагаю, зь якою песьціла й пільнавала самое сябе цягам бясконцых гадоў".

– Хррм, ху-ум, – прамармытаў голас, глыбокі, нібы зь неабсяжнай, магутнай дуды. – Насамрэч дзівосна, дзівосна! Не сьпяшацца – вось для мяне галоўнае. Але ж калі б я ўбачыў вас да таго, як пачуў вашыя галасы – прыемныя танюткія галаскі, нават нагадалі мне штосьці, ужо сплынелае з памяці, – калі б убачыў вас да таго, як пачуў вашыя галасы, затаптаў бы вас, зрабіўшы крок, бо палічыў бы малымі оркамі, і толькі пасьля зразумеў бы памылку. Надта дзіўныя вы, надта. Гальлё-караніскі, вось дзівота!

Піпін, хоць і зьдзіўлены, болей ужо не баяўся. Перад гэтымі вачыма адчуваў нейкую напружанасьць, але ж аніякага страху.

– Калі ласка, шаноўны пане, – папрасіў ён, – скажыце, хто вы? І што вы такое?

Нешта трывожнае ўсплыло ў неабсяжных вачох, сьцярожкае, быццам глыбокія калодзежы раптам прыкрылі.

– Хррм, угу, – адказала стварэньне. – Я энт, ці так яны мяне клічуць. Так, энт. Тое самае слова. Нават ня ўпрост *энт*, а Энт, самы той Энт, вы маглі б так казаць па-свойму. Яшчэ некаторыя клічуць мяне *Фангарн*, а іншыя – *Дрэвабарод*. *Дрэвабарод*, так. Гэта слушна.

– Энт? – падзівіўся Мэры. – А што гэта? А самі сябе вы як клічаце? Якое вашае сапраўднае імя?

– Ну-у, як вы! – сказаў на тое Дрэвабарод. – Ну-у! Вось так і скажы вам. Не сьпяшайцеся, ня трэба. Тут я пытаюся, бо гэта ж вы ў маёй краіне, не наадварот. Вы хто такія, я ніяк не магу вызначыць. Няма вас у старым сьпісе стварэньняў, які я вывучыў калісь маладым. Але тое было даўно, дужа даўно. Цяпер мо й новыя сьпісы склалі. Пабачым, пабачым! Як там гаворыцца?

*Спазнай жа навуку жывых стварэньняў!*
*Запомні спачатку вольных найменьні:*
*Эльф – найстарэйшы, у сьвеце першы,*
*Гном – рудакоп у падгорных скляпеньнях,*
*Энт – старэйшы ад гор, земляродны,*
*І чалавек – уладар над коньмі.*

Так, так, хм...

*Бабёр – будаўнік, алень – паскакун,*
*Дзік – баявіты, мядзьведзь – прагны мёду,*
*Хорт – галодны, трус – баязьлівы...*

Так, так...

*Арол – у нябёсах, бугай – на пашы,*
*Лось – у кароне, сокал – імклівы,*
*Лебедзь – бялюткая, гад – халодны...*

– Ху-ум, хм, так, гэтак, хм, то бок, як жа? Рру-ум, тум, рум-тум, румці-тумці-тум. Так. Доўгі быў сьпіс. Але ж вас там анідзе няма. Няма для вас месца!

– Гэткім чынам на нас заўжды забываліся й у старых сьпісах, і ў паданьнях, – паскардзіўся Мэры. – А мы ўжо колькі жывем на зямлі! Мы – хобіты!

– А чаму новы радок ня ўставіць? – спытаў Піпін. Ну, накшталт такога:

*Хобіт паўрослы – нораў аматар.*

– Дзе-небудзь пасярод першай чацьвёркі, паблізу да людзей (даўгалыгіх), – і ўсё ў парадку!

– Хм, няблага, няблага! – зазначыў Дрэвабарод. – Падыдзе, сапраўды. Дык вы ў норках жытлуеце, га? Файна гучыць, самае тое. А хто ж вас *хобітамі* кліча, га? Не па-эльфску гучыць, аднак. Эльфы прыдумалі ўсе старыя імёны, зь іх жа ўсё й пачалося.

– Аніхто нас хобітамі ня кліча, мы самі сябе гэтак клічам, – давёў Піпін.

– Ху-ум, хмм! Вось штука! Вось і пасьпяшаліся! Самі сябе называеце *хобітамі*? Дык навошта ж такое распавядаць незнаёмцам, га? А то глядзі й сапраўдныя вашыя імёны распаведзяце, гэтак пасьпешліва й неасьцярожна.

– Тут няма чаго сьцерагчыся, – сказаў Мэры. – Калі ўжо такія рэчы, дык я – Бронь-Быч, Мэрыядок Бронь-Быч, хоць большасьць кліча мяне папросту Мэры.

– А я – Хват, Перыгрын Хват, хоць звычайна мяне называюць Піпінам ці нават Піпам.

– Хм, ну вы й пасьпешлівы народзец, – вымавіў Дрэвабарод. – Я ўшанаваны вашым даверам, але ж ня варта вам гэтак сьпяшацца не падумаўшы. Бо, ведаеце, ёсьць энты такія, ёсьць і гэтакія ці, дакладней, ёсьць энты ды рэчы, якія выглядаюць, як энты, але ж зусім ня энты, так бы мовіць. Я буду называць вас Мэры й Піпін, калі дазволіце, – файныя імёны. А сваё я вам не распавяду, тым больш так хутка.

Энт зірнуў дзіўнавата – зь нейкім паўразуменьнем, паўусьмешкаю, якая праблiснула зялёным у вачох.

– Бо, па-першае, доўга давядзецца распавядаць: маё імя расло цягам часу, а цяг майго жыцьця надзвычай доўгі. Так што маё мяно – даўжэзнае, як расповед пра ўсе мае гады. У маёй мове, стараэнцкай па-вашаму, імя само распавядае гісторыю істоты, якой належыць. Файная мова, добрая, але ж патрабуе надта шмат часу, каб нешта давесьці, бо ўсё, што вартае ўвагі, патрабуе доўгага часу, каб распавесьці, дый выслухаць таксама. Аднак цяпер, – тут вочы энта зазьзялі й быццам вярнуліся да рэчаіснасьці, зрабіўшыся, як падалося, меншымі, і позірк іхні стаў амаль што пранізьлівы. – Што тут такое робіцца? І якое вашае месца ва ўсім гэтым? Бо я магу шмат чаго пабачыць, пачуць (дый унюхаць таксама й адчуць), стоячы на гэтай... гэтай *а-лала-лала-румба-каманда-лінд-ор-бурумё*. Прабачце: гэта толькі частка майго для яе назову, бо я ня ведаю яе імя на чужынскіх мовах. Ну, вы разумееце: рэч, на якой мы цяпер ёсьць, дзе я стаю й аглядаю наваколье файнымі раніцамі, думаю пра сонца, траву за лесам, коней, аблокі дый тое, як сусьвет рухаецца. Што ж адбываецца? Што задумаў Гэндальф? І гэныя – *бурарум*, – энт пракакатаў глыбока, нібы трывожна прараўла вялікая дуда, – гэныя оркі й малады Саруман там, у Ізенградку? Навіны мне заўжды даспадобы. Толькі не сьпяшайцеся.

– Шмат чаго адбылося й адбываецца, – паведаміў Мэры. – Таму, нават калі б мы й пасьпяшаліся, спатрэбіцца шмат часу. Але ж вы самі казалі ня гнаць. Дык нашто нам выкладваць усё адразу? Не падумайце, што мы такія ўжо няветлівыя, але ж нам вельмі хочацца ведаць, што вы з намі ўчыніце й на якім вы, умоўна кажучы, баку? І ці ведаеце Гэндальфа?

– Так, ведаю. Адзіны чараўнік, які насамрэч клапоціцца пра дрэвы, – адказаў Дрэвабарод. – А вы яго ведаеце?

– Мы ведалі, – засмуціўся Піпін. – Ён быў нашым добрым сябрам, нашым правадыром.

– Тады я магу адказаць і на астатнія пытаньні, – сказаў энт. – Я не зьбіраюся нічога ўчыняць з вамі, калі вы маеце на ўвазе "ўчыняць нешта бяз вашага на тое дазволу". А вось тыя ці іншыя рэчы мы маглі б учыніць разам. Пра бакі я анічога ня ведаю. Я па-свойму рухаюся ў гэтым сусьвеце, а вы можаце пэўны час рушыць побач з мною. Аднак вы гаворыце пра спадара Гэндальфа так, нібыта ён ужо паданьне мінуўшчыны.

– Так, – пацьвердзіў Піпін з горыччу. – Наш час рухаецца, але Гэндальф, на жаль, ужо ня разам зь ім.

– У-у, як жа гэта? Ху-ум, хм, вох, то бок, дык так вось, – Дрэвабарод прыпыніўся, задуменна паглядаючы на хобітаў. – Хумм, дык я й ня ведаю, што тут сказаць. Ну, што ж далей?

– Калі вы жадаеце, мы распавядзем, – паабяцаў Мэры, – але на тое спатрэбіцца час. Мо вы лепей апусьцілі б нас на зямлю? Мы разам з вамі й пасядзім пад сонейкам, пакуль прыгравае. Напэўна, вы сталіліся нас трымаць?

– Хм, стаміўся? Не, не стаміўся. Мяне стаміць няпроста. І сядаць я не сядаю. Я, гэта, ня надта гнуткі, вось. Але сапраўды, сонца хаваецца. Трэба нам пакінуць гэта... гэтую... як жа вы гэта называеце?

– Гара? – прапанаваў Піпін.

– Паліца? Прыступка? – дадаў Мэры.

Дрэвабарод паўтарыў словы задумліва.

– Так, напэўна ж, гара. Гара. Якое пасьпешлівае слоўца для рэчы, якая тут знаходзілася ад пачатку дзён, калі толькі стварылася гэтая частка сусьвету. Ну, няйстотна. Хадзем, трэба рушыць.

– А куды мы пойдзем? – спытаў Піпін.

– Да маёй хаты ці адной з маіх хатаў, – адказаў Дрэвабарод.

– Ці далёка яна?

– Ня ведаю. Вам, мажліва, падасца далёка. Аднак ці ж тое істотна?

– Ведаеце, мы засталіся зусім бяз нашых пакункаў і рэчаў, – патлумачыў Мэры. – І ежы няшмат...

– О! Хмм! Не турбуйцеся. Такі напой вам дам, што будзеце расьці, зелянець яшчэ доўга. А калі ўжо разьвітаемся, дык я данясу вас да любога краю маёй краіны, куды толькі пажадаеце!

Трымаючы хобітаў асьцярожна й моцна, кожнага на згіне даўжэзнай рукі, Дрэвабарод узьняў спачатку адну нагу, паставіў, тады другую – і вось ужо апынуўся на самым краі скальнай паліцы. Пальцы на ягоных нагах чапляліся за камень, як карані. Пакрысе, асьцярожна сыходзіў уніз крок за крокам, пакуль не сягнуў узножжа.

А тады рушыў доўгімі ўпэўненымі крокамі праз лес, усё глыбей і глыбей, не аддаляючыся ад ракі, упарта караскаючыся па схіле. Шмат дрэваў, падавалася, спала

й не зьвяртала на энта ўвагі, як і на любое іншае стварэньне, калі б яно прайшло міма. А некаторыя ўздрыгвалі, а іншыя ўздымалі галіны над ягонаю галавою, калі набліжаўся. І ўвесь час, пакуль крочыў, энт размаўляў сам з сабою доўгай мэлядычнай плыньню звонкіх гукаў.

Хобіты ж пэўны час маўчалі. Пачуваліся надзіва бясьпечна й утульна, і было пра што паразважаць, чаму падзівіцца. Нарэшце Піпін наважыўся загаварыць зноў.

– Калі ласка, пане Дрэвабародзе, магу я спытацца? Чаму Келебарн папярэдзіў нас пра небясьпеку вашага лесу? Казаў не рызыкаваць, не сувацца сюды, каб не згубіцца безнадзейна.

– Хмм, насамрэч? – пракакатаў Дрэвабарод. – І я мог гэтак параіць, калі б вы абралі іншы шлях. Ня суйся ў лясы Лаўрэліндарэнану. Гэтак эльфы клікалі яго калісьці, а цяпер завуць карацей – Латлорыйн. Можа, і маюць рацыю, бо, напэўна, гэтая зямля не расьце, а гібее. Далінаю Сьпеўнага Золата была яна калісьці, а цяпер – Дрымаквят, сон-трава. Ну, файна. А месца дзівоснае, ня кожны туды патрапіць. Дзіўна, што вы выйшлі адтуль, а яшчэ дзіўней для мяне, што ўвогуле туды патрапілі. Гэткага не здаралася з падарожнікамі шмат-шмат гадоў. Дзівосная зямля, насамрэч. Так, і тут здаралася непрыемнае, сапраўды. Аёй, яшчэ як здаралася. Трaплялі падарожнікі, блукалі дый не выбіраліся. Калі тое было! *...Лаўрэліндарэнан ліндэларэндар малінарнэліян арнэмалін*, – прамармытаў энт сабе пад нос. – Яны там нібы ў мінулым сьвеце засталіся, – дадаў уголас. – Ані гэтая зямля, ані што іншае па-за межамі Залатога лесу ўжо не такое, як у часіну Келебарнавай маладосьці. Аднак па-ранейшаму:

*Таўрэліломея-тумбалеморна Тумбалетаўроя Ломёанор,* –

як калісьці казалі звычайна. Сьвет зьмяніўся, але ж там і тут штось засталося па-ранейшаму.

– Што па-ранейшаму? – спытаў Піпін. – Што гэта значыць?

– Дрэвы й энты, – адказаў Дрэвабарод. – Я сам цалкам не разумею й вам наўрад ці адпаведна распавяду. Некаторыя з нас яшчэ сапраўдныя энты, досыць жвавыя паводле нашых разьлікаў, а шмат хто пасаньнеў, адрэвіўся, так бы мовіць. Большасьць дрэваў – проста дрэвы, вядома, але многія – напалову абуджаныя. Некаторыя абуджаныя цалкам, а зь іх той-сёй, бачце, ужо *энцее*, гэтак вось. І заўжды так адбываецца. А калі такое адбываецца з дрэвам, дык высьвятляецца: асяродак у некаторых чорны. Не, ня ў цьвілі справа, з драўнінай усё ў парадку. Я пра іншае. Ведаў я калісьці старыя добрыя вербы ля Энтуі, шмат гадоў таму. Амаль развальваліся ўжо яны, і асяродак насамрэч выгніў, але ж такія былі лагодныя, ветлівыя, як маладзенькі лісточак. А ў далінах пад гарамі дрэвы ёсьць маладыя й ладныя, але ж дрэнь зьверху данізу. І яно, падаецца, распаўсюджваецца. Калісьці былі небясьпечныя, надта небясьпечныя мясьціны ў гэтым краі. І цяпер яшчэ ёсьць, і там ліха.

– Як у Старой пушчы на поўначы, так? – спытаў Мэры.

– Ну, так, нешта падобнае, але нашмат горшае. Не сумняюся, на поўначы яшчэ застаўся цень Вялікай Цемры, і чорныя ўспаміны ажываюць час ад часу. А ў гэтай зямлі ёсьць глыбокія долы, якія Цемра аніколі не пакідала, і дрэвы там старэйшыя за мяне. Аднак мы робім, што можам. Утрымліваем вандроўнікаў ды неразумных, вучым ды прывучаем, сочым ды лечым. Бо мы – пастухі дрэваў, старыя энты. Няшмат нас засталося цяпер. Кажуць, пастух з статкам робяцца падобнымі. Але ж тое

адбываецца павольна, а ні пастухам, ні статкам звычайна не даецца шмат часу ў гэтым сусьвеце. З энтамі й дрэвамі тое хутчэй, дый побач яны доўгімі стагодзьдзямі. Энты падобныя да эльфаў: не такія зацікаўленыя сабою, як людзі, і разумеюць іншыя стварэньні нашмат лепей. Але ж і да людзей падобныя ў тым, што больш зьменлівыя за эльфаў, хутчэй падладжваюцца пад сьвет, так бы мовіць. Мо нават і лепей за людзей, бо энты ўпартыя й пасьлядоўныя ў намерах і зьдзяйсьненьнях.

– Сёй-той з маіх суродзічаў цяпер зусім нібы дрэва, адно нешта незвычайнае абуджае іх, і прамаўляюць яны толькі шэптам. А некаторыя з маіх дрэваў ужо рухаюць галінамі й размаўляюць з мною. Вядома, усё пачалося з эльфаў, яны абуджалі дрэвы, навучылі размаўляць і спазналі іхнюю гаворку. Гаманіць з усім у сусьвеце – такія былі эльфы спрадвеку. А прыйшла Вялікая Цемра, і яны ўцяклі за мора ці схаваліся ў патаемныя даліны ды склалі песьні пра дні, якія болей аніколі ня вернуцца. Аніколі. Але, але, калісьці адсюль да гор Люйну цягнуўся адзіны лес і Фангарн быў толькі ўсходнім ягоным краем. Вось былі часы прасторы! Тады я мог бадзяжыць, і сьпяваць цэлымі днямі, і чуць у адказ толькі рэха свайго голасу ў долах. І пушча была падобная да лорыйнскага гаю, толькі гусьцейшая, мацнейшая, маладзейшая. А як духмяніла паветра! Тыднямі наўсьцяж я толькі дыхаў і ня мог надыхацца!

Дрэвабарод змоўк, шырока, амаль бязгучна перастаўляючы вялізныя ступакі. Тады зноў пачаў напяваць, і ягонае вуркатаньне паціху гучнела. Паступова хобіты ўцямілі, што ён сьпявае ім:

*Сярод вербаў у лугах Тасарынану ішоў я вясною.*
*О, хараство й водар вясновы ў Нан-Тасарыёне!*
*І казаў я: добра тое было!*
*Вандраваў я ўлетку па вязавым лесе Асырыянду.*
*О, сьвятло й летнія сьпевы Сямірэчча Асыру!*
*І думаў я: найлепш тое было!*
*Да нэлдарэцкіх бярозаў прыходзіў я ўвосень.*
*О, золата, барва йуздыхі лістоты ўвосень на Таўр-на-нэлдары!*
*І больш, чым сэрца маё жадала, тое было!*
*Да соснаў высокіх Дартаніёну я падымаўся ўзімку.*
*О, вецер і белая коўдра на чорных зімы галінах у Орад-на-Тоне!*
*Высока ўзьнімаўся мой голас і ў нябёсах плынеў.*
*А цяпер хвалі бягуць над усёю гэтай зямлёю,*
*І я крочу сумна па Амбароне, у Таўрэморна, у Альдаломе,*
*Па ўласнай свай зямлі, па Фангарне краю,*
*Дзе карані даўжэйшыя за гады,*
*І гады леглі шчыльней ад палага лісьця*
*У Таўрэмарналомё.*

Ён скончыў сьпяваць і ішоў моўчкі, і ва ўсім лесе, куды толькі сягаў слых, панавала бязгучча.

Сутонела, змрок абгортваў ствалы дрэваў. Нарэшце хобіты пабачылі, як наперадзе ўздымаецца стромы цьмяны схіл – сягнулі ўзножжа гары, зялёных каранёў волата Мэтэдрасу. Па схіле скакала ад далёкіх вышынных крыніцаў маладая Энтуя, гаманіла на каменных сходах. Праваруч ад струменю падымаўся доўгі пагорак,

зарослы травой, шэрай у вечаровым паўзмроку. Дрэвы на ім не расьлі. Ён ляжаў адкрыты нябёсам, а ў азёрах-прарэхах між хмарамі ўжо міргалі зарчаняты.

Дрэвабарод рушыў па схіле нават не запаволіўшы кроку. Зьнянацку хобіты пабачылі перад сабою шырокі праход. Два вялізныя дрэвы стаялі пааберуч яго жывымі брамавымі слупамі, але аніякай брамы не было, апрача аркі іхніх пераплеценых, перакрыжаваных сукоў. Калі стары энт наблізіўся, дрэвы ўзьнялі галіны й лісты на іх затрапяталі й зашамацелі. Бо тое былі вечназялёныя дрэвы, і лісты іхнія – цьмяныя, глянцавыя – адблісквалі ў вечаровым сьвятле. За імі адкрывалася шырокая роўная прастора, быццам вялізная заля бяз даху, вычасаная ў схіле гары. З кожнага боку скальныя сьцены ўздымаліся, пакуль не сягалі вышыні з паўсотню ступакоў або нават болей, і ўздоўж кожнай сьцяны цягнуўся шэраг дрэваў, якія таксама рабіліся вышэйшымі, чым больш аддаляліся ад уваходу.

Дальні край залі замыкаўся стромым скальным адхонам, але ўнізе цямнела нешта накшталт неглыбокага гроту, і скала навісала над ім аркай – адзінай стольлю, калі не лічыць галінаў. Тыя ж паблізу гроту цалкам зацянялі залю, пакідаючы толькі сьцягу пасярэдзіне. Маленькая ручаіна адгаліноўвалася ад струменю, які зьбягаў па схіле побач і спадаў, пазвоньваючы на адхоне, высочваўся срэбнымі кроплямі – выкшталцонай завесаю перад гротам. Вада зьбіралася ў каменнае азерца між дрэвамі, а адтуль выбягала струменьчыкам, перавальвалася праз верх і бегла ўздоўж сьцежкі, каб далей далучыцца зноў да Энтуі на шляху праз лес.

– Хмм, дайшлі! – абвесьціў Дрэвабарод, парушаючы доўгае маўчаньне. – Пранёс я вас прыблізна семдзесят тысячаў энцкіх крокаў, але колькі тое будзе паводле вымярэньняў вашых земляў, ня ведаю. Гэтак ці інакш, мы цяпер з вамі ля каранiскаў Апошняй гары. Частка імя гэтай мясьціны, калі перакласьці на вашую мову, – Крынічная заля. Мне яна даспадобы. Тут мы й застанемся на ноч.

Спусьціў хобітаў на траву паміж шэрагамі дрэваў, і малыя пабеглі за ім да аркі гроту. Хобіты толькі цяпер заўважылі, што крочыў энт амаль не згінаючы каленяў, але надта шырока. Найперш кранаў зямлю вялікімі пальцамі (пенцюхі й насамрэч былі надта вялікія й шырокія), абапіраўся на іх, а тады ставіў і ступак цалкам.

Дрэвабарод хвіліну пастаяў пад дожджыкам крынічных кропляў ля ўваходу. Удыхнуў глыбока, а тады засьмяяўся й рушыў усярэдзіну. Там стаяў вялізны каменны стол, і аніякіх крэслаў побач. Дальні край гроту зьнікаў у цемры. Дрэвабарод падняў два высокія каменныя келіхі й паставіў на стол. Тыя келіхі напаўняла вада. Але энт правёў над імі рукой – і вада адразу засьвяцілася ў адным келіху залатым, у другім сакавітым зялёным сьвятлом; зьмяшаўшыся, сьвятло заліло грот, нібы летняе сонейка зайграла праз вэлюм маладога лісьця. Азірнуўшыся, хобіты пабачылі, што дрэвы ў залі таксама засьвяціліся – спачатку слаба, а тады ўсё зырчэй, пакуль краі кожнага лісточка не зазьзялі: той зелянявым, той залатым, а іншыя медна-чырвоным, ствалы ж выглядалі, як калёны зь сьветланоснага каменю.

– Цяпер можна й пагаманіць, – абвесьціў Дрэвабарод. – Сасьмяглі, напэўна? Дый стаміліся таксама. Зараз прынясу пітво!

Рушыў да дальняй сьцяны гроту, да некалькіх высокіх каменных скрыняў зь цяжкімі накрыўкамі. Зьняў адну, зачэрпнуў з скрыні глыбокім апалонікам і разьліў напой у тры куфлі – два маленькія й адзін вялізны.

– Гэта энцкае жытло, і крэслаў ці лаваў, на жаль, тут няма. Але вы можаце сядзець на стале.

Падхапіў хобітаў ды пасадзіў на стол, за шэсьць ступнёў над зямлёю, і там яны матлялі нагамі ў паветры й пацягвалі напой з куфляў.

Пітво смакам было падобнае да звычайнай вады, той самай вады Энтуі на ўзьлеску, якой надоечы наталялі смагу. Але ж прысутнічаў нейкі невыказны смак ці водар – слабы, ён нагадваў пах далёкага лесу, прынесены халодным начным ветрам. Напой разьліўся па целе – і ад пальцаў на нагах уверх, да самых кончыкаў валосься пацякло пачуцьцё ажыўленьня й бадзёрасьці. Насамрэч, хобіты адчулі, як валасы на галовах прыўзьняліся, заварушыліся, закучаравіліся, вырастаючы. Дрэвабарод спачатку вымыў ногі ў азерцы за аркаю, а тады выжлукціў свой куфаль адным доўгім, павольным глытком. Хобіты думалі: аніколі ня скончыць піць.

Урэшце паставіў куфаль на стол.

– Во-ох, – уздыхнуў задаволена. – Хмм, ху-умм, цяпер лягчэй размаўляць. Вы на падлозе прысядзьце, а я прылягу, каб пітво не дайшло мне да галавы. Бо тады засну.

З правага боку гроту стаяў вялізны ложак на нізкіх ножках, не вышэй за пару ступнёў, пакрыты тоўстым грудам сухой травы й папараці. Дрэвабарод павольна й асьцярожна апусьціў сябе туды (толькі ледзь прыкметна сагнуўшыся ў поясе) і лёг, склаўшы рукі за галавою, паглядаючы на столь, дзе праблісквалі белыя блікі, нібы адбіткі летняга сонца на гладкім лісьці. Мэры й Піпін паселі побач на падушках з травы.

– Дык распавядайце, што маеце, і не сьпяшайцеся! – загадаў Дрэвабарод.

І хобіты пачалі расповед пра ўсе свае авантуры з таго часу, як пакінулі Хобіцак. Гісторыя атрымалася ня надта ладная, бо апавядальнікі штохвіліны перабівалі адзін аднаго, дый Дрэвабарод часьцяком прасіў вярнуцца крыху назад ці скокнуць наперад, пытаючыся пра пазьнейшыя падзеі. Хобіты пра пярсьцёнак не сказалі нічога, як і пра тое, навошта выправіліся ў вандроўку й куды кіраваліся, а энт і не пытаўся.

А ўсім астатнім цікавіўся вельмі: і Чорнымі Вершнікамі, і Эльрандам, і Долым Ярам, і Старой пушчай, і Томам Бамбадзілам, і Морыяй, і Латлорыйнам, і Галадрыельлю. Прымусіў зноў і зноў апісваць шырскія мясьціны. І спытаў дзівосную рэч:

– Вы там часам, хм, энтаў ня бачылі, не? Ну, ня энтаў. Энтавак, калі ўжо дакладней.

– Энтавак? – паўтарыў Піпін. – Ці падобныя яны да вас хоць бы крыху?

– Хм, так... ці не: мне цяпер сказаць цяжка, – задумаўся Дрэвабарод. – Падаецца мне, ім спадабалася б вашая краіна.

Дрэвабарода надта цікавіла ўсё што да Гэндальфа, найвялікшую цікавасьць выклікалі зьвесткі пра Сарумана й ягоныя дзеі. Хобіты пашкадавалі, што ведалі гэтак мала пра іх – толькі зь няўцямнага Сэмавага расповеду-пераказу таго, што казаў Радзе Гэндальф. Але ж сумневу не было: Углук з бандаю зьявіліся зь Ізенградку й казалі пра Сарумана як пра свайго гаспадара.

– Хмм, ху-ум! Файна, файна! – прагуў Дрэвабарод, калі хобіцкі расповед нарэшце прыблукаў доўгім і пятлястым шляхам да бітвы оркаў зь вершнікамі Рохану. – Ну й куча навінаў, навіны дык навіны! І колькі ж вы мне не распавялі, вох, шмат чаго не распавялі. Не сумняюся: гэтак Гэндальф і загадваў вам калісьці – не балбатаць. Бачу: нешта надта вялікае рухаецца. Можа, і вызнаю пра тое ў свой час, добры ці ліхі. Ох, гальлё-караніскі, знаходзіцца малы народзец, якога няма ў старым сьпісе стварэньняў, і – пабач ты! – дзевяцёра пазабытых вершнікаў-прывідаў зноў тутака, каб гнацца за малымі, Гэндальф бярэ малых з сабою ў вялікае падарожжа,

Галадрыель дапускае іх у Карас Галадхан, оркі бягуць за імі праз усё Дзіказем'е. Анягож, у вялікую ж буру вы патрапілі! Спадзяюся, вы яе здужыце.

– А як ваша? – спытаў Мэры.

– Ху-умм, хм, мяне гэныя Вялікія Войны ня тычацца, – адказаў Дрэвабарод. – Гэта справа эльфава ды людзкая. Справа чараўнікоў: тыя заўсёды турбуюцца пра будучыню. А мне чаго клапаціцца? Я аніколі цалкам не на чыім баку, таму што ніхто цалкам на маім, калі вы мяне разумееце. Бо ніхто цяпер не клапоціцца пра лес гэтак, як я, нават цяперашнія эльфы. Аднак да эльфаў я стаўлюся лепей, чым да каго: калісьці эльфы абудзілі нас ад нематы, і на гэты вялікі падарунак нельга забыцца, хоць нашыя шляхі й разышліся з тых часоў. І ёсьць, вядома, тыя, на чыім баку я ані ў якой ступені: гэныя *бурарум*, – энт зноў пpаракатаў глыбока й абурана, – гэныя оркі й іхнія гаспадары. Я занепакоіўся, калі Ліхалесьсе азмрочылася. Калі ж цень сышоў да Мордару, уздыхнуў з палёгкаю, бо Мордар далёка. Адылі, падаецца, вецер дзьме з усходу й набліжаецца час вынішчэньня лясоў. Тут ужо старому энту анічога не зрабіць, каб адхіліць тую навалу: ці вытрываць, ці зламацца. Але ж Саруман, ён жа найбліжэйшы сусед! На яго хочаш ня хочаш, а зьвернеш увагу. Нешта трэба рабіць. Я часьцяком разважаў апошнім часам, што рабіць з Саруманам.

– Хто ж такі Саруман? – спытаў Мэры. – Ці вы ведаеце што пра яго?

– Ён чараўнік. А болей ня ведаю. Я ў гісторыі чараўнікоў не абазнаны. Зьявіліся яны, калі Вялікія караблі прыплылі з-за мора. Ці тыя караблі прынесьлі іх, ці не – мне невядома. Саруман лічыўся найвялікшым між імі. Пэўны час таму – паводле вашага адліку, даўнютка – ён перастаў бадзяжыць ды совацца ў людзкія й эльфавы справы й пасяліўся ў Ангрэнасьце, ці Ізенградку, як клічуць яго людзі Рохану. Спачатку быў такі ціхі, а слава ягоная ўсё расла. Яго абралі ачольцам Белай Рады, так казалі, але ж тое абярнулася ліхам. Цікава, ці не тады пачаў ён і сваё шкодніцтва. Але ж суседзям клопатаў не чыніў, не. Я часьцяком размаўляў зь ім. Быў час, калі ён любіў шпацыраваць па маім лесе. Быў заўжды ветлівы, прасіў у мяне дазволу (вядома, калі сустракаў мяне), слухаў з ахвотай. Шмат я распавёў яму, чаго ён сам аніколі не знайшоў бы, а ён мне, як цяпер згадваю, – нічога. І сам усё болей замыкаўся. Прыгадваецца цяпер – хоць я яго ўжо даўно ня бачыў, – твар ягоны стаў падобны на вакно ў муры – самотнае, зачыненае знутры.

Цяпер мне зразумела, што ў яго ў галаве. Хітруе, хоча моцным зрабіцца, уладаром. Розум ягоны – нібы з рычагоў ды мэталёвых колаў, а да жывога й зялёнага клопату яму няма, хіба што пакарыстацца хвіліну. Цяпер цалкам ясна: ён здраднік, чорны агідны здраднік. Зь мярзотай павёўся, з оркамі! Бррм, хумм! Горш за тое: нешта ён зь імі робіць, нешта няправільнае. Бо вашыя захопнікі болей падобныя да злосных людзей, чым да оркаў. Прыкмета ўсялякага ліха, што нарадзілася падчас Вялікай Цемры, – яно не выносіць сонца, але ж Саруманавы оркі прыцярпеліся, хоць і ненавідзяць яго. Што ж Саруман вычварыў? Ці гэтак папсаваў людзей, ці памяшаў людзей з оркамі? Вось жа найчарнейшае ліха!

Дрэвабарод бурчэў пэўны час, быццам клянучы Сарумана нейкім глыбокім, падземным, пракавечным энцкім праклёнам.

– Колькі часу таму я дзівіўся: чаго оркі гэтак дзёрзка пнуцца праз мой лес? Толькі апошнімі днямі высьветліў: тое Саруманава віна, здаўна ён выведваў шляхі ды сьцежкі, вынюхваў мае таямніцы. А цяпер з сваімі злыднямі чыніць гвалт. На ўзьлесках загубілі колькі дрэваў – добрых дрэваў. Некаторых проста павалілі й пакінулі гнісьці – брыдкая аркава звычка, – але большасьць пасеклі й зьнесьлі ў Ізенградак, у тамтэйшыя печы. Цяпер над Ізенградкам заўсёды слупы дыму. Вох,

сукі-каранiскi, трасца на яго! Там загiнула столькi маiх сяброў, я ведаў iх ад жалуда, ад насеньнейка. Шмат хто й абуджаны, меў адметны голас – i яны загубленыя назаўсёды. Пусткi з пнямi й цернем цяпер на месцы сьпеўных, ладных гаёў. Не, надта доўга я цярпеў. Запусьцiў усё. Цяпер – час адказу!

Дрэвабарод, iрвануўшыся, узьняўся з ложка й пляснуў даланёю па стале. Келiхi зь сьветлазарнай вадкасьцю ўздрыгнулi, выкiнулi ўгару струмянi палымянага сьвятла. I ў вачох энта блiснула зялёнае полымя, а барада ўстапырылася.

– Я гэта ўсё спыню! – загрукатаў ён. – А вы пойдзеце з мною. Мо й дапаможаце. I сваiм сябрам паспрыяеце гэткiм чынам, бо калi Сарумана не спынiць, дык у Рохану з Гондарам ворагi будуць i наперадзе, i ззаду. Цяпер наш шлях разам – на Iзенградак!

– Мы з вамi, – пацьвердзiў Мэры. – Зробiм, што здолеем.

– Так! Хацелася б пабачыць, як гэную Белую Руку разьнясуць ушчэнт! – выклiкнуў Пiпiн. – Я пайду, нават калi зь мяне ня будзе там анiякай карысьцi: анiколi я не забудуся на Ўглука й дарогу праз Рохан.

– Файна, файна! – адгукнуўся Дрэвабарод. – Але ж я прамовiў пасьпешлiва. А сьпяшацца ня трэба. Раззлаваўся я. А трэба прахаладзiцца, спакойна памеркаваць. Бо ж лягчэй гукаць "*Спыню, спыню*!", чымся зрабiць крок.

З тым падышоў да аркi ўваходу й прастаяў колькi часу пад кропельнаю завесаю. Тады засьмяяўся, атросься, i кроплi вады з блiшчынкамi зьляцелi зь яго на падлогу, зазiхацелi чырвонымi й зялёнымi яскраўкамi. Тады вярнуўся, лёг на ложак зноў i змоўк.

Неўзабаве хобiты пачулi, як ён знову замармытаў. Падавалася, лiчыў на пальцах.

– Фангарн, Фiнглас, Фладрыф, так, так, – энт уздыхнуў, – бяда, няшмат нас засталося, – павярнуўся да хобiтаў. – Толькi тры з тых, што крочылi па лясох да Вялiкай Цемры: я, Фангарн ды шчэ Фiнглас з Фладрыфам – гэта калi па-эльфску называць, а па-вашаму, калi хочаце iх так клiкаць, Лiстун з Караскурам. Прычым ад Лiстуна з Караскурам амаль няма карысьцi. Лiстун прыспаў, амаль адрэвiўся, так бы мовiць. Стаiць сам сабе ўсё лета, i трава лугавая навокал ажно па калена. Увесь зарос валасамi-лiстамi. Звычайна ўзiмку прачынаўся, але апошнiм часам быў надта сонны, каб рухацца. А Караскур жыў на схiлах на захад ад Iзенградку. Там сталася найгорш. Яго паранiлi оркi, пазабiвалi й панiшчылi шмат радзiны й дрэваў. I ён сышоў высока ў горы, жыве сярод сваiх найулюбёнейшых бярозак i ўнiз ужо ня спусьцiцца. Аднак, мяркую, я мог бы сабраць якiх маладзейшых, калi б толькi здолеў пераканаць iх, растлумачыць патрэбу й узьняць. Бо мы – зусiм не пасьпешлiвае племя. Як шкада, што нас так мала!

– А чаму ж мала, калi вы столькi часу жывяце тут? – спытаў Пiпiн. – Многiя памерлi?

– Не, не! Анiхто знутры не памёр, як вы сказалi б. Зь некаторымi здаралася якое лiха, усё бывае цягам доўгiх гадоў. Большасьць адрэвiлiся. Але ж нас анiколi не было шмат, i колькасьць нашая не павялiчваецца. Бо ў нас няма энцянятаў – малых, па-васкаму, – даўно, надзвычай даўно. То ж бо, гляньце, энтавак з намi няма.

– Як сумна! – выклiкнуў Пiпiн. – А як жа гэта яны ўсе загiнулi?

– Яны не загiнулi! Я не казаў: памерлi. Яны згубiлiся, сышлi ад нас. А мы ня здолелi iх знайсьцi. Калiсьцi шмат песьняў сьпявалi й эльфы, i людзi ад Гондару да Лiхалесься пра тое, як энты шукалi энтавак. Ня можа быць, каб на iх цалкам забылiся.

– Баюся, тыя песьнi не дабралiся праз горы да Шыру, – сказаў Мэры. – Мо вы нам распаведзяце болей цi прасьпяваеце якую песьню?

– Так, чаму ж не распавесьці, чаму не сьпяяць? – пагадзіўся Дрэвабарод, відавочна задаволены просьбай. – Але ж адпаведна распавесьці ня здолею, толькі коратка, бо раніцою мушу склікаць раду, і выконваць шмат працы, і, мажліва, пачаць нашае падарожжа.

– Дзівосная й сумная гэтая гісторыя, – пачаў энт, крыху падумаўшы. – Калі сусьвет быў малады й лясы стаялі паўсюль, дзікія й неабсяжныя, тады энты й энтаўкі жылі разам і разам працавалі. Ах, і маладзіцы, і дзяўчаты гулялі тады! Якая прыгожая была мая Фімбрэтыль, Галіначка мая легканогая, у дні маладосьці! Але ў сэрцах нашых па-рознаму расла любоў да жывога: бо энты любілі тое, што сустракалі ў сьвеце, дзікія, вольныя рэчы, а энтаўкі – зусім інакшыя. Энты любілі вялікія дрэвы, дзікія лясы, схілы высокіх гор, пілі з горных струменяў, а елі толькі паданкі, насыпаныя дрэвамі да іх ног. Энты перанялі навучэньне ад эльфаў і размаўлялі з дрэвамі. А энтавіцы болей упадабалі малыя дрэвы, сонечныя лужкі за ўзьлескамі, замілоўваліся цёрнам у гушчары, дзікімі яблыкамі й вішнямі ў веснавой квецені, зеленатраўем на летніх панізьзях ды ўрадлівай восеньскаю травою, якая сыпле буйным дасьпелым насеньнем. З гэтымі рэчамі яны не размаўлялі. Хацелі толькі, каб тыя слухалі іх і выконвалі загаданае. А загадвалі ім – расьці, як энтаўкам хацелася, ды пладнець, бо энтавіцы любілі парадак, заможнасьць і спакой (а пад ім разумелі, што ўсё павінна заставацца менавіта такім, як яны ўладкавалі). Таму энтавіцы зрабілі сабе сады дый жылі ў іх. А мы, энты, бадзяжылі й толькі зрэдку наведвалі іхнія сады. Потым на поўнач абрынулася Цемра, энтаўкі перайшлі Вялікую раку, і зладзілі сады там, і абаралі новыя палі... а мы бачыліся шчэ радзей. Калі Цемру адолелі, зямля энтавак буйна расквітнела, іхнія палі поўніліся зернем. Шмат хто зь людзей вучыўся ў энтавіц, і шмат было ім пашаны, а мы зрабіліся паданьнямі, змрочнай таямніцай лясных гушчароў. Але ж тут мы й засталіся, а ўсе сады энтавіц ужо спустэчаныя. Людзі клічуць іх цяпер Бурыя землі.

Памятаю: даўно гэта было, калі Людзі Мора ваявалі з Саўронам. Тады захацелася мне зноў пабачыць маю Фімбрэтыль. Найпрыгажэйшая была яна ў маіх вачох, хоць, калі мы бачыліся апошні раз, няшмат засталося ў ёй ад энцкай дзяўчыны мінулых дзён. Бо энтавак пахіліла цяжкая праца, папаліла сонца. Валасы сонца выпаліла да адценьня сьпелага збожжа, а шчокі пафарбавала, рыхтык чырвоныя яблыкі. Аднак вочы заставаліся такія самыя, вочы нашага племені. Мы перайшлі Андуйн і крочылі да іхніх земляў... а знайшлі пустэчу. Усё была папаленае, скарчаванае, бо вайна пракацілася й тут. Доўга гукалі мы, доўга шукалі. Распытвалі ўсіх стрэчных: куды падзеліся энтаўкі? Адны казалі, што аніколі ня бачылі іх, другія бачылі, як яны сыходзяць на поўдзень, трэція – на ўсход ці на захад. Але нідзе мы іх не адшукалі. Мы гаравалі. Аднак дзікія лясы клікалі нас, і мы вярнуліся. Доўгія гады мы зноў і зноў выходзілі зь лесу, і шукалі энтавак, і выгуквалі іхнія прыгожыя імёны. Час ішоў і мы выходзілі радзей, і адыходзілі ня так далёка. Цяпер энтавіцы для нас – толькі ўспамін, і бароды нашыя падаўжэлі й пасівелі. Эльфы стварылі шмат песьняў пра энтавы пошукі. Некаторыя зь іх перакладзеныя й на людзкія мовы. А мы самі ня склалі песьняў, мы адно выпяваем цудоўныя імёны нашых любых, згадваючы іх. Мы верым: надыдзе час нашай сустрэчы. Магчыма, мы знойдзем зямлю, дзе здолеем жыць разам у спакоі ды згодзе. Але прадказана, што тое адбудзецца, толькі калі й мы, і энтавіцы страцім усё, што ў нас ёсьць. Мо той час ужо наблізіўся. Саўрон колішні вынішчаў сады, а цяперашні вораг імкнецца пагубіць усе лясы.

Ёсьць пра гэта эльфская песьня – ці гэтак я зразумеў яе. Калісьці яе сьпявалі ў даліне Вялікай ракі. Песьня зусім ня энтавая, кажу вам, энтавая й на энтавай мове была б надта доўгая! Але мы ўсе ведаем яе сэрцам і раз-пораз напяваем сабе пад нос. Вось як яна гучыць на вашай мове.

***Энт:*** *Калі вясна разгарне маладыя лісткі й сок зайграе ў ствалах,*
*Калі сонца заплешча ў лясным струмяні, а вецер – у валасах,*
*Калі подых глыбокі, шырокі крок і ў паветры вясновы гуд,*
*Прыходзь да мяне, вяртайся ка мне, скажы: зямля мая – цуд!*

***Энтаўка:*** *Калі прыйдзе вясна да нашых палёў і збожжа праз глебу памкне,*
*Калі сад бялюткі зіхоткі ўбор ды кветак красу апране,*
*Калі сонца лашчыць, кунежыць дождж, паўсюль водар вясновы тут,*
*Не прыйду да цябе, не вярнуся к табе, бо краіна мая – цуд!*

***Энт:*** *Калі лета прыходзіць і над зямлёй дзень паўстае залаты,*
*Калі пракавечныя дрэваў сны засьцерагаюць лісты,*
*Калі прахалода ў прасторах лясных, калі вецер люляе іх,*
*Прыходзь да мяне, вяртайся ка мне, бо край мой лепшы за ўсіх!*

***Энтаўка:*** *Калі сонца дасьпелы сагрэе плод і суніцы барвай налье,*
*Калі добрае збожжа сьцяной залатой на ўрадлівых палях паўстае,*
*Калі яблык чырвоны й бурштынавы мёд у сотах ляжыць залатых,*
*Пад сонцам добрым застануся тут, бо край мой лепшы за ўсіх!*

***Энт:*** *Калі прыйдзе зіма, ліхая зіма, каб панішчыць навек лясы,*
*Калі дрэвы загінуць і чорная ноч іх паглыне галасы,*
*Калі вецер з усходу прыйдзе ліхі, завіруха атруціць кроў,*
*Я паклічу цябе, адшукаю цябе, тады сустрэнемся зноў!*

***Энтаўка:*** *Калі сьпевы заглушыць ліхая зіма і прыйдзе цень да зямлі,*
*Калі зломяць гальлё, аголяць сады ды пустэчай зробяць палі,*
*Я паклічу цябе, я счакаю цябе, тады сустрэнемся зноў!*
*Разам крочым пад чорным страшным дажджом да чужых берагоў!*

***Абое:*** *Разам крочым па доўгіх страшных шляхах да заходніх дальніх краёў,*
*Каб радасьць сваю адшукаць ізноў між заморскіх дзівосных лясоў.*

Дрэвабарод дасьпяваў. Тады вымавіў:

– Вось як яно. Эльфаў сьпеў, вядома, хуткаслоўны, легкадумны, толькі пачалося – і ўсё табе. Прыгожа, так, тое не аспрэчыш. Але ж энты значна болей маглі б сказаць з свайго боку, каб толькі мелі час!.. Хм, цяпер я, аднак, пайду-ткі ўстану й крыху пасплю. А вы дзе паўстанеце?

– Мы звычайна кладземся, каб спаць, – патлумачыў Мэры. – Нам вось тут файна.

– Кладзецеся, каб паспаць!.. Ну, вядома ж. Хм, ху-умм, я ўжо й падзабыўся. Сьпяваў, згадаў былыя часы, амаль і ўявіў сабе, што размаўляю з малымі, з маладымі энцянятамі. Ну, дык кладзіцеся на ложку, а я пастаю пад кроплямі. Дабранач!

Мэры зь Піпінам ускараскаліся на ложак і леглі, скур чыўшыся на мяккай траве й папараці. Сьвежая й цёплая трава соладка патыхала. Сьвятло паціху згасла, і дрэвы не зіхацелі, але ж відаць быў стары Дрэвабарод пад аркаю, нерухомы, з узьнятымі рукамі над галавою. У нябёсах вызірнулі зоры, асьвятляючы струменьчыкі вады на ягоных пальцах і галаве. Вада сотнямі срэбных звонкіх кропляў падала да ягоных ног. Слухаючы перазвон кропляў, хобіты й пазасыналі.

Прачнуліся, калі нязыркае сонца ўжо асьвятліла вялікі двор і нават падлогу гроту. Абрыўкі высокіх аблокаў луналі ў нябёсах, несьліся з суворым усходнім ветрам. Дрэвабарод некуды зьнік. Калі Мэры зь Піпінам умываліся ў азерцы ля аркі, пачулі сьпевы й муркатаньне, і неўзабаве ён зьявіўся на сьцежцы паміж дрэваў.

– Ху-у, хо! Добрай раніцы, Мэры й Піпін! – завухаў ён, пабачыўшы іх. – Доўга ж вы спалі. Я ўжо шмат сотняў крокаў адмерыў сёньня. Цяпер нап'емся – і на Энтараду.

Наліў ім два паўнюткія куфлі з каменнай скрыні – не з ранейшай, зь іншай. І смак быў ня той, што ўвечары: нейкі больш глыбокі, багаты, мацавальны, падобны да ежы. Пакуль хобіты пілі, седзячы на краі ложка ды адшчыкваючы кавалачкі эльфавага хлеба (не таму, што згаладнелі, а праз звычку – нешта ж цьвёрдае трэба на сьняданак!), Дрэвабарод стаяў, напяваючы пад нос штосьці на эльфавай ці энтавай мове, а мо іншай чужынскай і дзівоснай, ды пазіраў на нябёсы.

– І дзе гэная Энтарада? – адважыўся спытаць Піпін.

– Ху-у, га? Энтарада? – азірнуўся Дрэвабарод. – Не, гэта ня месца, гэта збор энтаў – ня тое каб частая падзея. Але я здолеў шмат каго паклікаць, шмат хто абяцаў прыйсьці. Сустрэнемся там, дзе й заўжды: Глухі лог, як называюць яго людзі. На поўдзень адсюль. Мы мусім трапіць туды да полудня.

Неўзабаве й рушылі. Дрэвабарод нёс хобітаў на згінах рук, як і напярэдадні. Выйшаўшы з горнай залі, павярнуў направа, праз раку й на поўдзень уздоўдж падэшваў вялізных, стромых, расьсечаных трэшчынамі схілаў. На іх дрэваў было небагата. Хобіты прыкмецілі купкі бярозаў ды рабіны, а вышэй караскаўся па схілах змрочны сасьняк. Неўзабаве энт пакінуў узножжа гор і скіраваўся ўглыбіню лесу, дзе дрэвы расьлі вялізьнейшыя, таўсьцейшыя й высачэйшыя за ўсе, бачаныя хобітамі раней. Сябры адчулі, што дыхаць цяжка, як і ў першы дзень, калі патрапілі ў Фангарн, але тое хутка мінула. Дрэвабарод болей не размаўляў зь імі. Мармытаў сабе пад нос, вуркатаў задумліва, але хобіты словаў не разьбіралі: гучала нешта накшталт "*бумм, бумм, румм-бумм, бурар, бумм, бумм, дахрар бумм, бумм, дахрар бумм*" і да таго падобнае, то вышэй, то ніжэй, і рытм увесь час зьмяняўся. Раз-пораз, падавалася, чулі нешта ў адказ: муркатаньне ці дрыжыкі паветра, якія быццам сыходзілі з самой зямлі ці з дрэвавых ствалоў. Дрэвабарод жа не прыпыняўся й нават не паварочваў галавы, каб зірнуць убок.

Ішлі доўга. Піпін спрабаваў падлічваць "энтавы крокі", але зьбіўся на трох тысячах, якраз калі Дрэвабарод крыху запаволіўся. Раптам спыніўся, апусьціў хобітаў на зямлю й прыклаў далоні да роту, сагнуўшы, каб утварыць дудку, і моцна падзьмуў-паклікаў. Гучнае "*ху-умм, хомм*" пакацілася, як глыбокі роў рога па лесе, і, падалося, адбілася рэхам ад дрэваў. Здалёк зь некалькіх бакоў данеслася падобнае "*ху-умм, хомм*" – ня рэха, а адказ.

Дрэвабарод пасадзіў хобітаў на плечы й зноўку пайшоў, раз-пораз выдзьмуваючы новыя заклікі, і штоpазу адказы чуліся гучней і бліжэй. Так і дабраліся нарэшце да шчыльнай, на першы позірк непралазнай сьцяны цёмных вечназялёных дрэваў. Хобіты аніколі гэткіх ня бачылі – іхнія галіны, што разыходзіліся проста ад

зямлі, пакрывала бліскучае цёмнае лісьце, як у падубаў, а між лісьця тырчала мноства атожылкаў зь вялікімі бліскучымі сьветла-зялёнымі бутонамі.

Павярнуўшы налева, каб абысьці вялізарную жывую агароджу, празь некалькі крокаў Дрэвабарод сягнуў вузкага праходу. Празь яго вяла набітая сьцяжына, якая раптоўна нырала ўніз па стромым схіле. Хобіты пабачылі, што спускаюцца ў вялікую лагавіну – круглую, як міса, шырачэзную й глыбокую, абгароджаную наверсе па ўскрайку шэрагам вечназялёных дрэваў. Унутры яна зарасла травою, але ня дрэвамі – толькі тры высокія, чароўна прыгожыя срэбныя бярозы стаялі пасярэдзіне. Яшчэ дзьве сьцяжыны вялі ў лагавіну з усходу й захаду.

Колькі энтаў ужо былі тут. І яшчэ спускаліся па сьцежках, некаторыя ўвасьлед за Дрэвабародам. Калі наблізіліся, хобіты вельмі зьдзівіліся. Чакалі стварэньняў, падобных да Дрэвабарода, як адзін хобіт падаецца падобным да другога (ва ўсялякім выпадку, для чужынскіх вачэй). І вось нечаканка: энты розьніліся, як дрэвы, некаторыя – як дрэвы той самай пароды, але выраслыя па-рознаму й у розных месцах, некаторыя – як дрэвы розныхародаў, як бяроза й бук ці дуб і елка. Было некалькі старых энтаў, барадатых і каравых, нібы моцныя старажытныя дрэвы (хоць аніхто не выглядаў гэткім старым, як Дрэвабарод). Былі й высокія моцныя энты, чыстарукія, гладкаскурыя, быццам лясныя дрэвы ў самым росквіце, але не было маладзёнаў, малых энцянятаў. Сабраліся на прасторнай травяністай падлозе лагавіны ўжо тузіны два, і столькі сама спускаліся.

Спачатку Мэры й Піпіна ўразіла разнастайнасьць формаў і фарбаў, рознасьць таўшчыні й вышыні, даўжыні рук і ног, колькасьць пальцаў на іх (колькі заўгодна ад трох да дзевяці). Некаторыя падаваліся суродзічамі Дрэвабарода, рыхтык букі ці дубы. Былі й іншыя пароды. Некаторыя нагадвалі каштаны: бураскурыя энты зь вялікімі рукамі, растапыранымі пальцамі, кароткімі тоўстымі нагамі. Некаторыя былі падобныя да асінаў: высокія, прамыя, шэрыя энты з шматпалымі рукамі й доўгімі нагамі. Якія нагадвалі елкі (найвышэйшыя з энтаў), якія – бярозы, ці рабіны, ці ліпы. Але калі энты пасабраліся вакол Дрэвабарода, нахіліўшы крыху галовы, мармычучы павольнымі мэлядычнымі галасамі й пазіраючы доўга й запытальна на чужынцаў, тады хобіты й уцямілі: усе яны адна кравіна, ва ўсіх тыя самыя вочы, хоць і не такія глыбокія й старыя, як Дрэвабародавы, але з тым самым павольным, уцятым, памяркоўным выразам і гэткімі самымі зялёнымі яскраўкамі-блішчынкамі.

Як толькі ўся суполка сабралася, пастаўшы шырокім колам вакол Дрэвабарода, пачалася цікавая й амаль незразумелая гутарка. Энты павольна мармыталі. Адзін спачатку, тады – другі й трэці, пакуль не замармыталі ўсе разам доўгім зьменлівым рытмам – то гучней з аднога боку кола, з другога, то цішэй, то ледзь не выбухаючы. Хоць Піпін ані слоўца не разьбіраў, не разумеў анічога, спачатку энтава гаворка надта спадабалася. Але паступова яму надакучыла. Праз доўгі час (а мармытаньне працягвалася) падзівіўся: раз энцкая мова такая "непасьпешлівая", дык мо энты яшчэ й дабрыдзень адзін адному не далі? Калі ж Дрэвабарод учыніць пераклічку, колькі дзён ім спатрэбіцца, каб прасьпяваць свае імёны? Падумаў: "Цікава, як жа на энцкай мове *так* і *не*?" І пазяхнуў.

А Дрэваабарод прыкмеціў.

– Хмм, ха, хе, Піпіне мой! – паклікаў ён, і энты адразу спынілі гаворку. – Пасьпешлівы вы народзец, я й забыўся. Сапраўды, нудна слухаць гаворку, якую не разумееш. Вы можаце йсьці. Я назваў вашыя імёны Энтарадзе, яна вас пабачыла, усе пагадзіліся, што вы ня оркі й што да старых сьпісаў трэба дадаць радок. Пакуль далей мы не прасунуліся, але й тое – надзвычай хуткі вынік для Энтарады. Пагуляйце

навокал, калі жадаеце. Калі хочаце, ля паўночнага краю ёсьць файная крыніца. Нам трэба сёе-тое прамовіць да пачатку сапраўднай Рады. Я прыйду да вас неўзабаве й распавяду, як рухаюцца справы.

І апусьціў хобітаў долу. Перад тым як ісьці прэч, абодва нізка пакланіліся. Тое надта пацешыла энтаў, калі меркаваць па бляску ў вачох і тоне мармытаньня, але ж ненадоўга – энты вярнуліся да перамоваў. Піпін з Мэры ўскараскаліся па заходняй сьцежцы й вызірнулі вонкі з праходу ў жывой агароджы. Доўгія, зарослыя дрэвамі схілы падымаліся ад ускрайку лагчавіны, а за імі, за елкамі найдалейшага хрыбта імкнуўся белы й востры пік. На поўдні лес цягнуўся да далягляду, зьнікаючы ў шэрай смузе. Там далёка праблісквала зялёным. Мэры падумаў: напэўна, тое далёкі водбліск роханскіх роўнядзяў.

– Цікава, дзе ж Ізенградак? – спытаў Піпін.

– Я ня ведаю дакладна, дзе мы, – адказаў Мэры, – але вунь той пік, верагодна, Мэтэдрас, і, наколькі я памятаю, кольца Ізенградку ляжыць на разгалінаваньні атовілкаў ці ў глыбокай цясьніне ля самага заканчэньня гор. Можа, Ізенградак якраз за тым вялізным хрыбтом. Там відаць нейкая смуга ці дым – бачыш, леваруч ад піку?

– Цікава, а што ж такое Ізенградак? – спытаў Піпін. – І што, прынамсі, энты здольныя супраць яго зрабіць?

– І я думаю пра гэта. Бо Ізенградак – нешта падобнае да кольца скалаў ці нават пагоркаў з роўнядзьдзю ўнутры й скалой пасярэдзіне. Тая скала называецца Ортанк, на ёй Саруманава вежа. У коле скалаў ёсьць брама, мо й не адна, і калі не памыляюся, праз самае кольца цячэ рака. Нараджаецца яна ў гарах і далей плынее праз Браму Рохану. Ня энтаўскае гэтае месца, падаецца мне. Але ж нешта вусьцішнае мне ў іх бачыцца. Мо яны зусім не такія сьмешныя й бясшкодныя, як на першы позірк. Яны дзівакі, павольныя, цярплівыя, тужлівыя нават, але ж калі яны ўздымуцца, калі ўздымуцца... я тады надта хацеў бы быць менавіта на тым баку, за які будуць яны.

– Але! – выгукнуў Піпін. – Я разумею, пра што ты. На першы позірк і розьніцы не прыкмеціш: ці тое карова жуе сабе жуйку, мірна стоячы, ці тое бугай за табою сочыць. Адзіны нечаканы момант – і ўжо нясецца да цябе, наставіўшы рогі! Цікава, ці ўздыме іх Дрэвабарод. Упэўнены: ён намагаецца. Але ж наўрад ці яны захочуць. Дрэвабарод нават раззлаваўся мінулай ноччу, аднак адразу ж і аціх, загнаў злосьць назад, і ўсё тут.

Хобіты павярнуліся. Галасы энтаў-радоўцаў па-ранейшаму то гучнелі, то сьціхалі. Сонца ўскараскалася высока й заглядвала за жывую агароджу. Зазьзяла на кронах бярозаў і заліло паўночны край лагчавіны прахалодным жоўтым сьвятлом. Там заблішчэў пад промнямі маленькі зіхоткі вадаліў. Хобіты прайшлі краем логу ўздоўж вечназялёных дрэваў – гэтак прыемна адчуць зноў сьвежую траву пад пяткамі, нікуды не сьпяшацца! – і тады дабраліся да крыніцы. Папілі крыху чыстай сьцюдзёнай вады й селі на замшэлы валун, назіраючы за гульнёй сонечных зайчыкаў на траве й ценямі хуткіх аблокаў. Энтава вуркатаньне-шапаценьне ўсё доўжылася. Хобіты дзівосна пачуваліся: далёка-далёка ад знаёмага сусьвету, па-за межамі будзённага й звычнага, далёка ад усяго, што адбылося ў іхнім жыцьці. І тады моцна засумавалі па тварах і галасах спадарожнікаў, сяброў, асабліва па Фрода й Сэму, дый па Швэндалу.

Нарэшце энтава гаворка прыпынілася. Хобіты пабачылі: да іх набліжаюцца Дрэвабарод і яшчэ нейкі энт.

– Хмм, хумм, вось і я зноў, – вымавіў Дрэвабарод. – Стаміліся, га? Ня церпіцца? Ну, баюся, давядзецца вам яшчэ пацярпець. Пра тое-сёе ўжо мы й дамовіліся, але ж трэба патлумачыць тым, хто жыве далёка ад Ізенградку, тым, з кім я не перамаўляў да Энтарады, а ўжо тады вырашым, што нам рабіць. Праўда, само вырашэньне ў энтаў шмат часу ня зойме, як усё вытлумачыцца, узгадаецца й разгледзецца ў дробязях. На гэта спатрэбіцца два дні сама менш. Таму я прывёў да вас паплечніка – жыве ён непадалёк. Брэгалад яго клічуць па-эльфску. Ён сказаў: усё, ён ужо вырашыў, няма яму чаго рабіць на Энтарадзе. Хм, хмм, ён – найбліжэйшы з нас да сапраўднай пасьпешлівасьці. Дык вы разам файна паладзіце. Ну, да пабачэньня!

Дрэвабарод сышоў. Брэгалад жа стаяў колькі часу, сумна азіраючы хобітаў, а яны глядзелі на яго, чакаючы, калі ж ён выкажа якія прыкметы "пасьпешлівасьці". Брэгалад быў высокі, падаваўся адным з маладзейшых энтаў: з гладкай бліскучай скурай на руках, з барвянымі вуснамі й шэра-зялёнымі валасамі. І хіліцца мог, згінацца, рыхтык маладое дрэўца на ветры. Урэшце загаварыў голасам глыбокім і губным, але званчэйшым ды чысьцейшым за Дрэвабародаў.

– Ха, хмм, сябры мае, пашпацыруйма! Я – Брэгалад, ці Хуткасьцень на вашай мове. Але тое толькі мянушка, вядома. Празвалі мяне так, бо я адказаў старэйшаму энту *так*, калі ён яшчэ ня скончыў пытаньня. І п'ю я хутка, і напіваюся, пакуль некаторыя іншыя толькі бароды абпырскваюць. Хадзем!

І працягнуў прыгожыя рукі з доўгімі пальцамі да хобітаў.

Увесь гэты дзень яны шпацыравалі па лесе, сьпявалі й рагаталі, бо Хуткасьцень часта сьмяяўся. Сьмяяўся, калі сонца вызірала з-за хмары, сьмяяўся, калі траплялі на крынічку ці ручаіну. Тады нахіляўся й аплёскваў ногі й галаву вадою. Сьмяяўся зь нейкіх гукаў ці прышаптаў дрэваў. Калі бачыў рабіну, прыпыняўся, працягваў да яе рукі й сьпяваў, і гайдаўся з боку ў бок.

У прыцемках прывёў іх да свайго жытла: папросту замшэлага каменю на дзярніне пад стромым узгоркам. Рабіны кольцам абкружалі паляну з валуном, быў там і струменьчык (як і ў кожным энтавым жытле), цьвірчэў, зьбягаючы па схіле. Раз маўлялі да цемры. Непадалёк чуліся галасы энтаў з Энтарады – нейкія строгія, глыбокія, не такія павольныя, і раз-пораз нечый голас узьнімаўся гучней, на вышэйшай, хутчэйшай ноце, а астатнія заміралі. А побач Брэгалад распавядаў ціхенька, амаль шэптам, на звычайнай мове, і хобіты даведаліся, што Брэгалад – з роду Караскура й што ягоныя родныя мясьціны былі разрабаваныя й панішчаныя. Гэта, як падалося хобітам, і тлумачыла ягоную "пасьпешлівасьць" – ва ўсялякім разе ў тым, што тычылася оркаў.

– Рабіны былі ля майго жытла, – распавядаў Брэгалад ціха й сумна, – рабіны, якія прабіліся зь зямлі, калі я быў толькі энцяняткам шмат-шмат гадоў таму, калі сусьвет быў спакайнейшы. Энты насадзілі старэйшыя рабіны, спрабуючы дагадзіць энтаўкам, а тыя адно зірнулі на іх ды пасьміхнуліся й сказалі, што ведаюць, дзе кветкі бялейшыя, а плады – багацейшыя. Але ж сярод усяго племені дрэваў не было для мяне прыгажэйшых. І расьлі тыя рабіны, і расьлі, пакуль пад кожнай не атрымалася падабенства зялёнай залі, і барва іхніх ягадаў увосень была цяжкім скарбам, і цудам, і хараством. Чароды птушак зьляталіся да іх. Я люблю птушак, хоць яны надта гаманлівыя, і ягадаў хапала ўсім. Але з часам птушкі рабіліся злоснымі, дралі галіны, абдзіралі ягады й кідалі, ня еўшы. Потым зьявіліся оркі зь сякерамі й пасеклі мае дрэвы. Я прыйшоў і паклікаў рабіны іхнімі доўгімі імёнамі, але яны не адгукнуліся, ня ўздрыгнулі. Нерухома ляжалі яны, памерлыя.

*О, Арафарнё, Ласэміста, Карнімірыё!*
*О, сьветаыя дрэвы! Я бачу: ляжала вясновая квецень сьнегам на валасах!*
*О, мілыя дрэвы! Я чую: сьпявалі вы, сьмяяліся ў летніх сонечных днях!*
*З такою зыркай карою, лісьцейкам лёгкім, цудамі гор вы былі,*
*Скаранаваныя златам барвяным, восеньскім хараством зямлі!*
*О, мілыя дрэвы! Мёртвыя вы. Сухое шэрае лісьце ў вашых цяпер валасах,*
*Згубіліся вашы кароны, вашы сьпевы разьнесла па халодных вятрах.*
*О, Арафарнё, Ласэміста, Карнімірыё!*

Хобіты пазасыналі пад ціхі сьпеў Брэгалада, які на мностве моваў аплакваў гібель улюбёных дрэваў.

Наступны дзень таксама прабавілі побач з Брэгаладам, але ж далёка ад ягонай "хаты" не адыходзілі. Большасьць часу сядзелі моўчкі пад схілам, які абараняў ад халоднага ветру, аблокі ж былі нізкія, шэрыя. Сонца амаль не вызірала. Галасы энтаў гэтаксама хвалiста ўздымаліся й сьціхалі – то гучна й моцна, то ціха й сумна, то паскараючыся, то павольна й тужліва, нібы ў пахавальнай жальбе. І другая ноч прамінула, а энты ўсё размаўлялі пад імклівымі аблокамі й дрыготкімі зорамі.

Заружавеў новы дзень, бляклы й вятрысты. На самым сьвітанку галасы энтаў узьняліся разам у моцны гоман і сьціхлі. Раніцай задзьмуў вецер, падавалася, самое паветра абцяжарылася чаканьнем нечага значнага. Хобіты бачылі, што й Брэгалад зараз уважліва прыслухоўваецца, хоць гукі Энтарады ў ягонай лагчавіне чуліся дрэнна.

Наблізіўся надвячорак, і сонца, спускаючыся да гор, высунулася ў прарэхі й дзіркі аблокаў, кінула долу доўгія жоўтыя промні. Зьнянацку хобіты ўцямілі: усё навокал заціхла, увесь лес замер, прыслухоўваючыся. Ну так, змоўклі энтавы галасы! А што гэта значыць? Брэгалад стаяў напружаны, пазіраючы на поўнач, у бок Глухога логу.

Тады з грукатам раскаціўся магутны звонкі выгук: "*Рра-хумм-ррах!!!*" Дрэвы задрыжэлі й пахіліліся, нібы пад навальніцаю. На хвіліну ўсё змоўкла – і пакаціўся моцны паходны рытм, быццам ад велізарных змрочных барабанаў, і паверх гулкіх удараў і вуханьня галасы засьпявалі высока й гучна.

*Хадзем, хадзем, пяем ды б'ем, та-рунда-рунда-рунда-рэмм!*

Набліжаліся энты, набліжаліся й гучнелі іхнія сьпевы:

*Ідзем, равем, пяем, ірвем, та-руна-руна-руна-рэмм!*

Неўзабаве пабачылі, як крочыць шыхт: энты вялізнымі крокамі рушылі ўніз па схіле. Дрэвабарод ачольваў іх, і каля паўсотні паплечнікаў ішло за ім, па два ў шэрагу. Ішлі ў нагу, адбіваючы рытм рукамі па баках. Калі наблізіліся, стала відаць, як блішчаць ды яскравяцца іхнія вочы.

– Ху-умм, хомм! Вось і выбухнула, вось і рушым нарэшце! – гукнуў Дрэвабарод, як толькі заўважыў Брэгалада й хобітаў. – Хутчэй, далучайцеся да рушэньня. Мы ідзем. Ідзем на Ізенградак!

– На Ізенградак! – загукалі энты шматгалоса.

– На Ізенградак!

*Хай Ізенградаку кольцы гораў сілай дужы ліхою,*
*Хай Ізенградак, як костка, голы за шэрай сваёй сьцяною,*
*Калоць каменьне, бурыць злачыньне йдзем на яго вайною!*
*Бо дрэвы палаюць, бо печы смуродзяць за тою брамаю злою!*
*У край праклёну тупатам кону, грукатам барабану!*
*У Ізенградак лёсавы вырак мы прынясем з сабою!*
*Ідзем на яго вайною!*

Гэтак сьпявалі энты, шыхтуючы на поўдзень.

Брэгалад зь зіхоткімі вачыма стаў побач з Дрэвабародам. Стары энт узяў хобітаў да сябе, зноўку прыладзіў на плячох, і яны ехалі ганарліва й пачэсна на чале войска пад ваяўнічыя сьпевы. Хоць і чакалі, што нешта ўрэшце адбудзецца, усё адно надзвычай уразіліся зьменамі ў энтавым настроі. Падавалася, што рака, якую доўга трымалі за плацінаю, здолела прарвацца й мкне раптоўным шалёным патопам.

– Усё ж энты дамовіліся хутка, ці ня так? – адважыўся вымавіць Піпін праз пэўны час, калі сьпеў на момант прыпыніўся й чуваць быў толькі рытм рук і ног.

– Хутка? – зьдзівіўся Дрэвабарод. – Ху-умм! Сапраўды. Хутчэй, чым я чакаў. Даўно я ня бачыў, каб яны гэтак паўставалі. Мы, энты, ня любім ані злавацца, ані ўзбуджацца. І такое не здараецца, калі нашыя дрэвы й нашыя жыцьці ў бясьпецы. Падобнага не было з часоў Саўронавай вайны зь людзьмі з-за мора. Усё оркі, што пасеклі дрэвы – *рарумм*! – нават і без такога слабога апраўданьня, каб паліць печы. Вось што нас раззлавала, а таксама здрада суседа, які мусіў нам дапамагаць. Чараўнікі павінны ведаць лепей, бо яны абазнаныя. Ні на якой мове – эльфавай, энтавай ці чалавечых – няма праклёну для гэткай здрады. Далоў яго!

– А што, вы насамрэч зьбіраецеся разбурыць брамы Ізенградку? – спытаў Мэры.

– Хо, хмм, а мы можам. Вы, мабыць, ня ведаеце нашай моцы. Ці чулі вы пра троляў? Тролі вельмі дужыя. Але ж яны ўсяго толькі падробкі. Іх вытварыў Вораг падчас Вялікай Цемры. Яны – зьдзек з энтаў, як оркі – зьдзек з эльфаў. Мы дужэйшыя за троляў. Мы зробленыя з самых костак зямлі. Мы здольныя расколваць каменьне, як яго расколваюць карані дрэваў, толькі хутчэй, нашмат хутчэй, калі толькі раззлуемся! Калі нас не пасякуць, ня вынішчаць агнём ці якім чароўным выбухам, мы раструшчым Ізенградак на аскепачкі й шчэпкі, ягоныя муры рассыплюцца друзам.

– Але ж Саруман паспрабуе вас спыніць, ці не?

– Хмм, вух, так, напэўна. Я на тое не забыўся. Насамрэч я доўга пра тое меркаваў. Большасьць энтаў маладзейшыя за мяне, на шмат дрэвавых вякоў. Цяпер усе яны раззлаваліся, усе думаюць толькі, каб пабурыць Ізенградак. Але неўзабаве крыху паастынуць, калі надыдзе час вячэрняга пітва. Вох, якая сёньня ў нас будзе смага! А пакуль – няхай маршуюць і сьпяваюць. Ісьці доўга, ёсьць час паразважаць. А паразважаць варта, вох, варта.

Пэўны час Дрэвабарод крочыў, сьпяваючы разам з усімі. Але паступова ягоны голас сьцішыўся да шэпту, і ён змоўк. Піпін бачыў: лоб старога зморшчыўся, сабраўся ў складкі. Нарэшце энт зірнуў угару, і Піпін убачыў тугу ў ягоных вачох. Тугу, але не адчай. Зялёны спакойны агонь адблісквае у іх, быццам з глыбіні, зь цьмянага калодзежу глыбокай думы.

– Вядома, можа быць, сябры мае, – вымавіў ён павольна, – можа быць, што крочым мы да свайго кону, у апошні паход энтаў. Аднак калі б мы засталіся па хатах ды не рабілі анічога, кон сам прыйшоў бы да нас раней ці пазьней. Гэтая думка доўга

расла ў нашых сэрцах, таму мы й выйшлі цяпер. Не пасьпешлівае тое вырашэньне. Ну, спадзяюся, апошні паход энтаў будзе варты песьні. Магчыма, – ён уздыхнуў, – мы здолеем дапамагчы каму-нікаму перад тым, як самі сыдзем у ноч. А я хацеў бы спраўдзіць, ці слушна кажуць песьні пра энтавіц. Я так хацеў бы стрэць маю Фімбрэтыль зноў. Але ж, сябры мае даражэнькія, песьні, што дрэвы, – плады даюць толькі ў свой час, сваім асаблівым чынам. А часьцяком і сохнуць заўчасна.

Крочылі энты надзвычай хутка. Спусьціліся ў доўгую цясьніну, якая вяла на поўдзень, а пасьля пачалі караскацца ўсё вышэй на заходні хрыбет. Лес застаўся ўнізе, вакол былі толькі купкі бярозаў. Вышэй схілы зусім загаляліся, некалькі тонкіх, зьнясіленых сасонак расло на іх. Сонца зайшло за цёмны бок гары нaперадзе. Апусьціўся шэры змрок.

Піпін азірнуўся. Энтаў паболела – ці здарылася што іншае? Толькі мінулі голыя бляклыя схілы – і вось на іх пасталі дрэвы. Не, не пасталі – рухаюцца! Няўжо дрэвы Фангарну абудзіліся й сам лес узьняўся, шыхтуючы праз горы на вайну? Хобіт пацёр вочы. Мо тое дрымоты або цені падманулі яго? Не, вялізныя шэрыя постаці ўпарта рушылі наперад. І гук... быццам вецер шамаціць мноствам галінаў. Энты наблізіліся да грэбеню хрыбта, і сьпевы сьцішыліся. Апусьцілася ноч, і цішыня зь ёю. Анічога не было чуваць, толькі дрыжыкі зямлі пад нагамі энтаў ды шапаценьне, лёгкае шаргаценьне, нібыта мноства лістоў кружляе ў паветры. Пастаўшы на самым хрыбце, зірнулі долу, у чорную яміну, на вялізманы разлог апошняга адгор'я: Нан Курунір, даліна Сарумана.

– Ноч легла на Ізенградак, – вымавіў Дрэвабарод.

*5. Белы Вершнік*

Я прамерз да самых костак, – гном прытупваў нагамі й махаў рукамі.

Нарэшце пасьвятлела. Яшчэ на досьвітку сябры зладзілі беднае сьнеданьне й зь першымі промнямі падрыхтаваліся зноў шукаць сьляды хобітаў.

– І на старога не забудзьцеся! – нагадаў Гімлі. – Мне было б спакайней, каб я пабачыў які адбітак ад ягонага бота.

– І чаму гэта заспакоіць цябе? – спытаў Ляголас.

– Таму што стары, які пакідае сапраўдныя сьляды, магчыма, насамрэч ня болей за тое, чым падаецца.

– Магчыма, – адказаў эльф, – але й цяжкі бот можа не пакінуць аніякага адбітку тут: дзёран глыбокі й пругкі.

– Сьледапыту тое не перашкода, – запярэчыў гном. – Адна травінка пагнутая – і Арагорну хопіць. Але ж наўрад ён што вынайдзе. Учора мы бачылі ліхі Саруманаў прывід. Я пэўны, нават цяпер, з ранішнім сьвятлом, ягоныя вочы цікуюць нас з Фангарну.

– Мо й так, – пагадзіўся Арагорн, – але я ня ўпэўнены. Я думаю пра коней. Ты, Гімлі, казаў мінулай ноччу: іх напалохалі, і таму яны ўцяклі. Падаецца, не. Ты чуў іх, Ляголас? Ці падаліся яны табе напалоханымі?

– Не, – адказаў Ляголас. – Я добра іх чуў. Калі б ня цемра й нашыя страхі, я адразу сказаў бы: яны нібы ашалелі ад нечаканай радасьці. Яны прамаўлялі па-свойму, як сустрэўшы пасьля доўгага расстаньня сябра, па якім ссумаваліся.

– Згодны, – азваўся Арагорн. – Але тую загадку няпроста разгадаць, пакуль коні ня вернуцца. Хадзем! Ужо сьветла. Спачатку пашукайма, а разважаць будзем потым! Пачнем адсюль, ад месца начлегу, праверым усё ўважліва, асабліва ж схіл, які вядзе да лесу. Нашая мэта – знайсьці хобітаў, што б вам ні думалася пра нашага начнога госьця. Калі яны ўцяклі, дык, напэўна, схаваліся глыбока ў лесе, інакш мы іх ужо пабачылі б. Калі ня знойдзем анічога тут і на ўзьлеску, абшукаем яшчэ раз поле бойкі й попел. Там, аднак, знайсьці нешта – малая надзея: вершнікі Рохану зрабілі справу надзвычай старанна.

Некаторы час сябры поўзалі па зямлі ўзіраючыся. Дрэва стаяла над імі, нібы сумны вартавы, ягоныя сухія лісты цяпер млява абвісьлі. Арагорн павольна адсоўваўся ўсё далей. Дабраўся да попелу першага вартавога вогнішча ля ракі й ад яго пасунуўся да пагорку, дзе адбылася бойка. Спыніўся зьнянацку й нахіліўся нізка, амаль схаваўшыся тварам у траву. Тады паклікаў астатніх. Тыя падбеглі да яго.

– Нарэшце навіны! – абвесьціў Арагорн і падняў, каб лепей паказаць сябрам, паламаны ліст, вялікі, залацісты, ужо пабляклы ды пабурэлы месцамі. – Вось ліст лорыйнскага мэларну, а на ім – маленькія крошкі, і яшчэ колькі крошак у траве. А вось, пабачце, кавалкі перарэзанай вяроўкі!

– А вось і нож, які іх перарэзаў! – дадаў Гімлі.

Нахіліўся й выцягнуў зь дзернавіны кароткае вызубранае лязо. Напэўна, яго ўтаптаў туды чыйсьці цяжкі бот. Побач ляжала й цаўё, ад якога лязо адламалася.

– Оркава зброя, – гном грэбліва, з агідаю разглядаў разьбяное трымальна: яно было ў форме жудаснай галавы з касымі вачыма й кплівым ротам.

– Ну, ці не найдзіўнейшая загадка за ўсе, якія мы адшукалі! – выклікнуў эльф. – Зьвязаны вязень уцякае і ад оркаў, і ад вершнікаў. Тады спыняецца, яшчэ на адкрытай прасторы, періразае вяроўкі орцкім нажом. Але ж як і чаму? Кал; ногі былі

зьвязаныя, як ён крочыў? Калі рукі былі зьвязаныя, як рэзаў? Калі ані тое, ані другое не было зьвязанае, навошта ўвогуле рэзаць вяроўкі? Ну, а тады, задаволены сваім таямнічым майстэрствам, сеў ды спакойна падсілкаваўся! Аднаго гэтага, безь лістоў мэларну, дастаткова для высновы: тое хобіт, няйначай. Апасьля, напэўна, рукі ягоныя абярнуліся крыламі – і ён паляцеў сьпяваць сярод дрэваў. Такога знайсьці няцяжка – толькі самім крылы адгадаваць!

– Чарамі тут патыхае, насамрэч, – згадзіўся Гімлі. – Апрача ўсяго, яшчэ той стары? А ты што скажаш, Арагорн, на Ляголасавы загадкі? Ці здольны іх вырашыць?

– Магчыма, і здольны, – усьміхнуўся Арагорн. – Тут яшчэ колькі пазнак побач, якія вы не разгледзелі. Так, хобіт быў вязьнем, і альбо рукі, альбо ногі ў яго былі разьвязаныя да таго, як дабраўся сюды. Здаецца, рукі. Тады прасьцей. Тым больш што сюды яго прынёс орк. Бо, зірніце, за колькі крокаў адсюль – оркава кроў. І паўсюль глыбокія адбіткі ад капытоў і прыкметы таго, што цягнулі нешта цяжкое. Орка забілі вершнікі, а пазьней адцягнулі цела да вогнішча. А хобіта ня ўбачылі, і ён быў не на "адкрытым месцы", а ў начной цемры, і на ім, напэўна, быў эльфаў плашч. Хобіт зґаладнеў, зьнясілеў, дык нядзіўна, што, перарэзаўшы вяроўкі нажом забітага ворага, адпачыў і падсілкаваўся перад тым, як адпаўзьці прэч. Добра ведаць, што ў ягонай кішэні засталіся лембасы, хоць ён пабег без аніякіх пакункаў ці прыпасаў. Вось тое насамрэч па-хобіцку. Я кажу *ён*, але спадзяюся, Мэры зь Піпінам абодва былі тут. Аднак пакуль тое з пэўнасьцю сьцьвярджаць цяжка.

– І як жа, на твой погляд, адзін з нашых хобітаў вызваліў рукі? – спытаў Гімлі.

– Ня ведаю. Як і тое, навошта орку спатрэбілася несьці іх прэч. Ня дзеля ж таго, каб дапамагчы ім уцячы, гэта ўжо дакладна. Толькі цяпер вытлумачваецца, што зьдзіўляла мяне з самага пачатку: чаму оркі, перамогшы Бараміра, задаволіліся толькі захопам Піпіна й Мэры? Не намагаліся забіць нас, ані скрасьці нашую пакладу. А замест таго пабеглі з усіх ног да Ізенградку. Мо яны падумалі, што захапілі носьбіта пярсьцёнка й ягонага вернага паплечніка? Мяркую, не. Гаспадары оркаў наўрад ці адважацца распавесьці гэткае, нават калі й самі ведаюць. Пра пярсьцёнак нельга адкрыта размаўляць з оркамі, яны ненадзейныя паслугачы. Мяркую, ім загадалі менавіта захапіць хобітаў жывымі любым коштам. А перад апошняй бойкай зь вершнікамі нехта паспрабаваў высьлізнуць за кола аблогі з каштоўнымі палоннымі. Вераемна, тое была здрада. Звычайная рэч сярод орцкага племені: нейкі дужэйшы ды нахабнейшы орк намагаўся зьнесьці здабычу для ўласнай патрэбы. Вось вам мае разгадкі. Магчыма прыдумаць і іншыя. Цьвёрда разьлічваць трэба на тое, што адзін зь сяброў здолеў уцячы. Нашая мэта: знайсьці яго й дапамагчы яму да таго, як вернемся ў Рохан. І ня трэба баяцца Фангарну, раз ужо лёс загнаў нашага хобіта ў лясны гушчар.

– Ня ведаю, чаго баяцца болей: ці Фангарну, ці доўгай вандроўкі праз Рохан пехатою, – заўважыў Гімлі.

– Тады рушым лепей у лес, – падсумаваў Арагорн.

Неўзабаве Арагорн адшукаў новыя сьляды. Адбіткі ног ля берагу Энтуі, відавочна хобіцкіх, але надта неглыбокія, каб шмат зразумець зь іх. І зноўку, пад ствалом вялізнага дрэва на самым краі лесу знайшліся яшчэ адбіткі. Хоць зямля была ссохлая, голая й мала чаго чыталася на ёй.

– Сама менш адзін хобіт стаяў тут пэўны час дый паглядаў назад, а тады павярнуўся й рушыў у лес, – патлумачыўАрагорн.

– Тады й мы мусім рушыць, – дадаў Гімлі. – Але недаспадобы мне выгляд гэтага лесу, і нас супраць яго папярэджвалі. Хоць бы толькі нашая пагоня завяла нас у якое іншае месца!

– Па-мойму, у гэтым лесе не адчуваецца ліха, што б ні баялі старыя, – заўважыў Ляголас.

Ён стаяў побач з дрэвамі, нахіліўшыся наперад, нібы прыслухоўваўся ды ўзіраўся шырока расплюшчанымі вачыма ў лясны цень.

– Не, ён не ліхі, а калі што ліхое ёсьць, дык далёка адсюль. Я адчуваю толькі слабое рэха – недзе ў далечы ёсьць змрочныя нерушы, дзе сэрцы дрэваў паўнюткія чарноцьця. Побач з намі анішто не задумвае ліха, але шмат насьцярожанасьці й злосьці.

– Ну, на мяне ім няма нагоды злавацца, – сказаў Гімлі. – Шкоды я ім не рабіў.

– І добра, – зазначыў Ляголас. – Аднак шкоду лесу ўсё ж учынілі. Нешта там унутры адбываецца ці неўзабаве адбудзецца. Ці адчуваеш ты напружанасьць, трывогу лесу? У мяне ажно дыханьне ад яе перахоплівае.

– Па мне, дык паветра тут састаялае, – адказаў гном. – Лес тут сьвятлейшы, чым Ліхалесьсе, але ж збуцьвелы ды трухлявы.

– Ён стары, надта стары, – давёў эльф. – Такі стары, што я зноў адчуваю сябе маладым. Я забыўся на тое ад пачатку вандроўкі з вамі, маладзёнамі. Стары й паўнюткі ўспамінаў. Як хацеў бы я пабыць у ім, калі б толькі патрапіў сюды ў спакайнейшы час!

– Напэўна, хацеў бы, ты ж лясны эльф, – прабурчэў Гімлі. – Хоць эльфы ўвогуле дзівоснае племя. Аднак ты мяне суцешыў. Калі ты рушыш у лес, тады й я. Толькі трымай лук напагатове, а я адвяжу сякеру, каб вальней матлялася ля паса. Не для расьлінаў, вядома, – дадаў пасьпешліва, зірнуўшы на дрэва, пад якім стаялі. – Упрост не жадаю зьнянацку сустрэць зноў таго старога безь пераканальнага довадў пад рукамі – і ўсё. Ну, рушма!

І тры паляўнічыя рушылі ў лес Фангарн. Ачольваў іх і вышукваў сьляды Арагорн. Але шукаць не было чаго – на сухой і засыпанай лісьцем ляснной глебе. Палічыўшы, што ўцекачы не захочуць аддаляцца ад вады, Арагорн увесь час вяртаўся да берагу. Гэтак і натрапіў на мясьцінку, дзе Мэры й Піпін спаталялі смагу й мылі ногі. Тады ўсе лёгка ўбачылі, што адбіткі – ад двух хобітаў: у аднаго ступакі крыху меншыя.

– Добрыя навіны, – абвесьціў Арагорн. – Але ж адбіткі двухдзённай даўніны. І, падаецца, хобіты тут адышлі ад ракі.

– І што зробім? Гнацца за імі праз увесь Фангарн немагчыма. У нас прыпасаў зусім драбяза. Калі ў хуткім часе не дагонім, якая з нас будзе карысьць? Толькі сесьці побач і падсілкаваць нашай вернасьцю.

– Калі толькі тое й здолеем, ёй і падсілкуем, – сказаў Арагорн. – Рушма!

Сягнулі нарэшце адхону Дрэвабародай гары й напаткалі скальную сьцяну з грубымі прыступкамі, якія вялі да шырокай тэрасы наверсе. Прабліскі сонца прабіваліся праз імклівыя хмары, і лес выглядаў цяпер не такім шэрым і маркотным.

– Узьбярэмся й агледзімся! – прапанаваў эльф. – У мяне яшчэ дыханьне перахоплівае, хоць бы глыток сьвежага паветра.

Ускараскаліся. Арагорн – апошні, павольней за астатніх, бо ўважліва аглядаў прыступкі.

– Амаль упэўнены – хобіты тут былі, – сказаў ён. – Але ёсьць і іншыя пазнакі, надта незвычайныя, я не магу іх зразумець. Цікава, ці ўбачым мы з той тэрасы штокольвечы, што высьветліць іх далейшы шлях?

Выпрастаўся й азірнуўся навокал, але нічога карыснага не прыкмеціў. Тэраса выходзіла на поўдзень і на ўсход, але далей відаць быў толькі ўсход. Там пашыхтаваліся кароны дрэваў, якія шэраг за шэрагам лесьвіцаю зьніжаліся ў напрамку роўнядзі.

– Далёкае ж кола мы далі, – вымавіў Ляголас. – Дабраліся б сюды ўсе разам, калі б пакінулі Вялікую раку на другі ці трэці дзень вандроўкі й скіраваліся б на захад. Мала хто прадбачыць, куды завядзе вандроўны шлях.

– Мы зусім не жадалі, каб ён прывёў нас у Фангарн, – прабурчэў гном.

– Адылі мы тут – і патрапілі як рыба ў сетку, – вымавіў Ляголас. – Зірніце!

– Куды? – перапытаў Гімлі.

– Вунь там, сярод дрэваў!

– Дзе? У мяне ня эльфавы вочы!

– Ш-шша, цішэй! Вунь, – Ляголас выцягнуў руку, – унізе, у лесе, там, дзе мы толькі стаялі. Гэта ён. Ці ня бачыце, крочыць паміж дрэваў?

– Бачу, бачу цяпер! – прашыпеў Гімлі. – Глянь, Арагорн! Ці я ж цябе не папярэджваў? Вунь той стары. Увесь у брудных шэрых анучах, таму я яго спачатку й не заўважыў.

І Арагорн таксама прыкмеціў пахіленую, з павольнымі рухамі постаць. Стары быў ужо недалёка – стомлена крочыў, апусьціўшы галаву, абапіраючыся на грубую кульбу, як жабрак. На вандроўнікаў ён і не глядзеў. У іншых краёх падарожнікі віталі б старога ветлым словам, але цяпер адно насьцярожана стаялі, адчуваючы: набліжаецца нешта дзівоснае – нейкая затоеная моц – ці пагроза.

Гімлі на ўсе вочы сачыў, як набліжаўся крок за крокам стары. А тады, не стрываўшы, выклікнуў:

– Хутчэй, Ляголас! Націнай лук! Кладзі стралу! Рыхтуйся! Гэта Саруман! Не дазваляй яму загаварыць, а то ён нас зачаруе! Страляй!

Ляголас сагнуў лук і нацягнуў струну – павольна, нібы нейкая іншая воля працівілася яму. Трымаў стралу ў руцэ, але так і не паклаў яе на струну. Арагорн жа стаяў моўчкі, насьцярожана назіраючы.

– Чаго ты чакаеш? Што з табой? – прашаптаў, хутчэй, прашыпеў Гімлі.

– Ляголас мае рацыю, – азваўся Арагорн. – Нельга забіваць старога зьнянацку, не аклікнуўшы, як бы ён ні палохаў нас ці якой бы ні падаваўся пагрозай. Назірайце й чакайце!

У гэты момант стары паскорыў крок і зь дзівоснай хуткасьцю рушыў да ўзножжа скальнай лесьвіцы. Тады зьнянацку зірнуў угору – вандроўнікі моўчкі глядзелі ўніз, на яго. Усё замерла.

Твару старога ня бачылі ў цені каптура, а зьверху навісаў капялюш з шырокім крысом, так што тырчэлі толькі самы кончык носа й сівая барада. Але ж Арагорну падалося, што ён заўважыў на імгненьне зыркі й пранізьлівы бляск вачэй пад густымі бровамі.

Нарэшце стары падаў голас.

– Добрая стрэча, сябры, – вымавіў мякка. – Насамрэч, добрая. Я жадаю перамовіць з вамі. Ці вы спусьціцеся, ці мне падняцца?

І, не чакаючы адказу, пачаў караскацца ўгару.

– Зараз! – загаласіў Гімлі. – Спыні яго, Ляголас!

– Ці я не сказаў, што жадаю перамовіць з вамі?! – сказаў стары. – Пакладзі лук, спадар эльф!

Страла й лук Ляголаса ўпалі, а рукі зьнясілена павісьлі.

– А ты, спадару гноме, калі ласка, руку прэч з трымальна сякеры! Гэткія довады ў гамонцы нам не патрэбныя!

Гімлі быў варухнуўся, а тады застыў, нібы камень, вырачыўшыся на тое, як скача па прыступках стары – спрытней за казу. Уся стома, падалося, пакінула яго. Калі крочыў на тэрасу, прабліснула ў апратцы ягонай белае – хутка, нават надта хутка, каб пераканацца, – нібы нейкае адзеньне за шэрымі рызманамі вылезла на імгненьне. Уздых зьдзіўленага Гімлі ў цішыні падаўся гучным шыпеньнем.

– Добрая стрэча, зноў кажу! – паўтарыў стары, набліжаючыся.

Калі засталося некалькі ступнёў, спыніўся, абапершыся на кій, нахіліўшыся наперад, пазіраючы з-пад каптура.

– І што ж гэта вы робіце ў тутэйшых краёх? Эльф, чалавек і гном, усе ў эльфскай апратцы. Безумоўна, тут гісторыя, вартая ўвагі. Гэткае тут ня часта напаткаеш.

– Спадар кажа, як знаўца Фангарну, – вымавіў Арагорн. – Ці так гэта?

– Не зусім, – адказаў стары. – Каб вызнаць гэты лес, ня хопіць мноства жыцьцяў. Але ж я час ад часу наведваюся сюды.

– Ці маглі б мы даведацца спадарова ймя ды пачуць, што спадар да нас мае? – спытаў Арагорн. – Раніца мінае, і ў нас ёсьць неадкладныя справы.

– Пра справы мае да вас вы ўжо чулі: я хачу ведаць, што вы тут робіце й што пра сябе распаведзяце. А што тычыцца майго імя... – ён змоўк і засьмяяўся доўга й лагодна.

Арагорн адчуў, як мурашкі пабеглі па ягонай сьпіне, але ж не ад жаху ці пагрозы, а нібыта яго крануў зьнянацку халодны, сьвежы вецер або быццам лінула халодным дажджом на заснулага.

– Маё імя? Ці ж вы не здагадаліся ўжо? Так, мяркую, вы чулі яго раней. Безумоўна, чулі. Ну давайце-тка, распавядайце пра сябе!

Тры сябры стаялі моўчкі.

– Ну, гэтак засумняесься, ці годнай справай вы заняліся, раз не жадаеце прызнацца. На шчасьце, я сам троху яе ведаю. Вы, падаецца мне, рушыце па сьлядох двух маладых хобітаў. Так, хобітаў. Ня трэба глядзець, нібыта ўперш чуеце гэтую дзівосную назву. Вы чулі, і я чуў. Так, сюды яны ўскараскаліся заўчора й сустрэлі некага нечаканага. Ці тое вас супакойвае? Адылі цяпер вам захацелася даведацца, куды ж яны падзеліся? Ну, так, магчыма, я здольны распавесьці вам пра тое. Але ж чаму вы стаіце? Вашая справа, бач, ужо не такая тэрміновая, як падавалася. Сядайма й пагутарым спакайней.

Стары адвярнуўся, рушыў да кучы камянёў і каменнага друзу, што нападаў калісьці з адхону за тэрасай. Адразу, быццам вызваленыя ад чараў, сябры заварушыліся. Рука Гімлі зноў легла на трымальна сякеры, Ляголас падабраў лук.

Стары не зьвярнуў увагі. Нахіліўся й сеў на нізкі пляскаты камень. Шэрыя лахманы яго крыху разышліся – і стала відаць, без аніякага сумневу, што пад лахманамі белае.

– Саруман! – выгукнуў Гімлі й скочыў да яго, падняўшы сякеру. – А ну, кажы! Куды ты падзеў нашых сяброў? Адказвай, а тое зраблю такую дзірку ўтваім капелюшы, што ніякія чары не залапяць!

Але ж стары стаўся спрытнейшым. Умомант узьняўся й скочыў на вялізны валун. І там нібыта вырас, узвышаючыся над падарожнікамі, бы вежа. Ягоны каптур і шэрыя лахманы адляцелі прэч, белае адзеньне зазьзяла. Ён узьняў кій – і сякера выскачыла з гномавай рукі, з звонам упала. Арагорнаў меч, нерухомы ў цьвёрдай руцэ, палыхнуў полымем. Ляголас загаласіў ды стрэліў высока ў паветра. Страла зьнікла ў пробліску полымя.

– Мітрандыр! – загукаў эльф. – Мітрандыр!

– У добры час стрэліся мы, зноў кажу табе, Ляголасе! – сказаў стары.

Агаломшана глядзелі сябры. Валасы старога былі як сьвежы сьнег пад сонцам, вопратка блішчэла белым, прамяніста зьзялі вочы пад густымі бровамі, пранізьлівыя, нібы сонечныя промні, моц была ў руках. Ад радасьці, подзіву й страху не знаходзіліся словы вітаньня.

Першы апамятаўся Арагорн.

– Гэндальф! – усклікнуў ён. – Па-за ўсялякай надзеяй, у час нашай патрэбы ты вярнуўся да нас! Што ж за завеса засьціла мае вочы – я не пазнаў цябе! Гэндальф!

Гімлі не сказаў анічога, але апусьціўся на калені, закрываючы рукою вочы.

– Гэндальф, – паўтарыў стары, быццам узгадваючы слова, якім даўно не карыстаўся. – Так, менавіта гэтае імя. Я быў Гэндальф.

Ён крочыў уніз з каменя, падабраў шэры плашч і загарнуўся ў яго. Падалося: сонца вызірнула з-за хмараў ды схавалася зноў.

– Так, можна зноў клікаць мяне Гэндальфам, – сказаў чараўнік, і голас ягоны быў голас колішняга сябра й правадыра. – Уставай, сябра Гімлі! Ты не вінаваты ані ў чым, аніякай шкоды мне ты не зрабіў. Насамрэч, сябрына, ані ў кога з вас няма зброі, якая здолела б мне пашкодзіць. Радуймася! Бо мы стрэліся зноў. Вялікая бура імкне, але зорка нашая цяпер высока!

Паклаў руку на галаву Гімлі, і гном зірнуў угару й засьмяяўся.

– Гэндальф! – усклікнуў гном. – Дык ты ж ва ўсім белым!

– Так, я – *Белы* цяпер, – пацьвердзіў Гэндальф. – Насамрэч, я цяпер – як Саруман. Можна сказаць, я такі, якім мусіў быць Саруман. Але ж распавядзіце мне пра сябе! Пасьля таго як мы разьвіталіся, я прайшоў праз агонь і глыбокія воды. Я забыўся на большасьць з таго, што, здаецца, ведаў раней, – і зьведаў нанова шмат з таго, на што забыўся. Я бачу цяпер шмат далёкага, але ж ня ведаю многага, што побач. Распавядзіце мне пра сябе!

– Што ж ты жадаеш ведаць? – перапытаў Арагорн. – Расповед пра ўсё, што здарылася пасьля нашага разьвітаньня, зойме надта шмат часу. Чаму б табе спачатку не распавесьці пра хобітаў? Ты знайшоў іх, яны ў бясьпецы?

– Не, я не знайшоў іх. Цемра ляжыць над далінамі Эмін Мюйлу, і я ня вядаў пра іх палон, пакуль арол не сказаў мне.

– Арол! – выклікнуў Ляголас. – Я бачыў арла высока ў нябёсах і надта далёка. Астатні раз – тры дні таму, над Эмін Мюйлам.

– Так, – пацьвердзіў Гэндальф. – Тое быў Гвайхір Гаспадар Вятроў, які выратаваў мяне з Ортанку. Я паслаў яго назіраць за ракою й зьбіраць зьвесткі. У яго востры зрок, але ж ён ня бачыць усяго, што адбываецца пад покрывам гор і дрэваў. Што-кольвек прыкмеціў ён, іншае я заўважыў сам. Пярсьцёнак цяпер далёка, і ягонаму носьбіту ня здольны дапамагчы ані я, ані хто іншы з былога Зьвязу Пярсьцёнка. Вораг амаль даведаўся пра пярсьцёнак, але ж толькі *амаль*. Я ў тым

адыграў пэўную ролю, бо тады быў высока, і змагаўся з воляю Цёмнай Вежы, і Цень мінуў Фрода. Тады я стаміўся, надта стаміўся й доўга блукаў у чорным забыцьці.

– Ты ведаеш пра Фрода! – вымавіў Гімлі. – Як ён?

– Цяжка сказаць. Ён выратаваўся зь вялікай небясьпекі, а перад ім яшчэ большыя. Ён вырашыў самотным ісьці ў Мордар і пайшоў. Гэта ўсё, што я ведаю.

– Не самотным, – зазначыў Ляголас. – Мяркуем, Сэм пайшоў зь ім.

– Сапраўды? – усклікнуў Гэндальф з усьмешкаю й радасным бляскам у вачох. – Сапраўды з Сэмам? Вось навіна для мяне, але ж яна мяне ня дзівіць. Файна! Выдатна! Вы мяне ўзрадавалі. Распавядзіце болей! Сядайце побач і распавядзіце пра вандроўку.

Сябры паселі долу ля ног чараўніка, і Арагорн пачаў расповед. Доўга-доўга Гэндальф не казаў анічога й ні пра што не пытаўся. Слухаў, паклаўшы рукі на калені, заплюшчыўшы вочы. Нарэшце, калі Арагорн сказаў пра сьмерць Бараміра й ягоную апошнюю выправу па Вялікай рацэ, стары ўздыхнуў.

– Ня ўсё ты прамовіў, Арагорне, сябра мой. Ня ўсё, што ведаеш ці пра што здагадваесься. Небарака Барамір! Я ня здольны бачыць, што здарылася зь ім. Цяжкое выпрабаваньне для такога чалавека – ваяра, гаспадара войскаў і народаў. Галадрыель казала мне, што ён у небясьпецы. Але ж ён пераадолеў яе ўрэшце. Я задаволены. Нездарма маладыя хобіты выправіліся з намі – хіба толькі дзеля Бараміра. Але ж тое не адзіная роля, якая выпала ім. Іх прынесьлі ў Фангарн, і іхняе прыбыцьцё стала тым самым маленькім каменьчыкам, які пачынае лавіну. Нават зараз, калі мы тут сядзім, я чую першыя грымоты. Саруману лепей быць як мага далей ад сваёй сядзібы, калі навала абрынецца!

– У адным мой стары сябар не зьмяніўся, – усьміхнуўся Арагорн. – Па-ранейшаму размаўляе загадкамі.

– Насамрэч? Загадкамі? Не! Упрост я ўголас размаўляў сам з сабою. Звычка старых: абіраць для гамонкі наймудрэйшага, бо доўгія вытлумачэньні стамляюць маладых.

Гэндальф засьмяяўся, але сьмех ягоны цяпер падаваўся добрым і цёплым, як сонечны пробліск.

– Я не малады нават паводле адліку людзей Старажытных Родаў, – сказаў Арагорн. – Ці не адкрыеш ты свае думкі ясьней для мяне?

– Так, і што ж тады мне сказаць? – вымавіў Гэндальф і змоўк, разважаючы. – Ну, калі ўжо вы жадаеце пачуць найпрасьцейшыя тлумачэньні, вось як я бачу цяперашні стан рэчаў: вораг, вядома, ужо даўно выведаў, што пярсьцёнак нясуць на поўдзень і захоўвае яго хобіт. Ведае, колькі нас выправілася з Долага Яру й хто мы такія. Але ж мэта нашая пакуль яму ня ясная. Ён лічыць: усе мы рушым у Мінас Тырыт, бо гэтак ён зрабіў бы на нашым месцы. І гэта, як ягоная мудрасьць падказвае яму, было б цяжкім ударам па ягонай моцы. Насамрэч, ён цяпер у вялікім жаху, ня ведаючы, хто з магутных паўстане, завалодаўшы ягоным пярсьцёнкам, ды пойдзе вайною, каб адолець яго і заняць ягонае месца. А тое, што мы хочам адолець яго й не дазволім анікому заняць ягонае месца, яму й да галавы не прыходзіць. Тое, што мы жадаем зьнішчыць пярсьцёнак, ён ня сьніў і ў найчарнейшым кашмары. У гэтым і ляжыць наш шанец на посьпех, нашая надзея. Бо, уявіўшы, што на яго йдуць вайною, ён распачне вайну сам, паверыўшы, што часу ў яго замала. А калі першы ўдар дастаткова моцны, наступнага не спатрэбіцца. І таму ўсе войскі, усе сілы, якія ён рыхтаваў загадзя, цяпер рушаць на захад – раней, чым плянавалася. Мудры дурань. Бо калі б ён скарыстаў моц на ахову Мордару, каб аніхто туды не прасьлізнуў, дый заняўся паляваньнем на пярсьцёнак – тады ў нас не засталося б надзеі. Ані

пярсьцёнак, ані ягоны носьбіт не мінулі б ворага. Але цяпер ягоны позірк блукае далёка ад уласных земляў, пераважна – па Мінас Тырыце. Хутка, надта хутка моц ягоная абрынецца на горад людзей, нібы навальніца. Бо ён ужо ведае: дасланыя, каб напасьці на Зьвяз Пярсьцёнка, зноў не далі рады. Не захапілі ані пярсьцёнка, ані хобітаў. Калі б справіліся хоць з апошнім, тое было б цяжкой паразай для нас, можа, і непапраўнай. Але ж ня трэба азмрочваць сэрцы ўявай выпрабаваньняў, якія чакалі б хобітаў у Цёмнай вежы. Бо Вораг гэтым разам пацярпеў паразу – дзякуй Саруману.

– Хіба Саруман ня здраднік? – спытаў Гімлі.

– Здраднік. І двойчы да таго ж. Ці ня дзіўна? Анічога з нашых бедаў не падавалася горшым за здраду Ізенградку. Нават паводле звычайнага разьліку, як гаспадар войска й земляў, ён зрабіўся надта моцны. Ён пагражае Рохану й не дае ягоным ваярам дапамагчы Мінас Тырыту, калі галоўны ўдар рушыць з усходу. Ал е ж зброя здрады заўжды небясьпечная для яе ўладара. Саруман сам хацеў захапіць пярсьцёнак, для сябе, ці, сама менш, захапіць хобітаў дзеля ўласных злосных мэтаў. Гэтак нашыя ворагі разам і ўправіліся хіба толькі прынесьці хобітаў з цудоўнай хуткасьцю й так своечасова ў Фангарн. У іншым выпадку нашыя хобіты сюды не патрапілі б! А цяпер ворагі паўнюткія новымі сумневамі. Весткі пра бойку ля Фангарну не сягнулі Мордару, дзякуй вершнікам Рохану. Але Чорны Ўладар ведае, што двох хобітаў захапілі ў Эмін Мюйле й панесьлі ў Ізенградак насуперак волі слуг Мордару. Цяпер ворагу трэба сьцерагчыся яшчэ й Ізенградку, ня толькі Мінас Тырыту. Калі той ня выдужыць, блага будзе Саруману.

– Як шкада, што нашыя саюзьнікі апынуліся паміж імі, – заўважыў Гімлі. – Калі б Мордар межаваў зь Ізенградкам, няхай біліся б, а мы адпачылі б ды паназіралі.

– Пераможца выйшаў бы з гэтай бойкі мацнейшым, чым быў раней, і ўжо пазбаўлены сумневаў, – адказаў на тое Гэндальф. – Але Ізенградак – ня роўня Мордару, хіба толькі Саруман прыдбае пярсьцёнак. А гэта цяпер па-за ягонай моцай. Галоўнай жа пагрозы ён яшчэ ня ведае. Ён шмат чаго ня ведае цяпер. Гэтак не цярпелася яму накласьці рукі на здабычу, што ён ня ўседзеў у хаце й рушыў наперад – сустрэць сваіх пасланцоў ды таемна прасачыць за імі. Але ж не пасьпеў – бітва скончылася да таго, як ён нават наблізіўся да яе. Думкі ягоныя цяпер для мяне як на далоні: ён зьявіўся сюды, а цяпер апантаны сумневам і страхам. Бо ён не сьледапыт. Яму падаецца: вершнікі ўсіх забілі й спалілі на поле бітвы. Ён ня ведае, ці несьлі оркі вязьняў. І ня ведае пра свару паміж ягонымі оркамі й мордарскімі ды пра Крылатага Вестуна.

– Крылаты Вястун! – вохнуў Ляголас. – Я падстрэліў яго з лука Галадрыелі над Сарн Гебірам, зьбіў яго зь нябёсаў. Ён перапалохаў нас усіх. Што гэта за новы жах?

– Такі, які не забіць стрэламі. Ты пацэліў толькі ў пачвару, якая нясе яго. Добра, але той вершнік неўзабаве знайшоў новую. Бо гэта – назгул, адзін зь дзевяцёх, якія цяпер пагражаюць зь нябёсаў. Недалёкі час, калі іхні вусьціш ценем ляжа на апошнія войскі нашых сяброў, хмараю засьціць сонца. Аднак яны пакуль не зьяўляліся за Андуйнам, і Саруман ня ведае пра новае аблічча Прывідаў Пярсьцёнка. Думкі ягоныя цяпер адно – пра пярсьцёнак. Ці несьлі яго оркі? Ці знайшлі роханцы? А што калі Тэядэн, гаспадар Украйны, прыдбае яго й выведае пра ягоную моц? Вось небясьпека, што мроіцца яму. Цяпер ён кінуўся дахаты, у Ізенградак, каб падвоіць ды патроіць націск на Рохан. А пад самым Саруманавым бокам пагроза, на якую ён зусім забыўся, заняты турботнымі думкамі. Ён забыўся на Дрэвабарода.

– Ты зноў размаўляеш сам з сабою, – усьміхнуўся Арагорн, – я ня ведаю Дрэвабарода. Пра двайную здраду Сарумана я здагадаўся, хоць і не пра ўсё. Але ж ня

бачу, да чаго прывяло прыбыцьцё двох хобітаў у Фангарн, калі не лічыць нашай доўгай і марнай пагоні.

– Хвіліначку, хвіліначку! – выгукнуў Гімлі. – Я жадаю ведаць яшчэ адну рэч: гэта Гэндальфа ці Сарумана бачылі мы мінулай ноччу?

– Відавочна, мяне ты ня бачыў. Адкуль вынікае, што ты, напэўна ж, бачыў Сарумана. Безумоўна, мы выглядаем гэтак падобна, што тваё жаданьне зрабіць незашыўную дзірку ў маім капелюшы цалкам зразумелае.

– Файна! – задаволіўся Гімлі. – Я рады, што гэта быў ня ты.

– Так, дабрадзею мой спадару гноме, – пацьвердзіў Гэндальф, зноў засьмяяўшыся, – гэта суцяшае: ведаць, што не ва ўсім памыліўся. Ці не разумею я тое лепей за каго іншага? Але ж я ані ў якім разе не вінавачу цябе за сустрэчу, якую меў. Бо ці ня я сам столькі разоў вучыў сяброў падазраваць нават уласныя рукі,

калі маеш справы з ворагам? У добры час, Гімлі, сын Глойна! Мажліва, калі-небудзь ты пабачыш нас з Саруманам разам – і здолееш адрозьніць!

– А што з хобітамі? – умяшаўся Ляголас. – Мы шукалі іх, а ты, здаецца, ведаеш, дзе яны. Дзе ж яны цяпер?

– З Дрэвабародам і энтамі.

– Энтамі! – выгукнуў Арагорн. – Дык старыя паданьні пра лясных жыхароў і волатаў, якія пасуць дрэвы, – праўда? Яшчэ засталіся ў сьвеце энты? Я думаў, яны – толькі памяць мінулых дзён або ўпрост роханскія казкі.

– Роханскія казкі! – выклікнуў Ляголас. – Ды кожны лясны эльф у Дзіказем'і сьпяваў песьні пра старых анадрымаў і іхнюю доўгую тугу. Але й сярод нас яны – усяго далёкі спомін. Калі б толькі я сустрэў такога пад нашымі нябёсамі, я насамрэч зноў пачуўся б маладым! Адылі Дрэвабарод – гэта ж толькі пераклад слова *Фангарн* на Агульную мову. А ты ж, напэўна, казаў пра асобу. Хто такі гэты Дрэвабарод?

– Не пра малое ты запытаўся. Расповед нават той дробкі, што я ведаю пра ягонае доўгае, павольнае жыцьцё, заняў бы зашмат часу. Дрэвабарод і ёсьць Фангарн, вартавы лесу, старэйшы за ўсіх жывых, якія яшчэ ходзяць пад сонцам гэтага сусьвету. Спадзяюся, Ляголас, што ты калі-кольвек насамрэч сустрэнесься зь ім. Мэры й Піпіну пашанцавала. Яны спаткалі яго прама тут, дзе мы сядзім зараз. Сюды ён прыйшоў два дні таму, а тады зьнёс хобітаў да свайго жытла. Далёка адсюль, ля караніскаў гары. Дрэвабарод часьцяком заходзіць сюды, асабліва калі непакоіцца й весткі з навакольля турбуюць яго. Я бачыў, як чатыры дні таму ён крочыў між дрэваў. Мяркую, ён заўважыў мяне, бо прыпыніўся. Але я ня стаў размаўляць, бо глыбока задумаўся й быў надта стомлены пасьля барацьбы з Вокам Мордару. І ён не загаварыў, не паклікаў.

– Верагодна, і ён палічыў, што бачыць Сарумана, – сказаў Гімлі. – Але ж ты гаворыш пра яго як пра сябра. А нас папярэджвалі: Фангарн небясьпечны!

– Небясьпечны? – выклікнуў Гэндальф. – Так, і я таксама небясьпечны, болей за любога, каго ты можаш сустрэць. Хіба толькі цябе жыўцом прывалакуць да стальца Чорнага Ўладара. І Арагорн небясьпечны, і Ляголас! Цябе акаляюць небясьпекі, сын Глойна, бо й сам ты небясьпека, і яшчэ якая. Безумоўна, Фангарн такі, і не ў апошнюю чаргу для тых, што махаюць сякерамі, але ж ён і мудры, і добры, нягледзячы на тое. Ягоная павольная доўгая злосьць намнажалася й закіпала, і лес паўнюткі ёю. Хобіты й прынесеныя імі зьвесткі выплеснулі яе вонкі. Неўзабаве яна пабяжыць струменем, бы навала патопу, і захлісьне Ізенградак і ягоныя сякеры. Здарыцца рэч, пра якую ня чулі ад Даўніх дзён: энты абудзяцца й спазнаюць сваю моц.

– І на што ж яны здольныя? – зьдзівіўся Ляголас.

– Ня ведаю. Мяркую, ня ведаюць і яны самі. Ну, пабачым, – адказаў Гэндальф і змоўк, нахіліўшы галаву ў задуменьні.

Сябры глядзелі на яго. Сонечны прамень, прабіўшыся праз аблокі, упаў на ягоныя далоні – і падалося, яны поўныя сьвятлом, як келіх вадою. Тады Гэндальф зірнуў угору, проста на сонца.

– Раніца праходзіць, – вымавіў ён. – Неўзабаве павінны йсьці й мы.

– Ці выправімся мы шукаць нашых сяброў да Дрэвабарода? – спытаў Арагорн.

– Не, ня гэтым шляхам вы мусіце рушыць. Я абнадзеіў вас. Але ж гэта толькі надзея, не перамога. Вайна прыйшла да ўсіх нашых сяброў. Вайна, у якой толькі карыстаньне пярсьцёнкам гарантуе перамогу. Цяжкі тое сум для мяне й вялікі страх, бо шмат будзе зьнішчана й магчыма страціць усё. Я – Гэндальф, Гэндальф Белы, але Чарноцьце пакуль дужэйшае за мяне.

Ён падняўся й зірнуў на ўсход, прыкрыўшы вочы, нібы бачыў у далечыні рэчы, якіх аніхто іншы згледзець ня мог. Тады пахітаў галавою й сказаў ціхенька:

– Не, ён ужо недасягальны для нас. І гэтым нам, нарэшце, трэба задаволіцца. Болей думка скарыстаць пярсьцёнак нас не спакушае. Перад намі яшчэ пагроза, амаль неадужная, адчайная, але ад пагрозы страціць сябе мы пазбаўленыя.

– Не сумуй, Арагорне, сын Араторна, – дадаў, павярнуўшыся. – Не шкадуй пра свой выбар у даліне Эмін Мюйлу, не называй пагоню дарэмнай. Ты абраў сярод сумневаў шлях, які падаўся слушным. Справядлівы выбар – і ўзнагароджаны. Бо менавіта таму мы сустрэліся ў патрэбны час – інакш было б надта позна. Але ж твае сябры цалкам выканалі свой абавязак. Далейшы твой шлях будзе абраны абяцаньнем, якое ты даў. Цябе перад табою – Эдорас і Тэядэн у залі продкаў. Ты патрэбны там. Няхай зязьзяе сьвятло Андарыля ў сечы! Меч доўга чакаў яе. У Рохане вайна й горшае ліха: з Тэядэнам блага.

– Дык мы не пабачым зноў нашых вясёлых маленькіх сяброў? – спытаў Ляголас.

– Я не казаў таго, – вымавіў Гэндальф. – Хто ведае? Май цярплівасьць. Імкні туды, дзе ты патрэбны, і ня траць надзеі! У Эдорас! Я таксама рушу туды.

– Доўгі шлях туды чалавеку, старому ці маладому, – заўважыў Арагорн. – Баюся, бітвы скончацца яшчэ да таго, як я дабяруся датуль.

– Пабачым, пабачым, – сказаў Гэндальф. – Ці з мною ты?

– Так, мы рушым разам, – пацьвердзіў Арагорн. – Але ж я не сумняюся – ты дабярэсься туды раней за мяне, калі толькі пажадаеш.

Ён устаў і паглядзеў на Гэндальфа доўга й пільна, Астатнія моўчкі пазіралі на іх двох. Шэрая постаць чалавека Арагорна, сына Араторна, была высокая, суворая, як камень, рука ляжала на цаўі меча. Выглядаў ён як кароль, што з марской смугі крочыў на бераг меншага, слабейшага племені. А перад ім стаяў пахілы стары, зьзяючы белым, нібы ад сьвяцільні ўнутрох, зь цяжарам гадоў на плячах, але ж зь сілаю, большай чым у любога караля.

– Ці ня праўду казаў я, Гэндальфе, – вымавіў Арагорн нарэшце, – што куды заўгодна здольны ты сягнуць раней за мяне? І яшчэ скажу я: ты наш ачольца й правадыр. У Чорнага Ўладара – дзевяцёра. Але ж у нас адзіны, мацнейшы за іх усіх, – Белы Вершнік. Ён прайшоў праз полымя й бездань, і дзевяцёра адступяць перад ім. Мы пойдзем, куды ён павядзе нас.

– Так, мы пойдзем разам за табой, – пацьвердзіў Ляголас. – Але ж было б лягчэй на сэрцы, калі б ты спачатку распавёў, што адбылося ў Морыі. Ці не маглі б мы затрымацца, каб пачуць пра цудоўнае выратаваньне?

– Я ўжо зашмат затрымаўся, – адказаў Гэндальф. – У нас няма часу. А тут нават калі б мы мелі год, каб бавіцца расповедамі, – і тое ўсяго я не распавёў бы.

– Тады распавядзі, на што хопіць часу, – папрасіў гном. – Калі ласка, Гэндальф, скажы, як жа ты справіўся з балрагам?

– Не мянуй яго! – выгукнуў Гэндальф, і на момант падалося – цень болю прайшоў праз ягоны твар, і ён сядзеў моўчкі, выглядаючы старэйшым за сьмерць. – Доўга падаў я, – вымавіў нарэшце павольна, быццам цяжка ўзгадваючы. – Доўга падаў, і ён падаў разам з мною. Ягонае полымя абгарнула мяне. Абпаліла. Тады мы ўпалі ў воды, і была цемра. Ільдзяная, як плынь сьмерці. Яна амаль высьцюдзіла маё сэрца.

– Бездань зеўрае пад мостам Дарына, анікому ня вымераць яе, – дадаў Гімлі.

– Ёсьць у яе дно – па-за сьветам, па-за вымярэньнем, – сказаў Гэндальф. – Я сягнуў яго, апошніх найглыбейшых каменных караніскаў. Ён быў з мною. Полымя ягонае згасла, ён зрабіўся сьлізкі й удушальна моцны. Біліся мы далёка пад жывою зямлёю, біліся незьлічоны час. Ён усё намагаўся схапіць мяне, здушыць, а я ўсё сек яго. Нарэшце ён кінуўся ўцякаць па чорных тунэлях. Ня Дарынавым народам зробленых, Гімлі, сын Глойна. Далёка, нашмат глыбей за найглыбейшыя гномскія капальні, нашую зямлю грызуць безыменныя пачвары. Нават Саўрон ня ведае іх, бо яны старэйшыя за яго. Там прайшоў я, але ня буду распавядаць, ня буду азмрочваць сьвятло дня. У тым адчаі мой вораг быў адзіным маім ратункам, і я гнаўся за ім, не адступаючы ані на крок. Так ён вывеў мяне да таемных хадоў Казад

Думу. Надта добра ведаў ён іх усе. Мы рушылі ўгару й угару, пакуль ня выбраліся на Бясконцую Лесьвіцу.

– Даўно згубілі мы яе, – заўважыў Гімлі. – Шмат хто казаў: яна існуе толькі ў паданьнях, аніколі не будавалі яе. Іншыя кажуць: яна пабураная.

– Яе пабудавалі, і яна не пабураная, – сказаў Гэндальф. – Ад найніжэйшага скляпеньня да найвышэйшага піку караскаецца яна непарыўнай вітуніцаю ў шмат тысячаў прыступак і выводзіць у Дарынаву вежу, вычасаную ў суцэльным камені Зіраксігілу, у найвышэйшай скале Срэбрапіку. Там, наверсе, скрозь сьнег пазірае адзінае вакно, а за ім – вузкая тэраса ў галавакружнай вышыні над усім сусьветам. Сонца бязьлітасна паліць там, хоць усё ўнізе схаванае покрывам аблокаў. Ён скочыў праз вакно на тэрасу, а калі я крочыў за ім, зноўку выбухнуў полымем. Аніхто ня бачыў той бітвы на вяршыні піку, а калі бачыў бы, то песьні пра яе, напэўна, сьпявалі б і праз стагодзьдзі, – тут Гэндальф нечакана засьмяяўся. – Але пра што сьпяваць? Тыя, што пазіралі здалёк, палічылі, што на вяршыні шалее бура. Грымоты яны пачулі й казалі: маланкі б'юць у Келебдыл дый адскокваюць, паламаныя, нібы языкі полымя. Ці ж досыць такога апісаньня? Шчыльнай хмараю дыму й пары агарнула нас. Лёд сыпаўся дажджом. Я перамог, скінуў з тэрасы свайго ворага, і, падаючы, ён раструшчыў горны схіл. А тады цемра ўзяла мяне. Я блукаў па-за думкамі, па-за часам, рушыў далёка па шляхох, пра якія я ня стану распавядаць. Голым вярнулі мяне ў гэты сьвет – на кароткі час, зьдзейсьніць маё прызначэньне. Голым ляжаў я на вяршыні гары. Вежа за мною ператварылася ў друз, вакно зьнікла. Лесьвіцу загрувасьціла абпаленае й патрушчанае каменьне. Самотны я быў, забыты й бездапаможны на цьвёрдым ікле халоднага сусьвету. Ляжаў, пазіраючы ўгору, зоры кружлялі нада мною, і кожны дзень падаваўся даўжэйшым за жыцьцё зямлі. Слаба

даносіліся да майго слыху згукі ўсёй зямлі: народжанага й каналага, сьпеваў і плачу, павольнага, спрадвечнага стогну абцяжаранага каменю. Там нарэшце знайшоў мяне зноў Гвайхір Гаспадар Вятроў, падняў і панёс прэч.

"Мой заўсёдны лёс – быць тваёю ношай, верны мой сябра", – сказаў я.

"Ношай ты быў калісьці, – азваўся ён, – але ж не цяпер. Лягчэйшы за лебядзінае пёрка ты ў маіх кіпцюрох. Промні сонца працінаюць цябе. Насамрэч, падаецца, я й не патрэбны табе болей: выпушчу з кіпцюроў – і ты паляціш зь ветрам".

"Не выпускай! – усклікнуў я, бо зноў адчуў у сабе подых зямнога жыцьця. – Аднясі мяне ў Латлорыйн!"

"Гэтак і загадала мне панна Галадрыель, калі паслала шукаць цябе", – адказаў ён.

Гэтак сягнуў я Карас Галадхану й вынайшаў, што вы толькі выправіліся. Я затрымаўся там, у нестарэлым часе той зямлі, дзе новыя дні прыносяць гаеньне, а не распад. І я ацаліўся там, і быў апрануты ў белае адзеньне. Даваў парады й атрымліваў іх. Тады я прыбыў сюды таемным шляхам і прынёс некаторым з вас весткі. Арагорну мяне прасілі сказаць такое:

*Дзе ж твае дунаданы цяпер, кароль Элесар?*
*Дзе ж сёньня радзіна твая, гаспадар і ваяр?*
*Набліжаецца час забытым рушыць на бой.*
*Харугва Шэрая з Поўначы йдзе за табой.*
*А табе прызначана рушыць у цемру й жах:*
*Вартуюць Мёртвыя патаемны да мора шлях.*

Ляголасу яна даслала такія словы:

*Ляголас Зялёны Ліст, пад шчыльнай заслонай лясной*
*Доўга ў спакоі ты жыў. Сьцеражыся ж хвалі марской!*
*Калі раптам мэваў пачуеш плач над сваёй галавой,*
*У краіне зьдзічэлых дрэў назаўжды страціш спакой.*

Гэндальф змоўк і заплюшчыў вочы.

– А мне яна не перадала аніякіх словаў? – спытаў Гімлі сумна, павесіўшы галаву.

– Змрочныя яе словы, – сказаў Ляголас, – і няшмат яны кажуць тым, хто атрымаў іх.

– Ну, дык што? – прабурчэў Гімлі.

– Што? Ты хацеў бы, напэўна, каб яна ўпрост прадказала табе сьмерць? – спытаўЛяголас.

– Так, калі ёй няма анічога іншага сказаць мне.

– Пра што гэта вы? – спытаў Гэндальф, расплюшчыўшы вочы. – Так, па-мойму, я магу здагадацца пра сэнс яе словаў. Прабач, Гімлі! Я зноўку задумаўся над пасланьнямі. Але ж ёсьць і для цябе, і ня цьмянае, і ня сумнае. "Гімлі, сыну Глойна, – казала яна, – вітаньне ад ягонай Панны. Носьбіт маёй кудзеркі, куды ні рушыш ты, думкі мае заўжды з табою. Але ж пасьцеражыся: прыкладвай сваю сякеру толькі да адпаведных дрэваў!"

– У шчасьлівы час вярнуўся ты, Гэндальф! – загаласіў гном дый пусьціўся ў скокі, сьпяваючы ўголас на дзівоснай гномскай мове. – Наперад, наперад! – крычаў, махаючы сякерай. – Гэндальфава галава цяпер недатыкальная, дык знойдзем жа тую, якую мажліва й трэба сячы!

– Далёка шукаць не спатрэбіцца, – сказаў Гэндальф, падымаючыся. – Хадзем! Досыць ужо бавіць час гамонкаю старых сяброў. Цяпер трэба сьпяшацца.

Зноў загарнуўся ў стары падраны плашч і пайшоў. Увасьлед за ім астатнія хутка спусьціліся з тэрасы й крочылі назад празь лес, берагам Энтуі. Рушылі моўчкі, пакуль не сягнулі травы на ўскрайку Фангарну. Коней анідзе не было відаць.

– Яны не вярнуліся, – пажаліўся Ляголас. – Стамляльны ж будзе шпацыр!

– Няма часу для шпацыру, – пахітаў галавою Гэндальф. – Асабіста я – паеду.

Падняў галаву й працягла сьвіснуў, і так гучна й пранізьліва, што астатнія аслупянелі ад зьдзіўленьня: гэткія гукі з вуснаў старога! Тройчы ён сьвіснуў, і падалося: усходні вецер даносіць здалёк іржаньне. Крыху пачакалі. І вось – пошчак капытоў, спачатку лёгкія дрыжыкі зямлі, якія мог успрыняць толькі Арагорн, легшы на траву, а тады – гучны, выразны, хуткі перастук.

– Не адзін конь набліжаецца, – заўважыў Арагорн.

– Вядома, – пацьвердзіў Гэндальф. – Для аднаго мы ўсе – надта цяжкая ноша.

– Тры кані, – прыгледзеўся Ляголас. – Як шпарка бягуць! Хазуфэл, так, і мой сябра Арад побач. І іншы зь імі, надзвычай вялікі конь. Я падобных да яго ня бачыў.

– І ня ўбачыш, – сказаў Гэндальф. – Бо гэта Цяняр, правадыр статку мэярас, паноў над усімі коньмі, і нават Тэядэн, кароль Рохану, ня бачыў лепшага. Ці ж ня зьзяе ён срэбрам, ня рушыць, нібы хваля? Да мяне ён імкнецца, бо ён – конь Белага Вершніка. Разам мы выправімся на бітву.

Не пасьпеў стары чараўнік прамовіць, як вялікі конь ужо мчаў угару па схіле да яго. Поўсьць каня блішчэла, грыва вілася па ветры. Два кані беглі за ім. Пабачыўшы Гэндальфа, Цяняр запаволіў ходу й гучна заржаў. Тады асьцярожна крочыў наперад, схіліў ганарлівую галаву й крануў носам шыю старога.

Гэндальф пагладзіў яго й сказаў:

– Адсюль далёка да Долага Яру, мой сябра. Але ж ты мудры, хутканогі й заўжды зьяўляесься, калі патрэбны. Цяпер рушым разам і не разьвітаемся болей у гэтым сусьвеце!

Неўзабаве дабеглі астатнія коні й пасталі спакойна, нібы чакаючы загаду.

– Мы выпраўляемся да Мэдусэльду, да залі вашага гаспадара Тэядэна, – сказаў ім Гэндальф сувора.

Яны нахілілі галовы.

– Нам трэба сьпяшацца, таму, з вашага дазволу, сябры, мы паедзем верхам. Калі ласка, бяжыце з усім магчымым спрытам. Хазуфэл панясе Арагорна, Арад – Ляголаса. Гімлі я пасаджу перад сабою, з дазволу Ценяра. Зараз толькі пап'ем крыху, а пасьля адразу выправімся.

– Цяпер я разгадаў частку загадак мінулае начы, – усьміхнуўся Ляголас, лёгка ўскокваючы на Арадаву сьпіну. – Ад страху коні зьбеглі ці не, але пасьля сустрэлі свайго правадыра, Ценяра, і павіталі яго з радасьцю. Ты ведаў, Гэндальф, што ён непадалёк?

– Так, бо ў думках паклікаў яго, просячы пасьпяшацца. Яшчэ ўчора ён быў далёка на поўдзень адсюль. Хутка ён вернецца туды з мною!

Гэндальф пагаварыў зь Ценяром, і конь пабег хоць і спрытна, але ж так, каб астатнія не адставалі. Неўзабаве раптоўна павярнуў і, абраўшы месца зь ніжэйшымі берагамі, перайшоў раку й рушыў на поўдзень па роўнядзі, бязьлеснай і бясконцай. Вецер гнаў шэрыя хвалі па бязьмежным моры травы. Ані прыкметы шляху ці сьцежкі не рысавалася на ёй, але Цяняр бег упэўнена й нястрымна.

– Ён кіруе напрамкі да заляў Тэядэна ля ўзножжаў Белых гор, – патлумачыў Гэндальф. – Так хутчэй. Глеба лепшая ў Прыўсходзьдзі, за ракой, дзе й праходзіць галоўная сьцяга на поўнач, але Цяняр знойдзе шлях празь любую багну й даліну.

Шмат гадзінаў ехалі па лугох і прырэчных панізьзях. Часьцяком трава сягала ажно каленаў вершнікаў, і коні нібы плылі праз шэра-зялёнае мора. Траплялася мноства прыхаваных азёркаў і суцэльныя валокі асоту, што калыхаўся над здраднаю багнай. Аднак Цяняр знаходзіў шлях, і іншыя коні крочылі сьледам. Сонца павольна каціла да захаду. Вершнікі пабачылі яго як барвовае полымя, якое згасала за роўнядзьдзю ў траве. На самым даляглядзе адблісквалі барваю далёкія адгор'і. Падавалася, уздымаўся дым, фарбуючы сонечны дыск у колер крыві – нібы сонца насамрэч запаліла траву, скатваючыся за край зямлі.

– Там – Брама Рохану, – паведаміў Гэндальф. – Яна зараз амаль проста на захад ад нас. Там стаіць Ізенградак.

– Я бачу вялікі дым, – сказаў Ляголас. – Што тое можа быць?

– Бітва й вайна! – вымавіў Гэндальф. – Рушым!

## *6. Кароль Залатой залі*

Скакалі пад заходным сонцам, праз змрок, што паволі шчыльнеў, праз ноч. Калі нарэшце прыпыніліся й зьлезьлі з коней, нават Арагорн быў стомлены й змардаваны. Адпачыць Гэндальф дазволіў усяго некалькі гадзінаў. Ляголас з Гімлі заснулі, Арагорн ляжаў на сьпіне, выцягнуўшыся, а Гэндальф праcтаяў увесь час, абапершыся на кій, пазіраючы ў цемру, на захад і на ўсход. Цішыня вісела, было не відаць й не чуваць аніводнай жывой істоты. Пранізьлівы вецер гнаў па небасхіле доўгія аблокі. Вандроўнікі абудзіліся пад халодным месяцам і рушылі зноў, гэтаксама хутка, як і ўдзень.

Ехалі гадзіну за гадзінай. Гімлі торкаў носам і, напэўна, зваліўся б, калі б Гэндальф не падхапіў яго й не патрос. Хазуфэл і Арад, стомленыя, але ганарлівыя, беглі за сваім нястомным правадыром – шэрым, ледзь бачным ценем перад імі. Вярста за вярстой заставаліся за сьпінамі. Малады месяц схаваўся ў аблокі на захадзе.

Схаладнела. Пакрысе на ўсходзе змрок танчэў і шарэў. Далёка леваруч чырвоныя промні выбліснулі над чорнымі сьценамі Эмін Мюйлу. Сьвітанак запаліўся ясны й зыркі. Вецер пранёсься па роўнядзі, узварушыўшы пахілую траву. Зьнянацку Цяняр спыніўся й заржаў. Гэндальф паказаў наперад.

– Зірніце! – выклікнуў Гэндальф, і вандроўнікі ўзьнялі стомленыя вочы.

Перад імі ўздымаліся горы Поўначы – белагаловыя, чарнабокія. Травяная роўнядзь, нібы мора, падступала да купы пагоркаў ля ўзножжаў, абцякала іх, уліваючыся ў шматлікія змрочныя й цёмныя, не кранутыя сьвятлом золку даліны, што заходзілі, віючыся, у глыбіню вялікіх гор. Найшырэйшы дол разьвінуўся перад вандроўнікамі доўгім залівам сярод узгор'яў. Далёка, ля вытоку таго долу, грувасьціліся пікі, а сярод іх высіўся адзін, які з роўнядзі падаваўся самотным вартавым у вышыні. Ля ягоных узножжаў срэбнай ніткай плынеў струмень і рабіўся ракой, якая выбягала з даліны. На вяршыні далёкага піку бліснула золатам узыходнае сонца.

– Скажы нам, Ляголас, што ты бачыш перад сабою! – загадаў Гэндальф.

Ляголас зірнуў наперад, даланёю прыкрываючы вочы ад касых промняў маладога сонца.

– Бачу белы струмень, які зьбягае зь сьнягоў, – давёў ён. – Там, дзе плынее ён з-пад даліновага ценю, на ўсходнім беразе стаіць зялёны пагорак. Там роў з магутнай сьцяною ды жывой агароджай. За імі – стрэхі хатаў, а пасярэдзіне, на высокай тэрасе, стаіць высокі чалавечы палац. Маім вачам падаецца – дах ягоны залаты. Адбітак зьзяе далёка над зямлёю. І калёны брамы палацу таксама залатыя. Ля іх стаяць вартавыя ў зыркіх латах. Анікога болей – астатнія яшчэ сьпяць, напэўна.

– Эдорас называецца гэтае селішча, – патлумачыў Гэндальф. – А Залаты палац – Мэдусэльд. Там жыве Тэядэн, сын Тэнгела, кароль Роханскай Украйны. Мы дабярэмся туды з нованароджаным днём. Цяпер шлях перад намі ясны. Але мусім рушыць асьцярожней, бо вайна ў гэтым краі й рахірымы, гаспадары коней, ня сьпяць бестурботна, хоць бы тое й падавалася здаля. Мая парада: не агаляйце зброі, не сьпяшайцеся з словамі, пакуль не паўстанем перад Тэядэнавым пасадам.

Сьветлаю й яснаю раніцою пад птушыныя сьпевы сягнулі падарожнікі струменю. Ён спрытна выбягаў на роўнядзь, перакрываючы шлях да Эдорасу, і ля ўзножжаў узгор'я шырокім паўколам паварочваў на ўсход, каб там, у далечыні,

далучыцца да Энтуі між зарослых асотам панізьзяў. Мясьціны тут былі зялёныя, вільготныя. Цягнуліся ўздоўж ракі паплавы, на іх расло мноства вербаў. Ужо чырванелі кончыкі іхніх пругкіх галінак, адчуваючы надыход вясны. Непадалёк цямнеў і брод паміж нізкімі берагамі, надта стаптанымі капытамі. Падарожнікі перайшлі раку й рушылі шырокім набітым ды каляіністым шляхам угару па даліне.

Ля ўзножжа абнесенага сьцяною ўзгорку шлях праходзіў побач з мноствам курганоў, высокіх і зялёных. Траву на іхніх заходніх баках нібы прысыпала сьнегам: маленькія незьлічоныя кветкі зьнічкамі зьзялі сярод травы.

– Зірніце! – вымавіў Гэндальф. – Якія сьветлыя вочы кветак сярод травы! *Вечнапомныя* клічуць іх, *сімбэльмун* на чалавечай мове гэтай зямлі, бо квітнеюць яны ўвесь год і растуць там, дзе ляжаць пад зямлёю памерлыя. Мы сягнулі вялікіх скляпеньняў, дзе сьпяць Тэядэнавы продкі.

– Сем курганоў леваруч і дзевяць справа, – зазначыў Арагорн. – Шмат доўгіх чалавечых жыцьцяў таму пабудавалі Залаты палац.

– Пяць сотняў разоў з таго часу аблятала барвянае лісьце ў маім доме, у Ліхалесьсі, – задумаўся Ляголас, – але ж для нас гэта толькі драбніца.

– А для вершнікаў Украйны – такая даўніна, што ўспамін пра будаваньне захаваўся толькі ў песьнях і паданьнях далёкай мінуўшчыны, – сказаў Арагорн, – а зьвесткі пра тое, што было да таго, загінулі ў туманах часу. Цяпер яны называюць гэтую зямлю сваёю пракавечнаю айчызнаю, і мова іхняя ўжо адрозьніваецца ад мовы іх паўночных сваякоў.

І пачаў напяваць ціхенька на павольнай мове, невядомай эльфу й гному, але ж яны прыслухаліся, бо музыкай падаваліся самыя яе гукі.

– Гэта й ёсьць мова рахірымаў? – перапытаў Ляголас. – Яна падобная да іх зямлі – багатая, раздольная, бы лугі, і суворая ды цьвярдая, як горы. Аднак я не разумею песьні, хоць і чуецца ў ёй сум сьмяротных пра свой лёс.

– На Агульнай мове, – прамовіў Арагорн, – я пераказаў бы яе так:

*Дзе ж цяпер конь і вершнік, дзе поклічы баявыя?*
*Дзе ж цяпер шлем і броні ды кудзеры залатыя?*
*Дзе ж тыя рукі на струнах і полымя маладое?*
*Дзе ж тыя вёсны й леты й збожжа каласавое?*
*Горным дажджом мінулі, ветрыкам над травою,*
*Сплынелі ў цень заходні, схаваліся за гарою.*
*Хто ж зьбярэ цяпер попел нашага шчасьця й гора?*
*Хто ж нам гады былыя цяпер прынясе з-за мора?*

Гэтак казаў забыты роханскі паэт шмат гадоў таму, узгадваючы, які высокі й моцны быў Эёрл Малады, як прымчаў ён з Поўначы. Нібы крыламі былі капыты ягонага каня, Феларофа, бацькі роханскіх коней. Песьню гэтую людзі яшчэ пяюць вечарамі.

Пад гэтыя словы вандроўнікі мінулі маўклівы шэраг курганоў. Гасьцінец віўся па схіле ўзгор'я й вывеў нарэшце да шырокіх, адкрытых вятрам сьценаў і брамы Эдорасу.

Тут сядзела мноства ваяроў у зыркіх латах. Пабачыўшы вершнікаў, вoі паўскоквалі й умомант загарадзілі шлях дзідамі.

– Стаяць, незнаёмцы! – загукалі на мове Рытармаркі й запатрабавалі імёны вандроўнікаў і мэту прыезду.

Зьдзіўленьне было ў іхніх вачох і няшмат сяброўства. На Гэндальфа ж паглядалі зусім змрочна.

– Я дык разумею вашую гаворку, – адказаў чараўнік на роханскай, – але ж няшмат хто па-за межамі Рохану яе ведае. Чаму ж не размаўляць на Агульнай мове, як прынята на Захадзе, калі хочаце атрымаць адказы?

– З волі караля Тэядэна анікому нельга крочыць за гэтую браму, апрача тых, хто ведае нашую мову й сябра нам, – адказаў адзін з ахоўнікаў. – Анікога не вітаем мы цяпер, у дні вайны, апрача нашых суродзічаў ды тых, хто прыйшоў з Мундбургу, з Гондарскай зямлі. А хто вы такія, што рушыце бесклапотна праз роўнядзь у дзіўных чужынскіх апратках ды на конях, гэтак падобных да нашых? Доўгі час мы пільнуем тут, здалёк заўважылі вас. Аніколі ня бачылі мы ані вершнікаў дзівосьнейшых, ані каня цудоўнейшага за таго, які нясе двох з вас. Калі мае вочы не падманутыя чарамі, ён – адзін з *мэярас*. А мо вы чараўнікі, Саруманавы выведнікі, а мо прывіды ягонага вядзьмарства? Давядзіце ж нам, і хутчэй!

– Мы не прывіды, – адказаў Арагорн. – І вочы вам ня хлусяць.

Бо насамрэч мы едзем на вашых конях, як вы, мяркую, добра ведалі яшчэ да таго, як спыталі. Аднак нячаста злодзей вяртае скрадзенага каня да гаспадарскага стойла. Пад намі – Хазуфэл і Арад, якіх Эямэр, трэці маршалак Украйны, пазычыў нам усяго два дні таму. Як і абяцалі, мы вяртаем коней. Ці Эямэр не вярнуўся, не прынёс зьвестак пра нас?

Вартавы зірнуў заклапочана.

– Пра Эямэра я анічога ня чуў, – адказаў ён. – Калі ты кажаш праўду, тады, бясспрэчна, Тэядэну належыць выслухаць цябе. Магчыма, вас нейкім чынам і чакалі. Усяго дзьве начы таму Зьмеяроты прыбег да нас і папярэдзіў, што паводле Тэядэнавага загаду аніякага чужынца за браму пускаць нельга.

– Зьмеяроты? – перапытаў Гэндальф, пазіраючы пахмура на вартаўніка. – Ну, калі так, тады й гаворка залішняя! Не да Зьмеяротага я прыехаў – да гаспадара Ўкрайны! Я сьпяшаюся. Ці ты абвесьціш сам, ці пашлеш каго іншага паведаміць пра нашае прыбыцьцё?

Гэндальфавы вочы пагражальна заблішчэлі з-пад броваў.

– Так, я пайду й абвешчу, – павольна адказаў вартавы. – Але ж пра каго мне казаць? Якія імёны? А вашаць хто? На выгляд спадар стары й стомлены, але, адчуваю, насамрэч – надзвычай моцны й люты!

– Добра бачыш і кажаш слушна, – вымавіў чараўнік. – Бо я Гэндальф. Я вярнуўся. І зірні – я таксама вяртаю каня. Пада мною – Цяняр Вялікі, якога аніхто ня мог утаймаваць. А побач з мною – Арагорн, сын Араторна, нашчадак і спадчыньнік каралёў. Ён кіруецца ў Мундбург. Таксама з намі эльф Ляголас і гном Гімлі, нашыя сябры. Ідзі ж і паведамі свайму гаспадару, што мы чакаем ля брамы й жадаем сумовіцца зь ім, калі ён дазволіць нам завітаць у ягоны палац.

– Дзівосныя ж вашыя ймёны! Але я давяду іх, як прасіў спадар, і даведаюся волю гаспадара, – адказаў вэртавы. – Пачакайце крыху тут, і я прынясу адказ, які ён дасьць. Але ж на шмат не спадзявайцеся! Часы цяпер цяжкія.

І хутка рушыў прэч, пакінуўшы чужынцаў пад пільным наглядам сваіх паплечнікаў.

Неўзабаве вярнуўся.

– Хадзіце за мною! – загадаў. – Тэядэн дазваляе вам перамовіць зь ім. Але ж усялякую зброю, нават кій, пакіньце на ганку палацу. Вартавыя паклапоцяцца пра яе.

Змрочная брама расчынілася. Вандроўнікі рушылі за яе пешкі, цугам, сьледам за вартавым. Ішлі па шырокай вуліцы, брукаванай абчасанымі камянямі. Яна то вілася па схіле, то падымалася па кароткіх лесьвіцах з файна зробленых прыступак. Мінулі мноства драўляных дамоў з зачыненымі змрочнымі дзьвярыма. Побач з вуліцаю ў каменнай прорыні бег струменьчык чыстай, празрыстай вады, узблісקваючы й вуркочучы. Нарэшце сягнулі вяршыні пагорку, зялёнай і пляскатай. Пасярод яе ўздымаўся курган, ля ўзножжа якога зыркая крыніца вырывалася на паверхню з каменя, вычасанага на падабенства конскай галавы. Пад той галавою было шырокае азерца. Вада пераліваласяцеразь ягоны край і сьцякала далей у канаўку ўздоўж вуліцы. На курган вялі каменныя ўсходы, высокія й шырокія, а паабапал верхняй прыступкі стаялі вычасаныя з каменю лавы. На іх сядзелі ахоўнікі з аголенымі мечамі на каленях. Іх заплеценыя залатыя валасы косамі спадалі на плечы, сонца зіхацела ў зялёных тарчах, асьляпляльна зьзяла на доўгіх кальчугах. Калі вартавыя ўсталі, то падаліся вышэйшымі за сьмяротных людзей.

– Дзьверы палацу перад вамі, – сказаў вартавы-правадыр. – Цяпер я мушу вярнуцца да майго посту перад брамаю. Бывайце! І хай гаспадар Украйны будзе літасьцівы да вас!

Павярнуўся й хутка рушыў назад, да брамы. Вандроўнікі пад пільнымі позіркамі ахоўнікаў падняліся па доўгай лесьвіцы. Ахова стаяла моўчкі, нерухома, пакуль Гэндальф ня крочыў на забрукаваную вяршыню кургану. Тады ясныя, звонкія галасы выгукнулі словы вітаньня на роханскай мове.

– Вітаем дальніх вандроўнікаў! – і мечы павярнуліся трымальнамі да прышлых – на знак міру.

Зялёныя празрыстыя камяні на трымальнах бліснулі пад сонцам. Тады адзін з ахоўнікаў крочыў наперад ды абвесьціў на Агульнай мове:

– Я ахоўнік Тэядэнавых дзьвярэй. Хама маё ймя. Я прашу вас: пакіньце зброю тут перад тым, як увайсьці.

Тады Ляголас працягнуў яму свой корд з срэбным цаўём, сагайдак ды лук.

– Пільнуйце ўважліва, – папрасіў эльф. – Бо яны – з Залатога лесу. Панна Латлорыйну дала мне іх.

Подзіў адбіўся ў вачох ахоўніка, і ён пасьпешліва паклаў зброю ля сьцяны, нібы баючыся нат кранаць яе.

– Аніводны чалавек не кране іх, я абяцаю, – сказаў ён.

Арагорн вагаўся.

– Не ў маёй волі, – сказаў ён, – адкладваць мой меч ці перадаваць Андарыль у рукі іншаму чалавеку.

– На тое воля Тэядэна, – заўважыў Хама.

– Я ня ўпэўнены, што воля Тэядэна, сына Тэнгела, хоць ён і гаспадар Украйны, стаіць вышэй за волю Арагорна, сына Араторна, нашчадка Элендыля й кароны Гондару.

– Гэты палац – дом Тэядэна, а не Арагорна, нават калі б ён ачоліў Гондар замест Дэнэтара, – Хама адсунуўся да дзьвярэй і перагарадзіў шлях.

Зараз ягоны меч паглядаў вастрыём на чужынцаў.

– Пустая гаворка, – зазначыў Гэндальф. – Марны й Тэядэнаў загад, але ж няма сэнсу адмаўляць і пярэчыць. Кароль вольны ў сваёй залі, мудрасьць тое ці глупства.

– Слушна, – пагадзіўся Арагорн. – І я, як госьць, зрабіў бы тое, што пажадаў гаспадар жытла, няхай і апошняй лясной хаціны, калі б мой меч ня быў Андарыль.

– Як ні называўся б меч, – запярэчыў Хама, – спадар пакіне яго тут альбо застанецца біцца на самоце супраць усіх ваяроў Эдорасу.

– Не на самоце! – прабурчэў Гімлі, мацаючы пальцам лязо сякеры й змрочна ацэньваючы ахоўніка, нібы маладое дрэўца, якое гном ужо прымерыўся сячы. – Не на самоце!

– Досыць! – спыніў Гэндальф. – Мы ўсе тут сябры. Ці мусім быць, бо нашыя сваркі толькі на радасьць Мордару. Ня маю часу на глупства. Вось табе мой меч, шаноўны Хама. Пільнуй яго добра. Гламдрынг клічуць яго, бо даўна ён скаваны эльфамі. Цяпер дазволь мне ўвайсьці. Ну, давай жа, Арагорн!

Арагорн павольна расшпіліў пас і сам паставіў меч ля сьцяны.

– Тут я пакідаю яго, – абвесьціў ён, – і загадваю: не кранаць яго і не дазваляць анікому кранууць. Бо ў гэтых эльфавых похвах жыве Зламаны клінок, які быў адкаваны наноў. Тэльчар першы скаваў яго ў пракаветныя дні. Сьмерць знойдзе кожнага, апрача нашчадкаў Элендыля, хто выцягне гэты меч з похваў.

Ахоўнік адступіў, узрушана пазіраючы на Арагорна.

– Падаецца, на крылах песьні зьявіліся вы з забытых дзён. Усё будзе так, як загадаў спадар!

– Добра, – сказаў Гімлі. – З Андарылем за кампанію й маёй сякеры тут ня сорамна застацца.

І паклаў сякеру на дол.

– Ну, цяпер, калі ўсё па-вашаму, – дадаў, – дык дазволь нам увайсьці й перамовіць з гаспадаром палацу.

– А кій? – нерашуча спытаў ахоўнік у Гэндальфа. – Прабачце мне, але ж ён таксама мусіць застацца тут.

– Ну, якая бздура! – абурыўся Гэндальф. – Асьцярожнасьць – адно, але ж няветлівасьць – цалкам іншае. Я стары. Калі мне не дазволяць абаперціся на маю кульбу, дык я тут і буду сядзець, пакуль Тэядэн мяне не ўшануе, сам прыкульгае сюды й пагутарыць з мною.

– У кожнага ёсьць найдаражэйшая рэч, якую іншым не даверыш, – засьмяяўся Арагорн. – Ці вы пазбавіце старога ягонай апоры? Што яшчэ, дазвольце ж увайсьці!

– Кій у руках чараўніка, напэўна, ня простая падпорка, – засумняваўся Хама, паглядаючы сувора на ясеневую палку, на якую цяжка абаперся Гэндальф. – Але ж у час сумневу годны чалавек мусіць давяраць уласнай мудрасьці. Я веру, што вы – сябры нам, годныя пашаны, і не задумалі ліхога. Я дазваляю вам увайсьці.

Ахоўнікі паднялі цяжкія засаўкі на дзьвярох, і тыя марудна расчыніліся ўсярэдзіну, вялізныя завесы цяжка загрукаталі, паварочваючыся. Вандроўнікі зайшлі. Там падалося цёмна й надта цёпла пасьля сьвежага горнага паветра звонку. Доўгая шырокая паўзмрочная заля палацу поўнілася ценьмі. Высокі дах трымалі моцныя калёны. І паміж імі тут і там з-пад даху, з высокіх, пад самай стольлю, усходніх вокнаў падалі зіхоткімі слупамі сонечныя промні. У прахоне сярод даху, куды выходзілі вітыя кольцы дыму ад вогнішча, сьветла блакітнелі нябёсы. Калі вочы звыкліся з паўзмрокам, вандроўнікі разгледзелі, што падлога забрукаваная камянямі мноства колераў і адценьняў (руны й дзівосныя гербы перапляталіся пад нагамі), а калёны, багата аздобленыя разьбою, бліскаюць сьцьмелым золатам і напаўбачнымі фарбамі. Мноства габеленаў і дываноў зьвісала зь сьценаў, і на іх, пацямнелыя ад гадоў, паўсхаваныя ценем, паўставалі героі старажытных паданьняў. Толькі на аднаго зь іх падала сонечнае сьвятло – у промнях залаціўся юнак на белым кані. Юнак

дзьмуў у вялізны рог, ягоныя саламяныя валасы струменілі па ветры. Конь жа ганарыста ўскінуў галаву, наздрыны ягоныя былі шырокія й чырвоныя – конь іржаў у прадчуваньні бітвы. Зялёная вада бурліла ля яго капытоў, пырскала белай пенай.

– Пабачце ж Эёрла Маладога! – вымавіў Арагорн. – Такім прымчаў ён з Поўначы на бітву, на поле ля ракі Срабрынкі.

Чатыры вандроўнікі рушылі наперад міма яснага полымя вогнішча ў доўгім агмені пасярод залі. Тады спыніліся. Напрыканцы залі, за агменем, было ўзвышэньне з трыма прыступкамі, а пасярод яго – вялізны залаты сталец. На ім сядзеў чалавек, такі пахілены гадамі, што падаваўся амаль гномам. Ягоныя белыя валасы, доўгія й густыя, тоўстымі косамі спадалі з-пад тонкага залатога вянца. На лобе старога, упраўлены ў вянец, зьзяў адзіны бялюткі дыямант. Барада чалавека ляжала гурбаю на каленях, але ж вочы яшчэ пранізьліва блішчэлі, калі глядзеў ён на прышлых. Побач з стальцом стаяла дзяўчына ў белым. Ля ног уладара, на прыступках, скурчыўся чалавечак зь белым тварам, з хітрымі вачыма, паўпрыкрытымі цяжкімі павекамі.

Цішыня павісла ў залі. Стары сядзеў нерухома. Парушыў цішыню Гэндальф.

– Вітаю вашамосьць, Тэядэн, сын Тэнгела! Я вярнуўся. Бо пабач: бура набліжаецца, і сябры мусяць трымацца разам – інакш загінуць паасобку.

Павольна ўзьняўся стары, цяжка абапіраючыся на кароткі чорны кій зь белым касьцяным канчаром. Вандроўнікі ўбачылі, што, хоць і схілены гадамі, стары яшчэ высокі. Верагодна, у маладосьці ён быў надзвычай высокім і дужым.

– І я вітаю цябе, – вымавіў ён. – Напэўна, ты чакаеш гасьціннасьці. Але ж праўда ў тым, што ня надта жаданы госьць ты тут, спадар Гэндальф. Заўжды прыносіў ты гора. Беды лятуць за табою, нібы груганы за правадыром, і чым болей тваіх навінаў, тым яны горшыя. Ня буду хлусіць табе: калі Цяняр вярнуўся самотны, я ўзрадаваўся вяртаньню каня, але ж болей – страце вершніка. Калі Эямэр прынёс зьвесткі, што ты нарэшце выправіўся да свайго далёкага спрадвечнага прытулку, я не гараваў. Аднак навіны здалёк спраўджваюцца зрэдку. Зноўку ты тут! І з табою прыходзіць новае ліха, горшае ад ранейшага, як і зазвычай. Чаму ж чакаць табе ласкі пад маім дахам, Гэндальф Груган? Ну, распавядзі мне!

Павольна ён апусьціўся на пасад.

– Слушна кажаце, мой гаспадар, – вымавіў бледны чалавечак на прыступках. – Яшчэ й пяці дзён не мінула з таго часу, як горкія зьвесткі прынесьлі ад Заходняй Украйны – што забіты ваш сын, правая рука, другі маршалак Украйны. А Эямэру давер невялікі. Няшмат вяяроў пакінуў бы ён ахоўваць вашыя сьцены, калі б яму далі волю. А цяпер Гондар абвяшчае, што Чорны Ўладар заварушыўся на ўсходзе. Вось час, які гэты бадзяга абраў для вяртаньня. Дык чаму ж табе чакаць ласкі ад нас, спадар Груган? *Латспэль* наракаю цябе я, Ліхія Весткі, а ліхія весткі, як кажуць, ліхія госьці.

Ён засьмяяўся змрочна, узьняўшы на момант цяжкія павекі ды зірнуўшы на гасьцей цёмнымі вачыма.

– Цябе лічаць мудрым, сябра мой Зьмеяроты. Безумоўна, ты – вялікая дапамога свайму гаспадару, – лагодна адказаў Гэндальф. – Але ж носьбіты чорных навінаў бываюць розныя. Адны насамрэч творцы ліхога, а іншыя не турбуюць марна ў добры час, а прыходзяць толькі ў ліхую гадзіну, каб дапамагчы.

– Гэтак яно слушна, – прашыпеў Зьмеяроты, – але ж ёсьць шчэ такія, што радыя паглуміцца з костак, паварушыць чужое гора сабе на карысьць. Сьцярвятнікі, вядома, тлусьцеюць падчас вайны. "*Дапамагчы*" – ты кажаш? Якая дапамога ад цябе была калі? І якая дапамога ад цябе зараз? Ад нас дапамогі шукаў ты апошнім разам. Мой

гаспадар дазволіў табе абраць каня, каб ты хутчэй зьнік адсюль, і, на зьдзіўленьне ўсім, ты ўзяў Ценяра! Цяжка гараваў мой гаспадар, але нават і гэты кошт не завялікі, каб ты пакінуў нашую зямлю. Мяркую, ты зноў па тое самае: ня нам ты прынёс дапамогу – табе самому патрэбная яна. Ці ты прывёў войска? Коней, мечы, дзіды? Вось тое было б дапамогай, тое нам патрэбнае цяпер. А каго ты прыцягнуў за сабою? Трох валацуг у шэрых лахманах, і сам – жабрак, горшы за іх!

– Гасьціннасьць тваёй залі насамрэч траха сапсавалася апошнім часам, Тэядэн, сын Тэнгела, – заўважыў Гэндальф. – Ці вартавы брамы не назваў табе імёны маіх паплечнікаў? Рэдка які гаспадар Украйны прымаў такіх гасьцей. Ля тваіх дзьвярэй яны склалі зброю, якая каштуе болей за шыхт сьмяротных людзей, нават і наймацнейшых. Шэрая іх вопратка, бо ткалі яе эльфы й яна дапамагла праз мноства небясьпек сягнуць гэтай залі.

– То бок праўдзівыя Эямэравы словы, што вы ўзмове зь Вядзьмаркай Залатога лесу? – прашыпеў Зьмеяроты. – Ну, чаму ж зьдзіўляцца? Заўжды ліхія падманы плятуцца ў Дзьвімардэне!

Гімлі крочыў наперад, але адчуў Гэндальфаву руку на сваім плячы й застыў, бы каменны.

*О Дзьвімардэн! Дрымотны квят!*
*Сьмяротным недаступны сад!*
*Цудоўнай казкай для людзей*
*Заўжды сьвятло тваіх вачэй,*
*Галадрыель! Галадрыель!*
*Празрыстая твая купель,*
*Зямля твая ад зор бялей,*
*Зырчэй, бясхібней і чысьцей!*
*О Лорыйн! Пракавечны край!*
*Сьмяротным непамройны рай.*

Гэтак прасьпяваў Гэндальф і раптоўна зьмяніўся. Адкінуўшы шэрыя лахманы, выпрастаўся, ужо не абапіраючыся на кій, і вымавіў ясным халодным голасам:

– Мудрыя кажуць толькі пра тое, што ведаюць, Грыма, сын Галмода. Бяздумным гадам зрабіўся ты. Таму маўчы! Трымай зьмяіны язык у пашчы! Бо я не для таго прайшоў праз полымя й сьмерць, каб марнаваць словы з паслугачом, пакуль ня грымне навальніца!

Ён узьняў кій. Пакаціліся грымоты. Сонечнае сьвятло зьнікла з усходніх вокнаў, і ў залі стала цямней за ноч. Агонь у агмені апаў, схаваўся ў барвяным вугольлі. Толькі Гэндальфа й было відаць – высокі, белы стаяў ён перад сьцьмелым вогнішчам.

У змроку пачулася шыпеньне Грымы:

– Ці ня раіў я вам, гаспадар, адабраць у яго кій? Гэты дурань, Хама, нас усіх загубіў!

Бліснула, нібы маланка трапіла праз дах. Усё змоўкла. Зьмеяроты ўпаў ніцма.

– А цяпер ці пачуе мяне Тэядэн, сын Тэнгела? – спытаў Гэндальф. – Ці жадаў ты дапамогі?

Ён паказаў кіем на вакно. Цемра, падавалася, зьнікла, і праз прахон у даху засінелі ў вышыні празрыстыя нябёсы.

– Не паўсюль яшчэ змрок. Трымайся, гаспадар Украйны, бо мужнасьць – найлепшая дапамога табе. У мяне няма парады для тых, хто адчаяўся й склаў рукі.

Але ж табе я параю. Ёсьць у мяне для цябе словы. Ці выслухаеш ты іх? Яны не для ўсіх вушэй. Калі ласка, выйдзі за свае дзьверы, зірні навокал! Ты задоўга сядзеў у цені й зашмат давяраў крывым словам і хлусьлівым прапановам.

Павольна падняўся Тэядэн з стальца. У залі зноў паціху пасьвятлела. Дзяўчына падбегла да караля, падхапіла яго руку – і, хістаючыся, стары сышоў па прыступках ды крочыў праз залю. Зьмеяроты ж застаўся ляжаць. Кароль з Гэндальфам сягнулі дзьвярэй, і Гэндальф пагрукаў.

– Адчыняйце! – выгукнуў ён. – Ідзе гаспадар Украйны!

Дзьверы расчыніліся, і ў залю ўварваўся рэзкі, пранізьлівы горны вецер, засьвісьцеў між калёнаў.

– Хай ахова спусьціцца па лесьвіцы! – папрасіў Гэндальф. – І вы, сьветлая панна, пакіньце яго пакуль з мною. Я паклапачуся пра яго.

– Ідзі, Эявін, дачка маёй сястры, – вымавіў стары кароль. – Час страху мінуў.

Дзяўчына павярнулася й павольна рушыла назад, у залю. Мінуўшы дзьверы, азірнулася. Стрыманы й задумлівы быў яе позірк, і паглядала яна на караля з халодным шкадаваньнем. Харáством зьзяў яе твар, і доўгія валасы ліліся, нібы залаты струмень. Высокая й зграбная, у белай сукенцы, апаясанай срэбрам, дачка каралёў, яна падавалася моцнай і суворай, як сталь. Гэтак Арагорн упершыню ў зыркім дзённым сьвятле пабачыў Эявін, панну Рохану, і падумаў, што яе незвычайнае харáство падобнае да сьцюдзёнай раніцы раньняй вясны, яшчэ далёкай ад росквіту й цеплыні. І яна ўпершыню пабачыла яго – нашчадка каралёў, мудрага розумам многіх цяжкіх гадоў, хоць і апранутага ў шэрае, але зь сілай яскравай і незвычайнай. На момант яна супынілася, нібы здранцьвеўшы, а тады павярнулася й хутка рушыла ў залю.

– А зараз, гаспадар, зірні на сваю зямлю! – запрасіў Гэндальф. – Удыхні зноўку вольнага ветру!

З палацавага ганку на вяршыні ўзгорку відаць было, як за ракою зьнікаюць у далёкай шэрай смузе бясконцыя палі Рохану, а над імі плынеюць касыя завесы дажджу. Нябёсы над галовамі й на захадзе яшчэ азмрочвала навальніца, і далёкія маланкі бліскалі між вяршыняў амаль нябачных гор. Але вецер задзьмуў з поўначы, і бура з усходу адступала, адкатвалася на поўдзень, да мора. Раптам праз прарэх у аблоках вырваўся, упаў на зямлю зыркі прамень. Пад ім кроплі дажджу заблішчэлі срэбрам і далёкая рака зазіхацела пераліўным крышталём.

– Ня цёмна ў сьвеце, – вымавіў Тэядэн.

– Не, – пацьвердзіў Гэндальф. – І гады ня так ужо цяжка ляжаць на тваіх плячох, як нехта пераконваў цябе. Адкінь прэч падпорку!

З каралеўскай рукі выпаў кій і пакаціўся, бразгаючы, па камянёх. Кароль паволі выпрастаўся, нібы чалавек, зьнядужаны доўгай, нуднай працаю. І паўстаў – высокі й прамы, і вочы ягоныя, калі глянуў на нябёсы, адлюстравалі блакіт.

– Чорныя ж былі мае сны, – прамовіў ён. – Але цяпер я нібыта прачынаюся. Шкада, што ты не прыйшоў да мяне раней. Бо, баюся, ужо надта позна, і цяпер табе засталося пабачыць апошнія дні майго дому й роду. Няшмат прастаяць высокія залі, збудаваныя Брэгам, сынам Эёрла. Полымя зжарэ залаты сталец. І што рабіцьму?

– Шмат чаго, – адказаў Гэндальф. – Але найперш – вызвалі Эямэра. Калі я не памыляюся, ты трымаеш яго ў палоне паводле слова Грымы, якога ўсе, апрача цябе, клічуць Зьмеяротым?

– Але, – адказаў Тэядэн. – Ён ня слухаў маіх загадаў і пагражаў Грыму сьмерцю проста ў маёй залі.

– Чалавек можа любіць цябе, але не выносіць Зьмеяротага ці ягоных парадаў, – заўважыў Гэндальф.

– Мажліва й так. Я зраблю, як ты просіш. Пакліч да мяне Хаму. Ненадзейны ён стаўся ахоўца дзьвярэй – дык няхай папрацуе пасыльным. Вінаваты хай пакліча вінаватага на суд, – вырак Тэядэн сувора, але ж пасьміхнуўся Гэндальфу, ад чаго шмат Тэядэнавых зморшчынаў разгладзілася назаўжды.

Калі Хаму выправілі па Эямэра, Гэндальф падвёў Тэядэна да каменнай лавы й пасадзіў, а сам сеў на прыступцы побач. Арагорн зь сябрамі стаялі непадалёк.

– На жаль, часу няма распавесьці ўсё, што ты мусіш пачуць, – пачаў Гэндальф. – Але калі мая надзея не падмане мяне, неўзабаве прыйдзе час расповедаў. Бо табе пагражае небясьпека нават горшая за тыя, якія намагаўся ўплесьці ў твае сны Зьмеяроты. Але ж ты болей ня сьпіш. Ты жывеш. Гондар і Рохан не на самоце. Вораг моцны, моцны па-за ўсялякімі нашымі чаканьнямі, але ж ён не здагадаўся пра нашую запаветную надзею.

Гэндальф загаварыў, хутка й ціха, і аніхто, апрача караля, не пачуў пра што. І падчас ягонай прамовы зырчэй зазьзялі Тэядэнавы вочы, нарэшце ён узьняўся з лавы й выпрастаўся, Гэндальф таксама ўстаў, і разам яны зірнулі на ўсход.

– Менавіта там, – абвесьціў Гэндальф уголас, зычна й гучна, – ляжыць нашая надзея, там чакае найвялікшы страх. Кон наш вісіць на валасінцы. Але ж надзея застаецца, калі мы здолеем пратрымацца хоць бы крыху.

Астатнія таксама зірнулі на ўсход. Праз доўгія мілі, на самы далягляд і за яго несла ўяўленьне іх позірк празь цьмяныя горы ў краіну Ценю. Дзе ж цяпер Ахоўнік Пярсьцёнка? Якая насамрэч танюткая валасінка, што трымае лёс іхусіх. А Ляголасу падалося, калі напружыў вочы, што прыкмеціў белую бліскаўку: напэўна, у Мінас Тырыце бліснула сонца на вяршыні вежы Варты. Аяшчэ далей, у невыразнай далечы, але ж відочна пагражальна, нарысаваўся маленечкі пробліск барвянага полымя.

Павольна апусьціўся Тэядэн на лаву, нібы жыцьцёвая стома яшчэ намагалася адужаць яго насуперак Гэндальфавай волі. Кароль азірнуўся на свой вялікі палац.

– На жаль, – вымавіў Тэядэн, – гэтыя ліхія дні выпалі мне ў маёй старасьці замест спакою, які я заслужыў. Як шкада, што загінуў адважны Барамір! Маладыя гінуць, а старыя застаюцца старэць.

І схапіўся за калені маршчыністымі рукамі.

– Твае рукі лепей згадаюць былую моц, калі ўхопяць цаўё меча, – параіў Гэндальф.

Тэядэн узьняўся й паляпаў рукою па боку, але ж меча на пасе не было.

– Куды ж Грыма падзеў яго? – прамармытаў гаспадар.

– Вазьміце мой, мой кароль! – пачуўся зычны голас. – Ён заўжды служыў вам!

Два чалавекі нячутна падняліся па лесьвіцы й цяпер стаялі за некалькі прыступак ад верху. Адзін зь іх Эямэр. На галаве ягонай не было шалома, а на грудзёх – кальчугі, але ж у руцэ ён трымаў аголены меч і, стаўшы на калені, працягваў яго цаўём гаспадару.

– Як гэта разумець? – спытаў Тэядэн строга, павярнуўшыся да Эямэра, цяпер усе зірнулі на яго ў зьдзіўленьні – гэткі ён падаўся высокі й уладарны. Дзе падзеўся той стары, які скурчыўшыся сядзеў на стальцы й абапіраўся на кульбу?

– Мая віна, вашая каралеўская мосьць, – прызнаўся Хама ў трапятаньні. – Мне падалося: спадар вызваляе Эямэра. Гэтак я ўзрадаваўся, што, мажліва, у радасьці й

памыліўся. Бо раз ён вольны, ён жа маршалак Украйны. Калі ён загадаў прынесьці ягоны меч, я паслухаўся.

– Каб я мог пакласьці яго да вашых ног, мой уладар, – сьцьвердзіў Эямэр.

На момант павісла цішыня. Тэядэн глядзеў на Эямэра, які яшчэ стаяў перад ім на каленях. Ані той, ані другі ня рухаліся.

– Ці возьмеш ты меч? – спытаў Гэндальф.

Павольна Тэядэн працягнуў руку. І калі пальцы ягоныя кранулі цаўё, усім падалося: цьвёрдасьць і моц вярнуліся да ягонай станчэлай рукі. Раптам ён падхапіў клінок, узьняў і секануў, апісаўшы зіхоткую дугу, – ажно паветра сьвіснула. І загукаў зычна, і голас ягоны зьвінеў у закліку, у роханскім клічы да зброі, да бою:

*Паўстаньце, паўстаньце, вершнікі Тэядэна!*
*Ліхая сеча чакае, сьцьмела на ўсходзе!*
*Сядлайце магутных коней, дзьміце мацней у рогі!*
*На бой, на бой, эёрлінгі!*

Вартавыя, падумаўшы, што іх клічуць, кінуліся ўверх па лесьвіцы. А там пасталі, зьдзіўленыя, утаропіўшыся ў свайго гаспадара, ды ўсе разам, не дамаўляючыся, агалілі мечы й склалі ля ног караля. І папрасілі:

– Вядзі нас, уладар!

– Вэсту Тэядэн хал! – крыкнуў Эямэр. – Радасьць якая – наш кароль зноў у былой моцы! Аніколі ня скажуць больш, Гэндальф, што ты прыносіш толькі благія весткі!

– Бяры свой меч, Эямэр, сын сястры маёй! – абвесьціў кароль. – Ідзі, Хама, адшукай мой уласны клінок. Грыма пільнаваў яго. Гэндальф, ты казаў, што маеш параду для мяне, калі я захачу яе пачуць. Дык я хачу.

– Ты ўжо робіш адпаведна ёй. Даверыцца Эямэру, а не злаўмыснаму хітруну. Пакінуць за сьпінай сумневы й страх. І рушыць наперад. Усе, хто толькі можа несьці зброю, мусяць рушыць на захад, як і раіў табе Эямэр. Трэба зьнішчыць Саруманаву пагрозу, пакуль ёсьць час. Калі ня здужаем – загінем. Калі здужаем – чакае большая справа. Тых, хто ня здольны змагацца, – жанчын, малых і старых – трэба выправіць у вашыя горныя схованішчы. Ці не падрыхтаваныя яны менавіта для такіх чорных дзён? Няхай выпраўляюцца, узяўшы толькі ежу, не абцяжарваючыся скарбамі, і не затрымліваюцца. Бо ратуюць жыцьці.

– Слушнай падаецца мне сёньня твая парада, – пагадзіўся кароль. – Дык няхай народ рыхтуецца! Але ж праўду казаў ты, Гэндальфе, – пагоршала гасьціннасьць майго палацу апошнім часам. Вы ехалі ноч без спачыну, ежы й пітва, а цяпер ужо сканчаецца раніца. Для вас падрыхтуюць пакоі – адпачніце, падсілкуйцеся.

– Не, вашамосьць, – запярэчыў Арагорн. – Яшчэ нельга адпачываць натамлёным, бо роханскаму рушэньню трэба выпраўляцца сёньня ж. Мы далучаемся да яго – сякера, меч і лук. Мы прынесьлі іх не для таго, каб яны адпачывалі пад вашымі сьценамі, гаспадар Украйны. І я паабяцаў Эямэру, што нашыя мечы зазьзяюць разам!

– Тады ў нас насамрэч ёсьць надзея! – выгукнуў Эямэр.

– Надзея – так, – вымавіў Гэндальф. – Але ж у Ізенградку шмат сілаў. І іншыя небясьпекі падступаюць усё бліжэй. Не затрымлівайся, Тэядэн, калі мы выправімся. Вядзі людзей адразу ж да горнай цьвярдыні Дунхэрэ!

– Не, Гэндальфе! – адказаў кароль. – Ты недааценіў сваё майстэрства ацаленьня. Я сам паеду на вайну, каб загінуць у першым шэрагу, калі давядзецца гінуць. Тады мой вечны сон будзе лягчэйшым.

– Тады нават паразу Рохану ўславяць у песьнях! – вымавіў Арагорн.

А ваяры побач зь ім забразгалі зброяй, галосячы:

– Гаспадар Украйны хутка павядзе нас на вайну! На бой, эёрлінгі!

– Аднак тваім людзям ня годна застацца бяззбройнымі й без правадыра, – зазначыў Гэндальф. – Хто павядзе іх, хто скіруе замест цябе?

– Я падумаю пра тое там, куды выпраўлюся, – адказаў кароль. – А вось, бачу, і мой дарадца.

У гэты момант з залі выйшаў Хама. За ім скурчыўся паміж двух ваяроў, што падхапілі яго з бакоў, Грыма Зьмеяроты – зьбялелы, ён часта міргаў на сонцы. Хама стаў на калені й працягнуў Тэядэну доўгі меч у абсаджаных золатам і аздобленых зялёнымі камянямі похвах.

– Вось, гаспадар мой, Геругрым – ваш старажытны меч. Яго знайшлі ў Грымавай скрыні. Неахвотна аддаў ён ключы ад яе. Шмат чаго там хавалася, у свой час недашуканага людзьмі.

– Ты маніш! – прашыпеў Зьмеяроты. – А гэты меч гаспадар сам даў мне на захаваньне.

– І цяпер патрабую яго вярнуць, – вымавіў Тэядэн. – Ці ж тое не задавальняе цябе?

– Вядома, так, мой гаспадар, – адказаў Грыма. – Я ж клапачуся пра вас, як толькі здольны. Але ж не натамляйцеся надта, не марнуйце каштоўныя сілы. Няхай астатнія разьбяруцца з гэтымі надакучлівымі гасьцямі. Сьнеданьне вашае неўзабаве пададуць на стол. Ці не жадаеце падсілкавацца?

– Але, – пагадзіўся Тэядэн. – І ежу для маіх гасьцей няхай паставяць на мой стол побач з маёю. Войска выяжджае сёньня! Шліце вестуноў! Кожны муж ці хлапец, здольны валодаць зброяй, усе, што валодаюць коньмі, няхай зьявяцца верхам да брамы а другой гадзіне!

– Мой кароль! – узьвіснуў Грыма. – Таго ж я й баяўся! Вядзьмак зачараваў вас. Ці ніхто не застанецца абараняць Залатую залю вашых бацькоў, вашыя скарбніцы? Самога гаспадара Ўкрайны?

– Калі гэта чары, дык яны падаюцца мне здаравейшымі за твае нашапты, – адрэзаў кароль. – Тваімі клопатамі я неўзабаве толькі на чацьвярэньках і рухаўся б, як дзікі зьвер. Не, аніхто не застанецца, нават і Грыма. Ён таксама паедзе на вайну. Ідзі! У цябе ёсьць час счысьціць іржу з свайго меча.

– Зьлітуйцеся, пане каралю! – закныхаў Грыма, дрыжучы. – Зьлітуйцеся з таго, хто занямог, састарэў у клопатах пра вас. Не ганіце мяне! Я застануся побач з вамі, хоць бы ўсе астат нія вас пакінулі! Не адсылайце вернага Грыму прэч!

– Я зьлітуюся зь цябе, – пагадзіўся Тэядэн. – Ад сябе не праганю. Бо выпраўляюся на вайну разам з маім войскам. Едзь поруч з мною й справаю дакажы вернасьць!

Зьмеяроты азірнуўся на ўсіх навакольных – нібы абкружаны паляўнічымі зьвер шукаў прарэху ў коле ворагаў. Тады аблізнуў вусны доўгім блядным языком і вымавіў лісьліва:

– Гэткай мужнасьці толькі й чакаць ад уладара з роду Эёрла. Але ж тыя, што сапраўды любяць яго, пазбавілі б яго ад гэткага цяжару ў старасьці. Бачу, я

спазьніўся. Тыя, што шануюць жыцьцё майго гаспадара меней за мяне, пераканалі яго. Калі ўжо я ня здольны выправіць іх ліха, дык, мажліва, вы прыслухаецеся да іншых маіх прапановаў. Той, хто ведае вашыя думкі, хто шануе вашую волю, мусіць застацца ў Эдорасе. Прызначце вернага намесьніка. Дазвольце дарадцу Грыму захоўваць Эдорас да вашага вяртаньня – і спадзявацца на яго супраць усялякай надзеі.

– А калі й гэта не ўратуе цябе ад вайны, о найвысакароднейшы й найадважнейшы Грыма, якую яшчэ пасаду ты пагодзісься прыняць? – засьмяяўся Эямэр. – Мо цягнуць куль з мукою ў горы – калі хто табе яго даверыць?

– Не, Эямэр, ты не разумееш цалкам розуму спадара Зьмеяротага, – Гэндальф працяў слугу запытальным позіркам. – Бо ён і мужны, і майстра ў злаўмыснасьці. Нават зараз у ліхой гульні ён на ход наперадзе нас. Ужо адабраў ён у мяне хвіліны найкаштоўнейшага часу. Долу, г***а***дзіна! – жудасна гыркнуў раптам Гэндальф. – На белае пуза! Ці даўно ты прадаўся Саруману? За што? Што паабяцаў ён табе? Калі ваяры загінуць, табе дадуць тваю частку скарбаў – ды жанчыну, якую ты даўна прагнеш? Надта доўга сачыў ты за ёю з-пад цяжкіх павекаў, не даваў і кроку зрабіць у спакоі...

– Гэта я ўжо ведаю, – прамармытаў Эямэр, схапіўшыся за меч. – За тое я й жадаў забіць яго, забыўшыся пра закон каралеўскай залі. Але ж ёсьць і іншыя нагоды.

Ён крочыў наперад, але Гэндальф затрымаў яго, узьняўшы руку.

– Эявін цяпер у бясьпецы, – вымавіў ён. – Ты, Зьмеяроты, зрабіў, што змог, для свайго сапраўднага гаспадара. Пэўную ўзнагароду ты, вядома, заслужыў. Але ж Саруман хутка забываецца на паслугі й дамовы. Я параіў бы табе ехаць да яго як хутчэй ды нагадаць яму, пакуль ён яшчэ не забыўся пра тваю вернасьць.

– Ты маніш! – прашыпеў Зьмеяроты.

– Надта лёгка й часта зьлятае гэтае слова з тваіх вуснаў, – сказаў Гэндальф. – Не, я не маню цябе. Зірні, Тэядэн, – якая зьмяя перад табою. І з сабою ўзяць небясьпечна, і пакінуць яшчэ небясьпечней. Справядлівей было б забіць яго. Аднак не заўжды ён быў такі. Калісьці быў ён чалавек, а не атрутлівы гад і служыў табе як мог. Дай яму каня й дазволь ехаць, куды пажадае. Няхай ягоны выбар стане яму прысудам.

– Ты чуў, Зьмеяроты? – абвесьціў Тэядэн. – Вось твой выбар: ці ехаць з мною на вайну й даказаць вернасьць у сечы, ці выпраўляцца зараз жа куды пажадаеш. Але ж у такім выпадку калі сустрэнемся зноў, суд мой ня будзе мілажальны.

Павольна ўзьняўся Зьмеяроты. Зірнуў з-пад павекаў на ўсіх па чарзе. Апошнім – на Тэядэна. І разявіў быў рот, нібы жадаючы сказаць. І зьнянацку выпрастаўся. Рукі ягоныя дрыжэлі. Вочы блішчэлі. Гэткая злосьць палала ў іх, што людзі адсунуліся на крок ад яго з вусьцішы. Ён вышчарыў зубы й тады з шыпеньнем харкнуў пад ногі каралю ды, кінуўшыся ўбок, памчаў уніз па сходах

– За ім! – загадаў Тэядэн. – Прасачыце, каб ён не нарабіў анікому шкоды й каб яму аніхто не перашкаджаў і ня шкодзіў. Дайце яму каня, калі ён пажадае.

– Калі нейкі конь пагодзіцца несьці яго, – дадаў Эямэр.

Адзін з ахоўнікаў пабег уніз па лесьвіцы. Другі – да крыніцы ля ўзножжа тэрасы, дзе набраў у шалом вады. Ёю абмыў камяні, якія спаганіў Зьмеяроты.

– Зараз хадзем, госьці мае, – прапанаваў Тэядэн, – падсілкуймася тым, што дазваляе нам час.

Яны вярнуліся ў вялікую залю. Ужо даносіліся да яе з гораду ўнізе погукі вестуноў і выцьцё ваярскіх рагоў. Бо кароль меркаваў ехаць, як толькі зьбяруцца й узброяцца ваяры гораду й блізкіх аколіцаў.

За каралеўскім сталом усадзілі Эямэра й чатырох гасьцей. Каралю падносіла ежу й пітво панна Эявін. Пілі й елі хутка. І моўчкі, пакуль Тэядэн распытваў Гэндальфа пра Сарумана.

– Як даўно стаўся ён здрайцам, сказаць цяжка, – разважаў Гэндальф. – Не заўсёды ён быў зласьліўцам. Не сумняюся: калісьці ён шчыра сябраваў з Роханам, і нават калі сэрца ягонае высьцюдзілася, вы пэўны час былі карысныя яму. Але ўжо доўгія гады пад маскаю сяброўства плянаваў ён вашую гібель і рыхтаваў яе. У тыя гады праца Зьмеяротага была лёгкая. Усё, што ты рабіў, адразу вызнавалі ў Ізенградку. Бо вашая зямля адкрытая, і вандроўнікі вольна езьдзілі па ёй. І заўжды Зьмеяроты нашэптваў табе, атручваючы думкі, выстуджваючы сэрца, цягнучы сілы, а тыя, што любяць цябе, анічога не маглі зрабіць, бо твая воля была ў ягоным валоданьні. Аднак калі я ўцёк зь

Ізенградку й папярэдзіў цябе, маска зьляцела – для тых, хто здольны бачыць. І тады Грыма пачаў гуляць рызыкова, затрымліваючы цябе, не даючы сабраць усе сілы гуртом. Майстравіта дзейнічаў: ці супакойваў трывогу, ці, наадварот, распальваў страхі, як патрабавала сытуацыя. Ці ня памятаеш, як ён настойваў, каб усе да аднаго ваяры кінуліся ў марную й бессэнсоўную пагоню на поўнач, калі відавочная небясьпека насоўвалася з захаду? Ён пераканаў – і ты забараніў Эямэру перасьлед оркаў. Калі б Эямэр не паўстаў супраць волі Зьмеяротага, якая кіравала тваімі вуснамі, тыя оркі ўжо сягнулі б Ізенградку зь вялікай здабычай. Ня той, якой Саруман жадаў болей за ўсё, але ж з двума сябрамі майго Зьвязу, сьведкамі вялікай надзеі, пра якую нават табе, уладар, я яшчэ не магу распавесьці адкрыта. Ці ўяўляеш, як пакутвалі б яны ў Саруманавых руках і што нам на пагубу мог ён вызнаць?

– Шмат чым я абавязаны Эямэру, – пагадзіўся Тэядэн. – У вернага сэрцам гаворка бывае дзёрзкая.

– Скажы таксама, – дадаў Гэндальф, – што атручаны хлусьнёю паўсюль бачыць ману.

– Насамрэч, я амаль асьлеп, – зноў пагадзіўся Тэядэн. – Больш за ўсё абавязаны я табе, мой госьць. Зноў своечасова зьявіўся ты. Таму да нашага ад'езду я хачу падараваць табе, што ты сам пажадаеш. Выбірай што заўгодна – пакінь мне толькі мой меч!

– Своечасова я зьявіўся ці не – гэта мы неўзабаве пабачым. А што ж тычыцца падарунка, уладар, я абяру той, што найболей патрэбны мне, – спрыт і моц. Аддай мне Ценяра! Раней мне далі яго толькі ў пазыку. А цяпер верхам на ім я рушу ў вялікую небясьпеку, у чорную ноч, – і не хачу рызыкаваць нічым, што не маё ўласнае. Да таго ж мы зь ім ужо сьсябраваліся.

– Ты добра абраў, – ухваліў Тэядэн. – І цяпер я з радасьцю аддаю яго табе. Аднак тое немалы падарунак. Бо няма падобных да Ценяра. У ім аднавілася парода магутных коней даўніны. Падобнага да яго ўжо ня будзе. Усе ж астатнія госьці вольныя абраць, што знойдуць у збраярні. Мечы вам не патрэбныя, але там ёсьць шаломы й файныя броні, падарункі Гондару маім бацькам. Абярыце й узбройцеся, і няхай яны добра паслужаць вам!

Зьявіліся слугі з ваярскімі строямі з каралеўскай скарбніцы й дапамаглі Арагорну й Ляголасу апрануцца ў зіхоткія латы. Сябры абралі й шаломы, і круглыя тарчы, усярэдзіне абабітыя золатам і аздобленыя камянямі, чырвонымі, белымі й зялёнымі. Гэндальфу латы былі непатрэбныя, і Гімлі ня ўзяў кальчугі, нават калі якая й знайшлася б на ягоны рост і шырыню, бо наўрад якая кальчуга з скарбніцы Эдорасу

параўналася б з гномскаю, скаванаю пад Самотнай гарой Поўначы. Гном выбраў сабе шалом з жалеза й скуры, які прыйшоўся якраз да ягонай круглай галавы, ды невялікую тарчу з выявай каня на зялёным полі – гербам роду Эёрла.

– Няхай ён абароніць цябе! – пажадаў Тэядэн. – Яго зрабілі для мяне ў Тэнгелавы дні, калі я быў яшчэ хлапчуком.

– Вялікі гонар, о гаспадар Украйны, несьці тарчу з вашым гербам, – падзякаваў Гімлі, пакланіўшыся. – Бо я хутчэй панясу каня на сабе, чым панясуся на ім. Мне лепей за ўсё – свае ногі. Аднак, можа, конь данясе мяне туды, дзе я здолею стаяць і біцца.

– Можа й так, – пагадзіўся кароль.

А тады падняўся – і адразу да яго крочыла Эявін зь віном.

– Фэрту Тэядэн хал! – абвесьціла яна. – Прымі ж гэтую чару й пі зь яе ў шчасьлівы час! Будзь здаровы ў дзеях тваіх і намерах, сыходах і вяртаньнях!

Тэядэн выпіў, і панна паднесла келіх гасьцям. А калі стала перад Арагорнам, то раптам затрымалася, узіраючыся ў яго, і яе вочы зазьзялі. І ён з добрай усьмешкаю зірнуў на яе твар. А ўзяўшы чару, дакрануўся да яе рукі й адчуў, што яна ўздрыгнула ад дотыку.

– Вітаю Арагорна, сына Араторна! – вымавіла яна.

– Вітаю панну Рохану! – адказаў ён, але твар ягоны азмрочыўся, і ён не ўсьміхнуўся болей.

Калі ўсе выпілі, кароль рушыў да дзьвярэй. Там ужо чакалі ахоўнікі, і вестуны, і шляхта, і ўсе правадыры, якія знайшліся ў Эдорасе ці побач.

– Слухайце ж мяне! – абвесьціў Тэядэн. – Я еду на вайну. Падаецца, на маю апошнюю вайну. У мяне няма болей сына. Тэядрэд, сын мой, забіты. Таму я прызначаю Эямэра, сына маёй сястры, спадчыньнікам! Калі ж і ён ня вернецца, абірайце новага гаспадара на сваё жаданьне. Але ж я мушу пакінуць каго на чале людзей, што застаюцца тут. Хто з вас застанецца?

Аніхто не падаў голасу.

– Вы анікога ня здольныя назваць? Каму давяраюць мае людзі?

– Роду Эёрла, мой уладар, – адказаў Хама.

– Але ж Эямэра я пакінуць не магу, дый ён не захоча застацца. А ён – апошні ў гэтым родзе.

– Я не называў Эямэра, – патлумачыў Хама. – І ён не апошні. Яшчэ ёсьць Эявін, дачка Эямунда, ягоная сястра. Яна моцная духам і ня ведае страху. Усе любяць яе. Вашамосьць, пакіньце яе гаспадарыць над эёрлінгамі ў вашую адсутнасьць.

– Так і будзе, – згадзіўся Тэядэн. – Няхай вестуны давядуць народу: панна Эявін будзе правадыром!

Тады кароль сеў на лаву перад дзьвярыма залі, а Эявін стала перад ім на калені й атрымала зь ягоных рук меч і зыркую кальчугу.

– Бывай, дачка сястры! – вымавіў кароль. – Змрочны наш час – але ж, мажліва, мы вернемся да Залатой залі. А ў Дунхэрэ людзі доўга здолеюць бараніць сябе, і калі бітва абернецца ліхам для нас, туды дабяруцца ацалелыя.

– Не кажыце так, мой уладар, – папрасіла яна. – Годам стане кожны мой дзень да вашага вяртаньня.

І калі прамаўляла, глянула на Арагорна, які стаяў побач.

– Кароль вернецца, – паабяцаў ён. – Ня бойся! Не на захадзе – на ўсходзе наш кон чакае нас.

Кароль спусьціўся па сходах, Гэндальф – зь ім поплеч. Астатнія рушылі ззаду. Ля брамы Арагорн азірнуўся: Эявін адна стаяла ля дзьвярэй палацу, на верхняй прыступцы, лязом меча абаперлася ў падлогу, абедзьве рукі дзяўчыны ляжалі на цаўі. Кальчуга на яе плячох срэбна зьзяла на сонцы.

Гімлі крочыў побач зь Лyголасам, зь сякераю на плячы.

– Ну, нарэшце крануліся зь месца, – зазначыў ён. – Людзям патрэбна зашмат словаў каб пачаць справу. Мая сякера ажно падскоквае ў руках ад нецярплівасьці. Хоць няма сумневу – гэныя рахірімы ліхія хлопцы, калі ўжо пойдзе сеча. Аднак клапоціць мяне ня самая бойка, а тое, як я да яе дабяруся. Хацеў бы я рушыць на сваіх нагах, а не матляцца кулём на Гэндальфавым сядле.

– Ня самае небясьпечнае месца, сказаў бы я, – заўважыў Лyголас. – Хоць не сумняюся – Гэндальф, ці сам Цяняр, з задавальненьнем спусьцяць цябе долу, калі пачнецца сеча. Твая сякера – ня зброя для вершніка.

– І гном – ня вершнік. Мне – секчы оркавы шыі, а не галіць людзям галовы, – адказаў Гімлі, паляпваючы трымальна сякеры.

Ля брамы напаткалі вялікае рушэньне – старыя й маладыя, гуртом, усе ў сёдлах. Сабралася болей за тысячу. Дзіды калыхаліся, бы малады лес. Голасна, радасна загукалі воі, пабачыўшы Тэядэна. Побач трымалі напагатове каралеўскага каня, Сьнежнагрыва, і коней Арагорна й Лyголаса. Гімлі стаяў, пачуваючыся вельмі няёмка, хмурыўся, аднак да яго падышоў Эямэр з канём пад аброць.

– Вітаю Гімлі, Глойнава сына! – гукнуў ён. – На жаль, часу бракавала навучыцца ветлівасьці ў тваёй сякеры, як ты паабяцаў мне. Але ж ці не адкласьці спрэчку? А пакуль я абяцаю не казаць благога пра панну Залатога лесу.

– І я забудуся да часу на крыўды, Эямэр, сын Эямунда, – адказаў Гімлі. – Але ж калі надарыцца табе пабачыць панну Галадрыель на свае вочы, ты мусіш прызнаць яе найпрыгажэйшай з кабетаў альбо нашае сяброўства скончыцца.

– Хай будзе так! – згадзіўся Эямэр. – А да таго часу даруй мне, і на знак выбачэньня прашу – едзьма з мною. Гэндальф паскача побач з гаспадаром Украйны на чале войска, а Агняног, мой конь, здолее несьці нас двох.

– Вялікі дзякуй табе, – адказаў Гімлі, надта задаволены. – Тое вялікае пашана для мяне й радасьць – асабліва калі мой сябра Лyголас паедзе побач.

– Менавіта так! – пацьвердзіў Эямэр. – Лyголас леваруч мяне, Арагорн праваруч – хто адважыцца стаць на нашым шляху?

– Дзе ж Цяняр? – спытаў Гэндальф.

– Гуляе на траве, спадару, – адказалі яму. – Анікому не дазваляе дакрануцца. Вунь ён, ля броду, цень між вербамі.

Гэндальф сьвіснуў, выгукнуў імя каня – і той ускінуў галаву й заржаў, павярнуўся й памчаў да войска, нібы страла.

– Калі б подых заходняга ветру ўвасобіўся ў зямным целе – гэткім ён быў бы, – вымавіў Эямэр, пазіраючы на вялікага каня побач з Гэндальфам.

– Гэты падарунак я ўжо даў, – заўважыў Тэядэн. – Але ж слухайце ўсе! Перад вамі называю я майго госьця, Гэндальфа Шэрага Плашча, наймудрэйшага з дарадцаў, найшаноўнейшага госьця, шляхцічам Украйны й правадыром эёрлінгаў, пакуль будзе жыць на зямлі нашае племя, і аддаю яму Ценяра, князя ўсіх коней!

– Дзякуй табе, кароль Тэядэн! – адказаў Гэндальф.

А тады зьнянацку скінуў шэры плашч ды капялюш і скочыў на каня. Ані шалома не было на ім, ані латаў. Сьнежныя валасы вольна віліся па ветры, белая корзна зьзяла пад сонцам.

– Пабачце ж Белага Вершніка! – выгукнуў Арагорн, і ўсе падхапілі погук.
– Наш кароль і Белы Вершнік! – галасіла войска. – На бой, эёрлінгі!
Загулі горны. Коні заўскідваліся, заржалі. Дзіды бразгалі аб тарчы. Тады кароль узьняў руку, і з гудам, рыхтык раптоўная навала ўрагану, грукочучы шматкапытовым тупатам, апошняе войска Рохану пайшло на захад.
Эявін доўга сачыла праз роўнядзь за водблiскамі сонца на канчарах дзідаў і нерухома, самотная, стаяла перад дзьвярыма сьцішэлага палацу.

## *7. Хельмаў Яр*

Сонца ўжо хілілася на захад, калі выехалі з Эдорасу, і сьвятло яго лілося ў вочы вершнікам, ператвараючы роханскі стэп у хвалістую залатую смугу. На паўночны захад, уздоўж узножжаў Белых гор, уверх і ўніз па зялёных пагорках віўся набіты шлях, перасякаючы бродамі мноства маленькіх рачулак. Далёка наперадзе, праваруч, высіліся Туманныя горы, з кожнаю вярстою рабіліся яны ўсё больш пагрозьлівымі. Перад войскам павольна садзілася сонца. Вечарэла.

Войска рушыла, бо змрочная патрэба гнала яго. Баяліся спазьніцца, таму гналі й амаль не спыняліся. Спрытнымі й цягавітымі былі роханскія коні, але ж мноства міляў ляжала перад імі. Болей за дваццаць пяць, калі птушыным лётам, ад Эдорасу да бродаў Ізену, дзе спадзяваліся знайсьці каралеўскае войска, якое стрымлівала Саруманаву навалу.

Ноч агарнула вершнікаў. Нарэшце спыніліся на начлег. Ехалі ўжо пяць гадзінаў, далёка прасунуліся па заходняй роўнядзі, а наперадзе было яшчэ болей. Пад зорнымі нябёсамі й маладзіком шырокім колам раскінулі лягер. Вогнішчаў не распальвалі, бо ня ведалі, дзе вораг, шчыльным колам выставілі вартавых вершнікаў, а далёка па навакольлі разаслалі выведнікаў – хуткія цені ў долах. Ноч мінула павольна, без навінаў і трывог. На сьвітанку запелі рогі, і праз гадзіну войска рушыла зноў.

Не было хмараў над галавою, але цяжар адчуваўся ў паветры. Надта сьпякотна для раньняй вясны. Маладое сонца засмужылася, і за ім павольна паўзла ўвасьлед, уздымалася цемра – нібы вялікая навальніца набліжалася з усходу. А далёка на паўночным усходзе зьбіралася іншая хмара, чарнела ля падэшваў Туманных гор – цень поўз ад Чараўніковай даліны.

Гэндальф прытрымаў каня й зраўнаўся зь Ляголасам, які ехаў побач з Эямэрам.

– Скажы, Ляголас, што твае вострыя эльфавы вочы, якія здольныя адрозьніць вераб'я ад берасьцянкі за вярсту, бачаць у напрамку Ізенградку?

– Шмат міляў датуль, – эльф засланіў вочы ад сонца доўгаю даланёю. – Бачу цемру. Вялікія постаці рухаюцца ў ёй, далёка, на беразе ракі, але што яны такое – сказаць не магу. Не туман і ня воблака забараняе майму позірку – быццам нейкая моц завалакла смугою зямлю, і смуга тая паўзе ўніз па рацэ. Гэта рыхтык паўзмрок пад бясконцым шэрагам дрэваў павольна цячэ ўніз з гор.

– А за намі лютая мордарская навальніца, – заўважыў Гэндальф. – Чорная ж будзе ноч.

Другім днём паветра ўсё цяжэла. Яшчэ да вечаровага сутоньня прыплылі цёмныя аблокі, быццам накрылі вершнікаў гіганцкім змрочным капелюшом зь велізарным клубістым крысом, сьпярэшчаным праблескамі асьляпляльнага сьвятла. Скацілася долу сонца – крывава-пунсовае ў шчыльнай смузе. На канчарах дзідаў гарэлі водбліскі полымя, калі апошнія сонечныя промні залілі барваю адхоны пікаў Трайгірну. Цяпер падабраліся надта блізка да паўночнага хрыбта Белых гор, і заходнія нябёсы закрываліся трыма вызубранымі вяршынямі. У апошнім барвовым сьвятле коньнікі перадавой харугвы заўважылі чорную плямку – вершнік сьпяшаўся да іх. Спыніліся, чакаючы яго.

Вось і наблізіўся ён, стомлены чалавек з пакамечаным шаломам і пасечанай тарчай. Павольна ён зьлез з каня й пэўны час так і стаяў, хапаючы ротам паветра. Нарэшце загаварыў.

– Ці з вамі Эямэр? – спытаў ён. – Нарэшце зьявіліся вы, але ж вас надта мала, і ўжо запозна. Блага пайшлі нашыя справы пасьля гібелі Тэядрэда. Учора нас пагналі за Ізен, і шмат каго страцілі мы на пераправе. А ўначы сьвежыя варожыя сілы перайшлі раку й напалі на лягер. Напэўна, увесь Ізенградак спусьцеў. Саруман узброіў і дзікіх горцаў, і пастухоў Дунлянду за ракою й таксама нацкаваў на нас. Нас перамаглі. Праламіліся праз шыхт. Эркенбранд з Заходняй Украйны выводзіць усіх, каго здолеў сабраць, да сваёй цьвярдыні, Хельмавага Яру. Астатнія папаразьбегліся. Дзе Эямэр? Скажы яму: надзеі не засталося. Няхай вяртаецца ў Эдорас, пакуль туды не зьявіліся ваўкі Ізенградку.

Тэядэн сядзеў моўчкі, нябачны за ахоўнікамі, але ж цяпер выехаў на кані наперад.

– Падыдзі да мяне, Кеярл! – загадаў кароль. – Я тут. Апошняе войска эёрлінгаў выехала на бой. І бяз бою ня вернецца.

Твар чалавека зазьзяў радасьцю й зьдзіўленьнем. Вой выпрастаўся. А тады стаў на калена, працягваючы свой вызубраны меч каралю.

– Загадвайце, мой гаспадар! Даруйце, калі ласка, што я падумаў...

– Падумаў, што я застаўся ў Мэдусэльдзе, пахілены, нібы старое дрэва пад цяжарам сьнегу? Так тое й было, калі ты ад'язджаў на бітву. Але ж заходні вецер устрос галіны. Дайце Кеярлу сьвежага каня. Рушым на дапамогу Эркенбранду!

Пакуль Тэядэн прамаўляў, Гэндальф ад'ехаў крыху наперад і, самотны, глядзеў на поўнач, на Ізенградак, і на захад, на заходнае сонца. Тады вярнуўся.

– Скачы, Тэядэн! – вымавіў ён. – Скачы да Хельмавага Яру! Ня едзь на Ізенскія броды, не затрымлівайся на роўнядзі! Я пакіну цябе на пэўны час. Ценяр мусіць хутка несьці мяне да новага клопату.

Павярнуўшыся да Арагорна з Эямэрам і каралеўскіх спадарожнікаў, выгукнуў:

– Ахоўвайце пільна гаспадара Ўкрайны, пакуль я не вярнуся! Чакайце мяне ў Хельмавым Яры! Да пабачэньня!

Сказаў слова Ценяру, і вялікі конь кінуўся наперад, рыхтык страла, спушчаная з струны. І неўзабаве зьнік з вачэй – пробліск срэбра на захадзе, вецер над травою, мімалётны цень, які прабег ды зьнік у далечы. Сьнежнагрыў фыркнуў і ўскінуўся, гатовы скакаць увасьлед, але ж толькі птушыныя крылы маглі дагнаць Ценяра.

– І што гэта значыць? – спытаўся адзін ахоўнік у Хамы.

– Што Гэндальф Шэры Плашч сьпяшаецца, – адказаў Хама. – Ён заўжды нечакана зьяўляецца дый зьнікае.

– Калі б Зьмеяроты быў тут, ён бязь цяжкасьцяў растлумачыў бы тое, – зазначыў ахоўнік.

– Бясспрэчна, – Хама ўсьміхнуўся, – але ж я лепей пачакаю тлумачэньняў самога Гэндальфа.

– Мажліва, доўга давядзецца чакаць, – мовіў ахоўнік.

Войска пакінула шлях да бродаў Ізену й збочыла на поўдзень. Спусьцілася ноч, але ж ехалі не спыняючыся. Горы наблізіліся. Вострыя пікі Трайгірну ўжо губляліся ў змроку сярод нябёсаў. Яшчэ заставалася колькі вёрстаў да глыбокай цясьніны на дальнім баку даліны Заходняй Украйны, да вялікага стэпавага заліву сярод гор, які вузкім логам цягнуўся ў самае сэрца гор. Вузкі, глыбокі, з скальнымі сьценамі-адхонамі, заходзіў ён з поўначы пад самы Трайгірн, і недасягальныя скалы ўздымаліся вежамі пааберуч, захіляючы дзённае сьвятло.

Перад вусьцем логу ад паўночнай сьцяны адыходзіла скальнае адгор'е. На ягонай вяршыні, абгароджаная высокімі старажытнымі мурамі, стаяла гонкая вежа. Казалі, у далёкую даўніну, у дні славы Гондару, каралі з-за мора пабудавалі гэты замак рукамі волатаў. Горнбург называлі яго, бо калі дзьмулі ў рог на вежы, магутнае рэха адгукалася з логу за ёю, нібы даўно забытыя войскі выходзілі на вайну зь пячораў пад гарамі. Людзі даўніны збудавалі й сьцяну ад Горнбургу да паўночнага боку логу, перакрываючы ўваход у яго. Пад сьцяною з шырокай трубы выходзіла вонкі рака Ярыца, вілася ля ўзножжа Горнавай скалы, а тады праразала глыбокай канаваю шырокі, роўны й спадзісты травяны схіл, які вёў ад Хельмавай брамы да Хельмавага валу, дзе канава рабілася цясьнінай і рака выцякала празь яе на прастору. У Горнбургу ля Хельмавай брамы жыў Эркенбранд, гаспадар Заходняй Украйны Рытармаркі. Адчуваючы пагрозу вайны, ён загадзя адрамантаваў муры й умацаваньні ды патрыхтаваў крэпасьць да аблогі.

Вершнікі былі яшчэ ў нізкай даліне перад вусьцем логу, калі ад выведнікаў наперадзе пачуліся выгукі й выцьцё ражкоў. Зь цемры засьвісталі стрэлы. Неўзабаве вярнуўся адзін з выведнікаў і распавёў, што па даліне гойсаюць оркі верхам на ваўках, а войска оркаў і дзікуноў рушыць на поўдзень ад бродаў Ізену – відавочна, кіруецца да Хельмавага Яру.

– Шмат нашых ляжаць забітыя па дарозе туды, – казаў вершнік. – Мы напаткалі там і тут рэшткі войска, суполкі ці самотных ваяроў. Яны мітусяцца, ня ведаюць, куды ім рушыць. Правадыра няма, і што зрабілася з Эркенбрандам, аніхто ня ведае. Напэўна, яго перахапілі да таго, як ён сягнуў Хельмавага Яру. А можа, ён увогуле ўжо загінуў.

– Ці бачылі Гэндальфа? – спытаў Тэядэн.

– Так, вашамосьць. Шмат хто бачыў старога ў белым адзеньні верхам на кані, ён скакаў туды й сюды па роўнядзі, як вецер над травою. Некаторыя прынялі яго за Сарумана. Казалі, у прыцемках ён рушыў да Ізенградку. А хтосьці раней бачыў і Зьмеяротага: той таксама кіраваўся туды.

– Блага будзе Грыму, калі яго напаткае Гэндальф, – заўважыў Тэядэн. – Адылі я згубіў абодвух дарадцаў, старога і новага. Але ж нам няма зараз лепшага выбару, чым зрабіць адпаведна Гэндальфавай парадзе: рушыць у Хельмаў Яр, ёсьць там Эркенбранд ці не. Ці вядома, якое войска йдзе з поўначы?

– Вялізарнае. Натуралёва, у баязьліўца ў вачох падвойваецца, але ж я меў гаворку зь людзьмі моцнымі й мужнымі. Безумоўна, галоўнае войска ворага ў шмат разоў большае за нашае.

– Тады трэба сьпяшацца, – вырашыў Эямэр. – Праб'емся праз тых ворагаў, якія паміж намі й крэпасьцю. У Хельмавым Яры ёсьць пячоры, дзе могуць хавацца сотні, і адтуль выводзяць да гор таемныя праходы.

– Не давярай таемным праходам, – адказаў кароль. – Саруман даўно дасьледаваў нашую зямлю. Аднак у Яры мы пратрымаемся доўга. Рушым!

Арагорн і Ляголас зараз ехалі побач з Эямэрам у ар'ергардзе. Ехалі праз ноч, усё павольней, бо цемра гусьцела й шлях вёў угору, вышэй і вышэй па пагорках ля ўзножжа гор. Ворагаў сустрэлі няшмат. Там і тут бадзяліся банды оркаў, але кідаліся наўцёкі яшчэ да таго, як вершнікі маглі захапіць ці забіць іх.

– Баюся, – заўважыў Эямэр, – правадыр нашых ворагаў, Саруман ці які ачольца, каго ён паслаў замест сябе, хутка вызнае, што тут каралеўскае рушэньне.

А за сьпінамі чулі згукі вялізнага войска. Празь цемру далятаралі грубыя хрыпатыя сьпевы. Узабраўшыся высока па цясьніне Ярыцы, азірнуліся: паходні – што незьлічоныя яскраўкі жорсткага сьвятла, параскіданыя барвовыя кветкі на чорных палёх або доўгія вогненныя шэрагі-зьмеі ў панізьзях. Там і тут палалі вогнішчы.

– Вялікае войска, і ўпарта імкнецца за намі, – зазначыў Арагорн.

– Агонь яно нясе й паліць усё на шляху: стагі, хаты й дрэвы, – вымавіў Тэядэн. – Багатая гэтая даліна, шмат было на ёй сядзібаў. Гора майму народу!

– Калі б толькі быў дзень! Мы абрынуліся б на іх, як навала з гор! – выгукнуў Арагорн. – Як жа горка адступаць перад імі!

– Нядоўга засталося адступаць, – суцешыў Эямэр. – Наперадзе, непадалёк, Хельмаў вал – старажытнае ўмацаваньне, равы з валам праз усю цясьніну, за пяць гоняў ад Хельмавага Яру. Там павернемся й прымем бой.

– Не, нас замала, каб абараняць вал, – вырашыў Тэядэн. – Ён зь вярсту даўжынёю й брама ягоная надта шырокая.

– Няхай там паўстане наш ар'ергард, на выпадак, калі нам не пашанцуе, – прапанаваў Эямэр.

На нябёсах не было ані зораў, ані месяца, калі вершнікі сягнулі праходу ў вале, празь які цякла рака, шлях побач зь ёю віўся да Горнбургу. Вал узьняўся перад імі нечакана, высокім ценем за чорнайямінаю. Зьверху паклікаў вартавы.

– Гэта гаспадар Украйны едзе ў Хельмаў Яр, – адказаў Эямэр. – Размаўляю з табою я, Эямэр, сын Эямунда.

– Добрыя навіны па-за ўсялякай надзеяй! – усклікнуў вартавы. – Сьпяшайцеся! Ворагі йдуць па пятах.

Войска спынілася на травяністым схіле. Ад абаронцаў даведаліся, на вялікую радасьць, што Эркенбранд пакінуў шмат ваяроў трымаць Хельмаў Яр, і да іх дадаліся многія, што ўратаваліся пасьля паразы.

– Мо набярэцца з тысячу здольных біцца пехатою, – распавядаў Гамлінг, стары ваяр, правадыр абаронцаў валу. – Але ж большасьць бачыла зашмат зімаў, як і я, ці, наадварот, занадта мала, як сын майго сына тут. Якія весткі пра Эркенбранда? Учора данесьлі: ён адступае сюды з тым, што засталося ад найлепшага войска Заходняй Украйны. Але ж ён так і не дабраўся.

– Баюся, і не дабярэцца, – сказаў Эямэр. – Нашыя выведнікі не прынесьлі аніякіх зьвестак пра яго, а ворагі ўжо запоўнілі ўсю даліну за намі.

– Калі б толькі ён уратаваўся, – уздыхнуў Тэядэн. – Бо гэтакі дужы ваяр. У ім адрадзілася мужнасьць Хельма Малатарукага. Але ж мы ня можам чакаць яго тут – мусім адвесьці ўсе сілы за сьцяну. Ці досыць у вас прыпасаў? Мы ўзялі няшмат ежы, бо ехалі на бітву, не на аблогу.

– За намі ў пячорах Яру тры чвэрткі насельніцтва Заходняй Украйны, старыя й малыя, жанчыны й немаўляты, – адказаў Гамлінг. – Але ж і вялікі запас ежы сабраны там, мноства быдла й корму для яго.

– Файна, – адзначыў Эямэр. – Бо ворагі спаляць ці спаскудзяць усё, што засталося ў даліне.

– Калі яны прыйдуць па нашае дабро да Хельмавай брамы, дык ім давядзецца дорага заплаціць за яго, – сказаў Гамлінг.

Кароль з войскам праехаў далей. Перад аркаю, што праходзіла над ракою, сьпешыліся. Праз мост і насып за ім прайшлі доўгім шэрагам. І праз браму патрапілі ў

Горнбург. Там ім надта ўзрадаваліся й абнадзеяліся, бо цяпер хапала ваяроў, каб абараняць ня толькі замак, але ж і сьцяну, якая перагароджвала лог.

Эямэр хутка вызначыў, каму якія месцы заняць: кароль з ахоўнікамі засталіся ў Горнбургу, зь імі шмат ваяроў з Заходняй Украйны. На сьцяну ж і яе вежу паставіў большасьць вояў, бо там умацаваньні падаваліся найслабейшымі, асабліва супраць рашучага й скіраванага нападу вялікай сілаю. Коней пад прыглядам стаенных завялі ў самую глыбіню логу.

Сьцяна Яру была дваццаць ступняў вышынёю й такая тоўстая, што па ёй маглі крочыць побач чацьвёра – схаваныя мураванай агароджай, за якую мог зірнуць толькі рослы чалавек. Там і тут у агароджы зеўралі вузкія стральніцы. На сьцяну вяла лесьвіца ад дзьвярэй унутранага двара Горнбургу, і сходы ў тры пралёты вялі на яе таксама зь Яру. Наперадзе лесьвіца была гладкая, будаўнікі так падагналі адзін да аднога яе вялізныя камяні, што на стыках нагам не было на што абаперціся, зьверху ж валуны навісалі, нібы бераг, падрыты морам.

Гімлі прыхіліўся да муру насупраць бруствэра. А Ляголас сядзеў на агароджы, мацаючы пальцам лук ды ўзіраючыся ў цемру.

– Вось гэта мне падабаецца болей, – гном тупнуў па камянёх. – І на сэрцы лепей, калі бліжэй да гор. Добры тут камень. Трывалыя косткі ў гэтай краіны. Я проста падэшвамі адчуваў гэта, калі мы перайшлі за вал. Меў бы я год ды сотню радзіны, мы такое ўчынілі б з гэтым месцам – любыя войскі расплёскваліся б аб яго, як вада.

– Не сумняюся, – адгукнуўся Ляголас. – Але ж ты гном, а гномы – дзівоснае племя. Мне й цяпер гэтае месца недаспадобы, а

ўдзень спадабаецца яшчэ меней. Аднак ты суцяшаеш мяне, і я вельмі ўдзячны, што ты стаіш побач на сваіх трывалых, звыклых да каменьня нагах ды з магутнай сякераю. Каб болей радзіны тваёй было з намі! Але ж яшчэ болей я даў бы за сотню файных стралкоў зь Ліхалесься. Нам яны прыдадуцца. У рахірымаў ёсьць нядрэнныя лучнікі – паводле чалавечых мерак, – аднак іх надта, надта мала.

– Зараз зацёмна для стральбы, – адзначыў Гімлі. – Насамрэч, час класьціся. Спаць трэба! Я так хачу спаць – нават і ўявіць сабе ня мог, што гном можа так захацець спаць. Стамляльная праца – езьдзіць верхам. Але мая сякера ўздрыгвае ў руцэ. Дайце мне колькі оркавых шыяў ды прасторы, каб размахнуцца, – і ўся стома адразу згіне!

Час цягнуўся павольна. Далёка ўнізе, у даліне, яшчэ палалі там-сям вогнішчы. А войска Ізенградку насоўвалася моўчкі – паходні віліся мноствам вужакаў угару па даліне.

Раптоўна ад валу пачуліся енкі й лямант ды суворыя баявыя поклічы людзей. Над ускрайкам валу бліснулі агні паходняў, шчыльна стоўпіліся ля праходу. А тады расьсеяліся, згасьлі. Вершнікі намётам прымчалі праз поле да насыпу й празь яго да брамы Горнбургу. Ахова валу, адступіўшы перад навалаю, схавалася за сьценамі замку.

– Варожае войска ўжо тут, – давялі ахоўнікі. – Мы выпусьцілі ўсе стрэлы, завалілі канаву оркамі. Але ж тое надоўга іх не затрымае. Яны ўжо шмат дзе палезьлі праз вал, густа, бы мурашы. А ўсё ж паказалі мы ім, чаму пры тым трэба гасіць паходні.

Поўнач мінула. Павісла вусьцішная цемра, сьпякотнае паветра абяцала блізкую навальніцу. Зьнянацку хмары разадрала асьляпляльная бліскавіца. Галінастая маланка

абрынулася на ўсходнія горы. На адзін зыркі момант прастору ад замкавых сьценаў да валу заліло бялюткім сьвятлом, і вартавыя на сьценах пабачылі: уся яна кішыць чорнымі постацямі, кароткімі й каранастымі ці высокімі й суворымі, у высокіх шаломах ды з чорнымі тарчамі. А праз вал лезьлі, беглі праз праход яшчэ сотні й сотні. Чорны прыліў захлынуў даліну ад скалаў да сьценаў. Пракаціліся грымоты. Тады шматхвостаю пугаю лупцанула зьліва.

Гусьцей за яе ўзьляцелі стрэлы над замкам. Пападалі, бразгаючы й сьлізгаючы па камянёх. Некаторыя ўлучылі. Напад на Хельмаў Яр пачаўся, але з крэпасьці ў адказ не даляцела нічога: ані выклікаў ці пагрозаў, ані стрэлаў.

Нападнікі прыпыніліся, насьцярожаныя маўкліваю пагрозаю скалаў ды муроў. Зноў і зноў разьдзіралі цемру маланкі. А тады оркі завішчэлі, затрэсьлі мечамі й дзідамі ды зноў выпусьцілі хмару стрэлаў ва ўсё, што высоўвалася з-за муру. Роханцы ў зьдзіўленьні вызіралі вонкі, ім падавалася, што вялізнае поле чорнага збожжа прынесла вайна да іх сховішча і кожны колас блішчэў вызубраным лязом.

Загулі бронзавыя рогі. Ворагі кінуліся наперад: некаторыя да Яравай сьцяны, іншыя праз арку й насып, што вялі да брамы Горнбургу. Туды рушылі самыя высокія оркі ды людзі-дзікуны з далінаў Дунлянду. Затрымаліся троху, але ж упарта мкнулі наперад. Бліснула маланка, высьветліўшы на кожным шаломе й тарчы прывідную руку Ізенградку. Ворагі сягнулі вяршыні прыбрамнай скалы й кінуліся на браму.

Тады нарэшце крэпасьць адгукнулася залевай стрэлаў і камянёў. Шыхт нападнікаў задрыжэў, распаўся. Ворагі кінуліся ўцякаць. Але ж вярнуліся й зноў напалі, зноў уцяклі й яшчэ раз напалі – і кожны раз, бы марскія хвалі на беразе, спыняліся, дабегшы да апошняй рысы. Ізноў завылі рогі, і наперад з шалёным ровам кінуліся людзі. Яны трымалі над галовамі вялізныя тарчы й несьлі з сабою два тоўстыя ствалы дрэваў. За імі стоўпіліся оркі-лучнікі, пасылаючы стальную віхуру ўгору, супраць лучнікаў на сьценах. Людзі сягнулі брамы. Ствалы, раскачаныя моцнымі рукамі, з аглушальным ударам грымнулі аб браму. Калі хто зь людзей падаў, зьбіты каменем, на ягонае месца ўмомант скакалі два іншыя. Зноў і зноў вялізныя тараны разгойдваліся й уломваліся ў браму.

Эямэр з Арагорнам стаялі разам на Яравай сьцяне. Яны чулі роў галасоў ды грукат таранаў і ў раптоўным выбліску маланкі пабачылі, якая небясьпека пагражае браме.

– Хутчэй! – выклікнуў Арагорн. – Настаў нам час узьняць мечы разам!

Яны пабеглі, нібы полымя, кінуліся ўздоўж сьцяны, выбеглі ва ўнутраны двор. Сабралі яшчэ колькі моцных мечнікаў. Там, дзе замкавы мур паварочваў на захад і далей зьліваўся з скалою, былі невялічкія дзьверы. Ад іх да брамы вяла вузкая сьцяжынка паміж сьцяною й скалістым адхонам. Разам Арагорн з Эямэрам скочылі празь дзьверы, астатнія ваяры – за імі. Разам высьлізнулі, бліснуўшы, два мечы з похваў.

– Гутвінэ! – выклікнуў Эямэр. – Гутвінэ за Ўкрайну!

– Андарыль! – выклікнуў Арагорн. – Андарыль за Дунадан!

Напаўшы збоку, абрынуліся на дзікуноў. Андарыль уздымаўся й падаў, палаючы белым полымем. Выгук пакаціўся па замку, па муры: "Андарыль! Андарыль у бойцы! Зламаны меч зазьзяў зноў!"

У адчаі нападнікі выпусьцілі тараны й павярнуліся насустрач нечаканай навале, але ж сьцяну іх тарчаў разьнесла, нібы маланкаю, і іх стапталі, пасеклі, скінулі з скалы ў бурлівую раку ўнізе. Оркі-лучнікі папавыпускалі абы-куды стрэлы дый кінуліся наўцёкі.

На момант Арагорн з Эямэрам затрымаліся перад брамаю. Грымоты грукаталі ўжо недзе далёка. Маланкі яшчэ бліскалі далёка на поўдні, у гарах. З поўначы зноў дзьмуў пранізьлівы вецер. Драныя аблокі павольна адносіла прэч, у прарэхах вызірнулі зоры. З-за гор над Ярам выплыў маладзік, жоўты на штармавых нябёсах.

– Пасьпелі ў час, – Арагорн зірнуў на браму.

Вялізныя завесы й петлі былі пагнутыя й пашчапаныя, і шмат тоўстых бэлек, за якія чапляліся яны, ужо патрэскалася.

– Аднак мы ня здольныя заставацца за сьценамі, каб абараняць іх! – сказаў Эямэр. – Зірні!

Ён паказаў туды, дзе пачыналася арка. За ракою ўжо зьбіраўся вялізны натоўп оркаў і людзей. Засьвісталі стрэлы, забразгалі аб каменьне побач.

– Хутчэй! Трэба вярнуцца й паклапаціцца, каб за брамаю, знутры, навалілі камянёў ды бярвеньня. Бегма!

Павярнуліся й пабеглі. У гэты момант з тузін оркаў, якія ляжалі сярод мёртвых, прыкідваючыся забітымі, ускочылі й бязгучна, спрытна падбеглі ззаду. Два кінуліся Эямэру ў ногі, каб ён спатыкнуўся, і ўмомант паўсталі над ім зь лёзамі напагатове. Але ж маленькая цьмяная постаць, якой аніхто не прыкмеціў, выскачыла зь ценю й хрыпата выгукнула:

– Барук казад! Казад ай-мэну!

Сякера сьвіснула туды й назад – і абодва оркі ўпалі безгаловыя. Астатнія кінуліся ўцякаць.

Эямэр, хістаючыся, узьняўся на ногі – яшчэ да таго, як Арагорн падбег на дапамогу.

Таемныя дзьверы зачынілі, жалезныя створы брамы падперлі з двара дый навалілі за імі камянёў. У двары, калі ўсе сягнулі бясьпекі, Эямэр павярнуўся да гнома й прамовіў:

– Дзякуй табе, Гімлі, сын Глойна! Ня ведаў я, што ты быў з намі падчас вылазкі. Але ж нечаканы госьць часьцяком бывае найлепшым. Як жа ты патрапіў туды?

– Пайшоў за вамі, каб стрэсьці зь сябе санлівасьць, – адказаў гном. – Але ж глянуў на гэных горцаў і парашыў: вялікаватыя яны для мяне, дык і прысеў на камень – паназіраць, як вы сечаце мечамі.

– Цяжка мне будзе сплаціць такую пазыку, – задумаўся Эямэр.

– Яшчэ шмат будзе мажлівасьцяў да канца гэтае начы, – засьмяяўся гном. – А я ўпрост задаволены. Дагэтуль я з самай Морыі ня сек анічога, апрача дрэваў.

– Два, – сказаў Гімлі, паляпваючы сякеру, калі вярнуўся да свайго месца на сьцяне.

– Два? – перапытаў Ляголас. – У мяне крыху болей. Цяпер вось даводзіцца шукаць чужыя стрэлы – свае ўсе страціў. У мяне, я сказаў бы, сама менш дваццаць. Але ж тое – жменя лісьця ў лесе.

Нябёсы хутка праясьняліся, і месяц зазіхацеў. Але сьвятло прынесла малую надзею вершнікам Украйны. Ворагаў, падавалася, паболела, а не паменела, і яшчэ й яшчэ лезьлі па праходзе з даліны. Вылазка да брамы дала толькі нядоўгі перадых – напад на браму аднавіўся з падвойнаю сілаю. Войска Ізенградку пляскала ў Яравы мур, бы марская хваля. Оркі й горцы-дзікуны кішэлі ля падмуркаў ад краю да краю. Вяроўкі з крукамі-захватамі шпурлялі на сьцяну хутчэй, чым абаронцы пасьпявалі скідваць альбо адсякаць іх. Сотні доўгіх лесьвіцаў ускідваліся да муроў. Многія

ляцелі ўніз зламанымі, але ж яшчэ болей паўставала на замену, і оркі караскаліся па іх спрытней за малпаў змрочных лясоў поўдня. Горы забітых і зьнявечаных грувасьціліся пад сьцяною, як жвір падчас шторму, і расьлі з жудаснай хуткасьцю, а ворагі ўсё ішлі ды ішлі.

Роханцы стаміліся. Выпусьцілі ўжо ўсе стрэлы, усе дзіды. Мечы павызубрываліся, тарчы пасекліся. Тройчы Арагорн з Эямэрам клікалі ваяроў на адчайную атаку, і тройчы шалёна бліскаў Андарыль, зьбіваючы ворагаў зь сьцяны.

Лямант і бразгат сечы зьнянацку данесьліся з самога Яру. Оркі, нібы пацукі, прапаўзьлі праз тунэль, які выпускаў вонкі раку, і сабраліся пад ценем скалы, пакуль напад не сягнуў найвышэйшай моцы й амаль усе абаронцы ня рушылі на мур. А тады вылезьлі вонкі. Ужо хто-кольвек зь іх прабег у глыбіню Яру й дабраўся да коней, і пачаў біцца зь іхнімі стаеньнікамі.

Тады зь сьцяны саскочыў Гімлі, жудасна галосячы "Казад! Казад!", так, што рэха пакацілася па скалах. Нарэшце ягонай сякеры знайшлося досыць працы.

– А-вой! – галасіў ён. – Оркі за мурам! А-вой! Хутчэй, Ляголас! Тут досыць для нас абодвух! Казад ай-мэну!

Гамлінг Стары вызірнуў за мур Горнбургу, пачуўшы, як зычны гномаў покліч перакрыў увесь гоман бойкі, і тады выклікнуў сам:

– Оркі ў Яры! Хельм! Хельм! На бой, сыны Хельма!

Дый кінуўся ўніз па сходах, а за ім – мноства ваяроў з Заходняй Украйны.

Іх напад быў нечаканы й шалёны, і оркі іх не адужалі. Неўзабаве оркаў загналі ў цясьніны Яру й там альбо перабілі, альбо выцесьнілі яшчэ далей, пад сьцены й пад бязьлітасную зброю вартаўнікоў таемных пячораў.

– Дваццаць адзін! – абвесьціў Гімлі, секануўшы абедзьвюма рукамі й зваліўшы ўдарам апошняга орка да сваіх ног. – Цяпер ужо я пэўна перагнаў спадара Ляголаса.

– Нам трэба зачыніць гэтую пацучыную нару, – прапанаваў Гамлінг. – Кажуць, гномы – майстры працы з каменьнем. Дапамажы нам, калі ласка, спадар гном!

– Мы не баявымі сякерамі чэшам камень і не пазногцямі, – адказаў Гімлі. – Але ж я дапамагу, чым здолею.

Пазьбіралі валуны й каменныя аскепкі й пад кіраўніцтвам Гімлі заклалі й загрувасьцілі ўнутраны канец тунэлю, пакінуўшы толькі вузкі праход. Тады Ярыца, разбухлая ад дажджу, забурліла й зацурчэла, сьціснутая камянямі, і паціху разьлілася халодным возерам ад сьцяны да сьцяны.

– Ну, наверсе будзе сушэй, – зазначыў Гімлі. – Давай, Гамлінг, пабачым, як там справы на муры!

Ускараскаўся наверх і знайшоў Ляголаса побач з Арагорнам і Эямэрам. Эльф вастрыў свой доўгі нож. Пасьля таго як спроба пралезьці праз рачны тунэль праваліласа, напад прыпыніўся.

– Дваццаць адзін! – пахваліўся Гімлі.

– Файна! – ухваліў Ляголас. – Толькі мая лічба – ужо два тузіны. Тут давялося папрацаваць нажом.

Эямэр з Арагорнам стомлена абаперліся на мечы. Леваруч гоман ды бразгат бойкі ля Горнбургу аднавіліся зноў. Але замак стаяў нерухома, як выспа пасярод мора. Брама яго ўжо разваліласа, але за барыкаду з камянёў і бярвеньня ніводны вораг яшчэ не прабіўся.

Арагорн зірнуў на бляклыя зоры, на месяц, які цяпер павольна хіліўся да заходніх гор, што засланялі даліну.

– Гэтая ноч даўжэйшая за шмат гадоў, – сказаў ён, – колькі ж нам яшчэ чакаць дня?

– Сьвітанак недалёка, – давёў Гамлінг, які ўскараскаўся наверх і стаў побач. – Але ж, баюся, ён нам не дапаможа.

– Сьвітанак заўжды прыносіў людзям надзею, – заўважыў Арагорн.

– Але ж гэтым стварэньням Ізенградку, гэтым паўоркам ды чалавекагоблінам, якіх вытварыла злоснае майстэрства Саўрона, сонца не перашкода, – запярэчыў Гамлінг. – Дый дзікунам-горцам таксама. Ці ня чуеце вы іхнія галасы?

– Я чую, – адказаў Эямэр, – аднак мне яны падаюцца птушыным гоманам ды выцьцём зьвяроў.

– Шмат з гэтых выгукаў – на мове Дунлянду, – патлумачыў Гамлінг. – Я ведаю яе. Гэта старажытная людзкая мова, і калісьці яна часьцяком гучала ў шмат якіх заходніх далінах Украйны. Прыслухайцеся! Яны ненавідзяць нас і задаволеныя, бо ім падаецца: наш скон блізкі. Яны галосяць: "*Кароль! Кароль! Схопім іх караля! Сьмерць Фаргойлам! Сьмерць Саламянагаловым! Сьмерць рабаўнікам з Поўначы!*" Гэткія ў іх імёны для нас. І за паўтысячы гадоў не забыліся яны на крыўду, на тое, што гаспадары Гондару аддалі Ўкрайну Эёрлу Маладому й пасябравалі зь ім. Гэтую старую нянавісьць Саруман аднавіў. А горцы – люты ў шаленстве народ. Яны ня спыняцца ані на сьвітанку, ані надвячоркам, пакуль ня схопяць Тэядэна альбо самі не загінуць.

– Так ці не, але новы дзень для мяне – заўжды надзея, – адказаў Арагорн. – І ці ж ня кажуць, што аніякі вораг ня возьме Горнбургу, пакуль ёсьць там абаронцы?

– Так сьпяваюць песьняры, – пацьвердзіў Эямэр.

– Ну дык будзем абараняць – і спадзявацца! – вымавіў Арагорн.

Не пасьпелі дагаварыць, як загулі рогі. Тады моцна загрукатала, выбухнула дымам і полымем. Вада Ярыцы, плёскаючы й равучы, абрынулася ў дол, бо анішто болей не перашкаджала ёй – у сьцяне выбухам выламала вялізны пралом. Цёмная навала хлынула празь яго.

– Вось Саруманава падступства! – выгукнуў Арагорн. – Яны зноў прабраліся ў тунэль, пакуль мы размаўлялі, ды запалілі ортанкава полымя пад самымі нашымі нагамі! Элендыль!

Галосячы, скочыў уніз, у пралом, але ж тым часам сотні лесьвіцаў учапіліся ў сьцены. Апошні напад хлынуў за мур і на мур, як хваля на пяшчаны пагорак. Абаронцаў зьмялі. Некаторых адцясьнілі глыбей у Яр, высякаючы, адсоўваючы крок за крокам да самых пячораў. Іншыя прабівалі сабе шлях да замку.

Шырокія сходы вялі зь Яру на скалу Горнбургу, да задняй брамы замку. Ля ўзножжа іх стаяў Арагорн. У ягонай руцэ яшчэ пабліскваў Андарыль, і жах перад мечам яшчэ стрымліваў ворагаў, пакуль ацалелыя абаронцы прабіваліся да лесьвіцы, адзін за адным падымаліся да брамы. За Арагорнам, троху вышэй, стаяў Ляголас, напяўшы лук з апошняю падабранаю стралой. Эльф уважліва сачыў, гатовы стрэліць у першага ж орка, які наблізіцца да лесьвіцы.

– Усе, хто мог, ужо дабраліся да замку, – паклікаў ён нарэшце. – Вяртаймася!

Арагорн павярнуўся й рушыў уверх па ўсходах. Але ж празь вялікую стому спатыкнуўся. Оркі адразу зь віскам кінуліся наперад, выцягнуўшы доўгія рукі, каб ухапіць яго. Першы паваліўся зь Ляголасавай стралой у горле, але ж астатнія лёгка

пераскочылі празь яго. Тады вялізны камень, кінуты зь сьцяны, абрынуўся на лесьвіцу, пакаціўся й зьмёў оркаў долу, у Яр. Арагорн дабег да дзьвярэй, і тыя адразу бразнулі за ягонай сьпінаю, зачыняючыся.

– Благія справы, сябры, – выцер рукою пот з лоба.

– Невясёлыя, – пагадзіўся Ляголас, – але ж не безнадзейныя, пакуль ты з намі. Дзе Гімлі?

– Ня ведаю. Апошні раз я бачыў яго, калі ён біўся ў Яры, за мурам, але бойка разьвяла нас.

– Шкада! Вось гэта сапраўды благія весткі, – загараваў Ляголас.

– Гімлі дужы й моцны ваяр, – суцешыў яго Арагорн. – Будзем спадзявацца, што ён прабіўся да пячораў. Там ён пэўны час будзе ў бясьпецы – у адрозьненьне ад нас. Дый гэткі схрон болей адпавядае гномскаму густу.

– Хацелася б, каб так яно й было, – сказаў Ляголас. – Лепей усё ж, каб ён прабіўся сюды, да нас. Я так хацеў давесьці спадару гному, што мая лічба цяпер – трыццаць дзевяць.

– Калі ён прабіўся да пячораў, дык зноў цябе абгоніць, – засьмяяўся Арагорн. – Я аніколі ня бачыў, каб так працавалі сякераю.

– Тады мушу пашукаць якіх стрэлаў. Хоць бы хутчэй скончылася гэтая ноч, каб лепей бачыць, куды цаляеш.

Арагорн прайшоў у замак і там з адчаем даведаўся, што Эямэр не прабіўся да Горнбургу.

– Не, ён не сягнуў замку, – пацьвердзіў адзін ваяр. – Я астатні раз бачыў яго, калі ён склікаў людзей ды біўся ў вусьці Яру за сьцяною. Зь ім былі Гамлінг і гном, але ж я ня змог да іх прабіцца.

Тады Арагорн скіраваўся ва ўнутраны двор ды падняўся на верх вежы. Там стаяў кароль – цёмная постаць ля вузкага вакна – і ўглядаўся ў далеч, на даліну.

– Якія навіны, Арагорн? – спытаў ён.

– Вашамосьць, Яравая сьцяна ўзятая, абаронцы расьсеяныя. Але шмат хто прабіўся сюды, у замак.

– І Эямэр?

– Не, вашамосьць. Шмат вашых ваяроў адступіла па Яры й некаторыя бачылі Эямэра сярод іх. У цясьнінах яны пасьпяхова абароняцца ды сягнуць пячораў. А якая надзея й выйсьце ім тады, я ня ведаю.

– Надзеі й выйсьця ім болей, чым нам. Кажуць, там даволі ежы. І паветра аднаўляецца дзякуючы шчылінам у скальным даху. Аніхто не прарвецца туды, пакуль абаронцы трываюць. Там можна трымацца доўга.

– Але оркі прынесьлі чараўнікову пошасьць з Ортанку, – распавёў Арагорн. – Выбуховае полымя. Зь ім і ўзялі сьцяну. Калі не прарвуцца ў пячоры, могуць заваліць уваходы й тых, хто ўнутры. Але ж нам зараз трэба клапаціцца пра ўласную абарону.

– Я гібею тут, нібы ў вязьніцы, – сказаў Тэядэн. – Калі б я здолеў яшчэ раз узяць дзіду, скакаць верхам наперадзе маіх людзей у бітве, мажліва, тады я зноў адчуў бы асалоду змаганьня й загінуў бы задаволены. А тут зь мяне няма карысьці.

– Тут вы, вашамосьць, пад аховай наймацнейшай крэпасьці Ўкрайны. Абараніць вас тут куды болей надзеі, чым у Эдорасе ці нават у Дунхэрэ.

– Кажуць, Горнбург аніколі ня бралі штурмам, але цяпер у маім сэрцы сумнеў. Сусьвет мяняецца. Моц мінуўшчыны цяпер не вытрымлівае. Як могуць любыя вежы стрымаць такую неабсяжную нянавісьць, такую колькасьць ворагаў? Калі б я ведаў,

што сіла Ізенградку гэтак вырасла, мабыць, не сьпяшаўся б гэтак бяздумна кідацца насустрач ёй, нягледзячы на словы й майстэрства Гэндальфа. Не такой ужо добрай выглядае ягоная парада, дадзеная пад ранішнім сонцам.

– Не сумнявайцеся ў Гэндальфавых парадах, мой гаспадар, пакуль не надышоў апошні час іх пробы.

– Апошні час блізка. Але ж я не сустрэну яго тут, злоўлены, як стары барсук у нары. Сьнежнагрыў, Хазуфэл ды коні маёй аховы тут, у замкавым двары. Калі пасьвятлее, я загадаю дзьмуць у Хельмаў рог і выеду насустрач ворагам. Ці паскачаш ты разам з мною, сын Араторна? Магчыма, мы прасячэм сабе шлях ці загінем так, што пра нас складуць песьні – калі застанецца, каму іх сьпяваць.

– Я паскачу разам з вашамосьцю, гаспадару, – адказаў Арагорн.

І, папрасіўшы дазволу сысьці, вярнуўся да муроў, абышоў іх кругам, узбадзёрваючы людзей і дапамагаючы там, дзе напад быў наймацнейшы. Ляголас крочыў побач. Выбухі полымя ўзьляталі ў вышыню з-пад сьценаў, камяні дрыжэлі. На муры закідвалі вяроўкі з крукамі, прыстаўлялі лесьвіцы. Зноў і зноў дабіраліся оркі да верху вонкавай сьцяны замку – і зноў абаронцы скідвалі іх уніз.

Нарэшце Арагорн стаў над вялікаю брамаю, не зьвяртаючы ўвагі на варожыя стрэлы й дзіды. Зірнуў наперад: нябёсы на ўсходзе сьвятлелі. Тады ўзьняў руку далонёю наперад – пазнакаю перамоваў.

Оркі кпліва зарагаталі.

– Спускайся, спускайся, – загукалі. – Калі жадаеш перамоваў, спускайся! Ды прыхапі караля! Мы – баявыя ўрук-хаі! Мы самі выцягнем яго з нары, калі ён ня зьявіцца. А ну, вядзі сюды свайго караля-баязьліўцу!

– Кароль вольны ісьці ці заставацца, як ён пажадае, – адказаў Арагорн.

– Тады што ты там робіш? Чаго высунуўся? Хочаш палічыць, колькі нас? Нас цьма! Мы – баявыя ўрук-хаі!

– Я хачу пабачыць сьвітанак.

– І што, пабачыў? – рагаталі оркі. – Мы – урук-хаі, мы б'емся ўдзень і ўночы, пад сонцам ці ў непагадзь. Пад сонцам ці месяцам – мы йдзем забіваць! Што нам сьвітанак?

– Аніхто ня ведае, што прынясе яму новы дзень. Сыходзьце прэч – альбо тут вы напаткаеце кон.

– Гэй, спускайся, а то саб'ем зь сьцяны стралою. Гэта не перамовы. Табе няма чаго казаць.

– Яшчэ ніводны вораг ня ўзяў Горнбургу. Сыходзьце прэч – альбо анікога з вас не пашкадуюць. Анікога з вас не застанецца ў жывых, каб прынесьці весткі пра вас на поўнач. Вы ня ведаеце, чым рызыкуеце! – вымавіў Арагорн.

І такая ўладарная моц прагучала ў ягоных словах, нарысавалася ў ягоным выглядзе, калі ён стаяў самотны над зруйнаванай брамаю, над варожым войскам, што многія людзі-дзікуны прыпыніліся й азірнуліся назад, на даліну, а некаторыя глянулі на нябёсы. Але оркі зарагаталі гучней, і суцэльная віхура стрэлаў і дзідаў прасьвісьцела, як толькі Арагорн саскочыў долу.

Тады зараўло й выбухнула, выкінула вялізарны язык полымя над брамаю. Арка брамы, дзе вось толькі стаяў Арагорн, зламалася й абрынулася ў клубах дыму й пылу. Завал за брамаю разьнесла, бы перуном. Арагорн пабег да каралеўскай вежы.

Але ж як толькі праход на месцы брамы вызваліўся й оркі завішчэлі, рыхтуючыся кінуцца наперад, за іх сьпінамі ўзьняўся шэпт, нібы далёкі вецер, і

ператварыўся ў гоман мноства галасоў, што распавядалі дзівосныя навіны. Оркі пад Горнбургам, чуючы гэтыя галасы адчаю, захісталіся, закруцілі галовамі. І тады, раптоўна й жудасна, зь вежы высока над галовамі пакаціўся магутны роў Хельмавага рога.

Усе, што пачулі гэты гук, затрапяталі. Шмат хто з оркаў паваліўся ніцма, закрываючы вушы кіпцюрастымі пальцамі. А зь Яру выкатваліся погук за погукам, роў за ровам, быццам на кожнай скале й гары стаяў магутны герольд. І на сьценах людзі зірнулі ўгору, прыслухоўваючыся, бо рэха не сьціхала. Сярод пагоркаў гучала яно зноў, усё бліжэй адгукаліся, пераклікаліся сьпевы рагоў, галасілі вольна й шалёна.

– Хельм! Хельм! – загукалі ваяры. – Хельм узьняўся й зноў ідзе на вайну! Хельм за караля Тэядэна!

І з тым поклічам зьявіўся кароль. Конь яго быў бялейшы ад сьнегу, золатам зьзяла тарча, доўгаю была дзіда. Праваруч ехаў Арагорн, спадчыньнік Элендыля, побач – кравіна роду Эёрла, гаспадары Ўкрайны. Сьвятло разьлілося ў нябёсах. І згінула ноч.

– На бой, эёрлінгі! – з магутным клічам, бразгатам і грукатам абрынуліся яны на ворага. Пранесьліся цераз браму, па насыпе й па арцы над ракою й праз натоўп ізенградцаў, нібы вецер праз траву. Зь імі зь Яру данесьліся суворыя клічы абаронцаў, якія выйшлі зь пячораў ды пагналі ворагаў. І з замку высыпалі ўсе ягоныя ваяры. А водгукі рога ўсё ляцелі над Ярам.

Нястрымна рушыў кароль і ягоныя ваяры. Мацнейшыя ворагі, правадыры й ачольцы падалі перад імі альбо беглі прэч, ратуючы жыцьці. Ані орк, ані чалавек ня выстаялі перад імі. Уцякалі яны прэч, прэч і не пасьпявалі згледзець сваю сьмерць ад дзідаў ды мечаў вершнікаў Тэядэна. Яны лямантавалі й енчылі, бо вялікі жах і зьдзіўленьне напаткалі іх на золку новага дня.

Гэтак выехаў кароль Тэядэн за Хельмавую браму й прасек сабе шлях да вялікага валу. Там харугва спынілася. Сьвятло дня разьлілося над імі. Сонечныя промні зазьзялі на ўсходніх пагорках, на канчарах дзідаў. Але ж вершнікі сядзелі маўкліва, паглядаючы долу, на лог перад імі.

А там усё зьмянілася. Дзе раней ляжала травяністая роўнядзь і нібы зялёнае возера пляскала хвалямі ў схілы пракавечных стромаў, зараз узвышаўся пагрозьлівы лес. Веліканскія дрэвы, голыя, маўклівыя, стаялі шэрагамі – вузлаватыя, з густымі, пераблытанымі галінамі, з крывымі каранямі, якія ўпіліся ў доўгую зялёную траву. Цемра драмала сярод іх. Меней за пяць гоняў было ад валу да таго безыменнага лесу. Паміж ім і валам сабралася ганарлівае войска Сарумана, у страху й ад каралеўскіх дзідаў, і ад жудаснага лесу. Яно паўцякала зь Яру да апошняга ваяра й кішэла на вузкай палосцы травы, як мухі над падлай. Дарэмна спрабавалі Саруманавы ваяўнікі ўскараскацца на сьцены логу, каб уцячы. На ўсходзе надта камяністыя й стромыя былі тыя сьцены, а з захаду набліжаўся апошні кон.

Там, на грэбені хрыбта, зьнянацку зьявіўся апрануты ў белае вершнік, зьзяючы пад промнямі маладога сонца. За пагоркамі загулі рогі. І за вершнікам уніз па схіле рушыла тысяча пешых мечнікаў. Сярод іх – высокі й магутны ваяр з чырвонай тарчай. Сягнуўшы даліны, ён падняў да вуснаў вялізны чорны рог і пратрубіў аглушальны, звонкі заклік.

– Эркенбранд! – загукалі вершнікі. – Эркенбранд!

– Зірніце, Белы Вершнік! – крыкнуў Арагорн. – Гэндальф зьявіўся зноў!

– Ну, Мітрандыр! – зьдзівіўся Ляголас. – Насамрэч чараўніцтва! Трэба пасьпяшацца й зірнуць на гэты лес, пакуль чары не расьсеяліся.

Войска Ізенградку адсунулася, кідаючыся туды-сюды паміж адным жахам і другім. Зноў загуў зь вежы рог. І харугва караля рушыла за праход валу. Уніз сыходзіў шыхт Эркенбранда, гаспадара Заходняй Украйны. Як алень, што вольна скача па гарах, паскакаў уніз Цяняр. Белы Вершнік абрынуўся на ворагаў, і жах пазбавіў іх розуму. Дзікуны валіліся ніцма. Оркі хісталіся, лямантуючы, кідаючы мечы й дзіды. І ўцякалі, і несьліся, і зьнікалі, бы чорны дым пад уладарным ветрам. Зь енкам кінуліся наўцёкі ў пагрозьлівы цень пад дрэвамі, і адтуль аніхто зь іх ня выйшаў.

## *8. Шлях да Ізенградку*

Вось так сустрэліся зноў пад ранішнім сонцам Белы Вершнік Гэндальф і кароль Тэядэн – на зялёнай траве побач з ракою Ярыцаю. Былі там таксама Арагорн, сын Араторна, і эльф Ляголас, і ўладар Эркенбранд, і радзіна гаспадара Залатога палацу. Вакол сабраліся рахірымы, вершнікі Украйны. Зьдзіўленьне пераважыла нават радасьць перамогі, прыкавала ўсіхнія позіркі да лесу.

Раптоўна пачуліся радасныя згукі, і з праходу ў вале выйшлі тыя, каго ворагі адцясьнілі ў глыбіню Яру. Сярод іх былі й Гамлінг Стары, і Эямэр, сын Эямунда, крочыў побач і гном Гімлі – без шалома, з акрываўленаю павязкаю на галаве, аднак голас ягоны гучаў моцна й бадзёра.

– Сорак два, спадару Ляголасе! – гукаў ён. – На жаль, сякера зазубрылася: у сорак другога апынуўся сталёвы каўнер. А як у цябе справы?

– Ты абагнаў мяне на аднаго, – адказаў эльф. – Але ж я не шкадую, што прайграў, – гэтак рады зноў бачыць цябе жывым ды яшчэ здольным бегчы й галасіць!

– Вітаю цябе, Эямэр, сын сястры маёй! – абвесьціў Тэядэн. – Бачу я: ты жывы й здаровы, і сэрца маё насамрэч у радасьці.

– Пашана вам, гаспадар Украйны! – адгукнуўся Эямэр. – Начная цемра сышла, і зноў надышоў дзень. Але ж ён прынёс дзіўныя навіны, – ён павярнуўся й зірнуў спачатку на лес, а тады на Гэндальфа. – Яшчэ раз вяртаецца спадар у час нашай бяды нечаканым.

– Нечаканым? – зьдзівіўся Гэндальф. – Я ж сказаў, што вярнуся й сустрэну вас тут.

– Але ж не азначыў ані гадзіны сустрэчы, ані таго, як адбудзецца вяртаньне. Дзівосная дапамога. Вялізная моц гэтых чараў, Гэндальфе Белы!

– Цалкам мажліва. Хоць я яе яшчэ й не дэманстраваў вам. Я толькі даў добрую параду падчас небясьпекі ды скарыстаўся спрытнымі нагамі Ценяра. Вашая мужнасьць зрабіла болей, а таксама трывалыя ногі ваяроў Заходняй Украйны, якія ішлі ўсю ноч.

Тады ўсе зірнулі на Гэндальфа яшчэ болей уражаныя. Некаторыя глядзелі на лес нядобра й нават праводзілі рукамі перад вачыма, каб праверыць, ці ня морак на іхніх вачох, ці ня бачыць Гэндальф іншае, чым яны.

Гэндальф жа засьмяяўся, доўга й дабрадушна.

– Дрэвы? Ды не, я бачу іх гэтаксама, як і вы. Але ж гэта не мая дзея. Пра іх не здагадаўся б і наймудрэйшы, і не прадбачыў бы іхняга зьяўленьня. А атрымалася лепей за любую маю задумку, лепей за ўсё, на што я спадзяваўся.

– Калі гэта не тваё, дык чыё ж чараўніцтва? – сумеўся Тэядэн. – Не Саруманава, відавочна. Мо існуе магутнейшы вядун, пра якога мы яшчэ ня ведаем?

– Гэта не чараўніцтва, але моц, нашмат старэйшая, – паведаміў Гэндальф. – Моц, якая крочыла па зямлі яшчэ да таго, як засьпявалі эльфы й зазьвінелі молаты ў кавальнях.

*Да таго, як дрэвы сьсеклі ды жалеза знайшлі,*
*Калі месяц і горы яшчэ маладыя былі,*
*Да пярсьцёнкаў, да ліха й гора Чорных гадоў*
*Яны крочылі вольна сярод старадаўніх лясоў.*

– І якая ж разгадка тваёй загадкі? – спытаў Тэядэн.

– Калі жадаеш даведацца, едзьма з мною ў Ізенградак.

– У Ізенградак? – загукалі ўсе.

– Так, – пацьвердзіў Гэндальф. – Я еду ў Ізенградак, і тыя, што жадаюць, могуць ехаць з мною. Там, верагодна, пабачым мы дзівосныя рэчы.

– Але ж ва ўсёй Украйне ня знойдзецца ваяроў, каб асадзіць цьвярдыню Сарумана, нават калі зьбяруцца ўсе, забыўшыся на раны й стому, – сказаў Тэядэн.

– Тым ня менш я еду да Ізенградку, – вымавіў Гэндальф. – Доўга я там не застануся. Цяпер мой шлях – на ўсход. Чакайце мяне ў Эдорасе яшчэ да ветаху!

– Не, – вырашыўся Тэядэн. – У чорную гадзіну перад сьвітанкам засумняваўся я ў табе, але ня зараз. Зараз я паеду з табою, калі ты раіш мне.

– Я жадаю перамовіць з Саруманам як мага хутчэй, – давёў Гэндальф. – Ён учыніў табе вялікую шкоду й таму цалкам натуральна, каб ты таксама быў побач з мною. Але ж як хутка ты здольны выправіцца ў дарогу?

– Мае людзі вельмі стомленыя бітвай, і я таксама. Бо зашмат ехаў і замала спаў. На жаль, старасьць мая – не ўдаваная, ня толькі нашаптаная Зьмеяротым. Старасьць – хвароба, якую наймайстравіцейшы лекар ня здольны ацаліць, нават і сам Гэндальф.

– Тады няхай усе, што пажадаюць выправіцца з мною, зараз адпачнуць, – прапанаваў Гэндальф. – Рушым пад покрывам сутоньня. Гэта й лепей, бо ўсім нашым дзеям належыць цяпер быць як мага таемнейшымі. Аднак хай вялікае войска ня едзе з табою, Тэядэн. Мы едзем на перамовы, не на бітву.

Тады Тэядэн абраў сярод ваяроў непараненых ды з спрытнейшымі коньмі й разаслаў іх з навінамі пра перамогу ў кожную даліну Ўкрайны, а таксама з заклікам усім мужчынам, маладым і старым, тэрмінова зьявіцца ў Эдорас. Там гаспадар Украйны зьбірае на другі дзень пасьля поўні ўсіх здольных трымаць зброю. Каб ехаць да Ізенградку кароль абраў Эямэра й дваццаць вояў сваёй аховы. З Гэндальфам выправіліся Арагорн, Лёголас і Гімлі. Нягледзячы на рану, гном не застаўся.

– А, слабы быў удар, дый шалом яго адвярнуў, – так ён сказаў. – Трэба штосьці большае за драпіну ад орка, каб затрымаць мяне тут.

– Я агледжу тваю драпіну падчас адпачынку, – прапанаваў Арагорн.

Кароль вярнуўся ў Горнбург і заснуў – так спакойна, як ня спаў цягам мноства гадоў, і абраныя ваяры адпачывалі таксама. А астатнім, хто ня быў цяжка паранены, дасталіся шмат працы, бо многа сяброў і непрыяцеляў загінула на полі бітвы, палёгшы ў Яры ці ў логу за ім.

Оркаў жывых не засталося, а целаў іх валялася безьліч. Але ж мноства горцаў здаліся ў палон і ў вялікім страху прасілі літасьці. У іх паадбіралі зброю й прымусілі працаваць.

– Дапамажыце цяпер выправіць ліха, да якога вы далучыліся, – так загадаў ім Эркенбранд, – а пасьля пакляніцеся аніколі не пераходзіць броду Ізену з зброяю ў руках ды ўчыняць зьвязы з ворагамі людзей. Тады будзеце вольныя вярнуцца да сваіх земляў. Саруман падмануў вас. Многім сьмерць сталася адплатаю за такі давер. А калі б вы й перамаглі, не нашмат лепшай была б ягоная ўзнагарода.

Дунляндцы надта зьдзівіліся, бо Саруман распавядаў ім пра жорсткасьць рахірымаў і пра тое, што яны паляць палонных жыўцом.

Пасярод поля перад Горнбургам насыпалі два курганы й пахавалі пад імі ўсіх ваяроў Украйны, загінулых у сечы. Пад адным – людзей з усходніх долаў, пад другім – ваяроў заходняй зямлі. У асобнай магіле пад сьцяною Горнбургу пахавалі Хаму, ачольцу каралеўскай аховы. Ён загінуў перад брамаю замку.

Оркаў згрувасьцілі ў вялізныя кучы падалей ад людзкіх курганоў і паблізу таемнага лесу. Роханцы турбаваліся, як даць рады, бо надта шмат было нелюдзяў, каб спаліць ці закапаць іх. І дроваў не ставала, і да дзівоснага лесу аніхто не адважыўся б падступіцца зь сякераю. Нават калі б Гэндальф і не папярэдзіў пад пагрозаю вялікай небясьпекі, ніхто не ўчыніў бы найменшай шкоды тым дрэвам.

– Няхай оркі ляжаць, – загадаў Гэндальф. – Мо раніца прынясе што новае наконт іх.

Удзень каралеўская харугва сабралася ў дарогу. Пахаваньне забітых яшчэ толькі распачалося. Тэядэн, які сумаваў па Хаму, першы кінуў жменю зямлі на ягоную магілу.

– Вялікую шкоду, насамрэч, учыніў мне й маёй зямлі Саруман, – сказаў кароль. – Я згадаю тое падчас нашай сустрэчы.

Сонца ўжо хілілася за заходнія горы, калі нарэшце Тэядэн з Гэндальфам і іхнія суправаджальнікі выехалі за вал. Пажадаць ім добрай дарогі сабраўся вялізны натоўп – і ваяроў, і паспалітых людзей Заходняй Украйны, старых і маладых, кабетаў і малечы, якія пакінулі пячоры. Яснымі галасамі яны сьпявалі песьні перамогі, а тады замоўклі, дзівячыся, што ж адбудзецца блізу злавесных дрэваў, бо іх баяліся.

Вершнікі пад'ехалі да лесу й спыніліся – ані людзі, ані коні не жадалі ўяжджаць у яго. Шэрыя дрэвы пагрозьліва гайдаліся, агорнутыя ці то ценем, ці то смугою. Канцы доўгіх, раскідзістых галінаў зьвісалі й варушыліся, нібы пальцы; карані ўздыбліваліся з глебы, як лапы дзівосных пачвараў, і пад імі расчыняліся чорныя яміны. Гэндальф упарта рушыў наперад, ведучы харугву за сабою, і там, дзе шлях ад Горнбургу ўваходзіў у лес, знайшоўся праход – рыхтык тунэль пад магутнымі сукамі. Празь яго праехаў Гэндальф, і астатнія за ім. Там, на зьдзіўленьне, убачылі, што шлях застаўся вольны, вёў па-ранейшаму ўздоўж Ярыцы, і над галавою нябёсы поўніліся залацістым сьвятлом. А пааберуч цёмныя муры лесу ўжо агарнула сутоньне, што ўдалечыні гусьцела ажно да цяжкога змроку. Адтуль даносіліся хрыпы й скрыгат галінаў, прыглушаны лямант, раззлаваны шэпт бясслоўных галасоў. Але нідзе шыхт ня бачыў ані орка, ані якой іншай жывой істоты.

Гімлі зь Ляголасам ехалі цяпер на адным кані й трымаліся паблізу Гэндальфа, бо Гімлі баяўся лесу.

– Сьпякотна тут, – павярнуўся Ляголас да чараўніка. – Я адчуваю вялікую злосьць навокал. Ці ня чуе спадар, як паветра грукае, пульсуе ўвушшу?

– Але, – згадзіўся Гэндальф.

– Што ж здарылася зь небаракамі оркамі? – спытаў эльф.

– Мяркую, аніхто ўжо не даведаецца, – адказаў Гэндальф.

Пэўны час ехалі ў цішыні. Але Ляголас штохвілю азіраўся. Напэўна, ён часта прыпыняўся б, каб паслухаць лясныя згукі, калі б Гімлі дазволіў.

– Найдзівосьнейшы лес з усіх, якія я бачыў, – казаў эльф. – А я бачыў шмат дубоў ад іх маленства да скону, ад жолуда да струпехлага пня. Калі б толькі быў час пабадзяжыць сярод гэ тых дрэваў. Бо ў іх ёсьць галасы, і з часам я навучыўся б разумець іхнія думкі.

– Не, не! – прабурчэў Гімлі. – Няхай сабе растуць самі па сабе! Мне іхнія думкі й так відавочныя: нянавісьць да ўсяго на дзьвюх нагах, і размаўляюць яны пра тое, як расьціскаць і душыць.

– Не да ўсяго на дзьвюх нагах, – не пагадзіўся эльф. – Тут ты памыляесься. Яны ненавідзяць оркаў. А пра людзей з эльфамі анічога ня ведаюць. Вырасьлі яны ў далёкіх глухіх далінах Фангарну – так мне падаецца.

– Тады гэта насамрэч самы небясьпечны лес у Міжзем'і, – вырашыў Гімлі. – Я ім удзячны за дапамогу, але ж болей даспадобы яны мне з таго ня сталі. Мо ты й лічыш іх цудоўнымі, але я бачыў у гэтай зямлі цуды, прыгажэйшыя за любы гай, бор ці ўзьлесак, які толькі вырастаў у сьвеце. Маё сэрца яшчэ поўнае тым харaством. Дзівакі ўсё ж людзі, анягож. У іх тут пад носам адзін з найвялікшых цудаў паўночнага сьвету, і як яны называюць яго? Пячоры, вось як! Упрост – пячоры! Норы, каб хавацца падчас вайны, скляпеньні, каб трымаць ежу! Сябра мой Ляголасе, ці ведаеш ты, якія прасторныя, якія надзвычайна прыгожыя пячоры Хельмавага Яру? Калі б пра іх ведалі гномы, дык яны бясконца цягнуліся б з усіх краёў Міжзем'я, каб толькі зірнуць на іх! Ды што там, плацілі б чыстым золатам за адзін кароткі позірк!

– А я плаціў бы золатам, каб мяне такое шчасьце абышло, – сказаў Ляголас, – дый удвая, каб выйсьці, калі ўжо надарыцца забрысьці туды.

– Ты ня бачыў іх, таму я дарую табе твой жарт. Але ж ты кажаш лухту. Ты ж лічыш, напэўна, прыгожымі тыя залі пад гарою ў Ліхалесьсі, дзе жыве твой кароль? Калісьці гномы дапамаглі вычасаць іх. Аднак вашыя пакоі – проста дзірка ў зямлі ў параўнаньні з тым, што бачыў я: неабсяжныя залі, поўныя пракавечнай музыкай вады, якая павольна, па кроплі, падае, звонячы, у азёры, прыгожыя, як Келед Зарам у зорным сьвятле. А калі запаленыя паходні, і людзі ідуць па пяшчанай падлозе пад купаламі, і рэха крочыць за імі – вох, Ляголасе! Тады крышталі, і каштоўныя камяні, і жылы каштоўных рудаў зіхацяць на сьлігтаваных сьценах, і сьвятло прасочваецца праз мармуровыя складкі, нібы праз ракаўкі, паўпразрыстыя, як жывыя далоні каралевы Галадрыелі. Там белыя, пунсовыя, ружова-цёплыя калёны, галінастыя, вычварна перакручаныя. Яны падымаюцца з рознакаляровых падлог, каб сустрэць зіхоткі карунак ля столі: крылы, шнуры, завесы, быццам зьмерзлыя аблокі, дзіды, сьцягі, вежы палацаў, падвешаных у вышыні. Спакойныя азёры люструюць іх, і зіхоткі сьвет паглядае зь іхняй цьмянай роўнядзі, бы пакрытай празрыстым шклом. Гарады, якія самому Дарыну наўрад ці ўбачыліся б у ягоным сьне, шляхі й вуліцы паміж калёнаў – яны вядуць у цёмныя глыбіні, куды аніколі не сягала сьвятло. Араптам – зьвень! Падае срэбная кропля, і ад круглых зморшчынак на вадзе ўсе вежы згінаюцца й дрыжаць, як травы й каралы ў марскім гроце. Тады, за паходнямі, надыходзіць сутоньне – яны цьмянеюць, блікі гаснуць, – а паходні рушаць у іншы пакой, да іншых мрояў. У пакой за пакоем, Ляголас, і заля адчыняецца за заляй, купал за купалам, лесьвіца за лесьвіцай, а шлях, віючыся, вядзе ўсё далей, у сэрца гары. Пячоры! Пячоры Хельмавага Яру! Хай ушануецца той час, які прывёў мяне да іх! Я ледзь ня плакаў, пакідаючы іх.

– Тады я, каб суцешыць, пажадаю табе ўдачы, – вымавіў эльф, – каб ты мог вярнуцца сюды пасьля вайны й пабачыць усё зноў. Але не кажы радзіне! З твайго расповеду падаецца, што там ужо не засталося працы для тваіх суродзічаў. Мажліва, людзі гэтага краю маюць рацыю, што мала распавядаць пра пячоры, бо адна сям'я гномаў з молатамі й іншым рыштункам можа напсаваць значна болей, чым стварыць.

– Не, ты не разумееш, – абурыўся Гімлі. – Аніякага гнома не пакіне абыякавым гэткае хараство. Аніхто з Дарынавага народу ня стане дзяўбці гэтыя пячоры, каб здабыць камяні ці руды, нават калі золата з дыямантамі знойдуцца тут. Вы ж не сечаце дрэвы ў вясновай квецені на дровы? Мы будзем клапаціцца пра гэтыя паляны заквітнелага каменю, а не здабываць яго. З асьцярожнасьцю й майстэрствам, раз-

пораз з малаточкам – мо адзіны аскепачак за цэлы клопатны дзень – так мы працавалі б. І за доўгія гады адчынілі б новыя праходы, адкрылі б далёкія залі, якія цяпер яшчэ ў цемры, адзначаныя толькі чорнымі праваламі за шчылінамі ў скале. І сьвятло – не забудзься на сьвятло, Ляголас. Мы такія зрабілі б сьвяцільні й ліхтары, якія калісьці зьзялі ў Казад Думе. І тады на жаданьне маглі б прагнаць прэч цемру, што ляжыць там ад стварэньня саміх гор. А калі б мы схацелі адпачыць, мы дазволілі б ночы вярнуцца.

– Ты мяне ўзрушыў, Гімлі, – прызнаўся эльф. – Я аніколі раней ня чуў, каб ты так распавядаў. Мне амаль шкада, што я не пабачыў тых пячораў. Ну, давай складзем дамову: калі абодва вернемся зь небясьпек, што чакаюць нас, мы пэўны час павандруем разам. Ты завернеш у Фангарн з мною, а тады я з табою зазірну ў пячоры Хельмавага Яру.

– Ня так я пажадаў бы вярнуцца, ацалеўшы, – сказаў на тое Гімлі. – Але ж я згодны вытрываць Фангарн, калі ты паабяцаеш завітаць у пячоры разам з мною – і разам падзівіцца на іх хараство.

– Я абяцаю, – вымавіў Ляголас. – Аднак, на жаль, пакуль што мы прымушаныя пакінуць за сьпінамі й лес, і пячоры. Зірні: мы набліжаемся да канца й гэтага лесу. Колькі яшчэ да Ізенградку, Гэндальф?

– Каля дзевяці міляў, калі вымяраць паводле лёту Саруманавых крумкачоў, – адказаў Гэндальф. – Тры ад вусьця цясьніны да броду ды яшчэ шэсьць адтуль да брамы Ізенградку. Але ж мы не праедзем усё за ноч, прыпынімся на шляху.

– А калі дабярэмся туды, што пабачым? – спытаў Гімлі. – Ты, можа, і ведаеш, а я дык уявіць ня здольны.

– Я й сам ня пэўны, – адказаў чараўнік. – Я быў там учора ўвечары, але з таго часу шмат што магло зьмяніцца. Усё ж, мяркую, вы не палічыце нашую вандроўку марнай – нават калі дзеля яе й давялося пакінуць за сьпінамі Зіхоткія пячоры Агларонду.

Нарэшце харугва пакінула дзівосны лес і вынайшла, што ўжо дабралася да дна цясьніны, дзе шлях ад Хельмавага Яру разгаліноўваўся на гасьцінцы на ўсход, да Эдорасу й да броду Ізену. Калі выяжджалі зь лесу, Ляголас прыпыніўся й азірнуўся з жалем. А тады раптоўна выгукнуў:

– Там вочы! Вочы глядзяць зь ценяў! Аніколі такіх раней ня бачыў!

Астатнія, зьдзіўленыя й напалоханыя выгукам, прыпыніліся й павярнуліся, а Ляголас крануў каня ехаць назад.

– Не, не! – загаласіў Гімлі. – Вар'яцей, як пажадаеш, але ж мне дазволь спачатку з каня зьлезьці! Я не хачу бачыць аніякія вочы!

– Стой, Ляголас Зялёны Ліст! – загадаў Гэндальф. – Не вяртайся ў лес, яшчэ ня час!

Не пасьпеў дагаварыць, а зь лесу зьявіліся тры найдзівосьнейшыя стварэньні. Высокія, як тролі, дванаццаць ці болей ступнёў вышынёю. Іхнія моцныя целы, дужыя, як маладыя дрэвы, падавалася, апранала кара ці шчыльная шызая й рудая вопратка. Рукі й ногі былі доўгія, з мноствам пальцаў, валасы – цьвёрдыя й пругкія, а бароды – шэра-зялёныя, бы цьвіль. Стварэньні пазіралі сумнымі вачыма, але не на вершнікаў, позіркі іхнія кіраваліся на поўнач. Раптам паднялі доўгія рукі да вуснаў – і зазьвінелі гулкія погукі, ясныя, як галасы рагоў, але болей мэлядычныя, пераменлівыя. Пачуўся й адказ, і, павярнуўшыся зноў, вершнікі ўбачылі іншых істотаў такога самага выгляду. Тыя хутка набліжаліся па траве. Ішлі з поўначы, размашыста й няўклюда, як

чаплі, але нашмат спрытней, бо іхнія доўгія ногі рухаліся часьцей за чапліны крылы. Вершнікі загукалі зьдзіўлена, а хто-кольвек і схапіўся за цаўё меча.

– Ня трэба зброі, – вымавіў Гэндальф. – Гэта папросту пастухі. Яны ня ворагі вам. Насамрэч пра вас ім і клопату няма.

Гэтак яно й падавалася, бо высокія стварэньні нават не зірнулі на вершнікаў, крочылі ў лес ды зьніклі там.

– Пастухі? – спытаў Тэядэн. – Дзе ж іхнія статкі? Што яны, Гэндальфе? Бо відавочна: табе яны, ва ўсялякім выпадку, добра знаёмыя.

– Яны пастухі дрэваў, – адказаў чараўнік. – Ці даўно ты чуў расповеды ля агменю? Мяркую, у гэтай зямлі ёсьць малыя, што зь пераблытаных словаў казак здольныя вывесьці адказ на тваё пытаньне. О кароль, ты пабачыў энтаў лесу Фангарн, які на сваёй мове ты й называеш Энтавым лесам. Ці ты думаеш, што тое імя – несур'ёзная прыдумка? Не, Тэядэн, наадварот: гэта для іх вы – выпадковае здарэньне, і ўсе гады ад Эёрла Маладога да Тэядэна Старога для іх як адзіны дзень, а ўсе дзеі твайго роду – ня вартая ўвагі дробязь.

Кароль доўга маўчаў.

– Энты, трэба ж, – вымавіў нарэшце. – Цяпер, згадаўшы паданьні даўніны, напэўна, разумею цуд гэтых дрэваў. Да дзівосных дзён дажыў я. Доўга жылі мы, гадавалі жывёлу, працавалі на палёх, будавалі дамы, кавалі прылады й зброю – ці выяжджалі, каб дапамагчы ў войнах Мінас Тырыту. І называлі гэта тым, на чым трымаецца сьвет, – чалавечым жыцьцём. І не турбаваліся, што робіцца па-за нашымі межамі. Ёсьць у нас песьні пра дзіўнае, але мы забываем іх, толькі вучым малых – паводле даўняга бессэнсоўнага звычаю. А сёньня песьні самі прыйшлі да нас зь дзівосных мясьцінаў і крочаць жыўцом пад яснымі нябёсамі.

– Радуйся, кароль Тэядэн, – адгукнуўся Гэндальф. – Бо цяпер ня толькі людзі зь іхнім кароткім жыцьцём у небясьпецы, але й тыя істоты, якіх ты лічыў старажытнаю казкаю. Ты ў гэтым сьвеце не без саюзьнікаў, хоць і ня ведаеш іх усіх.

– Аднак шкадую, што ня ведаю, – задумліва вымавіў кароль. – Бо як вайна ні пойдзе, ці ня згіне ў выніку яе шмат прыгожага й дзівоснага, што ёсьць цяпер у Міжзем'і?

– І тое магчыма, – пагадзіўся Гэндальф. – Саўронава ліха нялёгка будзе загаіць, і немажліва зрабіць так, быццам яго не было. Але ж такія нашыя дні й наш лёс у іх. Рушым хутчэй абраным шляхам!

Харугва збочыла ад цясьніны й лесу на гасьцінец да броду. Ляголас рушыў неахвотна. Сонца зайшло, закацілася за край сьвету. Але ж калі выехалі зь ценю пагоркаў і зірнулі на захад, на Браму Рохану, убачылі: нябёсы там яшчэ чырванеюць, пад імклівымі аблокамі палае барвовае полымя. Цёмнымі плямамі ў ім лётаюць, кружляюць чарнакрылыя птушкі. Некаторыя праляталі й над галовамі, з жалобным енкам вяртаючыся да сваіх дамоў у скалах.

– Сьцярвятнікі зьляцеліся на поле бітвы, – вымавіў Эямэр.

Зараз ехалі павольней. Роўнядзі агарнуў змрок. Ускараскаўся на нябёсы падпоўнік, і ў ягоным халодным срабрыстым сьвятле травяністае ўзгор'е падавалася шэрым морам. Праз чатыры зь нечым гадзіны пасьля скрыжаваньня наблізіліся да броду. Доўгія схілы спускаліся туды, дзе разьлілася на камянях рака паміж зарослымі травой тэрасамі берагоў. Вецер данёс ваўчыны вой. На сэрцы ў вандроўнікаў было цяжка, бо ўзгадалі, колькі ваяроў загінула тут.

Шлях паглыбляўся ва ўзгорак, праразаючы прырэчныя тэрасы, і паабапал уздымаліся ўсё вышэй схілы. Гасьцінец спускаўся да броду й аднаўляўся на другім баку, падымаючыся па ім. На бродзе ляжалі тры рады пляскатых белых камянёў, каб крочыць па іх пешшу, а коней можна было правесьці паміж радамі. Пасярод струменю высілася голая выспа. Вершнікі зірнулі на раку й зьдзівіліся: на бродзе заўсёды ракатала й гучна плёскала вада, цяпер жа над ім павісла цішыня. Рачное ўлоньне было амаль сухім, голай пустэчай жвіру ды шэрага пяску.

– Як жудасна, – вымавіў Эямэр. – Якое ж ліха напаткала раку? Мноства рэчаў загубіў Саруман? Мо спаскудзіў і крыніцы Ізену?

– Так падаецца, – заўважыў Гэндальф.

– Шкада! – усклікнуў кароль. – Мы мусім праяжджаць менавіта тут, дзе пачвары зжэрлі гэтак шмат файных ваяроў Украйны?

– Такі наш шлях, – пацьвердзіў Гэндальф. – Сумна й цяжка страчваць сваіх ваяроў. Аднак ты ўбачыш, што горныя ваўкі ня зжэрлі іх. Зараз яны ладзяць бяседу на былых прыяцелях, орках. Такое вось сяброўства ў гэтай пароды. Рушым!

Спусьціліся да ракі, і ваўкі перад імі змоўклі й адсунуліся прэч. Збаяліся Гэндальфа ў месяцовым сьвятле, у якім Цяняр зьзяў, як срэбны. Вершнікі даехалі да выспы. Бліскучыя вочы пазіралі на іх зь ценяў на берагах.

– Зірніце! – заклікаў Гэндальф. – Тут папрацавалі сябры.

На сярэдзіне выспы быў насыпаны курган, абкладзены камянямі й утыканы мноствам дзідаў.

– Тут ляжаць усе ваяры Ўкрайны, якія загінулі непадалёк ад броду, – патлумачыў Гэндальф.

– Хай спачываюць у міры! – вымавіў Эямэр. – І нават калі спарахнеюць іхнія дзіды й іржа зьесьць канчары, доўга будзе курган вартаваць брод Ізену!

– Ці ня твой гэта ўчынак таксама, сябра мой Гэндальфе? – спытаў Тэядэн. – Ты шмат пасьпеў за вечар і ноч!

– Дзякаваць Ценяру і іншым. Хутка давялося ехаць і далёка. І тут, ля кургану я давяду табе: мноства загінула ў бітве ля броду, але нашмат меней, чым данесьлі чуткі. Болей расьсеялася па стэпе. Я сабраў усіх, каго здолеў адшукаць. Некаторых паслаў з Грымбольдам на дапамогу Эркенбранду. Некаторых паставіў хаваць загінулых ды насыпаць курган. А тады на чале з тваім маршалкам Эльфхельмам выправіў іх у Эдорас. Ведаю: Саруман кінуў на цябе ўсю сваю моц, і ягоныя паслугачы на загад усе павярнулі да Хельмавага Яру. Краіна, падаецца, вызвалілася ад ворагаў, але ж я ўсё адно баяўся, што рабаўнікі й вершнікі на ваўках маглі напасьці на Мэдусэльд, пакуль той без аховы. Зараз, мяркую, баяцца няма чаго: твой дом у цэласьці й з пашанаю сустрэне цябе.

– І я ўзрадуюся, пабачыўшы яго, – сказаў кароль. – Хоць, без сумневу, час мой там ня будзе доўгі.

Харугва разьвіталася з выспаю й курганом, пераехала раку й паднялася на другі бераг. Тады коньнікі паскакалі, задаволеныя, што пакідаюць магільную тугу броду. Калі аддаліліся, ваўкі завылі зноў. Ад Ізенградку да броду вёў старажытны гасьцінец: уздоўж ракі, разам зь ёю выгінаючыся на ўсход, а тады на поўнач. Нарэшце ён павярнуў прэч, напрамкі да брамы Ізенградку на заходнім баку даліны, каля шаснаццаці вёрстаў ад яе вусьця. Ехалі ўздоўж гасьцінцу, але не па ім, бо зямля побач была роўная й цьвёрдая, з кароткай пругкай травою. Ехалі зараз хутчэй і да поўначы аддаліліся ад броду амаль на тры мілі. Тады прыпыніліся адпачыць, бо кароль стаміўся. Ужо сягнулі ўзножжа Туманных гор, і доўгія адгор'і Нан Куруніру

працягнуліся насустрач. Змрок ляжаў на даліне перад імі, бо падпоўнік схіліўся да захаду й ягонае сьвятло схавалі горы. Але з дольнай цемры ўзьнімаўся вялізны слуп дыму й пары. Верх ягоны краналі промні заходнага месяца, і ён разыходзіўся па зорных нябёсах аблокамі ў блішчынках, чорнымі й срабрыстымі.

– Што мяркуеш пра тое, Гэндальф? – спытаў Арагорн. – Можна падумаць: уся Чараўнікова даліна палае.

– Апошнім часам дым заўжды вісіць над гэтай далінай, – распавёў Эямэр, – але ж я аніколі ня бачыў нічога падобнага. Гэта пара, а ня дым. Мо Саруман варыць нейкае ліха на сустрэчу нам. Можа, ён ускіпяціў усю ізенскую ваду, таму й перасохла рака.

– Можа, – пагадзіўся Гэндальф. – Раніцою высьветлім, што ён робіць. А пакуль адпачнем.

На ноч спыніліся ля ручва Ізену, пустога й маўклівага. Заснулі ня ўсе. Пад раніцу вартавыя загукалі, занепакоіліся: месяц зайшоў, і зоры праменілі над галавою, але па зямлі паўзла цемра, чарнейшая ад начной. Кацілася яна па абодвух берагах ракі, проста да харугвы, кіруючыся на поўнач.

– Заставайцеся на месцах! – загадаў Гэндальф. – Не вымайце зброі! Чакайце: яно міне!

Туман склубіўся вакол. Над галавою яшчэ праблісквалі слаба асобныя зоркі, але паабапал узьняліся сьцены непрагляднай цемры. Ваяры засталіся на вузкім праходзе паміж рухомымі вежамі ценю. Пачулі галасы: шэпт, стогны, шархатлівыя ўздыхі. Пад нагамі дрыжэла зямля. Падавалася, людзі бясконца сядзяць у чаканьні, і ўжо спалохаліся... але цемра й шэпты нарэшце мінулі ды зьніклі паміж раскінутымі адрогамі даліны.

На поўдні, ля Горнбургу, пасярод ночы людзі пачулі моцны гук, нібы віхура пранеслася па даліне, задрыжэла зямля. Усе перапалохаліся, і ніхто не адважыўся выйсьці й зірнуць, што адбылося. Выбраліся толькі раніцою – і незвычайна зьдзівіліся, бо забітыя оркі зьніклі, а разам зь імі й дрэвы. Далёка па даліне трава была стаптаная й зжухла, быццам пастух-волат прагнаў па ёй незьлічоныя статкі быдла. А за вярсту ад валу знайшлі вялізазную яміну, заваленую цэлым пагоркам камянёў. Людзі палічылі, што там і згрувашчаныя ўсе забітыя оркі. Але ці зь імі тыя, хто зьбег у лес і прапаў там, так і не даведаліся, бо аніхто не адважыўся нават стаць на той пагорак. Потым яго назвалі Мерцьвяковым Уховішчам. Там ніколі не расла трава. А дзівосных дрэваў болей у даліне ня бачылі. Яны ўночы вярнуліся дамоў, да сваіх змрочных лагчынаў Фангарну. Гэтак яны адпомсьцілі оркам.

Кароль і ягоная харугва болей гэтай ноччу ня спалі, але анічога дзівоснага не адбылося. Хіба што рака раптам падала голас, аджыўшы. Вада загула, заклекатала, хлынула па камянёх, а тады сьцішылася, і голас яе стаў звычайным цьвірчэньнем ды пляскам, як і заўжды.

На сьвітанку падрыхтаваліся ехаць далей. Дзень пачынаўся шэры, бляклы, і ўзыходу сонца так і не пабачылі. Паветра абцяжэла ад тумаоў, вісеў у ім гідкі смурод. Ехалі павольна, зараз па гасьцінцы. Ён быў шырокі й утрамбаваны, добра дагледжаны. Леваруч праз туман няясна праглядвалі вяршыні горнай грады, бо коньнікі ўжо ўехалі ў Нан Курунір, Чараўнікову даліну, абгароджаную гарамі з усіх бакоў, апрача паўднёвага. Калісьці была яна прыгожая й зялёная. Плынеў празь яе Ізен, яшчэ да роўнядзяў глыбокі й паўнаводны, бо прымаў у сябе мноства крыніцаў і

струменяў, што сьцякалі з абмытых дажджамі пагоркаў. Раней тут была прыемная, урадлівая зямля.

Але не цяпер. Пад сьценамі Ізенградку яшчэ заставаліся палі, узараныя Саруманавымі рабамі, але большая частка даліны ператварылася ў пустэчу, зарослую травою й калючкамі. Яны цягнуліся па зямлі, апляталі кусты й узгоркі, і пад іхнім покрывам, нібы ў пячоры з галінаў, хаваліся дробныя пачваркі. Дрэваў тут не засталося, але сярод грубай травы там-сям тырчэлі спаленыя й пасечаныя сякерамі пні – рэшткі старажытнага гаю. Сумная стала гэтая мясьціна, сумная й маўклівая, – толькі плёхкаў хуткі струмень на камянях. Аблокамі віселі дым і пара, слаліся па нізінах. Вершнікі ехалі моўчкі. Многія ў сумневах разважалі: да якога ліха прывядзе гэтая невясёлая вандроўка?

Праз колькі вёрстаў шлях ператварыўся ў шырокую вуліцу, забрукаваную вялікімі пляскатымі камянямі, роўна абчасанымі й па-майстэрску выкладзенымі. Ані травінкі не прабівалася праз стыкі камянёў. Глыбокія канаўкі, паўнюткія імклівай вадою, цягнуліся абапал. Раптам напаткалі высокі чорны каменны слуп. На вяршыні ляжаў вялізны камень, вычасаны й пафарбаваны на падабенства доўгай белай рукі. Яе выцягнуты палец паказваў на поўнач. Брама Ізенградку мусіла быць ужо недалёка, і на сэрцах у падарожнікаў цяжэла. Наперадзе відаць быў толькі туман.

Паміж доўгімі хрыбтамі-агароджамі ў Чараўніковай даліне незьлічоныя гады стаяла старажытная цьвярдыня, якую людзі назвалі Ізенградак. Самі горы зрабілі гэтае месца прыдатным для замку, але ж у даўніну шмат папрацавалі тут людзі Захаду, дый Саруман жыў тут доўга й не марнаваў часу.

Вось такім быў Ізенградак у час велічы Сарумана, калі шмат хто лічыў яго ачольцам чараўнікоў. Вялікі мур, ланцуг вялізных скалаў, адыходзіў ад горнай грады й змыкаўся зь іншай градою на другім баку даліны. Толькі адзін праход упускаў усярэдзіну – вялікая арка, вычасаная ў паўночнай сьцяне. Там быў прабіты праз чорную скалу доўгі тунэль, зачынены з абодвух бакоў тоўстымі жалезнымі брамамі. Гэтак былі яны скаваныя й падвешаныя на гіганцкіх завесах сталёвых бэлек, загнаных глыбока ў скалу, што адчыняліся ад лёгкага штуршка рукою, калі не былі замкнёныя. А той, хто прайшоў праз доўгі тунэль, бачыў перад сабою вялікую круглую роўнядзь, нават выгнутую пасярэдзіне, як неглыбокая міса, – цэлая вярста ад краю да краю. Калісьці было тут зялёна, гаманілі прысады і сады, мноства ручаінаў спляталіся па дарозе з гор да возера. Але за апошні час Саруманавага гаспадараньня анічога жывога й зялёнага не засталося там. Прысады забрукавалі цёмнымі цьвёрдымі камянямі, і па збочынах замест дрэваў цягнуліся доўгія шэрагі калёнаў – мармуровых, медных, жалезных, – скаваных цяжкімі ланцугамі.

Было там мноства памяшканьняў, заляў, пакояў ды калідораў, выбітых у скалах з унутранага боку муру, які паглядаў на роўнядзь безьліччу вокнаў і цёмных дзьвярэй. Тысячы й тысячы маглі разьмесьціцца тут: працаўнікі, паслугачы, рабы й ваяры зь вялікім запасам зброі. Глыбока ў скляпеньнях гадавалі й трымалі ваўкоў. Сама роўнядзь таксама ўся была скапаная й пабураная. Капальні вялі глыбока пад яе паверхню, выхады іхнія прыкрываліся насыпамі й каменнымі купаламі – так што ў месяцовым сьвятле Ізенградак нагадваў неспакойныя могілкі. Сама зямля дрыжэла. Капальні праз мноства калідораў і вітунічных лесьвіцаў выводзілі да глыбокіх пячораў, дзе былі Саруманавы скарбніцы, кладоўкі, збраярні, кавальні й вялікія плавільныя печы. Там бясконца круціліся жалезныя колы й грукаталі молаты. Уночы

слупы пары ўзьнімаліся зь сьвідравінаў, асьветленыя зьнізу барвяным, блакітным ці атрутна-зялёным сьвятлом.

Усе прысады, абгароджаныя слупамі й ланцугамі, вялі ў сярэдзіну долу. Там стаяла вежа цудоўнага аблічча. Збудавалі яе ў даўніну тыя самыя рукі, якія вычасалі агароджу Ізенградку. Аднак яна падавалася не стварэньнем чалавечых рук, а нечым вычвараным з самых горных костак старажытным вывяржэньнем, даўняй пакутай гор. Падавалася яна скалою, голым каменем, чорным, бліскучым і цьвёрдым: чатыры магутныя шматгранныя слупы, скаваныя ў адзін. Ля вяршыні яны разыходзіліся зноў, нібы магутныя рогі з канчарамі вострымі, як дзіды, з краямі, вастрэйшымі ад нажоў. Між імі заставалася пляцоўка, і на ёй, на сьлігтаванай падлозе, сьпярэшчанай дзівоснымі знакамі, можна было стаяць – паўтысячы ступнёў над роўнядзьдзю. Такім быў Ортанк, цытадэль Сарумана. Назва яго – ці выпадкова, ці адмыслова – мела два значэньні: на мове эльфаў – *Ікол-гара*, а на старажытнай мове Ўкрайны – *Умысны Розум*.

Моцным й цудоўным быў калісьці Ізенградак. Доўга ў ягоным храстве жылі вялікія ўладары, вартавыя гондарскага захаду, і мудрацы, што назіралі за зорамі. А Саруман павольна перарабіў яго дзеля сваіх пераменлівых мэтаў. Яму падавалася – палепшыў. Але ж усе прыдумкі, хітрыкі й прылады, за якія ён аддаў ранейшую мудрасьць, былі ўсяго выразным падманам – тым, што прыйшло з Мордару й завалодала ягоным розумам да такой ступені, што ён прызнаў прышлае сваім і з ахвотаю ўжыцьцяўляў. Не яму належала пабудаванае ім. Было яно толькі зьменшанай копіяй, дзіцячай цацкай ці рабскай лісьлівай падробкай вялізных умацаваньняў, збраярняў, вязьніцаў ды печаў вялікай моцы Барад-дуру, Цёмнай вежы, чый гаспадар, не выносячы аніякага суперніцтва, сьмяяўся зь лісьлівасьці, чакаючы свайго часу, споўнены пыхі й упэўнены ва ўласнай неабсяжнай моцы.

Так чуткі апісвалі крэпасьць Сарумана, бо аніхто з жывых тады роханцаў не заходзіў за яе браму, за выключэньнем, магчыма, падобных да Зьмеяротага. А тыя зьяўляліся таемна й пра ўбачанае не распавядалі анікому.

Гэндальф пад'ехаў да слупа з выявай рукі й мінуў яго. І пасьля таго вершнікі раптам заўважылі ў зьдзіве, што рука болей не падаецца белай. Яе нібы запляміла засохлая кроў. Глянулі бліжэй: яе пазногці чырвоныя. А Гэндальф спакойна ехаў далей, у туман, і астатнія неахвотна рушылі за ім. Паўсюль навокал, быццам пасьля раптоўнага патопу, стаялі вялізныя лужыны. Вада заліла кожную лагчавінку па бакох дарогі. Струменьчыкі цьвірчэлі сярод камянёў.

Нарэшце Гэндальф спыніўся й паклікаў астатніх. Далей туман радзеў, а празь яго слаба зьзяла сонца. Мінуў поўдзень. Брама Ізенградку ўжо была побач.

Але ж палавінкі брамы ляжалі пакамечаныя й перакручаныя на зямлі. І паўсюль навокал валяліся разламаныя, разьбітыя рэчы й часткі збудаваньняў, безьліч вострых, крывых, няроўных каменных аскепкаў, раскіданых далёка ці згрувашчаных у кучы. Вялікая брамавая арка яшчэ стаяла, але тунэлю за ёй не было. Зь яго зьнесьла дах, і з абодвух бакоў у скалах зеўралі вялізныя дзіркі й праломы. Прыбрамныя вежы былі паваленыя й раструшчаныя ў пыл. Нават калі б само Вялікае мора ўзьнялося ў шаленстве й абрынулася бураю на горы, усё адно такога не нарабіла б.

А кола роўнядзі ўнутры сьценаў было паўнюткае вадою, якая парыла, нібы кіпень, – рыхтык буркатлівы рондаль, у якім плавала й круцілася безьліч сьмецьця: аскепкі й цэлыя бэлькі, бярвеньне й плахі, скрыні, кошыкі й кавалкі ўсялякіх прыладаў. Пахіленыя й скручаныя слупы яшчэ тырчэлі расколатымі канцамі над

вадою, але ўсе прысады былі затопленыя. Далёка наперадзе працінала воблака скалістая выспа. Там, па-ранейшаму змрочная й высокая, стаяла вежа Ортанку. Нячыстая вада плёскалася аб яе ўзножжа.

Кароль з харугвай сядзелі на конях моўчкі, дзівячыся, бачачы, што моц Сарумана зьняслаўленая, але ж якім чынам, уявіць не маглі. Тады агледзелі арку й зруйнаваную браму. І зьвярнулі ўвагу на вялізны груд каменнага ламачча побач зь ёю. А там – зірні-тка! – прывольна разьлегліся дзьве невялічкія асобы, апранутыя ў шэрае й амаль непрыкметныя сярод камянёў. Бутэлькі, талеркі й місы ляжалі побач зь імі, нібы яны толькі-толькі добра падсілкаваліся й зараз адпачываюць ад цяжкой працы. Адзін зь незнаёмцаў, падавалася, спаў. Другі ж, паклаўшы нагу за нагу й рукі за патыліцу, прыхіліўся да вышчарбленага каменя й выдзьмуваў з роту доўгія завіткі й маленькія кольцы рэдкага блакітнага дыму.

Пэўны час Тэядэн і харугва пазіралі на іх у немым подзіве. Пасярод ізенградзкіх разваліна ў гэтыя бесклапотныя малыя падаваліся найдзівосьнейшаю зьяваю. Але не пасьпеў кароль вымавіць слова, як адзін ускочыў. Выглядаў ён чалавечым юнаком, ці надта падобным да юнака, хоць быў ня болей за паўчалавека ростам. На галаве, апрача рудых кучаравых валасоў, не насіў нічога, а апрануты быў у заплямлены плашч такога самага адценьня й фасону, як у Гэндальфа й прыбылых зь ім да

Эдорасу. Юнак нізка пакланіўся, прыціснуўшы руку да грудзей. І, быццам не зьвяртаючы ўвагі на чараўніка й ягоных спадарожнікаў, павярнуўся да Эямэра й Тэядэна.

– Вашамосьці, яснавяльможнае спадарства, калі ласка, просім у Ізенградак! – вымавіў ён. – Мы вартаўнікі-брамнікі. Маё ймя – Мэрыядок, сын Сарадока, а майго сябра, якога, на жаль, перамагла стома, – тут ён пхнуў сябрука нагою, – клічуць Перыгрын, сын Паладына, з роду Хватаў. Радзіма нашая далёка на поўначы. Пан Саруман дома, але ж зараз ён з пэўнай прычыны зачыніўся тамака разам зь Зьмеяротым, а йнакш, без сумневу, сам выйшаў бы насустрач такім шаноўным гасьцям.

– Анягож, без сумневу, выйшаў бы! – Гэндальф засьмяяўся. – Дык гэта Саруман загадаў вам ахоўваць ягоную паламаную браму й чакаць гасьцей, калі вы здолееце адарвацца ад талеркі з бутэлькаю?

– Не, шаноўны спадару, гэткі клопат ня трапіў пад ягоную ўвагу, – адказаў Мэры сур'ёзна. – Ён цяперачка надта заняты. Нашыя загады ад Дрэвабарода, які прыняў на сябе ўсе ізенградзкія клопаты. Ён загадаў мне павітаць гаспадара Рохану належнымі словамі. Я стараюся, як магу.

– А як жа сябры? Як жа я зь Ляголасам? – загаласіў Гімлі, няздольны болей стрымацца. – Вы, прайдзісьветы, скурланогія, скурлалапыя абібокі! Колькі ж мы за вамі папабегалі! Сотня з коптурам міляў праз балаты й лясы, празь бітвы й гібель, каб выратаваць вас! І знайсьці вас тут – за шыкоўнаю бясьедаю, і лайдацтвам, і паленьнем! Паленьнем!! Дзе вы знайшлі зёлкі, вы, шалапуды, агуры? Ды калі я ня лопну зараз ад шаленства й радасьці, гэта будзе найвялікшы цуд!

– Ты агучыў мае думкі, Гімлі! – сьмяяўся Ляголас. – Хоць мне больш цікава, дзе яны знайшлі віно.

– Аднаго вы не знайшлі, папабегаўшы: крышачку болей кемлівасьці, – Піпін расплюшчыў адно вока. – Ці ж ня бачыце: седзімо на полі бітвы, перамогшы, сярод законных трафеяў, і вы яшчэ пытаецеся, дзе мы ўзялі цалкам заслужаныя ўзнагароды?

– Цалкам заслужаныя? – зароў Гімлі. – Вось ужо не паверу!

Вершнікі зарагаталі.

– Без сумневу, мы бачым сустрэчу старых сяброў, – зазначыў Тэядэн. – Дык гэта твае згубленыя падарожнікі, Гэндальфе? Так, лёс гэтых дзён – цуды цугам. Я шмат ужо ўбачыў, пакінуўшы дом, але ж перад маімі вачыма зноў племя з паданьняў. Ці вы – паўросьлікі, якіх некаторыя ў нас называюць *хальбітланамі*?

– Выбачайце, вашамосьць, мы – *хобіты*, – паправіў Піпін.

– Хобіты? – перапытаў кароль. – Ну, вашая мова дзівосна зьмянілася, але назоў гучыць цалкам адпаведна. Хобіты! Які цудоўны народ! Аніякія чуткі, што даходзілі да мяне, не сягаюць і паловы праўды.

Мэры пакланіўся. І Піпін, ускочыўшы, таксама нізка схіліўся.

– Вялікі гонар, вашамосьць, чуць такія словы, калі я правільна зразумеў іх, – прамовіў Піпін. – Тут і для нас цуд. Бо пакінуўшы дом, я вандраваў па шматлікіх землях і аніколі дагэтуль не знайшоў, хто ведаў бы хоць якія паданьні пра хобітаў.

– Мае людзі ў даўніну прыйшлі з Поўначы, – адказаў кароль. – Але ж я ня стану падманваць вас: паданьняў пра хобітаў у нас не захавалася. Распавядаюць толькі, што далёка адсюль, за мноствам гор і рэк, жыве паўрослы народ, які капае норы ў пяшчаных дзюнах дый жыве ў іх. А пра іхнія дзеі няма зьвестак, бо яны амаль нічога не зьдзяйсьняюць, людзей дзічацца, імгненна зьнікаюць і могуць зьмяняць галасы так, што яны нагадваюць птушыны гоман. Аднак, відавочна, да гэтага шмат можна дадаць.

– Насамрэч так, вашамосьць, – пацьвердзіў Мэры.

– Напрыклад, аніколі ня чуў, каб хобіты пускалі дым з роту, – дадаў кароль.

– Ня дзіўна, бо гэтае мастацтва мы засвоілі ня болей як некалькі пакаленьняў таму, – патлумачыў Мэры. – Тобальд Рагадзьмуўца з Доўгіх Панізьзяў, у Паўднёвым падзеле, першы выгадаваў сапраўдную зёлку для люлькі ў сваім садзе, гэта каля году тысяча сямідзясятага паводле нашага адліку. А як старына Тобі знайшоў зёлку...

– Э, ты ня ведаеш, Тэядэн, у якую небясьпеку крочыў, – перабіў Гэндальф. – Гэтыя хобіты здольныя спакойна пасесьці побач зь нядаўнім пабоішчам ды завесьці гаворку пра прысмакі ці пра якія дробязныя справы іхніх бацькоў, прабацькоў і прапрабацькоў, і нават пра сваякоў да дзявятага калена, калі ты толькі пагодзісься пакорліва іх слухаць. Здаецца мне, для расповедаў пра гісторыю паленьня можна падшукаць лепшы час. Мэры, дзе Дрэвабарод?

– На паўночным баку даліны, – адказаў Мэры. – Пайшоў выпіць чыстае вады. Большасьць энтаў зь ім, апрача тых, хто яшчэ працуе, вунь там.

Мэры махнуў рукою ў бок бурлівага возера. Прыслухаліся: насамрэч, здалёк даносіўся грукат і рокат, нібы камняспад абрынуўся з горнага схілу. Пачулі й радаснае "ху-ум-хумм", быццам рогі трубяць перамогу.

– А Ортанк пакінулі без аховы? – спытаў Гэндальф.

– Вада ж, – азваўся Мэры. – Аднак усё адно Хуткасьцень ды колькі іншых засталіся пільнаваць. Ня ўсе слупы ды калёны тут Саруманавага вырабу. Хуткасьцень, мяркую, вунь там, ля скалы, на самым пачатку лесьвіцы.

– Так, там сапраўды стаіць высокі шэры энт, – пацьвердзіў Ляголас. – Прыціснуў рукі да бакоў і застыў нерухомы, як дзьвярны вушак.

– Ужо й полудзень мінуў і мы, паміж іншым, ад самага ранку нічога ў роце ня мелі, – заўважыў Гэндальф. – Але я жадаю бачыць Дрэвабарода як мага хутчэй. Ці пакінуў ён мне пасланьне? Ці мо талеркі з бутэлькамі выгналі яго з тваёй галавы?

– Пасланьне ён пакінуў, так, – пацьвердзіў Мэры, – і я ўжо амаль да яго дайшоў, але ж мяне затрымлівалі мноствам пытаньняў. А меў сказаць я вось што: калі

гаспадар Украйны й Гэндальф паедуць да паўночнай сьцяны, то знойдуць Дрэвабарода, ён іх там сустрэне й павітае. Я магу ад сябе дадаць, што там можна знайсьці й ежу, найлепшую, якую адшукалі й выбралі вашыя пакорлівыя слугі.

Ён пакланіўся.

– Гэта ўжо лепей! – засьмяяўся Гэндальф. – Ну, Тэядэн, ці паедзеш ты з мною да Дрэвабарода? Трэба будзе аб'ехаць кругом, але тут недалёка. Калі пабачыш Дрэвабарода, шмат чаго даведаесься. Бо Дрэвабарод і ёсьць Фангарн, найстарэйшы й найгалоўнейшы з энтаў. Калі загаворыш зь ім – пачуеш голас найстарэйшага з усіх жывых стварэньняў.

– Я паеду з табой, – адказаў Тэядэн. – Да пабачэньня, мае хобіты! Можа, калі дазволіць лёс, мы яшчэ стрэнемся пад маім дахам. Тады вы сядзеце побач з мною й распавядзеце ўсё, што пажадаюць вашыя сэрцы: пра справы вашых прабацькоў, якія толькі здолееце ўзгадаць, пагамонім таксама й пра Тобальда Старога й ягоны зёлкавы досьвед. Да пабачэньня!

Хобіты нізка пакланіліся.

– Дык вось які кароль Рохану, – вымавіў Піпін напаўголасу. – Файны стары. Такі ветлівы!

## *9. Сьмецьце й ламачча*

Гэндальф з каралеўскай харугвай ад'ехаў на ўсход, уздоўж парушаных муроў Ізенградку. А Гімлі зь Ляголасам ды Арагорн засталіся. Адпусьціўшы Арада з Хазуфэлам пашукаць травы, паселі побач з хобітамі.

– Ну вось, вёрсты пагоні за сьпінамі – і мы сустрэліся нарэшце там, куды аніхто з нас нават ня думаў патрапіць, – вымавіў Арагорн.

– І зараз, калі вялікія выправіліся абмяркоўваць вялікія справы, сьледапыты, магчыма, знойдуць адказы на свае невялічкія загадкі. Мы дабраліся па вашых сьлядох ажно да лесу, але ж засталося шмат, пра што нам хацелася б даведацца.

– І нам шмат чаго хацелася б спытацца ў вас, – сказаў Мэры. – Тое-сёе мы вызналі ад Дрэвабарода, найстарэйшага энта, але ж так мала.

– Для ўсяго свой час, – зазначыў Ляголас. – Мы гналіся за вамі, так што распавядайце першымі.

– А мо лепей усё ж другімі? – пацікавіўся Гімлі. – Першым мо лепей прызначыць пад'едак? Пасьля ежы пойдзе лягчэй. У мяне баліць галава, і полудзень ужо мінуў. Вы, абібокі, заслужыце прабачэньня, толькі калі падзеліцеся з намі вашай здабычаю. Ежа й пітво, магчыма, і былі б якой часткай таго, што вы вінныя мне.

– Ежа дык ежа, – пагадзіўся Піпін. – Ці наўпрост тут пажадаеце, ці ў болей прыдатным месцы, у рэштках Саруманавай вартоўні – вунь, пад аркаю. Мы мусілі сілкавацца тут, каб пільнаваць дарогу.

– Добрыя з вас ахоўнікі, што тут казаць, – прабурчэў Гімлі. – Але ж я ў оркавы хаты не хадок, і стравы оркавай не крану, ані мяса, ані яшчэ чаго.

– Мы не прапаноўвалі б табе такога, – абурыўся Піпін. – Оркаў нам і самім хапіла да канца жыцьця. Але ж у Ізенградку былі ня толькі яны. Шмат усялякага народу. У Сарумана засталося досыць мудрасьці, каб не даваряць оркам. Браму вартавалі людзі. Напэўна, адны з самых давераных ягоных паслугачоў. Так ці інакш, а харчы ім дастаўлялі нядрэнныя.

– І люлькавыя зёлкі? – спытаў Гімлі.

– Не, мяркую, што не, – Мэры засьмяяўся. – Але тое іншая гісторыя, пасьля пад'едку.

– Дык паджалюбайма! – абвесьціў гном.

Хобіты патэпалі першымі, паказваючы шлях. Прайшлі пад аркаю й напаткалі шырокія дзьверы леваруч, наверсе лесьвіцы. Яны выводзілі ў вялікі пакой зь меншымі дзьвярыма напрыканцы ды з агменем і комінам над ім у бакавой сьцяне. Суцэльны пакой, вычасаны ў скале, калісьці быў цёмны, бо вокны выводзілі толькі ў тунэль, пад арку, зараз жа яго залівала сьвятло з разламанага даху. У агмені скакала жвавае полымя.

– Вось, зладзілі, каб сагрэцца, – патлумачыў Піпін. – Такая радасьць сярод туману. Дроваў небагата, большасьць мокрыя. Але ж цяга тут проста незвычайная. Відавочна, уецца ўгару па скале, і нічым не забіта. Агеньчык сама тое. Хлебца падсмажу, бо ён стары ўжо, дні тры або чатыры, баюся.

Арагорн зь сябрамі паселі з краю доўгага стала, а хобіты зьніклі за аднымі з унутраных дзьвярэй.

– Тут кладоўкі, і, на нашае шчасьце, іх не заліло, – патлумачыў Піпін, калі яны вярнуліся, нагружаныя талеркамі, місамі, куфлямі, нажамі й разнастайнаю ежаю.

– Ад гэтых харчоў ня варта нос адварочваць, спадару Гімлі, – сказаў Мэры. – Гэта ня оркавыя прысмакі – гэта людзкая ежа, як кажа Дрэвабарод. Віна альбо піўка? Там цэлая бочка – і нічога сабе піўко, так скажу. А таксама выдатная салёная вяндліна. Альбо я магу шматок ад кумпяку адрэзаць ды падсмажыць, калі пажадаеце. Перапрашаю, зеляніны аніякай няма: на жаль, падвозу цягам некалькіх апошніх дзён троху перашкаджалі. Так што на закуску толькі мёд ды масла да хлеба. Ці задаволены вашаць?

– Анягож, – пагадзіўся Гімлі. – Віна вашая, як па мне, значна зьменшылася.

Тры сябры адразу прыступілі да ежы. І хобіты, аніколькі не зьбянтэжаныя, селі побач і таксама паджалюбалі. Патлумачылі:

– Трэба ж гасьцям кампанію скласьці.

– Вы проста паўнюткія ветлівасьцю гэтай раніцою, – сьмяяўся Ляголас. – Але ж каб мы не зьявіліся, вы, напэўна, зноў склалі б кампанію адзін другому.

– Магчыма, – пагадзіўся Піпін. – А чаму не? З оркамі не пабалюеш, дый да таго небагата падала ў страўнік. Шмат часу мінула, як апошні раз елі сабе на радасьць.

– Здаецца, вам не пашкодзіла, – заўважыў Арагорн. – Хутчэй, наадварот: вы ўпрост жывая выява здароўя.

– Так, сапраўды, – пагадзіўся Гімлі, аглядаючы іх зьверху данізу з-за свайго келіху. – Дый валасы вашыя ўдвая гусьцейшыя й кучаравяцца больш за ранейшае. Гатовы паклясьціся: вы падрасьлі, калі тое магчыма для хобітаў вашага ўзросту. Гэты Дрэвабарод не катаваў вас голадам.

– Не, – пацьвердзіў Мэры. – Але энты толькі п'юць, а таго недастаткова для сапраўднай сытасьці. Дрэвабародавы напоі даюць сілу, так, але хочацца чаго-колечы больш істотнага. І нават лембасы прыядаюцца.

– Дык вы пакаштавалі энтавай вадзіцы, так? – перапытаў Ляголас. – Вох, тады вочы Гімлі не падманваюць. Дзівосныя песьні сьпяваюць пра напоі Фангарну.

– Мноства дзівоснага распавядаюць пра гэты край, – згадаў Арагорн. – Мне аніколі не даводзілася бываць там. Ну дык распавядзіце ж нам пра Фангарн і пра энтаў!

– Ну, пра энтаў, – пачаў Піпін. – Яны, гэна... хм, яны розныя, па-першае. Ня тое з вачыма. Вочы іх, ну, дзівосныя такія вочы, старыя, – ён запнуўся, дадаў некалькі няўклюдых словаў і змоўк. – Вось, – працягнуў нарэшце, – вы ж ужо бачылі іх з адлегласьці, напэўна. Яны, ва ўсялякім разе, вас бачылі й сказалі, што вы сюды кіруецеся. А шчэ шмат убачыце да таго, як зьедзеце адсюль. Самі вырашыце, якія яны й на каго падобныя.

– Не, ня гэтак жа, скокам! – умяшаўся Гімлі. – Мы пачынаем расповед зь сярэдзіны. Я хацеў бы выслухаць усё па парадку, з таго самага дня, як наш Зьвяз пабурыўся.

– Калі часу стане – выслухаеш, – запэўніў Мэры. – Але спачатку, калі вы ўжо падсілкаваліся, наб'ем люлькі й папалім крышачку. І тады можна ўявіць сабе, што мы зноў у бясьпецы дзе-небудзь у Прыгор'і ці ў Долым Яры.

Ён выцягнуў скураную кеску, паўнюткую табакай.

– У нас яе проста куча, – абвесьціў усім, – і ўсе могуць напакаваць, колькі пажадаюць, калі рушым адсюль. Мы зь Піпінам раніцою крыху папрацавалі выратавальнікамі-вышукоўцамі. Тут шмат чаго навокал плавае. Піпін і знайшоў дзьве невялічкія бочачкі. Напэўна, іх вымыла зь якой кладоўкі ці складу. Калі адчынілі – убачылі: яны паўнюткія тым самым, што цяпер перад вамі, – найфайнейшым тытунём, лепшага і жадаць немагчыма, і зусім не падмоклы.

Гімлі ўзяў крыху лісьця, пацёр на далоні й нюхнуў.

– Падаецца неблагім, дый водар файны, – заўважыў гном.

– Вядома файны! – выгукнуў Мэры. – Шаноўны мой Гімлі, гэта ж *Панізовае лісьце*! Там жа таўро Рагадзьмуўца на цабэрачках, і сьляпы не памыліцца! А вось як ён сюды патрапіў, уявіць не магу. Напэўна, для асабістага Саруманавага карыстаньня. Аніколі не падумаў бы, што нашыя зёлкі гэтак далёка вывозяць. А нам якраз пад руку падвярнуліся!

– І мне добра падвярнулася б, калі б мог набіць люльку, – уздыхнуў Гімлі. – На жаль, я згубіў сваю ў Морыі ці дзесьці раней. Мо ў вас і люлькі ёсьць сярод здабычы?

– Не, на жаль, – засмуціўся Мэры. – Мы не знайшлі аніводнай, нават тутака, у пакоях вартавых. Саруман, здаецца, трымаў ласунак для сябе. І, мяркую, няма сэнсу грукацца ў дзьверы Ортанку, каб папрасіць люльку. Ну, па-сяброўску папалім разам, як гэта робіцца: ты разок падзьмеш, я разок.

– Хвіліначку! – выгукнуў Піпін, сунуў руку ў таемную кішэню курткі й выцягнуў маленечкую мяккую кеску на снуры. – Я таксама захоўваю мае скарбы на сабе, і мне яны каштоўнейшыя за пярсьцёнкі. Вось адзін: мая старая драўляная люлька. І другі: новая, яшчэ не скарыстаная. Доўга нёс з сабою, хоць і ня ведаў навошта. Бо не чакаў, што знайду зёлкі ў вандроўцы, калі мае скончыліся. А вось зараз і спатрэбілася. Хто мог ведаць!

Ён выцягнуў маленькую люльку з шырокім пляскатым навершам і працягнуў Гімлі.

– Ну як, гэтае сплочвае маю віну?

– Сплочана! – абвесьціў Гімлі. – О найшаноўнейшы й найшляхетнейшы з хобітаў, я цяпер сам вінны табе!

– А я вяртаюся да чыстага паветра зірнуць, як там вецер і нябёсы! – прамовіў Ляголас.

– Мы разам з табою, – прапанаваў Арагорн.

Выйшлі й паселі на кучы камянёў перад брамаю. Цяпер было відаць далёка ўніз па даліне. Туман уздымаўся й сплываў прэч зь ветрам.

– Ну, зараз і пагутарым! – абвесьціў Арагорн. – З словаў Гэндальфа, спакойна пасядзем побач зь нядаўняй бітвай ды паразмаўляем, пакуль ён заняты. Зрэдку я гэтак стамляўся, насамрэч.

Ён загарнуўся ў свой шэры плашч, схаваўшы пад ім кальчугу, дый выпрастаў доўгія ногі. Тады адкінуўся назад і выдзьмуў з вуснаў тонкі струменьчык дыму.

– Зірніце! – вымавіў Піпін. – Швэндал-Сьледапыт вярнуўся!

– А ён і не сыходзіў нікуды, – заўважыў Арагорн. – Я Швэндал і Дунадан, належу разам і Гондару, і Поўначы.

Колькі часу проста палілі, і сонца, прабіваючыся ў даліну касымі промнямі з-за высокіх заходніх аблокаў, сагравала іх. Ляголас ляжаў нерухома, пазіраючы на нябёсы й сонца спакойнымі вачыма, дый напяваў сабе пад нос. Нарэшце сеў.

– Ну, давайце, распавядайце! Час імкне, і туман увесь зьнесла прэч – ці зьнесла б, калі б вы, дзівосны народ, гэтак уцята не агортвалі сябе ў яго, дымячы.

– Мой расповед пачынаецца з таго, як я прачнуўся ў цемры й зразумеў, што зьвязаны па руках і нагах і ляжу пасярод лягеру оркаў, – пачаў Піпін. – Дарэчы, які дзень сёньня?

– Пятага сакавіка паводле шырскага адліку, – паведаміў Арагорн.

Піпін падлічыў, загінаючы пальцы, і выгукнуў:

– Бацюхны, усяго толькі дзевяць дзён таму![*] А выдае, нібы цэлы год мінуў, як нас злавілі. Ну, хоць мне болей за палову таго, што адбылося спачатку, падалося жахлівым сном, несьлі нас тры надта вусьцішныя дні. Мэры няхай паправіць мяне, калі памыляюся або забыўся на што істотнае. А ў дэталі паглыбляцца не зьбіраюся. Пугі, бруд, смурод і накшталт таго. Згадваць брыдка й ня варта.

З такою прадмоваю Піпін і паглыбіўся ў расповед пра Бараміраў апошні бой ды оркаў забег ад Эмін Мюйлу да лесу. Астатнія ківалі, калі расповед супадаў зь іхнімі здагадкамі.

– А вось дабро, якое вы згубілі, – дадаў Арагорн. – Напэўна, будзеце радыя атрымаць яго назад.

Распусьціў троху пас пад плашчом дый выцягнуў з-за яго два корды ў похвах.

– Я дык ніколі не спадзяваўся іх зноў пабачыць! – зьдзівіўся Мэры. – Я колькі оркаў сваім пазначыў, ды Ўглук іх у нас з рук выдзер. А як скаліўся! Спачатку я думаў: пырне мяне. Але ён адкінуў іх прэч, нібы яны пяклі яму пальцы.

– А вось і твая фібулка, – вымавіў Арагорн. – Я яе захаваў, бо рэч надта каштоўная.

– Ведаю, – сказаў Піпін. – Так шкада было кідаць, ажно да сьлёзаў. А што рабіць заставалася?

– Анічога іншага, – пацьвердзіў Арагорн. – Скарб, які ня здолееш кінуць прэч, калі надыдзе час, робіцца кайданамі. Ты зрабіў слушна.

– Вяроўкі на руках перарэзаць – вось тое была справа на дзіва! – ухваліў Гімлі. – Вядома, пашанцавала. Але ж ты ўхапіў шанец, так бы мовіць, абедзьвюма рукамі.

– І падрыхтаваў нам выдатную загадку! – дадаў Ляголас. – Мо ў вас тады адрасьлі крылы?

– На жаль, не, – уздыхнуў Піпін. – Вы яшчэ ня ведаеце пра Грышнаха.

Тут ён здрыгануўся й змоўк, пакінуўшы Мэры распавядаць пра апошнія жудасныя моманты: пра хапучыя, шнырачыя кіпцюры, смуродны подых пашчы орка ды жудасную моц патлатых Грышнахавых рук.

– Ад гэтых зьвестак пра оркаў з Барад-дуру, Лугбургу, як яны клічуць яго, мне не па сабе, – сказаў Арагорн. – Чорны Уладар ужо ведае зашмат, і яго паслугачы таксама. І Грышнах, безумоўна, паслаў каго з навінамі за раку пасьля сваркі. Чырвонае Вока цяпер паверне на Ізенградак. А Саруман у яміне, якую сам жа й выкапаў.

– Так, хто ні пераможа, Саруманавы справы дрэнь, – згадзіўся Мэры. – Яны пайшлі наўскос, як толькі яго оркі крочылі ў Рохан.

– А мы пасьпелі кінуць позірк на яго, на старога нягодніка, калі я слушна зразумеў Гэндальфа, – заўважыў Гімлі. – На краі лесу.

– Калі тое было? – спытаў Піпін.

– Пяць дзён таму, – адказаў Арагорн.

– Ну, падлічым, – сказаў Мэры, – пяць дзён таму, так, гэта калі мы ўжо былі ў той частцы расповеду, пра які вам анічога не вядома. Мы сустрэлі Дрэвабарода раніцою пасьля бойкі й наступную ноч правялі ў Крынічнай залі, адным зь ягоных прытулкаў. Ранкам мы выправіліся на энтаву раду, збор энтаў, іншымі словамі, і гэта – адна з найдзівосьнейшых рэчаў, якія я бачыў у жыцьці. Цягнулася яна ўвесь той дзень ды йшчэ наступны, а начавалі мы ў жытле энта зь імем Хуткасьцень. А тады, на трэці дзень пасьля полудня, энтаў разам прарвала. Тое дзіўна было бачыць. Увесь лес

[*] Кожны месяц у Шырскім календары мае 30 дзён.

пачуваўся такім напружаным, нібы ў ім дасьпявала навальніца, а тады разам і выбухнула. Калі б вы чулі песьню, зь якой энты шыхтавалі!

– Калі б яе чуў Саруман, ён зараз быў бы за сто вёрстаў, нават калі б бег на ўласных нагах, – дадаў Піпін.

*Хай Ізенградак, як костка, голы за шэрай сваёй сьцяною,*
*Калоць каменьне, бурыць злачыньне йдзем на яго вайною!*

– Там нашмат болей было. А значная частка ўвогуле бяз словаў, толькі нешта падобнае да гулу рагоў ды біцьця барабанаў. Надта шалёны сьпеў. Але, я думаў, гэта толькі такая вандроўная музыка, ня болей за тое. Пакуль сюды не дабраліся. Цяпер ведаю лепей.

– Мы перавалілі апошні хрыбет і спусьціліся ў Нан Курунір уначы, – працягнуў расповед Мэры. – Тады я ўпершыню адчуў, што лес рухаецца за намі. Падумаў – бачу энцкі сон, але Піпін заўважыў таксама. Мы абодва пералякаліся, што да чаго скемілі значна пазьней. Гэта былі *гаворны*, нейк так энты іх клічуць на "кароткай мове". Дрэвабарод пра іх ня надта распавядаў, але яны – гэта энты, якія зрабіліся зусім як дрэвы. На першы погляд, ва ўсялякім разе. Яны стаяць там і тут у лесе, маўклівыя, бясконца назіраюць за дрэвамі, а ў далёкіх змрочных лагчавінах іх сотні й сотні. У іх вялікая моц, і яны, здаецца, здольныя агортваць сябе ценем падчас руху, і таму цяжка заўважыць, як яны перасоўваюцца. Але яны рухаюцца, яшчэ як! Надта хутка, калі раззлуюцца. Вось стаіш, тарашчыш вочы на нябёсы ці слухаеш, як шапоча вецер, і зьнянацку ты – у самым гушчары, і вакол вялізазныя пагрозьлівыя дрэвы цягнуцца схапіць цябе. Яны яшчэ захавалі галасы й здольныя гутарыць з энтамі, – таму іх і клічуць *гаворны*, як Дрэвабарод кажа, – аднак зрабіліся яны шалёныя й дзікія. Надта небясьпечныя. Жудасна й падумаць, каб іх напаткаць, калі сапраўднага энта няма побач.

І раньняю ноччу мы ціхенька спусьціліся па вузкай лагчавіне верхняга краю Чараўніковай даліны, энты й усе іхнія шапатлівыя гаворны сьледам. Мы іх, вядома, ня бачылі, але ж паветра ажно пашчыльнела ад скрыгату. Цёмна было, ноч хмарыстая. Гаворны рушылі зь вялікай хуткасьцю пасьля таго, як спусьціліся з гор, і шамацелі, як вецер у галінах. Месяц так і ня глянуў з аблокаў, і неўзабаве высокі лес паўстаў вакол усяго паўночнага боку Ізенградку. Ворагаў не было відаць, аніхто не ўзьнімаў трывогі. Толькі агеньчык пабліскваў з вакна на вяршыні вежы, і ўсё. Дрэвабарод і колькі энтаў падабраліся бліжэй, ужо й вялікая брама паўстала. Піпін і я былі зь ім. Сядзелі ня плячох у Дрэвабарода, адчуваючы, як ён дрыжыць ад напругі. Адылі, нават надта ўзбуджаныя, энты вельмі цярплівыя й сьцярожкія. Яны стаялі цішэй за статуі, толькі дыхаючы й слухаючы. Тады раптам выбухнуў аглушальны гармідар. Трубы завылі, і рэха адбілася ад сьценаў. Мы падумалі: усё, нас убачылі, зараз пачнецца бойка. Ды не, зусім не. Усё Саруманава войска пайшло прэч. Я ня шмат ведаю пра гэтую вайну ці пра вершнікаў Рохану, але Саруман, падалося, вырашыў скончыць з каралём ды зь ягоным войскам адным апошнім ударам. Ён спустошыў Ізенградак. Я бачыў, як Саруманава войска праходзіла: бясконцыя шэрагі оркаў пехатою й верхам на вялізных ваўках. І шыхт за шыхтам міналі таксама людзі. Шмат хто нёс паходні, і я мог бачыць іхнія твары. Большасьць – даволі звычайныя людзі, высокія, зь цёмнымі валасамі, суворыя, але ня тое каб асабліва злосныя на погляд. Аднак былі й жудасныя: вышынёю з чалавека, але з гоблінскімі пысамі,

смуглявыя, кплівыя, касавокія. Ведаеце, мне яны нагадалі таго паўднёўца ў Прыгор'і. Толькі той ня так відавочна падобны, як большасьць гэных.

– Я пра яго таксама думаў, – заўважыў Арагорн. – Нам давялося з мноствам такіх паўоркаў стрэцца ў Хельмавым Яры. Цяпер бясспрэчна: той паўднёўца – Саруманаў выведнік, але ці выведваў ён разам з Чорнымі Вершнікамі, ці працаваў толькі на Сарумана – не магу сказаць. З гэтымі паскуднікамі заўжды цяжка вызначыць, калі яны насамрэч у зьвязку, а калі адзін аднаго падманваюць.

– Ну, усіх народаў разам было сама менш дзесяць тысячаў, – прыкінуў Мэры. – Яны цэлую гадзіну з брамы выходзілі. Некаторыя рушылі па бальшаку, кіруючыся да броду, некаторыя збочылі на ўсход. Тут непадалёк збудавалі мост, дзесьці зь вярсту адсюль, там, дзе рака цячэ ў глыбокай вузкай цясьніне. Калі б вы ўсталі, маглі б убачыць яго нават цяпер. Ваякі Саруманавы гарлалі песьні й рагаталі. Гармідар жудасны. Я падумаў: справы рохансія – горш не бывае. А Дрэвабарод і не варухнуўся. Кажа: мая справа сёньня ўночы – Ізенградак, скалы й камяні. І тады, хоць я й ня мог бачыць у цемры, здагадаўся, што гаворны рушылі на поўдзень, як толькі брама зачынілася. За оркамі, мне падалося. Да раніцы яны прасунуліся далёка ўніз па даліне. Ва ўсялякім разе, там бачыўся цень, які захіляў усё, што за ім.

А як толькі Саруманава войска аддалілася, надышла нашая чарга. Дрэвабарод ссадзіў нас зь сябе, а сам падышоў да брамы й закалаціў па ёй, выклікаючы Сарумана. Адказу не было, апрача стрэлаў ды камянёў зь сьценаў. Але што стрэлы для энтаў? Вядома, яны іх раняць ды злуюць – як аваднёвыя джалы. Энта можна ўтыкаць оркавымі стрэламі, бы падушачку голкамі, а яму аніякай сур'ёзнай шкоды ня будзе. Энтаў, увогуле, атруціць нельга, і скура ў іх вельмі тоўстая й цьвярдзейшая за кару дрэваў. Надта моцны патрэбны ўдар сякерою, каб параніць энта. І энты сякераў ня любяць, так. Але каб паваліць аднаго энта, трэба шмат дрывасекаў, бо той, хто аднойчы секануў энта, наўрад ці атрымае другі шанец. Энтаў кулак зьмінае жалеза, быццам танюткую фольгу.

Калі ў Дрэвабарода патрапіла колькі стрэлаў, ён зазлаваў, насамрэч зрабіўся "пасьпешлівым", як ён сказаў бы. Выгукнуў уголас: "Ху-умм-хомм!" І адразу зьявілася яшчэ з тузін энтаў. Раззлаваны энт – жудаснае відовішча. Іхнія пальцы на руках і нагах нібы прымярзаюць да скалаў і тады разьдзіраюць іх, быццам скарынку на хлебе. Гэта было маўляў векавая праца вялізных каранёў, якія паўзуць праз каменьне, а зьдзейсьнілася за некалькі імгненьняў!

Яны пхалі,ددралі, драпалі, трэсьлі й калацілі, і – трах-бум, тарабах – за пяць хвілінаў вялізная брама ўся ў руінах, а некаторыя ўжо ўкапаліся ў сьцены, бы трусы ў пяшчаны схіл. Ня ведаю, што ўяўляў сабе пра падзеі Саруман. Ва ўсялякім выпадку, што рабіць, ён ня ведаў. Напэўна, ягоныя чары паслаблі апошнім часам. Дый увогуле, мяркую, ён і ня меў асабліва ані адвагі, ані мужнасьці, каб аднаму вытрымаць такую крутую бітву, без натоўпу рабоў, машынаў ды ўсялякіх прыладаў. Ня тое што стары Гэндальф. Цікава, мо Саруманава слава й пайшла выключна з таго, што ён удала засеў у Ізенградку.

– Не, – запярэчыў Арагорн. – Калісьці ягоная веліч адпавядала ягонай славе. Веды ягоныя былі найглыбейшымі, задумкі – выкшталцонымі й мудрымі, а рукі – умелымі на дзіва. Таксама ён меў уладу над розумам тых, з кім сустракаўся. Мудрых Саруман мог пераканаць, слабейшых – ашаламіць ды зьбіць з панталыку. Гэтая сіла, безумоўна, яшчэ засталася зь ім. Няшмат хто ў Міжзем'і, па-мойму, можа бясьпечна для сябе перамаўляць сам-насам зь Саруманам нават сёньня, пасьля такой ягонай

паразы. Гэндальф ды Эльранд з Галадрыельлю, магчыма, – цяпер, калі ліха Саруманава ўжо відавочнае, але ж наўрад ці хто яшчэ.

– Ну, энтам ягоны голас не пагражае, – заўважыў Піпін. – Аднойчы ён ужо абвёў іх вакол пальца. Болей не атрымаецца. Ён іх не зразумеў і зрабіў вялікую памылку, не ўлічыўшы іх у сваіх плянах. Не прадбачыў, а калі яны прыняліся за працу, было позна. Як толькі пачаўся наш напад, усе пацукі – няшмат іх засталося ў Ізенградку – кінуліся наўцёкі скрозь дзіркі, наробленыя энтамі. Людзям энты дазволілі ўцячы, спачатку іх дапытаўшы. Тых і было ўсяго два ці тры тузіны. А оркаў, мяркую, уратавалася зусім няшмат – і малых, і вялікіх. Ад гаворнаў не ўцячэш, а яны лесам паўсталі паўсюль вакол Ізенградку, дый уніз па даліне колькі рушыла.

Калі энты ператварылі большую частку паўднёвай сьцяны ў друз ды ўсе Саруманавы паслугачы паўцякалі, ён сам кінуўся бегчы, пераляканы. Падаецца, ён быў ля брамы, калі мы падышлі. Напэўна, назіраў, як шыхтуе на вайну ягонае дзівоснае войска. Калі энты праламіліся скрозь мур, ён пабег прэч. Энты яго спачатку й не заўважылі. Але ноч сталася ясная, зорная, сьвятла для энтаў ставала, і Хуткасьцень яго першы прыкмеціў ды загаласіў: "Дрэвагубца, дрэвагубца!" Хуткасьцень – добры энт, нават і мяккадушны, але ягоная нянавісьць да Сарумана лютая да шаленства. Ягоная кравіна цяжка пацярпела ад орцкіх сякераў. Хуткасьцень кінуўся па прысадах ад краю брамы, а рушыць ён, калі шалёны, хутчэй за вецер. Наперадзе бледная постаць мільгала паміж ценямі ад слупоў і ўжо амаль сягнула лесьвіцы да дзьвярэй у вежу. Нават і тое ледзь дапамагло ўратавацца. Хуткасьценю заставалася ўсяго пару крокаў, каб злавіць і расьціснуць ворага, калі Саруман праціснуўся празь дзьверы.

А калі ўжо Саруман апынуўся ў бясьпецы ў Ортанку, дык неўзабаве задзейнічаў і сваю каштоўную машынэрыю. Тым часам ужо шмат энтаў зайшло ў Ізенградак. Некаторыя рушылі за Хуткасьценем, некаторыя праламіліся з поўначы й усходу. Хадзілі паўсюль і бурылі што бачылі. Зьнянацку там і тут выбухала полымем і смуродным дымам. З капальняў і комінаў выкідвала вагонь і попел. Некалькіх энтаў абпаліла ды падпякло. Адзін зь іх – Бярозавік, калі не памыляюся, надта высокі прыгожы энт – патрапіў у струмень нейкага вадкага полымя й згарэў, быццам паходня, – жудаснае відовішча.

З таго энты звар'яцелі. Я меркаваў, яны ўжо сягнулі краю. Не, я памыляўся. Нарэшце я пабачыў, што гэта такое насамрэч. Гэта неверагодна! Яны раўлі, грукаталі й галасілі так, што камяні крышыліся й падалі проста ад гуку. Мэры й я ляжалі на зямлі, закрыўшы вушы плашчамі. Энты насіліся па коле Ортанку, выючы, бы ўраган, ламаючы калёны, абрынаючы лавіны валуноў у капальні, падкідваючы вялізарныя скалы ў паветра, як лісты. Вежа была ў самым цэнтры віру з усялякага ламачча. Я бачыў, як жалезныя слупы й каменныя глыбы ўзьляталі на сотні ступнёў ды бразгалі аб вокны Ортанку. Але Дрэвабарод захаваў галаву на плячох. На шчасьце, яго не падпаліла. Ён не хацеў, каб ягоны народ параніў сябе ў шаленстве, і не хацеў, каб Саруман непрыкметна ўцёк па якой нары, скарыстаўшыся агульным бязладзьдзем. Мноства энтаў кідалася на Ортанк, але той быў мацнейшы за іх. Надта гладкі камень вежы й надта цьвярды. Напэўна, у ім чарадзейства – мо старэйшае й мацнейшае за Саруманава. Энты й ухапіцца за яго не маглі ці хоць бы шчылінку зрабіць, ды марна шкодзілі сабе, б'ючыся аб вежу.

Тады Дрэвабарод выйшаў на сярэдзіну кола й загукаў. Ягоны магутны голас перакрыў увесь гармідар. І зьнянацку стала мёртвая цішыня. А ў ёй мы пачулі віскатлівы, кплівы сьмех з высокага вакна ў вежы. Падзейнічаў ён на энтаў

незвычайна. Толькі што яны кіпелі, а тады раптам зрабіліся спакойныя й разважлівыя, суворыя й халаднейшыя за лёд. Сабраліся ўсе вакол Дрэвабарода, сталі нерухома. Ён прамовіў ім крыху на іхняй мове. Мяркую, распавядаў плян, які сам захоўваў у сваёй старой галаве ўжо доўгі час. А тады яны ўсе й зьніклі ў шэрым золкавым сьвятле.

Напэўна, пакінулі варту, каб пільнаваць вежу, але тая так добра схавалася сярод ценяў ды трымалася так нерухома, што я яе й не заўважыў. Астатнія рушылі на поўнач. І цалюткі дзень былі занятыя, не паказваліся. Мы амаль увесь час заставаліся самі па сабе. Вусьцішны выдаўся дзень, шэры й нудотны. Мы крыху пашпацыравалі навокал, хоць і намагаліся схавацца ад вокнаў Ортанку. Тыя перыліся дужа пагрозьліва. Амаль увесь час змарнавалі на пошукі ежы. Таксама сядзелі й размаўлялі адзін з адным, цікавячыся, што там, на поўдні, у Рохане, творыцца ды што адбылося з рэшткамі нашага Зьвязу. Час ад часу чулі ўдалечыні грукат абвалу, усялякія бахі ды бухі, якія аддаваліся рэхам у гарах.

Пасьля полудня мы прайшліся вакол муроў, каб глянуць, што адбываецца. На пачатку даліны стаяў вялізны цяністы лес з гаворнаў, а другі – колам уздоўж паўночнай сьцяны. Да дрэваў мы набліжацца не адважыліся. Але адтуль даляталі такія гукі, быццам там нешта разрывалі ці дралі. Энты з гаворнамі капалі вялізныя ямы й прорыні, рабілі запруды й дамбы, зьбіраючы ваду Ізену й кожнага іншага струменю ці крыніцы, якія толькі знайшлі. Ну, мы іх і пакінулі за гэтаю працай.

У сутоньні Дрэвабарод вярнуўся да брамы. Ён мармытаў і напяваў пад нос і падаваўся задаволеным. Устаў, пацягнуўся, выпрастаўшы доўгія рукі, і глыбока ўздыхнуў. Я спытаў, ці стаміўся ён.

"Стаміўся? – перапытаў ён. – Не, не стаміўся, адзервянеў троху, закаранеў. Трэба як сьлед напіцца вады з Энтуі. Файна мы папрацавалі, цяжкую справу зрабілі: болей камянёў пакалолі ды зямлі скапалі, чым за безьліч гадоў. Аўжо амаль і скончылі. Уночы ня швэндайцеся ля гэтае брамы ці ў старым тунэлі! Тут можа хлынуць вада – і благая вада да таго ж, пэўны час, пакуль ня змые ўвесь Саруманаў бруд. Тады Ізен зноў пацячэ чысты".

І пачаў развальваць рэшткі сьцяны, нясьпешна так, з задавальненьнем.

Мы ўжо разважалі, дзе нам бясьпечней залегчы й паспаць, калі адбылося самае дзівоснае з усяго. З шляху данёсься хуткі пошчак капытоў. Мы з Мэры залеглі сабе ціхенька, а Дрэвабарод схаваўся ў цень пад аркай. І тут прымчаў вялізны конь – нібы срэбра ўспыхнула перад вачыма. Ужо сьцямнела, і я ня мог разгледзець твар вершніка. Падавалася, той зьзяў, і адзеньне ягонае было ўсё белае. Я так і сеў, вырачыўшыся, з адкрытым ротам. Спрабаваў выгукнуць – і ня здолеў.

Але й патрэбы не было. Вершнік прыпыніўся якраз побач з намі, паглядзеў на нас.

"Гэндальфе!" – я выціснуў зь сябе толькі шэпт. А ён? Мо прамовіў што-кольвек накшталт: "Вітаю, Піпіне! Якая прыемная сустрэча"? Не, зусім не. Ён сказаў: "Уставай, ты, Хват-няздара! Дзе, скажы, ва ўсім гэтым ламаччы мне знайсьці Дрэвабарода? Хутчэй!"

Дрэвабарод пачуў і выйшаў зь ценю. Вось была сустрэча! Я надта зьдзівіўся, бо з тых двох аніводны ня быў зьдзіўлены. Гэндальф, відавочна, плянаваў яго тут знайсьці, і Дрэвабарод, напэўна ж, бадзяўся ля брамы няйначай як сустракаючы Гэндальфа. Хоць мы распавядалі старому энту пра Морыю. Тады я й прыгадаў ягоны дзіўнаваты позірк у час таго расповеду. Мяркую, ён ужо альбо бачыў Гэндальфа, альбо меў пра яго нейкія зьвесткі, але ж нам не сказаў. "Не сьпяшацца!" – ягонае

жыцьцёвае правіла, але ж нават эльфы ня здольныя даведацца пра Гэндальфавы рухі, калі ён не пад бокам.

"Хумм, Гэндальф! – абвесьціў Дрэвабарод. – Добра, што ты зьявіўся. З дрэвам і вадою, зямлёй ды камянямі я спраўлюся, але ж тут ёсьць яшчэ й чараўнік".

"Дрэвабарод, трэба твая дапамога, – вымавіў Гэндальф. – Ты зрабіў шмат, але ж неабходна болей. Трэба неяк справіцца зь дзясяткам тысячаў оркаў".

Тады гэтая парачка адышла радзіцца ў нейкі кут. Напэўна, тая рада падалася Дрэвабароду надта імклівай, бо Гэндальф страшэнна сьпяшаўся й распавядаў хуткапрамаўлянкаю, нават не адышоўшы ад нас. Раіліся яны ўсяго колькі хвілінаў, мо з чвэрць гадзіны. Тады Гэндальф вярнуўся да нас і нібыта пазбавіўся цяжару. Падаваўся амаль радасным. Сказаў нарэшце, што рады нас бачыць.

"Гэндальф! – я ажно загаласіў. – Дзе ж ты быў? Ці бачыў іншых?"

"Дзе ні быў, я ўжо вярнуўся, – адказаў ён у сваёй звычайнай манеры. – Так, сяго-таго я бачыў. Але ж гамонка пачакае. Ноч сёньня не для пасядзелак. Мне трэба ехаць, і як мага хутчэй. Але ж раніцою мо пасьвятлее. Калі так, тады й пабачымся зноў. Трымайцеся асьцярожней ды падалей ад Ортанку! Да сустрэчы!"

Дрэвабарод быў вельмі задумлівы пасьля Гэндальфавага ад'езду. Відавочна, шмат даведаўся за кароткі тэрмін, а зараз абмяркоўваў і засвойваў навіны. Кажа нам: "Хм, а вы не такі й пасьпешлівы народзец, як я палічыў. Распавялі нашмат меней, чым ведалі, і ані на слоўца болей за разумнае. Хм, вось дык куча навінаў! Адылі Дрэвабароду зноў ёсьць чым заняцца".

Перад сыходам ён распавёў тое-сёе. І зусім нас не парадаваў. І пэўны час мы думалі толькі пра вас трох, а не пра Фрода з Сэмам ды небараку Бараміра. Бо ўцямілі, што йдзе вялікая бітва ці вось-вось пачнецца, а вы ў гушчыні яе і, магчыма, жыўцом ня выберацеся.

"Гаворны дапамогуць", – сказаў нам Дрэвабарод.

І сышоў, і болей мы яго ня бачылі ажно да сёньняшняй раніцы.

Ноч была чорная. Мы ляжалі на версе кучы каменных аскепкаў і ня бачылі анічога вакол. Туман ці цень агарнуў усё навокал. Душна было, сьпякотна. Паўсюль чуваць скрыгат, рыпеньне, шэпт – быццам хтосьці праходзіць побач. Напэўна, яшчэ колькі сотняў гаворнаў выправілася дапамагаць у бітве. Пазьней на поўдні моцна загрукаталі грымоты, заблішчэлі маланкі. Раз-пораз магутныя выбліскі высьвечвалі далёкія, за шмат вёрстаў адсюль, горныя пікі – яны зьяўляліся, чорна-белыя, і адразу ж зьнікалі. І за сьпінай грукатала, нібы навальніца ў гарах, але ж інакш. Часам уся даліна наўсьцяж гула рэхам.

Напэўна, апоўначы энты разбурылі дамбы, і ўся сабраная вада палілася празь дзірку ў паўночнай сьцяне ў Ізенградак. Гаворнаўская цемра зьнікла, грымоты адкаціліся прэч. Падпоўнік ужо заходзіў за заходнія горы.

Ізенградак пачаў запаўняцца чорнымі зьмеямі струменяў, там і сям узьнікалі лужыны й азёры. Яны блішчэлі ў месяцовым сьвятле, разьліваючыся на роўнядзі. Там і тут вада абрыналася ў капальні ці лазы. Тады ўздымліваліся вялікія слупы пары. Клубіўся дым. Штось выбухала, ускідвалася полымя. Вялікі віхур пары ўздымаўся над Ізенградкам, зноў і зноў абвіваўся вакол Ортанку, пакуль ня стаў, нібы магутная воблачная гара, віхраслуп, азораны зьверху месяцам, а зьнізу – зыркім полымем. А вада ўсё лілася й лілася, пакуль увесь Ізенградак не ператварыўся ў веліканскую пляскатую каструлю, дзе кляктаў ды булькаў кіпень.

– Мы бачылі воблака пары й дыму з поўдня апошняй ноччу, калі пад'ехалі да вусьця Нан-Куруніру, – зазначыў Арагорн. – І баяліся, што Саруман варыць нейкае ліха для нас.

– Ня ён варыў! – Піпін усьміхнуўся. – Ён, напэўна, за горла хапаўся, задыхаючыся, і ўжо не сьмяяўся болей. Учорашняй раніцою вада заліла ўсе дзіркі й павіс шчыльны туман. Мы схаваліся ў вартоўні, дзе сьнедалі надоечы, і дрыжэлі з страху. Бо возера пераліваласся цераз край і вада пацякла па тунэлі. Яна хутка падымалася, і мы ўжо думалі: усё, патрапілі, што тыя оркі ў нары, але, на шчасьце, знайшлі лесьвіцу з кладоўкі на самы верх аркі. Давялося праціскацца й паўзьці, бо праход ля самага верху патрэскаўся й быў напалову завалены каменьнем. Але ж вылезьлі дый паселі наверсе, назіраючы за патопам у Ізенградку. Энты лілі й лілі ваду, пакуль усе агні ня згасьлі й усе пячоры не запоўніліся. Пара павольна клубілася й узьнялася ўгару, зрабіўшыся вялізарным, падобным на парасон воблакам вышынёй, напэўна, зь вярсту. Вечарам над усходнімі горамі лягла магутная вясёлка. А заход сонца быў заценены густым дажджом на горных схілах. Усё зрабілася такім спакойным і ціхім. Толькі далёка завылі жаласна ваўкі. Уночы энты спынілі затапленьне й вярнулі Ізен у былое ўлоньне. Вось так усё й скончылася.

– Тады вада пачала паціху сыходзіць. Мяркую, у ніжніх пячорах ёсьць вытокі. Думаю, калі б Саруман вызірнуў зь любога вакна, убачыў бы толькі жудасны бруд ды сьмецьце. Мы адчувалі вялікую самоту. Нават ні энта, каб паразмаўляць ці даведацца навіны пасярод гэтага ламачча. Ноч правялі седзячы на арцы. Было халодна й мокра, і зусім ня спалі. Пачуваліся, нібы кожную хвіліну можа здарыцца што заўгодна. Бо Саруман – у сваёй вежы. Пасярод ночы быў шум, быццам вецер пранёсься па даліне. Можа, вярнуліся энты з гаворнамі, але ж куды падзеліся потым, я ня ведаю. Туманным, мокрым ранкам мы зьлезьлі з аркі й агледзеліся. Але нікога ня ўбачылі. Напэўна, гэта ўсё, што варта распавесьці. Зараз навакольле падаецца такім мірным пасьля мінулых жахаў. І бясьпечным, раз ужо Гэндальф вярнуўся. Цяперака ўжо я адасплюся!

Пэўны час усе маўчалі. Гімлі зноў набіў люльку.

– Адно мне няясна ў гэтай гісторыі, – сказаў, распаліўшы люльку крэсівам і крэмнем, – дзе тут Зьмеяроты? Ты казаў Тэядэну, што ён з Саруманам. Як ён туды патрапіў?

– Так, забыўся, – пагадзіўся Піпін. – Ён патрапіў туды сёньня зранку. Мы толькі зладзілі вогнішча й крыху падсілкаваліся, калі Дрэвабарод аб'явіўся зноў.

"Вось, – кажа, – зайшоў зірнуць, як там мае хлопцы, дый навінамі падзяліцца. Гаворны вярнуліся. Усё файна. Вух, дый над-звычай файна! – ён расьсьмяяўся й пляснуў далоньмі сабе па нагах. – Няма болей оркаў у Ізенградку, няма сякераў! І сёньня яшчэ да вечару госьці зьявяцца з поўдня. Сяго-таго вам, напэўна, прыемна будзе пабачыць".

Не пасьпеў дагаварыць, а па шляху пошчак капытоў! Мы кінуліся наперад, сталі перад брамай, а я гляджу й амаль што бачу Швэндала з Гэндальфам на чале войска. Замест таго з туману выехаў чалавек на старым стомленым каняку. Выглядаў надта дзівосна й ня тое каб прыемна. А болей анікога. Калі выскачыў з туману й раптоўна ўбачыў ламачча й разваліны перад сабою, ажно здранцьвеў, вохнуў ды амаль пазелянеў з твару. Такі быў агаломшаны, што й нас спачатку не заўважыў. А калі заўважыў, ускрыкнуў ды паспрабаваў павярнуць каня прэч. Але Дрэвабарод зрабіў

тры крокі, працягнуў доўгую руку й выняў яго зь сядла. Конь, напалохаўшыся, ірвануў прэч, а чалавек завалтузіўся па зямлі, енчучы. Сказаў, ён – Грыма, сябра й радца караля, яго паслалі зь істотнымі весткамі ад Тэядэна Саруману.

Аніхто іншы не адважыўся прабірацца па адкрытай роўнядзі, паўнюткай паганымі оркамі, – так казаў, – таму паслалі яго. У яго за плячыма небясьпечная вандроўка, ён стомлены й галодны. Давялося ўхіліцца далёка на поўнач, бо за ім гналіся ваўкі.

А я бачу, якія касыя позіркі кідае ён на Дрэвабарода, і мяркую: хлус, відавочна ж. Дрэвабарод зірнуў на яго па-свойму, доўга так, колькі хвілінаў, небарака ажно закурчыўся на зямлі. Тады й кажа: "Хм, хум, а я ж цябе й чакаў, спадарыку Зьмеяроце". Чалавек здрыгануўся, пачуўшы тое мяно. "Гэндальф пасьпеў сюды першы, – дадаў Дрэвабарод. – Так што я ведаю дастаткова пра цябе, ведаю таксама, што рабіць з табою. Гэндальф казаў: усіх пацукоў у адну пастку. І тое слушна. Я цяпер гаспадар Ізенградку, але Саруман замкнуўся ў сваёй вежы. Можаш ісьці да яго й перадаць усё, што толькі да галавы ўзбрыдзе".

"Адпусьці мяне, адпусьці! – заенчыў Зьмеяроты. – Я ведаю шлях!"

"Ведаеш, я не сумняюся, – пагадзіўся Дрэвабарод. – Але тут троху памянялася ўсё. Ну, ідзі сам і зірні!"

Ён адпусьціў Зьмеяротага, і той закульгаў цераз арку, а мы крочылі за ім. Ён выбраўся вонкі й убачыў, што зрабілася зь Ізенградкам. Тады павярнуўся да нас і закныхаў: "Адпусьціце мяне! Дазвольце ісьці прэч! Мае зьвесткі ўжо без патрэбы!"

"Насамрэч так, – зноў пагадзіўся Дрэвабарод. – Але ў цябе толькі два выйсьці зараз: альбо застацца з мною, пакуль ня зьявяцца Гэндальф з тваім каралём, альбо дабірацца да Ортанку!"

Чалавек уздрыгнуў, пачуўшы словы "з тваім каралём", і крануў нагой ваду. Адразу ж адсунуўся.

Кажа: "Я ня ўмею плаваць!"

"Вада неглыбокая, – запэўніў яго Дрэвабарод. – Брудная, вядома, але тое табе не пашкодзіць, спадар Зьмеяроты. Ну, пайшоў!"

І небарака пабрыў скрозь патоп. Пакуль я яго бачыў, ён паглыбіўся ажно да сківіцаў. Апошняе, што я згледзеў, – ён ухапіўся за нейкую старую бочку ці кавалак дрэва. А Дрэвабарод крочыў побач і назіраў, як у яго атрымліваецца.

"Ну, дабраўся й усярэдзіну патрапіў, – распавёў, вярнуўшыся. – Бачыў, як ён караскаўся па прыступках, бы пацук зь сьметніку. Нехта яшчэ ў вежы застаўся, бо высунулася рука й зацягнула яго ўсярэдзіну. Там ён цяпер і сядзіць. Спадзяюся, павіталі яго адпаведна. А цяпер мушу йсьці ды абмыцца ад бруду й склізі. Тут паблізу няма чыстай вады, вартай, каб энту напіцца ці абмыцца. Дык вы, хлопцы, калі ласка, патрымайце варту ля брамы, бо ж госьці будуць. Сам гаспадар Роханскай роўнядзі, не абы хто! Павітайце яго найлепшым чынам, як ведаеце. Ягоныя ваяры біліся ў вялікай бітве з оркамі й перамаглі. Мажліва, вы лепей за энтаў ведаеце словы, вартыя такога шаноўнага госьця. На маім часе шмат было гаспадароў на зялёных роўнядзях, ды я аніколі не запамінаў ані іхняй гаворкі, ані імёнаў. Яны ж захочуць людзкую ежу, а вы, мяркую, усё пра гэта ведаеце. Дык знайдзіце што прыдатнае, як вам падаецца, каб каралю падсілкавацца".

– Ну, вось тут і ўсё. Толькі хацелася б даведацца, хто ж такі гэны Зьмеяроты. Ці насамрэч ён быў каралеўскім радцам?

– Быў, – пацьвердзіў Арагорн. – А таксама быў Саруманавым выведнікам і паслугачом у Рохане. Лёс яму выпаў якраз паводле ягоных заслуг. Адзін погляд на

руіны таго, што ён лічыў такім моцным і неадольным, напэўна, амаль дастатковае пакараньне для яго. Аднак, мяркую, горшае ў яго наперадзе.

– Так, не з дабрыні пусьціў яго Дрэвабарод у Ортанк, – згадзіўся Мэры. – Ён неяк змрачнавата ўзрадаваўся з той нагоды ды сьмяяўся пад нос, сыходзячы памыцца ды напіцца. А мы колькі часу змарнавалі, абшукваючы ламачча й шнарачы навокал. Знайшлі дзьве-тры непадтопленыя кладоўкі, вышэй за ўзровень вады. Але Дрэвабарод паслаў энтаў, і тыя зьнесьлі прэч большую частку ежы. Сказалі: "Нам чалавечай ежы на дваццаць пяць асобаў".

Бачыце, вас дакладна падлічылі яшчэ да таго, як вы сюды прыбылі. Відавочна, меркавалі, што вы зь вялікімі выправіцеся на перамовы. Але ж наўрад ці там смачнейшы пад'едак. Мы сабе пакінулі ня горшае за тое, што аддалі, будзьце пэўныя. Нават і лепшае, таму што пітво мы прысабечылі. Я ў энтаў пытаюся: "А піць што будуць?"

А яны кажуць: "Ёсьць ізенская вада, яна досыць добрая й для энтаў, і для людзей".

– Спадзяюся, у энтаў хапіла часу, каб вырабіць якія свае трункі з горных крыніцаў, і мы пабачым, як барада ў Гэндальфа закучаравіцца. А мы пасьля сыходу энтаў пачуліся стомленымі й галоднымі. Але ж ня скардзіліся – за нашую цяжкую працу знайшлі ўзнагароду. Якраз падчас пошукаў людзкой ежы Піпін згледзеў сапраўдны скарб сярод сьмецьця – бочачкі з таўром Рагадзьмуўцы. Піпін і кажа: "Паліць, вядома, лепей пад'еўшы". Ну, гэтак мы й прыснулі троху.

– Зараз нарэшце ўсё зразумела да дробязяў, – задаволіўся Гімлі.

– Усё, апрача аднаго, – заўважыў Арагорн. – Адкуль зёлкі з Паўднёвага падзелу ў Ізенградку? Чым болей разважаю, тым цікавейшым мне тое падаецца. Я ў Ізенградку аніколі ня быў, але ў навакольлі вандраваў шмат і добра ведаю запустэчаныя мясьціны паміж Роханам і Шырам. Ані караваны з дабром, ані нават вандроўнікі ўжо шмат гадоў туды й сюды не падарожаць – ва ўсялякім выпадку адкрыта. Мяркую, Саруман таемна наладзіў сувязь з кімсьці ў Шыры. Зьмеяротыя заводзяцца ня толькі пад дахам караля Тэядэна. Ёсьць дата на бочках?

– Так, – пацьвердзіў Піпін. – Ураджай 1417 году, леташні. Не, што я, ужо залеташні. Файны быў год.

– Ну добра, якое ліха ні ўтварылася, цяпер яно за сьпінаю. Ці, прынамсі, нам да яго пакуль не дабрацца, – склаў Арагорн. – Аднак, лічу, варта згадаць тое Гэндальфу, хоць яно й можа падацца нязначным сярод ягоных вялікіх справаў.

– Цікава, чым ён цяпер заняты? – вымавіў Мэры. – Ужо час да прыцемак. Пройдземся й мы навокал! Калі жадаеш, Швэндал, наведай зараз Ізенградак. Але ж відовішча не асабліва радаснае.

## *10. Голас Сарумана*

Яны прайшлі праз разбураны тунэль і забраліся на кучу камянёў, пазіраючы на змрочную скалу Ортанку, на ягоныя шматлікія вокны, на пагрозу, якая сыходзіла адтуль, нягледзячы на вакольнае запустэчаньне. Вада амаль уся сьцякла. Там і тут яшчэ заставаліся брудныя азярцы, у якіх пазьбіралася склізь ды сьмецьце. Але большая частка шырокага кола ўнутры муроў агалілася – прастора раскурочаных камянёў і бруду зьзяла чорнымі дзіркамі, яе слупы й калёны тырчэлі крыва й коса, нібыта п'яныя. Ля краю кола грувасьціліся вялізныя кучы й суцэльныя пагоркі зямлі й каменьня, быццам магутная навальніца сабрала ў кучы жвір на беразе. А за імі доўгая зялёная даліна, зарослая й перакрэсьленая схіламі, вілася вузкаю вышчарбінаю паміж цёмнымі адгор'ямі.

Пасярод разбурэньня заўважылі вершнікаў. Яны ехалі з паўночнага боку й ужо набліжаліся да Ортанку.

– Гэта Гэндальф і Тэядэн з харугваю! – абвесьціў Ляголас. – Хадзем насустрач ім!

– Асьцярожней, – папярэдзіў Мэры. – Ідзіце ўважліва: на дарозе ёсьць няўстойлівы брук. Пліта можа нахіліцца й скінуць вас у яміну, калі не пасьцеражэцеся.

Прамінулі рэшткі брукаваных прысадаў да Ортанку. Ішлі павольна, бо брук быў растрэсканы ды перапэцканы сьлізкім брудам. Вершнікі, заўважыўшы іх, прыпыніліся ў цені ад вежы, чакалі. Гэндальф жа выехаў насустрач.

– Мы з Дрэвабародам сумовіліся троху й даволі цікава, а тады сёе-тое расплянавалі, – распавёў ён, – а таксама адпачылі, што было надта патрэбна нам усім. А зараз зноў трэба рушыць наперад. Спадзяюся, вы таксама адпачылі й узбадзёрыліся?

– Так, – пацьвердзіў Мэры. – Але нашыя размовы пачаліся й скончыліся дымам. І мы крыху меней варожа настроеныя да Сарумана, чым раней.

– Сапраўды? – Гэндальф усьміхнуўся. – Я дык зусім не. Мне належыць зьдзейсьніць апошняе перад сыходам адсюль: наведаць Сарумана на разьвітаньне. Гэта небясьпечна і, хутчэй за ўсё, бескарысна. Але неабходна. Хто пажадае, можа йсьці з мною. Аднак папярэджваю: сьцеражыцеся! І не спрабуйце жартаваць – ня самы для таго час!

– Я пайду, – сьцьвердзіў Гімлі. – Жадаю пабачыць яго й на свае вочы пераканацца, ці падобны ён да цябе.

– І як ты гэта праверыш, спадару гноме? – спытаў Гэндальф. – Саруман можа стаць перад тваімі вачыма ў маім дакладным падабенстве, калі пажадае. Ці дастаткова ты мудры, каб адрозьніць усе ягоныя хітрыкі й падманы? Ну, пабачым. Можа, ён спалохаецца й не пакажацца перад столькімі вачыма й такім разнастайным народам. Але я загадаў энтам схавацца, таму мо й пераканаем Сарумана выйсьці вонкі.

– А якая небясьпека? – зьдзівіўся Піпін. – Ці ён стрэліць у нас, ці вылie з вокнаў агонь, ці накладзе якія чары проста зь вежы?

– Найверагодней – апошняе, калі ты крочыш да ягоных дзьвярэй, ня думаючы, навошта туды сунуўся, – сказаў Гэндальф. – Але ж немажліва прадказаць, што ён здольны й што паспрабуе зрабіць. Да дзікай пачвары, загнанай у кут, лепей не набліжацца. У Сарумана ёсьць сілы, пра якія вы й не здагадваецеся. Сьцеражыцеся ягонага голасу!

Наблізіліся да Ортанку. Чорны камень вежы блішчэў, як мокры. Шматлікія грані камянёў былі вострыя, быццам нядаўна вычасаныя. Некалькі драпінаўды маленечкіх, падобныхда лускі аскепкаў – вось і ўсе адзнакі энтавай разьюшанасьці.

На ўсходнім баку, паміж двух слупоў – бакавінаў вежы, высока над зямлёю былі вялізныя дзьверы, а над імі – зачыненае вакно й гаўбец, агароджаны жалезнымі парэнчамі. Да ганку вяла лесьвіца – дваццаць сем шырокіх прыступак, вычасаных невядомым чынам з таго самага чорнага каменю. Дзьверы былі адзіным уваходам у вежу, але мноства вузкіх, падобных да байніцаў вокнаў пазірала з муроў. Самыя далёкія й высокія падаваліся маленькімі вочкамі на магутных рогах-слупах, якія складалі вежу.

Ля ўзножжа лесьвіцы Гэндальф з Тэядэнам сьпешыліся.

– Пайду я, – вымавіў Гэндальф. – Я ўжо быў у Ортанку й ведаю, што мне пагражае.

– Я таксама, – сьцьвердзіў кароль. – Я стары й болей не баюся анічога. Я жадаю перамовіць з ворагам, які зрабіў мне столькі ліха. Эямэр пойдзе з мною й прасочыць, каб мае старыя ногі не пахіснуліся.

– Як пажадаеш, – згадзіўся Гэндальф. – Арагорн пойдзе з мною. Астатнія няхай пачакаюць каля ўсходаў. Яны ўсё пачуюць і ўбачаць, калі будзе што бачыць і чуць.

– Не! – запярэчыў Гімлі. – Ляголас і я таксама жадаем зірнуць бліжэй. Мы адзіныя прадстаўнікі нашых народаў. Мы пойдзем за вамі.

– Тады хадзем! – абвесьціў Гэндальф і крочыў уверх па лесьвіцы, Тэядэн побач зь ім.

Вершнікі Рохану відавочна занепакоіліся, змрочна пазіралі на волатаўскую вежу, турбуючыся за свайго правадыра. Мэры зь Піпінам селі на ніжнюю прыступку, пачуваючыся зусім нікчэмнымі, дый пабойваючыся таксама.

– Адсюль да брамы паўвярсты ліпучага бруду, – прамармытаў Піпін. – Хацеў бы я зараз непрыкметна прашмыгнуць у нашую вартоўню. І навошта мы сюды пацягнуліся? Мы ім тут без патрэбы, адзін клопат.

Гэндальф стаў перад дзьвярыма Ортанку й грукнуў у іх кіем. Яны зазьвінелі гулка й глуха.

– Саруман! Саруман! – паклікаў Гэндальф зычным, загадным голасам. – Саруман, выходзь!

Пэўны час адказу не было. Нарэшце аканіцы над дзьвярыма адчыніліся, але ў цёмным прахоне немажліва было каго-небудзь разгледзець.

– Хто тут? – пачуўся голас. – Чаго вы жадаеце?

– Я ведаю гэты голас, – Тэядэн узварухнуўся, – і кляну той дзень, калі ўпершыню прыслухаўся да яго.

– Прывядзі нам Сарумана, калі ўжо ты зрабіўся ягоным пакаёўцам, Грыма Зьмеяроты! – загадаў Гэндальф. – І не марнуй наш час!

Аканіцы зачыніліся. Прайшло колькі часу ў чаканьні. І зьнянацку загучаў іншы голас, нізкі, мэлядычны. Самыя тоны ягоныя зачароўвалі. Тыя, што слухалі не перасьцярогшыся, потым і слоўца не маглі паўтарыць, а, калі прыгадвалі, самі дзівіліся, як жа мала сілы й сэнсу заставалася ў іх. Большай часткаю ўзгадвалі толькі асалоду ад успрыманьня таго голасу, і ўсё сказанае падавалася мудрым і слушным, хацелася хутчэй пагадзіцца, каб і самім падацца мудрымі. Калі ж хто прамаўляў пасьля Сарумана, голас гучаў груба й неразумна. Калі зачараваныя Саруманам чулі супярэчлівае, іхнія сэрцы запальваліся злосьцю й шаленствам. Некаторыя знаходзіліся пад уладай, толькі пакуль чулі Саруманаў голас, скіраваны да іх. Калі

той прамаўляў для іншых, усьміхаліся – ужо распазнаўшы хітрыкі штукара, а іншыя раскрывалі раты ў захапленьні. Шмат для каго адзінага гуку таго голасу хапала, каб падпасьці пад Саруманаву ўладу. А падпарадкаваныя ягонай волі чулі голас нават у аддаленьні: заўжды ён ледзь чутна ўгаворваў, нашэптваў, кіраваў. Анікога не пакідаў абыякавым. Пакуль гаспадар меў сілу, ніхто ня мог абвергнуць ягоныя просьбы й загады без змаганьня воляю ды розумам.

– Што ж вы? – дакарыў голас ветліва й дабрадушна. – Чаму парушылі мой спачын? Чаму не даяце мне спакою ані ўдзень ані ўночы?

Нібы ціхая, пакорлівая скарга несправядліва пакрыўджанага.

Госьці зірнулі ўгору, ураженыя, бо не пачулі, як выйшаў Саруман, – і ўбачылі постаць на гаўбцы. Саруман глядзеў на іх зьверху, стары, загорнуты ў плашч, колер якога цяжка было вызначыць, бо ён мяняўся пры кожным руху, нават калі чараўнік паводзіў вачыма. У старога быў доўгі твар з высокім лобам, глыбокія, змрочныя вочы, выраз якіх таксама цяжка было разабраць, хоць падаваліся яны поўнымі суворай, крыху стомленай дабрыні. У сівых валасах і барадзе яшчэ праглядвала чорнае ля вуснаў і вушэй.

– Падобны, але ж не зусім, – прамармытаў Гімлі.

– Ну, так ужо яно атрымалася, – зноў запяяў добры, мяккі голас. – Двох з вас я ведаю. Гэндальфа – занадта добра, каб спадзявацца, што ён шукае тут рады ці дапамогі. Але ж вашамосьць Тэядэн, гаспадар Украйны, вядомы высакароднасьцю зьдзяйсьненьняў і яшчэ болей – славаю свайго роду, магутных нашчадкаў Эёрла! О найшаноўнейшы, найзнакаміцейшы сын Тэнгела Тройчы Славутага! Чаму ж вашаць раней не зьявіўся да мяне як сябар? Як жадаў я бачыць яснавяльможнага пана, наймагутнейшага караля заходніх земляў, асабліва жадаў у апошнія гады, каб выратаваць ад нямудрых, нядобрых парадаў, якімі засланілі позірк вашамосьці! Ці цяпер ужо позна? Хоць і шмат шкоды ўчынена мне, і пэўную яе частку – на жаль! – зрабілі менавіта людзі Рохану, я яшчэ прагну выратаваць цябе, выцягнуць з той пагібелі, відавочна непазьбежнай, калі ласкавы пане неаглядна рушыць абраным шляхам. Насамрэч толькі я здольны дапамагчы спадару цяпер.

Тэядэн раскрыў быў рот, быццам хацеў вымавіць нешта, ды так анічога й не сказаў. Зірнуў у твар Сарумана, у ягоныя цёмныя, сумныя, пранізьлівыя вочы, тады – на Гэндальфа, відавочна вагаючыся. Гэндальф жа не варухнуўся, стаяў як камень, нібыта чакаючы нейкага сыгналу ці знаку. Вершнікі заварушыліся, перамаўляючыся шэптам, пагаджаючыся з Саруманам, а тады замерлі, зачараваныя. Падалося ім, што Гэндальф аніколі так ветліва ды паважліва не размаўляў зь іхнім гаспадаром. Поўнымі пыхі, грубымі здаліся ўсе ягоныя гутаркі з Тэядэнам. І цень азмрочыў сэрцы, прадчуваньне вялікай небясьпекі: вырак Рохану прымроіўся ў цемры, куды вёў Гэндальф, а Саруман стаяў побач зь дзьвярыма выратаваньня, трымаючы іх напалову адчыненымі, так што прамень сьвятла падаў адтуль. Павісла цяжкая цішыня.

Парушыў яе зьнянацку гном Гімлі.

– Словы гэнага мудрагела ўсе перакуленыя з ног на галаву, – прарычэў ён, ухапіўшыся за трымальна сякеры. – На мове Ортанку "дапамога" значыць вынішчэньне, а "выратаваньне" – гібель, вось што відавочна! Але ж мы прыехалі сюды не па падачкі!

– Цішай, калі ласка! – на імгненьне голас Сарумана страціў частку дабрыні й злосьць мільганула ў вачох. – Я яшчэ не зьвяртаўся да цябе, Гімлі, сын Глойна. Твой дом далёка, і цябе наўрад тычацца клопаты гэтых земляў. Не з сваёй волі заблытаўся ты ў іх, і я не віню цябе за ролю, якую ты ў іх адыграў – адважна, без сумневу. Але ж

пакорліва прашу цябе: калі ласка, дазволь мне спачатку перамовіць з каралём Рохану, маім суседам, а калісьці – сябрам... Што скажа каралеўская мосьць, уладар Рохану? Ці патрэбныя вашамосьці мір з мною й уся дапамога, якую доўгія гады маёй мудрасьці здольныя даць? Ці ня сыдземся мы разам, каб радай і справай вытрываць чорныя дні й выправіць шкоду так, каб уладаньні нашыя квітнелі яшчэ прыгажэй ды буйней за ранейшае?

Кароль маўчаў. Ці ён змагаўся з злосьцю, ці з сумневам – сказаць было цяжка. Тут падаў голас Эямэр.

– Дазвольце мне, мой каролю! – папрасіў ён. – Вось небясьпека, пра якую нас папярэджвалі. Ці мы ехалі зь перамогай, толькі каб стаяць, ашаломленыя, перад старым хлусам зь мёдам на зьмяіным языку? Так загнаны воўк прамаўляў бы выжлам, калі б здолеў гаварыць. Гаспадар мой, якую дапамогу ён можа даць? Усё, чаго ён хоча, – гэта выбрацца з свае пасткі. Ці стане вашамосьць перамаўляць з тым, на чыіх руках забойствы й здрада? Узгадайце Тэядрэда ля броду, Хаму ў Хельмавым Яры!

– Калі ўжо згадваць атрутныя языкі, дык што сказаць пра твой, малады асьпідзе? – прышыпеў Саруман, і зараз ягоны маланкавы гнеў выявіўся для ўсіх. – Аднак ня трэба сьпяшацца, Эямэр, сын Эямунда! – працягнуў ён па-ранейшаму добра й мякка. – Кожнаму чалавеку – свая доля. Твая – у зброі й ваярскай моцы. Вялікай пашаны дамогся ты праз іх. Карай тых, каго назаве ворагамі твой гаспадар, і ў тым шукай сваю радасьць. Ня ўблытвайся ў тое, чаго яшчэ не разумееш. Вераемна, калі станеш каралём, і сам скеміш, што сяброў абіраюць з асьцярожнасьцю. Сяброўства з Саруманам і моц Ортанку ня варта адкідаць з пустой прыхамаці – якія ні ляжалі б за сьпінай крыўды, сапраўдныя ці ўяўныя. Вы выйгралі бітву – але не вайну, і з дапамогай сілы, на якую наўрад ці магчыма разьлічваць зноў. А мо раніцою вы знойдзеце лясны цень упрост ля сваіх дзьвярэй? Бо ягоныя гаспадары неразумныя й непрадказальныя й маюць няшмат любові да людзей. Але ж навошта, о гаспадар Рохану, называць мяне забойцам, нат калі адважныя ваяры й загінулі ў бітве? Калі пачынаць вайну, ды без патрэбы – бо я яе не жадаў, гэтай вайны, – ваяры асуджаныя на гібель. Калі мяне з той нагоды палічаць забойцам, дык увесь род Эёрла заплямлены забойствам, бо ён багата ваяваў і нападаў на мноства тых, што адважыліся супрацьстаяць яму. Аднак зь некаторымі потым памірыўся, няхай і з палітычнай нагоды, мір ёсьць мір, дзеля чаго ён ні ўтвараўся б. Я скажу так, вашая каралеўская мосьць Тэядэн: няхай будзе мір і сяброўства між намі. Ці ж ня ў нашай волі іх стварыць?

– Мір мы створым, – вымавіў нарэшце Тэядэн, хрыпата й напружана, нібы пераадольваючы перашкоду.

Колькі вершнікаў загукалі задаволена. Тэядэн жа ўзьняў руку, заклікаючы да цішыні.

– Так, мы створым мір, – паўтарыў ён голасам ясьнейшым і мацнейшым, – калі загінеш ты й тваё ліха – разам зь ліхам твайго чорнага гаспадара, для якога ты жадаў парабаваць нас. Ты брэшаш, Саруман, атрутнік сэрцаў і розумаў. Ты працягваеш мне руку – а насамрэч гэта адзін з кіпцюроў на лапе Мордару! Халодны й жорсткі кіпцюр! Твая вайна з мною была несправядлівая, бо калі ты быў бы ўдзесяцёра мудрэйшы, тое не дало б права распараджацца мной і маёй краінай. Нават калі б яна зь нейкай нагоды зрабілася справядлівай вайной, што ты скажаш мне пра выпаленую Заходнюю Ўкрайну? Пра малых, забітых там? Пра мёртвае цела Хамы, пасечанае на кавалкі перад брамаю Горнбургу? Калі ты павісьнеш з свайго вакна падлаю на шыбеніцы дзеля пацехі сваіх груганоў, вось тады пamіруся я з табою ды з Ортанкам! Вось што

належыць табе ад роду Эёрла! Я – зьменшалы нашчадак вялікіх продкаў. Але ж лізаць твае пальцы ня буду. Пашукай халуёў дзе яшчэ. Аднак жа, баюся, голас твой страціў колішнюю чароўнасьць.

Вершнікі пазіралі на Тэядэна, быццам зьнянацку абуджаныя ад прыемнага сну. Груба, як крумкачовы карк, гучаў для іх голас гаспадара пасьля Саруманавай мэлядычнасьці. Аднак той ледзь ня выскачыў зь сябе ад шаленства. Нахіліўся за парэнчы, нібы жадаў ударыць караля кіем. Некаторым падалося – гадзіна зьвілася ў кольцы, гатовая скочыць і ўджаліць.

– Шыбеніцы й крумкачы! – прашыпеў ён, і ўсе здрыгануліся ад раптоўнай зьмены. – Бязглузды! Твой род Эёрла – лютая абпітая банда! Жывяце ў брудзе й смуродзе пад саламянымі стрэхамі, а вашыя вырадкі поўзаюць па падлозе разам з сабакамі! Нядоўга вам засталося чакаць шыбеніцы! Пятля ўжо зацягваецца – спачатку павольна, а тады – шчыльна й незваротна! Вісіце, калі пажадалі!

Голас ягоны зьмяніўся зноў: ён паступова авалодваў сабою.

– Ня ведаю, чаму я марную час і словы на цябе, Тэядэн Канявод, і на тваю невялікую зграю паскакунчыкаў, што ўцякаюць хутчэй, чым наскокваюць. Калісь я прапанаваў табе зьвязак і выгоду па-за тваім разуменьнем і здольнасьцямі. Цяпер я прапанаваў зноў, каб тыя, хто заблукаў, ідучы за табою, пабачылі, які шлях яны яшчэ могуць абраць. А ад цябе я пачуў толькі абразы й выхвальбу. Ну, што ж зробіш. Вяртайся да сваёй халупы! Але ж ты, Гэндальфе! З твайго лёсу я сумую, спачуваю твайму сораму. Як жа здарылася, што ты прымушаны цярпець такіх спадарожнікаў? Бо ты ж ганарлівы, Гэндальфе, і маеш у тым рацыю, узвышаны высакародным розумам і позіркам, які працінае й далёкае, і схаванае. Нават зараз ты не прыслухаесься да маёй парады?

Гэндальф узварухнуўся й зірнуў угору.

– І што ж ты хочаш дадаць да таго, што ўжо сказаў падчас нашай апошняй сустрэчы? – спытаў ён – Ці мо забярэш назад тыя словы?

Саруман змоўк на хвіліну.

– Забраць назад? – паўтарыў мяркоўна, нібы азадачаны. – Чаму? Я даў параду дзеля тваёй карысьці, але ты амаль ня слухаў. У цябе шмат гонару, бо мудрасьць твая вялікая – і ты ня любіш чужых парадаў. Аднак у тым выпадку, мяркую, ты памыліўся, адмыслова прымусіўшы мяне зьмяніць мае намеры. Дый я сам, баюся, пераконваючы, страціў цярплівасьць. Як я шкадую цяпер! Бо я не вінавачу цябе ані ў чым, нават і зараз маё стаўленьне да цябе – дабрыня й дараваньне, хоць ты й вярнуўся зь сьвітаю гвалтоўных невукаў. А як жа йначай? Ці мы абодва – не сябры найшаноўнейшага, найстаражытнейшага Ордэну Міжзем'я? Абодвум нам на карысьць будзе нашае сяброўства! Шмат што мы можам зьдзейсьніць разам, загаіць раны й выправіць безладзь гэтага сусьвету. Дык паразумеймася ж! Забудзьмася на нязначны народзец! Няхай яны чакаюць нашых вырашэньняў. Дзеля агульнай карысьці я забудуся на мінулае й зноў прыму цябе! Ці не падымесься ты на раду да мяне? Ці не аб'яднаесься з мною?

Гэткую моц уклаў Саруман у прамову, што аніхто з слухачоў не застаўся абыякавым. Але на гэты раз чары ўзьдзейнічалі цалкам па-іншаму. Усе пачулі нястрогі папрок добрага караля свайму схільнаму да памылак, але ж горача любімаму набліжанаму прыдворнаму. Але якімі ж далёкімі ад астатніх падаліся гэтыя два! Усе слухалі прамову, не прызначаную для іх, быццам расьпешчаныя дзеці ці неразумныя служкі, што неспадзявана засталі старэйшых і правадыроў за неспасьцігальнай для прасьцякоў размовай. Слухалі й дзівіліся, што значаць тыя словы ў іхнім лёсе. Так,

гэтыя два былі высакароднейшыя, уладарнейшыя, мудрэйшыя. Не, яны абавязкова паразумеюцца. Гэндальф падымецца ў Ортанк, без усялякага сумневу, каб там абмяркоўваць вышнія, неспасьціжныя рэчы. Дзьверы зачыняцца, і астатнія пачакаюць, пакуль на іх узгадаюць ды пры значаць ім працу альбо пакараньне. Нават у Тэядэнавым розуме ўзьнік цень падозраньня: "Няўжо ён здрадзіць нам? Пойдзе – на агульную пагібель?"

Гэндальф засьмяяўся – і чары разьвеяліся, як дым па ветры.

– Эх, Саруман, – вымавіў ён, яшчэ сьмеючыся, – ня тое ты абраў. Табе варта было стаць каралеўскім блазнам і зарабляць на хлеб і пярэстыя лахманы, цьвелячы з каралеўскіх міністраў. Вох, бацюхны! – ён прыпыніўся, зноў засьмяяўшыся. – Мы паразумеемся! Баюся, я па-за тваім разуменьнем. Але ж цябе, Саруман, я разумею надта добра. Я памятаю й твае аргумэнты, і твае дзеі лепей, чым ты лічыш. Калі апошні раз наведваў цябе, ты быў турэмшчыкам Мордару. Туды ты плянаваў выправіць мяне. Не, калі госьць уцёк праз дах, дык двойчы падумае, ці вяртацца празь дзьверы. Наўрад я падымуся да цябе. Але ж паслухай, Саруман, у апошні раз! Магчыма, ты спусьцісься да мяне? Ізенградак апынуўся не такім моцным, якім зрабілі яго твае надзея й прыдумка. Можа, паспадзяесься на што іншае? Мо лепей было б забыцца старое на пэўны час? Павярнуцца да новага? Падумай добра, Саруман! Ці спусьцісься ты да мяне?

Саруманаў твар азмрочыўся, а тады сьмяротна пабялеў. Зноў ня справіўся з сабою, на кароткі час не схаваў адчай сумневаў: агідна было заставацца ў сховішчы й страшна пакідаць яго. Ён завагаўся на імгненьне – і ўсе стаілі дыханьне. Тады загаварыў, і голас ягоны патыхаў пранізьлівым холадам. Пыха й нянавісьць перамаглі.

– Ці спушчуся я? – перадражніў ён. – Ці выходзіць бяззбройны да бандытаў перад дзьвярыма? Мне й адсюль цябе добра чуваць, Гэндальфе. Я ня дурань, і табе, Гэндальфе, я не давяраю. Твае дзікія лясныя пачвары не стаяць на маіх лесьвіцах, але я ведаю, дзе яны хаваюцца, пакорлівыя тваёй волі.

– Здраднікі заўжды недаверлівыя, – стомлена ўздыхнуў Гэндальф. – Табе няма патрэбы баяцца за сваю скуру. Я не заб'ю цябе, не пашкоджу табе. Ты паверыў бы, калі б насамрэч разумеў мяне. У мяне ёсьць моц, каб абараніць цябе. Я даю табе апошні шанец. Ты можаш пакінуць Ортанк вольным – калі сам абярэш тое.

– Гучыць файна, – пакпіў Саруман. – Так падобна да Гэндальфа Сівога: паблажліва, па-добраму. Не сумняюся: Ортанк станецца табе ўтульным і мой сыход надта прыдасца. Аднак нашто мне пакідаць мой дом? І што ты маеш на ўвазе пад "вольным"? Мяркую, ёсьць пэўныя ўмовы, так?

– Адну нагоду пакінуць свой дом ты бачыш з вокнаў, – адказаў Гэндальф. – Іншыя няцяжка згадаць. Твае паслугачы вынішчаныя ці разьбегліся. Суседзяў ты зрабіў ворагамі сабе й падмануў свайго новага гаспадара ці спрабаваў падмануць. Калі ягоны позірк паверне сюды, гэта будзе позірк шаленства. Калі я кажу "вольным", гэта й значыць "вольным" – ад загадаў, ад умоваў і кайданаў, вольным ісьці куды пажадаеш, нават... нават у Мордар. Але спачатку аддай мне ключ ад Ортанку й свой кій. Яны стануць тваім закладам. Я вярну іх – калі ты будзеш варты.

Саруманаў твар жудасна зьбялеў, сказіўся ад разьюшанасьці, і полымем бліснулі вочы. Ён па-вар'яцку зарагатаў.

– Потым! – загаласіў, і голас ягоны сарваўся ў віскат. – Потым – калі ты завалодаеш ключом самога Барад-дуру, напэўна. Ды каронамі сямі каралёў, ды кіямі пяці чараўнікоў! А яшчэ набудзеш пару ботаў нашмат большых за тыя, якія цяпер

табе па назе! Які сьціплы плян! У такім наўрад ці патрэбная дапамога. Не марнуй мой час, дурань. Калі не жадаеш размаўляць з мной, пакуль яшчэ можаш, кацíся прэч – і вяртайся, калі працьвярозееш. Ды бяз банды гэтых галаварэзаў і недамерлага зброду. Усяго найлепшага!

Павярнуўся й крочыў за дзьверы.

– Вярніся, Саруман! – мовіў Гэндальф загадна.

На ўсіхняе зьдзіўленьне, Саруман павярнуўся ды, нібы яго валакло супраць волі, павольна наблізіўся да жалезных парэнчаў. Нахіліўся над імі, цяжка дыхаючы. Твар ягоны абвастрыўся, рэзка абрысаваліся зморшчынкі. Рука-кіпцюр сьціснула цяжкі чорны кій.

– Я не дазваляў табе сысьці, – прамовіў Гэндальф сувора. – Я ня скончыў. Ты страціў розум, Саруман. Але ж ты варты жалю. Цябе яшчэ магчыма павярнуць ад глупства й ліха, ты яшчэ здольны рабіць карыснае. Аднак твой выбар – застацца ў пастцы й разьдзіраць старыя злосьці й здрады. Дык заставайся! Але папярэджваю: табе нялёгка будзе выбрацца адсюль. Хіба толькі чорныя рукі з усходу працягнуцца, каб ухапіць цябе. Саруман! – выгукнуў Гэндальф, і голас ягоны ўзмацнеў, загучаў уладна й неадольна. – Зірні! Я болей ня той Гэндальф Сівы, якога ты прадаў. Я – Гэндальф Белы, які вярнуўся зь сьмерці! А ў цябе цяпер няма колеру. Я выганяю цябе з Ордэну й зь Сьветлай Рады!

Ён узьняў руку й вымавіў ясным халодным голасам:

– Саруман, твой кій – зламаны!

Пачуўся храскат. Канчар кія адламіўся й упаў ля Гэндальфавых ног.

– Прэч! – загадаў Гэндальф.

Саруман скочыў з крыкам, адсунуўся прэч. У гэты момант цяжкая бліскучая рэч абрынулася зьверху. Сьлізнула па парэнчах – праз момант пасьля таго, як Саруман адхіліўся ад іх, і, прасьвісьцеўшы побач з Гэндальфавай галавой, урэзалася ў прыступку, на якой ён стаяў. Парэнчы, зазьвінеўшы, лопнулі. Прыступка трэснула, раскалолася, пырснуўшы бліскучымі аскепкамі. Але рэч – цяжкі крышталёвы шар, цёмны, з палымяным водбліскам у глыбіні, – засталася непашкоджанай.

Шар пакаціўся па прыступках да калюжыны. Піпін пабег за ім і падхапіў яго.

– Здрадны забойца! – выгукнуў Эямэр.

Але ж Гэндальф не варухнуўся.

– Не, тое кінуў не Саруман, – вымавіў ён. – І, мяркую, нават не паводле ягонага загаду. Разьвітальны падарунак ад спадара Зьмеяротага – толькі кепска нацэлены.

– Магчыма, дрэнна пацэліў, бо ня мог вырашыць, каго ненавідзіць болей – цябе ці Сарумана, – сказаў Арагорн.

– Магчыма, – пагадзіўся Гэндальф. – Невялікую радасьць набудуць тыя два, няспынна катуючы адзін аднога скаргамі й кпінамі. Але ж яны заслужылі. Зьмеяротаму надта пашанцуе, калі ён выберацца з Ортанку жыўцом.

– Гэй, хлопча, я гэта вазьму! Я цябе не прасіў кранаць! – выгукнуў чараўнік раптам, павярнуўшыся й пабачыўшы, як Піпін падымаецца па лесьвіцы – павольна, нібы цягнучы вялікі цяжар.

Чараўнік падбег насустрач і выхапіў з рук хобіта цьмяны шар, загарнуўшы крысом плашча.

– Я паклапачуся пра яго, – вымавіў чараўнік. – Здаецца, гэтую рэч Саруман меней за ўсё жадаў бы выкінуць прэч.

– Можа, у яго знойдзецца яшчэ што выкінуць, – заўважыў Гімлі. – Калі прамовы скончыліся, дык мо аддалімся хоць бы па-за кідок каменем зь вежы?

– Але, скончыліся, – пацьвердзіў Гэндальф. – Рушым.

Адвярнуліся ад дзьвярэй Ортанку й спусьціліся па лесьвіцы. Вершнікі радасна загукалі, вітаючы караля, і салютавалі Гэндальфу. Чары Сарумана разьвеяліся. Усе бачылі, як ён зьявіўся, пакорлівы загаду, і на загад жа споўз прэч.

– Зроблена, – падсумаваў Гэндальф. – Зараз – знайсьці Дрэвабарода й распавесьці, як усё адбылося.

– А ён, напэўна ж, здагадаўся? – спытаў Мэры. – Ці ж магло ўвогуле адбыцца інакш?

– Наўрад ці, – адказаў Гэндальф. – Хоць усё вісела на валасінцы. Але ж трэба было паспрабаваць – і зь міласэрнасьці, і ня толькі. Па-першае, я мусіў паказаць Саруману, што моц ягонага голасу ўжо ня тая, бо немагчыма быць адначасова тыранам і добрым радцам. Задумка відавочная, яе цяжка было не разгледзець. Аднак Саруман сам крочыў у пастку. Паспрабаваў нас аднога за адным апрацаваць папросту ў прысутнасьці іншых. Калі ў яго, як і варта было чакаць, не атрымалася, я даў яму апошні шанец, і шчыры ды таго ж: адпрэчыць Мордар і сваю прагу да ўлады ды зарабіць прабачэньне, дапамагаючы нам у нашых цяжкасьцях. А ён ведае іх. Аніхто ня ведае лепей. Вялікую карысьць мог бы ён прынесьці нам. Адылі ён абраў іншы шлях, не карысны анікому. Ён ня хоча служыць – толькі ачольваць. Жыве цяпер у жаху перад ценем Мордару й адначасова марыць пра тое, што здолее акілзаць навалу. Няшчасны дурань! Калі моц Усходу сягне Ізенградку, небараку зжаруць ушчэнт. Мы ня здольныя зьнішчыць Ортанк звонку – але ж хто ведае, на што здольны Саўрон?

– А калі Саўрон не дабярэцца, што ты тады зь ім зробіш? – пацікавіўся Піпін.

– Я? Ды анічога! – адказаў Гэндальф. – Я анічога зь ім рабіць не зьбіраюся. У мяне няма ахвоты ані судзіць, ані гаспадарыць. І што зь ім адбудзецца, прадказаць не бяруся. Сумна мне, што столькі калісь добрага й моцнага гіне зараз у гэтай вежы. Усё ж такі для нас справы абярнуліся файна. Дзівосныя шляхі лёсу! Часьцяком нянавісьць нявечыць сама сябе. Мяркую, нават калі б мы й уламіліся ў Ортанк, няшмат знайшлі б скарбаў, каштоўнейшых за скінуты на нас Зьмеяротым.

Пранізьлівы лямант, раптоўна абарваўшыся, данёсься з адчыненага вакна высока наверсе.

– Здаецца, Саруман з мною згодны, – патлумачыў Г эндальф. – Хадзем ад іх прэч!

Вярнуліся да зруйнаванай брамы. Толькі выбраліся з-пад аркі, як зь ценяў вялізных кучаў нагрувашчанага каменьня да вершнікаў крочылі Дрэвабарод з тузінам іншых энтаў. Арагорн з Гімлі й Ляголас пазіралі на іх, уражаныя.

– Вось тры мае спадарожнікі, Дрэвабарод, – вымавіў Гэндальф. – Я казаў пра іх, але ты іх яшчэ ня бачыў.

Тады назваў імёны кожнага.

Стары энт доўга й уважліва пазіраў на сяброў і перамовіў з кожным па чарзе. Апошнім – зь Ляголасам.

– Дык ты прыйшоў ад самага Ліхалесься, мой шаноўны эльфе? Вельмі файны, вялізны лес быў там калісьці!

– І яшчэ ёсьць! – сказаў Ляголас. – Але ж не такі цудоўны, каб мы не жадалі падзівіцца на іншыя дрэвы. Я так прагну павандраваць у Фангарне! Адною нагою давялося мне крочыць пад цень ягоных дрэваў, і я не хацеў вяртацца!

Дрэвабародавы вочы ажно засьвяціліся ад задавальненьня.

– Спадзяюся, ты зьдзейсьніш сваё жаданьне да таго, як гэтыя пагоркі састарэюць, – вымавіў ён.

– Калі толькі лёс дазволіць, я прыйду, – паабяцаў Ляголас. – Я тут склаў пагадненьне зь сябрам: калі ўсё абернецца добра для нас, мы, з вашага дазволу, павандруем па Фангарне разам.

– Я рады любому эльфу, які прыйдзе з табою, – сказаў Дрэвабарод.

– Сябра, пра якога я казаў, – ня эльф, – патлумачыў Ляголас. – Я меў на ўвазе Гімлі, сына Глойна.

Гімлі нізка пакланіўся, і сякера высьлізнула з-за ягонага паса й бразнулася аб зямлю.

– Хм, хумм, гальлё-каранускі, – Дрэвабарод пазмрачнеў. – Гном, ды яшчэ зь сякераю. Хумм! Я добра стаўлюся да эльфаў, але ж ты хочаш зашмат. Дзіўнаватае ў цябе сяброўства!

– Дзіўным яно можа падацца, – пагадзіўся Ляголас, – але ж пакуль Гімлі жывы, безь яго я не прыйду ў Фангарн. Ягоная сякера не для дрэваў – для оркавых шыяў. О Фангарн, гаспадар лесу! Сорак два оркі пасек ён у мінулай бітве!

– Ху-у, вось як! – уздыхнуў Дрэвабарод. – Гэта добра, але. Ну, ну, няхай усё йдзе як ідзецца, няма патрэбы прысьпешваць. Аднак зараз мусім разьвітацца на пэўны час. Блізіцца надвячорак. Гэндальф кажа, вам трэба ад'яжджаць да цемры, дый гаспадар Украйны сьпяшаецца да ўласнага жытла.

– Так, нам неабходна ехаць зараз жа, – пацьвердзіў Гэндальф. – На жаль, давядзецца вартавых-брамнікаў забраць з сабою. Мяркую, ты справісься й бязь іх.

– Што рабіць, давядзецца, – уздыхнуў Дрэвабарод. – Я буду сумаваць па іх. Мы так хутка зрабіліся сябрамі, што я ажно падумаў: мо зноў раблюся пасьпешлівым, як у маладосьці, зьдзяцінеў ад старасьці. Аднак жа яны – першыя новыя стварэньні, якіх я пабачыў пад сонцам ці пад месяцам за доўгія-доўгія гады. Я не забудуся на іх. Я ўнёс іхнія імёны ў Доўгі сьпіс. Энты запомняць яго.

*Земляродныя энты, бы горы старыя,*
*Шыракакрочыя й вадапівыя,*
*Дый пад'едку ахвотнікі, хобіты жвавыя,*
*Сьмяшлівыя, малыя й лагодныя.*

– Яны застануцца нашымі сябрамі, пакуль аднаўляецца лісьце на дрэвах. Добрага вам шляху! А калі раптам пачуеце навіны там у сябе, у Шыры, дык пашліце мне слоўца. Я маю на ўвазе, як пачуеце ці пабачыце што пра энтавак. Дый самі прыяжджайце, калі зможаце!

– Абавязкова! – адказалі разам Мэры зь Піпінам і хутка адвярнуліся.

Дрэвабарод зірнуў на іх і замаўчаў, задумліва ківаючы галавою. Тады павярнуўся да Гэндальфа.

– Дык Саруман не захацеў выйсьці? – спытаў ён. – Я й ня думаў, што ён адважыцца. Ягонае сэрца счарнела больш за найгоршае гаворнава. Тым ня менш, калі б мяне перамаглі й вынішчылі ўсе мае дрэвы, я таксама не сьпяшаўся б пакінуць нават і цесную цёмную нару, якая схавала б і ўратавала б мяне.

– Напэўна, – пагадзіўся Гэндальф. – Але ж ты не хітрыў таемна й злосна, каб пакрыць увесь сьвет сваімі дрэвамі й задушыць усялякае іншае жыцьцё. А Саруман застаўся тут песьціць старую нянавісьць і плесьці зноў ліха, якое здолее. Ён захаваў ключ Ортанку. І яму нельга дазволіць уцячы.

– Сапраўды так! – сказаў Дрэвабарод. – Саруман без майго дазволу й нагу ня высуне за дзьверы вежы. Энты за тым прасочаць.

– Файна! – адзначыў Гэндальф. – На тое я й спадзяюся. Зараз магу заняцца іншымі справамі й на адзін клопат у мяне паменела. Аднак сьцеражыся! Вада спала. Баюся, недастаткова будзе паставіць вартавых вакол вежы. Не сумняюся: пад Ортанкам пракапаныя глыбокія хады й Саруман цягам часу спадзяецца выходзіць і вяртацца неўпрыкмет. Калі б ты пагадзіўся зноў узяцца за працу ды зноў заліў бы вадою Ізенградак, я надта быў бы за тое ўдзячны. Няхай альбо Ізенградак зробіцца спакойным возерам, альбо знойдзецца выток водам. Калі ўсе пячоры й хады затопяцца ды ўсе вытокі будуць блякаваныя, вось тады Саруману насамрэч застанецца толькі тырчэць у вежы й выглядваць з вокнаў.

– Пакінь тое энтам! – запэўніў яго Дрэвабарод. – Мы абшукаем даліны зьверху да нізу, зазірнем пад кожны валунок. Дрэвы зноў будуць расьці тут – старыя дрэвы, зьдзічэлыя. Зарасьнік гэты мы назавем Вартавым лесам. Нават і вавёрка не праскочыць там без таго, каб я пра тое не даведаўся. Пакіньце тое энтам! Няхай міне й сем разоў па столькі гадоў, колькі ён катаваў нас, – і тады мы ня стомімся пільнаваць яго.

## *11. Палантыр*

Сонца ўжо заходзіла за доўгае заходняе адгор'е, калі Гэндальф зь сябрамі й кароль з харугваю пакінулі Ізенградак. Гэндальф узяў у сядло Мэры, Арагорн – Піпіна. Два каралеўскія ваяры пагналі коней наперад і неўзабаве зьніклі з вачэй у панізьзях даліны. Астатнія ехалі нясьпешна.

Энты, як змрочныя статуі, маўклівым шэрагам стаялі ля брамы, узьняўшы доўгія рукі. Праехаўшы колькі па зьвілістым шляху, Мэры зь Піпінам азірнуліся. Нябёсы яшчэ асьвятляліся сонечнымі промнямі, але на Ізенградак леглі доўгія цені. Шэрыя руіны агарнула цемра. Дрэвабарод стаяў самотны воддаль ад астатніх – нібы абрубак старога дрэва. Хобіты згадалі першую сустрэчу зь ім на сонечнай тэрасе, далёка на памежжы Фангарну.

Сягнулі калёну зь Белай Рукой. Сама калёна яшчэ стаяла, але ж вусьцішная рука ляжала на зямлі, раструшчаная на маленькія аскепкі. Доўгі паказальны палец з пунсовым пазногцем, у змроку амаль чорным, валяўся пасярод дарогі.

– Ані на драбнічку энты не забыліся, – адзначыў Гэндальф.

Мінулі й паехалі далей. У даліне шчыльнеў змрок.

– Ці доўга нам яшчэ ехаць сёньня? – спытаў Мэры неўзабаве. – Я ня ведаю, як вашці едзецца зь недамерлым збродам, які боўтаецца за сьпінай, але той зброд стаміўся ды быў бы рады ня боўтацца, а прылегчы.

– А, дык ты расчуў? – заўважыў Гэндальф. – Ну, не крыўдуй занадта. Будзь удзячны, што не пачуў даўжэйшых абразаў. Бо ён цябе ўважліва разглядаў. Каб суцешыць твой гонар, дадам, што зараз ён пра вас зь Піпінам думае, напэўна, болей, чым пра каго з астатніх наведнікаў. Хто вы, як дабраліся да яго й чаму, што вы ведаеце, ці вас тады захапілі, а калі вас – як вы ацалелі, калі загінулі ўсе оркі, – вось такія нягеглыя загадкі турбуюць вялікі розум Сарумана. Кпіна ад яго, Мэрыядок, – вялікая пашана, калі табе пашэнціла быць нагодаю ягонай заклапочанасьці.

– Дзякуй вялікі! Пашана шчэ большая – матляцца за Гэндальфавай сьпінай. Бо тады, паміж іншым, ёсьць магчымасьць паўтарыць пытаньне. Ці доўга нам яшчэ ехаць сёньня?

Гэндальф засьмяяўся.

– Ну, найуедлівейшы з хобітаў! Усім чараўнікам добра мець хобіта ці двух пад рукою, каб вучылі, што значаць словы, і папраўлялі мудрых. Прашу прабачэньня. Аднак мушу сказаць, думаў я й пра такія простыя рэчы. Мы нясьпешна праедзем яшчэ колькі гадзінаў, пакуль не сягнем канца даліны. А ўжо заўтра паскачам хутка. Калі толькі ехалі сюды, плянавалі вяртацца проста ў каралеўскае жытло, у Эдорас. Гэтая вандроўка зойме колькі дзён па роўнядзях. Але ж цяпер, паразважаўшы, мы зьмянілі пляны. Вестуны памчалі ўХельмаў Яр папярэдзіць пра вяртаньне караля раніцою. Адтуль ён па горнай дарозе зь вялікім рушэньнем выправіцца ў Дунхэрэ. З гэтага часу ня болей за двое ці трое разам мусяць паказвацца на роўнядзях і ўдзень, і ўночы, калі толькі магчыма гэтага пазьбегнуць.

– Ад цябе ці пуста ці густа, – заўважыў Мэры. – Баюся, я далей за сёньняшні адпачынак не заглядваў. Што такое Хельмаў Яр і дзе ён? Дый усё астатняе? Я ж ня ведаю нічога пра гэты край.

– Тады даведайся болей, каб разумець, што адбываецца. Але ня зараз і не ад мяне – у мяне досыць тэрміновых клопатаў, каб іх абдумваць.

– Файна, тады я ля вячэрняга вогнішча падбяруся да Швэндала. Швэндал не такі гарачлівы. Але навошта столькі таямнічасьці? Мы ж выйгралі бітву!

– Так, выйгралі – першую зь бітваў. І пакуль толькі павялічылі нашую небясьпеку. Была нейкая сувязь паміж Ізенградкам і Мордарам. Як яна зьдзяйсьнялася, я яшчэ не зразумеў. Нейкім чынам яны абменьваліся зьвесткамі. А зараз, мяркую, Вока Барад-дуру будзе нецярпліва ўзірацца ў Чараўнікову даліну, дый у Рохан таксама. Чым меней яно заўважыць, тым лепш.

Павольна цягнуўся шлях, віўся ўніз па даліне. То бліжэй, то далей плынеў Ізен у камяністым ручве. З гор прыпаўзла ноч. Туманы растачыліся. Задзьмуў пранізьлівы вецер. Поўня запоўніла нябёсы на ўсходзе няяркім халодным зьзяньнем. Праваруч высокае адгор'е зьмянілася шэрагам голых схілаў. Шэрай прасьцінаю разьвінуліся наперадзе роўнядзі.

Нарэшце прыпыніліся. Збочылі з шляху на чыстую пругкую траву. Праехалі на захад зь вярсту й сягнулі лагчавіны, якая ўразалася ў паўднёвы схіл акруглага Дол-Берэну, апошняга пагорку, зялёнага, з купаю ядлоўцу, рыхтык карона, на вяршыні. Схілы лагчавіны калмаціліся леташняй папарацьцю, між якой ужо выбіраліся з салодкай вясновай глебы пругкія сьвежыя парасткі. На версе невысокіх схілаў расьлі калючыя кусты. Пад імі й зладзілі лягер, гадзіны за дзьве да паўночы. Расклалі вогнішча ў паглыбленьні паміж каранямі буйнога глогу, амаль дрэва, старога й пакурчанага гадамі, але ж моцнага кожным суком. На ўсіх кончыках галінаў ужо набрынялі пупышкі.

Выставілі двох вартавых. Астатнія, павячэраўшы, загарнуліся ў плашчы й коўдры й паклаліся спаць. Хобіты ляжалі крыху воддаль на кучы старой папараці. Мэры ўжо быў заснуў, але Піпіну ня спалася, штосьці непакоіла. Папараць храбусьцела й шаргацела, калі ён круціўся й варушыўся.

– Што здарылася? – спытаў Мэры нарэшце. – Ты што, лёг на мурашнік?

– Не, але мне нейк няўтульна, – адказаў Піпін. – Цікава, як даўно я ня спаў у ложку?

– На пальцах падлічы! – пазяхнуў Мэры. – Толькі трэба згадаць, калі мы пакінулі Лорыйн.

– Ды не. Я меў на ўвазе – у сапраўдным ложку.

– Ну, тады лічы ад Долага Яру, – пазяхнуў Мэры. – Але ж я сёньня дзе заўгодна засну.

– Пашанцавала табе, Мэры, – вымавіў Піпін ціха пасьля доўгага маўчаньня. – Ты з Гэндальфам ехаў.

– Ну дык што?

– Ці вызнаў ты якія зьвесткі, навіны ад яго?

– Так, і нямала. Болей як зазвычай. Але ж ты ўсё чуў, ці амаль усё. Бо ехаў побач, і мы не шапталіся, не сакрэтнічалі. Калі жадаеш, сам едзь зь ім раніцою. Мо сапраўды выцягнеш болей – калі ён захоча цябе ўзяць, вядома.

– Дзякуй! Файна! Але ён утойлівы, ці ня так? Зусім не зьмяніўся.

– Не, зьмяніўся, і яшчэ як! – запярэчыў Мэры, крыху стросшы санлівасьць і дзівячыся, што ж такое турбуе сябра. – Ён нібыта вырас, ці накшталт таго. Ён можа быць і больш строгім, і добрым, і радасным, і сумным за ранейшае, так мне падаецца. Ён зьмяніўся. Але ж пакуль не было дзе пабачыць, у якой ступені. Узгадай, як ён скончыў размову з Саруманам! Саруман стаяў калісьці вышэй за Гэндальфа, быў галавою Рады, што тое ні значыла б. Ён быў Саруман Белы. А цяпер Белы –

Гэндальф. Саруман выйшаў, пачуўшы загад, і быў пазбаўлены кія. А тады папросту выслухаў загад ісьці прэч і пайшоў!

– Калі ён зьмяніўся, дык зараз сама час высьветліць, у якой ступені, – не здаваўся Піпін. – Рэч у тым, што ён бліжэй, чым раней. Напрыклад, гэны шкляны шар. Падаецца, Гэндальф надта задаволены, што атрымаў яго. Мабыць, ведае нешта пра яго ці здагадваецца. А ці кажа нам? Не, ні слоўка. А гэна ж менавіта я падхапіў шар, ня даў скаціцца ў калюжыну. "Гэй, хлопча, я гэта вазьму!" – вось і ўсё ад яго. Дзіўна, што ж гэта такое? Такі цяжкі, – Піпінаў голас зусім сьцішыўся, быццам Піпін размаўляў сам з сабою.

– Дык вось што цябе турбуе! Піпіне, сябрук, ты не забывайся, што нам казаў Гільдар, а Сэм так любіў паўтараць: "Ня блытайся ў справы мудрых – іх цяжка зразумець і лёгка раззлаваць".

– Але ж усё нашае жыцьцё ўжо колькі месяцаў – суцэльная блытаніна ў справы мудрых, – абурыўся Піпін. – І я хачу даведацца хоць бы крышачку, няхай сабе й небясьпечнага. Хачу зазірнуць у той шар.

– Лепей сьпі! – параіў Мэры. – Ты ўсё даведаесься раней ці пазьней. Даражэнькі мой Піпіне, яшчэ ніводны Хват не пераўзышоў Бронь-Быча ў цікаўнасьці. Зараз не найлепшы час тое мяняць.

– Файна! Вядома, нічога ж ня здарыцца, калі я распавяду табе пра сваё жаданьне адным вочкам зірнуць на той камень. Усё адно не атрымаецца: стары Гэндальф сядзіць на ім, як нясушка на яйках. Але якое расчараваньне пачуць ад цябе толькі "*ты нічога ня можаш і таму ідзі сьпі*"!

– А што яшчэ мне казаць? – падзівіўся Мэры. – Прабач, Піпіне, але ж насамрэч лепей адкладзем справу на раніцу. Пасьля сьняданку я буду цікаўнейшы за цябе й дапамагу, як здолею, выцягнуць зьвесткі з чараўніка. Але ж зараз ня маю сілаў. Калі яшчэ раз пазяхну, галава адваліцца, адарваўшыся ад вушэй. Дабранач!

Піпін не сказаў болей анічога. Ляжаў спакойна, аднак пра сон і ня думаў. І нават мяккі подых Мэры, які прыснуў праз колькі хвілінаў, як даў дабранач, санлівасьці не навяваў. У цішыні й спакоі думкі пра цёмны шар толькі мацнелі. Піпін зноў адчуваў ягоны цяжар у руках, зноў уяўляў таямнічую барвовую глыбіню, куды зазірнуў усяго на імгненьне. Круціўся, неспакойна варушыўся, намагаўся думаць пра што іншае.

Нарэшце ня выцерпеў. Устаў. Агледзеўся. Было золка, і ён загарнуўся шчыльней у коўдру. Месяц зьзяў халодна й празрыста, і цені кустоў падаваліся чорнымі. Навокал усе спалі. Абодвух вартавых відаць не было – мо яны стаялі наверсе, над лагчынаю, ці хаваліся ў папараці. Падштурхнуты жаданьнем, якога й сам не разумеў, Піпін асьцярожна падкраўся да Гэндальфа. Падавалася, чараўнік сьпіць, але павекі ягоныя закрыліся ня цалкам і з-пад доўгіх веек блішчэлі вочы. Піпін хутка адсунуўся назад. Але чараўнік не варухнуўся, і, зноў зачараваны, хобіт амаль супраць волі падпоўз да чараўніка ззаду. Гэндальф быў загорнуты ў коўдру й яшчэ накрыўся плашчом. А побач, паміж чараўніковым бокам і сагнутаю правай рукою, ляжаў куль, нешта круглае, захінутае ў цёмную тканіну. Рука, напэўна, толькі-толькі сасьлізнула зь яго на зямлю.

Ледзь дыхаючы, Піпін папоўз бліжэй, ступню за ступнёй. Нарэшце ўстаў на калені й нахіліўся. Выцягнуў ціхенька рукі й павольна падняў куль. Той зусім не падаваўся цяжкім. "Напэўна, куча якога шмацьця ды ўсё", – падумаў зь дзівоснай палёгкай. Аднак куль на месца не паклаў. На момант замер, сьціскаючы здабычу.

Тады раптоўна яго натхніла. Ён на дыбках пракраўся прэч, знайшоў вялікі камень і вярнуўся.

Хутка зьняў тканіну з куля, загарнуў у яе камень і, стаўшы зноў на калені, паклаў куль з новым начыньнем назад, да чараўніковай рукі. Тады, нарэшце, зірнуў на раскрыты шар. Ён падаўся гладкім, крышталёвым, змрочным – мёртвым й голым на зямлі. Піпін падняў яго, хуценька агарнуў коўдраю й азірнуўся, каб ісьці на сваё месца. У гэты момант Гэндальф прамармытаў нешта на незнаёмай мове. Ягоная рука пашнарыла вобмацкам, сьціснула загорнуты камень. Чараўнік уздыхнуў і заціх зноў.

– Вось дурань! – прашаптаў Піпін самому сабе. – Я ж залезу зараз у такое, з чаго потым ня вылезу! А ну, пакладзі назад! – загадаў сабе.

Але зараз ягоныя калені дрыжэлі, і ён не адважыўся наблізіцца да чараўніка, каб дацягнуцца да куля.

– Не, ужо немагчыма замяніць, Гэндальф абавязкова прачнецца, – падумаў хобіт. – Трэба супакоіцца, вычакаць. Так што можна й разгледзець, пакуль ёсьць час. Ня тут, вядома.

Ён ціхенька адышоўся й сеў на зялёны пагорачак непадалёк ад свайго месца. Поўня якраз вызірнула з-за краю лагчавіны.

Піпін сядзеў з ссунутымі каленкамі, прыціснуўшы шар да іх, нахіліўшыся над ім нізка, – нібы галоднае малое над місаю ежы ў куточку воддаль ад астатніх. Разгарнуў коўдру, глянуў на шар. Самое паветра, падалося, застыла й напружылася вакол яго. Спачатку шар быў цёмны, чорны, як абсыдыян, і месяцовае сьвятло блішчэла на ягонай паверхні. Тады нешта ўзварухнулася, засьвяцілася ў ягоным асяродку, прыкавала позірк – так што Піпін ужо ня мог і вачэй адвесьці. Неўзабаве ўся нутрына шара ажно палала вагнём, і ці тое шар пачаў круціцца, ці тое закруціліся вагні ў ім. Зьнянацку полымя згасла. Хобіт сутаргава выдыхнуў, зацялёпкаўся, але застаўся схіленым, сьціскаючы шар абедзьвюма рукамі. Ніжэй і ніжэй нахіляўся да яго, а тады здранцьвеў. Ягоныя вусны бязгучна варушыліся. Нарэшце з прыдушаным крыкам упаў на сьпіну й замер, нерухомы.

Крык быў вусьцішны. Вартавыя пасаскоквалі з схілаў лагчавіны. У момант узьняўся ўвесь лягер.

– Дык вось хто злодзей! – вымавіў Гэндальф і хутка прыкрыў шар плашчом проста там, дзе той ляжаў. – Ты, Піпіне! Якое жахлівае здарэньне!

Чараўнік стаў на калені ля Піпінава цела. Хобіт ляжаў на сьпіне, нерухомы, зьнежывелы, сьлепа вырачыўшыся ў нябёсы.

– Што за пошасьць! Што за ліха ўчыніў ён сабе – і ўсім нам? – пытаўся Гэндальф. Ягоны твар выглядаў зьбялелым і надзвычай стомленым.

Чараўнік узяў руку Піпіна ў сваю, нахіліўся над ягоным тварам, услухоўваючыся ў дыханьне. Тады паклаў рукі на ягоны лоб. Хобіт уздрыгнуў. Заплюшчыў вочы. Ён закрычаў ізноў і сеў, азіраючыся ў зьдзічэлым подзіве на твары навокал – белыя ў месяцовым сьвятле.

– Не для цябе гэта, Саруман! – правішчэў тонкім, невыразным голасам, адсунуўшыся ад Гэндальфа. – Я зараз жа прышлю па яе. Ты зразумеў? Скажы, так ці не?

Тады хобіт затузаўся, намагаючыся ўцячы, але Гэндальф утрымаў яго, мякка й надзейна.

– Перыгрын Хват! – паклікаў сувора. – Вярніся!

Хобіт паслабеў, адкінуўся назад, чапляючыся за чараўнікову руку.

– Гэндальф! – усхліпнуў ён. – Гэндальф! Прабач!

– Прабачыць? Скажы спачатку, што ты зрабіў!

– Я... я ўзяў шар і зазірнуў у яго, – прамармытаў Піпін. – І пабачыў такія рэчы, што напалохаўся. Я хацеў адсунуцца – і ня мог. А тады прыйшоў ён, і распытваў мяне, і глядзеў на мяне, і... і... і ўсё, я болей ня памятаю.

– Не, распавядай у дробязях! – загадаў Гэндальф сувора. – Што менавіта ты бачыў і што сказаў?!

Піпін заплюшчыў вочы й уздрыгнуў. Усе моўчкі глядзелі на яго, апрача Мэры, які адвярнуўся. Але Гэндальф не зьмякчыўся.

– Кажы! – загадаў чараўнік.

Хрыпатым хісткім голасам Піпін загаварыў, і паціху ягоныя словы ясьнелі й мацнелі.

– Я бачыў змрочныя нябёсы й высокія муры, – распавядаў ён. – І маленечкія зоры. Усё гэта было недзе надта далёка й даўно прамінула, але ж рысавалася ясна й рэзка. Тады зоры бліснулі й згасьлі, закрытыя крылатымі пачварамі. Вельмі вялікімі, мяркую, хоць у шкле яны падаваліся кажанамі. Яны кружлялі вакол вежы. Здаецца, іх было дзевяць. Адна паляцела проста на мяне, усё большала. У яе былі жахлівыя... не, не! Я не магу пра тое, не... Я спрабаваў адсунуцца, таму што, падавалася, – яно вылеціць вонкі. Але ж калі яно закрыла шар цалкам, то зьнікла. А тады прыйшоў *ён*. Ён не прамаўляў такім чынам, каб я чуў словы. Ён толькі глядзеў – і я разумеў. "*Дык ты вярнуўся? Чаму не даносіў нічога так доўга, забыўшыся на абавязак?*" Я не адказаў. "*Хто ты?*" – спытаў ён. Я не адказваў, і мне стала жудасна балюча. А ён сьціснуў мяне, і я вымавіў: "*Я – хобіт*". Ён быццам убачыў мяне зьнянацку й засьмяяўся зь мяне. Тое было жорстка. Быццам мяне калолі нажамі. Я змагаўся. А ён сказаў: "*Пачакай хвілiначку! Неўзабаве мы сустрэнемся зноў. Скажы Саруману, што гэтая цацка-жуковіна не для яго. Я зараз жа прышлю па яе. Ці ты зразумеў? Скажы, так ці не?*" І ўсьміхнуўся, цьвелячы зь мяне. Я адчуваў, быццам развальваюся на кавалкі. Не, не! Я не магу болей. Я нічога не скажу, нічога болей ня памятаю!

– Зірні на мяне! – загадаў Гэндальф.

Піпін зірнуў проста яму ў вочы. Чараўнік з хвіліну ўглядаўся ўважліва й маўкліва. А тады ягоны твар памякчэў, на ім зьявілася нешта падобнае да добрай усьмешкі. Ён асьцярожна паклаў руку на Піпінаву галаву.

– Файна! – вымавіў чараўнік. – Не распавядай болей. Табе ня ўчынена шкоды. Я баяўся, што пабачу ў тваіх вачох хлусьню – яе там няма. Але ж ён размаўляў з табою нядоўга. На шчасьце. Ты дурань, Перыгрын Хват, але ж шчыры дурань. Мудрэйшыя мо й горш за цябе справіліся б з такім іспытам. Але ж памятай: цябе й усіх тваіх сяброў выратаваў найперш добры выпадак! Нельга разьлічваць на тое, што табе гэтаксама пашанцуе зноў. Калі б ён дапытаў цябе тут і зараз, амаль непазьбежна ты выказаў бы ўсё, што ведаеш, на пагібель нам усім. Але ж ён надта прагны. Яму патрэбныя ня толькі зьвесткі. Яму патрэбны асабіста ты, каб нетаропка разабрацца з табою ў Цёмнай вежы. Ня ўздрыгвай так! Калі ўжо ўблытаўся ў справы мудрых, дык рыхтуйся думаць і пра такія рэчы. Аднак хопіць. Я табе дарую. Супакойся – усё павярнула ня так блага, як магло.

Ён асьцярожна падняў Піпіна й аднёс да ягонай посьцілкі. Мэры пацягнуўся сьледам і сеў побач.

– Паляжы тут, адпачні, калі здолееш, – параіў Гэндальф. – Даверся мне. Калі ў цябе ў руках зноў засьвярбіць, скажы мне. Гэта можна ацаліць. Але ў любым

выпадку, даражэнькі хобіт, не падсоўвай мне пад локаць камень! Пакуль я пакіну вас двох сам-насам.

Гэндальф вярнуўся да астатніх, якія стаялі вакол ортанкавага шара, задумліва паглядаючы на яго.

– Бяда прыходзіць уночы, калі яе чакаеш меней за ўсё, – вымавіў чараўнік. – Мы ледзь ураталаваліся.

– Як Піпін? – спытаў Арагорн.

– Мяркую, зь ім цяпер усё добра. Трымалі яго нядоўга, а хобіты ацаляюцца надзіва хутка. Успаміны ці іх вусьціш хутка зьнікнуць. Надта хутка, мажліва. Ці возьмеш ты, Арагорн, камень Ортанку, каб захоўваць яго? Гэта небясьпечная праца.

– Сапраўды, небясьпечная, але не для ўсіх, – адказаў Арагорн. – Бо ёсьць той, каму ён належыць паводле права. Бо ж гэта, безумоўна, палантыр з скарбніцы Элендыля, усталяваны ў Ортанку каралямі Гондару. Мой час набліжаецца. Я вазьму яго.

Гэндальф зірнуў на Арагорна і, на зьдзіўленьне астатніх, падняў прыкрыты тканінаю камень ды працягнуў Арагорну, пакланіўшыся.

– Прымі яго, уладар, як прадвесьце ўсяго, што мусіць вярнуцца да цябе, Але ж, калі мне дазволена параіць табе, не карыстайся ім пакуль! Пасьцеражыся!

– Ці быў я калі пасьпешлівы ці неасьцярожны, чакаючы й рыхтуючыся доўгія-доўгія гады? – спытаў Арагорн.

– Дасюль – не. Дык не спатыкніся ж напрыканцы шляху, – адказаў Гэндальф. – Ва ўсялякім выпадку, трымай гэтую рэч у таямніцы. Ты й усе астатнія, хто прысутнічае тут! Перш за ўсё сачыце, каб хобіт Перыгрын Хват ня ведаў, дзе схаваны палантыр. Бо ліхая прага можа зноў адолець яго. На жаль, ён трымаў яго й зазіраў у яго, гэтага не павінна было здарыцца. У Ізенградку я мусіў пасьпяшацца, каб ён не дакрануўся да яго. Але ж я думаў толькі пра Сарумана й не адразу ўцяміў сутнасьць гэтага каменя. А калі я ляжаў, разважаючы, стома й санлівасьць адолелі мяне. Надоечы шмат чаго высьветлілася!

– Так, без сумневаў, мы нарэшце ведаем, што злучала Мордар зь Ізенградкам і як выпрацавалася іх сувязь. Шмат чаго зараз ясна, – склаў Арагорн.

– Дзівосная моц нашых ворагаў і дзівосная іх слабіна! – адгукнуўся кароль Тэядэн. – Аднак нездарма гавораць: ліха часьцяком ліху ж і шкодзіць.

– Шмат разоў адбывалася такое, – пагадзіўся Гэндальф. – Гэтым разам нам дзівосна пашанцавала. Магчыма, гэты хобіт выратаваў мяне ад цяжкой памылкі. Я разважаў, ці скарыстаць мне камень самому, каб высьветліць, да чаго ён прыдатны. Калі б я зрабіў так, я адкрыўся б Чорнаму Ўладару. Я не гатовы пакуль да такога іспыту – калі здольны вытрымаць яго ўвогуле. Але нават калі б я сабраў усе сілы, каб адарвацца ад каменя й ад *яго*, усё ж я быў бы апазнаны, і тое магло б стаць шкодай для нас, бо нашае выратаваньне – трымацца ў таямніцы як мага даўжэй, пакуль не надыдзе час выступіць адкрыта.

– Гэты час ужо надышоў, – сьцьвердзіў Арагорн.

– Яшчэ не, – сказаў Гэндальф. – Вораг яшчэ сумняецца, і гэтыя хвілі мы мусім выкарыстаць. Відавочна, Вораг лічыць, што камень пакуль у Ортанку – чаму ж яму ня быць там? Значыць, і хобіт там, і Саруман катуе хобіта, прымушаючы глядзець у шар. Чорны розум уладара Барад-дуру пакуль што забаўляецца выглядам хобітавага твару й прадчуваньнем забавы на допыце. Мо колькі часу міне, пакуль ён зразумее сваю памылку. Гэты час нам на карысьць, і мы мусім скарыстацца ім. Мы разьленаваліся,

адпачываючы. Трэба рушыць! Навакольле Ізенградку – ня месца для адпачынку. Я паеду наперад зь Перыгрынам Хватам. Тое будзе лепей, чым ляжаць у цемры, пакуль астатнія сьпяць.

– Я вазьму Эямэра й дзесяць вершнікаў, – прапанаваў кароль. – Яны рушаць з мною на сьвітанку. Астатнія няхай едуць з Арагорнам, калі ім захочацца.

– Як пажадаеш, – згадзіўся Гэндальф. – Але ж едзьце што моцы, каб як мага хутчэй сягнуць горнага сховішча, Хельмавага Яру!

У гэты момант на іх лёг цень. Зыркае месяцовае сьвятло раптоўна зьнікла, захіленае. Некалькі вершнікаў гукнулі й прыселі, прыкрыўшы рукамі галовы – нібы абараняючыся ад удару зьверху. Сьляпы жах і сьмяротны холад агарнулі іх. Скурчыўшыся, зірнулі ўгару. Вялізманы чорны цень прасьлізнуў пад поўняй, як чорнае воблака. Павярнуў і накіраваўся на поўнач, летучы хутчэй за любы міжземны вецер. Зоры бляклі перад ім.

Раптам ён зьнік. Людзі стаялі нерухомыя, бы стоды. Гэндальф пазіраў угору, скамянеўшы ад напругі, апусьціўшы рукі, сьціснуўшы кулакі.

– Назгул! – выгукнуў ён. – Вястун Мордару! Навала набліжаецца. Назгулы прыйшлі за Андуйн! Скачыце, скачыце! Не чакайце сьвітанку! Няхай хуткія не чакаюць павольных! Скачыце!

Ён кінуўся прэч, клікнуўшы Ценяра на бягу. Арагорн пабег сьледам. Падскочыўшы да Піпіна, Гэндальф падхапіў яго на рукі.

– Ты цяпер едзеш з мною. Цяняр пакажа табе, што такое хуткасьць.

Тады чараўнік падбег да месца, дзе спаў. Цяняр ужо стаяў побач. Закінуўшы малы мяшэчак – увесь свой вандроўны пакунак – за плечы, чараўнік ускочыў на сьпіну каню. Арагорн падняў Піпіна, загорнутага ў плашч і коўдру, і пасадзіў наперадзе Гэндальфа.

– Да пабачэньня! Хутчэй за мной! – гукнуў чараўнік. – Скачы, Цяняр!

Вялікі конь ускінуў галаву. Шаўковы хвост бліснуў у месяцовым сьвятле, заструменіўся ў ветры. І конь памкнуў наперад, пырснуўшы глебаю з-пад капытоў, і панёсься, як паўночны вецер з гор.

– Вось вам цудоўная ноч і вось вам шыкоўны адпачыначак! – пажаліўся Мэры Арагорну. – Шанцуе ж некаторым. Спаць не хацеў, хацеў праехацца з Гэндальфам – і вось яму! І гэта замест таго, каб яго самога ў камень ператварылі ды пакінулі стаяць тут слупом назаўсёды, папярэджаньнем для іншых цікаўных.

– А калі б ты першы падняў ортанкаў камень, а ня ён – мяркуеш, з табой здарылася б што лепшае? – спытаў Арагорн. – А можа, значна горшае, хто ведае. Але, баюся, табе пашанцавала ехаць з мною. І зараз жа. Бяжы й рыхтуйся, ды прыхапі Піпінавы рэчы. Сьпяшайся!

Цяняр ляцеў над роўнядзьдзю без панукваньняў і кіраваньня. Прайшло меней за гадзіну, а ўжо сягнулі бродаў Ізену й перасеклі іх. Курган Вершнікаў і ягоныя халодныя дзіды шэрым прывідам засталіся ззаду.

Піпін паціху ажываў. Вецер у твар быў моцны й асьвяжальны, але хобіт сядзеў у цеплыні. Ды побач з Гэндальфам. Жах ад каменя, вусьцішных ценяў, якія закрывалі поўню, паціху адпускаў яго, застаўся за сьпінай, быццам горны туман ці мімалётны сон. Ён глыбока ўздыхнуў.

– Я ня ведаў, што вашаць езьдзіць безь сядла верхам, – вымавіў нарэшце, – у вашаці ні вузды, ані цугляў!

– Так, на эльфаў манер я ежджу толькі на Ценяру, – адказаў чараўнік, – ды Цяняр і не захоча цугляў. На ім ня езьдзяць верхам. Гэта ён нясе – калі захоча. Тады аніякі рыштунак не патрэбны. Конь сам сочыць, каб ты заставаўся на ягонай сьпіне – вядома, калі табе раптам не ўзбрыдзе да галавы саскочыць на бягу.

– Як хутка ён ідзе? – спытаў Піпін. – Мяркуючы па ветры, хутка. Але ж гэтак гладка. І які лёгкі поступ!

– Ён рысьсю бяжыць гэтак хутка, што нават найспрытнейшы звычайны конь не дагоніць яго намётам, – адказаў Гэндальф. – Але для яго гэта яшчэ ня хуткасьць. Тут мясцовасьць паціху падымаецца, ды ўсялякіх лагчавінаў і прыгоркаў болей, чым ля ракі. А пабач, як набліжаюцца Белыя горы! Як зьзяе зорнае сьвятло над імі! Вунь там пікі Трайгірну, бы чорныя дзіды. Неўзабаве мы сягнем шляху на Эдорас ды ўедзем у Хельмавую даліну, дзе была бітва дзьве ночы таму.

Піпін маўчаў пэўны час. Чуў, як Гэндальф напявае сабе пад нос ці вышэптвае абрыўкі вершаў на мностве моваў, пакуль вярста за вярстою адставалі й губляліся за сьпінай. Нарэшце чараўнік засьпяваў песьню, зь якой хобіт зразумеў колькі словаў. Жменя радкоў ясна пачулася скрозь прысьвіст ветру:

*Высокія караблі, высокія каралі*
*Тройчы па тры.*
*Што ж везьлі яны з патанулай зямлі –*
*Мора гаспадары?*
*Зораў сем і сем камянёў*
*Ды парастак Дрэва дрэў.*

– Пра што ты, Гэндальф? – спытаў Піпін.

– Я якраз узгадваў некаторыя вершы з досьведу даўніны, – адказаў чараўнік. – Хобіты, мяркую, даўно забыліся іх, нават калі ведалі.

– Не, ня ўсе, – запярэчыў Піпін. – І сваіх стварылі шмат, хоць яны, напэўны, вашаць не зацікавяць. Але ж такое я аніколі ня чуў. Што гэта – сем зораў і сем камянёў?

– Гэта пра палантыры каралёў даўніны, – патлумачыў Гэндальф.

– А што яны такое?

– Назоў значыць: *тое, што паглядае далёка*. Камень Ортанку – адзін зь іх.

– Дык ён ня быў зроблены, – Піпін завагаўся на момант, – зроблены Ворагам, так?

– Не. Нават і не Саруманам. Гэта па-за ягоным майстэрствам, і Саўронавым таксама. Палантыры – ажно з-за Заходняй зямлі, з Эльдамару. Іх вырабілі эльфы нолдар. Мажліва, Фэянор сам змайстраваў іх калісьці так даўно, што цяжка вымераць час у гадах. Але ж Саўрон можа што заўгодна павярнуць да ліха. Шкада Сарумана! Зараз я бачу: палантыр і стаў шляхам да ягонага падзеньня. Прылады, якія па-за нашаю сілаю разуменьня й стварэньня, – небясьпечныя для нас. Аднак віна Сарумана з таго не памяншаецца. У глупстве сваім ён не сказаў ні слова пра палантыр анікому з Рады. А мы й не падумалі, што зрабілася з палантырамі Гондару сярод бясконцых спусташальных войнаў. І людзі на іх амаль забыліся. Нават у Гондары веды пра іх былі таямніцай, якой валодала няшмат людзей. А ў Арнары дунаданы захавалі толькі даўні верш, кавалак паданьня пра іх.

– А нашто яны былі людзям даўніны? – спытаў Піпін, узрадаваны й зьдзіўлены адказамі на такую колькасьць пытаньняў, цікавячыся, колькі яшчэ гэта працягнецца.

– Каб далёка бачыць, каб у думках перамаўляць адзін з адным. Гэткім чынам яны доўга служылі ахове каралеўства Гондар, аб'ядноўвалі яго. Людзі ўсталявалі палантыры ў Мінас Аноры, у Мінас Ітылі й у Ортанку, у кольцы Ізенградку. Галоўным – каменем-гаспадаром над усімі – быў камень пад Купалам Зор у Азгіліяце перад тым, як сталіцу Гондару зруйнавалі. Тры астатнія знаходзіліся далёка на поўначы. У сядзібе Эльранда кажуць: у Анумінасе й на Аман Сул, а камень самога Элендыля – на Вежавых пагорках, якія паглядаюць на Мітлянд у заліве Люн на шэрыя эльфавы караблі. Палантыры адгукаліся адзін аднаму, і ўсе гондарскія заўжды былі адкрытыя погляду з галоўнага каменя, з Азгіліяту. Відавочна, раз вежа Ортанку вытрымала навалы часу, вытрымаў і яе палантыр. Сам па сабе ён можа хіба што пабачыць маленькія выявы даўно прамінулых дзён і зьніклых рэчаў. Безумоўна, і тое надта прыдалося Саруману, але ён не спыніўся. Ён усё пільней узіраўся ў камень, сягаў усё далей, пакуль ня кінуў позірк на Барад-дур. Тады й патрапіў у пастку! Хто ведае, дзе ляжаць цяпер згубленыя камяні Арнару й Гондару – недзе пад зямлёю альбо глыбока пад вадою? Але ж сама мала адзін зь іх здабыты Саўронам і змушаны да службы яму. Мяркую, тое камень зь Мінас Ітылю, бо Вораг захапіў Мінас Ітыль ужо доўгі час таму й ператварыў гэтую крэпасьць у жытло ліха. Мінас Моргул стала называцца яна.

Цяпер лёгка здагадацца, як цікаўны позірк Сарумана быў прыкаваны й падпарадкаваны Саўронавай воляй, як потым Сарумана пераконвалі здалёк ці запалохвалі, калі ён не пагаджаўся. Гэтак драпежнік патрапіў мацнейшаму драпежніку, ястраб затрапятаў у арліных кіпцюрах, павук заблытаўся ў сталёвай сетцы. Цікава, як доўга вымушаны ён быў зноў і зноў прыходзіць да каменя, каб даносіць на самога сябе ды атрымліваць загады? Як даўно камень Ортанку так злучаны з Барад-дурам, што толькі асоба з воляю, цьвярдзейшай ад сталі, здолее вытрымаць і не дазволіць, каб яе розум і думкі адразу ж адкрыліся позірку з Барад-дуру? А як цяпер камень цягне да сябе! Ці ж я сам гэтага не адчуў? Нават зараз у маім сэрцы жыве жаданьне зірнуць у яго, паспрабаваць сваёй воляю вызваліць яго з-пад варожай улады й павярнуць на тое, што жадаю пабачыць: праз шырокую прастору мора й часу – сьветлы Тырыён, каб на ўласныя вочы назіраць за невымоўнаю працаю Фэяноравых рук і розуму, калі квітнелі й Белае, і Залатое Дрэвы!

Чараўнік уздыхнуў і змоўк.

– Хацеў бы я ведаць гэта раней, – заўважыў Піпін. – Я ж зусім ня меў разуменьня, што раблю.

– Не, ты добра разумеў, што робіш благое, і шкоднае, і дурное, – і казаў сабе так, але ж сам сябе ня слухаў. А раней я табе не патлумачыў таму, што толькі зараз, едучы з табою верхам і разважаючы над тым, што здарылася, я нарэшце зразумеў. Нават калі б я што й распавёў раней, твая прага не паменшылася б, і супрацьстаяць ёй ня стала б лягчэй – зусім наадварот! Не, пакуль сам не апячэсься, не навучысься. Пасьля апёку парада не кранаць гарачае адгукаецца ў самым сэрцы.

– Сапраўды, – пагадзіўся Піпін. – Калі б зараз усе сем камянёў расклалі перад мною, я заплюшчыў бы вочы й схаваў рукі ў кішэні.

– Файна! На тое я й спадзяюся.

– Але ж я хацеў бы ведаць... – пачаў быў Піпін.

– Зьлітуйся! – выгукнуў чараўнік. – Калі твая цікаўнасьць лекуецца толькі адказамі на пытаньні, тады мне да скону дзён жыць толькі імі! Што ж яшчэ ты жадаеш ведаць?

– Імёны ўсіх зораў, ды жывых істотаў, ды ўсю гісторыю Міжзем'я, нябёсаў і Забароннага мора! – Піпін засьмяяўся. – Усё разам і ні на залатнік меней! Але ж сёньня я не сьпяшаюся. Зараз мяне цікавіць той чорны цень над намі. Я пачуў: вашаць гукнуў "*вястун Мордару!*" Што ж гэта было? Што яно можа зрабіць у Ізенградку?

– Гэта быў Чорны Вершнік на крылах. Назгул. Напэўна, ён мог забраць цябе ў Барад-дур.

– Ён жа не па мяне прыляцеў, праўда? – прамармытаў Піпін, запінаючыся ад страху. – Я меў на ўвазе, ён жа ня ведаў, што я... што я...

– Вядома, не. Ад Барад-дуру да Ортанку напрасткі сотня з чвэрцю міляў ці нават болей. Назгулу спатрэбіцца колькі гадзінаў, каб даляцець ад аднаго да другога. Саруман, безумоўна, глядзеў у ортанкаў камень пасьля оркавага набегу, і болей ягоных патаемных думак, чым ён спадзяваўся, было прачытана й разгадана. Вось і паляцеў вястун высьветліць, што ён там сабе думае. А пасьля таго, што здарылася сёньня ўночы, паляціць другі, і хутка. Вось Саруман і дабраўся да канца шляху, на які стаў. Вязьня, каб адаслаць гаспадару, у яго няма. Каменя таксама, і таму на заклікі ён не адгукаецца. А Саўрон палічыць, што ён трымае здабычу й адмаўляецца падыходзіць да каменя. Нават калі Саруман распавядзе праўду вестуну, тое не дапаможа. Бо хоць Ізенградак зруйнаваны – Ортанк цэлы! Так што, хоча ці не, ён апынецца бунтаўніком. А нас ён адпрэчыў, каб менавіта гэтага й пазьбегнуць! Як ён выберацца з падобнай сітуацыі, не ўяўляю. У Ортанку, мяркую, у яго яшчэ стане моцы, каб адагнаць Дзевяцёх Вершнікаў. Ён можа яшчэ паспрабаваць захапіць назгула альбо забіць пачвару, якая нясе яго ў паветры. У гэтым выпадку няхай роханцы пільнуюць коней! Я не магу сказаць, чым гэта абернецца для нас, дабром ці ліхам. Магчыма, злосьць Ворага на Сарумана зблытае варожыя думкі, прымусіць змарнаваць час. Можа, ён даведаецца, што я быў ля Ортанку й стаяў на ягоным ганку – з хобітамі за сьпінай. Ці што нашчадак Элендыля жывы й стаяў побач з мною. Калі Зьмеяротага не падманулі роханскія латы, ён згадае Арагорна й тытул, які Арагорн абвесьціў. Гэтага я й баюся. Таму мы й нясемся – не ад небясьпекі, а ў небясьпеку яшчэ горшую. Кожны крок Ценяра набліжае цябе да Зямлі змроку, Перыгрын Хват.

Піпін нічога не адказаў, толькі ўхутаўся ў плашч, нібы працяты раптоўным ільдзяным ветрам.

– Зірні наперад! – параіў Гэндальф. – Перад намі – даліны Заходняй Украйны. Мы вяртаемся да яе па ўсходнім гасьцінцы. Цень наперадзе – гэта рыгво Хельмавай даліны. Там – Зіхоткія пячоры Агларонду. Не пытайся ў мяне пра іх. Спытай Гімлі, калі вы сустрэнецеся зноў, і тады ўпершыню ты, напэўна, пачуеш адказ даўжэйшы, чым хацеў бы. Сам ты іх пакуль што не пабачыш. Неўзабаве мы пакінем іх далёка за сьпінай.

– Я думаў, мы накіраваліся ў Хельмаў Яр! – сказаў Піпін. – Куды ж мы насамрэч?

– У Мінас Тырыт, каб пасьпець да таго, як мора вайны захлісьне яго.

– У! А ці далёка ён?

– Мілі й мілі. Тройчы далей за жытло караля Тэядэна, а яно за сотню вёрстаў адсюль, калі вымяраць паводле палёту мордарскіх вестуноў. Ценяру давядзецца рушыць даўжэйшым шляхам. Хто зь іх апынецца хутчэйшым, цікава мне? Мы будзем скакаць да сьвітанку – яшчэ колькі гадзінаў. Тады нават Ценяру спатрэбіцца адпачынак. Напэўна, прыпынімся ў якой схаванай лагчавіне паблізу ад Эдорасу. Сьпі, калі здолееш! Магчыма, пасьля пабачыш першы пробліск сьвітанку на залатым даху

дому Эёрла. А праз два дні ўбачыш цьмяна-барвовы цень Міндолуйну і муры Дэнэтаравай крэпасьці, бялюткія ў ранішнім сьвятле.

– Скачы, Цяняр! Скачы, моцнасэрцы, скачы, як не скакаў аніколі ў жыцьці! Вось мы сягнулі зямлі твайго нараджэньня, дзе кожны камень вядомы табе. Скачы! Надзея нашая – у тваім спрыце!

Цяняр ускінуў галаву й заржаў, быццам рог заклікаў яго на бітву. Тады памкнуў наперад. Полымя ірвалася з-пад ягоных капытоў, ноч неслася побач.

Павольна засынаючы, Піпін перажыў дзіўнае адчуваньне: нібыта ён з Гэндальфам нерухомыя, рыхтык камяні, верхам на статуі імклівага каня, а сусьвет сам коціцца пад іхнімі нагамі, і сьвішча шалёны вецер.


Сьвет
Вёрсты
50 100 150 200
РОХАН
Фангарн
РУН
Брама Рохану
Заходняя ўкраіна
Прызахадзьдзе
Анодла (Энтуя)
Прыўсходзьдзе
Сарн Гебір
Эмін Мюйл
Дагорлад (Поле бітвы)
Хельмаў Яр
Сьнежнародная
Эдорас
Усходняя ўкраіна
Рака Мэрынг
Мерцьвяковыя багны
Нiндальф (Вагляка)
Кайр Андрас
Маранан
Эрэд Літуі (Папяловыя горы)
Удун
Ізенмут
Барад-дур
Арадруйн
Німрайс
Эрэх
Анарыён
Мінас Тырыт
Пн. Ітыльён
Маргаі
Мінас Моргул
Гаргарат
ГОНДАР
Ламэдан
Кірыль
Рынгло
Мортанд
(Узмор'е)
Эдалёнд
Гіларайн
Келас
Сірыт
Лебэнін
Лесарнах
Пеларгір
Азгіліят
Эмін Арнен
Дуат (Ценю)
Эфэл Дуат (Горы)
МОРДАР
Нурн
Дол Амрат
Бальфалас
Сэрні
Пажыцьці
Пд. Ітыльён
Скрыжаваньне
Порас
Этыр Андуйн
Талфолас
Мора Нурнен
ХАНД
Паўднёвы Гондар
(цяпер запустэчаны нічыйны край)
Шлях у Харад
Харнен
Пн
БЛІЗКІ ХАРАД
4

## *1. Утаймаваньне Сьмеяголя*

Ну, спадару, патрапілі мы, няма чаго сказаць, – сумны Сэм Гэйхад згорбіўся, стоячы побач з Фрода й узіраючыся ў нудотны змрок.

Сканчаўся ўжо трэці дзень, як пакінулі сяброў. Аднак пачуцьцё часу амаль страцілі, бясконца караскаючыся, блукаючы сярод голых схілаў і камянёў Эмін Мюйлу. Часьцяком вярталіся па сваіх сьлядох, бо не маглі знайсьці шлях наперад. Раз-пораз вынаходзілі, што, апісаўшы кола, патрапілі на месца, дзе ўжо былі колькі гадзінаў таму. Але ўсё ж паступова прасоўваліся на ўсход, трымаючыся як мага бліжэй да вонкавага краю дзівоснай купы каменных грудаў, ламаных ды блытаных, – такім было гэтае ўзгор'е. І ўвесь час вонкавы край апынаўся адхонам, гладкім і непралазным, навіслым над роўнядзямі ўнізе. За ягонымі пакрышанымі ўзножжамі разьвіналіся вусьцішныя гнілыя багны, дзе ня рухалася анічога й нават птушкі не мільгалі.

Хобіты зараз стаялі на краі высокага адхону, голага й бляклага, з узножжам, схаваным у тумане. А за сьпінамі ўздымаліся ламаныя абрысы нагор'я, за вяршыні якога чапляліся аблокі. З усходу дзьмуў пранізьлівы вецер. На бясформавую зямлю наперадзе апускалася ноч, і хворая зеляніна багнаў рабілася цёмна-бурай. Далёка праваруч Андуйн, што зырка пабліскваў удзень, калі сонца вызірала ў прарэхі аблокаў, схаваўся ў цень. Але ж хобіты кіравалі погляд не за раку, не на Гондар, дзе былі сябры й край людзей. Яны ўглядаліся на поўдзень і ўсход, дзе на краі надыходнай ночы яшчэ відаць быў чорны абрыс у нябёсах – нібы далёкія хмары нерухомага дыму. Раз-пораз маленечкі чырвоны праменьчык біў угору, нараджаючыся на краі паміж зямлёю й нябёсамі.

– Вось трасца! – прабурчэў Сэм. – На ўсенькай зямлі ёсьць адно знанае месца, якое зусім ня хочацца пабачыць зблізёку, і ў гэна сама месца мы валачэмся! І ня можам патрапіць аніякім чынам! Мы ўвогуле ня так ішлі, падаецца мне. Ніяк ня спусьцімся, а калі б здалелі, дык і знайшлі б, што ўся гэная зялёная роўнядзь, безумоўна, агіднейшая дрыгва. Ф-фу! Чуеце, як патыхае?

Ён прынюхаўся да ветру.

– Так, чую, – згадзіўся Фрода, але ж не варухнуўся, і вочы ягоныя па-ранейшаму неадрыўна пазіралі на чорны абрыс і бліснулы праменьчык.

– Мордар, – прамармытаў ён ледзь чутна. – Калі ўжо я мушу йсьці туды, дык хутчэй дабрацца б і скончыць усё гэта!

Ён уздрыгнуў. Вецер дзьмуў ільдзяны, аднак нёс цяжкі смурод гнілаты.

– Ну, – Фрода нарэшце адвярнуўся ад агеньчыка, – усю ноч нам тут нельга бавіцца – у тупіку мы ці не. Мусім знайсьці прыхаванае месца дый пераначаваць, а раніцою мо адшукаем шлях.

– Альбо наступнай раніцою, альбо пазанаступнай, – прамармытаў Сэм, – альбо зусім аніякай. Не туды мы пайшлі.

– Я вось што мяркую, – вымавіў Фрода, – кон мой – ісьці туды, да Ценю. Таму я веру, што шлях знойдзецца. Да ліха ён ці да дабра – вось у чым пытаньне. Уся нашая надзея – у хуткасьці. Усялякае маруджаньне ворагу на карысьць. І вось я тут, затрыманы. Ці мо воля Цёмнай вежы кіруе намі? Усе мае вырашэньні абярнуліся ліхам. Я мусіў пакінуць Зьвяз ужо даўно дый прабрацца ўніз па рацэ, па ўсходнім беразе, і абысьці Эмін Мюйл, і рушыць па цьвёрдай і пляскатай роўнядзі Вялікай Бітвы да Брамы Мордару. А зараз мы з табою шляху назад ня знойдзем, дый оркі

шнараць па ўсходнім беразе. Кожны дзень, які мы змарнавалі, – гэта страчаны каштоўны шанец. Я стаміўся, Сэме. Я ня ведаю, што рабіць. Колькі ежы засталося ў нас?

– Толькі гэныя, як вы іх клічаце, лембасы, спадару Фрода. Ладны прыпасец, так скажу. Яны лепшыя за нічога, нашмат лепшыя. Адылі я й уявіць ня мог, калі ўпершыню на зуб іх клаў, што яны прыядуцца й захочацца чаго іншага. А вось зараз ужо хачу. Лусту звычайнага хлеба, куфаль – не, хай паўкуфля – піўка, вось тое пайшло б на здароўе. Я свае прылады для гатоўкі ад ракі валаку, і навошта? Па-першае, вогнішча няма з чаго раскласьці, па-другое, гатаваць – што? Нават і травы няма!

Адвярнуліся ад краю й спусьціліся ў камяністую лагчавіну. Заходнае сонца патанула ў аблоках, і ноч хутка агарнула навакольле. Хобіты ўладкаваліся ў вынятцы пад вялізнай вострай, вызубранай і патрэсканай скалою. Было зімна. Прачыналіся, неспакойна варушыліся. Аднак скала, прынамсі, захіляла ад усходняга ветру.

– Ці бачылі вы іх зноў, спадару Фрода? – спытаў Сэм, калі раніцою, скалелыя й адубянелыя, хобіты сьнедалі ссохлымі лембасамі ў шэрым халодным сьвятле новай раніцы.

– Не, – адказаў Фрода, – я ўжо дзьве ночы анічога ня бачыў і ня чуў.

– І я таксама. Гы-ы! Ад вачэй гэных у мяне дрыжыкі. Можа, мы ўсё-ткі зьбілі яго зь сьледу. Ну й смурода склізкая, пачварань! Я яму "глыкс" ягоны ў глотку ўваб'ю, калі толькі пашанцуе рукі да яго прыкласьці.

– Спадзяюся, табе ніколі не давядзецца. Ня ведаю, як ён раней высочваў нас, але ж тут, напэўна, згубіў, як ты й кажаш. У гэтым ссохлым зьмярцьвелым краі наўрад ці мы пакінулі шмат сьлядоў, і паху таксама, які ні быў бы ён там нюхач.

– Хоць бы так і было! Хоць бы мы ад яго назаўжды пазбавіліся!

– І я хачу гэтага, – пагадзіўся Фрода, – але цяпер галоўны мой клопат – ня ён. Хутчэй бы нам прыбрацца прэч з гэтых пагоркаў! Я іх ненавіджу! На тым адхоне я быццам голы, і паміж мною й Ценем анічога, апрача мёртвых роўнядзяў. А зь Ценю пазірае Вока! Хадзем! Нам трэба абавязкова спусьціцца сёньня.

Але ж і гэты дзень набліжаўся на канца, і надвячорак зьмяніўся прыцемкамі, а хобіты ўсё караскаліся паўз хрыбет, не знаходзячы шляху ўніз.

Час ад часу ў цішыні гэтай запустэчанай краіны ўяўлялася, быццам за сьпінай чуваць слабыя гукі: падае камень ці нават пляскаюць голыя ступакі па камянёх. Аднак калі хобіты прыпыняліся, прыслухоўваючыся, чулі толькі посьвіст ветру над скаламі, але й тое нагадвала шыпячы выдых пачвары з вострымі, прагнымі зубамі.

Увесь гэты дзень, запоўнены карасканьнем, паступова збочвалі на поўнач, уздоўж краю Эмін Мюйлу. Цяпер ля ўсходняга адхону цягнуліся шырокія патрэсканыя тэрасы шчарбатага, выветранага каменю, прарэзаныя часам стромымі расколінамі, падобнымі да равоў, што спускаліся да глыбокіх вызубрынаў у сьцяне-адхоне на ўсходнім краі. Каб адшукаць шлях праз гэтыя цясьніны, што рабіліся ўсё часьцейшымі й глыбейшымі, Фрода з Сэмам павярнулі налева, далей ад краю, і спачатку не заўважылі, што ўжо колькі вёрстаў павольна й паступова спускаюцца: край адхону паціху зьніжаўся.

Нарэшце спыніліся зноў. Хрыбет рэзка збочваў на поўнач і наперадзе быў расьсечаны глыбокім логам. З дальняга яго боку паўставала высачэзная сьцяна, мноства сажняў гладкай скалы без аніякай зачэпкі, быццам камень расьсеклі

гіганцкім лязом. Наперадзе траплялі ў тупік – трэба было збочваць альбо на захад, альбо на ўсход. Шлях на захад абяцаў новыя марныя намаганьні й страту часу, бо вёў ізноў прэч ад краю ўсярэдзіну ўзгор'я. А ўсходні кірунак выводзіў да адхону, да краю.

– Анічога не застаецца, як караскацца ўніз па ўрвішчы, – вырашыў Фрода. – Давай, Сэме, зірнем, што ж там!

– Адхон там, вось што, – прамармытаў Сэм.

Яр быў даўжэйшы й глыбейшы, чым падалося зьверху. Прайшоўшы троху ўніз, знайшлі нават колькі каржакаватых, прыгнечаных дрэваў – першых за апошнія дні. Бальшыня – карлікавыя, зьнявечаныя бярозы, але там і тут тырчэлі й елкі. Многія станчэлі, ссохлі – забітыя жорсткімі ўсходнімі вятрамі. Напэўна, калісьці ў цяплейшыя часы ў цясьніне рос ладны гай, але цяпер ён цягнуўся ўсяго на паўсотні крокаў, хоць старыя гнілыя пні тырчэлі амаль на самым краі, ля адхону. Дно цясьніны, што ішло ўздоўж глыбокага разлому ва ўзгор'і, было загрувашчанае каменным ламаччам і строма спускалася. Калі нарэшце сягнулі краю, Фрода нахіліўся й глянуў вонкі.

– Зірні! – паклікаў ён. – Мы, напэўна, добра спусьціліся, ці скала тут паменшылася. Тут значна ніжэй і шлях уніз выглядае лягчэйшым.

Сэм стаў побач, апусьціўся на калені й неахвотна глянуў. Тады кінуў позірк на высачэзную скалу леваруч.

– Лягчэй! – прабурчэў раздражнёна. – Вядома, уніз заўжды лягчэй, чым угару. Скочыць уніз здольныя й тыя, хто ня можа лётаць.

– Добры скок, аднак, – заўважыў Фрода. І дадаў, прыкінуўшы вышыню. – Недзе сажняў сямнаццаць, я скажу. Наўрад болей.

– Мне дык болей чым дастаткова. Г-гы! Як жа я ненавіджу глядзець уніз з вышыні! Але глядзець усё лепей, чым караскацца.

– Так ці інакш, – зазначыў Фрода, – мяркую, мы тут маглі б зьлезьці. Варта паспрабаваць. Бачыш – і скала тут зусім не такая, як колькі вёрстаў таму. Уся ў шчарбінах ды расколінах.

Вонкавы адхон і насамрэч ня быў цалкам стромы. Падаваўся вялізным бастыёнам ці насыпам, чый падмурак парушыўся, пакрывіўшы й разбурыўшы будовіну над ім, адчыніўшы ў ёй доўгія шчыліны й касыя пахіленыя пласты, якія месцамі былі шырынёй з добрую лесьвіцу.

– Калі ўжо мы вырашыліся, дык лепей спрабаваць адразу ж. Нешта цямнее рана. Думаю, набліжаецца навальніца.

Засмужаны абрыс усходніх гор закрыла глыбейшая чарната, якая ўжо цягнулася на захад доўгімі рукамі хмараў. Узьняўся вецер, данёс далёкі грукат грымотаў. Фрода ўцягнуў паветра, зірнуў з сумневам у нябёсы. Зашпіліў папругай звонку плашч і моцна зацягнуў, ускінуў свой лёгкі пляцак за сьпіну й крочыў да краю. Сказаў:

– Я паспрабую.

– Файна, – маркотна пагадзіўся Сэм. – Толькі я першы палезу.

– Ты? Ты перамяніў думку наконт карасканьня ўніз, чаму?

– Аніякіх думак я не мяняў. Тут адна рацыя: няхай той, хто хутчэй можа сарвацца, лезе першы. Не хачу зваліцца вам на галаву ды скінуць. Які сэнс гінуць абодвум праз адну няўклюдасьць?

І не пасьпеў Фрода спыніць яго, як ён сеў, зьвесіўшы ногі за край, дый перакуліўся на жывот, спрабуючы адшукаць нагамі апору. Наўрад ці ён у цьвярозым розуме за ўсё жыцьцё ўчыняў што адважнейшае – і дурнейшае.

– Не, не, Сэме, ты што, стары вар'ят! – выгукнуў Фрода. – Ты ж сябе заб'еш, ты ж ня бачыш, куды крочыць і на што абаперціся! Назад, назад зараз жа!

Ухапіў Сэма пад пахі дый вывалак назад.

– Пачакай троху й набярыся цярплівасьці! – папрасіў Фрода.

Тады лёг на край і вызірнуў. Вакол хутка шарэла, хоць сонца яшчэ не зайшло.

– Мяркую, здолеем, – заўважыў нарэшце. – Я, ва ўсялякім выпадку. Дый ты, калі спакойна й асьцярожна палезеш увасьлед за мною.

– Як вы можаце быць такім упэўненым? – падзівіўся Сэм. – Чаму? У змроку не відаць дна гэтаму схілу! Што калі напаткаеце месца, дзе няма як ухапіцца рукамі ці абаперціся нагамі?

– Напэўна ж, ускараскаюся назад.

– Лёгка сказаць. А вось зрабіць... Лепей пачакайма раніцы й лепшага сьвятла.

– Не, не. Калі толькі можна, я рушу, – вымавіў Фрода зь нечаканай дзівоснай зацятасьцю. – Мы марнуем гадзіну за гадзінай, хвіліну за хвілінай. Я палезу. І ня лезь сьледам, пакуль я не вярнуся альбо не паклічу цябе!

Ухапіўшыся за каменны край адхону, ён паціху апусьціўся ды, выпрастаўшы рукі амаль цалкам, знайшоў нагамі апору.

– На адзін крок уніз меней, – абвесьціў ён. – І тут палічка на схіле пашыраецца праваруч. Тут можна стаяць не чапляючыся рукамі. Я зараз... – і тут ён змоўк на паўслове.

Чорная навальніца з усходу моцна, хутка й нястрымна пакацілася на захад, цемра паглынула нябёсы. Бы расколатая скала, суха храснуў проста над галовамі гром. Асьляпляльная маланка абрынулася на ўзгор'е. Задзьмуў, завыў шалёны віхурысты вятрыска, і зь ім, мяшаючыся зь ягоным выцьцём, прынёсься пранізьлівы, жахлівы лямант. Хобіты чулі такі калісьці ў Багнючынах, уцякаючы з Хобіцку, і нават у шырскіх лясох ад яго ільдзянела кроў. А тут, пасярод пустэчы, ён захлынуў жудой нашмат мацнейшай, працяў сэрца халоднымі лёзамі адчаю й вусьцішы, перахапіў дыханьне. Сэм паваліўся ніцма. Фрода міжволі адпусьціў рукі, закрыўшы імі галаву й вушы. Тады пахіснуўся, пасьлізнуўся ды, загаласіўшы, паехаў уніз.

Сэм, пачуўшы, падпоўз да краю.

– Спадару, спадару! – паклікаў ён. – Спадарыку!

Адказу не пачуў. Сэм зразумеў, што ўвесь дрыжыць, аднак, сабраўшыся зь сіламі, удыхнуў і загукаў зноў: "Спадару!" Вецер, падавалася, запіхваў словы назад у глотку, але ж калі першая віхура пранеслася, выючы, па цясьніне й далей у горы, Сэм расчуў слабы водгук:

– Усё файна, Сэме! Я тут. Толькі анічога ня бачу.

Фрода адгукнуўся ціха. Насамрэч ён быў недалёка. Ён сасьлізнуў, а ня ўпаў, бразнуўшыся моцна пяткамі аб шырэйшую палічку ўсяго на некалькі локцяў ніжэй. На шчасьце, там скала была не такая стромая, дый вецер прыціснуў хобіта да сьцяны, так што ён не перакуліўся. Там ён абапёрся лепей, прыціснуўшы твар да каменю, адчуваючы, як грукоча сэрца. Ці цемра вакол зрабілася зусім апраметная, ці вочы ягоныя страцілі зрок – усё наўкол было чорным. Фрода падумаў: "А мо я асьлеп?" Уздыхнуў глыбока й пачуў з чарноцьця наверсе Сэмаў голас.

– Вяртайцеся! Вяртайцеся!

– Я не магу, – адказаў Фрода. – Я ня бачу анічога. Не знайду аніякай зачэпкі, бо ня бачу. Я пакуль не магу варухнуцца.

– Што мне рабіць, пане Фрода? Што мне рабіць? – гукаў Сэм, небясьпечна й далёка высоўваючыся за край адхону й дзівячыся, чаму ягоны гаспадар ня бачыць. Змрачнавата было, так, але ж ня цалкам цёмна. Ён добра вылучаў Фрода пад сабою, самотную шэрую постаць, распластаную па скале. Але ж да яго было анічым не дацягнуцца.

Ізноў ляснулі грымоты, і лінула зьліва – суцэльнае покрыва ільдзянай вады ўпярэмешку з градам забарабаніла па скале.

– Я лезу да вас, – выклікнуў Сэм, хоць не ўяўляў, чым можа дапамагчы, зьлезшы.

– Не, не, пачакай! – загаласіў Фрода гучней. – Я неўзабаве ачуняю. Мне ўжо лепш! Пачакай! Ты тут анічога ня зробіш безь вяроўкі!

– Вяроўка! – і Сэм замармытаў сабе пад нос, ашалела ад радасьці дый палёгкі. – Мяне трэба павешаць на гэнай самай вяроўцы, каб боўтаўся ў навуку астатнім тоўстагаловым. Разявака ты разявісты, вось ты хто, Сэме Гэйхадзе, – так мне часьцяком Дзед казаў, сама ягоныя словы. Вяроўка!

– Не стракачы як сарока! – Фрода дастаткова ачуняў, каб тое мармытаньне адначасова й сьмяшыла, і раздражняла. – Хопіць згадваць свайго Дзеда! Ці ты спрабуеш давесьці мне, што ў цябе ў кішэні вяроўка? Калі так, даставай яе хутчэй!

– Так, спадару Фрода, яна проста ў маёй кішэні! Сотні вёрстаў цягнуў яе з сабою й зусім на яе забыўся!

– Тады хутчэй за справу, працягні мне яе!

Сэм пасьпешліва скінуў хатуль, раскрыў дый укапаўся ў яго. Сапраўды, на самым дне адшукалася вязка шаўкавіста-шэрай лорыйнскай вяроўкі. Сэм апусьціў яе канец Фрода. І цемра нібыта зьнялася з вачэй ці раптоўна вярнуўся зрок. Бо ўжо вылучалася шэрая рыса вяроўкі, як яна спускаецца, гайдаючыся, і нібыта зьзяе слабым срэбным сьвятлом. Зараз было на чым спыніць погляд у цемры, і галава ня так кружылася. Нахіліўшыся наперад, Фрода абвязаўся вакол паса й учапіўся за вяроўку абедзьвюма рукамі.

Сэм адступіў на крок, упёрся нагамі ў пень локці за тры ад краю. Напалову выцягнуты Сэмам, напалову ўскараскаўшыся самастойна, Фрода пераваліўся за край дый расьцягнуўся на зямлі.

Грымоты грукаталі й бурчэлі недзе далёка, і залева яшчэ лупцавала што моцы. Хобіты адпаўзьлі крыху ўгару па цясьніне. Аднак сховішча там было кепскае. Па схілах пабеглі струменьчыкі вады й хутка зьліліся ў сапраўдную паводку, якая плёскала, і пырскала пенаю, і біла з краю адхону, бы зь сьцёкавай трубы з даху.

– Мяне там альбо затапіла б, альбо ўпрост змыла ўніз, – жахнуўся Фрода. – Як пашанцавала, што ў цябе гэтая вяроўка!

– Болей пашанцавала б, каб я раней яе ўзгадаў. Можа, вы памятаеце, як эльфы, яшчэ тады, калі мы толькі пачыналі на чоўнах, клалі нам з сабою вяроўкі. Мне яна даспадобы прыйшлася, ну я й кінуў у хатуль вязачку. Падаецца, шмат гадоў таму. Хальдыр ці хто іншы з таго народу казаў: "Шмат калі спатрэбіцца можа". Вось і прыдалася!

– Шкада, што я не прыхапіў, – заўважыў Фрода, – але ж я пакідаў нашую кампанію надта пасьпешліва ды цалкам зьбянтэжаны. Калі б толькі яе хапіла, мо выкарысталі б, каб спусьціцца. Якой даўжыні твая вяроўка?

Сэм перабраў яе, уважліва вымяраючы рукамі.

– Сямнаццаць сажняў ці каля таго, – адказаў нарэшце.

– Хто падумаў бы!

– Але, насамрэч. Дзівосны народ, эльфы гэныя. Выглядае танклявай, але ж дужая, а навобмацак мякчэйшая за масьліца. Наматваецца добра, вязка зусім маленькая, і лёгкая да таго ж. Незвычайны народ, маё слова!

– Сямнаццаць сажняў, – паўтарыў Фрода задумліва. – Напэўна, дастаткова. Калі навальніца пройдзе да цемры, я паспрабую зноў.

– Дождж ужо амаль скончыўся, але ж вам ня варта зноў рызыкаваць у змроку, спадару Фрода. Дый я шчэ не забыўся на той віскат зь цемры, калі забыліся вы. Гучала рыхтык Чорны Вершнік, толькі паветраны. Мо яны ўжо й лётаць навучыліся? Па-мойму, дык лепей залегчы да раніцы ў гэтай шчыліне.

– Мне нешта зусім ня хочацца аніводнага залішняга імгненьня заставацца тут, на краі, калі вочы з краіны Змроку бесьперашкодна цікуюць па-над багнамі.

Падняўся й зноў крочыў да дна цясьніны. Вызірнуў. На ўсходзе зноў сьвятлела. Краі навальніцы, падраныя й мокрыя, плынелі прэч, і шаленства буры ўжо пранеслася над Эмін Мюйлам, дзе чорная дума Саўрона затрымалася болей як зазвычай. А зараз абрынулася на даліну Андуйну грымотамі й маланкамі, і злавесны цень лёг на Мінас Тырыт прывідам вайны. Пасьля, ня здолеўшы ўскараскацца ў горы, навала спусьцілася, пакацілася павольна над Гондарам і закрайнамі Рохану, і далёка на захадзе вершнікі на роўнядзі ўбачылі, як яе чорныя вежы рушаць за сонцам. Але ж тут, над пустэчай і смуродлівымі багнамі, зноў адкрыўся цьмяны блакіт узьвячорку, і на ім высьвецілася ўжо колькі бледных зорачак, бы маленькіх дзірачак у навесе над маладзіком.

– Файна зноў бачыць сусьвет, – вымавіў Фрода, глыбока дыхаючы. – Ведаеш, я ўжо палічыў, што зусім асьлеп. Ад маланкі ці чаго горшага. Я анічога, зусім анічога ня бачыў, пакуль шэрая эльфская вяровачка не спусьцілася. Яна, падаецца, неяк бліскае.

– Так, нібы срэбра ў цемры, – пацьвердзіў Сэм. – Раней не прыкмячаў, але ж я ўжо й ня памятаў яе выгляду – адзіны раз усяго зірнуў, калі клаў у заплечнік. Адылі калі вы ўжо гэтак рашуча настроіліся, спадару Фрода, дык якім жа чынам скарыстаецеся ёю? Сямнаццаць сажняў – якраз колькі вы намералі вышыні адхону тут, і ня болей.

– Прывяжы-тка яе памацней да таго вунь пня, – загадаў Фрода, падумаўшы. – А тады хай будзе па-твойму. Лезь першы. Я цябе спушчу, а ногі й рукі табе спатрэбяцца толькі каб ад сьцяны адштурхоўвацца. Хоць калі ты затрымаесься на якой палічцы, упёршыся нагамі, каб даць мне перадыху, буду ўдзячны. Калі спусьцісься, я сьледам. Я ўжо цалкам нармалёва пачуваюся.

– Ну, добра, – змрочна пагадзіўся Сэм. – Калі ўжо мусім рабіць тое, дык зробім хутчэй!

Узяў вяроўку й прыладзіў да пня, бліжэйшага да адхону, а другі канец абвязаў вакол свайго поясу. Неахвотна павярнуўся дый палез за край другі раз.

Атрымалася й напалову ня так страшна, як прадчуваў. Вяроўка дадавала ўпэўненасьці, хоць хобіт неаднойчы заплюшчваў вочы, пазіраючы ўніз. У адным месцы ўвогуле не было, на што абаперціся, – сьцяна нават і навісала крыху. Сэм сасьлізнуў і забоўтаўся на срэбнай вяровачцы. Увесь час Фрода спускаў яго асьцярожна й павольна, і нарэшце Сэм сягнуў нізу. Фрода баяўся галоўным чынам таго, што вяроўкі ня хопіць і Сэм застанецца недзе высока, аднак у Фродавых руках заставалася яшчэ шмат, калі Сэм паклікаў зьнізу:

– Я спусьціўся!

Фрода яго ня бачыў: шэры эльфаў плашч цалкам губляўся ў паўзмроку.

Фрода ж, каб спусьціцца, спатрэбілася значна болей часу. Завязаў вяроўку вакол поясу дый скараціў так, каб падхоплівала яго, калі сарвецца. Ён ня давяраў танюткай шэрай вяроўчыне цалкам, і ўсё-ткі два разы давялося пакласьціся на яе – дзе паверхня каменю была цалкам гладкая й нават моцныя ды ўчэплівыя хобіцкія пальцы не маглі ўхапіцца, а палічкі знаходзіліся надта далёка. Нарэшце спусьціўся.

– Файна! – выгукнуў радасна. – Атрымалася! Мы ўцяклі з Эмін Мюйлу! Што ж далей, цікава? Можа, неўзабаве будзем уздыхаць, згадваючы добры цьвёрды камень пад нагамі?

Сэм не адказаў, пазіраючы ўгору, на скалу.

– Разявака! – прамармытаў ён. – Халера ясная! Мая найцудоўнейшая вяровачка! Яна там прывязаная да пня, а мы тут, унізе. Найлепшую лесьвіцу сьлімаку Глыксу пакінулі, аёй! Толькі засталося шыльду прывешаць з надпісам: "Злазіць тут! Мы пайшлі туды". А я ўсе сьцяміць ня мог, што ў нас ня так!

– Калі ты прыдумаеш спосаб, як нам абодвум скарыстацца вяроўкай ды прыхапіць яе з сабою ўніз, тады сьмела называй мяне разявістым ёлупнем ці яшчэ якім імем з тых, якімі радаваў цябе Дзед. Ускараскайся й адвяжы, а тады сам спускайся як заўгодна, калі жадаеш!

Сэм пачухаў патыліцу.

– Не, вядома, анічога тут не прыдумаеш, прашу прабачэньня. Аднак пакідаць яе так я не хачу, сапраўды.

Ён пагладзіў канец вяроўкі, зьлёгку патрос.

– Цяжка разьвітвацца зь любым, што прынёс з эльфавага краю. Магчыма, сама Галадрыель рабіла яе. Галадрыель, – прамармытаў ён, сумна хітаючы галавою. Тады зірнуў угару й пацягнуў за вяроўку ў астатні раз, быццам разьвітваючыся.

На неверагоднае зьдзіўленьне абодвух хобітаў, яна адвязалася! Сэм ажно бразнуўся на зямлю, і доўгія шэрыя петлі сасьлізнулі ціхенька прамютка на яго. Фрода засьмяяўся.

– Ну, і хто прывязваў вяроўку? – пакпіў ён. – Добра, што хоць патрывала, пакуль злазілі. Падумаць толькі – я ўсю сваю вагу давяраў твайму вузлу!

Сэм не сьмяяўся.

– Можа, я не такі спрытны ў карасканьні, спадару Фрода, – пакрыўдзіўся ён, – але ж пра вяроўкі й вузлы сёе-тое кемлю. Гэта ў нас сямейнае, як гаворыцца. Мой дзядуля дый за ім дзядзька Эндзі – гэна Дзедаў старэйшы брат – трымалі лінавую майстэрню ў Вузкапольлі колькі гадоў. І я на той пень завязаў пятлю ня горш за добрага шырскага вузлавяза, а мо й ня толькі шырскага.

– Тады, мабыць, вяроўка перарвалася, перацерлася аб каменьне, напэўна.

– Клянуся, не! – пакрыўдзіўся Сэм яшчэ болей і нахіліўся, аглядаючы канец вяроўкі. – Тут ніводнае валакенца не парушанае!

– Значыць, баюся, гэта менавіта вузел.

Сэм задумліва паматляў галавою, але нічога не адказаў. Прапусьціў вяроўку паміж пальцамі, узіраючыся.

– Вы лічыце, што пажадаеце, – вымавіў нарэшце, – а па-мойму, яна сама па сабе адвязалася, калі я яе паклікаў.

Тады скруціў яе дый паклаў асьцярожна, быццам каштоўнасьць, у заплечнік.

– Галоўнае, адвязалася, – сказаў Фрода. – Але зараз нам трэба думаць, што рабіць далей. Ноч на носе. Якія ж цудоўныя зоры й месяц!

– Ад іх радасьней на сэрцы, праўда? – Сэм падняў голаў. – Нешта ў іх эльфскае. І месяц паўнее. З гэнымі аблокамі ночы дзьве яго ня бачылі. А цяпер ён нам і пасьвеціць!

– Так, – пагадзіўся Фрода, – але ж да поўнага яму яшчэ колькі дзён. Я ня думаю, што нам варта прабірацца па багнах пры падпоўніку.

Як толькі спусьцілася ноч, рушылі зноў, да новай часткі падарожжа. Прайшоўшы троху, Сэм павярнуўся й паглядзеў назад – туды, адкуль прыйшлі. Рыгво цясьніны падавалася чорнай зарубінай на шэрым твары адхону.

– Добра, што мы забралі вяроўку, – зазначыў ён. – Няхай пагадае, латруга пралазы, куды мы падзеліся. Няхай паспрабуе свае ліпучыя лапы на гэных паліцах!

Хобіты накіраваліся прэч ад узножжа скалаў, прабіраючыся сярод нагрувашчаньня валуноў ды вялізных аскепкаў, мокрых і сьлізкіх ад нядаўняй залевы. Мясьціны яшчэ крута зьніжаліся, і неўзабаве хобіты ўтыкнуліся ў вялізную шчыліну, якая нібыта раскрылася ўпрост перад носам. Не шырокая, але ўсё-ткі досыць вялікая, каб не рызыкаваць скокам у паўзмроку. Падавалася, зь яе глыбіні чуваць глухое булькаценьне вады. Леваруч шчыліна выгіналася на поўнач, назад да гор, і перагароджвала шлях у тым напрамку – ва ўсялякім выпадку, пакуль было цёмна.

– Лепей паспрабуем крыху вярнуцца на поўдзень уздоўж краю скалаў, – прапанаваў Сэм. – Можа, якую яміну знойдзем альбо пячорку ці накшталт таго.

– Напэўна, – пагадзіўся Фрода. – Я стаміўся й наўрад ці здолею караскацца сярод камянёў доўга – хоць мне й неахвота затрымлівацца. Хацеў бы я, каб наперадзе пазначылася ясная сьцежка. Тады я тэпаў бы й тэпаў, покуль ногі не падкасіліся б.

Ісьці ўздоўж шчарбатых ды разьбітых узножжаў Эмін Мюйлу апынулася нудотна й цяжка. Сэм не знайшоў аніякай прыдатнай яміны ці пячоркі, каб схавацца на ноч, толькі голыя каменіскі дый адхон над імі, які зараз вышэў ды страмеў. Нарэшце, вытамленыя ўшчэнт, сябры папросту апусьціліся пад бокам вялізнага валуна непадалёк ад узножжа сьцяны. Там і сядзелі, скурчыўшыся, побач, сярод ночы й халодных камянёў, і намагаліся адагнаць сон, які напаўзаў неадольна. Маладзік узьняўся высока й зырка зазіхацеў. Ягонае няпэўнае белае сьвятло заліло паверхню камянёў і гладкі твар адхону, ператварыўшы пагрозьліва навіслую цемру ў халодную блёкла-шэрую прастору, заплямленую чорнымі ценямі.

– Файна! – вымавіў Фрода, устаў ды шчыльней загарнуўся ў плашч. – Ты, Сэме, вазьмі маю коўдру й пасьпі крыху. А я пахаджу туды-сюды, павартую.

Раптам замер і, нахіліўшыся, ухапіў Сэма за руку.

– Што там? – прашаптаў. – Зірні вунь туды, на адхон!

Сэм глянуў дый удыхнуў рэзка праз зубы.

– Ссс! Вядома, што гэта. Глыкс! Вось гадзіна атрутная! Падумаць толькі, я плянаваў зблытаць яго нашым спускам! Гляньце на яго! Нібыта павук, які прычапіўся да скалы!

Уніз па адхоне, амаль вертыкальным і ў сьвятле месяца зусім, на погляд, гладкім, рухаўся, растапырыўшыся, маленькі чорны пачварань. Магчыма, яго мяккія, учэпістыя пальцы знаходзілі шчылінкі й расколінкі, якія хобіт анікол не заўважыў бы й ня выкарыстаў. Але ж падавалася, што ён упрост спаўзае, прыляпляючыся ліпкімі падэшвамі й далонькамі, нібы нейкая пераросшая інсэкта. Глыкс спускаўся галавой уніз, быццам вынюхваючы шлях. Раз-пораз павольна прыпадымаў галаву, паварочваў яе ледзь ня прама назад на доўгай худой шыі, і хобіты заўважалі пробліск двух

маленькіх, блядных, міргатлівых агеньчыкаў – вачэй, якія момант пазіралі на месяц дый зноў адварочваліся, прыкрываліся павекамі.

– Думаеце, ён можа нас бачыць? – спытаў Сэм.

– Ня ведаю, – адказаў Фрода спакойна, – але ж мяркую, што не. Нават, вачам сяброў цяжка нас заўважыць, калі мы ў эльфскіх плашчох. Цябе я ня бачу ў цені нават за некалькі крокаў. А я чуў, што ён ня любіць ані сонца, ані месяца.

– Тады чаму ён спускаецца менавіта тут?

– Цішай, Сэме, калі ласка! Можа, ён унюхае нас. І чуе ён, мяркую, ня горш ад эльфаў. Напэўна, ён пачуў нешта. Мо нашыя галасы. Мы нядаўна галасілі ўволю й яшчэ колькі хвілінаў таму размаўлялі ўголас.

– Ну, ён мяне дастаў, – абурыўся Сэм. – До, зашмат я яго ўжо бачыў. Я ахвотна зь ім перамоўлюся слоўкам-другім, калі пашанцуе прыціснуць дзе. Ня думаю, што цяпер мы ад яго адчэпімся.

Глыбей насунуўшы шэры каптур, Сэм падкраўся да скалы.

– Асьцярожней! – прашаптаў Фрода, падыходзячы ззаду. – Не спалохай яго! Ён нашмат больш небясьпечны, чым выглядае!

Чорная паўзучая пачварка ўжо пралезла тры чвэрткі шляху данізу, заставалася з паўста ступнёў. Скурчыўшыся ў цені вялізнага валуну, замершы, хобіты сачылі за ёй. Глыкс, падавалася, напаткаў цяжкі кавалак шляху ці ўстрывожыўся чымсьці. Чуваць было, як ён сапіць, раз-пораз даносіўся хрыпаты прысьвіст подыху, які гучаў, бы лаянка. Глыкс прыўзьняў галаву – і пачулася, нібыта сплюнуў. Тады рушыў зноў. Зараз ужо ясна разьбіралі ягоны хрыпаты зь сьвістам шэпт:

– Ахх, ссс! Асьсьцярожнейсс, мая кашштоўнасьсьць. Пасьсьпяшышш, горшш затрымаесьсься! Нельга рыззыкавацьць сссваёй шшыяй, нельга, мая кашштоўнасьсьць, так? Не, кашштоўнасьсьць, не. Глыкс!

Ён падняў галаву, зірнуў на маладзік, міргнуў ды хутка заплюшчыў вочы.

– Ненавідзім! – прашыпеў ён. – Гідкае, гідкае ссрабрасьсьценькае сьсьвятлішшка, ссс, шшпіёніць за кашштоўнасьсьцю, за намі, ссс, шшкодзіць нашшым вачаммс!

Глыкс спускаўся, і шыпеньне ягонае ўсё набліжалася.

– Дзе жжж яна, дзе жж мая кашштоўнасьсьць? Яна нашшая, яна нашшая, мы яе жадаем! Зззлодзеі, ззлодзеі, маленькія, гідкія злодзеі! Дзесс яны з маёю каштоўнасьсцю? Праклённс на іххх! Мы ненавідзім іххх!

– Не падобна, каб ён ведаў пра нас, – прашаптаў Сэм. – Што такое ягоная "каштоўнасьць"? Ён мае на ўвазе...

– Ціха! – выдыхнуў Фрода. – Ён надта блізка й можа пачуць шэпт.

Сапраўды, Глыкс раптам прыпыніўся, і ягоная вялікая галава на кастлявай шыі захісталася з боку ў бок, быццам ён прыслухоўваўся. Блядныя вочы былі паўпрыкрытыя павекамі. Сэм ледзь стрымліваўся, ажно пальцы ягоныя ўздрыгвалі. З шаленствам і агідаю пазіраў на мярзотнага пачварня, што зноў пачаў рух, усё шапочучы й шыпячы сам сабе.

Нарэшце яму засталося ня болей за тузін ступнёў ад зямлі. І тут, проста над галовамі хобітаў, Глыкс спыніўся. Далей пачынаўся зусім непраходны адхон, што хіліўся пад сьцяну. Нават Глыкс на ім ня мог адшукаць аніякай зачэпкі. Паспрабаваў вывернуцца, каб лезьці нагамі ўніз, але не ўтрымаўся й зь віскатам зваліўся ўніз. Падаючы, скурчыў ногі й абвіўся рукамі – рыхтык павук, які сарваўся зь ніткі павуціньня.

Сэм умомант выскачыў з сховішча й за пару скокаў пераадолеў адлегласьць ад валуна да сьцяны. Не пасьпеў Глыкс выпрастацца, як Сэм ужо стаяў над ім. І адразу вынайшаў, што нават і аглушаны падзеньнем, засьпеты зьнянацку Глыкс – зусім не падарунак. Не пасьпеў Сэм за яго ўхапіцца, як сьлізкія ногі й рукі абвіліся вакол хобіта, прыціскаючы рукі да бакоў, здушваючы зь мяккай, але неадольнаю сілаю, рыхтык кольцы вяроўкі або гужу, што павольна зацягваецца. Ліпкія пальцы шнарылі, намацваючы глотку, а вострыя зубы ўпіліся ў плячо. Усё, што Сэм мог зрабіць, – тыцнуць круглай цьвёрдай галавою ў пысу. Глыкс зашыпеў ды сплюнуў, але ж ахвяры ня выпусьціў.

Блага давялося б Сэму, каб ён быў адзін. Але падбег Фрода ды выцягнуў Джала з похваў. Левай рукою ўхапіў Глыкса за рэдкія сальныя валасы, закінуў яму галаву, прымусіўшы выгнуць доўгую шыю й вырачыцца беднымі вачыма ў нябёсы.

– Адпусьці яго, Глыкс! – загадаў Фрода. – Гэта Джала. Ты яго ўжо бачыў калісьці. Адпусьці, а тое адчуеш, як яно джаліць! Я перарэжу табе глотку!

Глыкс адразу абмяк і зваліўся на зямлю, як мокрая ануча. А Сэм ускочыў, пацiраючы плячо. У вачох ягоных ажно дымілася шаленства, але ж куды там помсьціць... Ягоны няшчасны, пераможаны вораг поўзае па зямлі, енчучы.

– Зьлітуйцесься! Уратуй насс, нашая кашштоўнасьсьць! Яны ж ня будуць рабіцьць нам балюча, не, маленькія прыгожанькія хоббітсы, так? Мы ж анікому анічога не рабілі, а яны сскочылі на насс, такс, сскочылі, як котка на беднае мышшанятка, таксс, мая кашштоўнасьсьць, таксс! А мы такія сссамотненькія, глыксс! Мы былі б такія файненькія зь імі, такія пашшанотненькія, калі б яны з намі падобраму, ці не, глыксс, глыксс!

– Ну, што рабіць з пачварай? – спытаў Сэм. – Зьвязаць, каб болей ня цёгаўся за намі, ня шнарыў, вось вам маё слова.

– Але ж мы памрэм, памрэмсс, – заенчыў Глыксс. – Жорсссткія маленькія хоббітссы! Зьзьвязаць ды пакінуць насс на халодных цьвярдыхх камянёхх, таксс, глыксс, глыксс!

І глотка ягоная задрыжэла ад хліпаньняў.

– Не, – вымавіў Фрода. – Калі забіваць яго, дык забіваць адразу. Але ж нам нельга. Ён не ўчыніў нам аніякай шкоды. Ён няшчасны небарака!

– Сапраўды? – Сэм пацёр плячо. – Ці ж ён ня меў намеру? Клянуся, ён яго яшчэ мае! Прыдушыць уночы, і ўсё.

– Магчыма, – пагадзіўся Фрода. – Але ж намеры й дзеі – розныя рэчы.

Змоўк на пэўны час, разважаючы. Глыкс ляжаў спакойна й ня енчыў. Сэм стаяў нам ім, пазіраючы абурана.

Фрода падавалася, нібы чуе далёкія, але ж выразныя галасы зь мінуўшчыны:

*– Як шкада, што Більба не пырнуў Джалам нягодніка, калі была магчымасьць!*

*– Шкада, кажаш? Менавіта шкадаваньне й спыніла ягоную руку. Шкадаваньне й міласэрнасьць. Ён ня стаў забіваць, таму што мог абысьціся без забойства...*

*– Аніякага шкадаваньня да Глыкса я не адчуваю... Ён ня варты жыцьця!*

*– Ня варты жыцьця? Магчыма, так. Сапраўды, шмат з тых, хто цяпер жыве, жыцьця ня вартыя. А колькі з тых, каго пазбавілі жыцьця, былі вартыя жыць? Можаш ты вярнуць ім жыцьцё? Калі не – не сьпяшайся прысуджаць да сьмерці. Бо нават і наймудрэйшым ня дадзена прадбачыць, як усё ўрэшце паверне.*

– Файна, – адказаў ён сваім думкам уголас і апусьціў корд. – Але ж я баюся. Бачыш, я не крануў пачвару й не крану. Бо я ўбачыў яго – і мне яго шкада.

Сэм глядзеў на гаспадара, які, падавалася, размаўляў зь некім нябачным. Глыкс падняў галаву.

– Таксс, мы няшчассныя, кашштоўнасьсьць, таксс, – заенчыў ён. – Літасьсьці! Хобіттсы насс не заб'юць, не заб'юць, добрыя хобітссы!

– Не, не заб'ем, – пагадзіўся Фрода. – Але ж і адпусьціць мы цябе не адпусьцім. Глыкс, ты паўнюткі падману ды здрады. Табе давядзецца йсьці разам з намі, каб мы маглі даглядаць за табою. І дапамагаць нам, калі здолееш. За дабро – дабром, як кажуць.

– Таксс, таксс, сссапраўды, – Глыкс сеў. – Добрыя хобіттсы! Мы пойдзем зь імі. Знойдзем іх спакойныя сьсьцежкі ў цемры, знойдзем, таксс! І куды жяны кіруюцца ў гэтыхх халодных цьвярдыхх мясьсьцінахх, га, ну куды?

Ён зірнуў на хобітаў, і слабы водбліск хітрыны й прагі прамільгнуў у ягоных бледных міргатлівых вачох.

Сэм скрывіўся й прыцмокнуў. Аднак адчуў, што й настрой, і задумкі ў гаспадара нейкія такія, што лепей не спрачацца. Аджа ўсё адно зьдзівіўся адказу Фрода.

Бо той зірнуў наўпрост у Глыксавы вочы. І Глыкс уздрыгнуў, скурчыўся й адвярнуўся.

– Ты гэта ведаеш, Сьмеяголь, ты здагадаўся, – вымавіў Фрода спакойна й сувора. – Вядома, мы йдзем у Мордар. І ты ведаеш шлях туды.

– Вохх! Ссс! – зашыпеў Глыкс, прыкрываючы вушы рукамі, бы шчырасьць ды агучаньне жудаснага найменьня рабілі яму балюча. – Мы здагадаліся, мы здагадаліся. Мы не ххацелі, каб яны йшшлі, таксс? Не, не ххацелі, не, не, файненькія хобітссы, не! Там попел, прысак і пыл, ссмага, і ямы, ямы, ямы, і оркі, тысьсячы оркаў. Файненькім ххобітссам нельга туды, у мессца гэнае, нельга!

– Дык ты быў там? – настойваў Фрода. – І цябе цягне туды зноў?

– Таксс, таксс. Не!! – узьвіснуў Глыкс. – Аднойчы, выпадкова, такс, мая кашштоўнасьсьць, выпадкова! Выпадкова! Але мы ня пойдзем назад, не, не!

Тады раптоўна ягоны голас і тон зьмяніліся, ён усхліпнуў і вымавіў, нібы некаму па-за хобітамі, адсутнаму:

– Адпусьціце мяне, глыксс! Мне балюча. Вох, мае бедныя ручкі! Я, мы, не жадаем назад, не. Я не магу знайсьсьці яго, не. Я сстаміўсься. Я, мы, я не магу знайсьці яго, нідзе яго няма, таксс, глыксс, нідзе. Яны заўжды ссочаць, заўжды. Гномы, людзі й эльфы, жудассныя эльфы з палымянымі вачыма. Я не магу знайсьсьці яго, вохх!

Ён ускочыў ды, сьціснуўшы доўгую даланю ў кастлявы кулак, пагразіў усходу.

– Мы ня будзем шукаць яго! – выгукнуў ён. – Не для цябе!

Тады зноў паваліўся.

– Глыксс, глыксс, – заенчыў, утыкнуўшы твар у зямлю. – Не глядзі на нас! Ідзь прэч! Ідзь спаць!

– Ён ня сыдзе прэч і ня пойдзе спаць на тваё слова, Сьмеяголь, – сказаў Фрода. – Але калі ты насамрэч хочаш пазбавіцца ад *яго*, то мусіш дапамагчы мне. Гэта значыць – знайсьці для нас дарогу да *яго*. Але табе ня трэба прайсьці яе ўсю. Толькі да брамы *ягонай* краіны.

Глыкс сеў зноў ды глянуў на яго з-пад павекаў.

– Ён там, таксс! – хіхікнуў ён. – Ён заўжды там. Оркі цябе правядуць, таксс. На ўсход ад ракі лёгка іх адшукаць. Не прымушай Сьсьмеяголя. Бедны, бедны Сьсьмеяголь! Ён даўно, даўно ссышшоў прэч. Яны забралі яго каштоўнасьсьць, і ён далёка, далёка.

– Магчыма, мы зноў адшукаем яго, калі ты пойдзеш з намі, – прапанаваў Фрода.

– Не, не, аніколі! Ён згубіў ссваю кашштоўнасьсьць!

– Уставай! – загадаў Фрода.

Глыкс ускочыў і прыціснуўся да адхону.

– Слухай мяне! Ці здольны ты адшукаць лягчэйшы шлях удзень ці ўночы? Мы стаміліся, але калі ты абярэш ноч, мы пойдзем зараз жа.

– Вялікае сьсьвятло шкодзьдзіць нашшым вочачкам, таксс, – праенчыў Глыкс. – Не пад Белай Пысай, не! Яна хутка ссхаваецца за пагоркамі, таксс! Адпачніце сспачатку, файныя хобітссы!

– Тады сядай і не варушыся! – загадаў Фрода.

Хобіты паселі пааберуч ад Глыкса, прыхіліліся сьпінамі да сьцяны, выцягнулі ногі. Дамаўляцца патрэбы не было – і так ведалі, што заснуць нельга ані на хвіліну. Павольна закаціўся месяц. Цені папаўзьлі па гарах, і за імі прыйшла цемрадзь. У нябёсах густа высыпалі, прамяніста зазіхацелі зоры. Аніхто не варушыўся. Глыкс сядзеў, падабраўшы ногі, прысунуўшы каленкі да падбародзьдзя, распластаўшы пляскатыя ступакі й далоні на зямлі, змружыўшы павекі. Аднак падаваўся напружаным – ды разважаў альбо прыслухоўваўся.

Фрода з Сэмам пераглянуліся ў паразуменьні. Тады расслабіліся, адкінулі назад галовы, заплюшчылі вочы ці зрабілі выгляд. Хутка дыханьне іхняе зрабілася ціхім і мерным. Глыксавы далонькі ўздрыгнулі. Ён ледзь прыкметна павярнуў галаву ўлева, управа. Расплюшчыў крышачку адно вока, тады другое. Хобіты не варухнуліся.

Зьнянацку Глыкс з ашаламляльнай спрытнасьцю скочыў проста зь зямлі, як конік альбо жаба, і рвануў у цемру. Менавіта гэтага Фрода з Сэмам і чакалі. Глыкс не зрабіў і двух крокаў, як Сэм ужо нагнаў яго. Фрода схапіў пачварня за ногі ззаду й паваліў.

– Так, твая вяроўка зноў спатрэбіцца, Сэме, – сказаў Фрода.

– І куды ж ты накіраваўся па *халоднай цьвярдой зямлі*, спадарыку Глыксе? – прабурчэў Сэм, выцягваючы вяроўку. – Мы цікавімсься, вох, мы цікавімсься. Напэўна, пашукаць сябрукоў-оркаў. Ах ты гідкі здрадны пачварань! Гэтай вяроўкаю – ды вакол тваёй шыі. І зацягнуць памацней!

Глыкс ляжаў спакойна й не спрабаваў болей аніякіх хітрыкаў. Толькі перыўся на Сэма зь нянавісьцю.

– Нам трэба яго неяк трымаць, – прамовіў Фрода. – Трэба, каб ён мог ісьці, таму няма сэнсу зьвязваць яму ногі ці рукі, бо ён, рухаючыся, карыстаецца імі таксама. Прывяжы за лытку, а другі канец трымай.

І ўстаў над Глыксам, пакуль Сэм прывязваў. Вынік зьдзівіў абодвух. Глыкс залямантаваў – тоненька, бы нешта драла яго знутры. Жудасны, непераносны гук. Ён курчыўся, спрабуючы дацягнуцца ротам да глізны й перакусіць вяроўку. І няспынна галасіў.

Нарэшце Фрода пераканаўся, што Глыксу насамрэч балюча – аднак не ад вузла. Той быў зацягнуты зусім ня моцна. Хутчэй, наадварот. Сэм быў дабрэйшы за свае словы.

– Што з табой? – спытаў Фрода. – Калі ты хочаш уцячы, дык мы мусім цябе прывязаць. Але ж мы ня хочам шкодзіць табе.

– Яна шшкодзіць, шшкодзіць! – прашыпеў Глыкс. – Яна марозіць, кусае! Яе эльфы зьвілі, клятыя эльфы! Жорсткія хобітссы! Восьсь таму мы хацелі ўцячы, таксс,

мая кашштоўнасьць! Мы ж здагадаліська: жорсткія, жорссткія хобітссы! Яны былі ў эльфаў, злых эльфаў з палымянымі вачыма. Здыміце! Яна шшкодзіць!

– Не, я не здыму яе зь цябе, – вымавіў Фрода. – Не здыму пакуль, – тут ён прыпыніўся, задумаўшыся, – не здыму, пакуль ты не паклянесься мне такой клятваю, якой я змог бы паверыць.

– Мы паклянемся рабіць, што ён ххоча, такс, такcс, – Глыкс усё курчыўся й хапаўся за лытку. – Яна шшкодзіць!

– Клянесься? – спытаў Фрода.

– Сьмеяголь паклянецца, – Глыксаў голас нечакана набыў яснасьць, вочы шырока раскрыліся й паглядзелі на Фрода зь дзіўнаю прагаю. – Сьмеяголь паклянецца на каштоўнасьці!

Фрода выпрастаўся, і Сэма зноў напалохалі ягоныя словы й суворы голас.

– На каштоўнасьці? І ты адважысься? Падумай! *Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх.* Ты насамрэч адважысься замкнуць сваю клятву ёю, Сьмеяголь? Так, гэтая клятва ўтрымае цябе. Але ж каштоўнасьць яшчэ больш здрадная за цябе. Яна сказіць словы клятвы ў тваім розуме, яна падмане! Сьцеражыся!

– На каштоўнасьці, на каштоўнасьці! – паўтараў Глыкс, скурчыўшыся, прыкрыўшыся рукамі.

– І ў чым ты паклянесься?

– Быць добранькім, добранькім, – сказаў Глыкс.

А тады падпоўз да Фродавых ног і закешкаўся на зямлі перад ім, на пузе, хрыпата прышэптваючы. Ды ўздрыгваючы, нібы словы страсалі самыя ягоныя косткі жахам.

– Сьмеяголь паклянецца аніколі, аніколі не дазволіць *яму* завалодаць каштоўнасьсьцю! Ніколі! Сьмеяголь выратуе яе. Але ён мусіць паклясца на самой каштоўнасьці!

– Не, не на ёй самой, – Фрода глядзеў на Глыкса з строгім жалем. – Усё, чаго ты жадаеш зараз, – гэта пабачыць яе, дакрануцца да яе. Прагнеш, хоць ведаеш: гэта пазбавіць цябе розуму, укіне ў шаленства. Ты не паклянесься на ёй. Кляніся ёю, калі хочаш клясца. Бо ты ведаеш, дзе яна. Так, Сьмеяголь, ты ведаеш. Яна перад табою.

На момант Сэму падалося, што ягоны гаспадар вырас, а Глыкс сьціснуўся, зьменшыўся. Быццам высокі шэры цень, магутны ўладар, схаваўшы веліч у шэрым воблаку, пазіраў на віскатлівае шчаня ля сваіх ног. Аднак абодва не былі цалкам чужыя адзін другому, бо разумелі адзін аднога. Глыкс прыўзьняўся й ухапіўся за крысо Фродавай вопраткі, поўзаючы ля ягоных каленяў.

– Хопіць! Хопіць! – загадаў Фрода. – Кляніся!

– Мы клянемся, так, клянемся! – выенчыў Глыкс. – Я буду служыць гаспадару каштоўнасьсьці! Добры гаспадар, добры Сьмеяголь, глыкс, глыкcс!

І раптам зноў заплакаў і пацягнуўся зубамі да лыткі.

– Адвяжы вяроўку, Сэм! – загадаў Фрода.

Неахвотна Сэм падпарадкаваўся. Глыкс адразу ўскочыў і затанчыў навокал, як пабітае шчаня, чый гаспадар нарэшце зьлітаваўся й пагладзіў ласкава. Адгэтуль зь ім адбылася перамена, якая пратрывала колькі часу. У размове ягонай стала меней шыпеньня й енкаў, і зьвяртаўся ён да спадарожнікаў ад сябе, а не ад імя сваёй "каштоўнасьці", і зь ёю гутарыў значна меней. Ён усё яшчэ курчыўся й уздрыгваў, калі хобіты апыналіся блізка ці рухаліся рэзка, і пазьбягаў дотыку да іхніх эльфскіх плашчоў, але ўсялякім чынам намагаўся дагадзіць новым гаспадарам, і пазіраць на тое было сьмешна й агідна. Ён хіхікаў ці падскокваў, калі хто-небудзь жартаваў ці

калі Фрода па-добраму зьвяртаўся да яго, і плакаў, калі Фрода выгаворваў яму. Сэм жа зусім не хацеў анічога яму казаць – ані добрага, ані благога. Ня верыў ён Глыксу ані на крышачку. Новы Глыкс, Сьмеяголь, быў не даспадобы яму яшчэ болей, чымся Глыкс колішні, калі тое ўвогуле магчыма.

– Ну, Глыкс, ці як там цябе зараз клікаць, ужо час! – сказаў ён. – Месяц зайшоў, і ноч мінае. Лепей хадзем.

– Так, так! – пагадзіўся Глыкс, радасна падскокваючы. – Хадзем, хадзем! Толькі адна сьцежка паміж паўднёвым і паўночным краямі дрыгвы, толькі адна! Я знайшоў яе, я! Оркі па ёй ня ходзяць. Оркі яе ня ведаюць. Оркі ня ходзяць праз багны, оркі абыходзяць за вёрсты й вёрсты. Якое шчасьце, што вы сюды пайшлі! Якое шчасьце, што знайшлі Сьмеяголя, таксс! Ідзьце за Сьмеяголем!

Ён адышоў на колькі крокаў і глянуў назад запрашальна, быццам сабака, які кліча гаспадароў пашпацыраваць.

– Пачакай-тка, Глыкс! – выклікнуў Сэм. – Не адбягай далёка! Я за табой пайду, і калі што – вяроўка заўжды напагатове!

– Не, не! – адгукнуўся Глыкс. – Сьмеяголь абяцаў!

Глыбокай ноччу пад халоднымі яснымі зорамі яны пачалі свой шлях. Глыкс пэўны час вёў іх на поўнач уздоўж хрыбта – тым шляхам, якім яны й прыйшлі. Тады ўзяў направа ад стромага хрыбта Эмін Мюйлу, уніз па камяністых, няроўных, загрувашчаных схілах ды расьсечаных ярамі пагорках і балоцістых панізьзях. Рушылі ў цемры хутка й нячутна. А над усімі мілямі велізарнай пустэчы ад хрыбта да Брамы Мордару павісла чорная цішыня.

*2. Пераход праз багны*

Глыкс рушыў хутка – выцягнуўшы шыю, вытыркнуўшы галаву наперад, часьцяком карыстаючыся й рукамі. Фрода з Сэмам ледзь пасьпявалі за ім. Аднак ён, падавалася, пакінуў усе думкі пра ўцёкі і, калі хобіты адставалі, цярпліва чакаў. Празь нейкі час прывёў іх назад, да краю вузкай цясьніны, якую сустракалі раней, але цяпер ужо значна далей ад гор.

– Вось тутс! – выгукнуў Глыкс. – Вось тут шлях унізз, такс. Зараз мы пойдзем па ім – туды!

Ён паказаў на паўднёвы ўсход, на багны. Іхні смурод ужо казытаў наздрыны, цяжкі й мярзотны, нягледзячы на начную прахалоду.

Глыкс замітусіўся туды-сюды ўздоўж краю. Нарэшце паклікаў:

– Тут! Мы здолеем спусьціцца тут! Сьмеяголь тут ужо спускаўся. Я тут прайшоў, так, хаваючыся ад оркаў!

Ён рушыў першы, і за ім хобіты скараскаліся ў змрок. Атрымалася няцяжка, бо шчыліна мела ўсяго пятнаццаць ступнёў глыбіні ды ня болей за тузін у шырыню. На дне яе бегла вада – расколіна была насамрэч ручвом аднаго з шматлікіх струменьчыкаў, што высочваліся з пагор'я, каб уліцца ў застойлыя лужыны багнаў. Глыкс збочыў направа, кіруючы прыблізна на поўдзень, і заплёскаў ступакамі па плыткім струменьчыку. Відавочна, адчуваньне вады яго надта ўзрадавала, ён пасьмейваўся сабе пад нос, а часам і муркатаў нешта накшталт песенькі.

*Халодныя камянючыкі*
*кусаюць нам нашы ручачкі,*
*і ножкі грызуць*
*скалы дый валунючыкі,*
*бы старыя, старыя касьцюнчыкі,*
*мясца на іх ні на зуб.*
*А азярцо з крыніцай*
*прыемнаю нам вадзіцай*
*так залагодзіць ножачкі!*
*А цяпер мы жадаем трошачкі...*

– Га, га! І чаго ж нам хочацца? – скасіўся на хобітаў. – Мы ім скажамс, скажамс, – пракаркатаў ён. – Ён здагадаўся, Торбінс здагадаўся даўным-даўна.

Вочы ягоныя бліснулі, і Сэм, заўважыўшы гэты пробліск у цемры, ажно здрыгануўся.

*Ня дыхае – але жыве,*
*ня хоча піць – заўсёды п'е,*
*халодная, заўжды маўчыць,*
*хоць у кальчузе – не зьвініць.*
*Ёй суша – нібы глыбіня,*
*а выспы – быццам вышыня,*
*каскад альбо фантан –*
*нібыта хураган.*
*Прыгожая, лагодная,*
*на срэбрачка падобная,*

*сустрэць – задавальненьне!*
*Адно наша хаценьне:*
*хутчэй трапляй, рыбунечка,*
*нам дзеля пачастуначка!*

Словы гэтыя толькі абцяжарылі й без таго нялёгкі Сэмаў клопат, сумныя разважаньні, якія пачаліся з таго моманту, калі зразумеў: ягоны спадар хоча ўзяць Глыкса ў правадыры. Турботы тыя былі пра ежу. Сэм меркаваў: спадар пэўна пра ежу не падумаў. А вось Глыкс, безумоўна, на сілкаваньне не забываўся аніколі. Цікава, як Глыкс падтрымліваў сябе ў самотных і даўжэзных вандроўках?

"Ня надта добра жывіўся, факт, – думаў Сэм. – Згаладнелым выглядае, і ня крыху. І, напэўна, наўрад ці пагрэбуе хобітам, калі рыбкі не патрапіцца. Асабліва калі знойдзе заснулага хобіта. Трэба, каб не знайшоў. Сэма Гэйхада ён дакладна ня знойдзе".

Клыпалі ўздоўж бясконцай выгінастай расколіны надта доўга – ці так падалося стомленым нагам Фрода й Сэма. Шчыліна павярнула на ўсход і паступова ўсё шырэла й плытчэла. Нарэшце нябёсы над галавою пашарэлі першым сьвятлом раніцы. Глыкс не выказваў аніякіх прыкметаў стомы, аднак зараз зірнуў угару й прыпыніўся.

– Дзень набліжаецца, – папярэдзіў шэптам, нібыта дзень – пачвара, якая можа падслухаць гаворку й драпежна кінуцца на яго. – Сьмеяголь застанецца тут. Я застануся тут, і Жоўтая Пыса мяне не пабачыць.

– Мы з задавальненьнем паглядзелі б на сонца, – уздыхнуў Фрода, – але ж застанемся тут. Мы надта натаміліся, каб ісьці далей без адпачынку.

– Разумней вам было б ня радавацца Жоўтай Пысе, – параіў Глыкс. – Яна ж вас выдасьць, пакажа вас. Цудоўненькія, добранькія хобітсы застануцца зь Сьмеяголем, так? Оркі й іншыя гідкія здані паблізу, такс. Яны бачаць далёка. Заставайцеся, хавайцеся з мною!

Тады ўсе паселі адпачыць ля ўзножжа скалістай сьцяны расколіны. Тут яна была ўжо не вышэйшая ад чалавечага росту, а ўздоўж яе месцамі цягнуліся шырокія пляскатыя палічкі сухога каменю – струмень бег у паглыбленьні пад другою сьцяною. На адной такой палічцы Фрода з Сэмам і прыселі, абапершыся сьпінамі аб камяні. Глыкс жа плёскаўся й шкробся ў рачулцы.

– Трэ крыху пасьнедаць, – прапанаваў Фрода. – Ты галодны, Сьмеяголь? Дзяліцца нам амаль няма чым, але ж мы дамо табе што ёсьць.

Пры слове "галодны" ў Глыксавых бляднах вачох успыхнула зялёнае полымя, і яны вырачыліся нават болей за звычайнае зь ягонага хваравітага схуднелага твару. На момант ён нават вярнуўся да былой манеры прамаўляць.

– Мы ззгаладнелыя, таксс, мы ххочамсс, надта хочамсс! Чаго яны ядуць, га? Рыбкусс, ссакавітую рыбкусс, таксс?

І доўгі ягоны язык высунуўся паміж вострымі жоўтымі ікламі, аблізваючы бясколерныя вусны.

– Не, рыбы ў нас няма, – адказаў Фрода. – У нас толькі вось што ёсьць, – ён падняў блінец лембасу, – ды шчэ вада, калі вада тут прыдатная для піцва.

– Таксс, таксс, вада ззддатнаясс! Піце яе, піце, пакуль здольныясс. Але ж шшто ж гэта ў іх, мая кашштоўнасьсьць? Гэта мажжліва ссхрамкаць? Яно ссмачнаесс?

Фрода адламіў кавалак блінца й працягнуў Глыксу на лісьце мэларну, бы на сподку. Глыкс нюхнуў ліст, і выраз ягонага твару зьмяніўся: імгненна агіда адбілася на ім і пробліск былой хітрасьці.

– А-а, Сьмеяголь чуе, чуе! Лісты з краіны эльфаў, гы! Яны сьмярдзяць. Сьмеяголь караскаўся на гэныя дрэвы й пасьля ня мог адчысьціць іхні смурод з маіх ручачак, маіх прыгожанькіх ручачак!

Кінуўшы ліст, адшчыкнуў кавалачак ад краю лембасу, пажаваў. І адразу ж сплюнуў, і затросься ад кашлю.

– Вохх! Гы-ых! – выгукнуў, пырскаючы сьлінаю. – Вы хацелі задушыць небараку Сьмеяголя! Гэта попел і пыл, ён ня можа есьці попел і пыл! Ён згаладнее, зусім згаладнее. Але Сьмеяголь сьцерпіць, так, сьцерпіць. Добрыя хобітсы! Сьмеяголь абяцаў. Сьмеяголь будзе гінуць з голаду. Ён ня можа есьці хобіцкую ежу. Ён згіне з голаду. Небарака Сьмеяголь!

– Прабач, – вымавіў Фрода. – У нас болей нічога няма. Мяркую, калі б ты прымусіў сябе зьесьці, нашая ежа была б карысная для цябе. Адылі пакуль што ты не жадаеш нават паспрабаваць. Мо потым усё ж здолееш.

Хобіты дажавалі лембасы ў цішыні. Сэму падумалася, што смак у іх нашмат лепшы, чым цягам апошніх дзён: ад Глыксавых манераў асалода смаку адчулася зноў. Аднак есьці было ня надта ёмка. Бо Глыкс кожную дробку праводзіў вачыма, рыхтык сабака ля абедзеннага стала гаспадара. Напэўна, толькі калі скончылі есьці й пачалі рыхтавацца да адпачынку, ён пераканаўся, што аніякіх ласункаў, якімі не хацелі дзяліцца, хобіты не прыхавалі. Тады адсунуўся прэч і прысеў за некалькі крокаў, скуголячы.

– Спадару, паслухайце! – прашаптаў Сэм, нават і ня надта ціха, бо яго зусім не клапаціла, пачуе Глыкс ці не. – Нам трэ паспаць, але ж не абодвум адначасова, пакуль гэты галодны нягоднік паблізу, абяцаў ён там што ці не абяцаў. Сьмеяголь ён ці Глыкс, мяркую, звычак сваіх умомант ён ня зьменіць. Вы сьпіце, спадару Фрода, а я павартую дый пабуджу вас, калі ўжо вочы ня здолею трымаць расплюшчанымі. Так і будзем па чарзе, як і раней, пакуль ён побач.

– Можа, твая рацыя, Сэме, – згадзіўся Фрода ўголас. – Ён, бясспрэчна, зьмяніўся, але як менавіта й наколькі глыбокая тая зьмена, я яшчэ ня вызначыў. Хоць, калі сур'ёзна, мяркую, баяцца няма патрэбы – пакуль што, ва ўсялякім разе. Аднак трымай варту, калі жадаеш. Дай мне паспаць дзьве гадзіны, ня болей, і тады абудзі.

Такім стомленым быў Фрода, што галава ягоная адразу зьвесілася на грудзі, і ён заснуў, ледзь пасьпеўшы дагаварыць. Глыкс, падавалася, зусім не баяўся болей. Скурчыўся й прыспаў сабе, не зьвяртаючы ўвагі на навакольле. Раз-пораз дыханьне ягонае зь ціхім шыпеньнем вырывалася з-за сьціснутых іклаў, але ж ляжаў Глыкс нібы камень. Праз колькі часу, баючыся, што сам ня вытрымае, слухаючы два сонныя подыхі, Сэм устаў ды ціхенька патыкаў Глыкса. Далоні таго расьціснуліся й уздрыгнулі, але болей Глыкс аніяк не варухнуўся. Сэм нахіліўся й прашаптаў "*рыбка*" амаль Глыксу ў вуха, але той не адрэагаваў, нават і подых не зьмяніўся.

– Мо й насамрэч сьпіць, – прамармытаў Сэм, пачухаўшы патыліцу. – Калі б я быў такі, як Глыкс, ён у мяне аніколі ўжо не прачнуўся б.

Ён не бязь цяжкасьці адагнаў думкі пра корд ці вяроўку, якія прымроіліся раптам, пайшоў назад і сеў побач з гаспадаром.

Калі прачнуўся, нябёсы над галавою былі цёмныя. Не сьвятлей, а нават цямней, чым падчас сілкаваньня. Сэм ускочыў. Не ў апошнюю чаргу ад уласнага пачуцьця голаду й бадзёрасьці зразумеў: прадрыхнуў увесь дзень, гадзінаў дзевяць сама менш. Фрода яшчэ моцна спаў, лежачы побач, выцягнуўшыся на баку. Да Сэмавай галавы адразу скочыла мноства мянушак ды прыказак з багатай бацькавай скарбніцы, адпаведных выпадку. Аднак падумалася таксама: Фрода меў рацыю – баяцца пакуль што няма чаго. Бо засталіся жывыя, аніхто іх не папрыдушваў.

– Ну, бедны небарака, – вымавіў амаль з спачуваньнем. – Куды ж ён, няшчасны, падзеўся?

– Недалёка, недалёка! – адгукнулася над галавою.

Сэм зірнуўуугару й пабачыў цень вялікай Глыксавай галавы й вушэй на фоне вечаровых нябёсаў.

– Гэй, што ты задумаў? – Сэмава падазронасьць вярнулася адразу, як ён пабачыў Глыксаву постаць.

– Сьмеяголь галодны, – паведаміў Глыкс. – Неўзабаве вернецца.

– Зараз жа вярніся. Зараз жа! – выкрыкнуў Сэм. – Гэй, назад!

Аднак Глыкс зьнік. Фрода прачнуўся ад Сэмавага галашэньня й сеў, паціраючы вочы.

– Вітаньні! – вымавіў спрасонак. – Здарылася што? Колькі часу?

– Ня ведаю. Мабыць, надвячорак. І ён зьнік. Сказаў: галодны.

– Не хвалюйся, – суцешыў Фрода. – Тут ужо анічога ня зробіш. Але ён вернецца, пабачыш. Абяцанка яшчэ колькі часу пратрывае. Да таго ж ён не пакіне сваю каштоўнасьць, аніколі.

Фрода гэтаксама ня надта сур'ёзна ўспрыняў вестку пра тое, што яны абодва моцна праспалі дзевяць гадзінаў побач зь вельмі-вельмі галодным і свабодным Глыксам.

– Не давай сабе мянушак, – параіў ён. – Ты быў стомлены, ды, урэшце, усё сталася добра: мы абодва файна адпачылі. А перад намі ж цяжкі шлях, найгоршы з усіх.

– Я пра ежу хвалююся, – сказаў Сэм. – Колькі нам часу спатрэбіцца на нашую справу? А калі зробім, што далей? Гэты хлябец падарожны на нагах трымае найцудоўнейшым чынам, хоць у страўніку ўсё адно вецер сьвішча, як кажуць. Аніякай зьнявагі тым, хто рабіў іх, найфайнейшы выраб, вядома, але мне ён не зусім па нутрыне. Ну ды ладна, але ж справа ў тым, што хлябцоў гэных з кожным днём менее. Паводле майго разьліку, тут тыдні на тры ці каля таго, і тое калі пасы падцягнуць ды зубам цыкаць, так бы мовіць. Мы дагэтуль крыху вальнавата зь імі абыходзіліся, так вось.

– Ня ведаю, колькі часу нам спатрэбіцца каб... каб скончыць гэтую справу. Мы жудасна заблукалі на пагор'і. Мой дарагі Сэмвайз Гэйхад, найлепшы мой сябра, Сэме, даражэнькі мой, сябра зь сяброў, мне падаецца, ня варта пакуль думаць, што здарыцца пасьля. Зрабіць справу, як ты сказаў, – ці шмат у нас надзеі на гэта? А калі зробім – хто ведае, што атрымаецца? Калі Адзіны Пярсьцёнак патрапіць у полымя, а мы будзем побач? Падумай,

Сэме: ці ж спатрэбіцца нам тады хлеб увогуле? Мяркую, не. Калі мы здолеем задаволіць нашыя ногі, каб прынесьлі нас да гары Выраку, і тое добра. А зараз я адчуваю: тое, магчыма, і болей, чым нам пад сілу.

Сэм маўкліва хіснуў галавою. Узяў руку гаспадара й нахіліўся над ёю. Не крануў яе вуснамі, але на яе ўпалі ягоныя сьлёзы. Тады Сэм адвярнуўся, выцер твар рукавом,

падняўся дый патэпаў прэч, намагаючыся насьвістваць ды паўтараючы паміж спробамі:

– Дзе ж тая халера падзелася?

Насамрэч няшмат часу мінула, як Глыкс вярнуўся. А вярнуўся ён так ціха, што заўважылі яго, толькі калі ён устаў наўпрост перад хобітамі. Ягоныя пальцы й твар былі запэцканыя чорным глеем. Ён яшчэ жаваў, пырскаў сьлінаю й аблізваўся. Што менавіта ён жаваў, хобіты й уявіць не захацелі.

"Чарвякоў, ці жукоў, ці нешта сьлізкае з нораў, – падумаў Сэм. – Фу, бруд! Ну, няздара, гаротны небарака!"

Глыкс нічога не сказаў, пакуль не напіўся й не памыўся ў струмені. Тады падышоў, аблізваючы вусны.

– Зараз лепей, – паведаміў ён. – Ці адпачылі мы? Ці гатовыя йсьці? Добрыя хобіты, яны так цудоўна спалі. Ужо давяраеце Сьмеяголю? Файна, вельмі файна.

Наступная частка вандроўкі была вельмі падобная да папярэдняй. Рушылі па расколіне, сьцены яе рабіліся ўсё ніжэйшымі, а сама яна – болей спадзістай. На дне траплялася болей глебы і меней камянёў. Неўзабаве краі вышчарбіны сталі не вышэйшымі за звычайны рачны бераг, і рачулка пачала пятляць. Ноч скончалася, але зоры й месяц зацягнула аблокамі, і пра раніцу вандроўнікі здагадаліся толькі праз шэрае няпэўнае сьвятло, якое распаўзлося па нябёсах.

Золкаю сьвітальнаю гадзінаю сягнулі сканчэньня ручва, чые берагі ўжо сталі ўпрост імшыстымі купінамі. Нарэшце струмень саскочыў з апошняй шчарбатай каменнай прыступкі й зьнік у бурым балотцы. Вакол шамацеў і туркатаў сухі трысьнёг, хоць ветру не адчувалася.

Пааберуч і наперадзе ляжалі багны й дрыгва, цягнуліся пад цёмнымі нябёсамі на поўдзень і на ўсход. Над змрочнымі, смуроднымі азярышчамі клубіліся туманы. Паветра вісела нерухомае, і ад смуроду было цяжка дыхаць. Далёка, амаль на поўдні, чорнай сьцяною аблокаў высіліся горныя сьцены Мордару, нібы плынеючы над пагрозьлівым морам смугі.

Хобіты цяпер апынуліся цалкам у Глыксавай уладзе. Яны ня ведалі й не маглі здагадацца, што перасякаюць толькі паўночны край балатоў, увесь абшар якіх прасьціраўся на поўдзень. Што калі б яны крыху вярнуліся па сваіх жа сьлядох і павярнулі на ўсход, то патрапілі б на цьвёрдыя, хуткія шляхі голай роўнядзі Дагорлад – поля старажытнай бітвы перад Брамаю Мордару. Аднак наўрад ці была якая надзея прайсьці тымі шляхамі, бо на той камяністай пустэчы не было сховішча й яе часьцяком міналі оркі й іншыя ваяры Ворага. Нават і лорыйнскія плашчы не дапамаглі б укрыцца.

– Куды ж мы накіруемся зараз, Сьмеяголе? – спытаў Фрода. – Мы абавязкова мусім перасякаць гэтую смуродную дрыгву?

– Не, зусім не, – адказаў той. – Не, калі хобіты жадаюць па-сапраўднаму хутка сягнуць чорных гор ды пабачыць *яго*. Крыху назад, крыху абысьці, – ягоная схуднелая рука махнула на паўночны ўсход, – і патрапіце на халодныя, цьвярдыя дарожкі проста да самых брамаў ягонай краіны. Процьма *ягонага* народцу там чакае гасьцей і надта парадуецца, калі даставіць іх да *яго*. Такс, таксс! Ягонае Вока ўвесь час туды й пазірае. Там *яно* й злавіла Сьмеяголя, даўно, вельмі даўно. – Глыкс здрыгануўся. – Але Сьмеяголь з тых часоў навучыўся карыстацца вачыма, таксс, карыстацца вачыма й носам. Я ведаю іншыя шляхі. Цяжэйшыя, не такія хуткія, але ж лепшыя, калі не жадаеце, каб *ён* пабачыў. Хадзіце за Сьмеяголем! Ён праўдзе вас

праз багны, праз туманы, добрыя густыя туманы. Ідзіце асьцярожна за Сьмеяголем і, можа, пройдзеце доўгі-доўгі шлях да таго, як *ён* зловіць і вас, таксс, мажліва, таксс.

Ужо распачаўся дзень. Распалілася сумная, бязьветраная раніца, і балотавы смурод павіс цяжкімі, шчыльнымі аблокамі. Аніводны сонечны прамень не праціяў нізкае покрыва хмараў, і Глыкс чамусьці захацеў прайсьці яшчэ колькі. Таму пасьля кароткага адпачынку рушылі зноў і неўзабаве цалкам згубіліся ў маўклівым засмужаным сусьвеце, адрэзаныя ад усяго, ня бачачы ані пагор'я, якое пакінулі, ані гор, да якіх імкнуліся. Крочылі павольна, ланцужком: Глыкс, Сэм і за імі Фрода.

Той быў стомлены болей за ўсіх і, хоць перасоўваліся зусім ня хутка, часта адставаў. Хобіты неўзабаве высьветлілі, што бачная ад гор роўная аднастайная багна – насамрэч бясконцы лябірынт азёрцаў, хлюпкай дрыгвы й пакручастых, часам ледзь бачных пратокаў. Сярод іх спраўны пагляд і асьцярожная нага маглі знайсьці апору й праход. Глыкс, безумоўна, валодаў і такім паглядам, і такой нагой. Галава ягоная на доўгай шыі ўвесь час матлялася з боку ў бок. Ён прынюхваўся й няспынна мармытаў пад нос. Час ад часу падымаў руку, загадваючы хобітам спыніцца, а сам паціху прасоўваўся наперад, скурчыўшыся, правяраючы глебу перад сабою пальцамі рук ці ног або ўпрост прыслухоўваючыся, прыклаўшы адно вуха да зямлі.

Нудотная была вандроўка й стамляльная. Халодная, воглая зіма яшчэ валодала гэтым забытым краем. Адзінай яркай плямай у відарысе зьзяла зялёная цьвіль на цёмнай бруднай паверхні калюжынаў і азёркаў. Мёртвая трава й гнілыя чараты тырчэлі скрозь туманы дранымі прывідамі даўно прамінулага лета.

Цягам дня крыху пасьвятлела, туманы прыўзьняліся, патанчэлі й зрабіліся больш празрыстымі. Далёка ў вышыні, па-над гнілізною й выпарэньнямі зямлі, кацілася залатое сонейка ў прыгожым каралеўстве над паверхняю аблокаў, але ўнізе, пад імі, рысаваўся адно толькі бледны ягоны прывід, пазбаўлены цеплыні й фарбаў. Але нават ад такога слабога нагадваньня пра сонца Глыкс крывіўся й уздрыгваў. Нарэшце спыніўся, і вандроўнікі адпачылі, сьціснуўшыся, нібыта маленькія зьвяркі, якія хаваюцца ад паляўнічых, ля краю густых зарасьцяў вялікага рудога чароцішча. Цішыня вісела паўнюткая, толькі рыпелі зьлёгку, калыхаючыся, кранаючы адна адну, пустыя безнасенныя верхавіны чароцінаў дый паламаныя ліставіны паскрыготвалі на няўлоўным ветрыку, якога хобіты нават не адчувалі.

– Ані птушкі, – вымавіў Сэм сумна.

– Не, няма птушакс, – пацьвердзіў Глыкс. – Цудоўных птушакс! – ён аблізнуўся. – Няма птушакс. Зьмеюкі, чарвякі, усялякае кузурства ў лужынах. Мноства пачварак, гідкіхх, гідкіх пачварак. А птушаксс няма, – ён сумна ўздыхнуў.

Сэм зірнуў на яго з агідаю.

Гэтак сканаў трэці дзень іхняй вандроўкі з Глыксам. Яшчэ да таго, як у шчасьлівейшых мясьцінах зьвечарэла, падарожнікі рушылі зноўку, брылі й брылі, прыпыняючыся ўсяго на некалькі хвілінаў. І тое не для адпачынку, а праз тое, што Глыкс, хоць і ішоў асьцярожна, сам часьцяком ня мог адшукаць праходу. Бо знаходзіліся ўжо ў самым сэрцы Мерцьвяковых багнаў і было цёмна.

Хобіты крочылі павольна, нахіляючыся, трымаючыся блізка адзін да аднога, уважліва паўтараючы ўсе Глыксавы рухі. Багны траплялiся больш вільготныя, неабсяжныя прасторы займала зусім гразкая застойлая дрыгва, і ўсё цяжэй адшуквалася месца, дзе нага не правальвалася б у булькотлівы глей. Добра, што

вандроўнікі ня мелі цяжару паклады й самі былі лёгкія, а тое наўрад ці здолелі б прайсьці.

Цемра ж спусьцілася апраметная: нават самое паветра падавалася чорным і зь цяжкасьцю лілося ў ноздры. Калі зьявіліся агеньчыкі, Сэм пацёр вочы – падумаў, што паціху вар'яцее. Першы заўважыў краем левага вока – прывід бляклага зьзяньня, які адразу ж згас. Але неўзабаве запаліліся й новыя. Некаторыя – рыхтык цьмяны зіхоткі дым, іншыя – бы туманнае полымя, што бліскае над нябачнымі сьвечачкамі, а тут і там уздымаліся прасьціны прывіднага сьвятла, разгорнутыя нябачнымі рукамі. Аднак аніводны з Сэмавых спадарожнікаў ня вымавіў ані слова.

Нарэшце Сэм ня вытрываў.

– Што гэта, Глыкс? – спытаў шэптам. – Ну, агеньчыкі гэныя? Яны паўсюль вакол. Ці мы ў пастцы, абкружаныя?

Глыкс зірнуў угару. Перад ім разьвіналася прастора цёмнай вады, і ён поўзаў па зямлі, шукаючы шлях, мацаючы тут і там.

– Так, яны паўсюль навокал, – прашаптаў ён. – Падманныя агеньчыкі. Сьвечачкі мерцьвякоў, такс, такс. Не зьвяртай на іх увагі! Не глядзі на іх! Ня йдзі да іх! Дзе гаспадар?

Сэм азірнуўся й пабачыў, што Фрода зноў адстаў, нават зьнік з пагляду. Сэм сунуўся назад, у цемру, не наважваючыся рушыць далёка ці паклікаць гучней, чым шэптам. Зьнянацку натыкнуўся на Фрода, які стаяў задумліва, пазіраючы на блядныя агеньчыкі. Ягоныя рукі бязвольна зьвісалі па баках. Зь іх капалі вада й глей.

– Хадзем, спадару Фрода! – пагукаў Сэм. – Не глядзіце на іх! Глыкс казаў: нельга глядзець! Лепей пасьпяшаймася за ім дый уберамося з гэнага клятага месца як мага хутчэй!

– Добра, – пагадзіўся Фрода, быццам абуджаючыся. – Я йду. Рушым!

Сьпяшаючыся, Сэм зачапіўся нагою за нейкі стары корань ці купіну й паваліўся цяжка, выставіўшы рукі. Тыя глыбока ўвайшлі ў ліпкі глей, так што твар хобітаў амаль сутыкнуўся з паверхняю цёмнай лужыны. Пачулася слабое шыпеньне, пайшоў ванітны смурод, агеньчыкі задрыжэлі, заскакалі, закружлялі навокал. На момант вада перад вачыма зрабілася нібы вакном зь цьмяным шклом, і Сэм у яго зазірнуў. А тады, выдраўшы рукі з багны, ускочыў ды залямантаваў у жаху:

– Там мёртвыя, мёртвыя твары ў вадзе! Мёртвыя твары!

Глыкс засьмяяўся.

– Ну дык Мерцьвяковыя багны, гэткае ж іхняе мяно, таксс! – хіхікнуў ён. – Не глядзі, калі сьвечачкі запаленыя, не глядзі.

– Хто яны? Што яны? – Сэм здрыгануўся, паварочваючыся да Фрода, які стаяў адразу за ім.

– Ня ведаю, – адказаў Фрода летуценным голасам. – Я таксама бачыў іх. Яны ляжаць па ўсіх азярцах, белатварыя, глыбока-глыбока пад цьмянаю вадою. Я бачыў іх: жорсткія аблічча, суворыя, шляхетныя й сумныя. Мноства твараў ганарлівых і сьветлых, і трава ўплялася ў срэбныя валасы. Але ж усё нежывое, усё гнілое, усё нячыстае. Усе зьзяюць ліхім сьвятлом, – Фрода прыкрыў вочы даланёю. – Я ня ведаю, хто яны, але, падалося, там людзі, і эльфы, і оркі побач.

– Такс, такс, – пацьвердзіў Глыкс. – Усе памерлыя, усе струпехлыя. Эльфы, і людзі, і оркі. Мерцьвяковыя багны. Шмат часу таму была вялікая бітва, такс казалі Сьмеяголю, калі ён быў малады. Калі я быў малады – яшчэ да маёй каштоўнасьці. Найвялікшая зь бітваў. Высокія людзі з даўгімі мечамі, жудасныя эльфы й оркі

лямантавалі. Яны біліся днямі й месяцамі перад Чорнай Брамай. А багны растуць, растуць, паглынулі магілкі, дрыгва заўжды паўзе, расьце.

– Але ж гэнае адбылося болей за эпоху таму! – усклікнуў Сэм. – Памерлых тут насамрэч ня можа быць! Ці гэта якое чараўніцтва краю Ценю?

– Хто ведае? Сьмеяголь ня ведае, – адказаў Глыкс. – Да іх не дацягнесься, іх не кранеш. Мы спрабавалі калісьсьці, такс, мая кашштоўнасьсьць. Толькі абрысы, толькі бачыць, а не крануць. Не, мая кашштоўнасьсьць! Усе памерлыя.

Сэм глянуў на яго змрочна й здрыгануўся зноў, уявіўшы, навошта Сьмеяголь дабіраўся да іх.

– Ну, я болей іх бачыць не жадаю. Аніколі! Ці ня час нам падняцца й рушыць далей?

– Такс, такс, – згадзіўся Сьмеяголь. – Але павольна, вельмі павольна. Вельмі асьцярожненька! Альбо хобіты загразнуць ды далучацца да мерцьвякоў, дый сабе па маленечкай сьвечачцы запаляць. Ідзьце за Сьмеяголем! Не глядзіце на агеньчыкі!

Ён адпоўз направа, шукаючы абыход вакол возера. Хобіты пасьпяшаліся за ім, часта дапамагаючы сабе рукамі, як і ён. Сэм падумаў: "Калі гэткае працягнецца яшчэ колькі часу, будзе нас радком тры кашштоўныя цудоўныя глыксы".

Нарэшце сягнулі канца чорнага возера й перасеклі ягоны край – то паўзком, то скокам з адной здраднай і ненадзейнай купіны на іншую. Часьцяком зрываліся, крочылі ў ваду ці падалі ў яе, выставіўшы рукі, гнюсную, бы з гнілога адстоішча, пакуль з ног да галавы не пакрыліся мярзотным глеем і не засьмярдзелі адзін аднаму невыносна.

Ноч скanчалася, калі зноў выбраліся на цьвёрдую глебу. Глыкс шыпеў ды прышэптваў сабе пад нос, але ж быў відавочна задаволены: нейкім таемным чынам, дзівоснай сумесьсю пачуцьцяў, паху, незвычайнай памяцьцю на начныя абрысы рэчаў ён згадаў і дакладна вызначыў, куды зараз патрапілі, і быў упэўнены ў далейшым шляху.

– Зараз рушым! – абвесьціў ён. – Добрыя хобітсы! Адважныя хобітсы! Вельмі, вельмі стомленыя, вядома, дык і мы таксама, мая кашштоўнасьсьць, мы ўсе. Аднак мы мусім зьвесьці гаспадара ад хітрых агеньчыкаў, таксс, мусьсім.

З тымі словамі патэпаў зноўку, амаль рысцою патрухаў па доўгім праходзе паміж высокімі чарацінамі, і хобіты паклыпалі за ім з усім магчымым спрытам. Але неўзабаве прыпыніўся зьнянацку дый уцягнуў паветра падазрона, шыпячы, быццам нешта яго занепакоіла ці ён зноў зь нечага раззлаваўся.

– Што такое? – прабурчэў Сэм, не зразумеўшы, да чаго прынюхваецца Глыкс. – Навошта прынюхвацца? Смурод тут мяне амаль з ног валіць, нават калі й ноздры затыкнуць. Ад цябе смурод, і ад спадара. Усё гэнае месца – суцэльны смурод!

– Такс, такс, і ад Сэма смурод! – адказаў Глыкс. – Небарака Глыкс чуе й церпіць. Дапамагае добраму пану. Але ж тое няйстотна. Паветра рухаецца, надвор'е мяняецца. Сьмеяголь адчувае, Сьмеяголь прадчувае нядобрае.

Ён сунуўся зноў, але трывога ягоная ўсё расла, і ўсё часьцей ён заміраў, цалкам выпростваючыся, паварочваючыся, выцягваючы шыю на поўдзень і на ўсход. Пэўны час хобіты ня чулі й не адчувалі, што турбуе яго. Тады раптоўна ўсе ўтрох спыніліся, здранцьвеўшы, прыслухоўваючыся. Фрода з Сэмам падалося, што чуюць здалёку танюткі, пранізьлівы, жорсткі й жаласьлівы лямант. Яны ўздрыгнулі. І ў той самы

момант адчулі рух паветра, надта халоднага. Стаялі, намагаючыся ўчуць, – і здалёк наляцеў шум, рыхтык вецер. Туманныя агеньчыкі задрыжэлі, выцьвілі й зьніклі.

Глыкс ня рухаўся. Стаяў, дрыжэў, мармытаў пад нос, пакуль вецер навалаю не наляцеў на іх, зь сьвістам ды выцьцём пранёсься над багнамі. Ноч разьясьнілася дастаткова, каб падарожнікі маглі напалову пабачыць, напалову дамаляваць у розуме вычварныя пасмы туману, што віліся й курчыліся, перакатваючыся міма вандроўнікаў, мкнучы прэч. А ўгары разыходзіліся, развальваліся на часткі аблокі – і тады высока на поўдні паказаўся скрозь кучы плыннага хмарнага сьмецьця месяц.

На момант ён узрадаваў хобіцкія сэрцы, але ж Глыкс скурчыўся, праклінаючы шэптам Белую Пысу. А тады Фрода з Сэмам, пазіраючы на нябёсы, глыбока ўдыхаючы сьвежае паветра, пабачылі *яго*: маленькае воблачка, што хутка струменіла ад клятых гор, чорны цень, выпушчаны з Мордару, велізарную, злавесную крылатую постаць. Яна перасекла твар месяца й зь сьмяротным енкам панеслася на захад, перагнаўшы вецер у ліхім лёце.

Хобіты пападалі ніцма, курчачыся й трапечучы на халоднай зямлі. А цень вусьцішы павярнуў над імі, вярнуўся, зараз летучы нізка, проста над падарожнікамі, разганяючы дрыгвяны смурод жудаснымі крыламі. І зьнік, адляцеў назад, у Мордар, з хуткасьцю Саўронавага шаленства, і тады завыў вецер, зрабіўшы Мерцьвяковыя багны голымі й бляклымі. Голую пустэчу да самых пагрозьлівых гор заліло зыркае месяцовае сьвятло.

Фрода з Сэмам падняліся, паціраючы вочы, – нібы малыя, абуджаныя ад начных жахаў, убачылі навокал звычайную нястрашную ноч. А Глыкс ляжаў, бы аглушаны. Яго раскатурхалі не бязь цяжкасьцяў, і некаторы час ён нават не паказваў твару, стаяў на каленях, утыкнуўшыся локцямі ў глебу й прыкрыўшы галаву вялікімі пляскатымі далоньмі.

– Прывіды! – енчыў ён. – Прывіды на крылах! Каштоўнасьць – іх гаспадар. Яны бачаць усё, усё! Анічога не схаваецца ад іх! Праклён на Белую Пысу! Яны ўсё распавядуць *яму*, усё! *Ён* бачыць, *ён* ведае! Вох, глыкcс, глыкcс, глыкccс!

І ён ня ўстаў, і не варухнуўся, пакуль месяц не схаваўся на захадзе, не зайшоў за Тол Брандыр.

З таго часу Сэму падалося, што ў Глыксе ізноўку адбыліся зьмены. Той паддобрываўся нават болей за ранейшае, але Сэма зьдзіўлялі ягоныя дзіўнаватыя позіркі, асабліва ў бок Фрода. І ўсё часьцей Глыкс вяртаўся да старой манеры размаўляць. Сэму й яшчэ дадалося клопату: Фрода, падавалася, стаміўся да поўнага зьнясіленьня. Сябра анічога не казаў. Увогуле амаль не размаўляў, але ж ішоў так, нібыта цягнуў вялікую пакладу, вага якой усё павялічвалася, і крочыў усё павольней, ледзь перасоўваючы ногі, так што часьцяком Сэму даводзілася прасіць Глыкса, каб затрымаўся й пачакаў гаспадара.

Насамрэч, з кожным крокам да Мордару Фрода адчуваў, што пярсьцёнак на ланцугу вакол шыі цяжэе. Цяпер ён выдаваў на сапраўдную пакладу, якая хіліла шыю да зямлі. Але ж нашмат болей яго турбавала Вока – так ён назваў гэтае сваё пачуцьцё. Ня толькі цяжар пярсьцёнка прымушаў яго прыкрывацца й нахіляцца ідучы. Гэта было *Вока*: расло жудаснае адчуваньне варожай волі, якая зь неверагоднай сілаю працінае цені й аблокі, зямлю й целы й прагне пабачыць, адкрыць. Прыціснуць, зьнерухоміць страшным позіркам – бездапаможнага, безабароннага. Такімі танюткімі, такімі зыбкімі й хліпкімі зрабіліся сьцены, якія яшчэ адгароджвалі ад яго. Фрода дакладна ведаў крыніцу гэтай волі й моцы – так і з заплюшчанымі вачыма зыркім

днём можна адчуць, у якім баку сонца. Цяпер Фрода глядзеў проста на яго, і ягоная сьпякота сьціскала Фродаў розум.

Глыкс, напэўна, адчуваў нешта накшталт таго. Але што адбывалася ў ягоным зьнявечаным сэрцы паміж ціскам Вока, прагай блізкага пярсьцёнка й прыніжальным абяцаньнем, зробленым напалову ад страху перад халоднай стальлю ляза, – хобіты здагадацца не маглі. Фрода пра тое й ня думаў. А Сэма турбаваў найперш стан сябра, і ён амаль не зьвяртаў увагі на цьмяныя прадчуваньні. Зараз ён крочыў за сьпінаю Фрода, уважліва назіраючы за кожным ягоным рухам, падтрымліваючы, калі той спатыкаўся, і намагаючыся падбадзёрыць няўклюдымі словамі.

Калі нарэшце надышоў дзень, хобіты падзівіліся, наколькі наблізіліся горы. Паветра стала халаднейшым і ясьнейшым, і хоць далёкія злавесныя сьцены Мордару болей не былі пагрозьлівай хмарай на даляглядзе, яны чорнымі вежамі грувасьціліся за пустэчай. Багны скончаліся, пераходзілі ў ссохлыя тарфянікі й шырокія роўнядзі ссохлага, патрэсканага глею. Мясьціны наперадзе падымаліся доўгімі некрутымі схіламі, голымі й пустымі, да запустэчаньня ля Саўронавай брамы.

Пакуль цягнуўся шэры дзень, вандроўнікі туліліся пад чорным валуном, нібы чарвякі, курчачыся, баючыся, што крылатая вусьціш зноў залунае над галовамі, угледзіць, вышукае іх жорсткімі вачыма. Суцэльным жахам была гэтая вандроўка, і аніводнага сьветлага моманту ня ўзгадвалася ў ёй. А мкнулі ж у жах яшчэ горшы. Яшчэ дзьве ночы прабіраліся бязь сьцежак і дарог па пустэчы. Падавалася, самое паветра зрабілася жорсткім, напоўнілася горкім смуродам, ад якога перахоплівала дых і перасыхала ў роце.

Нарэшце на пятую раніцу ад пачатку вандроўкі з Глыксам спыніліся зноў. Наперадзе, змрочныя ў ранішнім сьвятле, утыкаліся ў дах з хмараў і дыму неабсяжныя горы. Ля іх узножжаў кучамі грувасьціліся вялізарныя скалы й няроўныя, крывыя, ламаныя пагоркі. Да найбліжэйшага заставалася ўсяго з тузін вёрстаў. Фрода азірнуўся ў жаху. Хоць страшнымі былі Мерцьвяковыя багны й ссохлыя землі за імі, аднак значна больш вусьцішнай і агіднай паўставала краіна, якую новы дзень павольна вымалёўваў перад ягонымі вачыма. Нават у дрыгву мёртвых твараў мог прыйсьці нейкі прывідны водгук вясны й сьвежай зяляніны, але сюды анікалі ўжо не завітаюць ані вясна, ані лета. Тут не жыло анічога, нават цьвіль, якая харчуецца памерлым ды гнілым. Ямы запаўняў попел ды сьлізкі глей, бялява-шэры, быццам горы вырыгалі бруд сваіх вантробаў перад сабою. Грувасьціліся кучы пакрышанага, паколатага каменю, бясконцымі шэрагамі стаялі купіны апаленай, атручанай зямлі – як нечы зьдзек з могілак. Нават і дзённае сьвятло, падавалася, неахвотна адкрывала такое вачам.

Хобіты сягнулі пустэчы ля Брамы Мордару – помніку жорсткай, чорнай працы ягоных рабоў, які трывацьме, калі скасуюцца ўсе іхнія мэты й намеры, – помніку апаганенай, забітай назаўсёды, зьмярцьвелай зямлі. Хіба толькі Вялікае мора калі-небудзь прыйдзе сюды, змые, схавае пад хвалямі й у памяці.

– Мяне ванітуе, – вымавіў Сэм.

Фрода маўчаў.

Колькі часу стаялі ля ўскрайку, нібы засынаючы ў прадчуваньні жуды, якая трымае сябе ад глыбейшага сну, хоць і ведаючы – раніца дасяжная толькі праз цень. Пасьвятлела. Яміны й атрутныя кучы нарысаваліся з жахлівай выразнасьцю. Сонца ўзьнялося высока, плынеючы сярод аблокаў і доўгіх языкоў дыму, але нават ягонае сьвятло падавалася брудным. Хобітаў яно ня радавала, бо было для іх варожым,

адкрывала іхнюю бездапаможнасьць – маленькіх пісклявых зданяў, што бадзяюцца па сьметніку Чорнага Ўладара.

Надта стомленыя для таго, каб ісьці далей, падарожнікі шукалі месца для адпачынку. Колькі часу моўчкі праседзелі ў цені вялікай кучы шляку, але адтуль высочваўся горкі, удушлівы дым, ад якога перахоплівала дыханьне. Глыкс ня вытрымаў першы. Мармычучы лаянкі й адхаркваючыся, узьняўся ды, не зірнуўшы на хобітаў, не сказаўшы ані слова, папоўз на кукішках прэч. Фрода з Сэмам папаўзьлі за ім, пакуль не далезьлі да шырокай, амаль круглай яміны з высокім заходнім краем. Халодная яна была й агідная, з бруднай лужынай алеістага, шматкаляровага глею на дне. У гэтай мярзотнай дзірцы яны й схаваліся, спадзеючыся там укрыцца ад позірку Вока.

Дзень цягнуўся нудотна. Катавала смага, але выпілі зь біклажак усяго па некалькі кропляў. Апошні раз папаўнялі ваду ў цясьніне перад балатамі. Зараз яна згадвалася як месца надзіва прыгожае й спакойнае. Варту трымалі на чарзе. Спачатку з-за вялікай стомы аніводны ня мог заснуць. Аднак калі сонца пакацілася ўніз, караскаючыся за вялікую нетаропкую хмару, Сэм задрамаў. Фрода ж чуваў. Ляжаў на сьпіне на схіле яміны, але тое не палягчала адчуваньня цяжару. Паглядаў у пярэстыя ад дыму нябёсы й трызьніў дзівосных прывідаў, цьмяныя абрысы вершнікаў, твары з мінулага. Ужо й не заўважаў, колькі прайшло часу, трываючы між сном й яваю, пакуль забыцьцё не адолела яго.

Сэм прачнуўся зьнянацку й пабачыў – вечарэе. Яму падалося: Фрода кліча. Але той ня мог клікаць, бо спаў і ўва сьне сасьлізнуў амаль на дно яміны. Глыкс сядзеў побач. На момант Сэм падумаў: ён будзіць Фрода. Тады пабачыў: не, ня так. Глыкс размаўляў сам з сабою. Сьмеяголь у ім спрачаўся зь нечым іншым, што вымаўляла словы тым самым голасам, але рабіла яго пісклявым і шыпячым. І, адпаведна галасам, вочы ягоныя зьзялі то блядным, то зялёным сьвятлом.

– Сьмеяголь абяцаў, – казаў першы голас.

– Таксс, таксс, мая кашштоўнасьсьць, – згаджаўся другі, – мы абяцалісс, абяцалісс выратаваць нашшую кашштоўнасьць, ня даць *яму* завалодаць ёю – аніколісс! Але яна йдзе проста да яго, бліжэй з кожным крокамсс! Цікава, шшто хобітсс зробіць зь ёю, нам цікавасс, таксс?

– Я ня ведаю. Што ж я магу зрабіць? Яна ў гаспадара. Сьмеяголь паабяцаў дапамагчы гаспадару.

– Таксс, таксс, дапамагчы гасспадару – гасспадару кашштоўнасьсьці! Але ж калі мы зробімся яе гасспадарамі, мы здолеем дапамагчы ссабе ссамім, таксс, і сстрымаць абяцанак.

– Дык Сьмеяголь жа абяцаў паводзіць сябе файна, вельмі слушна. Бо ж хобітс добры! Ён зьняў жорсткую вяроўку з нагі Сьмеяголя. Ён па-добраму размаўляў з мною.

– Файна, файна, таксс? Дык будзьма ж файнымісс, бы рыбачка файнымісс, ссалодкі мой, аджа да ссаміхх ссябе!

– Але ж абяцаньне трымае сама каштоўнасьць! – запярэчыў голас Сьмеяголя.

– Тады возьмем яесс, – сьцьвердзіў рашуча другі голас, – і ссамі будзем трымаць! Тады сстанем гаспадарысс, глыксс! Тады другі хобіттсс, гідкі, недаверлівы хобітсс, будзе поўзаць перад намісс, таксс, глыксс!

– А як жа добры хобітс?

– Не, не – калі гэта насс не задаволіць! Аднак ён жа Торбінсс, мая кашштоўнасьсьць, Торбінсс. Торбінсс скраў яе. Знайшшоў яе й не ссказаў анічогасс, анічогасс! Ненавіссныя Торбінссы!

– Не, ня гэты Торбінс!

– Усьсе Торбінсссы! Усьсе, ххто трымае кашштоўнасьсьць! Мы мусьсім забраць яе!

– Але ж *ён* убачыць, *ён* даведаецца. *Ён* забярэ яе ад нас!

– Ён ужо бачыць. Ужо ведае. Ён чуў, як мы давалі дурныя абяцанкісс, – ссупраць *ягонага* загадусс, таксс. Мы мусьсім забраць яе. Прывіды шшукаюць. Мусім забраць.

– Не для *яго*!

– Не, ссалодкі мой. Бачышш, мая кашштоўнасьсьць, – калі мы завалодаем ёю, тады здолеем уцячы, нават ад *яго*, таксс? Мажжліва, вырасьсьцем магутныя, магутней за прывідаў. Уладар Сьсьмеяголь? Глыкcс Найвялікшшы! Глыкcс з Глыкссаў! Будзем есьсьці рыбку тройчы на дні, сьсьвежую рыбку наўпрост з мора. Найкашштоўнейшшы Глыкcс! Мусьсім забраць яе! Мы ххочам яе, ххочам, ххочамсс!

– Але ж іх два. Яны абудзяцца хутка й заб'юць нас! – праенчыў Сьмеяголь, нібы апошнім намаганьнем. – Ня зараз. Яшчэ не!

– Мы хочам яесс! Аднак, – і тут настала доўгая паўза, быццам Глыкс задумаўся, абуджаючы нешта новае з свайго розуму. – Яшчэ не, таксс? Верагодна, таксс. Яна можа дапамагчы намсс. Яна можа, таксс!

– Не, не. Толькі не туды! – завішчэў Сьмеяголь.

– Таксс! Мы ххочам яе! Мы ххочамсс!

І кожны раз, калі прамаўляў іншы, пісклявы голас, доўгая Глыксава рука павольна цягнулася да Фрода, і кожны раз рыўком адсоўвалася, здрыгануўшыся, калі прамаўляў Сьмеяголь. Урэшце абедзьве рукі з дрыжачымі, скіпцюранымі пальцамі палезьлі да Фродавай шыі.

Сэм колькі часу ляжаў нерухома, захоплены жудаснаю спрэчкаю, але ж назіраючы за кожным рухам Глыкса з-пад прыкрытых павекаў. Простаму Сэмаваму розуму раней звычайны Глыксаў голад, жаданьне зжэрці хобітаў, падаваўся галоўнай пагрозай. Зараз зразумеў: зусім ня так. Глыкс адчуваў жудасны поцяг пярсьцёнка. "*Ён*" – гэта Чорны Ўладар, без сумневаў, але ж Сэм дзівіўся: хто такая "яна"? Напэўна, нехта з кола вусьцішных знаёмцаў, якімі малы паскуднік абзавёўся падчас бадзяньняў. Неўзабаве стала не да разважаньняў, таму што рэчы зайшлі надта далёка й ужо рабіліся небясьпечнымі. Хоць ногі й рукі хобіта нібы зацяклі сьвінцом, ён, напружыўшыся, прымусіў сябе сесьці. Дый здагадаўся трымаць асьцярожнасьць і не выказваць, што падслухаў спрэчку. Выдыхнуў гучна, пазяхнуў, ледзь ня вывіхнуўшы скіўіцу. І тады спытаў сонна:

– Колькі часу цяпер?

Глыкс выдзьмуў доўгае шыпеньне скрозь зубы. Прыўзьняўся на момант, напружаны, пагрозьлівы, а тады абмяк, упаў на кукішкі й папоўз да краю яміны.

– Добрыя хобітссы! Добры Ссэме! – заскуголіў ён. – Ссанлівыя ссонькі, таксс! Пакінулі добрага Сьсьмеяголя вартаваць. Але ж вечарэе, змрок ужо блізка. Часс ісьсьці!

"Сама час, – падумаў Сэм. – І час нашага разьвітаньня таксама".

Але тут жа прамільгнула думка: мо Глыкс бяздоглядны больш небясьпечны, чым Глыкс, які рушыць побач, перад вачыма.

"Трасца на яго! – прамармытаў Сэм. – Каб ён косткай задавіўся!"

Пакульгаў па яміне да гаспадара й абудзіў яго.

Дзівосна, але Фрода пачуваўся ўзбадзёраным. Марыў у сьне. Змрочны цень мінуў, і сярод краю хваробы й няшчасьця яго наведаў добры сон. Ад яго анічога не засталося ў памяці, аднак з-за яго Фрода адчуваў задаволенасьць, і на сэрцы палягчэла. Цяжар нібыта зьменшыўся. А Глыкс павітаў хобіта з шчанячай радасьцю. Ён хіхікаў ды мармытаў няспынна, храбусьцеў доўгімі пальцамі й поўзаў ля Фродавых каленяў. Фрода ўсьміхнуўся яму.

– Хадзем! – вымавіў ён. – Ты вёў нас дакладна й умела. Неўзабаве канец тваёй службы. Давядзі нас да брамы. Далей я не прашу цябе йсьці. Давядзі нас да брамы, а там ідзі куды пажадаеш, толькі не да нашых ворагаў.

– Да брамы, таксс? – правішчэў Глыкс, падаючыся напалоханым ды зьдзіўленым. – Да брамы, кажа гасспадар! Таксс, кажа ён. А добры Сьмеяголь робіць, як пан кажа, таксс! Але ж калі мы наблізімсься, мо пан пабачыць лепей, пабачыць тадысс! Яна ліхая, яна зусьсім нядобрая, тая брамасс! Не, несс!

– Досыць, – буркнуў Сэм. – Хадзем.

У змроку вандроўнікі выбраліся зь ямы й павольна пакрочылі па мёртвай зямлі. Далёка не прайшлі, калі іх зноў дагнаў жах – той самы, які адчулі, калі крылаты цень пранесься над багнамі. Тады пападалі на смуродную зямлю, хаваючыся, але ў нудотным змроку над галавою не пабачылі анічога. Неўзабаве пагроза мінула, пранеслася высока, можа сьпяшаючыся па якой патрэбе Барад-дуру. Хутка Глыкс устаў дый ізноў папоўз наперад, мырмычучы й уздрыгваючы.

Недзе праз гадзіну пасьля поўначы жах напаткаў іх трэці раз. Аднак зараз падаваўся больш аддаленым, бы зь вялізнай вышыні, дзе над аблокамі імчаў на захад крылаты вястун Мордару. Глыкс, аднак, упрост здранцьвеў ад страху й пераканаўся, што іх заўважылі, што на іх ужо палююць.

– Тры разы! – праенчыў ён. – Тры разы – гэта ўжо дакладна. Яны чуюць, што мы тут, яны чуюць кашштоўнасьсьць. Кашштоўнасьць – іхні гаспадар. Мы ня можам ісьці далей да брамы. Гэта бессkарыссна, бескарыссна!

Просьбы й добрыя словы не дапамаглі. Толькі калі Фрода загадаў раззлавана дый паклаў руку на цаўё меча, тады Глыкс узьняўся. І зарычаў пры тым, што пабіты сабака.

Так і клыпалі да канца ночы, стаміліся ўшчэнт і да пачатку другога дня брылі, пахіліўшы галовы, ня бачачы й ня чуючы анічога, апрача сьвісту ветру ў вушах.

## *3. Чорная Брама зачыненая*

Яшчэ да ранку падарожжа сягнула мэты. Шлях у Мордар, дрыгва й балаты засталіся за сьпінамі. Перад вандроўнікамі, чорныя пад бляклымі нябёсамі, узьняліся пагрозьлівыя галовы магутных гор.

Захад Мордару прыкрываўся змрочным хрыбтом Эфэл Дуату, гарамі Ценю, а поўнач – раскрышанымі крывымі пікамі ды рванымі хрыбтамі Эрэд Літуі, шэрымі, бы попел. Былі яны часткамі адной вялізнай сьцяны, што адгароджвала журботныя роўнядзі Літладу й Гаргарату ды горка-салёнае возера Нурнен пасярод іх, а злучаючыся, выкідвала на поўнач доўгія адгор'і, паміж якімі ляжала глыбокая даліна. Называлася яна Кірыт Гаргар, перавал Прывідаў, – уваход у краіну Ворага. Высачэзныя скалы грувасьціліся па абодвух яе баках, а ля рыгва, прасунутыя на поўнач, узвышаліся дзьве вялізныя чорныя голыя стромы. На іх стаялі іклы Мордару – пара высокіх моцных вежаў. У даўно прамінулыя дні пабудавалі іх людзі Гондару: у часіну сваёй магутнасьці й вялікага гонару, пасьля зрынаньня Саўрона й ягоных уцёкаў, каб ня здолеў ён вярнуцца да былога валадарства. Але ж моц Гондару марнела, варта згубіла пільнасьць, і шмат гадоў вежы стаялі пустыя, пакінутыя. Тады Саўрон вярнуўся. Вежы, што ўжо развальваліся ад занядбаньня, былі адрамантаваныя, напоўненыя зброяй, населеныя заўжды пільнымі гарнізонамі. Суворыя вежы пазіралі на поўнач, на захад, на ўсход чорнымі праваламі вартавых вокнаў, і з кожнага вакна заўжды цікавалі нядрэмныя вочы.

У рыгве цясьніны ад гары да гары Ўладар Мордару ўзьвёў мур. У ім зеўрала адзіная жалезная брама, над ёю па сьцяне няспынна крочылі вартаўнікі. А горы паабапал былі сьпярэшчаныя скляпеньнямі й дзіркамі. Там хавалася войска оркаў, гатовых на загад, бы чорныя мурашкі, кінуцца вонкі на вайну. Аніхто ня мог прабрацца паміж Іклямі Мордару, не адчуўшы, як кусаюць яны, – хіба толькі на заклік самога Саўрона альбо ведаючы таемныя словы, што адчынялі Маранан, Чорную Браму ягонай зямлі.

Хобіты ў адчаі пазіралі на вежы й муры. Нават з далечыні яны бачылі ў цьмяным сьвятле рухі чорных вартавых на сьцяне й вартаўнікоў перад брамай. Сябры выглядвалі з-за краю камяністай лагчавіны пад доўгім ценем паўночных адгор'яў Эфэл Дуату. Напрамкі, крумкачовым лётам, было ня болей за пару гоняў ад іхняга сховішча да вяршыні найбліжэйшай вежы. Лёгкі дымок віўся там, быццам тлелі нетры гары.

Надышоў дзень, і руда-жоўтае сонца зірнула на зьнежывелыя храбціны Эрэд Літуі. Раптам завылі медныя рогі, загулі з вартавых вежаў, адгукнуліся з далёкіх схаваных умацаваньняў і замчышчаў, і здаля, з глыбокай даліны, адбіліся моцныя, злавесныя, магутныя рогі й барабаны Барад-дуру. Яшчэ адзін жудасны дзень вусьцішы й зьнясільвальнай працы прыйшоў у Мордар. Начную варту паклікалі назад да яе скляпеньняў і пячораў, і дзённая варта, ліхавокая, лютая, шыхтавала да сваіх пастоў. На муры цьмяна бліскала сталь.

– Ну, дабраліся, – вымавіў Сэм. – Вось яна, брама, і падаецца мне, што далей нам – аніяк. Дзед мой тут ляпнуў бы слоўка-другое, калі б толькі мяне пабачыў. Часьцяком паўтараў: да благога дайду, калі не пасьцерагуся, і вось бач ты! Цяперачка, вядома, наўрад ці я калі шчэ старога пабачу. Ня буркне ён мне: "Казаў я табе, Сэме!" І да таго добра дадаў бы. І дадаваў бы, пакуль дыханьня хапіла б, каб толькі я пабачыў

яго зноў. Адылі для таго давялося б вымыцца як сьлед, бо ён мяне не пазнаў бы... Мяркую, зараз і сэнсу няма пытацца, куды нам далей? Далей няма куды – вядома, калі не папрасіць оркаў правесьці.

– Не, не! – занепакоіўся Глыкс. – Бескарысссна. Далей нам нельга. Сьмеяголь менавіта так і казаў. Казаў: сягнем брамы, а там пабачым. Воссь і бачым, таксс. Бачым, мая кашштоўнасьсьць! Сьмеяголь ведаў, што хобітсы тут ня пройдуць. Таксс, Сьмеяголь ведаў.

– Тады якой халеры ты нас сюды прывёў? – бухнуў Сэм у раздражненьні, не падумаўшы.

– Бо пан зззагадаў. Пан каззаў: прывядзі насс да брамы. Добры Сьмеяголь прывёў. Пан ссказаў так, мудры пан.

– Так, я сказаў, – пацьвердзіў Фрода.

На ягоным твары быў адчай, але й рашучасьць. Фрода, хоць увесь у брудзе, схуднелы й абдрапаны, зьнясілены стомай, болей не хаваўся, і вочы ягоныя зьзялі ясна й пранізьліва.

– Я сказаў так, бо хачу патрапіць у Мордар і ня ведаю іншага шляху. Таму я пайду гэтым. І не прашу анікога ісьці з мною.

– Не, добры гаспадар, не! – залямантаваў Глыкс у адчаі, хапаючы Фрода за ногі, за вопратку. – Ня йдзіце гэтым шляхам! Бескарысна! Не аддавайцьце кашштоўнасьсьць *яму*! Ён усіх насс жжарэ, жжарэ ўвесьсь сьсьвет! Трымайце яе, добры пан, стаўцесься добра да Сьмеяголя! Не дазваляйце *яму* ссхапіць яе! Ці вяртайцесься, вяртайцесься да добрых мессцаў, дый вярніце яе маленькаму Сьмеяголю. Таксс, таксс, ссспадару, вярніце, га? Сьмеяголь захавае яе, Сьмеяголь абароніць яе, зробіць шшмат, шшмат добрага, ассабліва хобітссам. Няхай хобітссы ідуць дахаты. Ня йдзіце да брамы!

– Мне загадана йсьці ў Мордар, і я пайду туды, – вымавіў Фрода. – Калі існуе толькі адзіны шлях туды, я рушу па ім. Чаму наканавана здарыцца на тым шляху – тое й здарыцца.

Сэм не сказаў анічога. Позірку на Фродаў твар было дастаткова. Словы тут нічога не зьмянілі б. Урэшце, ён ад самага пачатку гэтай авантуры аніякай надзеі ня меў, аднак і адчаю не паддаваўся, жыў як жывецца й радаваўся, пакуль мог. А зараз сягнулі канцоўкі – горкай і жудаснай. Але ж ён не пакідаў спадара ўвесь шлях, дзеля таго й дабраўся дасюль, каб быць поруч, і ўжо не пакіне яго. Гаспадар ня пойдзе ў Мордар адзін. Сэм пойдзе разам. Адно добра: хоць ад Глыкса пазбавяцца.

Глыкс, аднак, зусім не хацеў, каб ад яго пазбаўляліся. Ён упаў наўколенцы ля Фродавых ног, ламаючы рукі й выючы.

– Толькі не туды, гаспадару, толькі не туды! Ёсьсьць іншы шшлях, таксс, іншшы! Зусім не такі, змрачнейшшы, цяжэйшшы, непрыкметны, сакрэтнейшшы! Сьмеяголь ведае яго. Дазвольце Сьмеяголю паказаць яго вам!

– Іншы шлях? – спытаў Фрода з сумневам, гледзячы на Глыкса пранізьліва й запытальна.

– Такс! Насамрэч, таксс! Быў іншшы шшляхх. Сьмеяголь знайшшоў яго. Пойдзем зірнем – мо ён яшшчэ іссную!

– Ты раней не казаў пра яго.

– Не. Бо гасспадар не пытаўся. Гаспадар ня кажа, шшто хоча рабіць. Ня кажа небараку Сьмеяголю. Загадаў яму прывесьсьці да брамы, а тады хацеў разьвітацца зь Сьмеяголем, таксс. Сьмеяголь зараз мог бегчы прэч ды радавацца. А восьсь спадар

кажа: я пайду тут у Мордар. Сьмеяголь надта напалохаўсься, надта. Ён ня хоча страціць такога добрага пана. І ён жа абяцаў, пан прымусіў яго абяцаць, ахоўваць кашштоўнасьсьць. Але пан прынясьсе яе прама *яму*, проста ў *ягоную* чорную руку, калі пойдзе гэтым шляхам. Таму Сьмеяголь мусьсіць выратаваць іх абодвух і ўзгадвае на іншы шлях. Быў калісьці іншы шлях, даўным-даўна, Сьмеяголь яго ведае. Дапаможа добраму пану. Сьмеяголь вельмі добры, заўжды дапамагае.

Сэм нахмурыўся. Калі б позірк насамрэч сьвідраваў, дык, напэўна, працяў бы Глыкса наскрозь. Сэма перапаўнялі сумнеў і падозраньні. Вонкава Глыкс падаваўся найшчыра заклапочаным тым, каб дапамагчы Фрода. Але ж Сэм, памятаючы падслуханую спрэчку, ня надта верыў, што даўно патаптаны, загнаны ўглыб Сьмеяголь перамог у ёй. Сэм палічыў, што Сьмеяголь і Глыкс (ці Сьлімак і Сьмярдзяк – як ён называў у думках палавінкі гэтай пачварнай натуры) часова памірыліся й склалі зьвяз. Бо аніводны не хацеў, каб пярсьцёнак патрапіў да Ворага, не хацеў, каб Фрода захапілі ці каб ён сыходзіў прэч. А хацелі, каб Фрода як мага болей заставаўся побач – да таго, ва ўсялякім разе, пакуль Сьмярдзяк яшчэ мае шанец накласьці лапы на сваю "кашштоўнасьсьць". Ці існуе насамрэч іншы шлях у Мордар, Сэм сумняваўся.

"І добра ж, што аніякая палова пачвары ня ведае, што спадар насамрэч плянуе, – меркаваў ён. – Калі б даведаўся, што пан Фрода жадае скончыць з ягонай каштоўнасьцю раз і назаўсёды, то бяда не забавілася б, сумневу няма. Гэтак ці йнакш, Сьмярдзяк атрымаў нейкі загад ад Ворага, і так *ім* напалоханы, што хутчэй выдасьць нас, чым выдасьць нам пра гэны загад. А асабліва ён не дазволіць ягонай каштоўнасьці расплавіцца. Напэўна, так яно й будзе. Спадзяюся, гаспадар здагадаецца пра тое ды ўсё асьцярожна абмяркуе. Ён жа мудры, але ж у яго сэрца мяккае – вось у чым рэч. Аніякі Гэйхад не здагадаецца, што прыйдзе яму да галавы".

Фрода не адразу адказаў Глыксу. А пакуль сумневы мкнулі праз кемлівы, але нясьпешны Сэмаў розум, ён паглядаў на змрочныя скалы Кірыт Гаргар. Яміна, у якой хаваліся, была выкапаная ў схіле невысокага пагорку над дном доўгай, падобнай да канавы даліны, што цягнулася пад скаламі. Пасярод даліны тырчэла чорная скала – падмурак заходняй вартавой вежы. У ранішнім сьвятле ўжо выразна рысаваліся бальшакі, якія сыходзіліся да Брамы Мордару, пыльныя й утаптаныя. Адзін віўся на поўнач, другі зьнікаў на ўсходзе ў туманах, што чапляліся за падэшвы Эрэд Літуі, а трэці бег проста пад хобітамі. Крута агінаючы падмуркі вежы, гэтая дарога хавалася ў вузкай лагчавіне й праходзіла зусім побач зь ямінаю. А праваруч, на захадзе, паварочвала, абягаючы падэшву гор, і тады сьпяшала на поўдзень і хавалася ў глыбокім цені заходніх схілаў Эфэл Дуату. Далёка па-за межамі зроку бальшак цягнуўся па вузкай палосцы зямлі паміж гарамі й Вялікай ракою.

Як зразумеў Фрода, роўнядзь перад брамаю запоўненая ваярамі. Падавалася, велізарныя войскі рушаць да брамы, хоць разгледзець іх было цяжкавата з-за смуродных туманоў і дыму з пустэчаў-багнаў за сьпінамі. Але ж там і тут бліскаў шалом ці канчар дзіды, і па роўнай глебе побач з гасьцінцамі скакала мноства харугваў вершнікаў. Фрода згадаў, што пабачылася яму з Аман Эн колькі дзён таму, хоць цяпер падавалася – доўгіх гадоў. А тады зразумеў, што надзея, якая на адно шалёнае, неверагоднае імгненьне варухнулася ў ягоным сэрцы, дарэмная. Рогі завылі насустрач ваярам ня ў закліку да бойкі, а вітальна. Не, ня людзі Гондару сабраліся, узьняліся, нібы помсьлівыя прывіды з даўніх магілаў, каб напасьці на Чорнага Ўладара. Але ж тое людзі іншых плямёнаў, з шырокіх пратораў Усходу зьбіраліся на

заклік свайго найвялікшага гаспадара. Войскі, якія ўночы стаялі лягерам перад брамаю, раніцою рушылі, каб дадаць моцы Мордару. Зьнянацку цалкам зразумеўшы небясьпеку свайго становішча – адкрытага варожым вачам пад зыркім сьвятлом дня й гэткага блізкага да жудаснай пагрозы, – Фрода хутка насунуў пацёрты шэры каптур на галаву й зьлез долу, у яміну. Тады павярнуўся да Глыкса.

– Сьмеяголь, – вымавіў ён, – я даверуся табе яшчэ раз. Падаецца, я павінен так рабіць, і мой лёс – атрымліваць дапамогу ад цябе, ад каго я меней за ўсё чакаў дапамогі. А твой лёс – дапамагаць мне, таму, каго ты столькі часу перасьледаваў зь ліхою мэтай. Дагэтуль ты спраўдзіў мой давер, трымаючы абяцаньне, і таму варты падзякі. Ты сапраўды спраўдзіў давер, – дадаў, скасіўшыся на Сэма, – бо двойчы мы былі ў тваёй уладзе й ты не пашкодзіў нам. І не спрабаваў адабраць у мяне тое, чаго калісьці шукаў. Магчыма, трэці раз ты выявіш сябе яшчэ лепшым чынам! Аднак я папярэджваю цябе, Сьмеяголь, – ты ў небясьпецы!

– Такс, таксс, гаспадар! – згадзіўся Сьмеяголь. – У жахлівай небясьпецы! Нават і костачкі Сьмеяголевы дрыжаць, калі ён згадвае гэткія жудасьці, але ён не бяжыць, ён мусіць дапамагаць добраму пану.

– Я меў на ўвазе ня тую небясьпеку, якая пагражае ўсім нам аднолькава, – вымавіў Фрода. – Я меў на ўвазе небясьпеку табе аднаму. Ты пакляўся на тым, што называеш каштоўнасьцю. Не забывайся! Яна прымусіць цябе стрымаць абяцаньне, але ж будзе шукаць, каб сказіць сэнс словаў і зьнішчыць цябе праз тое. Гэты сэнс ужо пакрывіўся ў тваім розуме. Хвіліну таму ты з дурасьці сам адкрыўся мне. Ты сказаў: "Вярніце яе Сьмеяголю". Не кажы так зноў! Не дазваляй гэтай думцы завалодаць табою! Ты аніколі не атрымаеш *яе*. Але ж прага атрымаць здрадзіць табе й загубіць цябе. Ты аніколі не атрымаеш *яе*. Калі ў мяне ня будзе іншага выйсьця, я насуну каштоўнасьць, а яна цалкам увязьніла цябе безьліч гадоў таму. І калі я, маючы *яе* на руцэ, загадаю табе, ты выканаеш загад, нават калі я скажу, каб ты скочыў з скалы ці кінуўся ў полымя. А загад мой будзе менавіта такі. Так што сьцеражыся, Сьмеяголь!

Сэм паглядаў на гаспадара з ухвалай, але ж і зь зьдзіўленьнем, бо чуў такія ноткі ў голасе, бачыў такі выраз на твары, якіх не заўважаў аніколі раней. Заўсёды лічыў, што добры спадар Фрода мяккаваты характарам і праз тую дабрыню нават відавочнага ня бачыць. Зь іншага боку, цьвёрда трымаўся меркаваньня, што пан ягоны – наймудрэйшая асоба ў сьвеце (хіба за выключэньнем старога Більба й Гэндальфа), і не зьвяртаў увагі, што адно супярэчыць другому. Глыкс, які ведаў Фрода нашмат меней, напэўна, таксама зрабіў такую памылку, зблытаўшы дабрыню зь някемлівасьцю. Так ці інакш, Фродава прамова агаломшыла й жахнула яго. Ён дрыжэў, прыціснуўшыся пузам да зямлі, дый енчыў толькі:

– Добры пан, добры пан.

Фрода цярпліва счакаў троху, а тады вымавіў ня так сувора:

– Ну, Глыкс, ці Сьмеяголь, або як ты сябе хочаш зваць, распавядзі мне пра іншы шлях і пакажы мне, калі здолееш, якая надзея ў ім, пераканай мяне, што варта адмовіцца ад відавочнага шляху. Хутчэй, бо я сьпяшаюся.

Але ж Глыкса цалкам узрушыла й зьбіла з панталыку Фродава пагроза. Аніякага яснага расповеду нельга было выцягнуць зь яго, бо ён толькі мармытаў ды енчыў і ўвесь час кідаўся на зямлю й маліў абодвух хобітаў зьлітавацца зь "няшчаснага маленькага Сьмеяголя". Аднак зь цягам часу крыху паспакайнеў, і Фрода высьветліў, кропля за кропляй, што, калі рушыш па бальшаку ўздоўж узножжаў Эфэл Дуату, сягнеш кольца змрочных дрэваў. А там направа вядзе шлях да Азгіліяту й мосту праз Андуйн, проста ж шлях цягнецца на поўдзень.

– Ідзе, ідзе, ідзе... – казаў Глыкс. – Мы аніколі той дарогай не хадзілі, але ж кажуць, што доўжыцца яна сотні міляў, пакуль не сягае Вялікай вады, якая заўжды неспакойная. Там мноства рыбы й вялізныя птушкі ядуць рыбу, цудоўныя птушкі, але мы аніколі туды не хадзілі, шкада, не было ў насс мажлівасьсьці! А далей, кажуць, яшчэ болей земляў, але Жоўтая Пыса там надта гарачая, і аблокаў амаль няма, і людзі там лютыя ды цемнатварыя. Мы не жадаем бачыць тую зямлю!

– Не, – пацьвердзіў Фрода. – Але ж не адхіляйся ад свайго шляху. Што наконт трэцяга бальшаку?

– Такс, таксс, ёсьсьць трэці гасьсьцінец. Налева ён ідзе. І адразу ўздымаецца, віецца й вядзе да высокіх ценяў. А калі заварочвае за скалу, тады й бачышш, раптам бачышш над сабою й ххочацца ссхавацца!

– Бачыш? Што бачыш?

– Сстарую, надта сстарую крэпасьсьць, надта вусьцішшную цяпер. Калі я быў малы, зусьсім малы, мы чулі звычайна расповеды з поўдня, даўно, даўно. Таксс, мы звыкліся слухаць мносства старых гісторый, седзячы на беразе Вялікай ракі, пад вербамі, калі рака была маладзейшшая такссама, глыксс, глыксс!

Глыкс заплакаў ды замармытаў. Хобіты цярпліва чакалі.

– Рассповеды з поўдня, – нарэшце працягнуў Глыкс, – пра высокіх людзей з бліскучымі вачыма, пра іхнія дамы, нібы каменныя горы, пра срэбную карону іхніх каралёў і Белае Дрэва. Цудоўныя рассповеды. Будавалі яны высачэразныя вежы, і адна зь іх была срэбна-белая, і быў у ёй камень, што месяц, а вакол – вялізманыя белыя муры. Таксс, мноcства паданьняў пра вежу Месяца.

– Тое, напэўна, Мінас Ітыль, як яго пабудаваў Ісільдар, сын Элендыля, – заўважыў Фрода. – Гэта Ісільдар адсек палец Ворага.

– Таксс. Ён мае толькі чатыры на Чорнай Руцэ, але ж яму доссыць, – здрыгануўся Глыкс. – І *ён* ненавідзеў горад Ісільдара.

– Ён усё ненавідзіць, – вымавіў Фрода. – Але ж што нам вежа Месяца?

– Таксс, пане, воссь шшто было й шшто ёсьць цяперака: высокая вежа, белыя дамы, мур, але цяпер ня добрыя, не прыгожанькія. Ён доўга ўжжо валодае ёю, доўга. Мессца вусьсьцішшы там цяпер. Вандроўнікі палохаюцца, пабачыўшшы вежу, паўзуць прэч, прэч ад яе ценю. Але пану давядзецца ісьсьцьці тым шшляхам. Бо там горы ніжэйшшыя й сстары бальшак падымаецца ў іх, падымаецца, пакуль не сьсягне змрочнага перавалу, і тады коціцца долу, долу, зноў – да Гаргарату, – Глыксаў голасператварыўся ў шэпт, і ён змоўк, уздрыгнуўшы.

– Але якая нам з таго карысьць? – спытаў Сэм. – Напэўна ж Вораг ведае ўсё пра ўласныя горы, і той шлях ахоўваецца ня горш за гэты? Вежа ж тая не пустая, так?

– О не, не пусстая! – прашаптаў Глыкс. – Падаецца, шшто пустая, а насамрэч не, не! Жудасныя, сccтрашшныя пачвары жывуць там. Оркі, заўжды оркі, але й горшыя, нашмат горшыя ісccтоты жывуць там. Шлях ідзе пад сьценамі, праходзіць побач з брамаю. Анічога ня можа рушыць па шляху непрыкметна для тых пачвараў. Заўважаць, бо яны – Маўклівыя Назіральнікі.

– Дык ты нам раіш, – абурыўся Сэм, – прашпацыраваць даўжэзныя дарогі на поўдзень, каб апынуцца ў гэткай самай трасцы, калі ня горшай, – і гэта пры ўмове, што мы яшчэ дабярэмся датуль.

– Не, ня таксс, – прашыпеў Глыкс. – Хобітсы мусьсяць пабачыць, зразумець. *Ён* не чакае нападу адтуль. Ягонае Вока шшнырыць паўсюль, але ж па некаторых мессцахх болей. *Ён* ня можа згледзець адначассова ўсьсё, пакуль ня можа. Бачце, *ён* ужо захапіў усю краіну на захад ад гор Ценю да ракі, а цяпер ужо трымае й масты. Ён

мяркуе, што анішто не праб'ецца да вежы Месяца бязь бітвы на мастах і бяз мноства чоўнаў, якія схаваць цяжка й пра якія *ён* даведаецца.

– Падаецца, ты шмат ведаеш пра тое, што *ён* мяркуе й робіць, – заўважыў Сэм. – Ці ты зь *ім* размаўляў апошнім часам? Ці з оркамі шлындаўся?

– Нядобры хобіт, някемлівы, – Глыкс кінуў на Сэма раззлаваны позірк дый павярнуўся да Фрода. – Сьмеяголь размаўляў з оркамі, вядома ж, таксс, да таго, як напаткаў пана, і яшшчэ з мноссствам, бо вандраваў далёка й доўга. Тое, шшто ён зараз кажа, шшмат хто казаў. Цяпер на Поўначы вялікая небясьсьпека *яму* й нам. Ён аднойчы выйдзе з Чорнай Брамы, неўзабаве ўжо. Толькі туды можа падысьсьці вялікае войска. Але ж там, на захадзе, *ён* не баіцца анічога, і там – Маўклівыя Назіральнікі.

– Ну дык і што? – не здаваўся Сэм. – І мы вось так упрост падыдзем, пагрукаем у брамы й спытаем, ці не памыліліся мы зь сьцежкаю ў Мордар? Ці яны занадта маўклівыя, каб адказаць? Бязглузьдзіца. З такім посьпехам паспрабуем тут, і ногі зьбіваць не спатрэбіцца.

– Не жартуй таксссс, – прашыпеў Глыкс. – Ня сьсьмешшна, Не, зусім ня сьсьмешшна. Бязглузьдзіца ўвогуле совацца ў Мордар. Але калі гасспадар кажа: "*я мушшу ісьці*" ці "*я пайду*", тады яму варта абраць які шшляхх. Але ж ён ня мусьсіць ісьсьці ў той жудасны горад, не! Вось дзе Сьмеяголь дапаможа, добры Сьмеяголь, хоць аніххто ня кажа яму навошшта. Сьмеяголь зноў дапаможа. Ён вынайшшаў. Ён ведае.

– Што ты знайшоў? – спытаў Фрода.

Глыкс апусьціўся на кукішкі, і голас ягоны зноў ператварыўся ў шэпт.

– Маленечкую сьсьцежку высока ў горы, а там лесьвіцу, вузкую лесьсьвіцу, таксс, надта вузкую, надта доўгую. Шмат ссссходаў. А тады – тунэль, змрочны тунэль, нарэсьсьце вузкая цясьніна – і сьцежка высока над галоўным перавалам. Тым шшляхам Сьмеяголь уцёк зь цемры. Але тое было шшмат, шшмат гадоў таму. Сьсьцежка магла зьнікнуць, але, можа, і не, мо й не.

– Мне гэнае зусім не даспадобы, – гнуў сваё Сэм. – Неяк ужо занадта лёгка атрымліваецца. Калі сьцежка й ёсьць, дык яе, вядома, таксама ахоўваюць. Ці яе не ахоўваюць, Глыкс?

Сказаўшы, заўважыў – ці падалося, што заўважыў, – узбліск зялёнага полымя ў Глыксавых вачох. Той прамармытаў нешта, але ж не адказаў.

– Ці ахоўваецца перавал? – спытаў Фрода строга. – Ці насамрэч ты ўцёк зь цемры, Сьмеяголь? Ці не дазволілі табе сысьці, даўшы загад? Так палічыў Арагорн, які ўпаляваў цябе на Мерцьвяковых багнах колькі гадоў таму.

– Гэта ххлусьсьня! – прашыпеў Глыкс, і ліхое полымя ўспыхнула ў ягоных вачох пры гуках Арагорнавага імя. – Ён ссхлусьсіў пра мяне, ссхлусьсіў! Я ўцёк, ссам па ссабе. Ссссапраўды, мне казалі шшукаць кашштоўнасьсьць, і я шшукаў, вядома ж, шшукаў! Але ж не для Чорнага, не. Кашштоўнасьсьць была нашшая, была мая, восьсь. Я ўцёк, уцёк!

Фрода адчуваў дзівосную ўпэўненасьць у тым, што тут Глыкс і насамрэч недалёка ад праўды ці ад таго, што лічыў праўдай. Што неяк адшукаў шлях з Мордару й паверыў, што гэта ён сам, сваім спрытам выбраўся. Перш за ўсё хобіт заўважыў, што Глыкс казаў "*я*" ў тых рэдкіх абставінах, калі апошнія рэшткі старадаўняй шчырасьці й праўдзівасьці ўсплывалі ў ягонай натуры. Але ж нават калі даверыцца знакам Глыксавай шчырасьці, ня трэба забывацца на ліхую мудрасьць

Ворага. "Уцёкі" маглі дазволіць ці нават асобна сплянаваць у Цёмнай вежы й добра пра іх ведаць. У любым выпадку, Глыкс, відавочна, шмат чаго не дагаворваў.

– Я зноўку спытаю цябе, – паўтарыў Фрода, – ці ахоўваецца той шлях?

Але ж імя Арагорна раззлавала Глыкса. Выглядаў ён як хлус, якога ў рэдкі момант шчырасьці западозрылі ў мане. Ён не адказаў.

– Ці ахоўваецца ён? – перапытаў Фрода.

– Такcс, такcс, мажліва! У тую краіну няма бясьсьпечных сьсьцежак! – прабурчэў Глыкс пакрыўджана. – Няма такіхх шшляхоў! Але ж пан няхай спрабуе яго ці йдзе даххаты! Няма іншшых шшляххоў!

Болей анічога хобіты ад Глыкса не дамагліся. Назоў таго шляху й перавалу ён ня ведаў ці не захацеў распавядаць.

А клікалі тую мясьціну Кірыт Унгал – імя з вусьцішных чутак. Можа, Арагорн згадаў бы яго дый патлумачыў ягоны сэнс, Гэндальф папярэдзіў бы хобітаў. Але ж Арагорн быў далёка, а Гэндальф стаяў пасярод руінаў Ізенградку й перамаўляў з Саруманам, затрыманы ягонай здрадай. Але ж нават калі ён абвяшчаў прысуд Саруману й палантыр з грукатам уразаўся ў прыступкі Ортанку, чараўнік не пераставаў думаць пра Фрода й Сэмвайза, розум ягоны праз доўгія мілі шукаў іх у надзеі й спачуваньні.

Можа, Фрода адчуваў тое, сам таго не ўсьведамляючы, як на Аман Эн, хоць і лічыў Гэндальфа загінулым, назаўсёды зьніклым у цені Морыі, далёка адсюль. Фрода доўга маўкліва сядзеў на зямлі, нахіліўшы галаву, намагаючыся ўзгадаць усё тое, што Гэндальф калісьці распавядаў яму. Але ж парады для свайго выбару не знайшоў. Надта рана страцілі яны Гэндальфава ачольства й раду, калі зямля Ценю была яшчэ так далёка. Як уступіць у яе, Гэндальф так і не сказаў. Мо й сам ня ведаў. Ён аднойчы пракраўся ў цьвярдыню ворага на поўначы, у Дул Гулдур. Але ж у Мордары, ля Вогненнай гары й Барад-дуру, пасьля таго, як Чорны Уладар узьняўся ў моцы зноў, – ці пабываў ён там? Напэўна, не. А цяпер маленькаму паўросьліку з Шыру, простаму хобіту зь ціхай вёскі трэ было знайсьці шлях туды, куды не маглі ці не адважваліся рушыць нават найвялікшыя й наймагутнейшыя. Ліхі выпаў яму кон. Але ж ён сам пагадзіўся ўзгрувасьціць яго на сябе ва ўласным пакоі леташняю вясною, цяпер такой далёкай, як частка гісторыі пра юнацтва сусьвету, пра пракаветную мінуўшчыну, калі яшчэ квітнелі Залатое й Срэбнае Дрэвы. Ліхі выбар ляжаў перад ім. І што абраць? А калі ўсе шляхі вядуць да вусьцішы й пагібелі, які сэнс выбіраць?

Дзень цягнуўся павольна. Глыбокая цішыня вісела над невялічкай лагчавінай, дзе вандроўнікі хаваліся так блізка ад межаў краіны жаху. Цішыня гэтая нават адчувалася, нібыта тоўстая завеса, што адгарадзіла іх ад сусьвету. Над імі разьвінуўся купал бляклых нябёсаў, заплямлены палосамі дыму, ён падаваўся надта далёкім, недасяжным, быццам бачаны з дна глыбокага калодзежу, запоўненага цяжкім пагрозьлівым паветрам.

Нават арол, праляцеўшы пад сонцам, не заўважыў бы тут хобітаў, нерухомых, маўклівых, зьнясіленых цяжарам лёсу, укрытых тонкімі шэрымі плашчамі. Мо ўгледзеўся б на момант у Глыкса – маленечкую постаць на зямлі. І палічыў бы яго, верагодна, станчэлым трупікам чалавечага дзіцяці, памерлага з голаду, у лахманах, якія яшчэ чапляліся за цела, з доўгімі рукамі й нагамі, зьбялелымі, што косткі, і амаль гэткай таўшчыні – ані лапіку мяса.

Фрода сядзеў, пахіліўшы галаву на калені, а Сэм адкінуўся на сьпіну, заклаўшы рукі за галаву, і таращчыўся з-пад каптура ў пустыя нябёсы. Ужо даўно пустыя. А

тады раптам Сэм прыкмеціў нешта цёмнае, падобнае да птушкі, што ўплыло ў поле ягонага зроку, сьлізнула прэч, зьнікла, а тады ўплыло ізноў – відавочна, лётаючы коламі. Праплылі яшчэ два, і чацьвёртае за імі. На погляд яны падаваліся малюсенечкімі, але ж Сэм аднекуль ведаў, што насамрэч яны вялізарныя, зь неабсяжным размахам крылаў, і лунаюць на вялікай вышыні. Тады прыкрыў вочы й нахіліўся наперад, скурчыўшыся. Яго агарнуў той самы папераджальны жах, які находзіў у прысутнасьці Чорных Вершнікаў, бездапаможная вусьціш, што прыляцела разам зь лямантам па ветры й ценем пад месяцам, хоць зараз ня ціснула гэтак, ня нудзіла. Пагроза была далей, але ж заставалася пагрозаю. Фрода таксама адчуў яе. Яна парушыла яго задумлівасьць. Ён варухнуўся й уздрыгнуў, аднак угару ня глянуў. А Глыкс скурчыўся й сьціснуўся, бы павук, загнаны ў кут. Крылатыя цені павярнулі й хутка пачалі спускацца, вяртаючыся ў Мордар.

Сэм глыбока ўдыхнуў.

– Вершнікі зноў над намі, высока ў паветры, – вымавіў хрыпатым шэптам. – Я бачыў іх. Мяркуеце, яны здольныя бачыць нас? Яны былі надта высока. А калі яны – Чорныя Вершнікі, тыя самыя, што й раней, яны ж ня здольныя пабачыць шмат у дзённым сьвятле, так?

– Напэўна, так, – адказаў Фрода. – Але ж іхнія пачвары бачаць. А гэтыя крылатыя стварэньні, на якіх яны зараз верхам, напэўна, маюць зрок вастрэйшы, чым у любой іншай пачвары. Яны падобныя да вялізных сьцярвятнікаў. Яны вышукваюць нешта. Баюся, Вораг насьцярожаны.

Пачуцьцё жаху мінула, ал е ж завеса цішыні распалася. Колькі часу былі адрэзаныя ад сьвету, бы на нябачнай высьпе, і вось зноў ляжалі непрыкрытыя перад варожым, небясьпечным краем. Але Фрода анічога не казаў Глыксу й выбару яшчэ не зрабіў. Ягоныя вочы былі заплюшчаныя, быццам ён мроіў ці зазіраў ва ўласнае сэрца, ва ўспаміны. Нарэшце паварушыўся, падняўся, падалося, вось зараз загаворыць, абвесьціць вырашэньне.

– Слухайце! – раптам прамовіў ён. – Што гэта?

Новая жуда набліжалася да іх. Зараўлі сьпевы й грубыя выгукі. Спачатку падаваліся далёкімі, але ж набліжаліся. Рушылі проста да падарожнікаў, да якіх адразу скочыла думка: іх заўважылі Чорныя Крылы й ужо выслалі ваяроў, каб захапіць. Аніякая хуткасьць не падавалася завялікай для гэтых паслугачоў Саўрона. Вандроўнікі скурчыліся, прыслухоўваючыся. Галасы ды бразгат зброі й збруяў чуліся надта блізка. Фрода з Сэмам расшпілілі завязкі на похвах мечаў. Бо ўцякаць не было куды.

Глыкс павольна падняўся і, рыхтык жук, падпоўз да краю яміны. Надта асьцярожна, цалю за цаляй, прыўзьняўся, пакуль ня вызірнуў вонкі паміж двума аскепкамі камянёў. І застыў так бязгучна на пэўны час. Паступова галасы зноўку заціхлі. І зьніклі ў далечыні. Далёка на сьценах Маранану загуў рог. Тады Глыкс спакойна адсунуўся й сасьлізнуў долу.

– Усё болей людзей ідзе ў Мордар, – вымавіў ціхенька. – Цемнатварыя. Не, раней мы ня бачылі такіх людзей, Сьмеяголь ня бачыў. Лютыя. Чарнавокія, з доўгімі чорнымі валасамі, з залатымі кольцамі-завушніцамі, такcс, шшмат цудоўнага золатасс. А ў некаторых шчокі пафарбаваныя чырвоным, і плашчы чырвоныя, і сьцягі, і канчары дзідаў. І тарчы ў іх круглыя, жоўтыя й чорныя, зь вялізнымі шыпамі. Нядобрыя людзі, з выгляду жорссткія й злоссныя людзі. Амаль гэткія дрэнныя, як оркі, але ж нашмат большыя. Сьмеяголь мяркуе: яны прыйшлі з Поўдня за сутокай

Вялікай ракі, бо тэпалі па тым шляху. Яны прайшлі ў Чорную Браму, і яшчэ шмат пойдзе за імі. Заўжды ўсё болей людзей ідзе ў Мордар. Аднойчы ўсе людзі там будуць.

– А ці былі там аліфаўнты? – Сэм забыўся на страх у жаданьні зьвестак пра дзівосныя землі й нязнаных істотаў.

– Не, аніякіх аліфаўнтаў. А што такое аліфаўнты? – спытаў Глыкс.

Сэм падняўся, заклаў рукі за сьпіну (як заўжды рабіў, калі займаўся "вершагаворкаю") дый пачаў:

*Шарэй ад мышэй,*
*Ад столі вышэй,*
*Нос – зьмяёю.*
*Дрыжыць пада мною*
*Зямля, калі крочу*
*Й дрэвы курочу.*
*З рагамі ў пашчы*
*На Поўдні ў пушчы*
*Заўжды шпацырую,*
*Вушамі вятрую.*
*Заўсёды тапчуся,*
*Але не кладуся,*
*Да сьмерці не павалюся,*
*Бо Аліфаўнт завуся!*
*Дужэйшы за ўсіх,*
*Маладых ці старых.*
*Калі напаткаеш,*
*Адразу пазнаеш,*
*А калі не –*
*Не паверыш мне.*
*Бо я Аліфаўнт завуся,*
*Ніколі не пахіснуся!*

– Гэта, – дадаў Сэм, скончыўшы вершаваньне, – песенька, якая ў нас, у Шыры, ёсьцека. Можа, лухцень, а мо й не. У нас жа свае казкі й навіны з Поўдня, ведаеш. У даўнія дні хобіты час ад часу выпраўляліся вандраваць. Ня шмат хто вярнуўся з тых валацужніцтваў, і ня ўсім вандроўным байкам давалі веры. Нават і кажуць: "прыгорскія навіны" – пра нешта, ня вартае даверу. А пра нашае ўласнае кажуць: "пэўнае, бо шырскае". Але ж я чуў расповеды пра даўгалыгіх з сонечных земляў. Асмуглямі іх клічуць у нашых казках, і гаворыцца, што ў бойку яны едуць на аліфаўнтах і б'юцца зь іх. Асмуглі будуюць на аліфаўнтах хаты й вежы, а зьвяры кідаюцца камянямі й дрэвамі адзін у аднога. Таму, калі ты казаў: "*Людзі з Поўдня, усе ў чырвані й золаце*", – я й спытаў: "*Ці былі зь імі аліфаўнты?*" Бо калі былі б, я абавязкова зірнуў бы – рызыкова тое ці не. Але ж цяпер, падаецца, я аніколі ня ўбачу аліфаўнта. Мо такой пачвары й увогуле не існуе.

Ён уздыхнуў.

– Не, няма аліфаўнтаў, – паўтарыў Глыкс. – Сьмеяголь ня чуў пра іх. Ён ня хоча іх бачыць. Ён ня хоча, каб яны існавалі. Сьмеяголь хоча выбрацца адсьсюль дый

ссхавацца недзе ў бясьсьпечнейшшым мессцы. Сьмеяголь хоча, каб пан ссышоў адсьсюль. Добры пан, ці ня пойдзе ён зь Сьмеяголем?

Фрода ўзьняўся. Сярод усіх сваіх ваганьняў ён засьмяяўся, пачуўшы Сэмаў дзіцячы вершык пра аліфаўнта, і сьмех пазбавіў яго сумневу.

– Хацеў бы я, каб мы мелі тысячу аліфаўнтаў, дый наперадзе – белага, а на ім – правадыр Гэндальф, – сказаў ён. – Тады мы й і праламалі б праход у гэтую ліхую зямлю. Але ж іх у нас няма, а ёсьць толькі нашыя стомленыя ногі. Ну, Сьмеяголь, трэці шлях, магчыма, апынецца найлепшым. Я пайду з табою.

– Добры пан, мудры гасспадар, файны гасспадар! – выгукнуў Глыкс задаволена, пляскаючы па Фродавых каленях. – Добры пан! Тады адпачніце, файныя хобітссы, адпачніце ў цені камянёў, пад ссамымі камянючыкамі! Ляжыце ссpackoйна, пакуль не схаваецца Жоўтая Пысса. Тады пойдзьдзем хутка, хуценька. Цішшшэй і хутчэй за цені мы рушшым!

## *4. Пра зёлкі й паранага трусіка*

Апошнія колькі гадзінаў да змроку адпачывалі, перасоўваючыся, каб заставацца па-за сонцам, пакуль нарэшце цень заходняга краю яміны ня выцягнуўся й не запоўніў прастору цемраю. Тады крыху пад'елі й выпілі па глыточку. Глыкс ня еў анічога, але ваду прыняў з радасьцю.

– Неўзабаве болей будзе, – паведаміў, аблізваючыся. – Добрая вада, з струменяў, якія бягуць да Вялікай ракі, добрая вада там, куды мы крочым. Сьмеяголь там і ежы здабудзе, магчыма. Бо ён жа надта галодненькі, такcс, глыкcс!

Ён паклаў пляскатыя далоні на ўпалае бруха, і вочы ягоныя зазьзялі блядна-зялёным полымем.

Вечаровы змрок паглыбеў, калі нарэшце выправіліся, перапоўзшы заходні край яміны й растварыўшыся, нібы прывіды, сярод рытвінаў ды ўзгоркаў ля краю бальшаку. Падпоўнік (тры ночы да поўні) не падняўся над гарамі да самай поўначы, і на пачатку ночы вісела паўнюткая цемра. На вартавой вежы Мордару сьвяціўся адзіны чырвоны агеньчык, апроч таго ані знаку не было відаць або чуваць ад бяссоннай варты Маранану.

Шмат вёрстаў чырвонае вока, падавалася, сьвідравала ім сьпіны, калі яны спатыкаліся па камяністай няроўнай пустэчы. Па бальшаку крочыць не адважваліся, трымаліся леваруч ад яго, не адыходзячы далёка, калі тое атрымлівалася ў цемры. Калі ўжо наблізілася раніца й усе надта стаміліся, бо адзіны раз усяго прыпыніліся адпачыць, чырвонае вока паціху зьменшала, пакуль ня зьнікла ўвогуле за змрочным паўночным адгор'ем, бо бальшак павярнуў за яго й цяпер кіраваў на поўдзень.

Зь дзівосна адноўленай надзеяй у сэрцах зноў крыху адпачылі. Зусім нядоўга, бо хобіты не пасьпявалі за Глыксам. Паводле ягоных падлікаў, ад Маранану да перакрыжаваньня над Азгіліятам было васямнаццаць міляў, і ён спадзяваўся адолець тую адлегласьць за чатыры пераходы. Так што хобіты неўзабаве рушылі зноўку, пакуль сьвітанак не запаліўся павольна ў неабсяжнай шэрай пустэчы нябёсаў. Вандроўнікі пакінулі за сьпінамі амаль пяць міляў, і хобіты ня здолелі б зрабіць ані кроку болей, нават калі б і жадалі.

Раніца адкрыла ім зямлю значна меней апаганеную й запустэчаную. Горы яшчэ высіліся злавесна леваруч, але ж наперадзе дарога, відавочна, збочвала ад чорных караніскаў гор на захад. Ніжэй схілы хуталіся ў магутныя змрочныя дрэвы, нібы ў хмары, а вышэй, сярод нагрувашчаных камяніскаў, усё парасло кустоўем: верасам, ракітнікам, кізілам дый іншымі, якім і назваў хобіты ня ведалі. Там і тут тырчэлі купкі высачэзных соснаў. Настрой хобіцкі крыху прыўзьняўся, насуперак стоме, бо й паветра плыло сьвежае, духмянае, і мясьціны нагадвалі верхавіны Паўночнага падзелу далёка-далёка адсюль. Падавалася, добра адкласьці вусьціш, аддаліцца ад краіны жаху й крочыць па зямлі, якая нядаўна патрапіла пад вока Чорнага Ўладара й яшчэ не спустэчылася цалкам. Але пра небясьпеку не забываліся, бо Чорная Брама заставалася блізка, хоць яе й хавалі адгор'і. Вандроўнікі адшукалі сабе схованку, дзе маглі ўратавацца ад варожых позіркаў, пакуль сьветла.

Дзень праміную неспакойна. Ляжалі ў густых зарасьцях верасу й адлічвалі нясьпешныя гадзіны, падчас якіх амаль нічога не мянялася. Бо знаходзіліся яшчэ пад ценем Эфэл Дуату, дый сонца засмужылася. Фрода час ад часу правальваўся ў сон, глыбокі й спакойны, ці давяраючы Глыксу, ці надта стаміўшыся, каб клапаціцца,

Сэм жа заснуць не наважваўся, хіба драмаў троху насьцярожана, нават калі Глыкс відочна спаў бяз задніх ног, сапучы й уздрыгваючы ад нечага ў сваіх таемных марах. Мабыць, болей за падазронасьць Сэма пазбаўляў сну голад. Хобіт затужыў па добрай хатняй ежы, па нечым "гарачанькім з гаршэчку".

Як толькі навакольле ператварылася ў бясформавую шэрасьць у прыцемках блізкай ночы, рушылі зноў. Глыкс дазволіў крыху прайсьці па шляху. Хоць небясьпека там была большая, але ж тэпалі хутчэй. Напружвалі слых, намагаючыся пачуць пошчак капытоў альбо ног наперадзе ці ззаду. Аднак ноч мінула, і не пачулі ані вершніка, ані пешага.

Бальшак зрабілі шмат гадоў таму. Недзе вёрстаў трыццаць ад Маранану адрамантавалі, але ж далей час і зарасьці адольвалі дарогу. Майстэрства людзей мінуўшчыны яшчэ пазнавалася, бо ішоў гасьцінец надзіва проста й роўна, там і тут праразаў схілы пагоркаў ці вёў над ручаінамі па шырокім аркавым мосьце, надзвычай дужа змураваным. Усё ж паступова зьніклі ўсе сьляды працы былых каменячосаў. Толькі раз-пораз высоўваліся з кустоў аскепкі калёнаў ці стары брук прарастаў паміж травой і мохам. Дрэвы й папараць зь верасам цясьнілі дарогу й нават выбіраліся на ейную паверхню, навісалі над ёй. А бальшак сышоў у вазковую сьцягу паміж глухімі вёскамі. Але ж ня віўся й не пятляў – вёў па-ранейшаму проста й найхутчэйшым чынам.

Так крочылі ў паўночнае памежжа зямлі, якую людзі калісьці назвалі *Ітыльён*, – прыгожую краіну сьветлых лясоў і жвавых бурлівых струменяў на горных схілах. Ноч папрыгажэла пад зорамі й прамяністым падпоўнікам, і хобітам падалося: паветра зрабілася духмянейшым. З фырканьня й мармытаньня Глыкса адзначылі, што той таксама заўважыў водар, хоць і ня надта яму ўзрадаваўся. Зь першым сьвятлом спыніліся ля месца, дзе шлях ішоў праз доўгі схіл, глыбока ўразаючыся ў яго. Пасярэдзіне, там, дзе дарога перасякала камяністы грэбень адгор'я, праходзіў вузкі калідор з стромымі сьценамі.

Вандроўнікі ўскараскаліся на заходнюю сьцяну калідору й зірнулі навокал. Раніца распалілася ў нябёсах і паказала, што горы значна аддаліліся: адыходзяць павольнаю дугою на ўсход і амаль губляюцца ў далечыні. А на захад цягнуцца, павольна зьніжаючыся, доўгія схілы й растачаюцца недзе ў зыбкай смузе панізьзяў. Паўсюль навокал купкаваліся ляскі іглістых дрэваў: елак, хвояў, кедраў, кіпарысаў дый іншых, невядомых у Шыры, а паміж ляскамі ляжалі шырокія паляны. Паўсюль буйна расьло безьліч зёлак з салодкім водарам ды кустоў. Доўгая вандроўка ад Долага Яру прывяла хобітаў далёка на поўдзень ад роднай зямлі, але ж толькі зараз, у мясьцінах, закрытых ад подыхаў халадоў, адчулі яны сапраўдныя перамены. Тут панавала вясна. Каліўцы працінаці імхі й лішайнікі, галіны лістоўніцаў апраналіся ў зяленіва, зіхацелі маленькія красачкі сярод травы, сьпявалі птушкі. Ітыльён, забраны, недагледжаны сад Гондару, яшчэ захаваў былую міласьць і жывое буйнае харaство.

На поўдні й на захадзе Ітыльён падыходзіў да цёплай даліны ніжняга Андуйну, з усходу яго загароджваў Эфэл Дуат, не азмрачаючы, аднак, сваім ценем. З поўначы краіну засланяў Эмін Мюйл. Ітыльён адкрываўся на поўдзень для цёплага ветру й вільготнага подыху далёкага мора. Мноства магутных дрэваў расло ў Ітыльёне. Пасаджаныя ў далёкай мінуўшчыне, цяпер яны старэлі сярод бязладнага гушчару буйных сваіх нашчадкаў; непраходна й шчыльна разрасьліся тамарыск і духмяная тарпантына, алівы й лаўры. Ялавец, і мірт, і чабор гуртаваліся кустамі ці гнуткімі пругкімі сьцяблінамі ахутвалі камяні, хаваючы іх нібы пад дываном. Шалвеі мноства відаў квітнелі блакітнымі, чырвонымі ці зырка-зялёнымі краскамі, там і тут сьвежа

зелянелі маяран, пятрушка й мноства іншых зёлак, ані выглядам, ані пахам не падобныя ні да чаго вядомага садаводу Сэму. Гроты й скалы ўжо аздобіліся парасткамі ядранцу ды кісьліцы. Сярод зарасьцяў ляшчыны прачнуліся ветранкі й кураськлепкі, нарцызы й мноства лілеяўківалі паўраскрытымі бутонамі ў траве, зялёнай ды высокай сярод азёрцаў, дзе імклівыя ручаіны прыпыняліся, разьліваючыся ў прахалодных каменных келіхах па дарозе да Андуйну.

Вандроўнікі павярнуліся сьпінамі да гасьцінцу й крочылі ўніз. Прабіраліся сярод кустоў ды траваў, тонучы ў салодкіх пахах. Глыкс кашляў і перхаў нібы рыгаючы, а хобіты глыбока ўдыхалі. Сэм засьмяяўся нечакана – не ад якога жарту, а папросту ад радасьці жыцьця. Пайшлі ўздоўж струменю, які хутка бег уніз і неўзабаве прывёў іх да маленькага чыстага азярца ў неглыбокай лагчавіне. Ляжала азярцо ў зруйнаваным старажытным каменным вадатоку, ягоны вычасаны край амаль цалкам схавалі імхі ды калючы шыпшыньнік. Тут шэрагамі стаялі зграбныя касачы, лісты лотаці гайдаліся на цёмных, дробных аксамітавых хвальках. Было азярцо глыбокае й сьвежае, вада выцякала зь яго, пераваьльваючы праз каменны край на заходнім баку.

Тут вандроўнікі памыліся й напіліся ўдосыць з ручаіны, што ўлівалася ў ставок. Тады прыняліся шукаць сховішча, бо Ітыльён хоць і падаваўся сьветлым і прыгожым, усё ж быў цяпер зямлёю Ворага. Прайшлі па шляху няшмат, а ўжо пабачылі й шнары былых войнаў, і новыя, зробленыя оркамі й іншымі гідкімі паслугачамі Чорнага Ўладара: незакапаныя ямы зь сьмецьцем ды смуродлівым брудам, дрэвы, паваленыя без патрэбы й пакінутыя трупехнуць, зь ліхімі рунамі ці злымі пазнакамі Вока, груба вычасанымі на кары.

Сэм пралез троху ніжэй за дальні край азярца, кранаючы незнаёмыя дрэвы й расьліны й прынюхваючыся да іх, забыўшыся пра Мордар і небясьпекі, – і адразу натыкнуўся на згадку заўжды прысутнай пагрозы. Раптоўна крочыў на выпаленую пляму вогнішча, пасярод якой грувасьцілася куча абпаленых, паламаных костак ды чарапоў. Жвавыя каліўцы церняў ды паўзучага нарыўніку ўжо прыкрылі гэтае жудаснае месца разьні й жэрства, але ж яно не было даўнім. Сэм хутка вярнуўся, але ж анічога пра знаходку не распавёў. Лепей, каб тыя косткі засталіся ў спакоі, каб Глыкс ня лапаў ды ня мацаў іх, шукаючы ежу.

– Трэ адшукаць месца, каб залегчы на дзень, – сказаў Сэм. – І не ніжэй, чым тут. Па мне, дык трэба вышэй шукаць.

Крыху вышэй ад азярца знайшлі цёмна-буры хмыз леташняй папараці. За ім караскалася на стромым схіле шчыльная купа цёмналістых лаўраў, а наверсе пагорак каранавалі старыя моцныя кедры. За папарацьцю й вырашылі адпачыць ды правесьці дзень, які ўжо абяцаў зыркасьць і цеплыню. Добры дзень, каб шпацыраваць па гаёх ды палянах Ітыльёну. Аднак хоць оркі й хаваюцца ад сонечнага сьвятла, існуе надта шмат спратаў, дзе яны могуць адлёжвацца ў засадзе. Дый акрамя оркавых стае ліхіх вачэй, бо ў Саўрона шмат паслужнікаў. У любым выпадку, Глыкс пад Жоўтай Пысай рухацца не адважваўся. Неўзабаве яна вызірне з-за змрочных храбтоў Эфэл Дуату й Глыкс самлее ды скурчыцца, захінаючыся ад сьвятла й сьпякоты.

Яшчэ калі ішлі, Сэм самым сур'ёзным чынам меркаваў пра ежу. Адчай непраходнай Чорнай Брамы прамінуў, і зараз Сэм зусім ня траціў, як ягоны гаспадар, надзеі на харчаваньне пасьля таго, як вандроўка сягне мэты. Дый ва ўсялякім выпадку яму падавалася мудрэйшым захоўваць эльфаў хлеб на горшыя часы. З таго часу, як падлічыў, што прыпасаў засталося ледзь-ледзь на тры тыдні, прайшло ўжо шэсьць дзён.

"Нам моцна пашанцуе, калі сягнем Полымя за гэткі час! – меркаваў ён. – А, магчыма ж, і назад захочам вярнуцца. Цалкам верагодна!"

Да таго ж пасьля доўгага начнога пераходу, пасьля мыцьця й піцьця ўдосыць ён пачуўся нават галаднейшым за звычайнае. Вячэру ці хоць бы падвячорак які з агменю старой кухні ў Прыторбінскай слабадзе – вось чаго ён насамрэч прагнуў. Тут да ягонай галавы прыйшла ідэя, і ён павярнуўся да Глыкса. Той якраз хацеў высьлізнуць некуды на сваіх Глыксавых справах і ўжо краўся на чацьвярэньках праз папараць.

– Гэй, Глыксе! – паклікаў Сэм. – Ты куды? Паляваць? Ну, бачыш, стары пралаза, табе нашая ежа не даспадобы, дый я не адмовіўся б ад якой зьмены. Тваё ж новае жыцьцёвае выслоўе: "Заўжды дапамагаць". Мо й дапаможаш знайсьці чаго ядомага галоднаму хобіту?

– Мажліва, таксс, – адказаў Глыкс. – Сьмеяголь заўжды дапамагае, калі папросяць. Асабліва, калі папросьсяць добрас, таксс.

– Слушна! – пацьвердзіў Сэм. – Дык я прашу. А калі тое недастаткова добра, дык і ўпрошваю, таксс.

Глыкс зьнік. Фрода, зьеўшы крыху лембасу, забраўся ў гушчар папараці й заснуў. Сэм глянуў на яго. Сьвятло раніцы яшчэ толькі падбіралася да ценяў пад дрэвамі, але ж надта ясна вырысоўваліся й спадароў твар, і рукі. Фрода ляжаў на сьпіне, паклаўшы далоні на зямлю ўздоўж цела, і Сэм нечакана ўзгадаў, што гэтаксама ляжаў Фрода ў сядзібе Эльранда, прынесены зь сьмяротнаю ранаю. Тады, пільнуючы ля ложка, Сэм прыкмеціў: нібы слабое сьвятло зьзяе знутры хобіта. Зараз жа сьвятло лілося яшчэ зырчэй і ясьней. Фродаў твар поўніўся спакоем, усялякія пазнакі страху й клопату пакінулі яго, але ж ён падаваўся старым, старым і прыгожым, быццам нясьпешны разец гадоў адкрыў мноства рысаў, схаваных да таго, хоць твар і застаўся той самы, што быў заўсёды. Сэм Гэйхад уявіў сабе гэта ня так. Ён патрос галавою, бо адчаяўся знайсьці патрэбныя словы, і прашаптаў: "Люблю я яго. Вось такі ён, і неяк яно вонкі выходзіць, гэтак во. А я ўсё адно люблю яго, з тым ці без таго".

Глыкс вярнуўся ціхенька й вызірнуў з-за Сэмавага пляча. Убачыўшы Фрода, заплюшчыў вочы й бязгучна папоўз прэч. Праз момант Сэм падышоў да Глыкса. Той штосьці жаваў і нешта мармытаў пад нос. Побач на зямлі ляжалі два маленькія трусікі, на якіх Глыкс ужо кідаў прагныя позіркі.

– Сьмеяголь заўжды дапамагае, – пахваліўся Глыкс. – Прынёсс трусьсікаў, ффайныхх трусьсікаў. Але гасспадар сьсьпіць. Мо й Ссэм засьсьне? Ня ххоча трусьсікаў зараз? Сьсьмеяголь ссстараецца дапамагаць, але ж ён ня можа злавіць еміну за ххвілінусс.

Сэм, аднак, быў зусім ня супраць трусікаў зараз жа й так і абвесьціў. Асабліва ён быў ня супраць добра згатаванага трусіка. Усе хобіты здольныя гатаваць. Гэтаму майстэрству яны навучаюцца яшчэ да абэцэды (да якой шмат хто й не даходзіць), а Сэм быў добрым кухарам нават на хобіцкі разьлік і, калі толькі надараўся шанец, добра гатаваў і падчас вандроўкі. З гэткай надзеяй ён нёс колькі кухарскіх прыладаў у хатулі: скрыначку з крэсівам, дзьве неглыбокія каструлькі, адну ў другой, а ў меншай – драўляную лыжку, кароткі двузубы відэлец ды колькі пожагаў, а на дне заплечніка ў пляскатай драўлянай скрынцы хаваўся найвялікшы (і такі паменшалы) скарб – соль. Але ж патрабаваўся агонь і яшчэ сёе-тое. Сэм паразважаў крыху, вымаючы нож, чысьцячы й вострачы аб камень, дый прыняўся скубці трусікаў. Не, соннага Фрода ён самотным не пакіне ані на хвіліну.

– Гэй, Глыксе, – вымавіў ён. – У мяне шчэ ёсьць для цябе праца. Схадзі напоўні гэтыя рондалі вадою й прынясі сюды.

– Сьсьмеяголь прынясьсе ваду, таксс, – адгукнуўся той. – А навошшта хобіттсу ўсься тая вада? Ён напіўсься, ён памыўсься!

– Ну, не твая справа. Калі не здагадаўся, дык неўзабаве дазнаесься. І чым хутчэй прынясеш ваду, тым хутчэй дазнаесься. І каструлі мае не пашкодзь, а то я цябе ў фарш пакрышу.

Калі Глыкс сышоў, Сэм зірнуў на Фрода яшчэ раз. Той па-ранейшаму спакойна спаў але зараз Сэма ўразіла больш за ўсё схуднеласьць твару й рук.

– Нейкі ён занадта тонкі й гонкі, – прамармытаў Сэм. – Няправільна для хобіта. Калі згатую зайкоў, дык і пабуджу яго.

Сэм сабраў кучу найсушэйшай папараці, папоўзаў па схіле, адшукаў сукоў ды ламачча. Упалая галіна кедру дала яму вялікі прыпас паліва. Тады выразаў дзярніну ля ўзножжа схілу, проста за зарасьцямі папараці, зрабіў неглыбокую яміну й склаў туды дровы. Спрытна ўправіўся з крэсівам і неўзабаве разьдзьмуў невялікі агеньчык, які амаль не дыміў, але струменіў духмяны водар. Сэм якраз схіліўся над вогнішчам, прыкрываючы яго й падкладваючы таўсьцейшыя паленцы, калі вярнуўся Глыкс, асьцярожна несучы каструлі й буркочучы пад нос.

Паставіў каструлі долу й раптам заўважыў, што робіць Сэм. Узьвіснуў шыпліва і, падалося, адначасова напалохаўся й раззлаваўся.

– Вохх! Шшш – не! – выгукнуў ён. – Не! Дурны хобітс, дурны, дурны, таксс! Яны мусьсяць не рабіць такога, таксс!

– Чаго такога? – зьдзівіўся Сэм.

– Рабіць гідкія чырвоныя языкісс, – вышыпеў Глыкс. – Полымясс, полымясс! Небясьсьсьпечна, таксс! Яно абпальвае, яно забівае! Яно ворагаў прывядзе, таксс, прывядзе!

– Не, думаю, не прывядзе, – адказаў Сэм. – І ня бачу, чаму яно мусіць прывесьці. Хіба ты што мокрае сунеш туды й наробіш дыму. Але ж калі прывядзе – што рабіць? Рызыкну, анічога болей не застаецца. Бо трэба ж зайкоў прапарыць.

– Прапарыць трусікаў? – заенчыў Глыкс у адчаі. – Сапсаваць цудоўнае мясца, якое няшчасны, галодны Глыкс здабыў, захаваў для цябе? Навошта? Навошта, дурны хобітс? Яны маладзенькія, яны мякенькія, файненькія. Ешш іхх, ешш!

Ён працягнуў руку да найбліжэйшага трусіка, ужо абскубанага й пакладзенага побач з вогнішчам.

– Ну, ну, – засьцярог Сэм. – Кожны па-свойму есьць. Наш хлеб табе ў глотку ня лезе, а ў маю сыры заяц не папрэцца. Калі ўжо мне трусоў аддаў, бач ты, дык я маю права й гатаваць іх, калі схачу. А я хачу. І ня трэба гэтак зерыцца на мяне. Ідзі дый злаві яшчэ што й жары як сам умееш – дзе-нідзе падалей ад маіх вачэй. Тады й полымя ня ўбачыш, і я цябе ня ўбачу, і абодва будзем шчасьлівейшыя. Я ўжо прыгледжу, каб вогнішча не дыміла, калі тое цябе супакоіць.

Глыкс адсунуўся, буркочучы, дый адпоўз у папараць. А Сэм заняўся каструлямі. Сказаў сабе: "Што хобіту патрэбна для трусікаў, дык гэта якіх зёлак ды каранёў, а асабліва бульбачкі – ужо ня кажучы пра хлеб. Зёлак, падаецца, маглі б і знайсьці тут".

– Глыксе! – пагукаў ён напаўголасу. – Трэці раз за ўсё сплочвае, як гаворыцца. Мне трэба якіх зёлак.

Глыксава галава вытыркнулася з папараці, але ж прага дапамагчы зусім не сьвяцілася на твары.

– Зьбяры-тка колькі лаўровых лістоў, крыху чабору, шалвею, пакуль вада не закіпела, – папрасіў Сэм.

– Не! – адрэзаў Глыкс. – Сьмеяголь незадаволены. Сьмеяголю не даспадобы смуродныя лісты. Ён ня есьсьць зёлак ці караньчукоў, не, кашштоўнасьсьць, толькі калі паміраe з голаду ці калі надта ххворы, няшшчассны Ссьмеяголь!

– Сьмеяголь патрапіць у кіпень, сапраўдны злы кіпень, калі ня зробіць, што просяць, – гыркнуў Сэм. – Сэм ягоную галаву ў кіпень засуне, такcс, кашштоўнасьсьць! А яшчэ я прымусіў бы яго пашукаць морквы й рэпы, і бульбачак таксама, калі б для іх быў адпаведны час. Закладаюся: тут досыць усялякага дабра расьце дзічком. А я што заўгодна аддаў бы за паўтузіна бульбачак.

– Сьмеяголь ня пойдзьдзьдзе, не, о, кашштоўнасьсьць, ня ў гэты раззз! – прашыпеў Глыкс. – Ён запалохханы, ён надта стаміўсьсься, а хобітсс нядобры, зусьсім нядобры. Ссьмеяголь ня будзе шшукаць караньчукі, і цыбульбу, і сморкву, і бульбуччо. Шшто такое бульбуччо, га, кашштоўнасьць, шшто такое?

– Бульба, вось што такое, – патлумачыў Сэм. – Дзеду майму найвялікшая асалода, і надта добрая запраўка пустому страўніку. Але ж цяпер ты іх ня знойдзеш, так што й не шукай. Лепей будзь добранькім Сьмеяголем ды прынясі мне зёлак, і я нашмат лепей пра цябе падумаю. І болей за тое: калі прынясеш сьвежых лісточкаў і ўвогуле будзеш добра сябе паводзіць, дык я табе як-небудзь згатую бульбачкі. Насамрэч, смажаная рыба з бульбаю ад С. Гэйхада. Нябось не ўтрымаесься тады.

– Не, несс, утрымаемсься мы, такcс. Псссаваць рыбу, абпальваць рыбу, не-ссс! Дай мне рыбу заразз, забірай сссваё бульбуччо!

– Вох, ты безнадзейны, – уздыхнуў Сэм. – Ідзі лепей пасьпі.

Урэшце ён сам адшукаў жаданае, хоць і не адыходзіў далёка, каб не выпускаць з вачэй соннага Фрода. Знайшоўшы, колькі часу сядзеў і разважаў ды даглядаў вогнішча, пакуль вада не закіпела. Дзень сьвятлеў і паветра сагрэлася, з травы й лістоў зьнікла раса. Неўзабаве парэзанае на кавалачкі трусінае мяса парылася ў каструльках побач з пучкамі зёлак. У чаканьні Сэм ледзь не заснуў. Бо варыў трусяціну амаль гадзіну, торкаючы яе раз-пораз відэльцам і каштуючы ўзвар.

Як палічыў страву гатовай, зьняў каструлі з полымя й падпоўз да Фрода. Калі стаў над Фрода, той напалову расплюшчыў вочы й прачнуўся, вынырнуў з сну – добрай, няўспомнай мары пра спакой.

– Вітаю, Сэме, – усьміхнуўся ён. – Табе не адпачываецца? Нешта ня так? Колькі часу зараз?

– Пару гадзінаў пасьля сьвітанку, – адказаў Сэм, – і недзе палова на дзявятую паводле шырскага гадзіньніка, так мяркую. Усё ў парадку. Але ж які такі парадак: ані юшкі нармалёвай, ані цыбулі, ані бульбінкі. Я вам крыху мясца згатаваў, пане Фрода, і супу да таго ж. Добра падсілкуе, насамрэч. Вы ўпрост з свайго куфля сёрбайце ці з каструлі, калі пастыне трошку. Бо я ж місаў ня ўзяў, і прыладаў аніякіх болей няма, так.

– Табе трэ было адпачыць, – пазяхнуў Фрода й пацягнуўся. – І вогнішча раскладваць у гэтых мясьцінах надта небясьпечна. Але ж я галодны. Хм, а што гэта я чую адсюль? Што гэта ты зварыў?

– Падарунак ад Сьмеяголя – парачка маладзенькіх трусікаў. Хоць, мяркую, Глыкс шкадуе, што аддаў іх мне. Да іх, на жаль, зусім анічога – хіба што зёлак крыху.

Сэм і ягоны спадар паселі сярод папараці й засёрбалі проста з каструляў, адною лыжкаю й адным відэльцам на двох. Дазволілі сабе яшчэ і па палове лембасу. Сьняданак падаўся сапраўднай бяседаю.

– Гэй, Глыксе! – паклікаў Сэм ціхенька й прысьвіснуў. – Давай сюды! Ёсьць час зьмяніць густы. Калі хочаш пакаштаваць паранага трусіка, дык у нас яшчэ засталося!

Адказу не было.

– Ну, напэўна, палез харчавацца па-свойму. Тады дакончым, што засталося, – вырашыў Сэм.

– А пасьля табе трэба паспаць, – дадаў Фрода.

– Вы толькі не зваліцеся, пакуль я носам дзёўбаю, пане Фрода. Нешта няма ў мяне пэўнасьці аніякай у Глыксе. Сьмердзяку ў ім – я маю на ўвазе благую частку ў гэнай пачвары – усё яшчэ досыць, і робіцца ўсё болей. Мяркую, аднак, мяне ён першым паспрабуе засіліць. Цяпер у вочы ня хоча зірнуць і ўвогуле зусім ён не задаволены Сэмам, вох, мая каштоўнасьсьць, зусім не задаволены.

Даелі, і Сэм выправіўся да струменю, каб вымыць посуд. Калі вымыў, то выпрастаўся, зірнуў назад, на схіл, і пабачыў: сонца паднялося з смугі, ці якогась туману, ці змрочнага ценю, што заўжды вісеў на ўсходзе, і праца ла залатымі промнямі зарасьці, асьвятліўшы паляну й дрэвы вакол яе. А тады прыкмеціў танюткую вітуніцу блакітна-шэрага дыму, надта заўважную ў сонечным сьвятле, якая падымалася ад схілу дакладна над зарасьцямі папараці. З жахам Сэм зразумеў, што гэта дым ад ягонага маленькага вогнішча, якое не прыгасіў.

– Не, трасца якая! Аніколі не падумаў бы, што гэтак яно выявіцца! – мармытаў сабе пад нос, сьпяшаючыся назад.

Раптоўна прыпыніўся, прыслухоўваючыся. Ці насамрэч пачуў сьвіст, ці падалося? Ці гэна птушка якая дзівосная? Калі гэта сьвіст, дык ня з Фродавага боку. А вось ізноў – і зь іншага месца! Сэм памчаў угару што ног.

І вынайшаў, што маленькая галіна, дагарэўшы да самага канца, запаліла папараць побач з вогнішчам, а тая, пыхнуўшы, перакінула агонь на старую траву. Сэм хуценька затаптаў рэшткі вогнішча, раскідаў вугольле й паклаў дзернавіну на ямку. Тады падпоўз да Фрода.

– Ці чулі вы сьвіст і сьвіст у адказ? – спытаў ён. – Колькі хвілінаў таму. Спадзяюся, гэна толькі птушка, але ж гучыць неадпаведна. Хутчэй, нехта прыпадабняўся да птушкі, так мяркую. Баюся, вогнішча маё задыміла, такая рэч. Калі цяпер з таго бяда выйдзе, аніколі сабе не дарую. Мо й шанцу мне ня будзе – дараваць альбо не.

– Ш-ш! – прашаптаў Фрода. – Падаецца, галасы.

Хобіты хутка сабралі заплечнікі й насунулі на сябе, гатовыя ўцякаць, ды запаўзьлі глыбей у гушчар папараці. Там замерлі, прыслухоўваючыся.

Галасы гучалі ўжо выразна. Ціхія, прыглушаныя, але не здалёку, і набліжаліся. Раптам нехта загаварыў зусім побач:

– Тут! Вось адкуль ішоў дым! Яно недзе побач. У папараці, безумоўна. Мы яго як труса ў пастку загонім. Тады й высьветлім, што за пачвара.

– Так, і што ёй вядома таксама, – дадаў другі голас.

І адразу чатыры чалавекі пайшлі праз папараць з розных бакоў. Паколькі ані ўцякаць, ані хавацца сэнсу не было, Сэм і Фрода ўскочылі, стаўшы сьпіна да сьпіны й выцягнуўшы корды.

Калі яны зьдзівіліся з таго, што пабачылі, дык паляўнічыя на іх зьдзівіліся нашмат болей. Чатыры высокія чалавекі стаялі побач. Два трымалі ў руках дзіды з шырокімі зыркімі лёзамі. Два мелі вялізныя, амаль у чалавечы рост, лукі й вялізныя ж сагайдакі, поўныя доўгіх зеленапёрых стрэлаў. Ва ўсіх на пасах віселі мечы, усе былі апранутыя ў бурае й зялёнае розных адценьняў, каб лепей прабірацца нябачнымі праз зарасьці Ітыльёну. Зялёныя пальчаткі прыкрывалі іхнія рукі, а твары хаваліся за зялёнымі каптурамі й маскамі, так што адтуль толькі бліскалі вочы, надта пранізьлівыя. Фрода адразу падумаў пра Бараміра, бо гэтыя людзі надта нагадвалі яго рысамі твараў і постацямі дый манераю гаворкі.

– Мы знайшлі ня тое, што шукалі, – вымавіў адзін. – Але што ж мы знайшлі?

– Гэта ня оркі, – другі адпусьціў цаўё меча, за якое быў схапіўся, убачыўшы бляск Джала ў Фродавай руцэ.

– Эльфы? – засумняваўся трэці.

– Не, ня эльфы, – адгукнуўся чацьверты, самы высокі, які падаваўся правадыром астатніх. – Эльфы нашымі днямі болей не зьяўляюцца ў Ітыльёне. Да таго ж эльфы надта прыгожыя з выгляду, як кажуць.

– Гэна значыць, мы ня надта прыглянуліся, я так разумею, – пакпіў Сэм. – Дзякуй вам вялікі. А калі вы ўжо скончылі нас абмяркоўваць, мо скажаце, хто вы такія й чаму не даяце двум стомленым падарожнікам адпачыць.

Высокі чалавек нядобра засьмяяўся.

– Я – Фарамір, гетман Гондару, – давёў ён. – А ў гэтай зямлі не бывае простых падарожнікаў – толькі тыя, што служаць альбо Белай вежы, альбо Цёмнай.

– Мы ані тыя, ані другія, – запярэчыў Фрода. – І мы менавіта падарожнікі, што ні казаў бы гетман Фарамір.

– Тады не марудзьце й абвесьціце нам мэты свайго падарожжа й свае імёны, – загадаў Фарамір. – Бо ў нас наперадзе праца, і зараз ня той час і ня тое месца, каб размаўляць загадкамі й марнасловіць. Хутчэй! Дзе ваш трэці?

– Трэці?

– Так, сьлізкі малюк, які шнарыў па азярцы троху ніжэй адсюль. Ня надта нам спадабаўся ягоны выгляд. Напэўна, ён зь нейкай выведніцкай пароды оркаў ці пачвара накшталт іх. Ён высьлізнуў ад нас нейкімі хітрыкамі.

– Я ня ведаю, дзе ён, – адказаў Фрода. – Ён толькі выпадковы спадарожнік нашае вандроўкі, я не адказваю за яго. Калі напаткаеце яго, зьлітуйцеся. Прывядзіце да нас альбо скажыце яму, дзе мы. Ён няшчасная бяздольная істота, але ж я клапаціўся пра яго колькі часу. Што ж тычыцца нас, мы хобіты з Шыру, які далёка на поўнач і на захад адсюль, за мноствам рэк і гор. Я – Фрода, сын Дрога, а з мною Сэмвайз, сын Хамфаста, годны хобіт, які паслугоўвае мне. Мы прайшлі доўгі шлях з Долага Яру, ці зь Імладрысу, як некаторыя называюць гэты край.

Тут Фарамір варухнуўся й відавочна насьцярожыўся.

– Сем спадарожнікаў было з намі. Аднаго мы страцілі ў Морыі, іншых пакінулі на Парт Галене над Рэрасам: двох з майго племені, а таксама гнома, эльфа й двох людзей. Людзі тыя былі Арагорн і Барамір, які казаў, што прыйшоў зь Мінас Тырыту, з гораду на поўдні.

– Барамір! – выгукнулі разам чацьвёра людзей.

– Барамір, сын уладара Дэнэтара? – перапытаў Фарамір, і на ягоным твары зьявіўся дзіўны суворы выраз. – Вы вандравалі зь ім? Гэта насамрэч навіны, калі гэта праўда. Ведайце, маленькія незнаёмцы, што Барамір, сын Дэнэтара, быў найвышэйшым вартавым Белай вежы, нашым вярхоўным ваяводам. Моцна не стае

нам яго. Хто вы такія й якое дачыненьне да яго маеце? Распавядайце хутчэй, бо сонца ўжо высока!

– Ці ведаеце вы загадку, якую Барамір прынёс у Долы Яр? – спытаў у адказ Фрода.

*Шукайце клінок зламаны,*
*У Імладрысе ён чакае.*

– Тыя словы насамрэч вядомыя, – вымавіў уражаны Фарамір. – Гэта прыкмета тваёй праўдзівасьці, раз ты ведаеш іх.

– Арагорн, чыё імя я ўжо назваў, – носьбіт Зламанага Клінка, – дадаў Фрода. – А мы паўросьлікі, пра якіх гаворыцца ў загадцы.

– Гэта я бачу, – Фарамір задумаўся. – Ці бачу, што так яно можа падавацца. А што такое тады "*Кон, Ісільдару вінны*"?

– Гэта пакуль схаванае ад разуменьня, – зазначыў Фрода. – Безумоўна, з часам высьветліцца й тое.

– Нам трэба вызнаць болей, – вырашыў Фарамір, – а таксама даведацца, што прывяло вас так далёка на ўсход, пад самы цень, – ён паказаў на ўсход, не назваўшы імя гаспадара ценю. – Але ж ня зараз. Нас чакае справа. Вы ў небясьпецы й не прайшлі б далёка па гэтым шляху сёньня. Яшчэ да полудня тут будзе ладная бойка. А тады для нас – альбо пагібель, альбо хуткія ўцёкі да Андуйну. Для вашага спакою й майго я пакіну з вамі двух вартаўнікоў. Мудрыя не давяраюць выпадковым стрэчам на дарозе гэтых земляў. Калі вярнуся, я перамоўлю з вамі болей.

– Да сустрэчы, спадар, – Фрода нізка пакланіўся. – Што ні думалі б вы, я – сябра ўсіх, хто змагаецца з Ворагам. Мы пайшлі б з вамі на бітву, калі б была надзея, што хобіты здолеюць дапамагчы вам, такім моцным і дужым людзям, і калі б мой кон дазволіў тое. Хай асьветліць сонца перамогі вашыя мечы!

– Паўросьлікі – ветлы народ, кім бы яшчэ яны ні былі, – адказаў Фарамір. – Да пабачэньня!

Хобіты паселі зноў, але ўжо не казалі адзін другому анічога пра свае думкі й сумневы. Бо побач, пад самым пярэстым ценем цемналістых лаўраў, сядзелі два ахоўнікі. Яны раз-пораз здымалі маскі, каб прахаладзіцца, бо рабілася ўсё сьпякотней, і Фрода пабачыў, што на выгляд яны нязлыя: сьветласкурыя, цёмнавалосыя, шэравокія, з тварамі сумнымі й ганарлівымі. Яны размаўлялі адзін з адным спачатку на Агульнай мове, але ж вымаўляючы яе на старажытны лад, а тады па-собску. На вялікае зьдзіўленьне, Фрода пазнаў эльфаву мову ці нешта надта да яе падобнае й зразумеў, што яны мусяць быць дунаданамі Поўдня, нашчадкамі гаспадароў Захаду.

Праз колькі часу сам адважыўся загаварыць зь імі. Але тыя адказвалі неахвотна й асьцярожна. Назваліся Маблунгам і Дамрадам, ваярамі Гондару, сьледапытамі Ітыльёну, бо паходзілі ад тых, хто калісьці жытлаваў тут перад мордарскім захопам. З такіх людзей уладар Дэнэтар набіраў асаблівае войска, прызначанае, каб таемна пераправіцца праз Андуйн (дзе й як – яны не казалі) і не даваць спакою оркам ды іншым ворагам, якія шнарылі паміж Эфэл Дуатам і Вялікай ракою.

– Адсюль амаль шэсьць міляў да ўсходняга берагу Андуйну, – паведаміў Маблунг. – Мы рэдка адыходзім гэтак далёка. Але ж маем асаблівы загад у гэтай выправе: падпільнаваць людзей з Хараду, праклён на іхнія галовы!

– А, клятыя паўднёўцы! – дадаў Дамрад. – Кажуць, наш Гондар у даўніну меў зносіны з каралеўствамі Хараду на далёкім поўдні, але ж сяброўства не наладжвалася аніколі. Тады межы нашыя праходзілі далёка на поўдні, за сутокамі Андуйну, і Ўмбар, найбліжэйшае зь іхніх каралеўстваў, прызнаваў нашую ўладу. Але ж тое было так даўно. Шмат чалавечых вякоў таму. А цяпер мы вызналі, што Вораг прыйшоў да іх і яны перадаліся *яму* ці ўпрост вярнуліся да *яго*, бо заўжды былі гатовыя выконваць ягоную волю, як і шмат хто на ўсходзе. І я не сумняюся, што дні Гондару ўжо адлічаныя, і адмераныя, і няшмат іх засталося. І муры Мінас Тырыту ня вытрымаюць, бо вялікімі зрабіліся *ягоныя* моц й ліха.

– Нягледзячы на тое, мы не чакаем склаўшы рукі й не дазваляем *яму* рабіць што заўгодна, – сказаў Маблунг. – Гэтыя клятыя паўднёўцы шпацыруюць па нашых старажытных шляхох, каб папоўніць арду Цёмнай вежы. Так, па тых самых шляхох, якія вырабіла майстэрства Гондару. І шпацыруюць усё бясклапотней, як мы вызналі. Бо мяркуюць, што моц іхняга новага пана так павялічылася, што адзін толькі цень *ягоных* гор можа абараніць іх. Ну, дык мы тут, каб іх крыху правучыць. Атрымалі зьвесткі колькі дзён таму, што іхняе вялікае войска рушыла на поўнач. Паводле нашых падлікаў, адна зь ягоных дружынаў якраз мусіць прайсьці да полудня там, дзе шлях вядзе праз калідор, прасечаны ў схіле. Прайсьці мусіць, але ж ня пройдзе! Ня пройдзе, пакуль Фарамір – наш гетман. Ён цяпер вядзе нас ва ўсе небясьпечныя выправы. Ці ягонае жыцьцё зачараванае, ці лёс захоўвае яго дзеля чагосьці, але ж заўжды яму шанцуе.

Размова сьцішылася, зьмянілася напружаным маўклівым чаканьнем. Усё падавалася нерухомым, затоена-назіральным. Сэм, што сядзеў побач з краем папарацевага гушчару, вызірнуў вонкі. Пільнымі хобіцкімі вачыма прыкмеціў, што вакол яшчэ мноства людзей. Яны ціха краліся ўверх па схілах, паасобку альбо доўгімі ланцужкамі, трымаючыся заўсёды ў цені дрэваў і кустоў, ці нават падпаўзалі, ледзь прыкметныя ў бура-зялёных вопратках сярод зарасьцяў. Усе – у каптурах і масках, у пальчатках, узброеныя, як Фарамір з паплечнікамі. Неўзабаве яны прайшлі й зьніклі. Сонца падымалася, пакуль ня вызірнула з поўдня. Цені сьціснуліся.

"Цікава, дзе агура Глыкс? – падумаў Сэм, адпаўзаючы назад, У гушчар. – Якраз яму файны шанец альбо орку на лязо патрапіць, альбо пад Жоўтаю Пысаю падсмажыцца. Ды, напэўна ж, ён пра сябе добра паклапоціцца".

Лёг побач з Фрода й задрамаў.

Прачнуўся, думаючы, што чуе выцьцё рагоў. Сеў, азіраючыся. Сонца ўжо амаль сягнула прытню. Ахоўнікі маўкліва й чакальна стаялі ў цені дрэваў. Зьнянацку рогі завылі гучней: беспамылкова, проста зьверху, ад вяршыні схілу. Сэму падалося: чуе дзікі лямант і выгукі, але ж слаба, быццам зь якой далёкай пячоры. І разам выбухнуў гвалт бойкі, зусім побач, над іхнім сховішчам. Выразна далятала скрыгатаньне, звон сталі аб сталь, ляскат меча аб жалезны шалом, глухое буханьне ляза па тарчы. Людзі крычалі шалёна й лямантавалі, і адзін ясны моцны голас гукаў: "Гондар! Гондар!"

– Рыхтык сотня кавалёў куе разам, – падзяліўся Сэм з Фрода. – І бліжэй, чым хацелася б.

Але гармідар бойкі яшчэ набліжаўся.

– Яны йдуць сюды! – выгукнуў Дамрад. – Зірніце, колькі паўднёвікаў вырвалася з пасткі й уцякае ад дарогі. Вунь яны! За імі нашыя на чале з гетманам!

Сэм, прагны да навінаў, узьняўся й далучыўся да ахоўнікаў. Нават ускараскаўся крыху на таўсьцейшы з лаўраў. На момант пабачыў, як смуглявыя людзі ў чырвоным імчаць крыху далей па схіле, а за імі скачуць апранутыя ў зялёнае ваяры й сякуць ворагаў на бягу. Ад стрэлаў пацямнела паветра. І тут зьнянацку проста цераз край схілу, за якім хаваліся, зваліўся чалавек. Ледзь не на галовы, праламаўшыся праз купку маладых дрэўцаў. І застаўся ляжаць ніцма ў папараці за некалькі ступнёў ад Сэма. Зь ягонай шыі, з-пад залатога каўняра, вытыркалася зеленапёрая страла. Пунсовы плашч быў разадраны, браня з бронзавай лускі – пакамячаная й пасечаная, пасмы чорных валасоў пераплеценых золатам, узмоклі ад крыві. Смуглявая рука яшчэ сьціскала цаўё зламанага меча.

Гэтак Сэм упершыню назіраў, як людзі б'юцца зь людзьмі, і відовішча яму зусім не спадабалася. Быў рады, што ня бачыць твар забітага. Ён падумаў: а як жа яго звалі, адкуль ён зьявіўся, ці быў насамрэч ліхі сэрцам, ці які падман альбо пагрозы выгналі яго з хаты й прывялі сюды, а мо ён хацеў застацца дома ў міры – суцэльны выбух думак, якія ўмомант пранесьліся скрозь Сэмаў розум. Аднак адразу й зьніклі, бо не пасьпеў Маблунг крочыць да мёртвага цела, як пачуўся новы гук – аглушальны гармідар енкаў і выгукаў. Сярод іх Сэм адрозьніў працяглае выцьцё, быццам нейкі вялізманы дудар дзьме ў дуду, а тады – моцны тупат і грукат, нібы таранамі калацілі ў глебу.

– Сьцеражыся! Сьцеражыся! – загукаў Дамрад таварышу. – Хай валары адвядуць яго ад нас! Мумак! Мумак!

На подзіў і жах, і на незвычайнае задавальненьне, Сэм пабачыў, як гіганцкая туша выламалася з купы дрэваў ды памчала ўніз па схіле. Вялізны, бы хата, не, нашмат большы за хату, Сэму зьвер падаўся шэрай гарою, якая раптам рушыла зь месца. Можа, страх і зьдзіўленьне павялічылі пачвару ў хобіцкіх вачох, але харадзкія мумакі насамрэч былі веліканскімі зьвярамі, цяпер падобных да іх ужо не сустрэць у Міжзем'і, а далёкія іхнія нашчадкі, якія дажылі да пазьнейшых дзён, – толькі слабая згадка колішніх велічы й моцы. Мумак імчаў проста на назіральнікаў і адвярнуў прэч у самы апошні момант, прабегшы ўсяго за некалькі сажняў, і зямля трэслася пад ягонымі нагамі, ствалamі дрэваў, і доўгі хобат узьняўся волатавай зьмяюкай, гатовай напасьці, а маленькія чырвоныя вочкі ажно палалі. Вялізныя, падобныя да рогаў іклы тырчэлі ўгару, і зь іх, акаваных золатам, пырскала кроў. Ягоная папона з пунсовай і залатой тканіны матлялася лахманамі. На сьпіне яшчэ хісталіся рэшткі будовіны, падобнай на сапраўдную замкавую вежу, раструшчанай, калі зьвер ламіўся праз дрэвы, а высока на шыі пачвары яшчэ адчайна чаплялася маленечкая постаць – цела ваяра-асілка, волата сярод паўднёўцаў.

Магутны зьвер стаптаў у сьляпым шаленстве зарасьці ля азярца ды патупаў прэч. Стрэлы бясшкодна сьлізгалі па таўшчэзнай скуры ягоных бакоў ці адскоквалі. І гондарцы, і паўднёўцы беглі перад ім, уцякалі, але шмат каго ён нагнаў і ўтаптаў у глебу. Неўзабаве зьнік з вачэй, усё трубячы й тупаючы. Што далей зрабілася зь ім, Сэм так і ня вызнаў: ці ўцёк ён, каб вольна бадзяжыць далёка ад дому й памерці сваёй сьмерцю або патрапіць у якую глыбокую яміну, нібы ў пастку, ці панёсься ў вар'яцтве, каб зваліцца ў Вялікую раку ды патануць.

Сэм глыбока ўздыхнуў.

– Вось гэта й быў аліфаўнт! – вымавіў ён. – Значыць, ёсьць у сусьвеце аліфаўнты, і я пабачыў аднога. Ну й дзіва! Аніхто ўдома мне не паверыць, гэта дакладна. Ну, раз усё скончылася, я крыху сасну.

– Сьпі, пакуль можаш, – пагадзіўся Маблунг. – Але ж калі гетман не паранены цяжка, ён вернецца сюды, а тады давядзецца хутка рушыць. За намі будзе пагоня, як толькі зьвесткі пра бітву сягнуць Ворага, а гэтага доўга чакаць не давядзецца.

– Ну, дык ідзіце спакойна, куды вам належыць! – адказаў на тое Сэм. – Навошта мяне будзіць? Я ўсю ноч тэпаў.

– Ня думаю, што гетман Фарамір дазволіць табе застацца тут, спадар Сэмвайз, – засьмяяўся Маблунг. – Ну, пабачым.

*5. Вакно на Захад*

Сэму падалося – паспаў усяго колькі хвілінаў, а ўжо паварочвала на вячор. Вярнуўся гетман Фарамір і прывёў з сабою ўсіх ацалелых у нядаўняй бітве – болей за дзьве сотні вaяроў. Зараз усе яны сабраліся, паселі паўколам на схіле, пасярод якога ўладкаваўся на зямлі Фарамір, Фрода стаяў перад ім. Выглядала гэта надзвычай падобна да суду над захопленым злачынцам.

Сэм выпаўз з папараці. Аніхто не зьвяртаў на яго ўвагі, і ён разьмесьціўся за шэрагамі людзей, дзе мог добра ўсё чуць і бачыць. І рабіў тое ўважліва, у кожную хвіліну гатовы кінуцца гаспадару на дапамогу. Сэм бачыў Фараміраў твар, ужо не схаваны маскаю, суворы й загадны, за ягонымі запрашальнымі, пранізьлівымі вачыма відаць быў востры розум. Таксама ў ягоным пільным позірку на Фрода чытаўся сумнеў.

Неўзабаве Сэм высьветліў, што гетмана не задаволілі некалькі месцаў у Фродавым расповедзе: якую менавіта ролю адыгрываў Фрода, калі вандроўнікі рушылі з Долага Яру, чаму ён пакінуў Бараміра й куды кіруецца цяпер. У прыватнасьці, ён часта вяртаўся да Ісільдаравага Кону. Відавочна, ён бачыў, што Фрода ўтойвае нешта вельмі каштоўнае.

– Менавіта падчас зьяўленьня паўросьліка Кон Ісільдара абудзіцца, як сьведчаць словы прароцтва, – настойваў ён. – Калі ты – той самы паўросьлік, безумоўна, ты прынёс тую рэч, чым яна ні была б, на Раду, дзе Барамір яе пабачыў. Ці абвяргаеш ты гэта?

Фрода не адказаў анічога.

– Файна! – сьцьвердзіў Фарамір. – Тады я хачу даведацца ад цябе болей пра гэтую рэч, бо ўсё, што тычыцца Бараміра, тычыцца й мяне. Старыя паданьні кажуць, што Ісільдара забіла страла орка. Але ж стрэлаў тых безьліч, і, пабачыўшы стралу, Барамір Гондарскі наўрад ці прыняў бы яе за пазнаку неадольнага лёсу. Ці ты захоўваеш гэтую рэч? Ты казаў – яна схаваная, ці не таму, што ты сам абраў хаваць яе?

– Не, я сам не абіраў анічога, – адказаў Фрода. – Яна належыць ня мне. Яна не належыць аніякаму сьмяротнаму, вялікаму альбо меншаму, хоць калі й абвяшчаць каму на яе правы, дык гэта Арагорну, сын Араторна, пра каго я ўжо казаў, які быў нашым правадыром ад Морыі да Рэрасу.

– Чаму ж ён, а не Барамір, князь гораду, заснаванага сынамі Элендыля?

– Таму што Арагорн – па бацькоўскай лініі наўпросты нашчадак самога Ісільдара, сына Элендыля. І меч, які ён нясе, – меч самога Элендыля.

Шэпт зьдзіўленьня пабег па шэрагах вaяроў. Некаторыя выгукнулі ўголас:

– Меч Элендыля! Меч Элендыля прыйдзе ў Мінас Тырыт! Файныя навіны!

Але ж твар Фараміра не варухнуўся.

– Магчыма, – вымавіў Фарамір. – Але ж гэткія вялікія словы спатрабуюць цьвёрдага абгрунтаваньня. Бессумнеўныя доказы мусіць даць той Арагорн, калі ён насамрэч зьявіцца ў Мінас Тырыце. Ані ён, ані хто іншы з вашай кампаніі не сягнуў гораду, дзе я быў яшчэ шэсьць дзён таму.

– Барамір прызнаўАрагорнава права, – тлумачыў Фрода. – Насамрэч, калі б Барамір быў тут, ён лепей за мяне адказаў бы на вашыя пытаньні. Ён быў ля Рэрасу ўжо шмат дзён таму й кіраваўся адразу ў ваш горад. Мяркую, калі вы вернецеся, то знойдзеце адказы там. Мая роля ў вандроўцы была вядомая яму, як і іншым маім спадарожнікам, бо прызначаная мне самім Эльрандам перад усёю Радай. Каб

адыграць гэтую ролю, я й зьявіўся сюды, але ж не ў маёй волі распавядаць пра яе анікому, апрача маіх спадарожнікаў. Тыя, хто, зь іхніх словаў, змагаюцца з Ворагам, лепей не перашкаджалі б маёй мэце.

Фродаў голас гучаў ганарліва, як ні пачуваўся б насамрэч Фрода, і Сэму тое спадабалася. Але ж Фараміру, відавочна, не прыйшлося даспадобы.

– Што ж, – вымавіў ён, – ты прапануеш мне займацца маімі справамі, вяртацца дахаты, а цябе адпусьціць. Барамір усё распавядзе, калі зьявіцца. Дык скажы, калі ж ён прыбудзе? Скажы, ці быў ты сябрам Бараміра?

Перад Фродавымі вачыма на момант зь незвычайнай жывасьцю паўстала тое, як Барамір кінуўся на яго, і хобіт не адказаў адразу. Фараміраў позірк спахмурнеў.

– Барамір мужны й адважны сябра нашай кампаніі, – вымавіў Фрода нарэшце. – Так, што тычыцца мяне, я лічыў яго сваім сябрам.

– Тады цябе, напэўна, засмуціла б вестка пра тое, што Барамір загінуў? – Фарамір нявесела ўсьміхнуўся.

– Надта засмуціла б, – пацьвердзіў Фрода, а тады, заўважыўшы Фараміраў твар, перапытаў зьдзіўлена й разгублена: – Загінуў? Спадар мае на ўвазе, што ведае: ён загінуў? Ці ўпрост гуляе словамі, спрабуючы заблытаць мяне, зьбіць з панталыку маною?

– Я нават і орка ня стану заблытваць маною, – адказаў на тое Фарамір.

– Як жа тады ён загінуў і як ваша даведаўся пра тое? Спадар казаў, што аніводны з маіх спадарожнікаў не сягнуў гораду да таго, як вы яго пакінулі?

– Я спадзяваўся, што спадарожнік і сябра Бараміра распавядзе мне пра ягоную сьмерць.

– Але ж падчас нашага разьвітаньня ён быў жывы й цэлы. І, па-мойму, ён мусіць быць жывы й цяпер, хоць, вядома, у гэтым сусьвеце шмат небясьпек.

– Насамрэч, шмат, – пацьвердзіў Фарамір. – І здрада – не апошняя сярод іх.

Сэм усё болей траціў цярплівасьць і злаваўся, слухаючы гэткую гаворку. Апошніх словаў не стрываў і, выскачыўшы на самую сярэдзіну, дзёрзка крочыў да свайго гаспадара.

– Вы, спадару Фрода, прабачце, але ж гэна ўжо занадта, – выпаліў Сэм. – Якое права ён мае так з вамі! І пасьля ўсяго, што вы выцерпелі, і мо нават болей, дзеля гэнага самага чалавека й усіх даўгарослых ягоных суродзічаў! Ну дык паслухайце, вашмосьць гетмане! – і Сэм стаў проста перад Фарамірам, упёршы рукі ў бокі, з такім выразам на твары, быццам прабіраў маладзёна, які залез у сад і цяпер у адказ на роспыты вёрз, як гаворыцца, грушы на вярбе.

Некаторыя людзі загаманілі раздражнёна, але таксама на тварах зьявіліся ўсьмешкі: надта ўжо дзівосна выглядаў гетман, які спакойна сядзеў на зямлі сам-насам і твар да твару з раззлаваным маладым хобітам, ажно ўстапыраным ад злосьці.

– Вы гляньце! – казаў Сэм. – Вашмосьць да чаго вядзе, га? Кажыце ўжо ўсё, не чакаючы, пакуль сюды зьбягуцца мордарскія оркі! Калі лічыце, што мой гаспадар забіў гэнага вашага Барміра, а тады ўцёк, дык і кажыце папросту, і справе канец. А тады ўжо нам паведаміце, што рабіцьмеце з гэнага. Аджа шкада, што тыя, хто, зь іхніх словаў, змагаецца з Ворагам, не дае таго рабіць іншым, перашкаджае выканаць сваю справу. Вораг быў бы надта задаволены, пабачыўшы вас цяпер. Напэўна, палічыў бы, што знайшоў новага сябра, так вось!

– Супакойся! – вымавіў Фарамір, але ж бяз злосьці. – Ня лезь прамаўляць наперад свайго гаспадара, чый розум большы за твой. І ня трэба мяне вучыць пра тое,

што мне пагражае. Нягледзячы на пагрозу, я аддаю час таму, каб судзіць справядліва цяжкую й цьмяную справу. Калі б я быў такі самы пасьпешлівы, як ты, я, пэўна, ужо даўно забіў бы цябе. Бо я маю загад забіваць усіх, хто бадзяецца па гэтай зямлі без дазволу гаспадара Гондару. Але ж я не забіваю ані чалавека, ані пачвару без патрэбы, і нават пры патрэбе тое мне не даспадобы. І я не марную словаў. Так што суцяшайся гэтым. Сядзь побач з гаспадаром дый маўчы!

Сэм плюхнуўся на зямлю, пачырванеўшы. А Фарамір зноў павярнуўся да Фрода.

– Ты спытаў, адкуль я ведаю пра сьмерць Дэнэтаравага сына? У сьмяротных навінаў шмат крылаў. Кажуць, *ноч прыносіць весткі крэўным*. Барамір – мой брат, – цень смутку лёг на ягоны твар. – Ці памятаеш ты нешта асаблівае, што меў уладар Барамір у сваім рыштунку?

Фрода падумаў крыху, баючыся, што перад ім якая пастка, і цікавячыся, куды ўрэшце выведзе размова. Бо ледзь здолеў выратаваць пярсьцёнак з Барамііравай прагі й пыхі, і як уратавацца зараз, сярод гэткай колькасьці моцных і ваяўнічых людзей, ня ведаў, хоць і адчуваў сэрцам, што Фарамір, такі падобны на брата выглядам, ня так захаплены сабою й ганарлівасьцю, больш суворы й мудры.

– Я памятаю, што ў Бараміра быў незвычайны рог, – вымавіў Фрода нарэшце.

– Твая згадка слушная, як і мае быць у таго, хто насамрэч бачыў яго, – прызнаў Фарамір. – Тады, можа, ты ўявіш яго сабе: вялікі рог дзікага бугая з Усходу, акаваны срэбрам, з надпісам старажытнымі літарамі. Гэты рог перадаваўся старэйшаму сыну ў нашым родзе цягам мноства пакаленьняў. І, кажуць, калі ён пакліча на дапамогу зь любога месца ў старажытных межах Гондару, гук ягоны абавязкова пачуюць здольныя дапамагчы. Пяць дзён як я выправіўся на гэтую справу. А адзінаццаць дзён таму, недзе ў гэткую самую гадзіну, я пачуў покліч таго рога – з поўначы, але слаба, нібы ўзгадка пра гук варухнулася ў памяці. Прадвесьцем ліха падалося тое мне й майму бацьку, бо аніякіх зьвестак пра Бараміра мы ня мелі зь ягонага сыходу, і аніхто з памежнай варты ня бачыў, каб ён пераходзіў мяжу. А на трэцюю ноч пасьля таго з мною здарылася дзіўнейшае.

Я сядзеў уночы ля Андуйну, цёмна-шэрага пад бляклым маладзіком, назіраючы за няспыннаю плыньню й слухаючы шапаценьне трысьнягу. Мы заўжды пільнуем берагі побач з Азгіліятам, частку якога цяпер захапілі ворагі й робяць адтуль набегі на нашую зямлю. Але тою ноччу, падавалася, усё, увесь сьвет, спала пад покрывам цемры. І тады я пабачыў – ці мне падалося? – човен на водах, шэра-срэбны, маленькі, дзівоснага выгляду, з высокім носам. Анікога не было, каб веславаць ці кіраваць ім.

Жах агарнуў мяне, бо човен срабрыста зьзяў. Але ж я падняўся, і крочыў да берагу, і пайшоў па вадзе, мяне вабіла. Тады й човен павярнуў да мяне, і запаволіўся, і падплыў так блізка, што я мог крануць яго рукою, але не адважыўся пакласьці руку на яго. Човен сядзеў глыбока ў вадзе, быццам цяжка нагружаны, і мне падалося, калі ён праплываў побач, што ён амаль да краёў поўны чыстай вадою, якая й сьвяцілася срэбрам. Агорнуты ёю, у чоўне спаў ваяр.

На каленях ягоных ляжаў паламаны меч. На целе ягоным зеўрала шмат ранаў. Я пазнаў Бараміра, майго брата, – памерлага. Я пазнаў ягоны рыштунак, ягоны меч, ягоны твар, такі дарагі мне. Толькі аднаго я ня ўбачыў – ягонага рога. І аднаго не пазнаў – файнага пасу, нібы сплеценага з залатога лісьця. "*Барамір!* – загукаў я. – *Дзе ж твой рог? Куды сыходзіш ты, о Барамір?!*" Але ж ён зьнік. Човен павярнуў на плыні й рушыў, паблісківаючы, у ноч. Тое было падобна на сон і не было сном, бо ж за ім не прыйшло абуджэньне. Але я не сумняюся цяпер, што ён загінуў, і рака вынесла яго ў спрадвечнае мора.

– Як шкада! – вымавіў Фрода. – Бо гэта насамрэч Барамір, якім я бачыў і ведаў яго. Залаты пояс дала яму ў Латлорыйне панна Галадрыель. Яна й апранула нас у тое, што ты бачыш, – шэрую эльфаву вопратку. І фібула мая таксама зробленая там.

Ён крануў срэбна-залаты ліст, які зашпільваў ягоны плашч вакол шыі. Фарамір прыгледзеўся да яго ўважліва.

– Якое хараство! Так, гэта праца тых самых майстроў, – пацьвердзіў ён. – Дык, значыць, вы праходзілі праз зямлю Лорыйну? Лаўрэліндарэнан яна звалася ў даўніну, але ўжо даўно жыцьцё яе й справы неспасьцігальныя людзям, – дадаў, пазіраючы на Фрода з новым зьдзіўленьнем. – Зараз шмат дзівоснага ў табе я разумею лепей. Ці не распавядзеш ты мне болей? Бо горка думаць, што Барамір загінуў, амаль ужо ўбачыўшы ганак роднай сядзібы.

– Мне няшмат чаго ёсьць сказаць, апрача таго, што ўжо прамовіў. Хоць вашэцеў расповед поўніць маё сэрца тугою. Напэўна, спадару прымроіўся толькі прывід, цень ліхога кону, які, магчыма, ня прыйдзе. А мо тое было якое падманнае ліха Ворага. Бо я бачыў твары сьветлых ваяроў даўніны ў азёрах Мерцьвяковых багнаў, і тое падалося мне прывідам варожага ліха.

– Не, не такое – пабачанае мною. Бо *ягонае* ліха поўніць сэрца агідай і жахам, а я адчуў горыч і жаль.

– Але ж як такое магло адбыцца насамрэч? – спытаў Фрода. – Аніякі човен не пераадолее камяністыя пагоркі ад Тол Брандыру, а Барамір хацеў вярнуцца дадому, перайшоўшы Энтую, праз палі Рохану. А ўвогуле, як можа які заўгодна карабель ці човен прайсьці скрозь пену вялікіх вадаспадаў і не патануць пад імі, асабліва ж да краёў наліты вадою?

– Ня ведаю. А адкуль той човен?

– З Лорыйну. У трох такіх мы веславалі ўніз па Андуйне да вадаспадаў. Чоўны таксама былі эльфавы.

– Ты прайшоў праз Затоеную зямлю, але ж сілы яе, падаецца, так і не зразумеў. Калі чалавеку давялося сустрэцца з Гаспадарыняй Чараў, якая жыве ў Залатым лесе, дык яму варта чакаць усялякага дзіва. Бо кажуць: небясьпечна для сьмяротных пакідаць сьвет, які жыве пад звычайным сонцам і часам, і няшмат тых, хто наведваў гэты лес у даўніну й вярнуўся такім, якім быў раней... О брат мой! – выгукнуў Фарамір у журбоце. – Што сказала табе яна, панна, над якою няма сьмерці? Што пабачыла ў табе? Што абудзіла ў тваім сэрцы? Чаму ты зайшоў у Лаўрэліндарэнан, чаму не вярнуўся па сваёй дарозе, не прымчаў раніцою дадому на роханскім кані?

Тады, павярнуўшыся зноў да Фрода, сказаў ужо спакайней:

– Мяркую, на гэтыя пытаньні ты мог бы адказаць мне, Фрода, сын Дрога. Аднак, напэўна, ня тут і ня зараз. Але ж каб ты не палічыў маё бачаньне пустою мараю, скажу табе: Барамір рог вярнуўся насамрэч, ня ў мроі. Ён вярнуўся, але расколаты надвая, быццам ударам сякеры альбо меча. Аскепкі адшукаліся ня разам. Адзін – сярод трысьнягу на поўнач ад рыгва Энтуі, дзе заўжды трымае варту Гондар. Другі круціўся па андуйнскім віры, і яго знайшоў той, у каго была справа на вадзе. Дзівосныя супадзеньні. Але ж кажуць: сьляды забойства заўсёды выкрыюцца. І зараз рог старэйшага сына ляжыць на каленях Дэнэтара, які чакае навінаў у сваім палацы. І ты ня здольны распавесьці анічога пра тое, як быў расколаты рог?

– Не, я анічога пра тое ня ведаю, – адказаў Фрода. – Але ж дзень, у які ваша чуў ягоны пакліч, калі няма памылкі з падлікамі, – гэта той самы дзень, калі я й мой слуга пакінулі астатніх. І вось ваш расповед поўніць мяне тугою й жахам. Бо калі Барамір напаткаў бяду й быў забіты, то, баюся, загінулі й астатнія мае спадарожнікі. А яны

былі маімі суродзічамі й сябрамі... Чаму ж спадару не адсунуць прэч свае сумневы й не дазволіць мне ісьці? Я стомлены, сэрца маё поўнае жалобы й жуды. Але ж мне трэба зьдзейсьніць нешта ці паспрабаваць зьдзейсьніць перад тым, як мяне таксама заб'юць. І калі толькі два паўросьлікі засталіся з усёй нашай суполкі, тым болей нам неабходна сьпяшацца.

– Вяртайцеся дахаты, вашамосьць Фарамір, адважны гетман Гондару, абараніце свой горад, пакуль здольныя, і дазвольце мне рушыць туды, куды вядзе мяне лёс!

– Няшмат для мяне радасьці ў нашай размове, – нахмурыўся Фарамір. – Аднак цябе яна напалохала болей за разумнае. Калі толькі сам народ Лорыйну не знайшоў яго, хто яшчэ мог пакласьці Бараміра ў човен, бы ў пахавальню? Ня оркі, мяркую, і ня іншыя паслугачы таго, каго не называюць. Напэўна, хтосьці з твайго таварыства жывы... Што ні адбылося на нашых паўночных межах, у табе, Фрода, я ня маю болей сумневу. Калі нашыя цяжкія дні далі мне якое майстэрства судзіць пра людзей паводле іхніх словаў і ўчынкаў, дык паспрабую й з паўросьлікамі! Хоць, – і тут ён усьміхнуўся, – нешта дзівоснае адчуваецца ў табе, Фрода. Мо штось эльфавае? За словамі нашай гаворкі хаваецца болей, чым мне падумалася спачатку. Я вазьму цябе з сабою ў Мінас Тырыт, каб там ты паўстаў перад Дэнэтарам. Бо маім жыцьцём адказны я за абраныя кірункі, карысныя майму гораду. Таму я ня вырашу пасьпешліва. Скажу толькі, што адсюль нам трэба рушыць як мага хутчэй.

Ён ускочыў на ногі й аддаў колькі загадаў. І адразу людзі, што пасабраліся навокал, маленькімі суполкамі пачалі адыходзіць у розным напрамках, хутка зьнікаючы сярод ценяў дрэваў і скалаў. Неўзабаве засталіся толькі Маблунг з Дамрадам.

– Зараз вы, Фрода й Сэмвайз, пойдзеце з мною й маімі ахоўнікамі, – загадаў Фарамір. – Калі вы кіраваліся ўздоўж шляху на поўдзень, дык тое цягам колькіх дзён будзе немажліва. Назіраньне за дарогай узмацніцца пасьля нашага нападу. Ды ў любым выпадку, вы не прайшлі б сёньня далёка, бо стомленыя. І мы таксама. Цяпер мы рушым да нашага таемнага сховішча, недзе дзесяць вёрстаў адсюль. Оркі й варожыя віжы яшчэ пра яго ня вызналі, а калі й вызналі б, абараняць яго можна нават супраць вялікага войска. Там мы адпачнем, і вы з намі. А раніцою я вырашу, што будзе найлепшым для мяне й для вас.

Анічога не заставалася, апрача як падпарадкавацца гэтай загаднай парадзе. Дый яна падавалася наймудрэйшай, бо пасьля гондарскай вылазкі вандроўка па Ітыльёне насамрэч стала нашмат больш небясьпечнай.

Адразу й выправіліся: Маблунг з Дамрадам крыху наперадзе, тады Фарамір з Фрода й Сэмам ззаду. Абышоўшы з дальняга боку азярцо, дзе хобіты мыліся, перайшлі рачулку, ускараскаліся па доўгім схіле й крочылі ў зялёны цень на пагорках, што вялі на захад. Пакуль рушылі з найбольшай хуткасьцю, на якую хобіты былі здольныя, размаўлялі напаўголасу.

– Я перарваў нашую гамонку, – паведаміў Фарамір, – ня толькі таму, што не дазваляў час, як нагадаў мне спадар Сэмвайз, але яшчэ й праз тое, што гаворка наблізілася да рэчаў, якія лепей не абмяркоўваць адкрыта перад мноствам людзей. Таму я пытаў болей пра майго брата, а не пра Кон Ісільдара. І ты ня быў цалкам шчыры з мною, Фрода.

– Я ня схлусіў і распавёў усю праўду, якую мог, – адказаў Фрода.

– Я не вінавачу цябе, – вымавіў Фарамір. – Ты ў цяжкай сытуацыі кемліва й мудра веў размову. Але ж я зразумеў болей, чым казалі твае словы. У вас не было

сяброўства з Барамірам або разьвіталіся вы не па-сяброўску. Табе й спадару Сэмвайзу таксама, мяркую, ёсьць у чым паскардзіцца на Бараміра. Я любіў майго брата й ахвярую многім дзеля таго, каб адпомсьціць за ягоную сьмерць, аднак я добра яго ведаю. Праблема, напэўна, у Коне Ісільдара – вераемна, гэтая рэч паўстала між вамі й сталася крыніцаю разладу. Мне ясна: гэта нейкі чароўны й магутны скарб, а рэчы падобнай натуры, калі верыць старажытным паданьням, ня надта спрыяюць згодзе паміж сябрамі. Ці ня блізка я да праўды?

– Блізка, – пацьвердзіў Фрода, – але ня ў самую праўду. Разладу не было сярод нас, толькі сумнеў: куды кіравацца ад Эмін Мюйлу. Так альбо інакш, скажу: старажытныя паданьні вучаць і пра небясьпеку пасьпешлівых словаў пра чароўныя й магутныя скарбы.

– А-а, як я й думаў: клопаты былі толькі з Барамірам. Ён хацеў прынесьці гэтую рэч у Мінас Тырыт. Шкада, што ліхі лёс запячатаў вусны табе, хто бачыў яго апошнім, і не дае мне вызнаць тое, чаго так прагну: чым жыў ён, што было ў ягонай галаве й сэрцы ў апошнія гадзіны жыцьця? Памыляўся ён ці не – я пэўны ў адным: памёр ён добра, дасягнуўшы нечага сьветлага. Бо ягоны твар быў нават прыгажэйшы, чым у жыцьці.

Я надта жорстка ціснуў на цябе, Фрода, каб выведаць пра Кон Ісільдара. Прабач мне! Тое было нямудра ў гэткай часіне й месцы. Бо мы толькі вярнуліся з жорсткай бойкі й іншыя справы займалі мой розум. Але ж размаўляючы з табою, я наблізіўся да праўды й таму вырашыў абысьці яе. Ведай, што сярод тых, хто кіруе горадам, захавалася шмат старажытных ведаў, недаступных астатнім. Мой род – не з нашчадкаў Элендыля, хоць у нашых жылах цячэ кроў Нумэнору. Наш радавод узыходзіць да Мардыля, намесьніка, які кіраваў замест караля, калі той выпраўляўся на вайну. Кароль Эярнур стаўся апошнім у галіне Анарыёну. Дзяцей ён ня меў і з вайны не вярнуўся. З таго часу горадам кіравалі намесьнікі, хоць тое й здарылася шмат людзкіх жыцьцяў таму.

Памятаю, калі Барамір быў яшчэ хлапчуком і мы вывучалі разам расповед пра нашых прабацькоў і гісторыю гораду, майго брата заўжды злавала тое, што наш бацька не кароль. "*Колькі сотняў гадоў патрэбна, каб зрабіць намесьніка каралём, калі кароль не вярнуўся?*" – пытаўся ён. "*Напэўна, драбніца ў краёх, дзе каралёўская кроў ніжэйшая,* – адказваў мой бацька. – *А для Гондару мала й дзесяці тысячаў*". Небарака Барамір! Ці кажа гэта табе што пра яго?

– Так, – пагадзіўся Фрода. – Але ён заўжды ставіўся да Арагорна з павагаю.

– Не сумняюся. Калі, як ты кажаш, ён прызнаў Арагорнава права, дык з радасьцю стаў бы пад ягоную руку. Але час для іспыту не надышоў. Яны не сягнулі Мінас Тырыту й ня сталі супернікамі ў ваярскіх дзеях. Зрэшты, я адхіляюся ад напрамку гутаркі. Род Дэнэтара здаўна захоўваў старажытныя веды, і ў нашых скарбніцах зьберагаецца шмат кніг, скруткаў ссохлага пэргамэну, каменных скрыжаляў, запісаў на лістах золата й срэбра на разнастайных мовах. Некаторыя аніхто цяпер ня здольны прачытаць, іншыя хіба зрэдку хто бачыць. Я магу расчытаць сёе-тое, бо мяне вучылі. Менавіта па гэтыя запісы зьяўляўся да нас Сівы Вандроўнік. Упершыню я пабачыў яго ў маленстве, і з таго часу ён наведваў нас двойчы ці тройчы.

– Сівы Вандроўнік? – перапытаў Фрода. – А як ягонае ймя?

– Мы клікалі яго на эльфскі манер – Мітрандыр, і ён задавальняўся гэтым. Казаў: "У розных краёх у мяне шмат імёнаў. Мітрандыр у эльфаў, Таркун у гномаў, Алорын

у час майго юнацтва на Захадзе, які забыты цяпер. На поўдні – Інканус, на поўначы – Гэндальф, а на ўсход я не хаджу".

– Гэндальф! – гукнуў Фрода. – Я так і думаў, што гэта ён. Гэндальф Сівы, найдаражэйшы зь сяброў і дарадцаў, правадыр нашай суполкі. Ён загінуў у Морыі.

– Мітрандыр загінуў? – выклікнуў Фарамір. – Ліхі лёс перасьледуе вашае сяброўства. Цяжка паверыць, што асоба гэткай мудрасьці й моцы – бо мы сьведкі найнезвычайнейшых ягоных зьдзяйсьненьняў – можа загінуць, і сьвет наш пазбавіўся гэткай веды. Ці ўпэўнены ты? Можа, ён упрост пакінуў вас ды выправіўся па сваіх справах?

– На жаль, не! – уздыхнуў Фрода. – Я бачыў, як прорва паглынула яго.

– За тваімі словамі – гісторыя вялікіх подзьвігаў, жуды й смутку, – заўважыў Фарамір. – Мо ты распавядзеш мне надвячоркам. Мітрандыр, як цяпер падаецца, быў ня толькі кніжнікам, але чыньнікам і рухальнай сілай мноства вялікіх падзеяў нашага часу. Калі б ён надарыўся побач тады й патлумачыў складанае прароцтва нашых сноў, верагодна, не спатрэбілася б нікуды ехаць. Вядома, магло здарыцца й адваротнае, калі Бараміру наканавана было рушыць у гібельную вандроўку. Мітрандыр ніколі не адкрываў нам ані будучыні, ані сваіх мэтаў. Нейкім невядомым мне чынам ён атрымаў ад Дэнэтара дазвол зірнуць на таемныя скарбы нашай кніжніцы, і я даведаўся крыху ад яго, калі ён пагаджаўся распавядаць мне й навучаць (хоць тое здаралася рэдка). Бо ён заўжды шукаў зьвестак і распытваў нас пра Вялікую бітву на Дагорладзе, на самым ранку Гондарскай гісторыі, калі той, чыё імя хай не назавецца, быў зрынуты. А болей за ўсё цікавілі яго паданьні пра Ісільдара, якіх, на жаль, мы ведалі нашмат меней, і ніхто ня ведаў дакладна, які лёс яго напаткаў.

Фараміраў голас сьцішыўся да шэпту.

– Але вось што я вызнаў ці здагадаўся й трымаў у сэрцы таямніцаю з тых часоў: Ісільдар зьняў нешта з рукі Неназывальнага. А пасьля выправіўся прэч з Гондару, каб назаўжды зьнікнуць з вачэй сьмяротнага люду. Тут, я мяркую, і адказ на Мітрандыравы роспыты. Але ж я лічыў гэта толькі заняткам шукальнікаў старажытных ведаў. Нават калі мы абмяркоўвалі словы прароцтва, я не зьвязаў тое "нешта" з Конам Ісільдара. Бо, адпаведна адзінай легендзе, вядомай нам, Ісільдар патрапіў у засаду й быў забіты орцкай стралою, а Мітрандыр аніколі не распавядаў нам болей.

Што такое ёсьць на самай справе гэтая рэч – пакуль па-за маімі здагадкамі. Мо скарб вялікай пагрозы й сілы. Можа, нейкая лютая зброя Чорнага Ўладара. Калі скарб гэты дае моц у бітве, то Барамір – як я яго ведаю, чалавек ганарлівы й бясстрашны, а часта й неразважна дзёрзкі, заўжды заклапочаны перамогаю Мінас Тырыту (і ўласнай славаю), – Барамір мог пажадаць скарб, паддацца спакусе. Як шкада, што выправіўся па разгадку прароцтва менавіта ён! Старэйшынам і бацьку належала абраць мяне, але ж ён дамогся права ехаць як старэйшы й дужэйшы (і сапраўды так!), і спыніць яго ня здолелі.

Але ж ня бойся болей! Я ня ўзяў бы гэты скарб, нават калі б ён валяўся на дарозе. Нават калі б Мінас Тырыт руйнаваўся б і я адзіны мог выратаваць яго, выкарыстаўшы зброю Чорнага Ўладара дзеля нашай перамогі й маёй славы. Не, Фрода, сын Дрога, такой славы й перамогі я не жадаю.

– Сьветлая Рада таксама не жадала, – дадаў Фрода. – І я нават болей. Я не хацеў мець аніякіх справаў з гэтым.

– Бо сам я, – працягнуў Фарамір, – хачу бачыць, як расквітнее зноў Белае Дрэва ля палацу каралёў, як вернецца Срэбная карона й мір у Мінас Тырыт. Не, у Мінас

Анор, як у даўніну, высокі, поўны сьвятла й радасьці, нібы зіхоткая хараством каралеўна сярод каралеўнаў, а не гаспадыня рабоў, няхай і добрая, рабоў, якія самі хочуць застацца рабамі. Вайною мы ратуем сябе ад зьнішчальніка, што прагне паглынуць й пажэрці ўсё, але я не люблю мечаў і стрэлаў за іх вастрыню й згубнасьць і не шаную ваяра паводле ягонай славы забойцы. Я люблю толькі тое, што яны абараняюць, горад людзей Нумэнору. І хачу, каб яго любілі за памяць дзён, старадаўнасьць, і прыгажосьць, і за цяперашнюю мудрасьць. Я не хачу, каб яго баяліся, але каб ставіліся да яго з глыбокай павагаю й пашанаю, як шануюць людзі годнасьць найстарэйшага й наймудрэйшага сярод іх.

Таму не палохайся мяне! Я не прашу цябе распавядаць мне болей. Я не прашу нават пацьвердзіць, ці блізкая мая здагадка да праўды. Але ж калі ты даверысься мне, то, магчыма, я дапамагу табе парадаю ў тваёй справе, якой яна ні была б, а можа, і ня толькі парадаю.

Фрода не адказаў. Хоць амаль паддаўся спакусе, бо так прагнуў дапамогі й добрай рады, так хацеў падзяліцца з гэтым суворым юнаком, чые словы падаваліся мудрымі й шчырымі, усім, што ляжала на сэрцы й у розуме. Аднак нешта стрымала яго. Страх перапаўняў яго, страх і далеч: калі ён з Сэмам, як падалося, засталіся адзінымі з усяго Зьвязу Пярсьцёнка, дык толькі на Фрода й ляжыць цяпер адказнасьць за таемнасьць. А лепей незаслужаны недавер, чым пасьпешлівая балбатня. Спомін Бараміра, жудаснай зьмены, народжанай прагай пярсьцёнка, жыва паўставаў перад Фродавымі вачыма, калі пазіраў на Фараміра – такога адрознага брата, але ж такога, такога падобнага.

Колькі часу бязгучна рушылі ў цішыні – шэра-зялёныя цені пад старымі дрэвамі. Над галовамі сьпявалі птушкі й сонца блішчэла на гладкім даху, на паверхні цёмнага лісьця заўжды зялёных лясоў Ітыльёну.

Сэм у размове ня ўдзельнічаў, хоць прыслухоўваўся й адначасна вострым хобіцкім слыхам адзначаў усе нягучныя галасы ляснога гоману навокал. Прыкмеціў, што за ўсю гаворку аніводнага разу Глыкса не згадалі. Тое задаволіла, хоць і адчуваў: наўрад ён больш аніколі не пачуе гэтай мянушкі. Таксама меркаваў: хоць іх крочыць усяго пяцёра, шмат людзей зусім непадалёк. Ня толькі Маблунг і Дамрад мільгацелі ў ценях наперадзе, але мноства людзей спрытна й таемна рушылі пааберуч да нейкага прызначанага месца.

А аднойчы, павярнуўшыся нечакана, – быццам нейкі сьверб на скуры падказаў, што ззаду назіраюць, – заўважыў, як нешта маленькае й чорнае сьлізнула за камель дрэва. Тады раскрыў рот, каб абвесьціць пра гэта, дый закрыў. Сказаў сабе: "Ну, я ж ня ўпэўнены, бачыў я насамрэч ці не, і нашто нагадваць ім пра старога мярзотніка, калі яны вырашылі забыцца на яго? Каб я толькі здолеў на яго забыцца!"

Рушылі, пакуль лес не парадзеў, схілы зрабіліся страмейшымі. Тады збочылі направа й неўзабаве сягнулі маленькай рачулкі, што цякла па вузкай цясьніне, той самай рачулкі, што далёка наверсе высочвалася з каменнага азярка, а цяпер ператварылася ў жвавы струмень, які скакаў па камянёх у глыбокім ручве, зацененым навіслымі падубамі й самшытам. Унізе, на захадзе, у смужным сьвятле раньняга сутоньня разьвіналіся ніззі й шырокія паплавы, а ўдалечы паблісквала ў сонечных промнях шырокая стужка Андуйну.

– Тут, на жаль, я мушу абысьціся з вамі няветліва, – сказаў Фарамір. – Спадзяюся, вы даруеце таму, хто ветлівасьць паставіў вышэй за свае загады забіць ці

асьляпіць. Але аніхто, нават чалавек Рохану, які змагаецца побач з намі, ня мае права бачыць сьцежку, па якой мы крочым зараз. Я павінен завязаць вам вочы.

– Як пажадаеце, – азваўся Фрода. – Нават эльфы Лорыйну робяць гэтак, і межы цудоўнага Лорыйну мы перайшлі з завязанымі вачыма. Гном Гімлі паставіўся да таго ня надта добра, а хобіты – спакойна.

– Я прывяду вас не ў такое цудоўнае месца. Радуе, што вы ахвотна пагаджаецеся й мне ня трэба скарыстоўваць сілу.

Фарамір нягучна паклікаў, і Маблунг з Дамрадам выйшлі з-пад дрэваў і вярнуліся да яго.

– Завяжыце нашым гасьцям вочы, – загадаў ён. – Надзейна, але зручна, каб ім не было непрыемна. Рук ня зьвязвайце. Яны абяцаюць не падглядваць. Я даверыўся б ім, каб яны ішлі з заплюшчанымі вачыма, але ж калі спатыкнесься, міжволі можаш падняць павекі. Вядзіце іх так, каб яны не спатыкаліся.

Ахоўнікі завязалі зялёнымі шалікамі хобітам вочы й нацягнулі каптуры плашчоў амаль да ротаў, тады ўзялі па хобіце за руку й хутка павялі. І апошнюю вярсту Фрода з Сэмам прайшлі ў цемры, мяркуючы, куды іх вядуць і як. Спачатку сьцежка рэзка спускалася, а тады зрабілася такая вузкая, што давялосяісьці ланцугом, кранаючы плячыма каменныя сьцены пааберуч. Ахоўнікі кіравалі хобітамі, паклаўшы рукі ім на плечы. Раз-пораз трапляліся цяжкія месцы, і тады сяброў падымалі, праносілі колькі й ставілі на зямлю зноў. Шум імклівай вады заўжды быў праваруч і ўсё гучнеў. Нарэшце спыніліся. Маблунг з Дамрадам хутка павярнулі хобітаў некалькі разоў, і сябры страцілі ўсялякае адчуваньне напрамку. Потым ускараскаліся троху наверх. Пахаладнела, і гук струменю сьцішыўся. А тады падарожнікаў паднялі й панесьлі ўніз па доўгай лесьвіцы з мноствам прыступак. Завярнулі за кут. Раптам зноў зацьвірчэла вада, зараз надта гучна, з плёскатам і глёкатам. Падавалася, яна бяжыць паўсюль вакол. Тады адчулі нібыта драбнюткі дожджык на шчаках і руках. Нарэшце Фрода й Сэма зноў паставілі на ногі. З момант стаялі сьляпыя, крыху напалоханыя, ня ведаючы, куды іх прынесьлі, а вакол ніхто не казаў ані слова.

Тады ззаду пачулі голас Фараміра:

– Дазвольце ім бачыць!

Шалікі зьнялі з вачэй, каптуры адсунулі – і хобіты заміргалі, а потым вохнулі з подзіву. Бо стаялі на падлозе з шлігтаванага каменю, на ганку груба вычасанай каменнай брамы, якая зеўрала цемраю ззаду, а наперадзе вісела танюткая завеса вады, так блізка, што Фрода мог крануць яе выцягнутаю рукою. Вакно пазірала на захад. Касыя промні натомленага сонца падалі на завесу, і іхняе чырвонае сьвятло разьбівалася на мноства шматкаляровых пырскаў і праменьчыкаў штоймгненна зьменлівых колераў. Быццам хобіты стаялі перад вакном нейкай эльфавай вежы, завешаным пераплеценым золатам і срэбрам, раламі, сапфірамі й амэтыстамі, што палалі зыркім халодным полымем.

– У добры час патрапілі вы сюды, якраз каб атрымаць узнагароду за цярплівасьць, – абвесьціў Фарамір. – Бо гэта – Вакно Заходу, Хэнет Анун, найпрыгажэйшы з усіх вадаспадаў Ітыльёну, зямлі мноства ручаінаў. Няшмат чужынцаў бачыла яго. На жаль, за брамаю няма каралеўскай залі, якая зраўналася б зь ім у харастве. Ну, хадзіце й пабачце самі!

Падчас яго прамовы сонца закацілася цалкам, і полымя згасла ў імклівай вадзе. Хобіты павярнулі й прайшлі пад нізкаю пагрозьліваю аркаю. І апынуліся ў вялікай груба вычасанай пячоры зь няроўнай нахіленай стольлю. Некалькі паходняў

асьвятлялі прастору, кідаючы няпэўнае сьвятло на міргатлівыя сьцены. Тут ужо сабралася мноства людзей. Астатнія яшчэ падыходзілі, па два ці па тры, праз вузкія цёмныя дзьверы збоку. Калі вочы прызвычаіліся да паўзмроку, хобіты пабачылі, што пячора большая, чымся падалася спачатку, і што ў ёй – вялікі запас зброі й прыпасаў.

– Вось наш куток, – абвесьціў Фарамір. – Ня тое каб надта ўтульны, але ж тут вы праведзяце ноч спакойна. Тут суха й ёсьць ежа, хоць і няма вогнішча. Калісьці вада працякала праз гэтую пячору й выцякала праз браму, але майстры даўніны зьмянілі ручво ракі, і цяпер яна рушыць вадаспадам двайной вышыні з скалаў высока над намі. І ўсе дарогі да гэтага гроту замураваныя, каб ані вада, ані што іншае сюды не патрапіла. Усе, акрамя адной. Зараз сюды толькі два шляхі – па сьцежцы, па якой вас правялі, завязаўшы вочы, і праз Вакно Захаду й адхон за ім над глыбокім возерам, паўнюткім вострых каменных іклаў. Зараз адпачніце крыху, пакуль згатуюць вячэру.

Хобітаў адвялі ў кут да нізкага ложка, каб прылеглі, калі пажадаюць. А тым часам людзі завіхаліся хутка й захоўваючы відавочны парадак. Наладзілі распоркі, на іх паклалі лёгкія стальніцы, расставілі посуд – большай часткаю просты, неаздоблены, але змайстраваны дабротна й файна: круглыя талеркі, міскі й вялікія місы зь непаліванай бурай гліны альбо точаныя з самшыту, гладкія й чыстыя. Там і тут трапляўся куфаль альбо міса зь сьлігтоўнай бронзы, а перад месцам гетмана пасярэдзіне стала, які стаяў глыбей за іншыя ў пячоры, паставілі келіх з гладкага срэбра.

Фарамір жа гаманіў з сваімі людзьмі, распытваючы кожнага, хто ўваходзіў. Некаторыя затрымаліся ў пагоні за ворагамі, іншыя, пакінутыя як выведнікі ля шляху, вярталіся апошнімі. З паўднёвікаў ня ўцёк аніхто, апрача вялізнага мумака. Што зь ім здарылася, ніхто сказаць ня мог. Аніякіх перасоўваньняў варожых войскаў не заўважылі. Нават і орцкіх віжоў не прыкмецілі.

– Анбарн, нічога ня бачыў, ня чуў? – спытаў Фарамір апошняга.

– Не, вашая княская мосьць, – адказаў той. – Ані орка, ва ўсялякім выпадку. А бачыў – ці мне падалося – нешта крыху дзіўнаватае. Ужо змрок гусьцеў, а тады рэчы бачацца большымі, чым насамрэч. Мажліва, я заўважыў усяго толькі вавёрку, – тут Сэм наставіў вушы. – Калі так, то яна надта чорная й бясхвостая. Рушыла, што цень па зямлі, кінулася за камель, калі я крочыў бліжэй, дый ускараскалася ўгару з вавёрчыным спрытам. Вашамосьць загадвалі нам не забіваць дзікіх зьвяроў марна, а гэта я палічыў зьверам і ня траціў стралу. Бо й цёмна зрабілася для добрага стрэлу, і пачвара схавалася сярод гушчару лісьця ў імгненьне вока. Я ўсё ж памарудзіў троху там, бо зьдзівіўся. А калі павярнуўся сыходзіць, пачуў, нібы зьвер зашыпеў на мяне з вышыні. Вялікая вавёрка, напэўна. Мо пад ценем Неназывальнага якія пачвары зь Ліхалесься прыблукалі й да нашых лясоў. Кажуць, там ёсьць чорныя вавёркі.

– Верагодна, – пагадзіўся Фарамір. – Калі насамрэч так, гэта благі знак. Нам зусім не патрэбныя ўцекачы зь Ліхалесься ў Ітыльёне.

І зірнуў хутка й скоса на хобітаў, але Сэм нічога не адказаў. Колькі часу Фрода з Сэмам ляжалі на ложку й глядзелі на полымя паходняў і на людзей, якія клапатліва рухаліся й размаўлялі напаўголасу. Тады Фрода зьнянацку заснуў.

А Сэм змагаўся з дрымотай, спрачаючыся сам з сабою.

"Можа, ён і файны чалавек, – меркаваў ён, пазяхаючы, – а мо не. Бывае ж, як гаворыцца, рэчы файныя, ды справы лайныя. Анягож, тыдзень праспаў бы, во добра было б. І што я, нават калі й спаць ня буду, супраць гэных усіх вялізазных даўгалыгіх? Зусім анічога, Сэме Гэйхадзе, але ж трэба ўсё адно чуваць".

І ён неяк чуваў. Сьвятло зусім пакінула пячорную браму, і шарая водная завеса перад ёю зьнікла ў глыбокіх ценях. А вада ўсё журбатала й плёскала, аніколі не зьмяняючы свайго сьпеву, раніцою, увечары ці ўночы, люляла, шапатала ў вушы, навявала сон. Сэм пляснуў сябе па лобе.

Запалілі болей паходняў. Адкаркавалі бочачку віна й вялізныя скрыні з прыпасамі. Прыцягнулі вады з вадаспаду. Некаторыя абмывалі рукі ў ночвах. Фараміру прынесьлі шырокую медную місу й белы ручнік, і ён умыўся.

– Абудзіце нашых гасьцей, – загадаў ён. – Дайце ім вады. Надышоў час вячэры.

Фрода сеў, пацягнуўся й пазяхнуў. Сэм, ня звыклы, каб яму прыслужвалі, зь зьдзіўленьнем зірнуў на высокага чалавека, які нахіліўся, трымаючы місу з вадою перад ім.

– Пане, пастаўце яе на падлогу, калі ласка! – папрасіў Сэм. – Для вас лягчэй і для мяне.

Тады, на забаву й подзіў людзей, сунуў галаву ў халодную ваду й апаласнуў шыю й вушы.

– Ці гэта звычай вашай зямлі – мыць галаву перад вячэраю? – спытаў чалавек, які паслужваў хобітам.

– Не, звычайна мы мыемся перад першым сьняданкам, – адказаў Сэм. – Але ж калі сну крыху не хапіла, дык халодная вада на шыю – што дожджык на зьвялую салату. Ну вось! Цяпер я не засну жуючы.

Тады хобітаў правялі да стала й пасадзілі побач з Фарамірам на бочачках, накрытых шкурамі, дастаткова высокіх, каб хобітам сядзелася ўтульна. Перад вячэрай Фарамір і ўсе ягоныя людзі паўсталі, і павярнуліся тварамі на захад, і замерлі на момант у цішыні. Фарамір знакам запрасіў Фрода з Сэмам, каб яны зрабілі гэтак сама.

– Так мы заўжды робім, – паведаміў, калі селі зноўку. – Пазіраем на былы Нумэнор, і на спрадвечны край эльфаў за ім, і на тое, што за ім, што было й будзе заўжды. Ці ў вас няма гэткага звычаю падчас яды?

– Не, – Фрода пачуваўся невукам з глухой вёскі, – аднак калі мы ў гасьцях, мы кланяемся гаспадару, а пасьля ежы дзякуем яму стоячы.

– Гэтак робім і мы, – зазначыў Фарамір.

Пасьля доўгай вандроўкі ў глухмені, бадзяньняў і начэй над нябёсамі вячэра падалася хобітам шыкоўнаю бяседаю: празрыстае залацістае віно, такое прахалоднае й пахкае, хлеб і масла, саланіна, сухая садовіна, добры чырвоны сыр – і да ўсяго есьці чыстымі рукамі, з нармалёвых талерак чыстымі відэльцамі й нажамі! Абодва хобіты не адмаўляліся ні ад чаго, што ім прапаноўвалі, ні ад другой, ні ад трэцяй дабаўкі. Віно сагрэла іхнія стомленыя рукі й ногі, узьвесяліла сэрцы, гэтак файна не пачуваліся яны з самага адплыцьця з Лорыйну.

Калі паелі, Фарамір завёў іх у дальні канец пячоры, у пакой, часткова схаваны завесаю. Туды прынесьлі крэсла й два зэдлікі. У нішы на сьцяне гарэла гліняная лямпа.

– Магчыма, вам неўзабаве захочацца спаць, асабліва добраму Сэмвайзу, які перад вячэраю ані на хвіліну ня змружыў вачэй, ці каб высьпеліць апэтыт, ці ад страху перада мною – ня ведаю. Але ж шкодна для здароўя спаць адразу пасьля ежы, да якой доўга галадалі. Пагутарма крыху. Цягам вашай вандроўкі з Долага Яру вы, безумоўна, напаткалі шмат незвычайнага. Таксама й вам будзе цікава даведацца пра

нас і пра зямлю, на якой вы знаходзіцеся. Распавядзіце мне пра майго брата Бараміра, пра старога Мітрандыра, пра сьветлы народ Лорыйну.

Фрода болей не пачуваўся сонным і загаварыў з ахвотаю. Хоць віно й ежа ўзьвесялілі й расслабілі яго, асьцярожнасьці ён ня страціў. А Сэм ажно зьзяў з задавальненьня, мармытаў нешта сабе пад нос ды напяваў, і калі Фрода распавядаў, спачатку толькі слухаў, зрэдку выгукваючы на знак згоды.

Фрода распавёў пра многае, аднак заўжды вёў гаворку далёка ад мэтаў вандроўкі й ад пярсьцёнка, падкрэсьліваючы пры тым Барамiраву адвагу й рашучасьць ва ўсіх прыгодах: і з ваўкамі перад пераваламі, і ў сьнягох Карадрасу, і ў тунэлях Морыі, дзе загінуў Гэндальф. Болей за ўсё крануў Фараміра расповед пра бой на мосьце.

– Як жа раззлавала Бараміра неабходнасьць уцякаць ад оркаў, – зазначыў Фарамір, – альбо нават ад лютай пачвары, ад таго балрага, хоць Барамір і адступаў апошнім.

– Ён быў апошнім, але ж Арагорну давялося весьці нас. Ён адзіны ведаў дарогу пасьля таго, як з намі ня стала Гэндальфа. Калі б ня клопат пра меншых, пра нас, мяркую, ані ён, ані Барамір не адступілі б.

– Можа, і лепей было б Бараміру загінуў там, побач зь Мітрандырам, і не напаткаць кон, які чакаў яго над вадаспадамі Рэрасу.

– Можа, – пагадзіўся Фрода й паспрабаваў перамяніць кірунак гаворкі. – Вашамосьць, калі ласка, распавядзіце пра тутэйшыя падзеі. Бо я хачу болей ведаць пра Мінас Ітыль і Азгіліят, пра дужы Мінас Тырыт. Ці ёсьць у вас надзея на перамогу ў гэтай бясконцай вайне?

– Якая надзея? Ужо даўно няма ў нас аніякай надзеі. Калі да нас насамрэч вернецца меч Элендыля, магчыма, яна адродзіцца. Аднак, па-мойму, гэта толькі адцягне наш апошні дзень, хіба толькі нечакана зьявіцца дапамога аднекуль яшчэ, ад эльфаў ці людзей. Бо моц Ворага расьце, а мы слабнем. Мы – людзі слабасьці, людзі восені, за якою ўжо ня прыйдзе вясна. Калісьці людзі Нумэнору расьсяліліся па ўсёй прасторы берагоў і прыморскіх краінаў захаду Міжзем'я. І ў большасьці загубілі самі сябе ліхам і ўласным глупствам. Многіх прывабіла цемра й чорнае чарадзейскае майстэрства, некаторыя цалкам аддаліся раскошы й ляноце, а іншыя біліся адзін з адным і ў слабасьці былі адужаныя дзікунамі.

Анідзе не гаворыцца, каб людзі Гондару займаліся чорнымі штукарствамі альбо каб Неназывальны хоць калі-небудзь шанаваўся там. Старая мудрасьць і хараство, прынесеныя з Захаду, доўга трывалі ў каралеўстве сыноў Элендыля Сьветлага й трываюць яшчэ дасюль. Але й Гондар сам прывёў сябе да распаду, сасьлізгваў паступова ў старэчую немач і лічыў, што Вораг заснуў назаўсёды – той жа быў толькі выгнаны, але ня зьнішчаны.

Сьмерць зрабілася відочнейшая за жыцьцё, бо нумэнорцы, як і ў колішнім краі, страчаным праз тое самае, прагнулі бясконцага нязьменнага жыцьця. Каралі будавалі прытулкі памерлых, шыкоўнейшыя за палацы жывых, і адлічваць старыя імёны на скрутках радаводаў ім было прыемней, чым называць імёны сыноў. У ветхіх залях сядзелі старыя ўладары й разважалі пра геральдыку, зморшчаныя ведуны ў таемных пакоях зьмешвалі магутныя трункі й на высокіх халодных вежах распытвалі зоры пра лёс. А апошні кароль Анарыёнавага роду не пакінуў нашчадка.

Каралеўскія намесьнікі былі мудрэйшыя, ім болей шанцавала. Мудрэйшыя, бо бралі ў войска дужы народ узьбярэжжаў і трывалых горцаў Эрэд Німрайсу. І склалі зьвяз з ганарлівым народам Поўначы, людзьмі лютай адвагі, якія часьцяком раней

нападалі на Гондар, але ж былі нашымі суродзічамі ў адрозьненьне ад дзікіх усходнікаў ці жорсткіх харадрымаў.

Так здарылася ў дні дванаццатага намесьніка Кірыёна (а мой бацька двунадзесяць чацьверты), што яны выехалі нам на дапамогу й у бітве на вялікім полі Келебранты вынішчылі ворагаў, якія захапілі нашыя паўночныя землі. Рахірымамі мы назвалі іх, гаспадарамі коней, і аддалі ім роўнядзі Каленардону, што з таго часу завецца Рохан, бо тыя землі амаль не былі заселеныя. Вось так яны зрабіліся нашымі надзейнымі сябрамі, заўжды вернымі памочнікамі ў часіну бедаў, ахоўнікамі паўночных межаў і Брамы Рохану.

Яны вывучылі што здолелі з нашых ведаў, і іхнія правадыры размаўляюць панаску, але ж большай часткаю трымаюцца бацькоўскага ладу, захоўваюць свае старыя паданьні й паміж сабою гутараць на роднай паўночнай гаворцы. Нам яны даспадобы: высокія воі, гожыя жанчыны, роўныя ў адвазе, золатавалосыя, сьветлавокія, дужыя. Яны нагадваюць нам маладосьць чалавецтва, людзей Даўніх дзён. Насамрэч, нашыя дасканальцы ў ведах кажуць, што з даўніны яны найбліжэйшыя да нас суродзічы, бо паходзяць з тых самых Трох Родаў людзей, як і нумэнорцы на пачатку існаваньня. Магчыма, яны вядуць радавод не ад Хадара Золатавалосага, сябра эльфаў, але ад тых ягоных сыноў і іхняга народу, які ня сплыў за мора на Захад, адмовіўшыся ад заклiку.

Мы ў нашых ведах падзяляем суродзічаў адпаведна іх уласьцівасьцям. Вышнія людзі – гэта людзі Захаду, якімі былі нумэнорцы. А ёсьць і людзі сярэдзіны, народы сутоньня, рахірымы й іхнія суродзічы, што шчэ жывуць на поўначы. Ёсьць і людзі дзікія, народы цемры.

Хоць рахірымы й наблізіліся да нас, зрабіліся ў нечым падобнымі, майстравітымі ў рамёствах ды мастацтвах, але цяпер і мы прыпадобніліся да іх і ўжо ня маем права называцца *вышнімі*. Мы – таксама сярэднія, людзі сутоньня, якія шчэ памятаюць былое. Бо мы ўжо, як і рахірымы, палюбілі вайну й адвагу ў ёй, бітвы цешаць нас, мы імкнемся да пашаны за перамогі й мужнасьць. І хоць вой у нас яшчэ мусіць ведаць і ўмець штосьць апроч навукі зброі й забойства, ваярства мы шануем болей за любы іншы занятак. Такая ўжо патрэба нашых дзён. Так і брат мой, Барамір, за ваярскае майстэрства й моц лічыўся найлепшым з гондарцаў. І насамрэч ён быў найлепшы. Бо за доўгія гады не нарадзілася ў Мінас Тырыце сына, такога трывалага ў цяжкасьцях, рашучага й адважнага ў бітвах, хто мацней і гучней трубіў бы ў Вялікі рог.

Фарамір уздыхнуў і колькі часу маўчаў.

– Вашмосьць, вы ў сваіх расповедах нешта зусім ня кажаце пра эльфаў, – раптам набраўся рашучасьці Сэм.

Ён заўважыў, што Фарамір згадваў эльфаў паважліва, а ягоная ветлівасьць дый ежа зь пітвом супакоілі Сэмаву падазронасьць і абудзілі павагу да гондарскага гетмана.

– Насамрэч ня згадваю, спадар Сэмвайз, – адказаў Фарамір, – бо я неабазнаны ў іх. Тут ты кранаеш яшчэ адно, у чым мы зьмяніліся, апусьціўшыся ад нумэнорцаў да жыхароў Міжзем'я. Як ты, магчыма, ведаеш, меўшы ў правадырах Мітрандыра й у сумоўцах Эльранда, народ Эдайн, бацькі нумэнорцаў, змагаліся поруч з эльфамі ў першых войнах і былі ўзнагароджаныя каралеўствам пасярод мора, паблізу ад краю эльфаў. А ў Міжзем'і за гады цемры людзі адчужыліся ад эльфаў – і ліхім майстэрствам Ворага, і павольнымі зьменамі часу, калі кожны народ ішоў сваім асобным шляхам. Людзі цяпер баяцца эльфаў і не давяраюць ім, амаль нічога пра іх

ужо ня ведаючы. І мы ў Гондары робімся як іншыя, як людзі Рохану; нават ворагі Чорнага Ўладара баяцца эльфаў і называюць Залаты лес месцам жаху.

Аднак ёсьць сярод нас і тыя, хто рады сустрэцца з эльфамі, калі выдаецца такая мажлівасьць, раз-пораз хто-кольвек адважваецца таемна выбрацца да Лорыйну. Вяртаецца ж рэдка. Я не з такіх. Бо лічу, што сьмяротнаму цяпер небясьпечна з сваёй волі шукаць Старэйшы народ. Але я зайздрошчу табе, бо ты размаўляў зь Белай Паннай.

– Эх, панна Лорыйну, гаспадарыня Галадрыель! – выгукнуў Сэм. – Вашмосьці варта было б пабачыць яе, насамрэч, пане гетмане. Я – усяго толькі хобіт, здатны адно да садоўніцтва, бо за садам даглядаю на радзіме, так вось, вашмосьць, і паэта зь мяне аніякі, няскладна ў мяне выходзіць, хіба што рыфмулькі сьмешныя калі-кольвек, ну, вашмосьць разумее, не сапраўдная паэзія. Таму наўрад ці я здолею распавесьці. Тут нават ня вершы, тут сьпяваць трэба. Швэндала б сюды – я маю на ўвеце Арагорна – ці старога спадара Більба. А я хацеў скласьці пра яе песьню! Такое харавство, вашмосьць, ну, наймілосьнейшае! Часінаю – бы вялізнае дрэва ў квецені, а часінкай – нібы маленечкая бялюткая красачка, тоненькая такая. Цьвярдзейшая ад адаманту, мякчэйшая за сьвятло месячыка. Цяплейшая ад сонечка й халаднейшая за зорны лёд. Ганарлівая й далёкая, быццам засьнежаная вяршыня, і вясёлая, што простая дзяўчынка з рамонкамі ў валасах увесну... Аёй, усё ж гэна глупства, усё яно ня так і ня тое.

– Тады сапраўды яе харавство незвычайнае, – заўважыў Фарамір, – і незвычайна небясьпечнае.

– Ня ведаю, што тут небясьпечнага, – азваўся Сэм. – Па мне, дык прышлыя самі нясуць сваю небясьпеку ў Лорыйн і знаходзяць яе толькі таму, што самі й прыцягнулі. Мо вашмосьць і праўдзіва назвалі яе *небясьпечнай*, бо яна надзвычай моцная ў сабе. Так, сустрэўшыся зь ёю, можна раструшчыцца на кавалкі, нібы карабель аб скалу, ці патануць, як хобіт у рацэ. Ды ані скала, ані рака ў тым не вінаватыя. Вось і Бара...

Тут Сэм запнуўся й пачырванеў.

– І што? Ты хацеў сказаць "вось і Барамір"? – перапытаў Фарамір. – І што ён? Таксама прынёс сваю небясьпеку з сабою?

– Так, вашмосьць, прашу прабачэньня, брат вашмосьці такі файны чалавек, калі ўжо казаць, але ж вашмосьць увесь час ідзе ўсё па гарачэйшым сьледзе, як гаворыцца. Я ж прыглядаўся да яго й прыслухоўваўся ўсю дарогу ад Долага Яру да Лорыйну, – бо я пра свайго спадара клапаціўся, разумееце, і аніякай шкоды нікому, – дык вось, па-мойму, у Лорыйне ён сам здагадаўся пра тое, пра што я раней падазраваў, ён зразумеў, чаго хоча. Бо зь першага імгненьня, як пабачыў, ён прагнуў яго! Прагнуў пярсьцёнка Ворага!

– Сэме! – жахнуўся Фрода.

Ён сядзеў паглыбіўшыся ў думкі й абудзіўся ад іх надта раптоўна – і позна.

– Ой, трасца на мяне, – вохнуў Сэм, у імгненьне зьбялеўшы, а тады зноў заліўшыся чырваньню. – Вось ізноў з мною! Казаў жа мне мой стары: "*Калі зяпу шырока разявіш, дык лепей нагою заткні, каб дурасьць ня вылезла*". Праўду казаў! Вох, пошасьць!.. Ды, вашаць, пабачце ж, га, ласкавы пане гетмане, – ён павярнуўся да Фараміра, сабраўшы ўсю сваю мужнасьць і рашучасьць, – не рабеце анічога майму спадару толькі праз тое, што ягоны слуга – дурань. Вашаць так файна гаварыў увесь час і залюляў маю асьцярожнасьць, вось, пра эльфаў ды накшталт таго. А кажуць, што гжэчнасьць – яна з словаў ідзе ды ў справах жыве. Вось жа, вашмосьць пане гетмане, і шанец выказаць сваю *гжэчнасьць*.

– Так яно й падаецца, – вымавіў Фарамір павольна й надта ціха, зь дзіўнаю ўсьмешкаю на твары. – Дык вось адказ на ўсе загадкі! Той самы пярсьцёнак, які лічылі зьніклым з гэтага сьвету! Барамір намагаўся адняць яго сілаю? А вы ўцяклі й беглі ўвесь час – да мяне! І вось тут, у застароньні, вы перад мною: два паўросьлікі й Пярсьцёнак Улады, а за мною войска. Ці ня файны паварот лёсу? Насамрэч шанец Фараміру, гетману Гондару, выказаць сваю гжэчнасьць!

Ён паўстаў, незвычайна высокі, суворы, і ягоныя шэрыя вочы заблішчэлі.

Фрода з Сэмам ускочылі з зэдлікаў і прыціснуліся сьпінамі да сьцяны, мацаючы трымальны кордаў. Усё замерла. Людзі ў пячоры змоўклі й зірнулі на іх, цікавячыся. Але Фарамір зноў сеў на крэсла й засьмяяўся ціхенька, а тады зрабіўся па-ранейшаму строгі.

– Бедны Барамір! Такі страшны іспыт! – сказаў ён. – Колькі ж тугі прынесьлі вы мне, дзівосныя вандроўнікі з далёкай краіны, што несяце кон чалавекаў. Горш вы судзіце людзей, чым я – паўросьлікаў. Мы, людзі Гондару, – людзі праўды. Мы рэдка выхваляемся, а тады робім, пра што выхваляліся, альбо гінем у спробе зрабіць. Я сказаў: "Я ня ўзяў бы гэты скарб, нават калі б ён валяўся на дарозе". Нават калі б я прагнуў яго й нягледзячы на тое, што я ня ведаў дакладна, што гэта за скарб, прамаўляючы, – усё ж я паставіўся б да сваіх словаў як да клятвы й лічыў бы сябе зьвязаным ёю.

Аднак я не такі. Маёй мудрасьці хапае, каб зразумець: ёсьць небясьпекі, ад якіх лепей уцякаць. Не трывожцеся! І ты таксама супакойся, Сэмвайз. Калі табе падаецца, што ты памыліўся, дык лёс наканаваў табе тое. Бо сэрца тваё мудрае й вернае й бачыць лепей за твае вочы. Хоць тое можа зьдзівіць, але няма небясьпекі ў тым, што вы адкрыліся мне. Мо тое нават і дапаможа спадару, якога ты гэтак любіш. Калі ў маёй моцы, гэта абернецца вам на карысьць. Супакойся. Аднак аніколі болей не называй гэтую рэч уголас. Аднога разу досыць.

Хобіты вярнуліся да сваіх зэдлікаў і вельмі ціха селі. Людзі заняліся зноў пітвом і гаворкаю, уцяміўшы, што іх гетман пажартаваў з маленькіх гасьцей альбо накшталт таго й усё цяпер нармалёва.

– Вось цяпер, Фрода, мы нарэшце разумеем адзін аднога, – давёў Фарамір. – Калі ты прыняў гэтую рэч не з сваёй волі, не жадаючы таго, паводле чыёйсьці просьбы, мая найвялікшая табе пашана – і спачуваньне. Мне дзіўна: ты трымаеш яго й не карыстаесься ім. Сапраўды, вы новыя для мяне істоты, і ваш сусьвет новы й дзівосны для мяне. Ці ўвесь ваш народ такі? Зямля вашая мусіць быць краем спакою й асалоды, і садоўнікі там, відаць, у вялікай пашане.

– Ня ўсё там добра, – заўважыў Фрода, – але добрых садоўнікаў сапраўды шануюць.

– Але й у вас, напэўна, стамляюцца ад працы, нават і ў вашых садох, бо гэткі лад пад сонцам нашага сусьвету. А вы далёка ад вашай краіны, падарожжа зьнясіліла вас. Я ня буду натамляць вас болей. Сьпіце так бесклапотна, як можаце. Ня бойцеся. Я не хачу ані бачыць гэтую рэч, ані кранаць яе, ані ведаць болей за тое, што ўжо ведаю – і што болей чым дастаткова для мяне. Я не хачу, каб небясьпека паўстала перад мною ды ў іспыце я апынуўся слабейшым за Фрода, сына Дрога. Зараз адпачывайце, толькі скажыце мне спачатку, калі будзе на тое вашая воля, куды вы кіруецеся й што зьбіраецеся рабіць. Бо я павінен назіраць, і чакаць, і разьмяркоўваць рэчы. А час ідзе. Раніцою мы ўсе мусім хутка рушыць па шляхах, прызначаных нам.

Ачуняўшы троху ад перажытага жаху, Фрода адчуў, што дрыжыць. Неверагодная стома навалілася на яго хмараю. Ухіляцца й працівіцца не было моцы.

– Я шукаю шлях у Мордар, – вымавіў ён ціха. – Я йду да Гаргарату. Я мушу адшукаць Вогненную гару й кінуць мой цяжар у Пашчу Лёсу. Гэндальф казаў мне зрабіць так. Я ня ведаю, ці здолею дабрацца туды.

Фарамір пазіраў на яго ў немым паважлівым подзіве. А тады падхапіў, бо Фрода раптам пахіснуўся, і асьцярожна падняў, аднёс на ложак, паклаў там і прыкрыў цёплымі коўдрамі. Хобіт адразу глыбока заснуў.

Побач стаяў яшчэ адзін ложак, для слугі. Сэм памарудзіў крыху, а тады нізка-нізка пакланіўся.

– Дабранач, вашмосьць, ласкавы пане гетмане. Вашаць скарыстаў шанец.

– Насамрэч? – спытаў Фарамір.

– Так, вашмосьць, вы выказалі сваю гжэчнасьць. Найгжэчнейшую.

– Ты дзёрзкі для слугі, спадар Сэмвайз, – усьміхнуўся на тое Фарамір. – Але скажу: пашана ад таго, хто сам стакроць варты пашаны, важыць болей за ўсе ўзнагароды. А мяне няма за што шанаваць. Бо я ня меў ані прагі, ані думкі зрабіць іначай, чым зрабіў.

– Яшчэ вось што, вашмосьць, – дадаў Сэм. – Вы казалі, што нешта эльфава ёсьць у маім гаспадары, і тое слушна й дакладна. Але я вось што скажу: у вашці таксама нешта ёсьць, што нагадвае мне, ну, Гэндальфа нагадвае, чараўнікоў.

– Магчыма, – пагадзіўся Фарамір, – мо табе пабачылася далёкае рэха Нумэнору. Дабранач!

## *6. Забароннае возера*

Фрода прачнуўся й убачыў Фараміра, які нахіліўся над ім. На момант колішні страх авалодаў ім, і хобіт, прыўзьняўшыся, адсунуўся прэч.

– Баяцца няма чаго, – сказаў Фарамір.

– Няўжо раніца? – пазяхнуў у адказ Фрода.

– Яшчэ не, але ноч старэе й месяц заходзіць. Ці ня выйдзеш ты зірнуць на яе? Таксама мне патрэбная твая парада. Прабач, што перабіў твой сон. Ці пойдзеш ты?

– Пайду, – Фрода ўстаў, дрыжучы крыху пасьля цеплыні коўдраў ды шкураў.

Пячора, не абагрэтая вогнішчам, падавалася сьцюдзёнай. У цішыні гучна аддаваўся шум вады. Хобіт накінуў плашч ды рушыў за Фарамірам.

Сэм, абуджаны зьнянацку нейкім пачуцьцём насьцярогі, пабачыў ложак гаспадара пустым і імгненна ўскочыў. Тады заўважыў дзьве цьмяныя постаці, Фродаву й чалавечую, цёмныя абрысы на фоне брамы, ужо залітай бледным белым сьвятлом. І пасьпяшаўся за імі паміж шэрагамі людзей, што спалі на матрацах уздоўж сьцяны. Праходзячы пад аркаю, пабачыў раптам: завеса вадаспаду зрабілася ашаламляльна дзівосным спляценьнем шоўку, пэрлаў і срэбных нітак – бы плавіліся ільдзінкі месяцовага сьвятла. Замілоўвацца часу не ставала, і, адвярнуўшыся, хобіт крочыў за гаспадаром вузкім праходам у сьцяне пячоры.

Прайшлі паўз змрочны калідор, тады ўверх па мностве прыступак і сягнулі маленькай пляцоўкі, вычасанай у скале й цяпер асьветленай бляклымі нябёсамі праз доўгую глыбокую сьвідравіну. Ад пляцоўкі вялі дзьве лесьвіцы: адна падымалася, падаецца, на высокі бераг струменю, другая вяла налева. Рушылі па ёй. А яна вілася вітуніцай, нібы пабудаваная ў вежы.

Нарэшце выбраліся зь пячорнай цемры й агледзеліся навокал. Стаялі на пляскатай паверхні скалы, нічым не агароджанай. Праваруч, з усходу, каціўся ўніз струмень, скакаў з адной тэрасы-прыступкі на другую, а там падаў строма ў вузкую жалонку, пырскаючы пенаю, віхрыўся, праносіўся амаль пад нагамі й абрынаўся ў прорву, якая адкрывалася леваруч. Ля абрыву маўкліва стаяў чалавек, пазіраючы ўніз.

Фрода павярнуўся, каб разгледзець пругкае цела струменю, што вырываўся на волю з жалонкі й выгінаўся, падаючы ўніз. Наўкола было спакойна й золка – набліжаўся сьвітанак. Далёка на захадзе заходзіла поўня, круглая й бялюткая. Бляклыя туманы паблісквалі ў вялікай даліне ўнізе, рыхтык шырокі заліў срэбнай смугі, пад якою каціў халодныя начныя воды Андуйн. Змрочны мур паўставаў за імі, і празь яго зьзялі там і тут халодныя, вострыя, далёкія, белыя, што іклы прывідаў, пікі Эрэд Німрайсу, Белых гор Гондару, каранаваныя вечнымі сьнягамі.

Аглядаючы сьвет з высокай скалы, Фрода здрыгануўся ад думкі: дзе ж у неабсяжным начным абшары сьпяць альбо крочаць сябры – ці ляжаць памерлыя, спавітыя туманом? Нашто прывялі яго сюды, вырваўшы з салодкага забыцьця сну?

Сэму не цярпелася атрымаць адказ на гэтае пытаньне, і ён ня вытрымаў, прабурчэў ціхенька гаспадару пад вуха:

– Краявід незвычайны, так, спадару Фрода, але ж марозіць да самага сэрца, ня кажучы ўжо пра косткі. Што тут такое?

Фарамір расчуў і адказаў:

– Тут поўня садзіцца над Гондарам. Сьветлая Ітыль, пакідаючы Міжзем'е, лашчыць белыя валасы Міндалуйну. Тое вартае дрыжыкаў. Але ж я не па гэтае

прывёў вас сюды, хоць ты, Сэме, і ня быў пакліканы, а сплочваеш за сваю падазронасьць. Ну, нічога. Глыток віна тое выправіць. А зараз зірніце-тка!

Ён крочыў да маўклівага вартавога на краі абрыву, Фрода за ім. Сэм быў крыху затрымаўся, бо й так пачуваўся даволі нязграбна на мокрым каменьні. Фарамір з Фрода зірнулі долу. Далёка ўнізе воды абрыналіся ў белапенны вір, а за ім кружлялі па доўгім авальным возеры й выцякалі зь яго праз вузкую шчыліну, пырскаючы й клёкчучы, мкнулі да раўнейшых і спакайнейшых месцаў. Сьвятло поўні яшчэ сягала ўзножжа вадаспаду, блішчэла на пырсках вады. І раптам Фрода заўважыў маленькую чорную постаць на найбліжэйшым беразе. Ледзь заўважыў, а яна нырнула й зьнікла за пенаю віру, расьсекшы цьмяную ваду, бы страла альбо камень з вострымі краямі.

– І што цяпер ты пазнаеш у ім, Анбарн? – павярнуўся Фарамір да вартавога. – Вавёрку? Ці зімародка? Ці ёсьць чорныя зімародкі ў начных водах Ліхалесься?

– Чым яно ні было б, гэта ня птушка, – адказаў Анбарн. – У яго чатыры лапы, і нырае яно, як чалавек, і нядрэнна ж дае нырцу, скажу. Чаго яно хоча? Шукае шлях за вадаспад да нашага сховішча? Падаецца, пра нас усё ж выведалі. У мяне ёсьць лук, і я паставіў іншых стралкоў амаль упоравень з мною на двух берагах. Мы чакаем толькі вашага загаду страляць, пане гетмане.

– Нам страляць? – Фарамір павярнуўся да Фрода.

Фрода завагаўся на момант. Тады сказаў:

– Не, ня трэба! Калі ласка, не!

Калі б Сэм адважыўся, дык выгукнуў бы "Так!" раней за гаспадара й гучней. Бачыць ня бачыў, але з словаў адразу здагадаўся, пра каго вядзецца.

– Дык ты ведаеш, што гэта за пачвара? – спытаў гетман. – Зараз ты яго бачыш і патлумачыш мне, навошта яго шкадаваць. Ва ўсіх нашых размовах ты ні слова не сказаў пра свайго прыблуднага спадарожніка, і я ня згадваў пра яго, чакаючы, пакуль яго зловяць ды прывядуць да мяне. Я паслаў найспрытнейшых паляўнічых, а ён абвёў іх усіх і аніхто зь іх так яго й не пабачыў, апрача Анбарна ўчора ў сутоньні. Але цяпер ён вінаваты ў большым, чым лоўля трусікаў на пагор'ях. Ён адважыўся прыйсьці да Хэнет Анун, і плата за тое – жыцьцё. Я дзіўлюся з пачварня: такі цёмны, пранырлівы – і зьявіўся гарэзаваць пад самае нашае вакно. Ці ён думае, што мы сьпім, не выстаўляючы варты? Чаму ён так робіць?

– Мяркую, на тое ёсьць два адказы, – заўважыў Фрода. – Па-першае, пра людзей ён ведае няшмат і, хоць і пранырлівы, і хітры, напэўна ж, не ўяўляе сабе, што тут хаваюцца людзі, бо пячора вашая надта добра затоеная. А па-другое, сюды яго прывяла магутная прага, мацнейшая за ягоную асьцярожнасьць.

– Яго завабіла сюды, ты кажаш? – спытаў Фарамір напаўголасу. – Ці можа ён ведаць, ці ведае пра тваю ношу?

– Сапраўды так. Ён сам насіў яе цягам мноства гадоў.

– Ён насіў??? – у гетмана ажно зьбіўся подых. – Вось, новыя загадкі чапляюцца адна за другую. Дык ён імкнецца за тваёю ношай?

– Магчыма. Яна – найкаштоўнейшая для яго. Але я казаў не пра тое.

– Тады чаго шукае пачвара?

– Рыбы. Зірніце, вашамосьць!

Яны зноў павярнуліся да цьмянага возера. Маленькая чорная галава вынырнула з дальняга краю, зьявілася з-за чорных ценяў скалаў. Коратка бліснула срэбным, узьбіла ваду віхурай пырскаў. Пачварань даплыў да берагу й тады зь незвычайным спрытам выкараскаўся з вады, падобны да рапухі. Тутсама сеў і ўгрызься ў

маленькую срэбную рэч, што зіхцела, калі яе паварочвалі, бо апошнія промні поўні яшчэ падалі на каменную сьцяну напрыканца возера.

– Рыба! – Фарамір ціхенька засьмяяўся. – Ну, гэта не такая небясьпечная прага. А мо й не: рыба з возера Хэнет Анун можа каштаваць яму ўсё, што ён толькі здольны аддаць.

– Я ўлучыў яго, – абвесьціў Анбарн. – Ці мне не страляць, пане гетмане? За прыход сюды без запрашэньня паводле нашых законаў – сьмерць.

– Пачакай, Анбарн, – загадаў Фарамір. – Справа больш складаная, чым падаецца. Што ты зараз скажаш, Фрода? Чаму нам яго шкадаваць?

– Няшчасная істота галодная й ня ведае пра небясьпеку. Сам Гэндальф, ваш Мітрандыр, папрасіў бы не забіваць яго праз гэта, ды зь іншых прычынаў таксама. Эльфам ён забараніў забіваць яго. Я сам дакладна не разумею чаму, а пра што здагадваюся – тут распавесьці не магу. Аднак ён нейкім чынам зьнітаваны з маёю вандроўкай і яе мэтай. Да таго, як вы знайшлі й захапілі нас, ён быў нашым правадыром.

– Правадыром? Яшчэ дзівосьней. Я шмат чаго гатовы зрабіць для цябе, Фрода, але не магу дазволіць, каб гэты пралазьлівы хітрун бадзяўся тут сам па сабе, каб далучыцца да цябе пазьней, калі яго тое задаволіць, альбо каб патрапіць да оркаў і выкласьці ім усё вядомае яму пад пагрозаю катаваньня. Мы мусім альбо захапіць яго, альбо забіць. Але ж як ухапіць сьлізкую істоту з мноствам аблíччаў? Хіба што з стралою ў баку ён страціць спрыт.

– Дазвольце мне спакойна спусьціцца да яго, – прапанаваў Фрода. – А вы трымайце лукі нацягнутымі й застрэльце мяне, калі я ня спраўджу вашага даверу. Бо я ж не ўцяку.

– Тады пасьпяшайся! – загадаў Фарамір. – Калі ён ацалее, дык мусіць быць тваім верным слугою да скону сваіх гаротных дзён. Анбарн, зьвядзі Фрода ўніз, на бераг, дый цішэй. У пачвары нюх і слых на зайздрасьць. Аддай мне свой лук.

Анбарн цяжка ўздыхнуў і пасунуўся ўніз па вітуніцы да скрыжаваньня, а тады па іншых сходах, пакуль ня вывеў да вузкага выхаду, схаванага за густымі кустамі. Пракраўшыся празь іх ціхенька, Фрода апынуўся на паўднёвым беразе возера. Ужо зусім сьцямнела, і вадаспады рысаваліся блядна-шэрымі, люструючы толькі рэшткі месяцовага сьвятла ля заходняга далягляду. Глыкса не было відаць. Фрода крочыў крыху наперад, Анбарн жа нячутна падышоў ззаду.

– Ідзі! – выдыхнуў ён у самае Фродава вуха. – Дый пасьцеражыся, возера праваруч. Калі зваліся туды, аніхто, акрамя твайго сябра-рыбалова, табе не дапаможа. І не забывайся, што лучнікі тут непадалёк, хоць ты іх і ня бачыш.

Фрода палез наперад Глыксавай манерай, на карачках, каб намацаць шлях ды ўтрымацца. Камяні былі бальшынёю пляскатыя й гладкія, але сьлізкія. Спыніўся, прыслухаўся. Спачатку анічога не пачуў з-за няспыннага рокату вадаспаду за сьпінаю. Тады раптам разабраў недалёка наперадзе шыпячы шэпт.

– Ффайная рыбкасс, ффайнаясс. Белая Пысса сссхаваласься, мая кашштоўнасьсьць, нарэсьсьце, таксс. Ззаразз зьямосс рыбкусс у сспакоісс. Не, не ўсспакоі, кашштоўнасьсьць. Бо нашшая кашштоўнасьсьць зьнікла, таксс, зьнікла. Гідкія хобітссы, злыя ххобітссы. Ссышлі, пакінулі насс, глыксс, і кашштоўнасьсьці няма. Бедны Сьсьмеяголь ссамотны. Няма кашштоўнасьсьці. Злыя людзі, яны возьмуць яе, сскрадуць маю кашштоўнасьсьць. Злодзеісс. Мы ненавідзім іхх. Рыбка, ффайная рыбка. Зробіць нас мацнейшшымі. Вочы зырчэйшымі, пальцы дужэйшшымі,

таксс. Пазадушшым іх, кашштоўнасьсьць, таксс. Усьсіхх пазадушшым, калі пашшанцуе, таксс. Ффайная рыбка, файнаясс!

Так і цягнулася мармытаньне, няспыннае, быццам вадаспад, перарыванае толькі слабым чвяканьнем ды глытаньнем. Фрода здрыгануўся ад агіды й жалю. Хацелася, каб мармытаньне спынілася, каб аніколі болей ня чуць таго голасу. Анбарн непадалёк, за сьпінай. Трэба толькі адпаўзьці назад ды папрасіць яго, каб загадаў паляўнічым страляць. Тыя, верагодна, падбяруцца блізка, пакуль Глыкс наталяецца рыбаю й забыўся пра асьцярожнасьць. Адзіны дакладны стрэл – і Фрода вызваліцца ад гэтага жаласьліва-мярзотнага галаску назаўсёды. Аднак жа цяпер ён не чужы Глыксу. Слуга мае права спытаць з свайго гаспадара за службу, нават за службу, якую нясе з-за страху. У Мерцьвяковых багнах хобіты згінулі б, калі б ня Глыкс. Да таго ж Фрода быў упэўнены, сам не разумеючы чаму, што Гэндальфу гэта не спадабалася б.

– Сьмеяголь! – паклікаў ён ціхенька.

– Рыбкасс, ффайная рыбкасс, – мармытаў голас.

– Сьмеяголь! – паклікаў Фрода крыху гучней, і голас змоўк.

– Сьмеяголь! Гаспадар прыйшоў, шукаючы цябе! Гаспадар тут. Ідзі да мяне, Сьмеяголь!

На тое не было адказу, толькі шыпеньне ад рэзкага ўздыху.

– Хутчэй, Сьмеяголь! Мы ў небясьпецы. Людзі заб'юць цябе, калі знойдуць тут. Хадзі да мяне, калі хочаш пазьбегнуць сьмерці. Хадзі да гаспадара!

– Не, – адказаў голас. – Гасспадар нядобры. Пакідае Сьмеяголя дый ідзьдзе з новымі сьсябраміс. Гасспадар пачакае. Сьсьмеяголь не наеўсься.

– Часу няма! Бяры рыбу з сабою. Хадзем!

– Не! Мусьсім даесьсьці рыбку!

– Сьмеяголь! – выгукнуў Фрода ў адчаі. – Каштоўнасьць раззлуецца! Я вазьму каштоўнасьць і скажу: каб ты падавіўся косткаю. І аніколі зноў рыбкі не пакаштуеш! Хутчэй, каштоўнасьць чакае!

Ізноў пачулася рэзкае шыпеньне. Зь цемры зьявіўся Глыкс, ён поўз на карачках, быццам шкадлівае вінаватае шчаня да гаспадара, трымаючы рыбу ў руцэ й яшчэ адну, надгрызеную, у зубах. Падпоўз да Фрода ўшчыльную, амаль нос да носа, і панюхаў. Ягоныя блядныя вочы зьзялі. Тады выняў рыбу з рота й устаў.

– Добры гасспадар! – прашаптаў ён. – Добры хобіт, вярнуўсьсься да беднага Сьмеяголя. Добры Сьмеяголь ідзе. А зараз хадзем, хадзем ххутка, таксс. Паміж дрэваў пакуль Пыссу не відаць. Таксс, хадзем!

– Так, мы хутка пойдзем, – пацьвердзіў Фрода. – Але ж не адразу. Я пайду з табою, як абяцаў. Я зноў абяцаю, што буду з табою. Аднак не адразу. Бо ты яшчэ ў небясьпецы. Я выратую цябе, але ты мусіш давяраць мне.

– Мы мусьсім давяраць пану? – спытаў Глыкс з сумневам. – Чаму? Чаму ня йсьці адразу? Дзе другі, грубы, сварлівы хобіт?

– Там, наверсе, – Фрода паказаў на вадаспад. – Я безь яго не пайду. Мы мусім вярнуцца да яго.

Фрода пачуваўся горай і горай. Надта ж усё гэтае выдавала на падман. Вядома, Фарамір не дазволіць, каб Глыкса забілі, але ж яго захопяць як палоннага ды зьвяжуць, а тады Фродаў учынак падасца няшчаснай здрадлівай пачвары здрадаю. Напэўна, Фрода не пераканае яго, што выратаваў яму жыцьцё адзіным магчымым чынам. Што ж яшчэ застаецца? Толькі дагаджаць і Глыксу, і людзям ды спрабаваць ня страціць іхняга даверу.

– Хадзем! А тое каштоўнасьць раззлуецца. Мы падымаемся ўгару, уздоўж струменю. Хадзем, хадзем, а ты – наперадзе!

Глыкс падпоўз крыху да краю берагу, падазрона прынюхваючыся. Раптам замер, узьняўшы галаву.

– Тут нешшта ёсьсьць! – прашыпеў ён. – Ня хобітсс!

Адразу адсунуўся назад і ягоныя вырачаныя вочы выбухнулі зялёным.

– Гасспадар, добры гасспадар! Манюка! Хітрун! Ххлусс!

Ён сплюнуў ды выцягнуў наперад доўгія рукі зь белымі чэпкімі пальцамі.

У гэты момант за ягонай сьпінаю паўстала высокая постаць Анбарна. Доўгая моцная рука схапіла Глыкса за карак, прыціснула да каменю. Глыкс замітусіўся, бы ўюн, сьлізкі, мокры, па-кацінаму драплівы й шыплівы. Але зь цемры выйшлі шчэ два чалавекі.

– Спакойна! – папярэдзіў адзін зь іх. – А тое мы ўтыкаем цябе, што вожыка! Спакойна!

Глыкс абмяк і заенчыў ды закныхаў. Яго зьвязалі без асаблівай літасьці.

– Лягчэй, лягчэй! – прасіў Фрода. – Ён жа нашмат слабейшы за вас! Не рабіце яму балюча, калі можна. Ён будзе спакайнейшы, калі вы не пашкодзіце яму. Сьмеяголь! Яны не пашкодзяць табе! Я пайду з табою, і шкоды табе ня будзе! Няхай мяне заб'юць разам, калі захочуць пашкодзіць. Даверся гаспадару!

Глыкс павярнуўся й плюнуў у яго. Тады людзі падхапілі яго, насунулі каптур на галаву й панесьлі.

Фрода крочыў сьледам, пачуваючыся дашчэнту няшчасна й мярзотна. Мінулі кусты, падняліся па ўсходах у пячору. Там палала пара паходняў. Людзі заварушыліся. Сэм сядзеў тут і нядобра глядзеў на абвіслы скрутак, прынесены паляўнічымі.

– Злавілі? – спытаў у Фрода.

– Так. І не, я не лавіў яго. Ён сам падышоў блізка, бо давяраў. Я не хацеў, каб яго гэтак зьвязвалі. Спадзяюся, усе павернецца файна, але ж як я ненавіджу ўсю гэтую справу!

– Я таксама, – сказаў Сэм. – Анічога не бывае добрага там, дзе гэны няшчасны паскуднік.

Чалавек падышоў да хобітаў і паклікаў углыбіню пячоры. Там Фарамір сядзеў у сваім крэсьле, і зноў над ягонай галавою ў нішы палала лямпа. Ён паказаў хобітам на зэдлікі побач.

– Прынясіце віна гасьцям, – загадаў ён. – І прывядзіце да мяне палоннага.

Віно прынесьлі, а тады Анбарн прывалок Глыкса. Сьцягнуў каптур зь ягонай галавы й падняў на ногі, стоячы ззаду, каб падтрымліваць яго. Глыкс міргнуў і прыплюшчыў вочы, хаваючы злосьць позірку пад цяжкімі блякнымі павекамі. Выглядаў ён зусім няшчасным. Зь яго кропала, ён сьмярдзеў рыбай (адну яшчэ трымаў у руцэ), рэдкія валасы наліплі, бы водарасьці, на кастлявы твар, з носу цякло.

– Пасслабце! Паслабце! – енчыў ён. – Вяроўка сьсьціскае насс, нам балюча, такс, а мы ж анічога не зрабілі!

– Анічога? – Фарамір пранізьліва ўзіраўся ў пачварку, але нічым не выдаваў ані злосьці, ані жалю ці зьдзіўленьня. – Няўжо ты нічога не зрабіў у жыцьці, вартага вяровак альбо горшага пакараньня? На шчасьце, ня мне тое судзіць. Але ж гэтай ноччу ты прыйшоў туды, дзе за няпрошанае зьяўленьне – сьмерць! Рыба з гэтага возера каштуе надта дорага.

Глыкс выпусьціў рыбу з рукі й прамармытаў:

– Не хачу рыбы.

– Каштуе не сама рыба, – патлумачыў Фарамір. – Усяго толькі прыход сюды ды погляд на возера – гэтае вартае сьмяротнага пакараньня. Дагэтуль я пашкадаваў цябе толькі на просьбу Фрода, бо ён казаў мне, што ты рабіў для яго добрае й варты падзякі. Але ж ты павінен заслужыць і маю ўдзячнасьць. Як тваё імя? Адкуль ты? Куды кіруеш? Якія маеш справы?

– Мы заблукалі, заблукалі! – енчыў Глыкс. – Няма ймя, няма справы, няма каштоўнасьсьці, анічога. Толькі пустэча. Толькі голад. Таксс, мы галодненькія. Крыху маленечкіхх рыбак, гідкіх кастлявых рыбак няшчаснаму, а яны кажуць: сьсьмерць за тое. Такія мудрыя, ссправядлівыя, незвычайна ссправядлівыя.

– Ня надта мудрыя, – заўважыў Фарамір, – але справядлівыя. У той ступені, якую дазваляе нам нашая невялікая мудрасьць. Разьвяжы яго, Фрода!

Фарамір зьняў з пасу маленькі ножык ды працягнуў Фрода. Глыкс, не зразумеўшы, завішчэў ды плюхнуўся на падлогу.

– Супакойся, Сьмеяголь! – прасіў Фрода. – Даверся мне. Я не пакіну цябе. Адказвай праўдзіва, калі здольны. Гэта для цябе лепей, а ня горш.

Ён перарэзаў вяроўку на Глыксавых пясьцях ды глізнах, падняў яго й паставіў на ногі.

– Сюды! – загадаў Фарамір. – Зірні на мяне! Ці ведаеш ты назву гэтага месца? Ці быў ты тут раней?

Павольна Глыкс узьняў вочы й неахвотна паглядзеў на Фараміра. Усялякае сьвятло згасла ў іх, пустыя й цёмныя зрабіліся яны перад ясным, цьвёрдым позіркам ваяра Гондару. Павісла цішыня. Тады Глыкс павесіў галаву, адсунуўся, скурчыўся, пакуль ня ўсеўся на падлозе, дрыжучы.

– Мы ня ведаем і не жадаем ведаць, – зарумзаў ён. – Анікалі тут не былі й ня прыйдзем болей, анікалі.

– У тваім розуме – зачыненыя дзьверы й замкнёныя вокны, а за імі – чорная цемра, – вымавіў Фарамір. – Аднак я бачу, што ты кажаш мне праўду. І тое добра для цябе. Якой клятваю паклянесься ты анікалі сюды не вяртацца й не прыводзіць сюды аніводную жывую істоту словам ці знакам?

– Гасспадар ведае, – прашаптаў Глыкс, скасіўшыся на Фрода. – Таксс, ён ведае. Мы паабяцаем гаспадару, калі ён выратуе насс. Ён ведае, якой рэчы мы паклянемся, таксс!

Ён падпоўз да Фродавых ног.

– Уратуй насс, добры пане! Сьмеяголь абяцае кашштоўнасьсьці, сапраўды. Анікалі не вяртацца сьсюды, анікому не казаць, анікалі! Не, кашштоўнасьсьць, не!

– Ці задаволены ты? – спытаў Фарамір.

– Так, – пацьвердзіў Фрода. – Урэшце, вашамосьць мусіць альбо прыняць гэтую клятву, альбо выконваць свой закон. Большага ня будзе. Але я паабяцаў, што калі ён падыдзе да мяне, яму ня будзе шкоды. І я ня здраджу сваім словам.

Фарамір памаўчаў хвіліну, разважаючы. Тады вымавіў:

– Файна. Я аддаю цябе твайму гаспадару, Фрода, сыну Дрога. Няхай ён абвесьціць, што зробіць з табою!

– Адылі вашамосьць гетман Фарамір яшчэ не абвесьціў свой вырак на памянёнага Фрода, – Фрода пакланіўся, – і той ня можа мець пляны для сябе самога альбо сваіх спадарожнікаў. Прысуд вашамосьць адклаў да раніцы – сьвітанак ужо блізка.

– Тады я абвяшчу сваё вырашэньне, – вымавіў Фарамір. – Што тычыцца цябе, Фрода, то моцаю, дадзенай мне ўладай вышэйшаю, я абвяшчаю цябе вольным у каралеўстве Гондар да самых дальніх ягоных старажытных межаў. Толькі ў адно *гэтае* месца ані ты, ані твае спадарожнікі не павінны зьяўляцца без запрашэньня. Вырашэньне мае сілу год і дзень, калі толькі ты да канца таго тэрміну ня зьявісься ў Мінас Тырыт і не паўстанеш перад гаспадаром і намесьнікам гораду. Тады я папрашу яго пацьвердзіць маё вырашэньне й падоўжыць яго да скону твайго жыцьця. А да таго любы, каго ты возьмеш пад сваю апеку й ахову, будзе пад аховаю маёй і гондарскай. Ці чуў ты мой прысуд?

– Я чуў, вашамосьць, – адказаў Фрода, кланяючыся, – і я заўжды да паслуг яснавяльможнага спадара, калі тыя прыдадуцца асобе такой высакароднай і шаноўнай.

– Паслугі твае – найвышэйшай вартасьці ў маіх вачох. А цяпер – ці возьмеш ты гэтую істоту, Сьмеяголя, пад сваю ахову?

– Так, я насамрэч бяру Сьмеяголя пад сваю ахову, – прамовіў Фрода.

Сэм гучна ўздыхнуў, і не праз цырымоніі, якія ён па-хобіцку надзвычай ухваляў. Бо ў Шыры гэткая справа спатрабавала б нашмат болей словаў ды паклонаў.

– Тады я абвяшчаю табе, – Фарамір павярнуўся да Глыкса, – што над табою – сьмяротны прысуд, але ты вольны ад яго, пакуль спадарожнічаеш поруч з Фрода. Аднак калі любы гондарац заўважыць цябе безь яго, прысуд спасьцігне цябе. І хай сьмерць адшукае цябе хутка ў Гондары ці па-за ягонымі межамі, калі зробіш свайму гаспадару ліхое. А зараз кажы мне: куды ты кіруесься? Ён казаў, ты быў ягоным правадыром. Куды ты вёў яго?

Глыкс не адказаў.

– Я не пакіну гэта таемным! Адкажы мне альбо я зьмяню прысуд!

Глыкс маўчаў.

– Я адкажу за яго, – умяшаўся Фрода. – Ён прывёў мяне да Чорнай Брамы, як я й прасіў, але прайсьці празь яе немагчыма.

– У Неназывальную зямлю няма адчыненых брамаў, – заўважыў Фарамір.

– Пабачыўшы тое, мы зьвярнулі на Паўднёвы шлях, – працягваў Фрода, – бо ён казаў, што ёсьць ці можа быць сьцежка паблізу ад Мінас Ітылю.

– Мінас Моргулу, – выправіў Фарамір.

– Я не зусім зразумеў, але ж сьцежка, як падаецца, караскаецца ў горы з паўночнага боку даліны, дзе стаіць стары горад. Падымаецца да глыбокай расколіны ў хрыбце, да перавалу, а за ім спускаецца... спускаецца ў краіну за ім.

– Ці ведаеш ты назоў таго перавалу?

– Не, – прызнаўся Фрода.

– Яго клічуць Кірыт Унгал.

Тут Глыкс рэзка зашыпеў ды замармытаў нешта пад нос.

– Ці ня так? – Фарамір зьвярнуўся да яго.

– Не! – выгукнуў Глыкс, а тады ўзьверашчаў, нібы нешта пырнула яго. – Так, таксс, мы чулі імя аднойчы. Але ж што нам імя? Гаспадар кажа: трэба прайсьсьці за горы. Таму трэба ссправабаваць. Іншшыхх шшляххоў няма, няма!

– Няма іншых шляхоў? – спытаў Фарамір. – Адкуль ты ведаеш? Хто ведае ўсе куткі змрочнай краіны?

Ён доўга задумліва пазіраў на Глыкса. Нарэшце загаварыў ізноў:

– Прыбяры ад мяне гэтую пачвару, Анбарн. Бяз грубасьцяў, але пільнуй яго ўважліва. А ты, Сьмеяголь, не надумайся кідацца ў вадаспад. У скалаў там такія іклы, што заб'юць цябе заўчасна. Зараз пакінь нас ды забяры рыбу!

Анбарн сышоў прэч, а Глыкс паклыпаў перад ім, уздрыгваючы. Завесу за імі зашмаргнулі.

– Фрода, мне падаецца, ты робіш неразумна, – заўважыў Фарамір. – Нашто табе йсьці з гэтым пачварнем? На ім ляжыць ліха.

– Ён ня цалкам паддаўся ліху, – запярэчыў Фрода.

– Ня цалкам, магчыма, але злосьць разьядае яго й ліха ў ім расьце. Ён прывядзе цябе да бяды. Калі ты разьвітаесься зь ім, я дам яму пропуск і правадыра да любога гондарскага памежжа, якое ён толькі назаве.

– Ён не скарыстаецца ім. Ён пойдзе за мною, як робіць ужо доўгі час. І я шматразова абяцаў яму сваю ахову й клопат, а таксама – што пайду за ім, куды ён павядзе. Вашамосьць просіць мяне парушыць маё абяцаньне?

– Не. Але ў сэрцы я жадаю гэтага. Бо меншым злом падаецца парада іншаму парушыць клятву, чым парушэньне клятвы самім, асабліва калі бачыш, што сябра бяздумна зьвязаў сябе словам, і на ліха сабе. Ну што ж, калі ён пойдзе з табою, табе давядзецца яго цярпець. Аднак наўрад ці варта кіравацца да Кірыт Унгалу, пра які ён распавёў меней, чым ведае. Гэта я прачытаў ясна ў ягоным розуме. Ня йдзі да Кірыт Унгалу!

– А куды ж мне ісьці тады? Назад да Чорнай Брамы, каб аддацца яе варце? Што ж вашамосьць ведае жудаснага пра Кірыт Унгал, што поўніць вашаць гэткім страхам?

– Анічога дакладнага. Гондарцы ў нашыя дні не заходзяць на ўсход ад шляху, і аніхто з нас, маладзейшых, таго не рабіў і ня крочыў на горы Ценю. Пра іх мы ведаем толькі старыя паданьні й чуткі зь мінуўшчыны. Ведаем, што на перавалах над Мінас Моргулам жыве безыменны жах. Калі згадваюць Кірыт Унгал, старыя й дасьведчаныя бялеюць і змаўкаюць.

Надта даўно пасялілася ліха ў Мінас Моргуле. Яно стала жахам і пагрозаю, калі адроджаны вораг туліўся яшчэ далёка й мы валодалі большай часткаю Ітыльёну. Як ведаеш, той горад быў калісьці моцнаю крэпасьцю, ганарліваю, сьветлаю, Мінас Ітылем – двайніком нашага места. Але яго захапілі ліхія людзі, іх Вораг падпарадкаваў яшчэ ў часы першай моцы, яны блукалі бяздомныя й безгаспадарныя пасьля *ягонай* паразы. Кажуць, гэта былі людзі Нумэнору, што аддаліся цемры й чараўніцтву. Вораг даў ім Пярсьцёнкі Ўлады. Цень пажор іх, і яны сталі жывымі прывідамі, ліхімі й вусьцішнымі. Калі сышоў гаспадар, яны захапілі Мінас Ітыль, пасяліліся там і запоўнілі яго й даліну побач распадам і сьмерцю. Горад падаваўся пустым, але бясформавы жах жыў за зруйнаванымі мурамі. Дзевяць гаспадароў было там, і пасьля таемна падрыхтаванага вяртаньня іх пана яны зноўку набраліся моцы. Тады Дзевяць Вершнікаў выехалі з Брамы Жаху, і мы ня выстаялі перад імі. Не падыходзь да іх цьвярдыні. Цябе заўважаць. Гэта месца бяссоннага ліха, поўнае вачэй, якія не прыкрываюць павекі. Не хадзі туды!

– Але ж куды яшчэ вашамосьць можа накіраваць мяне? – спытаў Фрода. – Бо вашаць ня здольны, як і казаў, правесьці да гор і за іх. А я мушу ісьці за горы, паводле загаду Рады й уласнага вырашэньня, каб сягнуць сваёй мэты альбо загінуць у час спробы. А калі я павярну, не пайду сваіх шляхам да ліхога кону – дзе я знайду месца сярод эльфаў ці людзей? Ці вашамосьць жадае, каб я зьявіўся ў Мінас Тырыце з скарбам, прага да якога пазбавіла вашага брата розуму? Што тады мой цяжар

наробіць у Мінас Тырыце? Ці ня два тады Мінас Моргулы ўперацца адзін у другога празь мёртвую зямлю, поўную магільнай цьвілі?

– Я не хачу гэтага, – сказаў Фарамір.

– Тады што хоча для мяне вашамосьць?

– Ня ведаю. Толькі не жадаю, каб ты ішоў на сьмерць і пакуты. І ня думаю, што Мітрандыр абраў бы той шлях.

– Ён сышоў, і таму я мушу абіраць шляхі, якія адшукаю сам. А на пошукі ў мяне няма часу.

– Сапраўды, ліхі твой кон, і цяжкі загад ты выконваеш. Усё ж паслухай мяне хоць бы ў адным: не давярай правадыру, Сьмеяголю. Бо ён забойца. Я выяўна бачыў тое ў ім.

Фарамір уздыхнуў.

– Файна. То мы сустрэліся й разьвітаемся, Фрода, сын Дрога. Табе не патрэбнае суцяшэньне. У мяне няма надзеі пабачыць цябе пад сонцам гэтага сьвету. Але ж руш з маім добраславеньнем табе й усяму твайму народу. Адпачні крыху, пакуль для цябе падрыхтуюць ежу. Я ахвотна даведаўся б, як пачварны праныра Сьмеяголь завалодаў скарбам, пра які мы размаўлялі, і як згубіў, але ж я не патурбую цябе зараз. Калі ты, па-за ўсялякай надзеяй, вернесься да зямлі жывых, тады мы сядзем пад сьцяною на сонцы й распавядзем адзін аднаму пра нашыя прыгоды, сьмеючыся з колішніх жахаў. Да таго часу альбо якога іншага, ня бачанага й камяням-віжам Нумэнору, – бывай!

Ён падняўся й пакланіўся Фрода ды, адсунуўшы завесу, выйшаў у пячору.

*7. Падарожжа да скрыжаваньня*

Фрода з Сэмам вярнуліся да сваіх ложкаў і моўчкі прылеглі там, пакуль людзі займаліся ранішнімі справамі. Неўзабаве ім прынесьлі вады, каб памыцца, а тады правялі да стала з накрытым сьнеданьнем для трох. Фарамір сядзеў зь імі. Ён ня спаў ад ночы перад бітваю, але ж стомленым не выглядаў.

Калі ўсталі з-за стала, Фарамір сказаў:

– Голад не патурбуе вас на шляху. У нас няшмат прыпасаў, але ж я загадаў сабраць і пакласьці ў вашыя заплечнікі колькі еміны, прыдатнай для вандроўкі. У Ітыльёне няма праблемаў з вадою, толькі ня піце ні зь якога струменю, што цячэ празь Імлад Моргул, даліну Жывой Сьмерці. Таксама мушу паведаміць вам: вярнуліся мае выведнікі й віжы, нават тыя, хто падкрадваўся да самага Маранану. Яны распавялі дзівоснае. Краіна – пустая. Анікога на шляхох і ні гуку крокаў, ці рогаў, ці струнаў лукаў анідзе не чуваць. Чакальная цішыня павісла над Неназывальнай зямлёю. Ня ведаю, што гэта прадвяшчае. Аднак час неўзабаве прывядзе нас да вялікіх падзеяў. Зьбіраецца навала. Сьпяшайцеся, пакуль здольныя! Калі вы гатовыя – рушма. Сонца неўзабаве выкараскаецца зь ценю.

Хобітам прынесьлі іхнія плецакі (крыху цяжэйшыя, чым былі), а таксама два ладныя драўляныя сьлігтоўныя кійкі, з жалезнымі канцамі й разьбянымі навершамі з скуранымі плеценымі петлямі на іх.

– У мяне няма годных падарункаў на разьвітаньне, – давёў Фарамір, – але ж вазьміце гэтыя кіі. Яны дапамогуць вандроўніку ў гарах ці глушы. Такімі карыстаюцца людзі ў Белых гарах, хоць вашыя – крыху меншыя, падрэзаныя пад ваш рост ды абкаваныя нанова. Выраблены яны з добрага дрэва лебетран, найулюбёнейшага ў цесьляроў Гондару, на іх ляжыць добраславеньне ў вандроўцы й пажаданьне посьпеху й удалага вяртаньня. Няхай тое добраславеньне адужае Цень, у які вы крочыце!

Хобіты нізка пакланіліся.

– Наш найветлівейшы гаспадар, яснавяльможны пане, – вымавіў у адказ Фрода, – Эльранд Паўэльф сказаў, што я адшукаю сяброў, дзе не чакаю й не спадзяюся. Насамрэч цяжка ўявіць большае сяброўства й ласку за спадаровыя. Адчай і ліха яны ператварылі ў цеплыню й дабро.

Падрыхтаваліся да сыходу. Зь нейкага кута прывялі Глыкса, які падаваўся больш радасным, чым раней, хоць і трымаўся бліжэй да Фрода й на Фараміра не глядзеў.

– Вашаму правадыру мы мусім завязаць вочы, – папярэдзіў Фарамір, – але ты й твой слуга Сэмвайз вольныя.

Калі да Глыкса падышлі, той заенчыў, задрыжэў, скурчыўся й прыціснуўся да Фрода, тады Фрода папрасіў:

– Завяжыце вочы нам усім пачынаючы зь мяне. Тады мо ён пабачыць, што яму не задумалі аніякай шкоды.

Гэтак і зрабілі, і сьляпымі вывелі іх зь пячоры Хэнет Анун. Мінуўшы лесьвіцы і калідоры, хобіты адчулі дотык сьвежага ранішняга паветра, салодкага й пахкага. Сьляпымі правялі іх яшчэ крыху, спачатку ўгару, а тады ўніз некрутым схілам. Нарэшце Фарамікраў голас загадаў разьвязаць іх.

Падарожнікі зноў апынуліся пад ляснымі галінамі. Вадаспад ужо не чуваўся, доўгі паўднёвы схіл ляжаў зараз паміж імі й расколінай, дзе плынеў струмень. А на

захадзе за дрэвамі сьвятлела, нібы сьвет раптоўна скончаўся там, і за краем разьвіналіся толькі бясконцыя нябёсы.

– Тут у астатні раз мы разьвітаемся, – вымавіў Фарамір. – Паслухайцеся маёй парады – не паварочвайце прама на ўсход. Ідзіце проста, бо гэткім чынам лес схавае вас яшчэ цягам многіх вёрстаў. На захадзе адгор'і абрываюцца ў вялікую даліну – часам стромым адхонам, часам некрутымі схіламі. Трымайцеся паблізу таго краю й узьлеску. Напачатку, мяркую, можна перасоўвацца й пад сонцам. Краіна навокал у дрымоце, у падманным спакоі, усялякае ліха пакуль прыхавалася. Добрага вам шляху!

Ён абняў хобітаў і тады, паводле звычаю свайго народу, нахіліўся і, паклаўшы далоні ім на плечы, пацалаваў у лоб. І пажадаў:

– Ідзіце з добраю воляю ўсіх добрых людзей!

Хобіты пакланіліся да зямлі. Тады павярнуўся, і пакінуў іх, і, не абарочваючыся, пакрочыў да двух ахоўнікаў, што стаялі непадалёк. Зь дзівоснаю хуткасьцю рушылі апранутыя ў зялёнае людзі й зьніклі амаль у імгненьне вока. Лес, дзе толькі што стаяў Фарамір, застаўся пустым і вусьцішным, быццам адышоў начны сон.

Фрода ўздыхнуў ды павярнуўся на поўдзень. Каб выказаць пагарду з усёй такой цырымоннасьці, Глыкс шкробся й капаўся ў цьвілі пад дрэвам.

"Зноў галодны? – падумаў Сэм. – Ну, пачалося!"

– Ссышшлі, нарэсьсьце? – спытаў Глыкс. – Гідкія злыя людзззсы! Сьмеяголева шыйка баліць яшшчэ, таксс! Рушшма!

– Так, рушма, – пагадзіўся Фрода. – Але калі ты маеш сказаць толькі благое пра тых, хто зьлітаваўся з нас, дык лепей маўчы.

– Добры гасспадар! Сьмеяголь толькі жартаваў. Заўжды даруе, таксс, даруе нават хітрыкі добрага гаспадара, таксс! Вох, добры пан і добры Ссьсмеяголь!

Фрода з Сэмам змоўчалі. Ускінулі на плечы хатулі, узялі ў рукі кіі й скіраваліся ў лес Ітыльёну.

Гэтым днём двойчы адпачывалі й ад'елі крыху ад прыпасаў, якімі забясьпечыў Фарамір: сухая садовіна й саланіна, хопіць на колькі дзён, і хлеб – якраз, каб не счарсьцьвеў. Глыкс анічога з гэтага ня еў.

Сонца паднялося, адшпацыравала, нябачнае, над галовамі, пачало спускацца. Сьвятло на захадзе між галінамі пазалацела. Увесь час ішлі ў прахалодным зялёным цені ды ў поўнай цішы. Птушкі, падавалася, спрэс усе пазьляталі прэч ці зьнямелі.

Сутоньне рана завітала ў маўклівы лес, і перад цемраю хобіты спыніліся, стомленыя, бо прайшлі болей за чатыры мілі ад Хэнет Анун. Фрода лёг на глыбокім імху пад старажытным дрэвам і праспаў ноч напралёт. Сэм побач драмаў больш неспакойна. Шмат разоў прачынаўся, а Глыкса ўсё не было, і аніякай прыкметы ягонай прысутнасьці. Ён высьлізнуў прэч, як толькі хобіты пакладіся на адпачынак. Ці ён спаў у якой яміне, ці нястомна шнарыў уначы – не распавёў, але вярнуўся зь першым пробліскам сьвятла й абудзіў спадарожнікаў.

– Мусьсяць ісьсьці, таксс, мусьсяць! Доўга яшшчэ ісьсьці, на поўдзень, на ўсход. Хобітссы мусьсяць ссьпяшшацца!

Наступны дзень прыйшоў гэткі самы, толькі цішыня паглыбела. У паветры адчуваўся цяжар, у лесе – сьпякота. Пахла блізкаю навальніцаю. Глыкс часта прыпыняўся, нюхаючы паветра, а тады мармытаў пад нос ды паганяў хобітаў: хутчэй, хутчэй!

Падчас трэцяга пераходу, калі падступаў ужо надвячорак, лес парадзеў, дрэвы зрабіліся большымі й стаялі далей адно ад другога. Вялізныя падубы з таўшчэзнымі ствaламі, змрочныя й велічныя, высіліся пасярод шырокіх палянаў, трапляліся там і тут паміж імі старыя пасівелыя асіны, на магутных дубах якраз распускаліся бура-зялёныя пупышкі. Між імі ляжалі доўгія лужкі зялёнай травы, сьпярэшчанай падтыньнікам ды анямонамі, блакітнымі й белымі, якія ўжо зачынялі кветкі на ноч. Цэлыя валокі былі занятыя лістамі лясных гіяцынтаў, і іхнія гонкія кветкавыя сьцябліны ўжо ўзьнімаліся над мохам і цвільлю, праціналі іх. За дарогу хобіты не заўважылі аніводнай істоты, ні птушкі, ні зьвера, але ж на адкрытых прасторах Глыкс непакоіўся, там рушылі ўдвая асьцярожней, перабягалі ад аднаго доўгага ценю да другога.

Шарэла, калі сягнулі нарэшце ўзьлеску. Там паселі пад старым каржакаватым дубам, які ўпіўся каранямі, што зьвіваліся, як зьмеі, у стромы асыпісты схіл. Глыбокая, агорнутая ценем даліна разьвіналася перад імі. З дальняга яе краю зноў пачынаўся лес, шэра-блакітны ў сьвятле сумнага ўзьвячорку, і цягнуўся далей на поўдзень. Праваруч далёка на захадзе ўзвышаліся, адблісквалі пад полымем небасхілу горы Гондару. Леваруч ляжала цемра, магутныя вежы мордарскіх гор, і з той цемры выходзіла доўгая даліна, падаючы строма й пашыраючыся да Андуйну. Па дне яе бег імклівы струмень. Фрода чуў ягоны бурлівы, з каменным грукатам голас праз цішыню. А побач з струменем з дальняга боку даліны вілася дарога, нібы бляднная стужка ўводзіла ў сьцюдзёныя шэрыя туманы, не кранутыя прамянямі заходнага сонца. І падалося Фрода, што далёка-далёка ўнізе – ён нават ня ўбачыў, а дамаляваў – быццам плынеюць у моры туманоў высокія муры й паламаныя верхаліны вежаў старой закінутай крэпасьці.

– Ці ведаеш ты, дзе мы? – павярнуўся ён да Глыкса.

– Так, гаспадар. Небясьсьпечныя мясьсьціны. Гэта шлях ад вежы Месяца, гаспадар, да зруйнаванага гораду ля ракі. Зруйнаванага, таксс, нядобрае мессца, паўнюткае ворагаў. Дарма мы пасслуххаліся людзей, дарма, хобітссы далёка ўххіліліся. Мусьсім ісьсьці на ўсход, туды, – ён махнуў рукою на чорныя горы, – і па гэтым шшляхху нам нельга рушшыць, не. Жорсткія, злыя людзі рушшаць па ім, рушшаць ад крэпасьсьці.

Фрода глянуў на бальшак. Зараз па ім анічога ня рухалася, і падаваўся ён закінутым, пустым – шляхам да мёртвых руінаў у тумане. Аднак ад яго нібыта патыхала нейкім ліхам, быццам насамрэч нябачнае зло праходзіла туды-сюды па ім. Фрода скалануўся, зірнуўшы зноў на далёкія вежы, якія ўжо распускаліся ў цемры, і голас струменю падаўся яму халодным і жорсткім: голас Моргулдуйну, атрутнай ракі, што выцякала з даліны Прывідаў.

– Што рабіцьмем? – спытаў ён. – Мы доўга ішлі й адолелі шмат. Мо трэба адшукаць якое месца ў лесе, дзе мажліва залегчы?

– Які сэнс хавацца ў цемры? – адказаў Глыкс. – Гэта ўдзень хобітсы мусьсяць ххавацца, таксс, удзень.

– Ну вось! – абурыўся Сэм. – Мы павінны трохі адпачыць, нават калі трэба падымацца сярод ночы. Яшчэ колькі гадзінаў цемры застанецца, дастаткова, каб ты прагнаў нас шмат вёрстаў, калі ведаеш шлях.

Глыкс неахвотна пагадзіўся й павярнуў назад, да дрэваў, кіруючы на ўсход уздоўж няроўнага краю лесу. Адпачываць на зямлі гэтак блізка ад злавеснага шляху ён не пажадаў, і, паспрачаўшыся крыху, усе трое залезьлі на разгалінаваньне вялікага горнага дубу, чые тоўстыя галіны надта густа тырчэлі вакол ствала, утвараючы

файнае сховішча й нядрэннае месца адпачынку. Спусьцілася ноч, і ў зацені дрэва цемра зрабілася апраметнаю. Фрода з Сэмам адпілі па глыточку вады, падсілкаваліся садавіной і крышачкаю хлеба, а Глыкс адразу заснуў, скурчыўшыся клубком. Хобіты ж вачэй на заплюшчылі.

Напэўна, толькі мінула поўнач, як Глыкс прачнуўся. Раптам ягоныя бледныя вочы вырачыліся на хобітаў. Ён прыслухаўся й прынюхаўся – звычайны Глыксаў мэтад, як заўважылі хобіты, вызначаць час ноччу.

– Ці мы адпачылі? Ці мы задаволіліся каштоўным сном? – спытаў ён. – Рушшым!

– Не, не адпачылі й не задаволіліся, – прабурчэў Сэм. – Але калі трэба, дык пойдзем.

Глыкс скочыў з галіны, прызямліўшыся на кукішкі, хобіты палезьлі сьледам.

А зьлезшы, пачапалі за Глыксам на ўсход, па змрочных схілах. Брылі амаль усьляпую, бо цемра згусьцела да такой ступені, што пра дрэвы здагадваліся, толькі натыкнуўшыся на іх. Шлях рабіўся ўсё менш роўным і ўсё больш цяжкім, але Глыкса тое не турбавала. Ён вёў праз зарасьці й гушчар калючак, часам краем расколінаў ці глыбокіх правалаў, часам долам, праз чорныя, зарослыя кустамі лагавіны й зноў угару, але калі надаралася крыху спускацца, наступны схіл заўжды быў даўжэйшы й страмейшы. Бо паступова падымаліся да гор. На першым прыпынку азірнуліся й скрозь цемру заўважылі пад сабою лес, які пакінулі за сьпінаю, нібы чорны шчыльны цень пад нагамі, найчарнейшую ноч пад пустымі чорнымі нябёсамі. Падавалася, з усходу накатвала вялізнае чарноцьце, паглынаючы слабыя смужныя зоры. Пазьней з хмары выўрваўся месяц-сход, але ж яго аблямоўвала хваравіта-жоўтае зьзяньне.

Нарэшце Глыкс павярнуўся да хобітаў і сказаў:

– Дзень неўзабаве. Хобітсы мусьсяць сьсьпяшацца. Небясьпечна заставацца бяз сховішшча ў гэтых мясьсьцінах. Хутчэй!

Ён паскорыў крок, і хобіты стомлена пасунуліся за ім. Неўзабаве пачалі караскацца на вялізны вал, зарослы пераважна чарніцамі ды жаўтазельлю й нізкімі дужымі кусьцікамі калючак, хоць там і тут адкрываліся плешыны, сьляды нядаўніх выпалінаў. Бліжэй да вяршыні кусты жаўтазелі траплялiся часьцей, вельмі старыя й высокія, зь сьцяблінамі тонкімі й гонкімі ўнізе, але тоўстымі наверсе, і ўжо распускаліся на іх жоўтыя кветкі, праблісквaючы ў змроку, ды струменіў ад іх слабы саладкаваты водар. У высокіх калючых зарасьцях хобіты крочылі не нахіляючыся, пад нагамі сьцяліліся доўгія сухія паляны, пакрытыя колкім лішайнікам.

Ля дальняга схілу таго шырокага валу прыпыніліся зноў, забраліся, каб адпачыць, пад дах пераблытаных калючых кустоў. Іхнія крывыя галіны нахіляліся да зямлі, а зьверху перапляталіся з чэпкімі галінамі старой шыпшыны й верасу. Глыбока ў нетрах зарасьцяў знайшлі закрытую з усіх бакоў "залю", з дахам, падпертым старым сухім гальлём ды пакрытым маладым лісьцем і новымі веснавымі парасткамі. Там і прылеглі, надта стомленыя, нават каб падсілкавацца; вызіраючы вонкі праз шчыліны, бачылі, як распальваецца новы сьвітанак.

Але ж дзень так і не прыйшоў. Ноч зьмянілася мёртвым бурым паўзмрокам. На ўсходзе пад краем хмары паблісквала глухая чырвань, але тое ня быў золак. Скрозь лябірынт адгор'яў хмурна лунаді горы Эфэл Дуату, чорныя й бясформавыя ўнізе (там яшчэ ляжала, трывала, залегшы, начная цемра), з ламанымі вострымі краямі хрыбтоў наверсе, пагрозьлівымі й злавеснымі ў барвяным лютым зьзяньні. Непадалёк справа тырчэла вялізная гара, высоўвалася на захад, густа-чорная сярод ценяў.

– Ну, куды адсюль? – спытаў Фрода. – Ці ж тое ня Моргульская даліна, вунь за тою чарнотаю?

– Які нам клопат думаць пра гэнае зараз? – спытаў Сэм. – Вядома ж, болей сёньня ня йдзем, раз ужо дзень... калі гэта дзень?

– Мажліва, так, а мажліва, і не, – адказаў Глыкс. – Але ж нам трэба рушшыць хутка, рушшыць да скрыжаваньня, такс, да сскрыжваньня. Гэта вунь туды, таксс, гасспадар.

Барвовыя водбліскі над Мордарам згасьлі. Змрок ушчыльніўся, бо вялізныя хмары дыму ўзьняліся з усходу й папаўзьлі над адгор'ямі. Фрода з Сэмам падсілкаваліся крыху й прылеглі, але Глыкс месца сабе не знаходзіў. Ад хобіцкай ежы адмовіўся, але выпіў трошку вады, пасьля папоўз пад кустамі, прынюхваючыся й мармычучы. А тады раптоўна зьнік.

– Паляваць выправіўся, – пазяхнуў Сэм.

Была ягоная чарга спаць, і неўзабаве ён праваліўся ў глыбокі сон. Сьніў сад ля Торбы-пад-Стромай і нешта шукаў у тым садзе, але на плячох ляжаў цяжэзны заплечнік і прымушаў нахіляцца. Сад ува сьне зусім затравеў, запусьціўся, і градкі ля ніжняй загароды ўжо зарасьлі шыпшынай зь верасам.

"Трасца, колькі працы, а я так стаміўся, – паўтараў Сэм у сьне; і раптам згадаў, што шукае, выгукнуў: – Мая люлька!" І абудзіўся.

– Во глупства, – сказаў сабе, расплюшчыўшы вочы й намагаючыся ўцяміць, чаму валяецца пад жывою загароджаю. – Дурань, люлька ж твая ўвесь час была ў заплечніку!

Тады зразумеў, што люлька мо й у хатулі, але ж няма тытуню, а потым згадаў, што да Торбы-пад-Стромай сотні вёрстаў. Сеў. Падавалася, вакол цемра. Чаму спадар дазволіў праспаць сваю чаргу, дазволіў дрыхнуць да вечару?

– Ці ж вы ня спалі самі, спадару Фрода? Колькі часу? Падаецца, ужо позна!

– Не, – адказаў Фрода. – Дзень не сьвятлее, а змрачнее. Па-мойму, яшчэ й полудня няма, і праспаў ты ня болей за тры гадзіны.

– Вой, рэчы, – Сэм пахітаў галавою. – Ці тое навальніца насоўваецца? Калі так, будзе найгоршая з усіх, вядома. Пашкадуем, што не забраліся ў якую нару глыбейшую замест таго, каб хавацца пад кустамі.

Прыслухаўся й спытаў:

– А гэта што? Ці грымоты, ці барабаны?

– Ня ведаю, – адказаў Фрода. – Вось ужо колькі часу доўжыцца. А раз-пораз і зямля дрыжыць, а часам нібы паветра цяжка вібруе, грукае ўвушшу.

– Дзе Глыкса? – спытаў Сэм, азірнуўшыся. – Яшчэ не вярнуўся?

– Не. Ані відаць яго, ані чуваць.

– Ну, я дык і не пераймаюся. Сапраўды, рэдка мне траплялiся спадарожнікі, зь якімі я разьвітаўся б з большаю ахвотаю. Але ж гэна па-глыксаўску: пасьля столькіх вёрстаў разам узяць і зьнікнуць якраз тады, калі ён болей за ўсё патрэбны й калі зь яго ўвогуле якая карысьць, у чым я моцна сумняюся.

– Ты забыўся пра багны. Спадзяюся, зь ім анічога благога ня здарылася.

– Спадзяюся, што ён ня выкіне аніякай здраднай штукі. І што не патрапіць ні ў якія чаплівыя рукі, як гаворыцца. Таму што калі патрапіць, у нас пачнуцца непрыемнасьці.

У гэты момант ізноў раскаціста, гулка загрукатала, гучней ды мацней, чым раней. І зямля задрыжэла пад нагамі.

– Непрыемнасьці ў нас у любым выпадку, – заўважыў Фрода. – Баюся, нашая вандроўка набліжаецца да фіналу.

– Мо й так, – пагадзіўся Сэм, – адылі пакуль жывеш, варта спадзявацца, як казаў мой Дзед, і дадаваў часьцяком: "А галоўнае – паджалюбаць". Пад'ешце, пане Фрода, а тады падраміце крышачку.

Паводле Сэмавых падлікаў, ужо мусіла зьвечарэць. Выглядваючы з сховішча, ён бачыў толькі бляклы, пазбаўлены ценяў сьвет, які павольна распускаўся ў бясформавы, бясфарбавы змрок. Цёпла не было, але ж дыхалася цяжка. Фрода спаў неспакойна, круціўся, уздрыгваў, часамі мармытаў. Двойчы Сэму падавалася, што гаспадар выгаворваў Гэндальфава імя. Час цягнуўся наймаруднейшым чынам. Зьнянацку Сэм пачуў за сабою шыпеньне, і – вох! – за сьпінаю апынуўся Глыкс на карачках, вырачыў зіхоткія вочы.

– Прачынайцесься, прачынайцесься, ссоні! – прашапатаў ён. – Прачынайцеся, няма чассу ссපаць! Мусьсім рушшыць, рушыць адразу ж! Няма чассу!

Сэм зірнуў на яго падазрона, бо той падаваўся надта ўзбуджаным альбо напалоханым.

– Ісьці зараз жа? Да часу? Яшчэ ж нават гарбату ня п'юць, ва ўсялякім разе ў прыстойных месцах, дзе памятаюць пра час гарбаты.

– Дурнысс! – прашыпеў Глыкс. – Мы не ў прыстойныхх месцахх! Часу не засстаецца, таксс, зусьсім не засстаецца! Мусьсім ісьсьці! Прачніцеся, гасспадар, прачніцесься!

Ён крануў Фрода, і той, раптоўна прачнуўшыся, сеў і схапіў Глыкса за руку. Глыкс адхіснуўся, вызваліўся й адсунуўся.

– Ня трэба глупсства! – прашыпеў ён. – Мусьсім ісьсьці! Няма часу, каб марнавацьсс!

Болей анічога ад Глыкса не дамагліся. Дзе ён быў і якая думка высьпела ў ім, гэтак прысьпешыўшы, не казаў. Сэма перапаўнялі падозраньні, і ён іх не хаваў, але Фрода не выдаваў, што рабілася ў ягоным розуме. Толькі ўздыхнуў, узваліў на карак пляцак ды ўстаў, гатовы ісьці ў чорны змрок.

Вельмі ўтойліва Глыкс правёў іх уніз па схіле, трымаючыся, дзе толькі можна, пад прыкрыцьцём і перабягаючы, прыгнуўшыся амаль да зямлі, праз любое адкрытае месца, але ж паўзмрок вісеў цяпер такі, што самая вастравокая дзікая пачвара наўрад ці разгледзела б хобітаў у шэрых плашчох з насунутымі каптурамі й не пачула б, бо рухаліся гэтак бязгучна й сьцярожка, як толькі можа малы народзец. Ня хруснуўшы галінкаю, не шабурхнуўшы лістом, прайшлі яны й зьніклі.

Крочылі гэтак з гадзіну, бязгучна, цугам, засмучаныя змрокам ды поўнаю глухою цішынёю навокал, якую парушала толькі раз-пораз ледзь чутнае трымценьне, бы ад далёкай навальніцы ці ад барабанаў недзе ў горнай даліне. Нарэшце заўважылі воддаль чорны мур – доўгую купу дрэваў. Наблізіўшыся, уцямілі, што дрэвы тыя незвычайна вялізныя, надта старыя й вельмі высокія, хоць верхавіны іхнія паабламаныя й голыя, быццам навальніца з маланкамі пранесьлася над імі, зьнявечыўшы кароны, але ня здолеўшы пагубіць, сатрэсьці ў далёкай глыбіні іхнія магутных караніскі.

– Скрыжаваньне, таксс, – прашаптаў Глыкс, упершыню падаўшы голас пасьля таго, як пакінулі сховішча. – Зараз мусьсім ісьсьці туды!

Павярнуў на ўсход, павёў наверх па схіле, і раптоўна перад хобітамі зьявіўся Паўднёвы шлях, што віўся ля ўзножжаў гор і цяпер нырaў у вялізнае кольца дрэваў.

– Шлях толькі тут, толькі тут, – прашаптаў Глыкс. – Няма іншых сьсцежак. Мусьсім ісьці да Скрыжаваньня. Сьпяшшайцесьсься! І цішшэй!

Тоячыся, нібы выведнікі сярод варожага лягеру, спусьціліся да шляху й пакраліся ўздоўж ягонага заходняга краю па самай збочыне, пад стромым схілам, шэрыя, што камяні, і мяккакрокія, бы каты на паляваньні. Неўзабаве сягнулі дрэваў і вынайшлі, што тыя стаяць колам, як калёны вялікай зруйнаванай залі бяз даху, адчыненай цёмным нябёсам, а прасьветы паміж іхнімі гіганцкімі камлямі былі арачнымі брамамі. За сьпінамі ляжаў шлях да Маранану, наперадзе – да далёкага поўдня, праваруч караскалася дарога ад Азгіліяту ды, перасякаючы Паўднёвы шлях, зводзіла на ўсход, у цемру. Па ёй і належала ісьці.

Замершы тут на момант, агорнуты смуткам і страхам, Фрода раптам зразумеў, што бачыць сьвятло. Яно адбівалася на Сэмавым твары. Павярнуўшыся да сьвятла, угледзеў пад аркаю галінаў шлях да Азгіліяту, просты, як расьцягнутая стужка, шлях уніз, на захад. Там, далёка над Гондарам, ужо зацененым, заходзіла сонца, выбраўшыся нарэшце за край вялізнай марудлівай хмары, і хавалася ў чырвоным полымі на яшчэ неазмрочаным захадзе. Нядоўгі ягоны пробліск упаў на велізарную статую чалавека, што сядзеў, суворую й строгую, бы вялізныя каменныя каралі Арганаты на Андуйне. Гады падтачылі помнік, чыесьці шалёныя рукі зьнявечылі. Зьнесьлі галаву, а на яе месца дзеля кпіны ўзгрувасьцілі круглы, груба вычасаны камень, няўклюдымі рукамі намалявалі барвянай фарбаю падабенства пасьмешлівай ашчэранай пысы з адзіным вялікім чырвоным вокам пасярод лоба. На каленях, на моцным стальцы, паўсюль на п'едэстале крывулі-мазграчы мяшаліся з гідкімі пазнакамі, якімі карыстаўся нягеглы народзец Мордару.

Зьнянацку ў касых сонечных промнях Фрода пабачыў галаву старога караля. Яна валялася, адкінутая на збочыну.

– Зірні, Сэме! – выгукнуў Фрода ў зьдзіве. – Зірні! У караля ізноў карона!

Вачніцы былі пустыя, а вычасаная каменная барада – адламаная, але вакол высокага суворага лоба віўся срэбна-залаты вянец. Расьлінка кшталту ўюну з кветкамі малымі белымі зорачкамі зьвілася над бровамі, нібы ў пашану абрынутаму каралю, і ў расколінах ягоных каменных валасоў праблісквалі жоўценькія красачкі кісьліцы.

– Не заўжды ім перамагаць! – вымавіў Фрода.

А тады раптоўна сонечны пробліск зьнік. Сонца закацілася, сышло. Быццам апусьцілася завеса ліхтарні й абрынулася чорная ноч.

## *8. Лесьвіца Кірыт Унгал*

Глыкс нецярпліва тузаў Фродаў плашч ды шыпеў з страхам:

– Мусьсім ісьсці! Нельга стаяць тут! Ісьсці! Неахвотна Фрода павярнуўся сьпінаю да захаду й крочыў увасьлед за сваім правадыром у цемру, на ўсход. Хобіты пакінулі кольца дрэваў ды асьцярожна патэпалі па шляху. А той напачатку таксама вёў проста, але неўзабаве адхіліўся на поўдзень, пакуль не падышоў да самых узножжаў вялізнага адгор'я, якое выступала здалёк. Чорным забаронным мурам узьнялося яно над падарожнікамі, чарнейшае за ноч над галавою. Пад ягоным ценем поўз бальшак, за ім зварочваў ізноў на ўсход і строма караскаўся ўгару.

Сумна й нудотна было клыпаць па тым шляху, Фрода з Сэмам ледзь соўваліся, забыўшыся пра небясьпеку. Фрода ішоў нахіліўшы галаву, бо ягоная ноша зноў прыгнятала яго. Як толькі мінулі скрыжаваньне, цяжар, амаль забыты ў Ітыльёне, зноў вырас. І вось, адчуваючы, што дарога пад нагамі пастромела, хобіт стомлена зірнуў угору й пабачыў – менавіта так, пабачыў, як і казаў Глыкс, – горад прывідаў пярсьцёнка. І сьціснуўся, схаваўся пад каменнаю збочынаю.

Глыбокая вузкая даліна, быццам заліў чорнага ценю, далёка ўгрызалася ў горы. З дальняга яе боку, амаль ускараскаўшыся на схіл, высока на пляскатай пляцоўцы на чорных грудзях Эфэл Дуату стаялі муры Мінас Моргулу. Нябёсы й скалы вакол агарнула цемра, а сам замак зьзяў, але не месяцовым сьвятлом, якое павольна высочвалася б, захопленае мармуровымі сьценамі колішняга Мінас Ітылю, вежы Месяца, сьветлай і чыстай сярод гор. Блядней і мярцьвей было сьвятло за промні найцьмянейшага месяца, дрыготкае, няроўнае, бы атрутны подых распаду, цьвілі, зьзяньне гнілога цела, сьвятло, якое не асьвятляла анічога. Вокны сьценаў і вежы пазіралі, нібы бяздонныя чорныя правалы, у пустэчу, а наверша вежы павольна паварочвалася спачатку ў адзін бок, а тады ў другі, бы валатоўская прывідная галава, кпліва перачыся ў ноч. На момант усе тры падарожнікі замерлі, скурчыліся, мімаволі прываблёныя жудой. Глыкс апамятаўся першы. Ізноў настойліва паторгаў хобітаў за плашчы, але ўжо моўчкі. Амаль сілаю пацягнуў іх наперад. Кожны крок адчайна не хацелася рабіць, і час запаволіўся так, што нават перад тым як, узьняўшы, апусьціць нагу, праходзілі хвіліны тужлівай агіды й жаху.

Павольна наблізіліся да белага мосту. Тут дарога, слаба паблісваючы, вяла над струменем пасярод даліны й далей, вілася вычварна да брамы гораду – чорнай пашчы, што ашчэрылася ў вонкавым кольцы паўночных муроў. Шырокія роўнядзі ляжалі паабапал струменю, лугі ценю, зарослыя блядна-белымі краскамі. Тыя таксама мігцелі, прыгожыя, але незвычайна вусьцішныя ў абрысах, нібы вар'яцкія стварэньні начных жахаў, што прарваліся ў яву. Ад іх патыхала гнільлю цела, забітай збуцьвелай плоцьцю, у паветры вісеў ванітны смурод. Ад лугу да лугу аркаю выгнуўся мост. Ля ўваходу на яго стаялі статуі, майстэрскі вычасаныя ў чалавечае й зьвярынае падабенства, але ж скажонае, мярзотнае, хворае. Вада бязгучна плынела пад мостам, выдыхала пару, што кружляла, агартала – і кранала сьмяротным холадам. Фрода адчуў, як мутошыцца ў галаве й цямнее перад вачыма. Тады зьнянацку, быццам пад чыімсьці загадам, ён засьпяшаўся, заклыпаў наперад, выставіўшы рукі, як сьляпы, а галава ягоная захісталася з боку на бок. Сэм з Глыксам кінуліся за ім. Сэм падхапіў гаспадара на рукі, калі той спатыкнуўся й ледзь не зваліўся проста на пачатак мосту.

– Не туды! Не! – прашаптаў Глыкс, але ж ягоны подых, вырваўшыся вонкі, разьдзёр цяжкую цішыню, што сьвіст, і Глыкс кінуўся на зямлю, скурчыўшыся з жаху.

– Трымайцеся, спадару Фрода, – прашаптаў Сэм Фрода на вуха. – Вярніцеся. Глыкс кажа: вы не туды, і я гады ў рады зь ім згодны.

Фрода пацёр рукою вочы й нарэшце адарваў позірк ад гораду на гары. Зіхоткая вежа вабіла яго, так хацелася кінуцца да яе па бліскучым шляху. Але ён перамог жаданьне, прымусіў сябе адвярнуцца, а зрабіўшы гэта, адчуў, як змагаецца супроць таго пярсьцёнак, нацягвае ланцуг вакол шыі, і вочы Фродавы, калі глянуў прэч, нібы асьлеплі. Бо цемра наперадзе выглядала суцэльнаю й шчыльнаю сьцяною.

Глыкс, які поўз па зямлі, як пераляканая жывёла, ужо зьнік у чарноцьці. Сэм, падтрымліваючы гаспадара, што кульгаў на кожным кроку, пасьпяшаўся за ім з усёй магчымай хуткасьцю. Непадалёк ад блізкага берагу струменю ў каменнай агароджы шляху знайшлася дзірка. Пралезьлі скрозь яе, і Сэм пабачыў, што пад нагамі ўецца сьцежка. Напачатку яна паблісквала, як і бальшак, але калі ўзьнялася над лугамі сьмяротных кветак, паблякла й пацьмянела, віючыся вычварыста па паўночным баку даліны.

Хобіты ўцята крочылі поплеч па сьцежцы, Глыкса бачылі наперадзе толькі калі ён прыпыняўся й прысьпешваў іх. Тады ягоныя вочы зьзялі бела-зялёным полымем, люструючы моргульскі гнільны бляск альбо запальваючыся ад нейкага адпаведнага Глыксавага настрою. А магільнае сьвятло й позірк чорных правалаў, што засталіся за сьпінамі, Фрода з Сэмам заўжды адчувалі, нават і азіраліся раз-пораз ад страху, і кожны раз зь цяжкасьцю адводзілі позіркі, каб пабачыць наперадзе сьцежку пад нагамі. Рухаліся павольна й складана. Калі падняліся над смуродам і парай атрутнага струменю, дыхаць стала лягчэй і ў галовах праясьнілася. Аднак рукі й ногі пацяжэлі сьмяротнаю стомаю, нібы ўсю ноч цягнулі непасільную пакладу ці доўга змагаліся супраць моцнай плыні. Нарэшце хобіты зьнясілелі зусім і не магліісьці далей без адпачынку.

Фрода спыніўся й сеў на камень. Сталі наверсе вялізнай голай скалы. Наперадзе даліна ўразалася ў гару, як заліў, і сьцяга агінала яе па вузкай паліцы над прорваю. Па каменным адхоне гары, чапляючыся за гэтую маленечкую прыступку, сьцежка вяла наверх і там зьнікала ў цемры.

– Мне трэба адпачыць, Сэме, – прашаптаў Фрода. – Ён цісьне на мяне, Сэме, цісьне. Колькі ж яшчэ я здолею несьці яго? Мушу адпачыць, а тое як брысьці па такім, – ён паказаў наперад.

– Шш! Ш-шш! – зашыпеў Глыкс, падбягаючы да хобітаў. – Шш!

Ён прыцісьнуў палец да вуснаў і захітаў галавою, паказваючы настойліва: трэба ісьці! Пацягнуў за Фродава рукаво, тыцнуў пальцам наперад, але Фрода не варухнуўся.

– Ня зараз, не, – адказаў зьнясілена, бо стома й нават нешта большае за яе наваліліся на яго, быццам нечы цяжкі заклён лёг на розум і цела, і хобіт прамармытаў: – Мушу, мушу адпачыць.

Ад гэтага Глыксаў жах ды непакой так вырасьлі, што ён загаварыў ізноў, шыпячы з-пад далані, захіляючы гук ад нябачных віжоў у паветры:

– Ня тут адпаччыцьцьс, ня туттс! Глупсства! Вочы насс убачацьсс! Калі крочаць на мосст, насс убачацьсс! Прэчч! Лезьма, лезьма! Ххутчэйсс!

– Хадзем, спадару Фрода. Ён ізноў мае рацыю – нельга тут заставацца, – параіў Сэм.

– Добра, – адказаў Фрода сонным, дзіўным голасам, нібы ўжо амаль і прыспаў, – я паспрабую.

І стомлена ўзьняўся.

Аднак надта позна. У гэты момант скала задрыжэла, затрэслася пад імі. Моцны грукат, гучнейшы за ўсё ранейшае, пакаціўся па зямлі, рэхам адбіўся ў гарах. Тады з апаляльнай раптоўнасьцю палыхнула чырвоным. Далёка за ўсходнімі гарамі скокнула ў нябёсы полымя, пляснула на нізкія хмары барваю. У даліне ценяў і халоднага сьмяротнага сьвятла бліскавіца падалася непераносна, гвалтоўна лютай. Чорныя вострыя абрысы пікаў, хрыбты, што вызубраныя лёзы, высьвеціліся пад полымем Гаргарату. Тады аглушальна грымнула.

А Мінас Моргул адказаў. Бліснула жудаснай маланкаю, галіны блакітнага агню скочылі зь вежы ў навакольныя горы й навіслыя аблокі. Зямля застагнала, і з гораду данёсься лямант. Перамяшаны з грубымі, хрыпатымі енкамі, бы ад зграі драпежных птушак, і з пранізьлівым іржаньнем коней, ашалелых ад злосьці й жаху, нёсься разьдзіральны, дрыгкі, узьнімаы на вышыню па-за чалавечым слыхам, вусьцішны енк. Хобітаў быццам разьвярнула да ягонай крыніцы, і яны кінуліся долу, прыціснуўшы рукі да вушэй.

Вусьцішны енк скончыўся, зноў зьнізіўся да доўгага, ванітнага выцьця й да цішыні. Фрода павольна падняў галаву. На другім баку нешырокай даліны амаль упоравень зь ягонымі вачыма стаялі муры злавеснага гораду, а ягоная пячорная брама, вычасаная ў падабенства разяўленай пашчы з бліскучымі іклами, расчынілася наросхрыст. І адтуль выходзіла войска.

Усе апранутыя ў чорнае, змрочныя, бы ноч. На фоне шэрых муроў і зіхоткага бруку Фрода добра бачыў іх, шэраг за шэрагам, – маленькія чорныя постаці, што хутка й бязгучна шыхтуюць, імкнуць наперад бясконцым струменем. Перад імі рушыў вялікі разьдзел кавалерыі, як карунак ценяў, і наперадзе ехаў найпершы, найвялікшы зь іх – Вершнік, апраметна-чорны, і толькі на ягонай схаванай каптуром галаве каронаю шчэрыўся шалом, праблісквaючы злавесным зьзяньнем. Ён набліжаўся да мосту, і Фродавы вочы сачылі за ім, і не было моцы нават міргнуць, ня тое каб адвесьці іх. Ці ж не гаспадар Чорных Вершнікаў вярнуўся на зямлю, каб весьці на бітву свой пачварны натоўп? Так, насамрэч, тое быў прывідны кароль, чыя ільдзяная рука зрынула Ахоўніка Пярсьцёнка, працяла яго сьмяротным лязом. Старая рана запульсавала болем, і холад пацёк ад яе па целе да сэрца.

І калі такія думкі сквалі яго жахам, леглі, бы чары, не дазваляючы варухнуцца, Вершнік раптоўна прыпыніўся, упрост перад уваходам на мост, і ўсе спыніліся за ім. Усё замерла, павісла мёртвая цішыня. Магчыма, пярсьцёнак паклікаў гаспадара-прывіда, і ён занепакоіўся, адчуўшы чужую моц у сваёй даліне. Чорная галава, каранаваная жудой, павярнулася туды-сюды, працінаючы цені прывіднымі вачыма. Фрода чакаў, нібы птушка перад зьмяёю, ня ў стане варухнуцца. І, чакаючы, мацней чым калі раней адчуў маўклівы загад насунуць пярсьцёнак. Але ж хоць і цяжка ўціскаў яго той загад, падпарадкавацца яму жаданьня не было. Бо ведаў, што пярсьцёнак здрадзіць, што ня хопіць сілаў нават зь ім супрацьстаяць моргульскаму каралю – пакуль ня хопіць. Уласная Фродава воля аніяк не адгукалася на загад, хоць яе й прыгнятала вусьціш, і толькі звонку адчувалася чужая сіла, што крынічыла й імкнулася ў Фродаў розум. Яна завалодала Фродавай рукою, і пакуль Фрода назіраў, нібы звонку, нібы чытаючы нейкі расповед пра далёкую мінуўшчыну, – мімаволі, пераадольваючы супраціў цела, рука папаўзла да ланцужку на шыі. Толькі тады прачнулася ўласная Фродава воля й накіравала руку да нечага іншага, да рэчы, схаванай на грудзях. Халодным і цьвёрдым падаўся спачатку падарунак Галадрыелі, гэтак доўга хаваны, амаль забыты. Ад дотыку да яго ўсе думкі пра пярсьцёнак раптам зьніклі. Фрода ўздыхнуў і нахіліў галаву.

У гэты момант павярнуўся й кароль-вядзьмар, прыбаднуў каня й рушыў праз мост, а войска ягонае кранулася сьледам за ім. Мо эльфаў плашч падмануў ягоныя нябачныя вочы й воля маленькага ягонага ворага, узмацніўшыся, адвярнула каралёву думу. Але таксама ён сьпяшаўся. Надышоў прызначаны час, і на загад вялікага гаспадара ён рушыў вайною на Захад.

Неўзабаве ён праехаў, як цень сярод ценяў, адышоў уніз па пятлястай дарозе, а за ім чорныя шэрагі яшчэ доўга маршавалі па мосьце. З часоў Ісільдаравай моцы такое магутнае войска не выходзіла з Моргульскай даліны, і аніколі яшчэ навала гэткай лютасьці й ваярскай сілы не нападала на броды Андуйну, і ўсё-ткі тое было далёка ня самае вялікае з войскаў, якія Мордар выслаў цяпер на вайну.

Фрода варухнуўся. І раптоўна ягоныя думкі павярнуліся да Фараміра.

"Навала абрынулася нарэшце, – падумаў ён. – Гэты лес дзідаў і мечаў рушыць на Азгіліят. Ці пасьпее Фарамір за раку? Ён прадбачыў навалу, але ж ці здагадаўся, калі менавіта яна прысьпее? І хто цяпер здолее ўтрымаць броды супраць караля Дзевяці Вершнікаў? А прыйдуць жа й іншыя войскі. Я спазьніўся. Усё страчанае. Нават калі я й сягну свае мэты, ніхто пра гэта не даведаецца. Усё дарма, усё марна".

Зьнясілены, ён заплакаў. А войска Моргулу ўсё ішло ды ішло праз мост.

А тады з далёкай далечы, нібы з успамінаў пра Шыр, зь нейкага яснага сонечнага ранку, калі дзень клікаў да жыцьця й дзьверы расчыняліся насустрач яму, пачуўся голас Сэма: "Прачніцеся, спадару Фрода!" Калі б той голас дадаў: "Ваш сьняданак гатовы", – Фрода наўрад зьдзівіўся б. Бо голас гучаў надта заклапочана. "Прачынайцеся, спадару Фрода, яны прайшлі!"

Пачуўся глухі бразгат. Брама Мінас Моргулу зачынілася. Апошні шэраг дзідароў зьнік у змроку. Вежа па-ранейшаму кпліва шчэрылася з-за даліны, але сьвятло ў ёй згасала. Увесь горад вяртаўся ў чакальны злавесны цень і маўклівасьць. Аднак заставаўся гэткім самым насьцярожаным, назіральным.

– Прачніцеся, спадару Фрода! Яны сышлі, і нам таксама лепей ісьці. Там нешта жывое засталося, нешта з вачыма, альбо яно неяк розумам бачыць, калі вы мяне разумееце, і чым даўжэй мы на адным месцы, тым хутчэй яно нас угледзіць. Паўстаньце, пане Фрода!

Фрода падняў галаву, стаў на ногі. Адчай не пакінуў яго, але млявасьць мінула. Хобіт нават і ўсьміхнуўся нявесела, адчуваючы зараз з той самай яснасьцю, зь якой хвіліну таму перажываў зусім супрацьлеглае, што мусіць выканаць свой абавязак, калі толькі здолее, і што зусім няйстотна, даведаюцца пра тое Фарамір ці Арагорн, Эльранд ці Галадрыель альбо Гэндальф ці хто іншы з мудрых і дасьведчаных. Фрода ўзяў кій у адну руку, фіял у другую. Калі пабачыў, што яснае сьвятло прасочваецца праз пальцы, сунуў фіял назад, за вопратку, прыціснуў да сэрца. Тады павярнуўся сьпінаю да Моргулу, ужо зблёклага, шэрага ценю за чорным правалам даліны, крочыў на сьцежку наверх.

Глыкс жа, калі брама Мінас Моргулу адчынілася, прапоўз угару па сьцежцы, у цемру, і пакінуў хобітаў. А цяпер вярнуўся, дрыжучы, ляскаючы зубамі й заламваючы рукі.

– Глупсства! Дурнісс! – шыпеў праз зубы. – Ххутчэйсс! Небясьсьпека не мінула! Не! Сьсьпяшшайцеся, ххутчэйсс!

Хобіты не адказалі й моўчкі пакрочылі за ім па скальнай палічцы ўгару. Ня надта тое было ім даспадобы, нават пасьля стралькіх небясьпек. На шчасьце, пераход цягнуўся ня вельмі доўга. Неўзабаве сьцежка падвяла да новага выступу гары й там

раптоўна нырнула ў вузкую шчыліну ў скале – першую зь лесьвіцаў, пра якія казаў Глыкс. Цемра вісела амаль апраметная, ледзь бачылі пальцы выцягнутай рукі. Толькі Глыксавы вочы зьзялі бледна, калі той паварочваўся, пазіраючы на хобітаў зьверху, за некалькі ступнёў над імі.

– Асьсьцярожна! – шаптаў ён. – Прысступкі. Мноcства прысступак! Мусьсім пасьцерагчысься!

Сьцерагчыся насамрэч было не залішне. Фрода з Сэмам напачатку адчулі палёгку, то ж бо сьцены абапал, але ж лесьвіца вяла надзвычай строма, і, караскаючыся ўгору, хобіты ўсё больш уяўлялі сабе, якая глыбокая чорная прорва зеўрае за сьпінамі. Прыступкі былі вузенькія, няроўныя й рознай вышыні, дый здрадныя – сьцёртыя, з акруглымі краямі, паламаныя, а некаторыя крышыліся, калі на іх абапіраліся. Хобіты паўзьлі ўгору, пакуль не давялося чапляцца здранцьвелымі пальцамі за прыступкі наверсе й прымушаць зьнямелыя калені згінацца й разгінацца. А лесьвіца ўсё глыбей угрызалася ў гару, і вышэй Уздымаліся пааберуч сьцены.

Нарэшце, калі ўжо адчулі, што болей ня вытрымаюць, ізноў пабачылі вырачаныя зьверху Глыксавы вочы.

– Падняліся, – прашаптаў той. – Першую лесьвіцу мінулі. Разумныя хобітссы, усскарасскацца гэтак выссока, мудрыя хобітссы. Яшшчэ колькі маленечкіхх прысступачак – і ўсё.

Здурнелыя ад стомы Сэм і Фрода перапаўзьлі апошнюю прыступку дый паселі, чухаючы каленкі й ступні. Сядзелі ў нейкім цьмяным праходзе, які вёў наверх, хоць і ня так строма, і без прыступак. Доўга адпачываць Глыкс не дазволіў.

– Наперадзе яшшчэ лесьвіца. Нашшмат даўжэй. Адпачнем, калі заберамосься на яе.

– Даўжэй? Сапраўды? – застагнаў Сэм.

– Такс, такс, даўжэй. Але не такая цяжкая. Хобітссы ўсскарасскалісься па прамой лесьсьвіцы. Зараз пачнецца вітуніца.

– А што пасьля таго? – спытаў Сэм.

– Пабачым, – адказаў Глыкс ціха. – Такс, пабачым!

– Я думаў, ты меў на ўвазе тунэль, – заўважыў Сэм. – Ці ёсьць там які тунэль альбо нешта, праз што праходзіць трэба?

– Так, такс, там ёсьсьць тунэль, але хобітссы адпачнуць да яго. Бо празь яго пройдзешш – і амаль ужо наверсьсе, такс. Надта блізка, калі пройдзешш. Такс!

Фрода ўздрыгнуў. Узапрэў ды разагрэўся ад пад'ёму, але зараз адчуваў ліпкі воглы холад, у праходзе дзьмула падвеем ад даліны да нябачных вяршыняў наверсе. Тады Фрода ўстаў і атросься.

– Ну, – прамовіў, – тады рушым! Насамрэч ня ўтульнае тут месца, каб расьседжвацца.

Праход, падавалася, цягнуўся вёрстамі, і заўжды сьвідравала ў ім халодным скразьняком, які паступова ператварыўся ў ільдзяны віхур, быццам горы хацелі сьмяротным подыхам пазбавіць падарожнікаў моцы, не пусьціць да таямніцаў вяршыняў альбо зьдзьмуць, скінуць уніз, у цемру. Зразумелі, што дабраліся да канца калідору, калі зьнянацку справаруч не адчулі болей сьцяны. А ня бачылі амаль нічога. Неабсяжнае бясформавае чарноцьце ўздымалася наперадзе, густа-шэрыя цені ляжалі наўкола, але ж раз-пораз праблісквала чырваньню з-пад нізкіх хмараў і на які момант пааберуч і наперадзе выступалі высокія пікі, бы калёны, што трымаюць неабдымны

абвіслы дах. Падняліся ўжо на шмат сотняў ступнёў і выбраліся на шырокую скальную палічку. Сьцяна ўздымалася леваруч, і прорва зеўрала справа.

Глыкс рушыў бліжэй да сьцяны. Ужо не караскаліся наверх, але палічка была няроўная, у цемры надта небясьпечная, там і тут грувасьцілася каменьне, якое звалілася зьверху й перакрывала шлях. Рушылі павольна, асьцярожна. Колькі гадзінаў мінула з таго, як уступілі ў даліну Мінас Моргул, ані Фрода, ані Сэм сказаць не маглі. Ноч уяўлялася ім бясконцай.

Праз доўгі час наперадзе ўзьняўся чорны гмах, і хобіты ўцямілі, што дабраліся да наступнай сьцяны й перад імі зноў сходы. Зноў прыпыніліся перад імі й зноў пачалі караскацца. Доўга, нудстна, зьнясілена. Гэтая лесьвіца не ўразалася ў тоўшчу гары. Тут волатаўскі твар скалы адхіляўся назад, і сьцежка вілася па ім туды-сюды, як зьмяя. У адным месцы падпаўзала ўшчыльную да краю чорнай прорвы. Фрода, зірнуўшы ўніз, пабачыў там у глыбокай чорнай яміне вялізную цясьніну – верхавіну Моргульскай даліны. На самым яе дне чарвяком-сьветляком віўся шлях прывідаў ад мёртвага гораду да Безыменнага перавалу. Фрода пасьпешліва адвярнуўся.

Сьцежка ўсё выгіналася туды-сюды, паўзла наверх, нарэшце, пасьля апошняга пралёту, кароткага й прамога, выбіралася на роўнае месца. Тут дарога, адхіляючыся ад перавальнай даліны, зводзіла ў вялізную цясьніну й вілася па дне іншай даліны ў высакагор'і Эфэл Дуату. Празь цемру хобіты паўразгледзелі-паўуявілі высокія сьпічастыя вежы й вызубраныя дзіды скалаў пааберуч і паміж імі глыбокія расколіны й шчыліны, выгрызеныя ды вычасаныя забытымі зімамі ўзаўжды зацененых скалах. Чарней ад ночы падаваліся яны. А барвянае зьзяньне ў нябёсах мацнела, хоць і цяжка было сказаць: ці тое вусьцішнае раньне надыходзіць да ценяў гэтых гор, ці тое толькі водбліск вялікага полымя – Саўронавага шаленства над скатаванай зямлёю Гаргарату. Зірнуўшы ўгору, Фрода пабачыў далёка наперадзе й наверсе мэту іхняга горкага й цяжкага шляху. На тле суворай чырвані ўсходніх нябёсаў адзначылася ў верхнім грабяні гор расколіна, вузкая, глыбокая, сьціснутая моцнымі каменнымі аплеччамі. І паабапал іх высіліся каменныя рогі.

Фрода прыпыніўся й прыгледзеўся да іх. Левы рог быў тонкі й высокі, і на ім нібы пунсова сьвяцілася вакно. Ці тое сьвятло нябёсаў прасьвечвала празь дзірку? Не, гэта чорная вежа вартавала перавал. Ён крануў Сэмаву руку ды паказаў на вежу.

– Не падабаецца мне гэта! – Сэм пагрозьліва павярнуўся да Глыкса. – Дык твой таемны шлях усё ж такі ахоўваюць, га? І ты пра гэта ўвесь час ведаў, так мне падаецца?

– Тут усьсе шляхі вартуюць, таксс, – адказаў Глыкс. – Вядома ж, вартуюць. Але ж хобітссам трэ недзе пасспрабаваць! Тут мо меней вартуюць. А можа, усьсе яны ссышлі на вялікую вайну, таксс, ссышлі!

– Можа, – прабурчэў Сэм. – Ну, тое яшчэ далёка, і наверх лезьці доўга, пакуль дабярэмся... А яшчэ твой тунэль. Мяркую, вам лепей цяперачка адпачыць, спадару Фрода. Ня ведаю, якая зараз гадзіна дня альбо ночы, аджа мы ідзем ужо зашмат гадзінаў.

– Так, трэба адпачыць, – пагадзіўся Фрода. – Знайсьці які закут, прыхаваны ад ветру, дый набрацца сілаў на апошні кідок.

Наступны пераход насамрэч падаваўся яму апошнім. Вусьціш зямлі за перавалам, справа, якую мусіў зрабіць там, бачыліся надзвычай далёкімі й зусім яго не турбавалі. Увесь ягоны розум займала толькі тое, як мінуць ці абысьці непраходную сьцяну наперадзе й яе варту. Калі здолее тое, тады й усё астатняе

нейкім чынам абавязкова зьдзейсьніцца. Так марылася яму ў чорны час стомы, сярод каменных ценяў Кірыт Унгалу.

Прыселі адпачыць у шчыліне паміж вялізнымі скаламі. Фрода з Сэмам крыху ў глыбіні, а Глыкс скурчыўся на камянёх ля выхаду. Там хобіты пасьнедалі або павячэралі, як меркавалі, у апошні раз перад Неназывальнаю краінай – магчыма, астатні ў жыцьці пад'едак, які мелі разам. Зьелі крыху гондарскай ежы, эльфавага хлеба, крыху папілі. Але ваду берaглі й хіба толькі раты ўвільготнілі.

– Вох, калі ж мы ізноў адшукаем ваду? – уздыхнуў Сэм. – Напэўна ж, і там, за хрыбтом, п'юць? Ці п'юць оркі ўвогуле?

– Так, п'юць, – адказаў Фрода. – Але ня трэба нават думаць пра тое. Іхнія напоі не для нас.

– Тым болей патрэбна напоўніць біклажкі. Але тут наверсе вады аніякай – ані струменьчыку я ня чуў, ані кропляў. Дый Фарамір нам казаў, каб не пілі аніякай вады з Моргульскай даліны.

– Аніякай вады, якая выцякае зь Імлад Моргулу, вось так ён казаў, – заўважыў Фрода. – А мы ж ужо не ў даліне й калі знойдзем крыніцу, дык яна будзе цячы ў даліну, а не зь яе.

– Усё адно, ня стану я яе піць, хіба што зусім ад смагі загнуся. А ў гэтым месцы дык увогуле нешта благое, – ён нюхнуў паветра. – Смурод нейкі ці што. Вы заўважылі? Дзіўны такі пах, застойлы, збуцьвелы. Не даспадобы зусім.

– Мне тут анічога не даспадобы, – вымавіў Фрода, – ад камянёў да каранёў, усё тут клятае, ліхое: і паветра, і горы, і вада. Але так ужо лёг наш шлях.

– Яно так, анягож. Мо й не былі б мы тутака, каб ведалі болей, выпраўляючыся ў вандроўку. Дый мяркую: яно часьцяком такою манераю й выходзіць. Гэная адважнасьць з старых песьняў ды баек, спадару Фрода, авантуры гэныя, як я іх называю, – я ж лічыў, што той дзівакоўскі народ з паданьняў сам хадзіў ды шукаў іх. Сам хацеў ды сам шукаў, бо жыцьцё абрыдла ціхамірнае, бо ад іх імпэт, і захапленьне, і забава, так мяркую. А ў паданьнях дык насамспраўзусім ня тое, у сапраўдных гісторыях, ва ўсялякім разе, у тых, якія з табою застаюцца. Люд, то бок, спросту ўпынаецца пасярод прыгодаў, пра тое ня просячы. Так іхні шлях лёг, як вы казалі. І, напэўна ж, шмат з тых авантурных герояў мелі добры шанец павярнуць назады, як і мы. Толькі яны не павярнулі. А калі б павярнулі, мы пра іх ня ведалі б, таму што на іх забыліся б. Чуем мы толькі пра тых, хто ня збочыў, хто пайшоў далей – і часьцяком да благога пайшоў, вось у чым рэч. Ва ўсялякім разе, не да таго, што народ і ў самой гісторыі, і па-за ёю назаве "добрым" – ну, накшталт таго, каб дахаты вярнуцца дый вынайсьці, што там усё файна, няхай і не зусім так, як раней было. Ну, бытта стары пан Більба. Дый гісторыі з добрым канцом не заўжды й лепшыя для слыху, хоць, вядома ж, найлепшыя з тых, пасярод якія давялося б апынуцца. Цікава, у якую гісторыю патрапілі мы?

– Мне таксама цікава. Але я ня ведаю. Так ужо водзіцца ў сапраўдных гісторыях. Вазьмі дзеля прыкладу любую з тых, якія табе падабаюцца. Ты ж мо й ведаеш альбо здагадваесься, які там будзе канец – сумны ці шчасьлівы, але ж удзельнікі яе таго ня ўяўляюць. І ты наўрад ці хацеў бы, каб яны ведалі.

– Не, спадарыку, вядома ж, не. Бэрэна вазьміце, дык ён і надумаць ня мог, што здабудзе гэны Сільмарыль з Жалезнай Кароны ў Тангарадрыме, а здабыў жа, хоць месца тое было паскуднае, нашмат горшае й чарнейшае, чымся тутака. Адылі тое доўгі расповед, вядзе ён і праз радасьць, і праз смутак, і далёка па-за іх, бо

Сільмарыль жа ўрэшце патрапіў да Эярэндыля. А вось, спадару, пра што я раней ня скеміў: у нас жа ёсьць, у нас насамрэч ёсьць у гэнай вашай зорнай шклянцы, якую дала вам панна, сьвятло Сільмарыля! Дык, калі разабрацца, мы ў тым самым паданьні! Яно ўсё падаўжаецца! А мо такія гісторыі й не сканчаюцца аніколі?

– Не, як гісторыі яны аніколі не сканчаюцца, – пагадзіўся Фрода. – Новыя героі крочаць у іх дый выходзяць, згуляўшы сваю ролю. І мы згуляем сваю – раней ці пазьней.

– А тады ва ўзнагароду адасьпімся крыху й адпачнем досыць, – вынікаваў Сэм, нявесела засьмяяўшыся. – Я толькі тое й маю на ўвазе, пане Фрода, анічога болей. Звычайны адпачынак, і каб паспаць, а раніцою пашпацыраваць па садочку. Прызнаюся, толькі пра тое ўвесь час і мару. Усе вялікія найістотнейшыя пляны не для такіх, як я. Аднак цікава, ці патрапім мы ў якія песьні альбо паданьні. Мы ўжо ў адным, вядома, але ж я маю на ўвазе: каб хто распавёў пра гэта, каб ля агменю баялі ці чыталі зь вялізнай тоўстай кніжкі з чырвонымі й чоркымі літаркамі яшчэ й шмат гадоў пасьля. Кампанія ля агменю запатрабуе: "А зараз паслухаем пра Фрода й Пярсьцёнак!" І скажуць таксама: "Так, тое адна з нашых найулюбёнейшых гісторый. Фрода быў такі адважны, праўда, бацьку?" "Так, сынку, найзнакаміцейшы з хобітаў, а тое нечага ды варта!"

– Аёй, зашмат ты мне намарыў вартасьці, – Фрода зарагатаў ад усяго сэрца, чыста й гучна. Такога гэтыя мясьціны ня чулі ад самага прыходу ў Міжзем'е Саўрона. Сэму падалося раптоўна, быццам самыя камяніскі ўслухоўваюцца й сьцены, каб лепш пачуць, нахіляюцца да хобітаў. Але Фрода не зьвяртаў увагі, ён сьмяяўся.

– Чамусьці, Сэм, – вымавіў нарэшце, – калі чую цябе, дык столькі задавальненьня маю, нібы тая гісторыя ўжо напісаная. Але ж ты ня згадваеш на галоўнага героя – Сэмвайза Мужнага. "Бацьку, я хачу болей пра Сэмвайза. Чаму тут так мала ягоных прамоваў? Вось што мне падабаецца, гэтак сьмешна! Фрода далёка не прайшоў бы бяз Сэма, так, бацьку?"

– Ну, спадару Фрода, ня сьлед вам так кпіць, я ж сур'ёзна.

– Я ня кплю, Сэме, я таксама ўсур'ёз. Мы забягаем наперад. Мы з табою пакуль што захрасьлі ў найгоршым месцы нашай гісторыі, і, хутчэй за ўсё, у гэтым месцы хто-небудзь і папросіць: "Загарні кніжку, бацьку, калі ласка, не хачу я болей чытаць".

– Вераемна, – пагадзіўся Сэм. – Але ж я так не сказаў бы. Тое, што адбылося, што мінула, а тады стала часткай расповеду, – яно ўжо не такое. Бо нават пра Глыкса ў гісторыі слухаць цікава, нашмат цікавей, чым мець яго побач. Дый ён, з уласных ягоных словаў, калісьці любіў слухаць гісторыі. Цікава, кім ён сябе ўяўляе – героем ці злачынцам? Гэй, Глыксе! – паклікаў Сэм. – Ці хацеў бы ты быць героем... Э-э, а куды ж ён ізноў падзеўся?

Глыкса не было ані ля выхаду з расколіны, ані сярод ценяў паблізу. Ад ежы ён, як звычайна, адмовіўся, хоць і прыняў глыток вады, а тады, падавалася, скурчыўся, каб паспаць. Вядома, раней ён надоўга зьнікаў, каб упаляваць сабе харч на свой густ. Зараз ён, відавочна, зьнік, пакуль яны размаўлялі, але ж навошта?

– Не даспадобы мне вось такія ягоныя высьлізгваньні без папярэджаньня, – нахмурыўся Сэм. – Асабліва цяпер. Ня ежу ж ён тут шукае, хіба што якое каменьне прыйшлося яму да смаку. Тут жа ні моху, ні лішайніку няма!

– Які сэнс непакоіцца пра яго зараз? Мы гэтак далёка не забраліся б, нават і пералу не пабачылі б безь яго, так што нам анічога не застаецца, як дазволіць яму рабіць, што ён хоча. Калі здрадзіць, дык здрадзіць.

– Гэтак ці інакш, я ўсё роўна лепей трымаў бы яго на вачох. Асабліва калі ён хоча здрадзіць. Ці памятаеце, што ён так і не прызнаўся, ахоўваюць гэты перавал ці не? А мы цяперака бачым тут вежу. Можа, яна закінутая, а мо й не. Як мяркуеце, ён не па оркаў выправіўся ці мо па нешта накшталт таго?

– Не, я так ня думаю. Нават калі ён задумаў нешта благое, што цалкам верагодна, ён не прывядзе ані оркаў, ані іншых паслугачоў Ворага. Навошта было столькі чакаць, пакутаваць, лезьці ўгару, падабрацца так блізка да краіны, якой ён баіцца? Напэўна, з часу нашай сустрэчы ён мог мноства разоў навесьці на нас оркаў. Не, калі ён што й задумаў, дык гэта нейкая асабістая ягоная неспадзяванка для нас, уласная ягоная таямніца.

– Ну, напэўна, вашая рацыя, спадару Фрода, – пагадзіўся Сэм. – Хоць мяне гэта не заспакойвае. Наконт яго я не памыляюся, асабіста мяне ён здаў бы оркам хутчэй, чым прамовіць "здаравенькі былі". Так, я на ягоную кашштоўнасьсьць забыўся. Думаю, ён толькі й марыць увесьчасна: "Кашштоўнасьсьць для няшчасснага Сьмеяголя". Гэта адзіная ідэя ягоных хітрыкаў, калі ён іх задумаў. А вось як яму дапаможа тое, што мы сюды дабраліся, для мяне загадка.

– Хутчэй за ўсё, ён і сам пра тое не здагадваецца. І ня думаю, што ў ягоным заблытаным розуме існуе нейкі адзіны плян. Мяркую, часткова ён намагаецца ўратаваць каштоўнасьць ад Ворага, ратаваць так доўга, колькі здолее. Бо для яго таксама будзе стратаю, сапраўднаю й суцэльнаю, калі Вораг захопіць пярсьцёнак. А зь іншага боку, ён, верагодней за ўсё, папросту чакае свайго часу.

– Так, як я й казаў раней, Сьмярдзяк і Сьлімак. І чым бліжэй да варожай краіны, тым болей Сьлімак робіцца падобны да Сьмердзюка. Згадайце мае словы: нават калі мы дабярэмся да перавалу, за яго ён нам не дазволіць аднесьці каштоўнасьць, не ўчыніўшы якой шкоды ці гвалту.

– Мы да яго шчэ не дабраліся, – заўважыў Фрода.

– Не, але трэ быць пільнымі, раз ужо надумаліся. Калі напаткае соннымі, дык Сьмярдзяк хутка возьме верх. Вядома, гэта я не да таго вяду, што ўвогуле спаць небясьпечна. Вы можаце прыдрамнуць, спадарыку, калі побач з мною. Я насамрэч задаволюся, калі вы добра пасьпіцё. А я павартую, дый у любым выпадку, калі пакладзяцеся побач, я абдыму вас, аніхто й ня здолее рук на вас накласьці, мяне не патрывожыўшы.

– Паспаць! – уздыхнуў Фрода, нібы ў пустэльні раптам пабачыў відзежу прахалоднага гаю. – Так, нават тут я змагу паспаць.

– Ну дык сьпіце, спадару! Кладзіце галаву мне наўколенкі!

Так Глыкс і знайшоў іх праз гадзіны, калі вярнуўся, паўзучы й крадучыся па сьцежцы з змроку наперадзе. Сэм сядзеў, абапёршыся сьпінаю аб камень, зьвесіўшы галаву набок і дыхаючы зь цяжкасьцю. На каленях ягоных ляжала Фродава галава. Фрода глыбока спаў. На ягоным белым лобе ляжала загарэлая Сэмава рука, другая ледзь кранала, прыкрываючы, грудзі. Зьміранасьць спачыла на тварах абодвух.

Глыкс паглядзеў на іх, і дзівосная зьмена адбылася зь ягоным схуднелым, галодным тварам. Зьзяньне згасла ў вачох, яны зрабіліся цьмяныя, шэрыя, старыя й стомленыя. Яго нібы перакурчыла сутаргай болю, і ён адвярнуўся, пазіраючы назад, у змрок, трасучы галавою, быццам спрачаючыся з сабой. Тады павярнуўся назад і павольна выцягнуў дрыготкую руку, надта асьцярожна крануў Фродава калена – і датыкненьне тое было амаль ласкаю. І на хуткаплыннае імгненьне, калі б толькі заснулыя пабачылі яго, ён падаўся б ім састарэлым, зьнямоглым хобітам, ссохлым ад

цяжару гадоў, які давялося несьці нашмат болей, чым належала, калі ўжо памерлі й сябры, і сваякі, згібелі, зьніклі палеткі й крыніцы маладосьці, і застаўся толькі ён – няшчасны, галодны, мізэрны аскепак.

Але ад таго дотыку Фрода варухнуўся й застагнаў ціхенька ўва сьне, і адразу ж ад таго прачнуўся Сэм. і першым, што пабачыў, быў Глыкс, які відавочна хацеў "накласьці лапы" на гаспадара.

– Гэй ты! – груба гукнуў Сэм. – Чаго захацеў?

– Нічога, нічагуткі, – адказаў Глыкс ціхенька. – Добры спадар!

– Вядома ж, – буркнуў Сэм. – А ты дзе бадзяўся? Шнарыў туды-сюды, стары злодзей?

Глыкс адсунуўся, і зялёны бляск прабіўся з-пад ягоных цяжкіх павекаў. І, на паўсагнутых нагах і руках, ён зараз прыняў падабенства павука з вырачанымі вачыма. Імгненьне мінула, як і не было.

– Шшнарым, шшнарым, – прашыпеў Глыкс. – Хобітссы заўжды такія ветлівыясс, таксс! Ффайныя хобітссы! Сьмеяголь вядзе іхх да таемныхх сьсьцежак, аніххто іхх не прывядзе, Сьсьмеяголь вядзе. Сстомлены ён, сьсьмяглы, таксс, вельмі сьсьмяглы, ён вядзе іхх, шшукае ім сьсьцежкі, а яны: "Шшнарыць, шшнарыць"! О, таксс, мая кашштоўнасьсьць, такая дабрынясс!

Сэму стала крыху сорамна, але даверу не дадалося.

– Прабач, – сказаў ён, – вінаваты. Але ж ты мяне напалохаў, абудзіўшы гэтак зьнянацку. А мне спаць нельга было, ну, я з таго крыху раззлаваўся. Спадар Фрода, бачыш, так стаміўся, ну, я й сказаў яму прыдрамнуць, вось і здарылася. Прабач. Але ўсё-ткі дзе ты быў?

– Шшнарыў, – зялёнае полымя не пакінула Глыксавых вачэй.

– Ну тады добра. Калі ты так хочаш, няхай будзе па-твойму. Напэўна, гэта недалёка ад праўды. А зараз нам лепей усім пашнарыць наперад. Якая гадзіна? Сёньня ці ўжо заўтра?

– Ужо заўтра, ці было заўтра, калі хобітссы пайшшлі сспаць. Надта неразумна, надта небясьсьпечна, калі б бедны Сьсьмеяголь ня шнарыў навокал, не вартаваў.

– Мяркую, неўзабаве нам гэтае слова надакучыць. Аднак гэта дробязі. Зараз я пабуджу гаспадара.

Лёгенькім дотыкам ён паправіў Фродавы валасы, прыбраў іх з лоба дый нахіліўся, паклікаў напаўголасу:

– Прачніцеся, пане Фрода! Прачніцеся!

Фрода паварушыўся, расплюшчыў вочы й усьміхнуўся, убачыўшы Сэмаў твар над сабою.

– Раненька будзіш мяне, так, Сэме? Яшчэ ж цёмна!

– Тут заўжды цёмна, – адказаў Сэм. – Але Глыкс вярнуўся, спадарыку Фрода, і кажа, што ўжо раніца. Таму мусім ісьці. Апошні пераход, так.

– Апошні! – Фрода глыбока ўздыхнуў і сеў. – Вітаю, Сьмеяголь! Ці знайшоў ты сабе ежы? Ці адпачыў?

– Ані ежы, ані адпачынку, анічога беднаму Сьмеяголю, – адказаў той. – Бо ён шшнырак.

– Не абзывай сябе так, Сьмеяголь. Неразумна даваць сабе мянушкі, праўдзівыя яны ці не.

– Сьсьмеяголю заўжды застаецца толькі тое, што яму кінуць. Яму такое імятка кінуў добры сспадар Ссэмвайзз, хобітсс, які зашшмат усьсяго ведае.

Фрода запытальна зірнуў на Сэма.

– Ну так, спадару, – пацьвердзіў той. – Я яго так абазваў, калі раптоўна прачнуўся й пабачыў, што ён ледзь не пад носам у мяне. Я ж папрасіў прабачэньня, але хутка, напэўна, пашкадую пра тое.

– Ня трэба згадваць гэта, – сказаў Фрода. – Але ж, падаецца, мы ўжо сягнулі дамоўленага паміж мною й табою, Сьмеяголь, часу. Скажы, ці знойдзем мы далей шлях самі? Бо мы ўжо бачым перавал і дарогу да яго, і калі мы адшукаем праход, тады нашая дамова падыдзе да канца. Ты выканаў, што абяцаў, і цяпер вольны йсьці куды пажадаеш, каб адшукаць ежу й адпачынак, і да каго хочаш, апрача толькі варожых паслужнікаў. Калі-кольвек, спадзяюся, я альбо тыя, хто ўзгадае на мяне, цябе ўзнагародзяць.

– Вохх. Не, не, яшшчэ не, – заенчыў Глыкс. – Не, хобітссы ня знойдуць шшлях самі, ня знойдуць! Нассамрэч, не! Тунэль наперадзе, таксс. Сьмеяголь мусіць весьсьці наперад. Без адпачынку. Бязь ежы. Пакуль шшто, таксссс!

## *9. Логвішча Шэлаб*

Пэўна, сапраўды надышоў дзень, як і казаў Глыкс, але хобіты розьніцы ня бачылі. Хіба покрыва хмараў над галавою стала не такое шчыльнае, зрабілася падобным на суцэльную завесу дыму й замест глыбокай чарнаты, якая шчэ чаплялася за ямы й расколіны, шэры смужны цень агарнуў каменны сьвет наўкол. Глыкс рушыў наперадзе, за ім поплеч хобіты – па доўгай расколіне між слупамі й калёнамі з пакрышанага, выветранага каменю, што ўзвышаліся пааберуч вялізманымі бясформавымі статуямі. Не чуваць было ні гуку. Наперадзе, за вярсту ці каля таго, высілася шэрая сьцяна, ускідваўся ўгару невымерны скальны гмах, закрываючы ўсё за ім. Глыбокі цень драмаў ля ўзножжа. Сэм уцягнуў паветра.

– Ву-ух, як сьмярдзіць! – вухнуў ён. – Ды ўсё мацней.

Сягнулі ценю пад сьцяною й пабачылі жарало пячоры.

– Гэта той праход, – ціха вымавіў Глыкс. – Гэта ўваход у тунэль.

Ён не назваў імя праходу – Торэх Унгал, Логвішча Шэлаб. Зь яго патыхала смуродам. Ня хворым гнільлём моргульскіх лугоў, а лютым смуродам неабсяжнага, згрувашчанага ў цемры бруду.

– Ці гэта адзіны праход, Сьмеяголь? – спытаў Фрода.

– Таксс, таксс, – адказаў той. – Мы мусьсім ісьсьці тутс.

– Ці маеш ты на ўвазе, што праходзіў цераз гэную дзірку? – удакладніў Сэм. – Фу-у! Напэўна, табе смурод не замінае.

Глыксавы вочы бліснулі.

– Ён ведае, шшто нам замінае, а шшто не, таксс, кашштоўнасьсьць? Не, ня ведае. Але Сьсьмеяголь церпіць, трывае. Таксс. Ён быў там. Прайшшоў. Гэта адзіны шшляхх.

– Цікава, што так сьмярдзіць? – падзівіўся Сэм. – Ды яно дакладна, як... ну, ня буду казаць што. Нейкая тут быдлячая оркава нара ды гной іхны там стогадовы.

– Ну, – уздыхнуў Фрода, – оркі ці не, калі гэта адзіны шлях, мусім ісьці па ім.

Удыхнуўшы глыбока, крочылі ўсярэдзіну. Празь некалькі крокаў падарожнікі апынуліся ў суцэльным непраглядным змроку. Ад самай Морыі не траплялі Фрода з Сэмам у гэткую цемрадзь, а тут яна padавалася, калі тое ўвогуле магчыма, яшчэ больш шчыльнай і глыбокай. Там усё ж адчуваліся нейкія рухі паветра, рэха, прастора. Тут і паветра вісела застаялае, нерухомае, цяжкое, і гукі гасьлі ў ім, ледзь сарваўшыся з вуснаў. Хобіты нібы соўваліся праз чорныя выпарэньні самой цемры, якая атручвала дыханьне, сьляпіла ня толькі вочы, але й розум, і пад ёю блёклі ўспаміны пра фарбы й краскі сусьвету, пра любое сьвятло. Толькі ноч, заўжды ноч і анічога, апрача ночы, панавала й панавацьме тут.

Спачатку пачуцьці ня цалкам здрадзілі ім. Пачуцьцё дотыку ў пальцах ды ступнях абвастрылася амаль да болю. На зьдзіўленьне, сьцены падаваліся гладкімі, дый падлога таксама, хіба што траплялася прыступка-другая, і вёў калідор угару проста й пад адным нахілам. Тунэль быў шырокі й высокі, і хоць хобіты крочылі поруч, да сьценаў дакраналіся толькі пальцамі выцягнутых рук, і адзін аднаго ўжо не маглі дастаць, самотныя ў цемры.

Глыкс рушыў наперадзе, падавалася, толькі за некалькі крокаў ад іх. Пакуль цемра не зьмярцьвіла слых, чулі ягоны шыплівы й хрыпаты подых. Але цягам часу пачуцьці зьнежывелі, і дотык, і слых ужо не казалі амаль нічога, хобіты клыпалі ледзь

не адною сілаю волі, якою зайшлі ў смуродную дзірку. Прагнулі прайсьці яе й выбрацца вонкі да высокай брамы наперадзе.

Можа, яшчэ не адышлі далёка (хоць хутка страцілі ўсялякае разуменьне часу й адлегласьці), калі Сэм праваруч, мацаючы сьцены, знайшоў дзірку й на момант злавіў подых паветра не такога застойлага, але ж хобіты мінулі яе, рухаючыся на галоўным калідоры.

– Тут не адзіны праход, – зь цяжкасьцю прашаптаў Сэм, бо паветра, якое выдыхаў, ніяк не складвалася ў словы. – Лепшага месца оркам не знайсьці!

Пасьля таго ён праваруч, а Фрода леваруч намацалі яшчэ тры ці чатыры бакавыя тунэлі, некаторыя шырэйшыя, некаторыя вузейшыя, але з шляху яны не зьбівалі, бо галоўны калідор цягнуўся проста, не зварочваў і няўхільна падымаўся. Але ж якой ён даўжыні? Колькі яшчэ яго трываць, і колькі яшчэ яны адужаюць? Паветра рабілася ўсё мярцьвейшым, і часьцяком сьляпая цемра згушчалася ў нешта шчыльнае, што перашкаджала ісьці. Прасоўваючыся наперад, адчувалі, як штось кранае галовы, нейкія доўгія шчупалы альбо расьліны зьвешваліся з столі. Дакладна вызначыць, што гэта, не маглі. А смурод усё мацнеў. Рос да таго, што нюх падаваўся хобітам адзіным ясным пачуцьцём, якое засталося ў іх, і тое засталося на пакуту. Гадзіна, дзьве, тры – колькі ж яшчэ загінула ў гэтай непрагляднай дзірцы? Не гадзіны, напэўна, а дні й тыдні. Сэм адсунуўся ад сьцяны, крочыў бліжэй да Фрода, знайшоў ягоную руку й сьціснуў у сваёй, і гэтак разам яны рушылі далей.

Нарэшце Фрода, мацаючы левай рукою сьцяну, зьнянацку натрапіў на пустэчу. Амаль зваліўся ў яе бокам. Тут у скале адкрыўся праход, нашмат шырэйшы за ўсе, якія дасюль мінулі, і з таго праходу панесла такім лютым смуродам, пачуцьцё сьцярожкага, чакальнага ліха было такое моцнае, што Фрода здранцьвеў. У гэты момант Сэм таксама пахіснуўся й зваліўся наперад.

Змагаючыся з млоснасьцю й жахам, Фрода ўхапіўся за Сэмаву руку.

– Уставай! – выдыхнуў хрыпата, безгалоса. – Усё ідзе адсюль, і смурод, і ліха! Хадзем прэч! Хутчэй!

Сабраўшы рэшткі моцы й волі, ён пацягнуў Сэма, падняў яго на ногі, прымусіў рухацца члонкі. Сэм закульгаў побач. Адзін крок, другі, трэці й гэтак да шостага, а тады раптам стала лягчэй: магчыма, мінулі жудасны праход, а мо ўпрост нечая варожая воля адпусьціла іх. Яны паклыпалі далей, рука ў руцэ.

І амаль адразу ж напаткалі новую цяжкасьць. Тунэль раздвойваўся, ці так падавалася, і ў цемры было не разабраць, які шлях шырэйшы ці бліжэйшы да ранейшага напрамку. Куды збочыць, налева альбо направа? Ня ведалі анічога, што дапамагло б абраць, а памылковы выбар мог стацца пагібельным.

– Куды толькі падзеўся Глыкс? – прабурчэў Сэм, пыхкаючы. – Чаму не пачакаў?

– Сьмеяголь! – вымавіў Фрода, спрабуючы гукнуць. – Сьмеяголь!

Але голас ягоны хрыпеў, і гукі заглохлі, ледзь сарваўшыся з вуснаў. І аніякага адказу, нават рэха, нават паветра ня ўздрыгнула.

– На гэты раз ён насамрэч зьнік, – прамармытаў Сэм. – Мяркую, менавіта сюды ён нас і вёў. Глыкса! Калі толькі дабяруся да цябе, вох, і пашкадуеш ты!

Усё ж, мацаючы ў цемры ды кульгаючы, вынайшлі, што тунэль леваруч заблякаваны – ці тупіком, ці нейкім вялізным каменем, што абваліўся й загароджваў праход.

– Не, нам не сюды, – прашапатаў Фрода. – На дабро ці ліха, нам па другім.

– І хутчэй! – выдыхнуў Сэм. – Тут непадалёк нешта горшае за Глыкса. Нешта на нас пазірае, я адчуваю!

Адышлі ня болей за некалькі крокаў, калі ззаду пачуўся гук – страшны, вусьцішны ў цяжкой ватнай цішыні, нібы буркатаньне, бульканьне й доўгае атрутнае шыпеньне. Павярнуліся ўмомант, але анічога ня ўбачылі. Ціха сталі, бы камяні, углядваючыся, чакаючы невядома чаго.

– Гэта пастка! – Сэм паклаў далонь на тронкі корда – і з тым прыйшла згадка пра магільную цемру, зь якой корд здабылі. "Каб толькі старына Том быў з намі!" – падумаў ён. І раптам, хоць цемра агарнула яго й адгукнулася цемрай адчаю й злосьці ў сэрцы, яму падалося, што бачыць сьвятло – сьвятло ўспамінаў, напачатку амаль няпераносна зыркае, як сонечны прамень для вачэй вязьня ў глыбокім цьмяным скляпеньні. Тады сьвятло набыло фарбы: зеляня, золата, срэбра, белае зьзяньне. Далёка-далёка, быццам на малюнку, вытканым эльфавымі пальцамі, пабачыў ён панну Галадрыель, як стаіць яна на лорыйнскай траве з падарункамі ў руках. І пачуў яе голас – далёкі, але ясны: "*Для цябе, Ахоўнік Пярсьцёнка, я падрыхтавала вось што*".

Булькаценьне наблізілася, і пачулася рыпеньне, нібы нешта зь вялізнымі нязграбнымі сучляненьнямі павольна рухалася да іх у цемры. Смурод рушыў разам з рыплівай пачвараю.

– Спадару Фрода! – выгукнуў Сэм, і трывога вярнула сілу й пачуцьцё ягонаму голасу. – Падарунак Галадрыелі! Зорная шклянка! Сьвятло вам у цемры, так яна казала! Зорная шклянка!

– Зорная? – зьдзівіўся Фрода, быццам абуджаны раптоўна з сну, яшчэ няўцямны. – Сапраўды, чаму ж я забыўся на яе? "*Няхай яна асьвятляе твой шлях там, дзе згасьне й саслабне іншае сьвятло*". А зараз толькі сьвятло й можа выратаваць нас.

Павольна рука ягоная пацягнулася да фіяла, павольна ён узьняў над сабою падарунак панны. Той бліснуў на момант слабенька, што зорачка, якая прабіваецца скрозь цяжкія зямныя туманы, але набірае моцы, і зь ёю надзея запалілася ў Фродавым сэрцы. Тады шклянка запалала срэбным полымем, маленечкая, праўдзівая зорка асьляпляльнага сьвятла, нібы сам Эярэндыль сышоў сюды з высокіх заходніх шляхоў з апошнім Сільмарылем на чале. Цемра адсунулася, і вакол саткалася сфэра з паветранага крышталю, а рука, што трымала фіял, зайскрылася белым агнём.

Фрода ў подзіве глядзеў на цудоўны падарунак, які нёс так доўга, не здагадваючыся пра сапраўдную ягоную моц і каштоўнасьць. Зрэдку ён згадваў яго, пакуль не сягнулі Моргульскай даліны, і ніколі не карыстаўся, баючыся, што зьзяньне выдасьць яго ворагам. А зараз выгукнуў: "*Ая Эярэндыль Эленіян Анкаліма!*" – і ня ведаў, што вырвалася зь ягоных вуснаў, бо нібыта іншы голас загучаў празь іх, чысты, не пашкоджаны брудным паветрам ліхіх сутарэньняў.

Але ж у Міжзем'і існуе шмат магутных пачвараў, вусьцішных пачвараў ночы, старых і жудасных. І *тая*, што кралася ў цемры, ужо чула той эльфаў покліч у далёкіх глыбінях часу. *Яна* не напалохалася тады, не спынілася й цяпер. Нават вымаўляючы, Фрода адчуў, як вялікая злосьць абрынулася на яго, сьмяротнае ліха кінулася да яго, прыцэльваючыся. Непадалёк, на паўдарозе паміж хобітамі й праходам, дзе яны самлелі й спатыкаліся, нарысаваліся вочы, дзьве вялізныя гронкі вырачаных вочачак, – так пагроза нарэшце пазначылася. Зьзяньне фіяла пераламлялася, адбівалася ў тысячах граняў, але за бляскам у іх зьзяў бледны сьмяротны агонь, полымя, запаленае ў глыбокай яміне ліха й падступства. Пачварныя, жывёльныя былі тыя агідныя вочы, але ж не бессэнсоўныя, а поўныя разумнага ліха й жудаснага задавальненьня, кпіны з здабычы, якая патрапіла ў пастку без аніякай надзеі на выратаваньне.

Врода з Сэмам, зьмярцьвелыя ад жуды, пачалі павольна адсоўвацца назад, не адводзячы позіркаў ад вусьцішных, паўнюткіх нянавісьці вачэй пачвары. Хобіты адсоўваліся, а вочы набліжаліся. Фродава рука задрыжэла, і фіял пабляк. Тады раптоўна, нібы вызваленыя ад чараў, што скавалі іх, абодва хобіты ў паніцы, на задавальненьне пачвары, павярнуліся й кінуліся наўцёкі. Аднак, азірнуўшыся на бягу, Фрода пабачыў, жахнуўшыся, што страшыдла скача за імі. Невыносны сьмяротны смурод агарнуў хобітаў воблакам.

– Стаяць, стаяць! – выгукнуў ён у адчаі. – Уцякаць няма сэнсу!

Павольна вочы наблізіліся.

– Галадрыель! – выгукнуў Фрода ды, сабраўшы мужнасьць, ізноў узьняў шклянку.

Вочы прыпыніліся. На момант ліхая воля іхняя прыгасла, быццам нейкі цень сумневу крануў іх. Тады Фродава сэрца палыхнула адвагаю разам зь сьвятлом у ягонай руцэ. Ня думаючы, што робіць, – геройства тое альбо глупства – ён узяў шклянку ў левую руку, а правай выцягнуў корд. Джала бліснула, па вострым эльфскім клінку затанчылі іскры, а па краёх ляза – блакітнае полымя. Трымаючы зорнае зьзяньне над галавою, а зыркі меч перад сабою, Фрода, хобіт з Шыру, зацята рушыў насустрач жудасным зрэнкам.

Тыя задрыжэлі. Сумнеў адбіўся ў іх, адзін за адным яны прыгасалі – і нарэшце павольна адсунуліся. Аніколі зьзяньне такой прамяністасьці ня падала на іх, не сьляпіла так. Ад сонца, месяца й зораў тыя вочы надзейна хаваліся ў скляпеньнях, але зараз зорка сама спусьцілася ў глыбіні. А сьвятло ўсё набліжалася. І вочы задрыжэлі. Адзін за адным згасьлі цалкам, адвярнуліся прэч, і вялізная туша, неабсяжны цень, недасягальны сьвятлу, калыхнуўся між імі – і зьнік.

– Спадару, спадару! – загаласіў Сэм, які рушыў за гаспадаром зь мечам аголеным і гатовым да бойкі. – А-вой, зоры й слава! Эльфы песьню пра такое склалі б, каб толькі пачулі! А мо я дажыву ды ім распавяду й пачую іхні сьпеў. Але ж ня йдзіце далей, спадару! Ня лезьце ў берлаг! У нас цяперака адзіны шанец – выбірацца як мага хутчэй з гэнай нары!

Таму яны павярнулі зноў і пайшлі, а тады й пабеглі, бо тунэль уздымаўся строма, і з кожным крокам яны падымаліся над смуродам нябачнага логавішча, і сіла вярталася да целаў і сэрцаў. А нянавісьць пачвары скляпеньняў яшчэ трымалася за сьпінамі, магчыма, асьлепленая, але непераможаная, пагібельная. І вось насустрач у твары падзьмула ветрыкам, слабым, зімным. Выйсьце вонкі, жарало пячоры, нарэшце было перад імі. Пыхкаючы, імкнучыся пад адкрытыя нябёсы, хобіты кінуліся наперад – і ў неверагодным зьдзіўленьні захісталіся, адкінутыя назад. Выхад быў закрыты нейкай перашкодай, не каменнай, а мяккай, зьлёгку нават пругкай – і разам з тым трывалай і неадольнай. Вецер прасочваўся празь яе, а сьвятло – не. Знову яны кінуліся наперад – і зноў іх адкінула.

Узьняўшы фіял, Фрода прыгледзеўся – і пабачыў перад сабою шэрую сьцяну, якую зьзяньне зорнай шкляначкі не працінала й не асьвятляла, быццам яна змураваная зь ценю, народжанага не-сьвятлом і таму для сьвятла непраходнага. Уся дзірка была затканая павуціньнем, гэткім самым узорыстым і прыгожым, як павуціньне звычайнага павука, толькі шчыльней сплеценым і нашмат большым. Кожная павучынка – таўшчынёю зь вяроўку.

– Павучыньне! – Сэм пахмура засьмяяўся. – І ўсё? Павучыньне, так. Што за жудасны павук! Ну, пасячэм, трасца на яго!

У шаленстве секануў кордам, але павуціньне не разарвалася. Паддалося пад ударам, а тады спружыніла, адвярнуўшы лязо, адкінуўшы й меч, і руку. Тройчы Сэм біў што моцы й урэшце перасек адзіную павуцінку зь незьлічонага шэрагу. Тая лопнула й скурчылася, сьвіснуўшы пугаю ў паветры. Канцом джгнула па Сэмавай руцэ, і той заенчыў ад болю, адскочыў ды прыціснуў пабітую руку да роту.

– І колькі дзён трэба, каб прабіць шлях? – вымавіў нарэшце. – Што рабіцьмем? Ці вярнуліся тыя вочы?

– Не, пакуль іх не відаць, – заўважыў Фрода. – Ды я адчуваю: яны шчэ пазіраюць на нас ці думаюць пра мяне. Мо выдумляюць нешта. Калі не трымаць сьвятла ці калі яно згасьне, яны хутка вернуцца.

– Патрапілі ўсё-ткі ў пастку! – затужыў Сэм, і ягоная злосьць узьнялася зноў, перамогшы стому й адчай. – Бы матылі ў мамэрлі. Каб Фараміраў праклён знайшоў Глыкса, ды хутчэй!

– Тое нам зараз не дапаможа, – перапыніў Фрода. – Ну, зірнем-тка, на што здатнае Джала. Эльфава ж лязо. У Белерыяндзе, дзе яго скавалі, у цёмных расколінах бывала павучыньне й горшае. Пасьцеражыся, прыкрывай вочы! Вось, вазьмі шклянку. Ня бойся. Трымай высока й назірай!

Тады Фрода крочыў да вялізнага шэрага сеціва й секануў яго наўкось размашыстым ударам, паласнуўшы вострым лязом шэраг густа пераплеценых нітак, і адразу адскочыў. Лязо, адбліскваючы блакітам, прайшло скрозь іх, што каса праз траву. Вяроўкі скалануліся, лопаючыся, задрыжэлі, скурчыліся дый павісьлі. Утварылася вялізная прарэха.

Удар за ўдарам – і нарэшце Фрода пасек усё павуціньне, да якога толькі мог дацягнуцца, а рэшткі, што зьвісалі зьверху, матляліся дранаю завесаю пад ветрам. Пастка ня вытрымала.

– Рушма! – загукаў Фрода. – Наперад, хутчэй!

Шалёнае задавальненьне ад уцёкаў з самае пашчы адчаю й жаху перапоўніла ягоны розум. Галава закружылася, як ад келіха моцнага віна. Ён выскачыў вонкі галосячы.

Паўзмрок, у які вырваўся, падаўся ясным сьвятлом пасьля логвішча апраметнай ночы. Шчыльны дыміска над галавою прыўзьняўся, патанчэў, барвянае полымя Мордару згасла ў пахмурым цені. Скончаліся апошнія гадзіны дня. Але Фрода нібы ўзіраўся ў раніцу раптоўнай надзеі. Амаль і сягнуў ужо верху сьцяны. Засталося крыху, зусім крыху. Расколіна, Кірыт Унгал, была перад ім цёмнай вышчарбінаю ў чорным хрыбце, і скальныя рогі цьмяна ўтыкаліся ў нябёсы па ягоных баках. Хуткая прабежка, адзіны рывок – і ён на другім баку!

– Да перавалу, Сэме! – закрычаў ён бесклапотна, не зьвяртаючы ўвагі, што голас ягоны, вызвалены ад скляпеннага ўдушша, зьвініць пранізьліва й гучна. – Да перавалу! Бегма, бегма – мы праскочым, і ніхто не пасьпее нас спыніць!

Сэм кульгаў як мог, але, хоць і задаволены вызваленьнем, не пазбавіўся ад непакою й на бягу ўсё азіраўся на чорную арку тунэлю, баючыся, што раптам пабачыць вочы ці жудасную, неўяўляльную постаць, якая выскоквае й гоніцца за імі. Як жа мала ведалі ён і ягоны гаспадар пра звычкі Шэлаб! Яна мела шмат выйсьцяў з свайго логавішча.

Доўгімі вякамі жыла яна там, жудасная пачвара ў павучыным абліччы. Падобныя да яе жытлавалі калісьці ў краіне эльфаў на Захадзе, які цяпер паглынула

мора. З такою біўся Бэрэн у гарах Вусьцішы, у Дарыяце, вытрымаўшы, спусьціўся – і напаткаў пад месяцовым сьвятлом на зялёнай палянцы сярод балігалову сваю Люціень. Як Шэлаб пазьбегла зьнішчэньня, як дабралася да Эфэл Дуату – няма расповедаў, бо няшмат дайшло гісторый з Чорных гадоў. Аднак яна была тут яшчэ да Саўрона, да першага каменя Барад-дуру й не служыла анікому, апрача сябе самой, п'ючы кроў людзей і эльфаў, пухнучы, жырэючы на бясконцых вусьцішных бяседах, плетучы сеціва ценяў. Усё жывое было ёй ежай, а яе ванітамі – цемра. Паўсюль распаўзьліся ейныя слабейшыя нашчадкі, вырадкі нікчэмных пачварняў, таксама народжаных ёю ды забітых пасьля таго, як аплаДнілі яе цела. З адной цёмнай шчыліны да другой паўзьлі яны й дабраліся ад Эфэл Дуату да ўсходніх стромаў, да Дул Гулдуру й неабсяжнай прасторы Ліхалесься. Але ніводны зь іх ня мог зраўнацца зь ёю, Шэлаб Вялікай, апошнім нашчадкам Унгаліянты, апошняй бядою, прынесенай той у гаротны сусьвет.

Гады таму прыйшоў да яе Глыкс, які лазіў ува ўсе чорныя норы й яміны, прыйшоў да яе ды схіліўся перад ёю, і ўхваліў яе, і пакляўся прыслужваць – і ейная чорная воля з таго часу заўжды крочыла побач зь ім, абараняючы яго ад сьвятла, ад жалю й выратаваньня. Ён паабяцаў прыводзіць ёй ежу. А прагнула яна зусім не таго, чаго ён. Бо няшмат яна ведала пра вежы й пярсьцёнкі альбо што іншае, створанае рукамі ці розумам, дый непатрэбныя былі яны ёй і нецікавыя, а хацела яна толькі забіваць розумы й целы, каб высмактаць усё жыцьцё, і жэрці ў самоце, і пухнуць, пакуль горы ўмяшчалі б яе й цемра здолела б яе ўтрымаць.

Але ж цяпер тая мара была надта далёка, і ўжо даўно ёй хацелася папросту падсілкавацца, бо з узмацненьнем Саўронавай улады ўсё жывое й сьветлае пакінула межы гэтага краю, а горад у даліне памёр, і да яе логвішча не набліжаліся ані людзі, ані эльфы – толькі выпадковыя няшчасныя оркі, здабыча грубая й сьцярожкая. Але ж ёй трэ было есьці, і таму як ні выкопвалі б новыя праходы, як ні рупіліся б, пракладваючы сьцежкі ад перавалу да вежы, заўжды яна вынаходзіла шляхі, каб злавіць. Але ж яна прагнула саладзейшага. І Глыкс паабяцаў.

– Пабачым яшшчэ, вохх, пабачым, – мармытаў ён пад нос, калі злаваўся, на доўгім недарэчным шляху ад Эмін Мюйлу да Моргульскай даліны, – яшшчэ як пабачым. Мажліва, таксс, калі яна выкіне прэч пустое адзеньне й косткі, мы знойдзьдзем, мы атрымаем кашштоўнасьсьць, узнагароду беднаму Сьмеяголю, які прыводзіць добрую ежу. І мы выратуем кашштоўнасьсьць, як і абяцалі. Таксс! А калі мы яе прыдбаем, тады мы пакажам ёй, таксс, мы пакажам ёй, ссплоцім ёй за ўсьсё! Тады мы кожжнаму ссплоцім за ўсьсё!

Гэтак марыў ён, гэтак плянаваў у дальнім закутку свайго розуму й хаваў гэты куточак ад Шэлаб, нават калі зноў зьявіўся перад ёю й пакланіўся нізка ў той час, як спадарожнікі спалі.

А Саўрон добра ведаў, дзе тоіцца яна. Яго задавальнялі ейны голад і няспынная, неўтаймавальная злосьць, бо лепшага вартавога на старажытнай сьцежцы ў ягоную зямлю ён і ўявіць сабе ня мог. Оркі, вядома, былі карыснымі рабамі, але ж надта шматлікімі. Калі раз-пораз Шэлаб і лавіла іх, каб задаволіць апэтыт, дык няхай, дзеля яе не шкада. А раз-пораз, як гаспадар кідае ласунак сваёй котцы (бо "*мая котка*" клікаў ён яе, хоць яна не прызнавала яго й не паважала), Саўрон слаў ёй вязьняў, якім ня мог прыдумаць іншага карыстаньня. Паводле ягонага загаду іх заганялі ў логава, а пасьля дакладвалі, як Шэлаб забаўлялася.

Гэтак жылі абое, забаўляючыся ўласнымі прыдумкамі, не баючыся аніякага нападу, і нічыёй помсты, і сканчэньня свайго ліха. Аніколі раней нават муха не ўцякала з логава Шэлаб, і незвычайнымі сталі цяпер яе шаленства й прага.

Небарака Сэм не здагадваўся, якое ліха яны абудзілі дый узьнялі супраць сябе, аднак страх рос у ім, пачуцьцё нябачнай пагрозы, і такім цяжарам навалілася яно, што й бегчы стала немагчыма, бо ногі нібы наліліся сьвінцом.

Жах апанаваў яго, бо ворагі чакалі наперадзе, а гаспадар у бязглуздай радасьці бег ім насустрач. Адарваўшы позірк ад ценяў ззаду й глыбокага змроку пад скаламі леваруч, ён зірнуў наперад – і пабачыў тое, што ўкінула ў адчай. Корд, які Фрода яшчэ трымаў аголеным у руцэ, зьзяў блакітным полымем. І хоць нябёсы па-за вежаю пацямнелі, вежавае вакно яшчэ сьвяцілася чырваньню.

– Оркі! – прамармытаў ён. – Гэтак мы не праскочым. Тут процьма оркаў, і горш за оркаў таксама.

Тады, узгадаўшы зноў на сваю даўнюю асьцярожнасьць, прыкрыў даланёю каштоўную шклянку, якую ўсё трымаў у руцэ. Рука засьвяцілася пунсовым ад ягонай уласнай жывой крыві, і ён сунуў сьвятлінку, што магла выдаць ворагам, глыбока ў кішэню на грудзёх дый запахнуўся шчыльна ў эльфаў плашч. А тады паскорыў крок. Бо гаспадар аддаляўся й быў ужо кроках за дваццаць, несучыся, што цень, хутка ён зусім зьнікне з вачэй у шэрым навакольлі.

Не пасьпеў Сэм схаваць сьвятло зорнага фіяла, як зьявілася Шэлаб. Вынырнула з чорнай яміны ценю пад скалою крыху наперадзе й зьлева, паўстала перад Сэмам – найвусьцішнейшая пачвара з усіх бачаных у жыцьці, жахлівейшая ад найчарнейшага начнога трызьненьня. У павучыным падабенстве, але большая за буйных драпежных зьвяроў і значна жудасьнейшая, бо ў яе бязьлітасных вачох зьзяла ліхая воля. Тыя самыя вочы, што ён палічыў адагнанымі, пераможанымі, ізноў запаліліся шалёнай злосьцю, бы згусткі ліха на выцягнутай наперад пачварнай галаве. Шэлаб мела вялікія рогі, а за кароткай шыяй боўталася непамернае разьдзьмутае цела, веліканскі бурдзюк, які калыхаўся й тросься паміж яе нагамі. Чорную сьпіну пярэсьцілі рэдкія блядна-сінюшныя плямы, а пуза зьнізу, цалкам бледнае, нават сьвяцілася гнільлю й невыносна сьмярдзела. Высока над сьпінаю тырчэлі складзеныя ногі, з вузлаватымі суставамі, з валосьсем, што сталёвы дрот, а на канцы кожнай нагі кляцала клюшня.

Як толькі яна праціснула мяккае булькатлівае цела й складзеныя ногі праз дзірку, то пабегла з жудаснай хуткасьцю, рыпячы нагамі, раптоўна падскокваючы. Апынулася паміж Сэмам і ягоным гаспадаром. Альбо Сэма не заўважыла, альбо не хацела пакуль што набліжацца да носьбіта сьвятла й палявала спачатку на Фрода, пазбаўленага фіяла. А Фрода ўсё бесклапотна бег па сьцязе, не падазраючы пра небясьпеку. Хутка бег, але Шэлаб – хутчэй, вось ужо ёй не стае некалькі скокаў...

Сэм вохнуў ды сабраў рэшткі сілаў, каб закрычаць.

– Спадару, ззаду! Азірніцеся, спадару! Я...

Доўгая ліпучая рука закрыла яму рот, другая абхапіла шыю, і нешта абвілося вакол нагі. Перахоплены зьнячэўку, ён зваліўся назад, проста ў рукі нападніка.

– Патрапіліся! – прашыпеў Глыкс яму на вуха. – Нарэсьсьце, мая кашштоўнасьсьць, патрапіўсься нам гідкі тоўссты хобітсс, такс! Мы з гэтым разьберамосься. А яна возьме другога, такс, Шшэлаб возьме яго, не Сьмеяголь, бо ён жа абяцаў, ён пальцам пана не кране! Але ён злавіў цябе, гідкі брудны маленькі шшныракс!

Ён хоркнуў на Сэмаву шыю.

Шаленства ад здрады, ад адчаю не пасьпець, калі гаспадар у сьмяротнай небясьпецы, дало Сэму зьнянацку такую злосьць ды моц, якіх ён ня мог уявіць. Не чакаў такога Глыкс ад няўклюдага дурнаватага хобіта, якім лічыў Сэма. І сам здрадца ня вывернуўся б гэтак спрытна й рэзка. Глыксава рука сасьлізнула з Сэмавага роту, а Сэм нахіліўся й рвануў наперад, намагаючыся выбрацца з Глыксавай хваткі, вызваліць шыю. Яшчэ трымаў корд у правай руцэ, а ў левай – Фараміраў падарунак, падарожны кій. Сэм адчайна выгнуўся, спрабуючы пырнуць ворага. Але Глыкс стаўся спрытнейшым. Ягоная правая рука ўскінулася, схапіла Сэмава пясьце, пальцы сашчапіліся, як абцугі, і пачалі бязьлітасна выкручваць руку, нахіляючы наперад і долу. Зь енкам болю Сэм выпусьціў меч, і той ляснуўся аб зямлю, а Глыксава рука ўсё шчыльней здушала глотку.

Тады Сэм апошнім адчайным намаганьнем адсунуўся, моцна ўперся нагамі ды раптоўна адштурхнуўся, адкінуўся назад з усяе моцы.

Не чакаючы ад Сэма нават такіх простых хітрыкаў, Глыкс упаў разам зь ім, і цяжар каржакаватага хобіта прыйшоўся яму на жывот. Рэзкае шыпеньне вырвалася зь ягонага роту, і на імгненьне хватка на Сэмавай шыі паслабла, хоць другая рука ўсё яшчэ трымала Сэмава пясьце. Сэм жа выбраўся канчаткова, рушыў наперад ды ўскочыў і павярнуўся направа, яшчэ трыманы за правую руку. Узьняўшы левай кій, Сэм размахнуўся й абрынуў яго зь сьвістам на выцягнутую Глыксаву руку, і патрапіў якраз пад локаць.

Глыкс віснуў і расьціснуў пальцы, а Сэм крочыў наперад і, ня трацячы часу, каб перакінуць кій у другую руку, ударыў пачвару яшчэ раз. Па-зьмяінаму спрытна Глыкс сьлізнуў прэч, і ўдар, накіраваны ў галаву, трапіў на сьпіну. Кій храснуў ды зламаўся. Але Глыксу было досыць. Наскочыць ззаду й ухапіць было ягоным улюбёным прыёмам, і амаль заўжды пасьпяховым. Аднак гэтым разам, здурнелы ад нянавісьці, ён памыліўся – пакпіў да таго, як абедзьвюма рукамі схапіў ахвяру за шыю. Усё, усё пайшло наўскасяк у ягоным цудоўным пляне, калі тое жудаснае сьвятло нечакана зьявілася ў цемры. А зараз ён апынуўся нос да носу з шалёным ворагам, памерам амаль зь яго самога. Такія бойкі былі не для Глыкса. Сэм падхапіў зь зямлі корд і замахнуўся. Глыкс завішчэў, скочыў убок на карачкі й кінуўся прэч, перавальваючыся, бы рапуха. І не пасьпеў Сэм нават крануць яго, як той ужо даваў драла зь незвычайнаю хуткасьцю назад, да тунэлю.

З кордам у руцэ Сэм кінуўся за ім. На які момант забыўся на ўсё, апрача лютага шаленства й жаданьня забіць Глыкса. А дагнаць не пасьпеў. Глыкс зьнік. І тады, калі перад хобітам паўстала чорная дзірка й насустрач хваляю выкаціўся смурод, думка пра Фрода й павучыху громам грымнула ў Сэмавым розуме. Ён разьвярнуўся й дзіка панёсься па сьцежцы, гукаючы, выклікваючы гаспадарова імя. Ён спазьніўся. Гэтая частка Глыксавага пляну спраўдзілася.

## *10. Выбар спадара Сэмвайза*

Фрода ляжаў ніцма на зямлі. Пачвара нахілілася над ім, у хцівасьці не зьвяртаючы ўвагі на Сэма й ягоныя выклікі, пакуль той зусім не наблізіўся. Падбягаючы, Сэм убачыў, што Фрода ўжо цалкам спавіты ў павуціньне, ад глізнаў да плячэй, і пачвара пярэднімі нагамі прыўзьняла яго, каб адвалачы ў логава.

Побач з Фрода, з Сэмавага боку, ляжаў эльфскі клінок, бескарысны, выпалы зь бясьсільнай рукі гаспадара. Сэм, ахоплены ці адвагаю, ці вернасьцю, ці ўпрост шалёнаю злосьцю, не марнаваў часу на развагі. З рыкам скочыў наперад, падхапіў гаспадароў корд у левую руку й кінуўся на пачвару. Не было нападу шалёней у жорсткім жывёльным сьвеце, дзе здараецца часам, што маленечкі зьвярок з слабымі зубамі кідаецца ў адчаі на волатавую драпежную груду тоўстай шкуры й рогу, баронячы свайго брата.

Нібы абуджаная слабым Сэмавым выгукам ад салодкага, зларадная сну пра сакавітую ежу, павучыха павольна перавяла жудасны позірк на яго. Але не пасьпела ўцяміць, што з такім шаленствам не сустракалася незьлічоныя гады, як зіхоткае лязо ўпілося ў яе нагу й адцяла клюшню. А Сэм скочыў пад яе нагамі ды імгненным выпадам другой рукі джгнуў гронку вачэй на яе пахіленай галаве. Вялізнае вока, працятае, паблякла.

Зараз маленькі разьюшаны зьвярок быў упрост пад Вялікай Шэлаб, на момант недасягальны для яе джала й кіпцюроў. Велізарнае пуза сьвяцілася над хобітам засьмердлай гнільлю, і ад смуроду Сэм амаль страціў прытомнасьць. Аднак ягонага шаленства хапіла яшчэ на ўдар, і не пасьпела павучыха адказаць, расплюшчыць малога нахабу пузам, як ён наўсьцяж паласнуў з адчайнаю сілаю зыркім эльфавым лязом.

Але Шэлаб ў адрозьненьне ад цмокаў ня мела слабых месцаў, апрача вачэй. Скура яе была вузлаватая, зарослая шматвекавым брудам і тоўстымі рубцамі шнараў, разьдзьмутая знутры пластамі смуроднай поскудзі, непрабівальная. Лязо пакінула жудасны шнар, але ж тыя мярзотныя складкі й зморшчыны аніякая чалавечая моц не прабіла б. Ані эльфы, ані гномы не маглі б скаваць сталь, здольную на такое, нават калі б рука Бэрэна ці Турына трымала яе. Атрута забурліла, пырснула з раны. Раскірачыўшы ногі, павучыха абрынулася пузам на Сэма – ды пасьпяшалася. Бо Сэм яшчэ цьвёрда стаяў на нагах і, выпусьціўшы ўласны корд, абедзьвюма рукамі схапіўся за эльфаў клінок, трымаючы яго вастрыём угару, каб ня даць апусьціцца жудаснай столі. І так Шэлаб уласнаю жорсткаю воляю, зь сілай, больш моцнай, чым у любога ваяра, насунулася на востры шып. Глыбока-глыбока зайшоў ён, пакуль Сэма павольна прыплюшчвала да зямлі.

Такога болю й страху Шэлаб ня ведала, нават не ўяўляла за ўсе незьлічоныя гады сваіх злачынстваў. Ані найсталейшы ваяр былога Гондару ані найшалёнейшы орк, загнаны ў кут, не пратрымаліся б столькі супраць яе й не кранулі б мечам Шэлабіну нутрыну, яе ўлюбёнае, найкаштоўнейшае ўласнае цела. Яна скаланулася. Ускінуўшы пуза, адсунула яго ад крыніцы болю, выпрастала дрыготкія ногі дый, трасучыся, адскочыла назад.

Сэм укленчыў побач з Фродавай галавою, здурнелы ад лютага смуроду, але абедзьвюма рукамі яшчэ трымаючы корд. Праз смугу перад вачыма ўсё ж пабачыў Фродаў твар – і ўцята перамог сябе, пераадолеў дурноту. Павольна ўзьняў галаву й заўважыў страшыдлу ўсяго за колькі крокаў, убачыў, як яна глядзіць на яго. Складзеныя дугі яе ног уздрыгвалі, яна напружвалася для другога скоку – на гэты раз

расьціснуць, заджаліць да сьмерці, не заліць маленькай порцыяй атруты, каб сьцішыць мітусьню ахвяры, але каб забіць, а тады разадраць на кавалкі.

І калі хобіт сам схіліўся, пазіраючы на яе, чытаючы сваю сьмерць у ейным позірку, раптоўная думка прыляцела да яго, нібы папярэджаньне ад нейкага далёкага голасу, і ён зашнарыў на грудзёх левай рукою, і адшукаў жаданае: халодным, цьвёрдым і мёртвым падаўся яму на дотык фіял Галадрыелі ў гэтым сусьвеце вусьцішы.

– Галадрыель! – гукнуў ён слаба, і тады нібы здалёк, але вельмі ясна пачуў сьпеў эльфаў пад зорамі ў любых начных ценях Шыру, пачуў эльфаву музыку ў залі Агменю ў Эльрандавай сядзібе.

*Гільтоніель! А Эльберэт!*

І ягоны язык вызваліўся, і з вуснаў ягоных пачуліся гукі мовы, яму невядомай:

*А Эльберэт Гільтоніель,*
*О мэнэль палань-дзірыель,*
*Лэ налан сі дзі'нгурутас!*
*А ціра нін, Фануілас!*

І з тымі словамі, хістаючыся, ён узьняўся на ногі й зноў стаў сабою, хобітам Сэмам, сынам Гэйхада, які абараняе свайго гаспадара й сябру.

– Ну, давай цяпер, ты, быдляціна! Ты параніла майго гаспадара, паскуда, і ты стакроць пашкадуеш! Мы сьпяшаемся, але ўжо знойдзем час пасквітацца з табою! Давай, пакаштуй Джала зноў!

І быццам ягоны неўтаймоўны дух адчыніў браму моцы, прыхаванай у шклянцы, і тая палыхнула раптоўна, як паходня. Запалала, як зорка, што пакінула нябёсныя сутарэньні ды праняла ноч невыносным сьвятлом. Аніколі раней гэткае жахлівае сьвятло не абрынулася на пысу Шэлаб. Промні разьдзіралі яе параненую галаву, палілі й нішчылі, невыносным болем успыхнула параненае вока, і зь яго асьляпляльны боль, бы ліхаманка, перакінуўся на здаровыя. Шэлаб адсунулася прэч, малоцячы пярэднімі лапамі ў паветры, сьляпая, з зрокам, выпаленым знутры маланкаю, ашалелая, звар'яцелая. Адвярнулася нарэшце, адкацілася прэч дый папаўзла, мацаючы клюшнямі каменьне й дзіркі ў чорнай скале.

Сэм ішоў наперад. Матляўся, бы п'яны, але ішоў. А Шэлаб, запалоханая й пераможаная, скурчыўшыся, дрыжучы, намагалася хутчэй спаўзьці ад яго. Сягнула нары, праціснулася ўсярэдзіну, пакінуўшы за сабою сьлед зялёна-жоўтай сьлізі, дый зьнікла, а Сэм яшчэ наастачу джгнуў ёй па нагах. Тады паваліўся на зямлю, зьнясілены.

Шэлаб зьнікла, і што зь ёй адбылося далей, як адлежвалася яна ў сваім логвішчы, песьцячы злосьць ды крыўду, павольнымі гадамі цемры гоячы сябе знутры, гадуючы вочы-гронкі, пакуль сьмяротны голад ізноў не пагнаў яе вонкі, каб плесьці пасткі ў далінах гор Ценю, – тут расповеду няма.

Сэм застаўся на самоце. Над месцам бойкі ўжо гусьцелі прыцемкі Неназывальнай краіны. Стомлены, Сэм пакульгаў назад, да гаспадара.

– Гаспадару мой, пане! – паклікаў ён.

Той маўчаў. Калі Фрода бег наперад, радуючыся волі, Шэлаб з жудаснай хуткасьцю дагнала яго й адзіным імгненным рухам уджаліла ў шыю. Зараз ён ляжаў зьбялелы, нерухомы, ня чуючы анічога.

– Пане мой! – паклікаў Сэм і доўга прыслухоўваўся ў цішыні, чакаючы адказу.

Тады кінуўся пасьпешліва рэзаць павучыньне, прыклаў вуха да Фродавых грудзей, да роту, але не адчуў ані ўзварушэньня, ані якой прыкметы жыцьця. Сэрца ня рухалася. Сэм пацёр, саграваючы, гаспадаровы рукі й ногі, крануў лоб – не, цела ўжо захаладнела.

– Фрода, спадару Фрода! – паклікаў ён. – Не пакідайце мяне! Гэта ваш Сэм кліча вас. Не сыходзьце туды, куды я ня здолею йсьці за вамі! Прачынайцеся, спадарыку Фрода! Уставайце! Калі ласка, прашу вас, уставайце! Спадару Фрода!

Тады шаленства апанавала яго, і ён замітусіўся вакол гаспадарова цела, секучы паветра й камяні, галосячы праклёны й пагрозы. Апамятаўшыся, вярнуўся да Фрода й нахіліўся, зазірнуў яму ў твар, бледны ўзмроку. І раптам згадаў, што адкрылася яму ў люстэрку Галадрыелі: Фрода, зьбялелы, сьпіць пад вялізнаю змрочнай скалою. Не, гэта тады думалася: сьпіць.

– Ён памёр! – вымавіў Сэм. – Ня сьпіць ён, ён загінуў!

І калі вымавіў, словы падштурхнулі дзеяньне атруты, падалося, твар гаспадара зацягнуўся сьмяротным зялёным.

Тады чорны адчай авалодаў Сэмам, хобіт нахіліўся да зямлі, ноч прыйшла ў ягонае сэрца, і ён зьнерухомеў.

Калі апрытомнеў нарэшце, зірнуў навокал, на змрок і цені. Ці хвіліны прамінулі, ці гадзіны – ня ведаў. Тыя самыя камяні вакол, а гаспадар гэтаксама ляжыць побач, памерлы. І ад гэтага не рассыпаліся ў пыл горы й зямля па-ранейшаму трымала іх.

– Што ж мне рабіць, што рабіць? – залямантаваў ён. – Ці дарма я йшоў сюды зь ім?

І тады ён узгадаў уласныя словы на самым пачатку вандроўкі, словы, якіх ён і сам у той час не разумеў: "*Проста трэба зрабіць нешта ў жыцьці... Мне абавязкова трэба йсьці побач з вамі й зьдзейсьніць, калі вы мяне разумееце, спадару*".

– Але што ж я зраблю? – спытаў ён сябе. – Не пакідаць жа Фрода непахаваным сярод гор? Куды ісьці? Дахаты? Ці наперад? Наперад? – перапытаў, і на момант сумнеў і страх агарнулі яго. – Ісьці наперад? Дык вось што я мушу зрабіць? І пакінуць яго?

Тады ўрэшце ён заплакаў – і выпрастаў Фродава цела, склаў гаспадаровыя халодныя рукі на грудзёх, загарнуў Фрода ў эльфаў плашч, паклаў свой корд з аднога боку, а Фараміраў кій з другога.

– Калі ўжо мушу ісьці, – вымавіў Сэм, – дык, з вашага дазволу, меч я ваш забяру, але ж вось гэны пакіну ляжаць побач з вамі, як ён ляжаў ля старога караля ў скляпеньні, дый вашую цудоўную броньку, што даў спадар Більба, пакідаю. А шкляначку зорную вы самі далі мне, спадару Фрода, пазычылі мне, а мне ж яна патрэбная, бо я цяпер заўжды буду крочыць у цемры. Яна надта мне прыдасца, панна дала яе вам, але мо яна зразумее. А ці *вы* разумееце, спадару Фрода? Я мушу ісьці далей!

Але ён ня мог крануцца зь месца, яшчэ ня мог. Стаў на калені, трымаючы Фродаву руку, і ніяк ня мог яе выпусьціць. Час мінаў, а ён усё стаяў – укленчыўшы, трымаючы Фродаву руку – і ня мог вырашыцца.

Шукаў сілы, каб ізноў устаць, каб выправіцца ў самотную вандроўку – адпомсьціць. Калі толькі здолее падняцца, тады злосьць павядзе яго ў пагоню па ўсіх шляхох сусьвету, пакуль нарэшце ён не спасьцігне злачынцу – Глыкса. Тады Глыкс здохне ў куту, бы пацук. Але ж ці тое ён плянаваў, выпраўляючыся з гаспадаром? Ці варта дзеля такога пакідаць гаспадара? Помста яго ня верне. У такім выпадку лепей памерці побач зь ім. Але ж гэта таксама будзе самотнай вандроўкаю.

Ён зірнуў на зыркі канчар корда. Падумаў пра тое, што за сьпінай: вузкі чорны край і за ім – падзеньне ў нішто, бяздонную прорву. Не, гэткім шляхам не ўцячы. Гэтым не даможася анічога, нават ня здолееш смуткаваць. Не па бессэнсоўную гібель скіраваўся ён у падарожжа.

– Дык што ж мне рабіць? – выгукнуў ён ізноў, але зараз ужо цьвёрда ведаў цяжкі адказ: "Ісьці й зьдзейсьніць". Ісьці ў самотную выправу, горшую за ўсё.

"Што? Мне, адному, ісьці да Пашчы Лёсу й усё такое? – Сэм яшчэ вагаўся, але рашучасьць ягоная мацнела. – Ну, дык тады ж мне й пярсьцёнак трэба будзе ў яго адабраць... а Рада дала яго яму".

Але адказ прыйшоў адразу: "Але ж Рада дала яму спадарожнікаў, каб дапамаглі сягнуць мэты. А ты, Сэме, апошні зь Зьвязу Пярсьцёнка. Ты мусіш сягнуць мэты!"

– Каб я толькі ня быў апошні! – прастагнаў ён. – Калі б толькі стары Гэндальф быў тут ці хто. Чаму мне даводзіцца вырашаць самому? Бо я папсую, памылюся. Дый не для мяне гэта – пярсьцёнак браць, наперад высоўвацца...

"Ды гэта ж ня ты сам высунуўся, табе давялося рушыць наперад. А што ты не адпаведны, ня тая асоба, каму гэта пад сілу, дык спадар Фрода таксама ня сам абіраў свой цяжар, вось што, дый стары спадар Більба..."

"Ну, мне вырашаць. Я й вырашу. І, безумоўна, ня так. Бо гэта ж вам Сэм Гэйхад, усё наўскасяк".

"Вось так, трэ зірнуць: калі нас тут знойдуць ці аднога спадара Фрода з гэтай штукаю на ім, ну дык тады яна да Ворага й патрапіць. А гэта – канец усім нам, і Лорыйну, і Доламу Яру, і Шыру дый астатняму. І часу марнаваць нельга, а тое ўсё адно канец. Вайна ж пачалася, і напэўна яна пачалася так, як хоча Вораг. І йдзе. Аніякага шанцу прабрацца назад з гэтай рэччу, каб прасіць парады й дапамогі. І сядзець тут над целам гаспадара няма сэнсу, а тое прыйдуць дый заб'юць і ўсё адно забяруць. Трэба ўзяць самому дый ісьці".

Ён глыбока ўздыхнуў.

– Ну, бяры ж, давай!

Ён нахіліўся. Вельмі асьцярожна расшпіліў фібулку на шыі Фрода, намацаў пад камізэлькаю ланцуг. Прыўзьняў гаспадарову галаву, пацалаваў халодны лоб, а тады зьняў ланцужок. Дый апусьціў галаву, узіраючыся. Не, аніякай зьмены не адбылося ў нерухомым твары, і гэта болей за ўсё астатняе пераканала Сэма: Фрода памёр, яму ўжо не сягнуць прызначанай мэты.

– Бывайце, пане мой, гаспадару мой, – прамармытаў ён, – прабачце свайму Сэму. Ён вернецца сюды, як зробіць справу – калі здолее. І тады ўжо вас не пакіне. Адпачывайце ў спакоі да таго часу, і няхай аніякая пачвара не патурбуе вас! І калі панна пачуе мяне й падорыць мне адно жаданьне, дык я пажадаю вярнуцца й знайсьці вас ізноў. Бывайце!

Нахіліў сваю шыю й насунуў ланцуг зь пярсьцёнкам на яе. І адразу галава схілілася пад цяжарам, нібы ад вялізнага каменя. Усё ж павольна, быццам расла ў ім новая сіла, хобіт падняў голаў, перамагаючы цяжар, з высілкам паўстаў на ногі й вынайшаў, што здольны ісьці з гэтаю ношаю. І на момант падняў фіял, зірнуў долу на гаспадара, сьвятло цяпер зьзяла мякка, цёплаю вечароваю зоркаю лета, і ў гэтым сьвятле твар Фрода падаўся чыстым, пазбаўленым сьмяротнага адценьня, бледным, але прыгожым нібы эльфавым хараством, красой таго, хто даўно пакінуў цень за сьпінаю. І з горкім суцяшэньнем апошняга позірку Сэм адвярнуўся, схаваў шклянку й паклыпаў наперад па цемры, што ўсё больш гусьцела.

Далёка ён не прайшоў. Крыху аддаліўся ад тунэлю, да расколіны перавалу заставалася пара сотняў крокаў ці каля таго. Сьцежка рысавалася ў змроку глыбокай прорыняй, выбітай вякамі карыстаньня, паволі ўздымалася па доўгай цясьніне з скаламі паабапал. Цясьніна хутка звужалася. Неўзабаве Сэм сягнуў доўгай лесьвіцы з шырокімі прыступкамі. Зараз орцкая вежа высілася проста над галавою, і чырвонае вока яе вакна зьзяла. Сэм схаваўся ў цені. Набліжаўся да верху лесьвіцы і, нарэшце, да перавалу.

– Я вырашыў, – паўтараў ён сабе.

Але ж насамрэч не. Хоць і намагаўся што моцы пераканаць сябе, усё ж супраць таго, што рабіў цяпер, паўставала самая ягоная нутрына. Нешта было ня так.

– Але што? – меркаваў ён. – Што я сапсаваў?

Між высокімі сьценамі перавальнай цясьніны, амаль сягнуўшы вяршыні, да таго, як стаць на сьцягу, што спускалася ў Неназывальную зямлю, ён азірнуўся. І замер на імгненьне ў невыносным сумневе. Адсюль мог бачыць чорную плямку ў шэрым густым цені, гарлавіну тунэлю, падумаў, што можа пабачыць ці здагадацца, дзе ляжыць Фрода. Угледзеўся ў каменную пляцоўку, дзе на трусачкі рассыпалася яго жыцьцё: напэўна, вунь там, зьлёгку праблісквае на зямлі – ці тое сьлёзы засьцяць вочы?

– Каб толькі зьдзейсьнілася маё жаданьне, адно жаданьне, – уздыхнуў ён, – вярнуцца й знайсьці яго!

Тады нарэшце павярнуўся да шляху наперадзе й зрабіў некалькі крокаў – самых цяжкіх і неахвотных за ўсё жыцьцё.

Усяго некалькі. Зараз яшчэ столькі – і ўжо крочыць уніз, і, напэўна, аніколі болей не пабачыць таго месца. Але зьнянацку пачуў лямант ды галасы. Ён замер. Так, оркавы галасы. І наперадзе, і ззаду. Тупаценьне й грубыя крыкі: оркі беглі да перавалу здаля, ад якой вежавай брамы, мусіць. І ззаду тупат ды брыдкія выгукі. Ён разьвярнуўся й убачыў маленькія чырвоныя агеньчыкі – паходні мільгацелі, выскокваючы адна за адной з тунэлю. Паляваньне сягнула мэты. Барвовае вока вежы было не сьляпое. Яго спаймалі.

Пробліск паходняў, бразгат наперадзе зусім наблізіліся. Праз хвіліну дабягуць да верху, кінуцца на яго! Надта доўга ён вырашаў, цяпер усё дарма! Як уцячы, выратаваць сябе й пярсьцёнак? Пярсьцёнак? Ён і ня думаў анічога, і не вырашаў. Папросту вынайшаў, што ўжо выцягвае ланцуг ды бярэ пярсьцёнак у руку. Галава першага орка паказалася над краем перавалу. Тады Сэм насунуў пярсьцёнак.

Сусьвет зьмяніўся. І быццам у адно імгненьне сапраўднага часу зьмесьцілася гадзіна разважаньняў і назіраньняў. Адразу зразумеў, што неверагодна абвострыўся

слых, а зрок сьцьмеў, але ж ня так, як у логаве Шэлаб. Рэчы не хаваліся ў змроку, аднак размыліся, страцілі выразнасьць, а сам хобіт застаўся, бы маленькая чорная скала ў сусьвеце шэрага туману, самотны, і пярсьцёнак, адцягваючы долу левую руку, зьзяў, як кольца распаленага золата. Сэм зусім не адчуваў сябе нябачным, наадварот, цалкам прыкметным, жудасна аголеным для позіркаў, і ведаў, што дзесьці Вока шукае, намагаецца ўгледзець яго.

Сэм чуў ляскат камянёў і далёкі шэпт вады ў Моргульскай даліне, чуў булькатлівы, жаласьлівы енк Шэлаб пад скаламі, як яна мацае сьцены, паўзе, заціснутая ў нейкім тупіку, чуў галасы ў скляпеньнях вежы, выгукі оркаў, што выбеглі з тунэлю, дый аглушальнае, нібыта роў проста ў вушы, тупаценьне й разьдзіральны жалезны ляскат оркаў перад сабою. Ён прыціснуўся да сьцяны. Але тыя прабеглі, быццам шыхт прывідаў, шэрыя зьнявечаныя постаці ў тумане, цені страху з блязднымі агеньчыкамі паходняў у руках. Яны прабеглі міма. Сэм скурчыўся, намагаючыся адпаўзьці прэч, затоіцца ў якой шчыліне ці яміне.

Прыслухаўся. Оркі з тунэлю й тыя, што беглі празь перавал, заўважылі адны адных, і вось абодва разьдзелы сьпяшаліся й перагукваліся. Чуў ясна й тых, і іншых і разумеў, пра што гамонка. Ці пярсьцёнак даў разуменьне моваў, асабліва моваў тых, хто паслугоўваў творцу пярсьцёнка, ці мо сам Сэм разумеў, таго не ўсьведамляючы, ды незаўважна для сябе перакладаў свае думкі. Безумоўна, моц пярсьцёнка вырасла шматкроць паблізу ад месца ягонага стварэньня, але ж аднога ён даць ня мог – адвагі. Пакуль што Сэм марыў толькі, як схавацца, як залегчы ціхенька, пакуль усё супакоіцца, і трывожна прыслухоўваўся. Ня мог разабраць, ці далёка моўцы, бо, падавалася, кажуць проста на вуха.

– Ахой, Гарбаг! Ты што тут робіш? Вайна ўжо надакучыла?

– Загад у мяне, ёлуп. А ты што робіш, Шаграт, цікава? Тырчэць тутака стаміўся? Долу захацелася, мечам памахаць?

– Загады ў яго, анягож. Гэта *табе* загады, а тут загадваю я. Я – ачольца гэтага перавалу. Таму язык прытрымлівай. Што выведаў?

– Анічога.

Тут дыялог правадыроў перарвалі лямант ды галашэньне.

– Га! Га! Гэй!

Оркі знайшлі нешта ніжэй па дарозе. Пабеглі, за імі астатнія.

– Гэй! Ахой! Тут нешта! Упрост на сьцежцы ляжыць! Віж! Гэта віж!

Загулі, зараўлі ражкі, оркі загаласілі, залямантавалі рознагалоса.

З гэтай жудаснай весткаю Сэм абудзіўся ад баязьлівасьці, ад жаданьня хавацца. Яны знайшлі гаспадара! Што ж зробяць? Сэм чуў такія расповеды пра оркаў, што кроў сьцюдзянела ў жылах. Не, дазволіць тое немагчыма. Ён ускочыў. Усё, да трасцы мэты й абавязкі, а страх ды сумнеў – разам зь імі! Ён ведаў, дзе ягонае месца, дзе яно мусіць заўжды быць – побач з гаспадаром, хоць як гэтага дамагчыся, ня ведаў. Ён пабег уніз па прыступках, да Фрода.

"Колькі там? – разважаў ён. – Зь вежы сама мала трыццаць ці сорак дый зьнізу нашмат болей. Колькі ж я заб'ю да таго, як яны мяне дастануць? Яны пабачаць зьзяньне меча, як толькі я яго выцягну, і дастануць мяне раней ці пазьней. Цікава, ці згадаюць у якой песьні, як Сэмвайз загінуў на Высокім перавале, нагрувасьціўшы сьцяну целаў вакол свайго гаспадара. Не, песьняў ня будзе. Бо пярсьцёнак знойдуць і песьняў больш ня будзе. А што зробіш. Маё месца – побач з Фрода! Яны мусяць

зразумець – Эльранд дый Рада, усе ўладары дый панны з усёй іхняй мудрасьцяй. Ня так павярнуліся іхнія пляны. Не магу быць носьбітам пярсьцёнка для іх. Без спадара Фрода – не!

Але оркі ўжо зьніклі зь ягонага засмужанага позірку. Раней часу не было, каб зразумець, у якім ён сам стане. А зараз дапяў нарэшце, як стаміўся, зьнясілеў амаль дашчэнту. Ногі ня слухаліся. Марудна, надта марудна. Сьцежка, падавалася, цягнулася бясконцыя вёрсты. Куды яны ўсе падзеліся ў гэтым тумане?

Вось яны! Далёка наперадзе – купка постацяў вакол нечага на зямлі, а некалькі мітусяцца туды-сюды, вынюхваючы па-сабачаму. Сэм паспрабаваў паскорыць хаду.

– Давай, Сэме! – падбадзёрыў сябе. – Ці зноў спозьнісься.

Аслабіў корд у похвах, каб лягчэй выцягваўся. Праз хвіліну выхапіць і...

Пачуўся дзікі лямант, гуканьне й рогат, і нешта прыўзьнялі зь зямлі.

– Гэй, хой! Тупа-тапа-хой! Давай, падымай!

Тады нехта выгукнуў:

– Панесьлі! Хутчэй! Кароткім шляхам – пад скалой! *Яна* нас сёньня, мяркуючы з пазнакаў, не патурбуе!

Цэлая купа оркавых постацяў пачала рух. Чацьвёра ў сярэдзіне натоўпу несьлі цела на плячох.

– Гэй, хой!

Яны забралі Фродава цела. І сышлі прэч. Сэм не дагнаў іх. Але пагоні не спыніў. Оркі сягнулі тунэлю й рушылі ўсярэдзіну. Тыя, што несьлі цела, ішлі першымі, а за іхнімі сьпінамі ўтварылася ладная таўкатня й гвалт. Сэм наблізіўся. Выцягнуў корд, пробліск блакітнага полымя ў дрыготкай руцэ, але оркі яго не заўважылі. Толькі, пыхкаючы, дабег да тунэлю, а оркі ўжо ўсе пазьнікалі ў ягоным чорным правале.

На момант прыпыніўся, хапаючы ротам паветра, прыклаў руку да грудзей. Тады рукавом выцер твар, сьціраючы бруд, пот і сьлёзы. "Кляты бруд!" – вымавіў у сэрцы й скочыў за ворагамі ў цемру.

Болей змрок у тунэлі не падаваўся яму апраметным, ён быццам крочыў з танчэйшага туману ў шчыльнейшы. Стома расла, але ж мацнела й воля, і рашучасьць. Меркаваў, што бачыць пробліскі паходняў наперадзе, але як ні намагаўся, дагнаць іх ня мог. Па тунэлях оркі бягуць хутка, а гэты тунэль яны ведалі добра, бо, нягледзячы на Шэлаб, часьцяком карысталіся праходам, найхутчэйшым шляхам ад мёртвага гораду праз горы. У якой мінуўшчыне вычасалі галоўны тунэль ды круглую яміну, дзе пасялілася Шэлаб, оркі ня ведалі, але ж самі прабілі мноства абыходаў з абодвух бакоў, каб прамінуць яе логавішча, бегаючы туды-сюды па справах сваіх гаспадароў. Гэтай ноччу яны далёка не абыходзілі, а сьпяшаліся да бакавога шляху, які вёў пад скалою напрамкі да вартавой вежы на скале. Многія оркі весела гукалі, узрадаваныя відовішчам ды знаходкай, беглі, баўбаталі й галасілі на манер сваёй пароды. Сэм чуў грубыя галасы, пустыя й гулкія ў мёртвым паветры, і вылучыў зь іх два – больш адметныя, гучныя, напэўна, найбліжэйшыя да яго. Ачольцы абедзьвюх камандаў, падавалася, прыадсталі, спрачаючыся на хаду.

– Ці не загадаў бы ты сваёй галечы спыніць вэрхал? – прабурчэў адзін зь іх. – Ці ты хочаш паклікаць Шэлаб?

– Ды ну, Шаграце? Твае гамоняць яшчэ болей за маіх! – адказаў другі. – Няхай хлопцы забаўляюцца! Пакуль, мяркую, з Шэлаб клопату ня будзе. На цьвічок напаролася, а мы плакаць з таго ня станем. Ці ты ня бачыў брудоты на ўсім шляху да яе клятага логава? Каб магла, яна ўжо сто разоў выскачыла б. Не, няхай хлопцы паржуць. Дый нам нарэшце пашанцавала: прыхапілі ласуначак, які чакаюць у Лугбургу.

– У Лугбургу чакаюць, га? Што ж гэта такое? Гэны віж – нешта ў ім эльфава, толькі малы ён нейкі. Якая ў ім небясьпека?

– Ня вызнаеш, пакуль не зірнеш уважліва.

– Ага! Дык яны не распавялі, чаго чакаць? Ня кажуць нам усяго, што ведаюць, так? Не, і паловы ня скажуць! Але ж і яны памыляюцца, нават самыя галоўныя.

– Ш-ш, Гарбаг! – Шаграт прыцішыў голас, так што нават дзівосна абвостраным слыхам Сэм ледзь расчуў, што гаворыцца. – Мажліва, але ж вочы й вушы ў іх паўсюль. Сярод маіх хлопцаў дакладна ёсьць. Але ж аніякага сумневу – у іх турботы, і немалыя. І ў назгулаў, з тваіх жа словаў, і ў Лугбургу таксама. Нешта амаль сарвалася.

– Амаль, кажаш! – фыркнуў Гарбаг.

– Амаль, – хмыкнуў Шаграт. – Аднак пачакай крыху. Пазьней пагаворым пра тое. Там наперадзе будзе месца, дзе можна прытрымацца, пакуль хлопцы бягуць наперад.

Неўзабаве Сэм заўважыў, што паходні зьніклі. Нешта зарыпела, тады, як толькі Сэм паскорыў крок, грукнула. Хутчэй за ўсё, оркі збочылі ў той самы праход, які Сэм з Фрода знайшлі зачыненым. Ён і быў зачынены.

Падавалася, сярод праходу ляжыць вялізны валун, але оркі неяк прабраліся за яго, бо Сэм чуў галасы з абодвух бакоў. Оркі ўсё беглі, глыбей і глыбей пад гару, сьпяшаючыся да сваёй вежы. Сэм адчаяўся. Цела ягонага гаспадара зносілі на нейкае ліха, а дагнаць ён ня мог. Сэм штурхаў, біў глыбу, якая перакрывала шлях, кідаўся на яе – усё марна. Тады зь іншага боку, непадалёк – ці так толькі падалося, – зноў пачуў размову двух ачольцаў. І замер, прыслухоўваючыся, спадзеючыся выведаць што карыснае. Можа, Гарбаг, які, відаць, зь мінасморгульскага войска, выйдзе, каб вярнуцца, а Сэм прасьлізьне ўсярэдзіну.

– Не, ня ведаю, – казаў Шаграт. – Звычайна загады прыходзяць хутчэй, чымся хто даляцець можа, гэта без сумневу. Але ж я носу не сую, вызнаць, якім чынам. Яно бясьпечней, не суваць. Гы-ы! Ад гэных назгулаўу мяне дрыжыкі. Ды яны толькі зірнуць на цябе – і нібыта скуру зь цябе садралі й пакінулі голага ў цемры на іншым баку, разумееш? А Самому яны даспадобы, яны ўлюбёнчыкі Ягоныя цяпер, дык бурчэць супраць іх толку няма. Вох, скажу табе, ня цацкі – служыць у тым горадзе.

– Ты тут паспрабаваў бы, з Шэлаб за сябрынку.

– Я там паспрабаваў бы, дзе анікога няма. Ну, вайна ідзе, а калі скончыцца, мо лягчэй будзе.

– Кажуць, нядрэнна вайна ідзе.

– Яны скажуць, але, – прабурчэў Гарбаг. – Ну, пабачым. А калі насамрэч добра пойдзе, дык месца стане значна болей. А як наконт... калі толькі шанец выпадзе, нам з табою змыцца, дый прыхапіць колькі надзейных хлопцаў, дый па-свойму ўладкавацца дзе-небудзь, дзе пад рукою добрая здабыча й няма над галавою ўсялякага магнацтва?

– А-а! – уздыхнуў Шаграт. – Як у былыя часы!

– Так. Але асабліва на тое не разьлічвай. Мне дык трывожна. Як ужо казаў табе, – тут голас сьцішыўся амаль да шэпту, – і Найвялікшы наш можа памыляцца. Нешта

ледзь не сарвалася, ты кажаш. А я кажу: сарвалася насамрэч. Нам тут трэба вушы тырчма трымаць. Заўжды небаракам урукам выпраўляць, што сарвалася, а падзякі за тое няшмат. І не забывайся: ворагі нас любяць ня болей, чымся Самога, і калі яго прыцiснуць, дык і нам хана. Але ж скажы, калі вы атрымалі загад?

– Блізу гадзіны таму, якраз перад тым, як ты нас убачыў. Вестка прыйшла: "*Назгул турбуецца. Магчыма, віжы на лесьвіцы. Двайная варта. Патруль на верх лесьвіцы*". Я й прыбег адразу.

– Благія справы, – склаў Гарбаг. – Бач, нашыя Маўклівыя назіральнікі яшчэ два дні таму непакоіліся. Але мяне вонкі не выпускалі, дый у Лугбург анічога не дакладвалі, бо ж Вялікай Зьвесткі чакалі, найвышэйшы назгул на вайну зьбіраўся, ды ўсе зь ім разам. А тады, як мне казалі, да Лугбургу дагрукацца не маглі колькі часу. Нямала часу.

– Вока пазірала ў іншае месца, так мяркую, там клопат быў. Кажуць, справы на захадзе, ды – гэх! – якія.

– Справы... – буркнуў Гарбаг. – А ў той час ворагі пракраліся па лесьвіцах. А ты чаго рабіў? Ты ж павінен варту трымаць, з асаблівымі загадамі, ці ня так? Навошта вы ўвогуле тут паселі?

– Гэй, до несьці! Не вучы мяне маёй працы! Мы трымаемся як трэба. Мы ведалі, што чыніцца нешта нягеглае.

– Ды ну, нягеглае!

– Так, нягеглае насамрэч: выгукі, сьвятло блішча й накшталт таго. Але ж тут Шэлаб зь месца кранулася. Мае хлапцы заўважылі яе з Шнырам.

– Шнырам? Хто гэта?

– Напэўна, ты яго бачыў – маленечкі такенькі, танюткі чорны пачварык, сам на павука падобны ці, хутчэй, на заморанае жабяня. Ён ужо быў тут. Упершыню зьявіўся з Лугбургу гады таму, а нам слова прыйшло ад Самога, каб мы яго прапусьцілі. З таго часу ён пару разоў караскаўся па лесьвіцы, але ж мы яго не чапалі: падаецца, ён неяк паладзіў зь Ейнай Павучасьцю. Мяркую, наедак зь яго аніякі, бо яе загады Самога не кранаюць. Але ж файную вы варту ў даліне трымаеце – ён тут быў яшчэ за дзень да ўсёй трасцы. Учора надвячоркам мы яго й бачылі. Дык мае хлопцы данесьлі: Ейная Павучасьць забаўляецца, а мне тое й добра. Так і сядзелі, пакуль зьвестка не прыйшла. Я ж думаў, Шныр ёй цацку прыцягнуў ці ты даслаў падарунак – якога вязьня ці што. Я ня блытаюся ў яе забавы. Калі яна палюе, міма аніхто не праскочыць.

– Аніхто? Ты што, вачэй ня маеш? Ты ж уцям: што б ні ўскараскалася па лесьвіцах, яно мінула Шэлаб! Яно пасекла павуціньне ды выбралася зь дзіркі! Вось што мяне непакоіць. Вось пра што трэ клапаціцца!

– Навошта? Яна ж сваё ўзяла ўрэшце.

– Сваё ўзяла? Што яна ўзяла? Малога гэнага заваліла? Ды калі б ён быў адзін, яна ўжо даўно зацягнула б яго ў сваю камору, і там ён і валяўся б цяпер. А калі б Лугбург загадаў даставіць яго, туды ты за ім і палез бы. Во, якраз па табе. Але ж ён быў не адзін.

Тут Сэм услухаўся ўважлівей і нават вуха прыціснуў да каменю.

– Хто парэзаў павучыньне, якім яна павязала малога, га? Той самы, хто пасек сеткі й на выхадзе зь дзіркі. Ня кеміш? Хто, па-твойму, падкалоў Ейную Павучасьць? Ён самы. І дзе ён? Дзе ён, Шаграт?

Шаграт маўчаў.

– Дык ты глуздамі паварушы, калі ёсьць яшчэ. Тут не да сьмеху. Аніхто, разумееш, аніхто раней нават і крануць Шэлаб ня здолеў – табе тое належала ведаць, і

ведаць добра. Нам з таго няма гора, але ж падумай: тут бадзяецца нехта, больш небясьпечны за любога клятага бунтаўніка з часоў самага ліха, зь Вялікай Аблогі. Вох, сарвалася нешта, так скажу!

– І што з таго? – рыкнуў Шаграт.

– Паводле ўсіх прыкметаў, кашталяне Шаграце, тут вольна бадзяецца магутны ваяр, верагодней за ўсё, эльф, ну, ці з эльфавым лязом, ва ўсялякім выпадку, ды зь сякераю да таго ж, і бадзяецца ён вольна пад тваім носам, і ты яго не заўважыў. Насамрэч нягегла!

Гарбаг харкнуў. А Сэм нявесела ўсьміхнуўся з такога свайго апісаньня.

– А, заўжды ты бачыш горшае, – запярэчыў Шаграт. – Можа, так прыкметы твае тлумачацца, а мо інакш. Абы-як. А ў мяне паўсюль варта, і я з кожным разьбяруся па чарзе. Па-першае, трэба ўважліва зірнуць на таго, хто патрапіў у рукі, а тады ўжо турбавацца пра што іншае.

– Наўрад ці ты шмат чаго знойдзеш на тым недамерку. Можа, ён тут увогуле недарэчы. Бамбіза з вострым мечам, напэўна ж, не палічыў яго вартым чагосьці, проста пакінуў валяцца – ну, звычайныя эльфавы штучкі.

– Пабачым. До, нагаварыліся. Зараз пойдзем ды зірнем уважлівей на вязьня.

– І што ты зь ім зробіш? Не забывайся: я першы яго заўважыў! І калі зь яго якая цацка, мне й маім хлопцам – першы прыбытак.

– Не сьпяшайся хапаць! – прабурчэў Шаграт. – У мяне загад. І калі парушыць яго, дык і мая, і твая галовы на плячох не ўтрымаюцца. Бо любога, хто патрапіў варце, належыць затрымаць у вежы. Захопленага распрануць цалкам. Поўнае апісаньне кожнай адзежыны, зброі, упрыгожаньня, паперак, пярсьцёнкаў альбо іншай якой дробязі адразу слаць у Лугбург і толькі ў Лугбург. А вязьня трымаць у бясьпецы й непашкоджаным, пакуль не прыбудуць пасыльныя ад Самога ці Ён ня зьявіцца Сам. А зарукай таму – жыцьцё кожнага вартаўніка. Чаго ж тут няяснага? Усё ясна, і менавіта так я й зраблю.

– Распрануць цалкам? Мо зубочачкі, валосьсе, пазногцікі таксама зьняць?

– Не, анічога гэткага! Кажу табе: ён для Лугбургу. Яго прагнуць цэлым і непашкоджаным.

– Нялёгка табе будзе тое зьдзейсьніць, – зарагатаў Гарбаг. – Зараз ён – анічога болей за падлу. Цяжка ўявіць, што ў Лугбургу зробяць зь мярцьвячынай. Мо лепей яго проста тут у рондаль ды на стол?

– Дурань! Нагаварыў вялікіх словаў, а сам ня ведаеш, што любы недарэка цяміць! Самога цябе ў рондаль ці для Шэлаб на забаву, калі глуздоў у галаву не набярэш! Падла, анягож. І гэта ўсё, што ты ведаеш пра Ейную Павучасьць? Калі яна вяжа здабычу павучыньнем, дык рыхтуе сабе пад'едак. Мярцьвячыну яна ня есьць і халодную кроў ня смокча. Гэты недамерак жывы!

Сэм захістаўся, хапаючыся за каменьне. Падалося, нібы ўвесь сусьвет змроку перакульваецца з ног на галаву. Гэтак моцна ўразіла яго, што ледзь ня страціў прытомнасьць, але нават калі адольваў дурноту, з самых глыбіняў, з той цьвярозасьці й спакою, якіх амаль не кранали аніякія вонкавыя турботы, пачуў уласны голас: "Дурны ты, Сэме. Ён не памёр, і тваё сэрца ведала гэта. Не галаве сваёй верыў бы ты, Сэмвайзе, гэта не найлепшая твая частка. Бяда з табою ў тым, што ад самага пачатку ў цябе было няшмат надзеі. А што зараз рабіць?"

Ды анічога пакуль што, хіба абаперціся аб нерухомы камень ды слухаць, слухаць агідныя оркавыя галасы.

– Гы! – сказаў Шаграт. – У яе ж не адзіная атрута. Калі палюе, яна ў шыю джгае, дык небарака мякчэе, як рыба бяз костак. А тады ўжо яна ласуецца дый забаўляецца. Памятаеш старога Ўфтака? Зьнік некуды, днямі няма яго. А тады знайшлі ў куточку. Вісіць сабе, жывенькі, дый лыпае вачыма. Ці забылася яна на яго, ці што, але ж мы яго не кранулі, бо няма дурняў Ейнай Павучасьці перашкаджаць. Гы, гэны малы ёлупень прачнецца праз колькі гадзінаў, і анічога яму ня будзе, хіба што памуціць трохі. Ну, ці анічога не было б, каб Лугбург пакінуў яго ў спакоі. Яшчэ, вядома, памяркуе крыху, дзе ён ды што зь ім здарылася.

– А вось што яшчэ здарыцца зь ім... – Гарбаг зарагатаў. – Ну, мы распавядзем яму крыху, калі ўжо анічога іншага нельга. Думаю, ён ніколі не зазіраў у любаснае мястэчка Лугбург, дык мо яму й даспадобы будзе даведацца, што яго чакае. О, тое мо будзе й весялей, чым я думаў. Ну, рушым!

– Аніякай весялосьці, кажу табе, – буркнуў Шаграт. – Яму аніяк шкодзіць нельга альбо нам самім лепей капыты адкінуць.

– Ну, лады, угаварыў. Але на тваім месцы я й вялікшага, які яшчэ вольна бадзяецца, зладзіў бы да таго, як данос у Лугбург даляціць. Яно ня файна прагучыць, калі сказаць, што кацяня ты зладзіў, а здаровы кацiска гуляе.

Галасы аддаліліся. Сэм чуў, як слабее тупат падэшваў. Ён ужо ачуняў, цяпер яго апанаваў люты шал.

– Усё ў мяне ня так! – выгукнуў ён. – Я ж ведаў, што ўсё зраблю ня так! Ніколі не пакідай гаспадара, ніколі не пакідай, не пакідай – вось жа маё галоўнае правіла! Пра ўсё здагадвалася маё сэрца! Няма мне дараваньня! Цяпер толькі б вярнуцца да яго, хоць як!

Ізноў выцягнуў корд ды замалаціў цаўём па камені, але гук з таго атрымаўся глухі й слабы. Корд, аднак, палыхнуў так зырка, што Сэм разгледзеў сёе-тое навокал у ягоным сьвятле. На вялікае зьдзіўленьне, пабачыў, што загародка мела форму вялізных дзьвярэй, крыху ніжэйшых за два ягоныя росты. А паміж яе верхам і аркаю каменнай столі заставаўся праём. Дзьверы, верагодна, прызначаліся, каб не пралезла Шэлаб, і знутры зачыняліся якой засаўкаю, каб толькі павучыха ня здолела адчыніць, не дацягнулася. З апошніх сілаў Сэм скочыў уверх, зачапіўся за дзьверы, ускараскаўся й пераваліў на другі бок. А тады шалёна пабег, з палымяным кордам у руцэ, за паварот і ўгару па зьвілістым тунэлі.

Вестка пра тое, што гаспадар жывы, падняла яго на апошняе намаганьне па-за мяжою ўсялякай стомы. Наперадзе анічога ня бачыў, бо гэты тунэль увесьчасна паварочваў ды выгінаўся, але хобіт меркаваў, што даганяе оркаў, бо іхнія галасы зноў гучнелі. Вось ужо, напэўна, зусім блізка.

– Вось што я зраблю, – азваўся Шаграт раззлавана. – Замкну яго ў найвышэйшай каморы, на вежы.

– Навошта? – прабурчэў Гарбаг. – Скляпеньняў добрых няма, ці што?

– Кажу ж: каб аніхто яму не пашкодзіў. Ня цяміш? Ён цяпер – каштоўнасьць. Я ня ўсім сваім хлопцам давяраю, і тваім тым болей, дый табе таксама, бо табе толькі пазабавіцца б. Ён будзе там, куды я яго пасаджу й куды ты не патрапіш, калі розуму не набярэсься. На самы верх, вось як. Там ён будзе ў бясьпецы.

– Ці ж праўда? – вымавіў Сэм. – Вы забыліся на вялізнага эльфскага магута, які тут бадзяецца!

І кінуўся за апошні паварот – толькі каб убачыць, што ці празь дзівосныя ўласьцівасьці тунэлю, ці праз тое, што пярсьцёнак надзвычай абвострыў слых, адлегласьць да оркаў пралічыў няправільна.

Оркі яшчэ былі далёка наперадзе. Сэм бачыў іх: чорныя каржакаватыя постаці ў барвяным сьвятле. Тунэль нарэшце павёў проста, падымаючыся да вялізнай брамы на дзьве палавіны, якая вяла, напэўна, у скляпеньні глыбока пад вежаю. Ужо оркі зь целам зьніклі за дзьвярыма. А Гарбаг з Шагратам набліжаліся да іх.

Тут раптам выбухнулі грубыя сьпевы, выцьцё рагоў, звон гонгаў – гвалт жудасны. А Гарбаг з Шагратам ужо крочылі на ганак.

Сэм закрычаў, махаючы Джалам, але ягоны слабы голас згубіўся ў агульным гвалце. Аніхто яго не пачуў.

Вялізныя палавінкі брамы сышліся. Бам-м! Знутры ўпалі на месца жалезныя засовы. Грым-м! Дзьверы зачынілі й замкнулі. Сэм кінуўся на іх бронзавыя прышрубаваныя пласьціны – і зваліўся беспрытомны на зямлю. Ён застаўся ў цемры адзін. А Фрода жывым патрапіў да Ворага.

## ЗЬМЕСТ

### Кніга трэцяя



### Кніга чацьвертая

Дзе ж цяпер конь і вершнік, дзе поклічы баявыя?
Дзе ж цяпер шлем і броні ды кудзеры залатыя?
Дзе ж тыя рукі на струнах і полымя маладое?
Дзе ж тыя вёсны й леты й збожжа каласавое?
Горным дажджом мінулі, ветрыкам над травою,
Сплынелі ў цень заходні, схаваліся за гарою.
Хто ж зьбярэ цяпер попел нашага шчасьця й гора?
Хто ж нам гады былыя цяпер прынясе з-за мора?

